


Бібліятэка Бацькаўшчыны
Міжнароднае грамадскае аб'яднанне
«Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына»



КНІГАРНЯ ПІСЬМЕННІКА

*Людзі Беларусі*
КНІГА III

**Рыгор Барадулін**

# Дзённікі і запісы

*Выпуск 3*

*1979–1982*

Мінск, «Кнігазбор», 2016

# Ад укладальніка

*Трэці выпуск «Дзённікаў і запісаў. 1979–1982» народнага паэта Беларусі Р. Барадуліна ахоплівае ўсяго толькі чатыры гады, але па насычанасці творчага жыцця яны не саступяць і папярэднім дзесяцігоддзям. Рыгор Іванавіч без стомы выпраўляўся з адной паездкі ў другую. Адбыліся працяглыя падарожжы на Кубу (1979–1980), у Балгарыю (1980), двойчы на Далёкі Усход (1979, 1982), у Італію (1981, на Міжнародны сімпозіум, прысвечаны творчасці А. Блока), у Чэхаславакію (1982, на курсы чэшскай мовы).*

*У 1979 г. паэт наведаў Заходнюю Украіну, Казахстан (як удзельнік Усесаюзнай нарады, прысвечанай 25-годдзю асваення цаліны), у 1981 г. — Узбекістан, Азербайджан, Літву і Латвію, у 1982 г. — Таджыкістан, Туркменію і зноў Украіну.*

*У гэтыя гады Рыгор Іванавіч неаднаразова выпраўляўся ў паездкі разам з Васілём Быкавым па Віцебшчыне, рупліва занатоўваючы яго выступленні на вечарынах і сяброўскія размовы. А разам з фотакарэспандэнтам Валянцінам Ждановічам яны працягвалі назапашваць матэрыялы для альбома «Вяртанне» (1988) аб партызанскай Ушаччыне.*

*Р. Барадулін быў удзельнікам нарадаў перакладчыкаў і VII з'езда пісьменнікаў СССР у Маскве, вечара паэзіі ў Ленінградзе, праводзіў нарады маладых пісьменнікаў. Ён пабываў у Магілёве, Пінску, Слуцку, Слоніме, Івянцы, Салігорску, неаднаразова ў Полацку і Віцебску. І не было амаль ніводнага месяца, каб не з'ездзіў у родныя Ушачы.*

*Паездак, выступленняў на тэлебачанні і радыё, спраў у часопісах са сваімі і чужымі вершамі было гэтак шмат, што не пакідае здзіўленне: а калі ж Рыгор Іванавіч спраўляўся працаваць у рэдакцыі перавыданняў і збораў твораў (нормы выпрацоўкі ніхто ж не адмяняў!), рэдагаваць паэтычныя зборнікі, шчыльна ўдзельнічаць у падрыхтоўцы выдавецкага альманаха «Братэрства», шмат пісаць і перакладаць?!*

*Калі ў выдавецкім калідоры чуўся яго вясёлы голас, шмат якім супрацоўнікам трэба было пастарацца «адлавіць» усеагульнага ўлюбёнца, каб нешта ўдакладніць, паправіць, падпісаць. А яшчэ ж чакалі з ім сустрэчы маладыя паэты і паэткі, каб уручыць свае сціплыя опусы, пачуць водгук і падказку. І як супрацоўніца выдавецтва цвёрда сведчу: яго часу, увагі, спагады і душы хапала на ўсё і ўсіх!*

*Пабачылі святло і яго кніга паэзіі «Вечалле» (1980), перакладзеныя ім зборнікі вершаў С. Паптонева «Беларусь — белая балада» (1979, з В. Нікіфаровічам), А. Вазнясенскага «Небам адзіным» (1980), І. Драча «Мелодыя каліны» (1981), кніжка вершаў для дзяцей «Ці пазяхае бегемот?» (1981).*

*Шмат увагі аддаваў Рыгор Іванавіч дарагім яму старэйшым сябрам — П. Панчанку, А. Вялюгіну, П. Броўку, якога высока цаніў як руплівага дзеяча беларускай культуры і чалавека чыстай душы.*

*Старонкі рабочых дзённікаў густа запоўнілі імёны сяброў і блізкіх знаёмых: І. Бурсаў, Н. Кіслік, І. Шклярэўскі, В. Тарас, В. Нікіфаровіч, Я. Шабан, У. Караткевіч, В. Зуёнак, К. Шэрман, А. Мальдзіс, Я. Серпер і маладзейшых — С. Законнікаў і У. Някляеў. Усім ім, а таксама многім іншым літаратарам прысвечана безліч сяброўскіх эпіграм, віншаванняў і дарчых надпісаў. Том істотна дапаўняюць вершы, якія аўтар не ўключаў у свае зборнікі ці наогул не друкаваў.*

*Рыгор Іванавіч заўсёды цікавіўся іншымі мовамі і любіў запісваць на слых словы, назвы, сказы. Не ўсё ўдалася дакладна расшыфраваць ці выправіць. Складальнік выказвае самую шчырую падзяку за зверку, тлумачэнні і пераклад з балгарскай мовы Ганне Дзімавай (Барташовай), з чэшскай — Сяргею Шупу, з іспанскай — Галіне Ляпескай.*

*Адной зорачкай адзначаны дадатковыя запісы з дакладнай датай, трыма — пазначаныя толькі годам. Курсівам выдзелены падкрэсленыя аўтарам словы, занатаваныя рыфмы, а таксама назвы гарадоў і вёсак, дзе аўтар пабываў. У квадратовых дужках — паясняльныя словы, прозвішчы ці пытальнік пры няпэўна расчытаным слове.*

*Наступны, чацвёрты выпуск, амаль падрыхтаваны, спадзяюся, таксама дачакаецца свайго выхаду.*

Наталля ДАВЫДЗЕНКА

## 1979

*2 студзеня, аўторак*

На працу. Тэхрэды. Звон Навуму[1]. Звон Юрасю[2]. У «ЛіМ»[3] верш В. Хомчанку[4].

*3 студзеня, серада*

Сазваніцца з Шабаном[5]. Віншаванне Шэсталаву[6]. Лятучка. «Падпісныя выданні» (Лілія Паўлаўна). Да Броўкі[7]. [Маг.] «Гарызонт».

*4 студзеня, чацвер*

Валю Ждановічу[8]. Александровічу[9] 26-83-05. Зуёнку[10]. Свірку. З тэхрэдамі. Білеты ў філармонію. [Час.] «Маладосць».

---

[1] Кіслік Навум Зіноўевіч (1925–1998), рускі паэт, перакладчык. Гл.: Заклінальнік і гранільшчык слова (1985) // Парастак радка, галінка верша. Мінск, 1987. С. 268. Іншыя сяброўскія прысвячэнні Н. Кісліку гл.: Барадулін Р. Каб толькі яўрэі былі!.. Мінск, 2011.

[2] Свірка Юрась (Юрый Мікалаевіч; 1933–2010), беларускі паэт. З 1975 г. заг. аддзела прозы і паэзіі газ. «Літаратура і мастацтва». Гл.: Баравіна (1974–12.08.81) // Амплітуда смеласці. Мінск, 1983. С. 75.

[3] Штотыднёвік «Літаратура і мастацтва».

[4] Хомчанка Васіль Фёдаравіч (1919–1992), беларускі пісьменнік. Быў рэпрэсаваны. У 1972–1985 гг. заг. рэдакцыі прозы выд-ва «Мастацкая літаратура». Гл.: Тост на круглым юбілеі (26.08.78, Ялта) // Вечалле. Мінск, 1980 С. 84.

[5] Шабан Яўген Пятровіч (1936–1982), беларускі паэт, драматург, сцэнарыст, перакладчык. У 1976–1980 гг. заг. літаратурнай часткі Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы.

[6] Шэсталаў Юван Мікалаевіч (1937–2011), мансійскі пісьменнік. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі РСФСР імя М. Горкага (1978, 1981).

[7] Броўка Пятрусь (Пётр Усцінавіч; 1905–1980), беларускі паэт, празаік, перакладчык. Народны паэт БССР (1962). У 1967–1980 гг. гал. рэдактар выд-ва «Беларуская Савецкая Энцыклапедыя» («БелСЭ»). Акадэмік АН БССР (1966). Герой Сацыялістычнай Працы (1972). Заслужаны дзеяч навукі БССР (1975). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1947, 1951), Літаратурнай прэміі імя Якуба Коласа (1959), Ленінскай прэміі (1962), Дзяржаўнай прэміі БССР імя Янкі Купалы (1970), Дзяржаўнай прэміі БССР (1976).

[8] Ждановіч Валянцін Ісакавіч (1938–1992), беларускі журналіст і фотамастак.

[9] Александровіч Сцяпан Хусейнавіч (1921–1986), беларускі літаратуразнавец і крытык. У 1974–1986 гг. выкладчык філфака Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна (БДУ). Доктар філалагічных навук (1972), прафесар.

[10] Зуёнак Васіль Васільевіч (н. 1935), беларускі паэт, крытык. У 1978–1982 гг. гал. рэдактар час. «Маладосць». Кандыдат філалагічных навук. Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1974), Дзяржаўнай прэміі БССР імя Янкі Купалы (1982).

*5 студзеня, пятніца*

Сямёна[1] на машынку. 13.00 — Бярозкін[2] (Пысіна[3] аддаць). 14.00 — тэатр Янкі Купалы (Шабан). Пушкін[4] прыедзе (журавіны). Шкляра[5] ў Мінску.

*6 студзеня, субота*

Для Уторава[6] тэксты[7]. У «БелСЭ». На пошту на Бядулі. 19.30 — прэм'ера «Чалавек з легенды»[8].

*7 студзеня, нядзеля*

Звон Шабану. (Тэксты для Уторава.) 19.30 — вечар арганнай музыкі.

*8 студзеня, панядзелак*

На радыё да Лукшы[9]! 12.00 — тэксты для вадэвіля. 14.00–17.00 — Лечкамісія. 22-31-02 Савіцкаму[10] імяніны.

*** Для пародыі на Тармолу[11] ці на каго яму падобнага:

---

[1] Блатун Сымон Ціханавіч (1937–1970), беларускі паэт. Блатун С. Чысціня. Мінск, 1979.

[2] Бярозкін Рыгор Саламонавіч (1918–1981), беларускі крытык, літаратуразнавец. Быў рэпрэсаваны. Гл.: На палях вечнасці (1981) // Парастак радка, галінка верша. С. 100.

[3] Пысін Аляксей Васільевіч (1920–1981), беларускі паэт. Заслужаны работнік культуры БССР (1980). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР імя Янкі Купалы (1968).

[4] Пушкін Яўген, беларускі журналіст (былы аршанскі вучань У. Караткевіча).

[5] Шклярэўскі Ігар Іванавіч (н. 1938), рускі паэт, перакладчык. Ураджэнец Беларусі. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1987), Пушкінскай прэміі Расійскай Федэрацыі (1999).

[6] Утораў (Втораў) Барыс Пятровіч (1932–2006), рускі і беларускі рэжысёр. У 1977–1981 і 1984 гг. рэжысёр-пастаноўшчык Беларускага дзяржаўнага музычнага тэатра.

[7] Тэксты куплетаў да новай рэдакцыі спектакля Беларускага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы «Ажаніцца не журыцца», створанага паводле вадэвіляў «Міхалка» Братоў Далецкіх і «Мікітаў лапаць» М. Чарота. *Івановскі* Вацлаў Леанардавіч (псеўд. Браты Далецкія; 1880–1943), беларускі палітычны і грамадскі дзеяч. Доктар тэхнічных навук. *Чарот* Міхась (сапр. Кудзелька Міхаіл Сямёнавіч; 1896–1937), беларускі паэт, драматург, празаік, рэдактар, грамадскі дзеяч. Рэпрэсаваны. Гл.: Усмешкі-перасмешкі (1979) // Амплітуда смеласці. С. 171.

[8] П'еса І. Ражкова і Я. Шабана ў пастаноўцы Дзяржаўнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы.

[9] Лукша Валянцін Антонавіч (1937–2012), беларускі паэт, драматург. У 1975–1980 гг. гал. рэдактар Галоўнай рэдакцыі літаратурна-драматычнага вяшчання Беларускага радыё. З 1980 г. дырэктар выд-ва «Юнацтва». Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя П. Броўкі (1994), Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1996).

[10] Савіцкі Алесь (Аляксандр Ануфрыевіч; 1924–2015), беларускі пісьменнік. Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1970). Ганаровы грамадзянін г. Полацка (1987).

[11] Тармола Раман Якаўлевіч (1936–2011), беларускі паэт, кінасцэнарыст. У 1977–1980 гг. член сцэнарна-рэдакцыйнай калегіі мастацкіх фільмаў кінастудыі «Беларусьфільм», у 1980–1996 гг. член сцэнарна-рэдакцыйнай калегіі тэлевізійных фільмаў Беларускага тэлебачання.

Калісьці на Каране
Кляліся лютэране
Ці вегітарыянцы...

*9 студзеня, аўторак*

Звон Залатухінай[1]**.** Рыце[2] Літфонд (Дом творчасці) [пуцёўку]. Да В. Лукшы. Рэму[3].

*Невыпадкова*

Вечнае не іржавее пяро,
Вяртаецца ўсё свае кругі на.
Прыпынак першай чаргі метро
Невыпадкова каля Вялюгіна[4]:
Каб аўтары «Полымя» і з-пад зямлі
Няўлоўнага мэтра на змор узялі!

*Яшчэ пры жыцці*

(У. Караткевічу[5] і Я. Шабану)

Нядаўна ўлягалі за рыфмамі босымі,
А сёння ім звоняць пашаны званы.
Даўно Караткевічы дружаць з нябёсамі,
Спяшаюць аўтобусы на Шабаны.
Яшчэ прыжыццёвая з хлопцамі ў злагадзе,
Стараецца слава дамовіцца загадзя.

*10 студзеня, серада*

Фота ў Бюро прапаганды. Нарада ў выдавецтве. (Галоўліт.) Яша[6]. СП, пуцёўка. 19.30 — Рускі тэатр.

---

[1] Залатухіна Тамара Фёдараўна, руская перакладчыца, супрацоўніца «Литературной газеты» (Масква).

[2] Рыта Маркаўна, жонка І. Бурсава.

[3] Нікіфаровіч Ванкарэм Валяр’янавіч (1934–2011, ЗША), беларускі літаратуразнавец, перакладчык, кінасцэнарыст, публіцыст. У 1976–1983 гг. заг. аддзела Галоўнай рэдакцыі літаратурна-драматычных праграм Беларускага тэлебачання. Гл.: Інтэлект зямлі (1980) // Вечалле. С. 66. Многія сяброўскія прысвячэнні В. Нікіфаровічу гл..: Барадулін Р. Каб толькі яўрэі былі!.. Мінск, 2011.

[4] Вялюгін Анатоль Сцяпанавіч (1923–1994), беларускі паэт, перакладчык, кінасцэнарыст. У 1946–1984 гг. з невялікімі перапынкамі працаваў рэдактарам аддзела паэзіі час. «Полымя». Заслужаны дзеяч культуры БССР (1969). Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Янкі Купалы (1964), Дзяржаўнай прэміі БССР (1968).

[5] Караткевіч Уладзімір Сямёнавіч (1930–1984), беларускі паэт, празаік, драматург, нарысіст, публіцыст, крытык, кінасцэнарыст. Лаўрэат Літаратурнай прэміі СП БССР імя І. Мележа (1983), Дзяржаўнай прэміі БССР імя Якуба Коласа (1984, пасмяротна). Гл.: Да партрэта Уладзіміра Караткевіча (5.06.82) // Амплітуда смеласці. С. 46.

[6] Серпер Якаў Абрамавіч (1938–1994, ЗША), аднакашнік; фармацэўт.

*11 студзеня, чацвер*

Да Яшы [Серпера]. Тамара [Залатухіна]. Лекі ў Маскву. Сазваніцца з Александровічам. Каганец[1]. Свой зборнік — змест.

*В. Лукша і І. Лучанок[2]*

На рэйдзе брыганціны сталі
Пры дапамозе Лучанка.
Любую песню на дэталі
Развінціць крытыка рука.
Паэтам зробішся дзіцячым,
Хай твой чытач сквярэцца плачам —
З дарослых смейся літнягод,
Пішы — і «Лета круглы год»[3]!

*12 студзеня, пятніца*

У друк Каганца. 11.00 — тэатр (чытка). Уступ да Блатуна[4]. 15.00 — прэзідыум СП.

*13 студзеня, субота*

У лес[5]! Аўтобус Мінск — Ушачы (Марыя Рыгораўна[6]).

*14 студзеня, нядзеля*

Аўтобусны вакзал (білет на Ушачы). Звон Лукшу.

*Дзмітрыю Бугаёву[7]*
*(да 50-годдзя)*

У гэты дзень сказаць хачу я *Дзіма*,
Назваць па бацьку год праз пяцьдзесят.
Любі агонь, як даўні вораг дыма,
Няхай зайздроснікаў праймае чад.
Ацэніць час па імені Радзіма,
Хто працаваў, а хто хацеў пасад.

---

[1] Каганец Карусь (сапр. Кастравіцкі Казімір Рафаіл Карлавіч; 1868–1918), беларускі празаік, паэт, драматург, мастак, грамадскі дзеяч. Каганец К. Творы. Мінск, 1979.

[2] Лучанок Ігар Міхайлавіч (н. 1938), беларускі кампазітар. Заслужаны дзеяч мастацтваў БССР (1973). Народны артыст БССР (1982). Народны артыст СССР (1987). Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1967), Дзяржаўнай прэміі БССР (1976).

[3] Лукша В. Лета — круглы год. Мінск, 1978.

[4] Гл.: Чысціня (1978) // Парастак радка, галінка верша. С. 50.

[5] Дом творчасці беларускіх пісьменнікаў «Каралішчавічы».

[6] Трафімава Марыя Рыгораўна (1902–1997), стрыечная сястра па бацьку.

[7] Бугаёў Дзмітрый Якаўлевіч (н. 1929), беларускі крытык і літаратуразнавец. З 1964 г. дацэнт філфака БДУ. Кандыдат філалагічных навук (1960), прафесар (1987). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР імя Якуба Коласа (1984).

*15 студзеня, панядзелак*

На працу. На радыё (Лукшу пра Блатуна, пераклад). Залатухінай звон. Марыю Рыгораўну [Трафімаву] правесці.

*16 студзеня, аўторак*

Для Рэма [Нікіфаравіча] ўсё зрабіць. Сабраць рэчы ў лес [у «Каралішчавічы»].

*17 студзеня, серада*

Дамоў. Звон Валі[1] на працу! Да Харэўскага[2]. Назад у лес.

*18 студзеня, чацвер*

Звон у Мінск. Звон Броўку. Падагнаць пераклады Андрэя[3].

*19 студзеня, пятніца*

У Мінск. Звон Хелемскаму[4]. У Дом друку. Дадому. У лес. Слесарэнку[5] заўтра — 60.

*20 студзеня, субота*

Перадрук Андрэя [Вазнясенскага]. Эпіграмы для «Дня паэзіі». Звон у Мінск. Віншаваць Шаха[6].

*Узаемаразуменне*

Ю. П. Гаўрук[7] з самім Шэкспірам[8]
Любую спрэчку скончыць мірам
Паразуменнем, добрым ладам,
Амаль дакладным перакладам.

---

[1] Барадуліна Валянціна Міхайлаўна (н. 1939), філолаг; жонка. У 1967–1994 гг. ст. рэдактар выд-ва «БелСЭ». Гл.: Чатыры літары (6–11.03.79, Дубулты) // Вечалле. С. 171.

[2] Харэўскі Васіль, мастацкі рэдактар аднаго з выдавецтваў.

[3] Вазнясенскі Андрэй Андрэевіч (1933–2010), рускі паэт, публіцыст, мастак, архітэктар. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1978), прэміі Ураду РФ (2010, пасмяротна). Ганаровы член 10-ці акадэмій свету.

[4] Хелемскі Якаў Аляксандравіч (1914–2003), рускі паэт, празаік, перакладчык.

[5] Слесарэнка Аляксей Аляксеевіч (1919–2005), беларускі пісьменнік, акцёр эстрады. Заслужаны дзеяч культуры БССР (1960).

[6] Шахавец Уладзімір Міхайлавіч (1918–1991), беларускі празаік, перакладчык. У 1976–1982 гг. заг. рэдакцыі збору твораў і выбраных твораў выд-ва «Мастацкая літаратура». Заслужаны работнік культуры БССР (1979).

[7] Гаўрук Юрка (Юрый Паўлавіч; 1905–1979), беларускі перакладчык, паэт. Быў рэпрэсаваны. Гл.: Юрка Гаўрук // Аратай, які пасвіць аблокі. Мн., 1995. С. 157.

[8] Шэкспір Вільям (1564–1616), англійскі драматург і паэт.

І кажуць: ёсць у Гаўрука
У класіцы свая рука!

*Чакала рыфма*

Яшчэ не нарадзіўся Тáрас[1],
А ўжо чакала рыфма зараз.
Разведчык, партызан Валюшык
Не звык ламаць свой капялюшык
Ані перад якой бядой.
Паэт, празаік, перакладчык,
Эпіграміст, антыцытатчык
Сябруе з маладой хадой
І «Восень патрыярха»[2] ў «Нёман»
Прывёз,
Як з Камароўкі гоман.

*Адкуль спарыш?*

Яўменаў[3], як спарыш:
Філосаф і паэт.
Здзіўляецца Парыж —
Адкуль такі імпэт?
З ім цяжка апанентам —
Цягацца дуж хоць з кім,
Са страсбургскім акцэнтам,
З запалам хоцімскім.

*Калі б...*

Калі б ажыў вялікі Гётэ[4],
Адчуўшы пільную ахвоту
(Не як грамадскую нагрузку)
Сябе пачуць па-беларуску.
Гарэза-рыфма Сёмуху[5]

---

[1] Тарас Валянцін Яфімавіч (1930–2009), беларускі і рускі паэт, празаік, перакладчык, кінасцэнарыст.

[2] Гарсиа Маркес Г. Осень патриарха. М.: Художественная литература, 1978. Пер. В. Тараса, К. Шермана. *Гарсія Маркес* Габрыель (Габрыель Хасэ дэ ля Канкордзія; 1928–2014), калумбійскі празаік. Лаўрэат Нобелеўскай прэміі (1982).

[3] Яўменаў Леанід Фёдаравіч (н. 1932), беларускі пісьменнік. З 1979 гг. заг. сектара Інстытута філасофіі і права АН БССР, у 1982–2002 гг. заг. аддзела навуковай інфармацыі НАНБ. Доктар філасофскіх навук (1977), прафесар (1979). Член-карэспандэнт НАНБ (1991).

[4] Гётэ Іаган Вольфганг фон (1749–1832), нямецкі пісьменнік, мысліцель, прыродазнавец.

[5] Сёмуха Васіль Сяргеевіч (н. 1936), беларускі перакладчык. У 1972–1997 гг. ст. рэдактар рэдакцыі перакладаў выд-ва «Мастацкая літаратура». Пераклаў трагедыю І.-В. Гётэ «Фаўст» (Мінск, 1976). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі РБ імя Я. Коласа (1992).

Падказвае: —Усё магу!
Імгненне ў выдавецкім плане,
Спыніся... да перавыдання!

*21 студзеня, нядзеля*

Закончыць перадрук Андрэя [Вазнясенскага]. Звон у Мінск. Пачаць друк Альбы Сіверы[1]. З Жуковічам[2] заўвагі па Сымонавай [Блатуна] кніжцы.

*22 студзеня, панядзелак*

У Мінск. Фота Блатуна (Князь[3], фотокоры).

*23 студзеня, аўторак*

Звон Карласу[4]. БелОКС[5]. Лабанок[6]. Да Броўкі (узяць фота). 33-18-21 Смірноў[7] Віталь Сцяпанавіч. На Маскву.

*** «Ушачы ўсё, што маглі, далі для Радзімы» (Лабанок).

*24 студзеня, серада*

*Масква*! Да Вані[8]. Звон у Інкамісію. 15.00 — пасяджэнне. Касарукаў Аляк. Алякс. 291-61-52, Інкамісія.

***2**5 студзеня, чацвер*

Званкі ўсім. «Круглы стол» «Литературной газеты».

---

[1] Агаворка, у сапраўднасці: Северыні Альба (н. 1926), італьянскі паэт. Северыні А. На арбіце Зямлі. Мінск, 1980. Пер. А. Шаўні. *Шаўня* Анатоль Аляксандравіч (н. 1930), беларускі паэт, перакладчык, кінасцэнарыст. У 1959–1981 гг. літсупрацоўнік, пасля рэдактар грамадска-палітычнага аддзела час. «Беларусь».

[2] Жуковіч Васіль Аляксеевіч (н. 1940), беларускі паэт, празаік, перакладчык. У 1973–1980 гг. рэдактар выд-ва «Мастацкая літаратура», у 1981–1982 гг. нам. галоўнага рэдактара выд-ва «Юнацтва».

[3] Краўчанка Ігар Уладзіміравіч (н. 1926), беларускі скульптар.

[4] Шэрман Карлас Рыгоравіч (1934–2005), беларускі перакладчык, іспанамоўны паэт. У 1956 г. пераехаў у Беларусь з Аргенціны. У 1964–1980 гг. супрацоўнік Фундаментальнай бібліятэкі імя Я. Коласа АН БССР, у 1977–1989 гг. заг. рэдакцыйна-выдавецкага сектара бібліятэкі.

[5] БелОКС — Белорусское общество культурных связей с заграницей = Беларускае таварыства культурных сувязяў з замежнымі краінамі.

[6] Лабанок Уладзімір Елісеевіч (1907–1984), камандзір беларускага партызанскага злучэння (1941–1944), дзяржаўны дзеяч. Герой Савецкага Саюза (1943).

[7] Смірноў Віталь Сцяпанавіч (1930–2007), беларускі дыпламат. Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол БССР. Кандыдат гістарычных навук.

[8] Бурсаў Іван Цярэнцьевіч (н. 1927), рускі паэт, перакладчык. Ураджэнец Беларусі. З 1965 г. жыве ў Маскве. Гл.: «З гадамі менш і менш сяброў...» (22.09.80) // Амплітуда смеласці. С. 85.

Хелемскаму — бухгалтэрыя, Элькіну[1] — фота ў Крикс.

*Масква. «Круглы стол» — Кубінская літаратура.

*Павел Грушко*[2]: «Эмацыянальнае літаратуразнаўства. Калі Аспават[3] пісаў кнігу пра Нэруду[4], жонка [Аспавата] спытала: «Пабла, муж піша кнігу пра цябе. Можна сказаць, што ты сацыяліст, рэалізм прызнаеш?» — «Калі трэба, хай піша».

Адзін чэшскі журналіст у першыя дні Кубінскай рэвалюцыі — як скрыпач. Трымае левай рукой, а іграе правай».

*Яўген Сідараў*[5]: «Вопыт рамана нясе ўласны вопыт, які пасля разносіцца па ўсім свеце. Час вялікага рамана генетычна звязаны з эпохай рэвалюцыі, вялікіх стрэсаў. Сталая літаратура без рамана не поўная. Яго чытаюць не толькі сваёй краінай, а і там, дзе могуць чытаць, дзе гатовы чытаць.

На Захадзе літаратура як толькі пытанні і ніякіх адказаў. Ёсць трывога і ў нас зусім не задаваць пытанняў».

*Вальда Лейва*[6]: «Мяне ўсхвалявала праблема эпічнага ў паэзіі. Наша літаратура — лірыка, эпас, бытавыя рэаліі. Дзённікі Хасэ Марці[7] — эпічная сведка Кубінскай рэвалюцыі.

Звычайнае жыццё чалавека ў рэвалюцыі, прырода і эпіка навокал, усё ў кубінскім плане. Трэба, каб герой спакойна зайшоў у дом і не зачапіў вушака.

Калоніяй Амерыкі [Куба] была 50 год. Імперыялісты імкнуліся [давесці], што няма ў нас ні літаратуры, ні гісторыі. Многія знаходзіліся пад гэтым ганебным уплывам.

Трэба таму літаратарам вяртацца і да гісторыі, павінны пісьменнікі сплаціць гэты доўг перад рэвалюцыяй».

Паэт гаворыць ад першай асобы.

[Адрас чужой рукой:] Москва. Зубовский бульвар, 17. Издательство «Прогресс», редакция журнала «Куба». Ю. В. Погосов Юрий Вениаминович.

---

[1] Элькін Веніямін Абрамавіч, рэдактар выд-ва «Художественная литература» (Масква).

[2] Грушко Павел Майсеевіч (н. 1931), рускі паэт, драматург, перакладчык з іспанскай мовы.

[3] Оспават Леў Самойлавіч (1922–2009), рускі крытык, літаратуразнавец, перакладчык, гісторык іспанскай і лацінаамерыканскай паэзіі.

[4] Нэруда Пабла (сапр. Рэйес Басуальта Рыкарда Элісер Нефталі; 1904–1973), чылійскі паэт і грамадскі дзеяч. Лаўрэат Міжнароднай Ленінскай прэміі (1953), Нобелеўскай прэміі (1971).

[5] Сідараў Яўгеній Юр'евіч (н. 1938), рускі крытык, літаратуразнавец. Заслужаны дзеяч мастацтваў РФ (2008).

[6] Лейва Вальда, кубінскі паэт.

[7] Марці Хасэ Хуліан (1853–1895), нацыянальны герой Кубы, ідэолаг, арганізатар і ўдзельнік вызваленчай барацьбы супраць іспанскага панавання; пісьменнік.

*26 студзеня, пятніца*

Рыта [Бурсава] (44–46, лён). Для Аспавата — Лорку[1]. Грушко — «Ода книге»[2]. Праца. Тэлеграма ў Гродна. Карласу [Шэрману] — звон.

*27 студзеня, субота*

Хелемскаму — вершы для «Правды». Фота ў «Советский писатель», Карчагіну[3] «Прынамсі»[4], Карласу [Шэрману].

*Валянціну Карчагіну*
*(дасылаючы «Прынамсі»)*

Спадзяюся, што хопіць адвагі на
Тое, каб гэтыя дачытаць радкі,
У шаноўнейшага Валянціна Карчагіна,
А можа, ўсміхнецца
з лёгкай рукі…

*Вогнетрывалы Г. Кляўко*[5]

Натураю — пакладзісты,
Фігураю — пасадзісты.
І ў лірыцы, і ў гумары
Генадзь спакойна думае.
Ніякімі крамоламі
Ніколі не праймала.
Сядзіць у самым «Полымі» —
Таму й вогнетрывалы
І піша так, як думае.

*28 студзеня, нядзеля*

Да Карласа [Шэрмана] — вершы кубінца Valdo Leyva. Для Вані [Бурсава]: болей сустак, нетронг.

*29 студзеня, панядзелак*

Звон на працу. 12.00 — Казіцкі[6] Міша (праца). [Газ.] «Вячэрні Мінск» (Куба). 16.00 — СП, кубінцы.

---

[1] Гарсія Лорка Федэрыка (1898–1936), іспанскі паэт і драматург. Расстраляны франкістамі.
[2] Дакладней, «Ода типографии», пераклад П. Грушко кнігі вершаў П. Нэруды.
[3] Карчагін Валянцін Аляксандравіч (1927–1995), рускі перакладчык.
[4] Барадулін Р. Прынамсі. Мінск, 1977.
[5] Кляўко Генадзь Якаўлевіч (1932–1979), беларускі паэт, перакладчык. У 1973–1979 гг. нам. галоўнага рэдактара час. «Полымя». Гл.: Шчодры руплівец (1981) // Парастак радка, галінка верша. С. 114.
[6] Казіцкі Міхаіл Антонавіч (1949–2009), беларускі мастак; зямляк.

*30 студзеня, аўторак*

Звон СП. Да Лабанка.

Бухгалтэрыя, грошы Лейве. 18.00 — кубінцы СП. На Маскву [правесці] Вальда.

*31 студзеня, серада*

На працу. 10.00 — Хведаровіч[1] (верш). У «Маладосць» — свае вершы і для «Дня паэзіі».

Зайцу[2] — на ножкі [абутак].

*1 лютага, чацвер*

Праца. Броўку кнігі. 12.00 — да Броўкі.

14.00 — СП. Ад’езд у *Ліду*. Радыё — Лукшу вершы (Сашу Вавілава[3] — у Віцебск).

*2 лютага, пятніца*

Праца. На радыё запіс пра Арк. Куляшова[4]. 18.00 — СП. Ад’езд у гарнізон. Быкаву[5] — каметон.

*5 лютага, панядзелак*

*г. Віцебск*. Абком. Бяссонаў.

17.00 — Коласаўскі тэатр. *Вечар.*

*6 лютага, аўторак*

Мінск. Звон [на] працу. 14.0 — у мэра горада. На працы Лукшу забраць.

---

[1] Хведаровіч Мікола (Чарнушэвіч Мікалай Фёдаравіч; 1904–1982), беларускі паэт, перакладчык. Быў рэпрэсаваны. Лаўрэат прэміі венгерскага агенцтва па літаратуры і мастацтву «Артысіуз» (1981).

[2] Заяц, Зайчык, Зая — хатняя мянушка жонкі.

[3] Вавілаў Аляксандр Дзмітрыевіч (н. 1951), беларускі рэжысёр-пастаноўшчык Беларускага тэлебачання.

[4] Куляшоў Аркадзь Аляксандравіч (1914–1978), беларускі паэт, перакладчык, кінасцэнарыст. Народны паэт БССР (1968). Заслужаны работнік культуры УССР (1973). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1946, 1949), прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1968), Дзяржаўнай прэміі БССР імя Янкі Купалы (1970).

[5] Быкаў Васіль Уладзіміравіч (1924–2003), беларускі пісьменнік, палітычны і грамадскі дзеяч. Народны пісьменнік БССР (1980). Герой Сацыялістычнай Працы (1984). Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Якуба Коласа (1964), Дзяржаўнай прэміі СССР (1974), Дзяржаўнай прэміі БССР імя Якуба Коласа (1978), Ленінскай прэміі (1986).

*7 лютага, серада*

На працу. 3б. Паўлава[1] — дублікаты[2]. Та́рас пасля абеда, Тарас (выдавецтва).

Памёр Журовіч[3].

*8 лютага, чацвер*

Развітанне з Валодзем [Журовічам]. На працу. У клініку да Мікалая Дзмітрыевіча[4]. 14.00 — пазваніць Рэму [Нікіфаровічу]. Дамоў. Дома ў мяне — Рэм.

*9 лютага, пятніца*

З Мальдзісам[5]. Дзень нараджэння Та́раса. Галіне Васілеўскай[6] (Е. Лось[7] — за ўкладанне).

Еўтушэнка[8] («ДаляглядЫ»[9]).

*10 лютага, субота*

У «Падпісныя выданні». 18.00–49 год Та́расу. Вячэра.

*11 лютага, нядзеля*

Выстаўка маст. Да Навума [Кісліка]. Шкляра [Шклярэўскі]. Да Лапушына[10] праводзіць Шкляру.

---

[1] Паўлаў Уладзімір Андрэевіч (н. 1935), беларускі паэт, празаік, перакладчык. У 1972–1985 гг. заг. рэдакцыі паэзіі, потым збору твораў і выбраных твораў выд-ва «Мастацкая літаратура». Паўлаў У. Каласы радкоў. Мінск, 1979. Гл.: «Спыніцца радасці было дзе...» (8.10.78, Каралішчавічы) // Вечалле. С. 93.

[2] Тэхнічная падрыхтоўка рукапісу да друку.

[3] Журовіч Уладзімір Васільевіч, беларускі музыкант, кампазітар, этнограф.

[4] Ладуценка Мікалай Дзмітрыевіч, гал. урач палікл інікі СП БССР.

[5] Мальдзіс Адам Восіпавіч (н. 1932), беларускі пісьменнік, вучоны-філолаг. У 1962–1981 гг. навук. супрацоўнік Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы АН БССР. Доктар філалагічных навук (1987), прафесар. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1980).

[6] Васілеўская Галіна Ануфрыеўна (н. 1927), беларуская пісьменніца. З 1979 г. адказны сакратар час. «Полымя», у 1982–1988 гг. дырэктар Бюро прапаганды мастацкай літаратуры СП БССР.

[7] Лось Еўдакія Якаўлеўна (1929–1977), беларуская паэтэса, празаік. Лось Е. Выбраныя творы: У 2-х т. Мінск, 1979.

[8] Еўтушэнка Яўгеній Аляксандравіч (н. 1933), рускі паэт, празаік, кінасцэнарыст, публіцыст. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1984), Дзяржаўнай прэміі РФ (2010). Тройчы намінаваўся на Нобелеўскую прэмію.

[9] «ДаляглядЫ» — штогоднік замежнай літаратуры (выданне выд-ва «Мастацкая літаратура». Гал. рэдактар А. Вярцінскі, укладальнік А. Гардзіцкі).

[10] Лапушын Яфім Сямёнавіч, адвакат. З 1998 г. жыве ў ЗША.

*12 лютага, панядзелак*

Звон Зуёнку. Звон Аўрамчыку[1], Круку[2]. 11.00 — Хведаровіч. 15.00 — Лечкамісія. СП (пуцёўка). Шкляра [Шклярэўскі].

*13 лютага, аўторак*

10.00 — Жанчак[3]. 12.00 — да Зуёнка («Маладосць»).

*14 лютага, серада*

На пошту. Да Зайчыка. Абутак. Скрынку на пасылку. Ваню [Бурсаву] звон, Яшу [Серперу].

*** Карл Іванавіч Крэўскі.

Выхаваныя маладыя рыцары. Ідзём з Валяй. У яе мімозы, сумка, у мяне ў дзвюх руках цяжкі масажор. Яна мне адчыняе дзверы, з дому выходзіць малады чалавек і кажа Валі: «Дзякуй».

Радок з народнай песні (Ан. Емяльянаў[4] у Віцебску на вакзале чытаў): «За намі кулі поле аралі».

Перабітымі крыламі ападае даведка.

33-23-34 хата, Рыгор Нікіфаровіч[5], 55-59-31 работа.

*15 лютага, чацвер*

Праца: здаць хвасты па «Дню паэзіі».

Харкоў[6] П. А. 25-62-33. 23-49-08. 19.00 — выступленне ў СШ № 104, Шчадрына, 46.

*16 лютага, пятніца*

На працу. У бухгалтэрыю, адпускныя. Сабрацца ў дарогу. 17.00–8 корпус Політэхнічнага інстытута ([аўд.] 228).

*17 лютага, субота*

На *Рыгу*! Дзень добры, *Дубулты*! Звон дамоў.

---

[1] Аўрамчык Мікола (Мікалай Якаўлевіч; н. 1920), беларускі паэт. У 1953–1980 гг. рэдактар аддзела паэзіі час. «Маладосць». Заслужаны работнік культуры БССР (1980). Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Янкі Купалы (1964).

[2] Крук Уладзімір Андрэевіч (1929–1991), беларускі фотамайстар. Супрацоўнічаў з большасцю беларускіх друкаваных выданняў і выдавецтваў.

[3] Жанчак Барыс Іванавіч (1937–2013), беларускі паэт.

[4] Емяльянаў Анатоль Серафімавіч, аднакашнік; выкладчык беларускай мовы Віцебскага ўніверсітэта імя П. М. Машэрава. Кандыдат філалагічных навук.

[5] Нікіфаровіч Р. В., брат В. Нікіфаровіча (Рыга).

[6] Харкоў Пётр Андрэевіч (1922–1983), рускі празаік, драматург, кінасцэнарыст. У 1966–1983 гг. член рэпертуарна-рэдакцыйнай калегіі Міністэрства культуры БССР.

*18 лютага, нядзеля*

У горад. Узяцца за справы. Паштоўкі дамоў, Ваню [Бурсаву].

*** У электрычцы з Рыгі. Старая яўрэйка з маладой дачкой па-яўрэйску, пасля фраза: «Пускай немножко полежит», пасля пераходзяць на рускую мову. Газеты латышская і «Советская культура».

*19 лютага, панядзелак*

Паглядзець тканнё. Пазваніць Зайчыку. У Рыгу. Купіць фармат паперы. Адаслаць лісты. 20.00 — [к/ф] «Навабранцы ідуць на вайну».

*20 лютага, аўторак*

Купіць чарніла (пісаць!). 11.30 — Айна Карлаўна (урач). Лісты 8 сакавіка.

*21 лютага, серада*

Звон у Мінск. Тэлеграма Шасцінскаму[1]. Хута Берулава[2].

*22 лютага, чацвер*

Пазваніць Ваню [Бурсаву] ў Маскву. Хута Берулава — падагнаць «12 песень пра Беларусь».

*Але Марчанка[3] і Але Сямёнавай[4]*

От лестных слов прелестных Алл
Я, как рассвет, наивно-ал.

Я, как рассвет наивный, ал.

*Вершаправод з Італіі*

Па-еўрапейску дзелавіты,
Звык клопат мець пра рынкі збыту.
Не любячы без справы гойсаць,
Вершаправод на тракт Лагойскі
Правёў з Італіі Шаўня,
Каб не глушыла цішыня.

---

[1] Шасцінскі Алег Мікалаевіч (1929–2009), рускі паэт, празаік, перакладчык, публіцыст (г. Ленінград).

[2] Берулава Хута Міхайлавіч (1924–2004), грузінскі паэт.

[3] Марчанка (Мураўёва) Ала Максімаўна (н. 1932), рускі крытык, літаратуразнавец.

[4] Сямёнава Ала (Альбіна Іванаўна; н. 1938), беларускі крытык, празаік. У 1972–1986 гг. рэдактар, ст. рэдактар рэдакцыі крытыкі, літаратуразнаўства і драматургіі выд-ва «Мастацкая літаратура».

Вергілій[1] быў бы, пэўна, рады
Такога мецць за camarade.

*23 лютага, пятніца*

Алесь Савіцкі, прыезд, прагулка.

*24 лютага, субота*

Раніцай[2] — 9.38 — з Мінску [прыязджае] Валя. У Дубулты. Перадрук Берулавы. *Свой гуз — пугаўю, і свой куст — салаўю.*

*25 лютага, нядзеля*

Перадрук. Лісты Жычку[3] і Вадзіму Спрынчану[4]. У Рыгу, правесці Валю.

*26 лютага, панядзелак*

Звон у Мінск, Бурсаву. Дабіць грузінскія пераклады. 20.00 — [к/ф] «Цану смерці спытай у [памерлага]».

*27 лютага, аўторак*

10.30 — да Айны Карлаўны. У аптэку. Звон у Мінск. Ліст Стрыжаку[5].

*28 лютага, серада*

Даканчыць грузінскія пераклады. Звон у Мінск.

* * *

Пражэрныя жэрлы гармат, калчаны́ —
Захоўваюць акуратна музеі
Суровае прычандалле вайны.
Байніцы шырэюць, позірк вузее.

А дыпламатыя сеткі віе,
Спаўна задаволеная сабою,
Паверыць баіцца ў сілы свае
І моліцца чалавецтва на зброю.

---

[1] Вергілій Марон Публій (70–19 да н. э.), рымскі паэт.

[2] Гл.: «Мне сёння пяць дзесяткаў без шасці...» (23.02.79, Дубулты) // Вечалле. С. 12.

[3] Жычка Хведар Змітравіч (1927–2007), беларускі паэт, празаік, перакладчык. У 1976–1987 гг. ст. рэдактар выд-ва «Мастацкая літаратура». Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя В. Нэзвала (Чэхаславакія, 1983).

[4] Спрынчан Вадзім Браніслававіч (н. 1950), рускі паэт і перакладчык. У 1972–1982 гг. рэдактар рэдакцыі паэзіі выд-ва «Мастацкая літаратура».

[5] Стрыжак Віктар Іванавіч (1955–1995), беларускі паэт.

*1 сакавіка, чацвер*

Урэзку да грузінскіх паэтаў. Перадрук. Аддаць праз Грышу [Нікіфаровіча] вершы ў Мінск.

*2 сакавіка, пятніца*

Вершы Кнута Скуеніека[1]. Верш Лабанку (з Фідэлем[2]). Узяцца за Амара[3]!

*3 сакавіка, субота*

Лісты ў Мінск, у Львоў (выдавецтва, зборнік лаўрэатаў). Звон Жычку (дамоў).

*4 сакавіка, нядзеля*

Звон у Мінск, Ваню Бурсаву. Івана Драча[4] штудзіраваць. 20.00 — [к/ф] «Рабінзон».

*5 сакавіка, панядзелак*

Звон у Мінск. У Алеся [Савіцкага ўзяць] машынку. Падборку для часопіса.

* * *

[N]

Коцікі развесненай вярбінкі
Радуюцца сонцу, харашбе
І жадаюць,
Каб і цень журбінкі
Ані ўпаў на любую цябе!

* * *

Вясёлым быў напарнікам.
Казаў мне Гунар Селга[5]:
— Паэтам і пажарнікам

---

[1] Скуеніек Кнут (н. 1936), латышскі паэт, перакладчык, крытык. Гл.: Кнут Скуеніекс (2004) // Дуліна ад Барадуліна. [Мінск:] Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода. 2004. С. 28.
[2] Кастра Алехандра Рус Фідэль (н. 1924), старшыня Дзяржаўнага Савета і Савета міністраў Рэспублікі Куба (1976–2008). Гл.: Падарунак камбрыга (2.03.79, Дубулты) // Вечалле. С. 294.
[3] Амар Хаям Гіясаддзін (каля 1048 — пасля 1122), персідскі і таджыкскі паэт, матэматык, філосаф. Амар Хаям: Рубаі. Мінск, 1989. Пер. Р. Барадуліна; уклад. і даслоўнікі В. Чамбарысава.
[4] Драч Іван Фёдаравіч (н. 1936), украінскі паэт, крытык, перакладчык. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі УССР імя Т. Г. Шаўчэнкі (1976), Дзяржаўнай прэміі СССР (1983). Герой Украіны (2006).
[5] Селга Гунар (сапр. Закіс), латышскі паэт.

Жаніцца нельга.
Калі даволі шырака
Зірнуць на два паўшар'і:
Каму патрэбна лірыка,
Каму — пажары.
Ушчэміць паважаная,
Як гусака пад пашкі,
З пухавікоў пажарніку
Ўсхапіцца цяжка.
Каханкамі-ўздыханкамі
Свет спакушае гала.
Паэта б калыханкамі
Не ўкалыхала!
Хоць вочы йдуць на штурм, але
Амаль спакойны Гунар,
Яго нашчадка ў Юрмале
Гадуе гумар.

Павільня. Вечарам з вакна. Прадвесне. Сядзібы, як гарады у макетах з крапаснымі сценамі платоў.

Каўказскі шашызм, хашыст [ад стравы *хаш*]. Латышскі шнабізм. Šnabi — гарэлка.

[Адрасы:] г. Рига-69, ул. Зентенес, 22, кв. 51. Каваль[1] Леонид Иосифович; Вальдэмар Баль[2]; Эмілія Пятроўна Кісялёва.

*** «Свеча моей кельи туманной» (Лутфі[3]).

*6 сакавіка, аўторак*

Звон у выдавецтва. Звон Зуёнку (наконт «Дня паэзіі» і Рэлеса[4]). Звон Лукшу. Ліст Тáрасу.

* * *

Вярнуўся да сябе. Я — дома.
Сум сцены радасці скрабе.
І, засаромеўшыся, стома
Напомніць хоча пра сябе.

У рукі хукай, гакай, хакай
Пад перасвіст, пад перакрык.

---

[1] Каваль Леанід Іосіфавіч (сапр. Кавалерчык; 1926–2012), латышскі пісьменнік, публіцыст, грамадскі дзеяч. Лаўрэат Нейштадскай літаратурнай прэміі (1972), намінант Нобелеўскай прэміі (2003).

[2] Бааль Вальдэмар (1936–2011), рускі і латышскі пісьменнік.

[3] Лутфі (1366–1465), узбекскі паэт.

[4] Рэлес Рыгор Львовіч (1913–2004), яўрэйскі і рускі паэт і празаік.

І Млечны Шлях плыве над хатай —
Жывы працяг малочных рэк.

Хоць гэты рэкі стараною
Цяклі ля нашай стараны,
Па-над Бычкамі, Старыною
Часцей грымелі перуны.

Кісельнымі хіба ў разводдзе
Былі, і праўда, берагі.
І крапіва ішла ў лагодзе
І ў песню, і на пірагі.

Не звыклі ад бяды хавацца —
Няхай хаваецца сама.
Таму пра ўшацкіх
Як пра хвацкіх
Гаворыць Броўка нездарма.

Юнацтва друг, круці вяртушку,
Цягніся з жыл, пластайся ўлост.
А я канкрэтную жар-птушку —
Цягну цыбуліну за хвост!

*7 сакавіка, серада*

На мора. Па лёдзе. Алесь [Савіцкі] паплавок для мяне [зрабіў] з лёду. Звон у Маскву, Мінск.

*8 сакавіка, чацвер*

Павіншаваць сваіх, Рыту [Бурсаву]. Тэлеграму М. Ткачову[1] (дзень нараджэння). 20.00 — [к/ф] «Доктар…» Звон: Ала Сямёнава 24-86-78.

*Закідвай трал*

Алесю Савіцкаму

Закідвай трал —
Хай крылле ўдачы
Ублытаецца ў сеткі слоў.
Дасюль блакадныя Ушачы
Твой партызанскі лёс юначы
Жагнаюць крыламі буслоў.

---

[1] Ткачоў Мікола (Мікалай Гаўрылавіч; 1918–1979), беларускі пісьменнік. У 1972–1979 гг. дырэктар выд-ва «Мастацкая літаратура».

Закідвай трал —
Фартуну сватай.
Хай адляціцца ліха ўбок
Той немінучаю гранатай,
Што ноччу, д’яблямі праклятай,
Даблытвала глухі клубок.

Закідвай трал,
А ў лёд настылы
Умёрзне чуйны паплавок —
Смялей падрэж вяроўцы жылы,
Што злым ашыйнікам служыла,
Каб паплавок яе валок.

Закідвай трал —
Бяры з прадоння
Пакрэплымі рукамі ўлоў.
Лес пад Матырыным і сёння
Сцяжын з крывавага сутоння
Не можа развязаць вузлоў.

Шлях партызанскі —
Шлях далёкі.
Кладзі руку на плечы дню.
Мялеюць ліўні і аблокі.
Адмервай Балтыкі валокі —
Закідвай трал
На глыбіню!

Адаму Мальдзісу
з берагоў Балтыкі

Ты расшчапіў даўно, Адам,
Навукі самай хітрай атам.
Хай будзе цесна гарадам,
Жыві ў іх прапрадзедам, татам
У новых гарадах,
Актыўна засяляй старыя,
Няхай не зводзіцца ў жыцці
Працяг Адама і Марыі!

*9 сакавіка, пятніца*

На ўзмор’е. Званкі ў Мінск, Ваню [Бурсаву]. Да Аўгінні Кавалюк[1].

---

[1] Кавалюк Аўгіння Трахімаўна (1934–2007, Санкт-Пецярбург, Расія), беларуская паэтэса, настаўніца. Жыла ў Рызе.

*10 сакавіка, субота*

На ўзмор'е. Званкі. Купіць «[Рыжскі] бальзам» для В., С[куеніек] Кнут, Імерманіс[1].

*11 сакавіка, нядзеля*

У Рыгу. Купіць білет на «Чайку». Званкі.

*Латышскія стралкі*

Латышскія стралкі
Прамыя, як праменне.
Гранёныя штыкі,
Гранёнае сумленне.
І пальцы, і куркі,
Сагнутыя, самлелі.
Гранёныя штыкі,
Гранёнае сумленне.
Гранітныя, ў вякі
Вы перайшлі ў нятленні.
Гранёныя штыкі,
Гранёнае сумленне.

*12 сакавіка, панядзелак*

Да Айны Карлаўны. У аптэку. Пасылку ў Мінск. Звон у Мінск, Ваню [Бурсаву].

*13 сакавіка, аўторак*

На пошту. Скрынку для пасылкі. 18.00 — бяседа маленькая [застолле].

*15 сакавіка, чацвер*

Пошта. Пасылка. На Рыгу. 14.22 — на Мінск.

*16 сакавіка, пятніца*

У выдавецтва. Званкі. Узяць білет на Маскву.

*17 сакавіка, субота*

Звон Карласу [Шэрману]. Па гаспадарцы.
Падагнаць пераклады.

---

[1] Імерманіс Анатал (Анатолій; 1914–1998), латышскі пісьменнік, сцэнарыст, кінадраматург, журналіст.

*18 сакавіка, нядзеля*

У Ал. Булыкі[1] — слоўнік Арыку Майхровічу[2] — паслаць свой зборнік, паслаць зборнік Сачаве[3].

*19 сакавіка, панядзелак*

На працу. Званкі ў «Полымя». 16.00 — сустрэча з Карласам [Шэрманам]. На Маскву.

*20 сакавіка, аўторак*

*Масква*. Гасцініца «Украіна». Звязацца са штабам нарады.

*21 сакавіка, серада*

10.00 — нарада. Семінар. Да Івана [Бурсава] дамоў.

* *Г. Эмін[4]:* «Паэзія вобразаў, думак, настрояў. У Какабаі гэтага няма. Некаторыя нацыянальныя паэты ламаюць форму, не задавальняюць іх традыцыі. Можа адысці ў фальклор, у нацыянальныя карані. Кожны паэт [піша] па-свойму, на нацыянальным матэрыяле. Ёсць ісціны, якія, можа, і цікавыя для туркменаў, а для еўрапейцаў гэта даўно мінулы час. Але трэба напісаць адметна. Ён можа быць добрым паэтам рэспублікі, квартала, але гэтага мала. У XX ст. у акцэнт уваходзяць ад недахопу думкі: я туркмен, што ад мяне хочаце. Можа стаць добрым у сваім раёне, але захочацца і паспаборнічаць з іншымі паэтамі рэспублік.

Толькі ў дрэнных паэтаў усе вершы добрыя. Трэба трохі больш бруду ўзяць з жыцця. Думка павінна быць. Галаўныя вершы. А што — галава не ўздельнічае ў працэсе стварэння верша? Паэзія эмацыянальнай думкі (мысли) — асноўная паэзія XX стагоддзя. Узбагачаць традыцыі. Яшчэ доўга казахскі чытач будзе патрабаваць сюжэтных вершаў. Толькі бяздарны паэт падымае хай і не слухае заўваг.

! У літаратуру ўвайшлі, а не ведаюць, як выйсці. У літаратуры дзверы шырокія, і, засядзеўшыся, чамусьці сорамна выходзіць. XX стагоддзе любіць фактаграфічную літаратуру».

Мы наперад вымкнулі,
А яны прыстоілі.

[1] Булыка Аляксандр Мікалавіч (н. 1935), аднакурснік; беларускі мовазнавец. Доктар філалагічных навук (1981), прафесар (1992). Член-карэспандэнт НАНБ (1994). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі РБ (1998).

[2] Майхровіч Альфрэд Сцяпанавіч (1937–2004), беларускі філосаф. З 1969 г. у Інстытуце філасофіі і права АН БССР. Доктар філасофскіх навук (1984), прафесар (1994). Член-карэспандэнт НАНБ (1996). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1984).

[3] Сачава Феафан Ф., універсітэцкі аднакашнік, настаўнік беларускай мовы на Гомельшчыне.

[4] Эмін Геворг (сапр. Мурадзян Карлен Грыгор’евіч; 1919–1998), армянскі паэт. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1951, 1976).

Мы ў памылках вымаклі,
А яны — прыстойныя.

*Яўген Храмаў*[1]: «Многія непрызнаныя геніі закончылі ў «глубокой теснине ЦДЛ[2]». На вершы стаіць марка Made Евтушенко».

*Блажыеўскі*[3] чытае верш. Спачатку [робіць] заўвагу: «Апошні час курскія салаўі пачалі пераспяваць».

*Геворг [Эмін]*: «Таксама і сучасныя паэты. Не рабіць паэзію з паэзіі, а перастварaць жыццё ў паэзію. Няма адбору асацыяцый, вобразаў. Калі пішаш верш, не абавязкова, каб пырскі асацыяцый ляцелі ва ўсе бакі. Вершы могуць [быць] розныя, але з іх павінен стварацца вобраз паэта. Няма яшчэ паэта са сваім сабраным вобразам. Ён дужа сур'ёзна адносіцца да сябе і да сваёй славы. Трэба сумнявацца, [павінна быць] самаіронія, каб мог паэт і над сабой сумнявацца.

Парадкоўнік — самая жорсткая рэч. Усе лішнія словы аблятаюць, як апалае лісце. Лепшы варыянт: кепскі парадкоўнік лепей, чым кепскі пераклад. Бывае, што пераклад лепей, чым арыгінал, і тады ходзіш, не ведаеш, дзе галаву дзець. Кепскі паэт ад перашкоды робіцца горшы, а добры наадварот.

Многія мадэрн разумеюць няправільна: [як] разбурэнне формы. У абстрактным жывапісе і верлібры лягчэй ашукаць. Многія адмовіліся ад рыфмы, таму што не могуць рыфмаваць. Механічна пераносяць форму. Небаскроб апранаюць на армянскія горы. Ці касцюм бітніка на селяніна. Перастварaць у паэзіі непрыкметныя з'явы жыцця».

*Марк Шатуноўскі*[4] (малады, піжоністы): «Падабаюцца: Булат Акуджава[5], Дэдзік Самойлаў[6]». Геворг [падкрэслена]: «У простанароддзі — проста Давід...»

*22 сакавіка, чацвер*

Пераезд у гасцініцу «Юность». Звон Шкляру [Шклярэўскаму], Залатухінай, Карпачову[7].

*23 сакавіка, пятніца*

Да Бурсава. Звон у Мінск. Узяць у Вані загадкі.

---

[1] Храмаў Яўгеній Львовіч (1932–2001), рускі паэт, перакладчык.
[2] Цэнтральны дом літаратара (з рэстаранам; Масква).
[3] Блажыеўскі Яўгеній Іванавіч (1947–1999), рускі паэт.
[4] Шатуноўскі Марк Аляксеевіч (н. 1954), рускі паэт, празаік, публіцыст.
[5] Акуджава Булат Шалвавіч (1924–1997), рускі паэт, празаік, бард.
[6] Самойлаў Давід Самуілавіч (сапр. Кауфман; 1920–1990, Эстонія), рускі паэт, перакладчык.
[7] Карпачоў Эдуард Маркавіч, рускі празаік.

*24 сакавіка, субота*

10.00 — *г. Навадзмітраўск*. Заканчэнне семінара[1].

[Адрасы:] Москва, Новодмитровская, 5а, журнал «Литературная учеба», Е. Л. Храмов (лично); Florian Hłasko[2]. «Morzami ku Polsce. Z pamiętnika marynarza». Warszawa, 1922. PH 24380; Ольшанский[3] Александр Андреевич, Москва; Коломієць[4] Володимир Родіонович, Київ; Мороз[5] Эльвина Сергеевна, [жур.] «Литературное обозрение» [Москва]; Майданська[6] Софія Василівна, Київ; Москва, Сущевская, 21, изд-во ЦК ВКСМ «Молодая гвардия», редакция зарубежной литературы, Храмова Марина; Ленинград, Эзрохи[7] Зоя; Мезенко[8] Юрий. Киев, Пушкинская, 32, редакция журнала «Радуга»; Сафиева[9] Гулрухсор. Душанбе; Казакевич[10] Вечеслав. Москва; Херсон, Тютюнник[11] Алла Миколаевна; Херсон, ул. Горького, 5, Клуб писателей.

*25 сакавіка, нядзеля*

Экскурсія па Крамлі. Збройная палата. Экскурсія па літаратуранай Маскве.

Да Бурсава. Ераніму[12] грошы. «Даляглядьі» — для Кнута Скуеніека. 292-25-11 Эмін Геворг.

*26 сакавіка, панядзелак*

Звон Шклярэўскаму. 11.00 — усе кіраўнікі. 16.00 — ЦК ВЛКСМ.

*** Камбайнёр на нарадзе ў ЦК ВЛКСМ: «Я вырас на полі».

---

[1] Гл.: Пераклад не церпіць адклад (1984) // Парастак радка, галінка верша. С. 240.

[2] Глазко Фларыян Антоні (1865–1921), польскі урач, марскі афіцэр. Аўтар успамінаў «Морамі да Польшчы: З дзённікаў марака».

[3] Альшанскі Аляксандр Андрэеевіч (н. 1940), рускі празаік, публіцыст.

[4] Каламіец Уладзімір Радзіонавіч (н. 1935), украінскі паэт. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Украіны імя Т. Г. Шаўчэнкі (1993).

[5] Мароз Эльвіна Сяргееўна, рускі перакладчык, крытык.

[6] Майданская Сафія Васільеўна (н. 1948), украінская паэтэса, драматург; музыкант. Заслужаны дзеяч мастацтваў Украіны.

[7] Эзрахі Зоя (сапр. Буркова Зоя Яўсееўна), руская паэтэса, празаік (г. Ленінград).

[8] Мязэнка Юрый Аляксандравіч, украінскі паэт, перакладчык.

[9] Гулрухсор (Сафіева Гулрухсор; н. 1947), таджыкская паэтэса, празаік, перакладчык. Народная паэтэса Таджыкістана (1999). Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола ТаджССР (1976), Ленінскага камсамола СССР (1978), Дзяржаўнай прэміі Таджыкістана імя А. Рудакі (2003).

[10] Казакевіч Вячаслаў Сцяпанавіч (н. 1951), рускі паэт, празаік. Лаўрэат прэміі РСФСР імя М. Горкага. Ураджэнец Беларусі.

[11] Цюцюннік Ала Мікалаеўна (н. 1949), украінская паэтэса.

[12] Стулпан Еранім (1931–1981), латышскі паэт, нарысіст.

Касманаўт Берагавой[1] («У кожным палёце ёсць няўвязкі. Аб іх не пішуць. У вайну падрыхтоўка ў рэальных ўмовах на зямлі»).

*27 сакавіка, аўторак*
Мінск! Звон на працу.

*28 сакавіка, серада*
14.30 — СП. Валянцін Тарас. 15.00 — выступленне.

*29 сакавіка, чацвер*
Звон Бярозкіну, Бурсаву. У Гродна грошы.

*30 сакавіка, пятніца*
На працу. Звон Зуёнку. Да Броўкі. Філфак! Вечар.

*31 сакавіка, субота*
Паслаць «Восень патрыярха» Але Марчанка, Натану[2].

*1 красавіка, нядзеля*
Звон Адміралу[3], Клёве [Кляўко]. Nitron, sustac mitte [лекі].

*2 красавіка, панядзелак*
9.00 — Яўменаву, узяць зборнік Аўрамчыка.

*3 красавіка, аўторак*
На працу. 17.00 — «Юнацтва» (Камароўка). Аднесці Броўку 7-мы том[4].

*4 красавіка, серада*
Звон Тáрасу, Карласу [Шэрману], Чыгрынаву[5].

---

[1] Берагавой Георгій Цімафеевіч (1921–1995), лётчык-касманаўт СССР, генерал-лейтэнант авіяцыі (1977). Герой Савецкага Саюза (1944, 1968). Заслужаны лётчык-выпрабавальнік СССР (1961). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1981).

[2] Злотнікаў Натан Маркавіч (н. 1935), рускі паэт, супрацоўнік час. «Юность».

[3] Мянушка А. Вялюгіна; суадносна ў Р. Барадуліна была мянушка Боцман, але яна не прыжылася.

[4] Броўка П. Збор твораў: У 7-мі т. Мінск, 1975–1978.

[5] Чыгрынаў Іван Гаўрылавіч (1934–1996), беларускі празаік. Народны пісьменнік РБ (1994). У 1976–1986 гг. сакратар праўлення СП БССР. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1974), Літаратурнай прэміі імя А. Фадзеева (1979). Гл.: Даверлівая балада (10.05.75) // Вечалле. С. 119.

*5 красавіка, чацвер*

За Хаяма! Чэхі[1]. Да Віктара Шматава[2] ў майстэрню.

*6 красавіка, пятніца*

Да Мікалая Дзмітрыевіча [Ладуценкі]. Звон у [час.] «Бярозку», «Вясёлку».

*7 красавіка, субота*

Да Навума [Кісліка] (выбраць для [час.] «Юности»). Чытаць старца.

*8 красавіка, нядзеля*

Дабіць старца ўдумнага, зборнік Хведара.

*9 красавіка, панядзелак*

На працу. Зняць пытанні з Лужаніным[3]. Да Броўкі («Марат»[4]).

*10 красавіка, аўторак*

З Жычкам, з Аўрамчыкам.

*11 красавіка, серада*

Польскі тэатр. «Маладыя графікі» (ТБ). Алег. Алега да мастакоў.

*12 красавіка, чацвер*

На Камароўку. Падрыхтаваць Натану [Злотнікаву] падборку.

*13 красавіка, пятніца*

На працу. Падпісаць Русецкага[5]. З Аўрамчыкам сустрэча. 15.00 — ад’езд з Быкавым.

* *Талачын*. Старшыня гарвыканкама: «Дзе самалётамі, дзе машынамі ўгнаенне, а дзе неяк — лу́бкамі рассейваем».

*Васіль Быкаў*: «Чым пахне ў раёне? — вясной, сяўбой, вымовамі і ордэнамі».

---

[1] Гл.: «Чэхаў перакладаю…» (9.12.79) // Амплітуда смеласці. С. 158.

[2] Шматаў Віктар Фёдаравіч (1936–2006), беларускі мастацтвазнавец, мастак. З 1966 г. супрацоўнік Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору НАНБ. Доктар мастацтвазнаўства (1990).

[3] Лужанін Максім (сапр. Каратай Аляксандр Амвросьевіч; 1909–2001), беларускі паэт, празаік, перакладчык. Быў рэпрэсаваны. Заслужаны дзеяч мастацтваў БССР (1969). Лаўрэат Літаратурнай прэміі БССР імя Якуба Коласа (1965).

[4] Паэма П. Броўкі «Марат Казей» (1946).

[5] Русецкі Аляксей Сцяпанавіч (сапр. Бурдзялёў; 1912–2000), беларускі паэт. Заслужаны работнік культуры БССР (1983).

***Віцебская вобл., Браслаўскі р-н, п]а Зарэчча. Маз Галіна (фотаздымак з аўтографам); в. Чачэвічы Быхаўскага р-на, Канапліцкі[1] Васіль. Ехаць: Магілёў — Бабруйск, на сярэдзіне дарогі Чыгірынскае вадасховішча.

Нібыта толькі выпаў снег —
Так светла на душы.

*14 красавіка, субота*
Ад'езд на Мінск. Апошнія лапіклы снегу.

*15 красавік, нядзеля*
Артыкульчык для [час.] «Литературного обозрения».

***1**6 красавіка, панядзелак*
У «Маладосць». Да Васіля [Зуёнка] (Бэла Ахмадуліна[2]). Звон Бурсаву. 17.00 — да Валкаўца[3].

*17 красавіка, аўторак*
10.00 — Усеня[4] (на працы). 11.00 — пані Зося[5] (тэкст, Шабану тэксты). 19.30 — Купалаўскі тэатр.

*Вуячычу*[6]

Пачынае вясна неспакойны сезон,
Піву шумнаму робіцца горача ў краме.
На афішах Вуячыч і сумны гібон,
Падначаленыя ўсемагутнай рэкламе.

*[1979]*

Ісціна — значыць ісціна на рызыку, каб пасля памяць аксціла…

[1] Канапліцкі Васіль, аднакурснік.
[2] Ахмадуліна Бэла (Ізабела) Ахатаўна (1937–2010), руская паэтэса. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1989), прэміі «Трыумф» (1994), Пушкінскай прэміі (1994), прэміі Прэзідэнта РФ (1998), Дзяржаўнай прэміі РФ (2004). Гл.: Паненка-сялянка (1985) // Парастак радка, галінка верша. С. 265.
[3] Валкавец Пётр, беларускі мастак-карыкатурыст.
[4] Усеня Аляксандр (псеўд. Алесь Няўвесь; н. 1958), беларускі пісьменнік.
[5] Грыц Зося, аднакурсніца.
[6] Вуячыч Віктар Лук'янавіч (1934–1999), беларускі эстрадны спявак. Народны артыст БССР (1976). З 1966 г. у Беларускай філармоніі, мастацкі кіраўнік канцэртна-гастрольнага аб'яднання «Мінскканцэрт».

У белакаменныя харомы вішань убрала Ушачу[1].
Не раскутыя вершы, а не падкутыя.

Як тыя восеньскія паплавы,
Абчыкрыжаныя пад нулёўку,
З Мінску, з-пад Мінску,
Здалёку, зблізку
На пероне ў шарэнгах
Стаіцё вы…

У сабакі развіццё праз выццё.

У сабакі ўсё развіццё —
Праз выццё,
Усё навучанне —
Праз гырчанне,
Усё выхаванне —
Праз браханне.

*1997*

Дзяўчо, як верацяно, туман прасці.

*Журлівы тост*

Наліта чарачка па ве́нца,
І смутак просіцца ў сябры.
Дзяўчына, быццам верацёнца,
Хоць ёй прадзі туман сыры.
І прадзіва таго сукенку
Хай звяжа ўтуманелы лёс.
Да дна за гэтую паненку!
Каб суджаны хутчэй падрос.

*13 сакавіка 1997*

*18 красавіка, серада*
На працу. Звон Бурсаву, Быкаву.

*19 красавіка, чацвер*
У Дом друку. 18.00 — СП. Фальклорны вечар.

---

[1] Гл.: Ясачкі: «Вечар здзівіцца дойлідству выйшаў…» (7.05.97) // Збор твораў: У 4-х т. Мінск, 1999. Т. 3. С. 331.

* СП. Фальклорныя ансамблі. Адкрывае ўслед за Семянякам[1] Н. Гілевіч[2] і цытуе сам сябе (з артыкула ў «Правде»), як быццам новага нічога няма сказаць.

Барада гарыць,
Чым тушыць —
Ці вінцом,
Ці пярцом,
Ці гарэлкай?

Пойдзем, дзеўкі, кругом жыта.
Пойдзем, сястрыца, пад ясну зарыцу.

А ў заіньку тры думы:
Адна — лесам бегчы,
Другая полем бегчы,
Трэцяя морам плыць.

Дзеўку ён ўзяў і чалом аддаў.
Ці ня дож цябе змачыў,
Ці ранняя раса!

З Капыля іграе на жалейцы з каласка («Ці ўсе лугі пакошаны…»).

Брага чыстая, Маці Прачыстая
блаславілі вясну запускаці,
зіму замыкаці.

Пра мяне, маладу,
бясславіцу нясець,
а ўсяе мае любошчы было
з пашанічнае мукі.

А ў майго татачкі
Жыццечка пахілілася.

Ой, мяту я двор мяцёлкаю,
На краватачцы мой пастыл ляжыць.
Узяла рэшата па ваду,
Мой пастыл застыў.

---

[1] Семяняка Юрый Уладзіміравіч (1925–1990), беларускі кампазітар. Народны артыст БССР (1974). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1972).

[2] Гілевіч Ніл Сымонавіч (1931–2016), беларускі паэт, фальклярыст, перакладчык. У 1960–1986 гг. супрацоўнік кафедры беларускай літаратуры БДУ. Народны паэт БССР (1991). Кандыдат філалагічных навук (1963), прафесар (1978). Заслужаны дзеяч навукі БССР (1980). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР імя Янкі Купалы (1980), Міжнароднай прэміі імя Хрыста Боцева (1986).

Накаціла камянём,
Сама пайшла хамянём.

Замятай, матка, попел,
Мы тваю дачку схопім.

Салома наробіць сорама.
Сена парэжа калена.
Гарэлачка шумна
Завядзе да гумна.
Завёў мяне чужы розум
На чужую старану.

Зялёнае жыта за сялом,
Харошыя госці за сталом.

[Адрас:] Лычкоўскі[1] Іван Восіпавіч (на жалейцы), Ахоцкая, 99, Паўночны пасёлак [Мінск].

*20 красавіка, пятніца*
Таня Мітрафанава[2]. 19.30 — Палац чыгуначнікаў, «Белая кабыліца»[3] (яўр.)
*** Па вуліцы Мінска два негры альбо негр з негрыцянкай. Два сапога пара.
[Адрас чужой рукой:] Москва, 10309, ул. Горького, 8, кв. 129–130. Т. 229-39-17. Митрофанова Т. Е. (Елизаровна).

*21 красавіка, субота*
Суботнік. Кніжку ў Маскву.

*23 красавіка, панядзелак*
Да Панчанкі[4]. Пахаванне [Міколы] Ткачова. Звон Бурсаву.

---

[1] Лычкоўскі Іван Іосіфавіч, беларускі музыкант, майстар музычных інструментаў.
[2] Мітрафанава Таццяна Елізараўна, руская паэтэса.
[3] Мюзікл «Чорная аброць для белай кабыліцы» Ю. Шэрлінга ў пастаноўцы Камернага яўрэйскага музыкальнага тэатра. Тэкст на ідыш Х. Бейдэра, пераклад на рускую мову І. Рэзніка. *Шэрлінг* Юрый Барысавіч (н. 1944), рускі рэжысёр, кампазітар, харэограф. Заслужаны дзеяч мастацтваў РСФСР. *Бейдэр* Хаім Волькавіч (1920–2003, ЗША), яўрэйскі паэт, літаратуразнавец, журналіст. Заслужаны работнік культуры РСФСР (1981). *Рэзнік* Ілья Рахміэлевіч (н. 1938), рускі паэт. Заслужаны дзеяч мастацтваў РФ (2000). Народны артыст РФ (2003). Народны артыст Украіны (2013).
[4] Панчанка Пімен Емяльянавіч (1917–1995), беларусі паэт, перакладчык, крытык. Народны паэт БССР (1973). Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Янкі Купалы (1959), Дзяржаўнай прэміі БССР імя Янкі Купалы (1967), Дзяржаўнай прэміі СССР (1981).

*24 красавіка, аўторак*

Праца. Лужанін. Званок Лабанку.

15.00 — Абутковая, 16. Залатухіна.

*25 красавіка, серада*

Карласу [Шэрману], Навуму [Кісліку]. Звон Бурсаву, званкі. 18.00 — [гас. «Мінск», №] 475 (Залатухіна).

Шамякін[1] 22-04-78.

*26 красавіка, чацвер*

Броўку (141-91-85 [Масква]). На працу. У бібліятэцы кнігі на абмеркаванне у СП (Тацяна Кузьмінічна[2]) 16.00–36-35-01. Карэктуру Пімена Панчанкі.

Наконт у СП Шавеля[3].

*27 красавіка, пятніца*

Праца. Паптонеў[4] у друк. 9 клініка. 15.00 — прыёмная камісія. 19.30 — тэатр двух актораў.

*** Іван Чыгрынаў: «Вось я інструкцыя жывая». Макаль[5]: «Туга па аглаблі».

Святло над Ліпскім[6]. Вітка[7] пра Ліпскага: «У яго слабая мова». Малой моўнай культуры.

---

[1] Шамякін Іван Пятровіч (1921–2004), беларускі пісьменнік. Народны пісьменнік БССР (1972). Член-карэспандэнт АН БССР (1980). У 1976–1980 гг. першы сакратар праўлення СП БССР. У 1980–1992 гг. гал. рэдактар выд-ва «БелСЭ». Герой Сацыялістычнай Працы (1981). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1951), Літаратурнай прэміі імя Якуба Коласа (1959), Дзяржаўнай прэміі БССР імя Якуба Коласа (1968), Дзяржаўнай прэміі БССР (1982).

[2] Іваніцкая Таццяна Кузьмінічна, кансультант па арганізацыйнай рабоце СП БССР.

[3] Шавель Кастусь (Канстанцін Міхайлавіч; 1912–1987), беларускі паэт. З 1956 г. працаваў бухгалтарам у калгасе імя Ільіча Уздзенскага раёна.

[4] Паптонеў Стэфан Дзімаў (1928–2004), балгарскі пісьменнік, перакладчык. Паптонеў С. Беларусь — белая балада. Мінск, 1979. Пер. Р. Барадуліна, В. Нікіфаровіча.

[5] Макаль Пятрусь (Пётр Міхайлавіч; 1932–1996), беларускі паэт, драматург, перакладчык. У 1978–1980 гг. ст. рэдактар выд-ва «Мастацкая літаратура». Лаўрэат Літаратурнай прэміі СП БССР імя А. Куляшова (1980), Дзяржаўнай прэміі БССР імя Янкі Купалы (1984).

[6] Перафраз назвы рамана М. Паслядовіча «Святло над Ліпскам». *Паслядовіч* Макар Трафімавіч (1906–1984), беларускі празаік, драматург, перакладчык. *Ліпскі* Уладзімір Сцяпанавіч (н. 1940), беларускі пісьменнік, публіцыст. У 1978–1988 гг. гал. рэдактар час. «Вясёлка».

[7] Вітка Васіль (сапр. Крысько Цімох Васільевіч; 1911–1996), беларускі паэт, празаік, дзіцячы пісьменнік, драматург, крытык і публіцыст, перакладчык. У 1974–1987 гг. член сцэнарна-рэдакцыйнай калегіі кінастудыі «Беларусьфільм». Заслужаны дзеяч культуры БССР (1970). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1972). Узнагароджаны міжнародным ганаровым дыпломам імя Х.-К. Андэрсена (1978).

*28 красавіка, субота*

Праца. Звон Сяргею[1]. Кнігі для БАМа. Пахаванне Алеся Пальчэўскага[2]. Да Навума [Кісліка].

*29 красавіка, нядзеля*

На вакзал. Здаць білеты.

39-57-35 Мікуловіч Уладзімір Андрэевіч.

*30 красавіка, панядзелак*

Звон Быкаву, Ждановічу.

*1 мая, аўторак*

Звон Броўку, звон Бурсаву.

[Чужой рукой: час.] «Дружба народов», отдел поэзии. Владимир Николаевич Юршов (старший редактор). Пётр Егорович Серебряков, зав. отделом.

*2 мая, серада*

На аўтавакзал, білеты на Ушачы.

*Віталю Скалабану[3]*

Сумаваць няма прычыны:
Маецца ў цябе, Віталь,
Дзе й належыць у мужчыны,
Срэбра, золата і сталь!

*P. S.*
Ды пра гэта ўсе эсэ,
Можа, з’явіцца ў БелСЭ.
А пакуль што Скалабан
Дома — пан,
Дзе трэба — хан.

*3 мая, чацвер*

Праца. Панчанку (карэктура). Валянціну Ждановічу.

---

[1] Законнікаў Сяргей Іванавіч (н. 1946), беларускі паэт. У 1979–1986 г. заг. сектара мастацкай літаратуры аддзела культуры ЦК КПБ. Лаўрэат Літаратурнай прэміі СП БССР імя А. Куляшова (1982), Дзяржаўнай прэміі РБ (1992).

[2] Пальчэўскі Алесь (Аляксандр Восіпавіч; 1905–1979), беларускі пісьменнік. Быў рэпрэсаваны.

[3] Скалабан Віталь Уладзіміравіч (1947–2011), беларускі гісторык, літаратуразнавец, архівіст. У 1972–1995 гг. супрацоўнік выд-ва «Беларуская энцыклапедыя імя П. Броўкі». («БелЭ»). Кандыдат гістарычных навук (1987).

*4 мая, пятніца*

Да Пімена [Панчанкі] дамоў. 17.40 — ад’езд на Ушачы. Аўрамчык 36-86-94. Казлова, 15, кв. 8. Міру[1] з днём нараджэння.

* [*п. Ушачы*:] Иван Сцяпанавич Роўба[2]; Уладзімир Стэфанавіч Спаткай; Леў Рыгоравіч Міхайлаў (нам. старшыні РВКа); Ніканор Міхайлавіч Гірса[3]; Пётр Ніканоравіч Плаксіцкі (старшыня РВКа); Трафім Трафімаў (камунальнае прадпрыемства); Храпуненка Галіна Фёдараўна.

Аўтобус ВТЛ 13-13. Жанчына ў «Лясныя азёры» [Дом адпачынку], баіцца ў лес ісці.

*5 мая, субота*

* [М. Р. Трафімава:] Пасля вайны бельгійскім кабылам прывязвалі венік, каб авад адганяла, бо толькі кукса [замест хваста]. А венік звальваецца. Карова без хваста, бо на ёй аралі, хвост адкруцілі. Рукаятку лёну прывязвалі, а ўсё ж бакі абабіць; возера Чорная Ву́рада, што ўшыркі, што ўдоўжкі; у ельніку ўвесь холад; ён узяў шнуркі з чаравік і павесіўся; дохля яе ведаець, яна як стала ратунку крычаць; мы выгналіся з каровамі; каб пітушкі не звадзіліся — на курачак садзіліся; кошка чарнахвостка, скора прыбыль будзіць.

*6 мая, нядзеля*

* «Ці многа зарабляеш?» — «7 грывень за вакно кідаець ([на] дачку), 7 грывень у доўг даю (дачку корміць), 7 грывень сям’ю кармлю», — калі пан спытаўся ў мужыка, ці многа зарабляе. Мужык араў.

Докшыцкія школьнікі далі пачын па ўборцы камянёў. Абком усёй [вобласці] давёў [норму]. Год дзіцяці. Дзяўчынка падымала камяні, кішка з попкі вылезла. Райком кожны панядзелак бамбіць школу.

Здзікаўся над малымі; два небальшэнькіх сынкоў; насіўся-насіўся, якраз лягчоны; ты цаны на хату нагнала, чаму ацаніла такую дзяшоўку? Баньку ей абстроілі каля рэчкі.

*7 мая, панядзелак*

Ад’езд з Ушач.

Званок Быкаву, Ждановічу, на працу.

* [М. Р. Трафімава:] лугі пазазімавалі, калі якая баба выйдзець, што яна гэтаму лугу зробіць? Усё прападаіць, і ічмені [ячмяні] ў макраце. Нідзе ні льнінкі не прапала; ён пераняў мяне, лаіць пачаў; куды-нікуды

---

[1] Салавей Міра Захараўна (Залманаўна), зямлячка; жонка Я. Серпера.

[2] Роўба І. С. (1936–2006), інжынер-будаўнік; Рыгор Іванавіч лічыў яго сваяком па мамінай радні.

[3] Гірса́ Н. М., сакратар Ушацкага РК КПБ.

нос пастаянна падтаркаваеш; яна замкнуты такі чалавек, крэпкі. «Дзе робіш?» — «У ПМК» («Пакуль мама корміць»).

*8 мая, аўторак*

Званок Ждановічу, Законнікаву. 13.00 — ад'езд з Быкавым на *Ушачы*. РК. Гатэль.

*9 мая, серада*

Райком. Дэманстрацыя. *в. Ваўчо.* Ад'езд на «Прарыў»[1]. *в. Бычкі,* [возера] Супонец.

* Хата, дзе Васіль Быкаў скончыў першы клас (зараз жыве брат Мікола з жонкай). Барана пры сцяне.

Іван Паршонак, з 1904 года, [сябар В. Быкава] да вайны.

Братавая хацішча нешчаслівая — тры разы гарэла.

Суседка, дзе жыла Валя Быкава[2]. Суседка перабірае бульбу. Васілю: «Можа, табе з сабой бутэлечку?»

Вёска адзін бок згарэў, бо пры адступленні ў аднаго немца стаяў кулямёт справа, і таму выпаліў увесь бок вёскі. А другі бок вёскі не захацеў немец паліць.

Васіль на ганку. Васіль папраўляе валасы маці[3], сівыя («здымі хустачку»).

Па дарозе Васіль успамінае, як па сцежках хадзіў ва Ушачы.

Сястра [Валянціна] ў *Ваўчы* жыве і кажа, што сны сняцца пра сваю вёску, пра Бычкі, сняцца суседзі.

Клуб саўгаса, *с. Кублічы* — [былая] пагранзастава. Выступае Васіль. Віншуе [з] Днём Перамогі. «Нам яшчэ не адно пакаленне карыстацца роднай мовай, трэба берагчы і пеставаць яе».

Выезд на возера. Дарога лясная па былой КСП[4]. Возера Супонец. Астравок завецца Ляхá, ляхой ісці можна на астравок. Любімае возера маці Васіля.

---

[1] «Прарыў» (1974) — мемарыяльны комплекс у гонар легендарнага прарыву нямецкай блакады партызанамі ў красавіку — маі 1944 г. (Ушацкі р-н Віцебскай вобл.) Скульптар А. Анікейчык, архітэктары Ю. Градаў, Л. Левін. *Анікейчык* Анатоль Аляксандравіч (1932–1989), беларускі скульптар, педагог. Прафесар (1981). Народны мастак БССР (1972). Лаўрэат Ленінскага камсамола Беларусі (1967), Дзяржаўнай прэміі БССР (1974). *Градаў* Юрый Міхайлавіч (н. 1934), беларускі архітэктар. Заслужаны архітэктар Беларусі. Лаўрэат Ленінскай прэміі (1970). *Левін* Леанід Мендзелевіч (1936–2014), беларускі архітэктар. Заслужаны архітэктар Беларусі. Лаўрэат Ленінскай прэміі (1970), Ленінскага камсамола Беларусі, Дзяржаўнай прэміі РБ (2003, 2011).

[2] Быкава Валянціна Уладзіміраўна (1926–2016), сястра В. Быкава.

[3] Быкава Ганна Рыгораўна (1887–1984).

[4] КСП — кантрольна-следавая паласа.

*10 мая, чацвер*

* Вялікі Дземенец [возера] (яліны змрочныя ў вадзе). Даўгій Дземенец, човен, дрэва ў люстэрку вады. Каля зямлянкі Лабанка Шчыглоў — дырэктар ільнозавода.

Старая расказвае і плача. За банькай расстралялі. Яны ішлі, галоўкі паўскідвалі. Пасля блакады прыйшлі — яны ляжалі. Роўба Арына Архіпаўна. Роўба Іван Пятровіч, меншы сын. Адзін брат тут [загінуў], другі пад Масквой.

*Забораўна — для смерці ворыўна*[1]. Заворваюць гарод, садзяць бульбу. А ямы такія, што хлеб хавалі, гатовыя, туды і закапвалі [забітых]. Нейкія людзі хадзілі, можа, якія паходнікі.

Ярмош Аляксандра Ігнатаўна (у палоску кофта, веселаватая). «Камянямі абклалі, каб не абáрваць».

Ярмош Марыя Антонаўна. У яе на гародзе [хавалі]. «Каб ужо хоць не пахалі».

Крыж пахілены, прывязаны да бярозы, як Хрыстос, прыкручаны белым дротам да бярозы. Вярнуліся адны жанчыны, мужчын не было. Закапалі дзе каго. [Немцы] Штабель наклалі раненых і пакалолі штыкамі.

Правадніком быў у прарыве (каля плоту Ярмош Сяргей Дзмітравіч), інвалід ВА вайны.

Рукі ў кішэнях, у пінжаку, у шапцы, з цыгарэтай — Ярмош Фёдар Міхайлавіч.

Каля паштовай скрынкі Ярмош Аляксей Якаўлевіч. «Прымака вечарам курам ногі памыць павінен».

Сержаноўскі аэрадром. Тут выпраўляецца ў дарогу рэчка Ушачка. Вёскі Наваселле і Паўвіркі ў адно наваселле.

Другі канец Вечалля. Прымкнёны затоплены човен за адну алешыну, другая згрызена бабрамі. Нібы хацелі праплыць на чаўне.

«Каб паміралі, калі пара́». Дзмітрыеў Мікалай (трое дзяцей, жонка Люда). Законнікаву С.

Ягадкі (спаленая вёска, але адноўленая), каля Гарбаціц, каля Глыбачан.

Марыя Рыгораўна [Трафімава]: «Высокая баравіна каля Мар'іна моху. Ласіная яма, дзе ласі валяліся, Быкоў ручай, я ж там усе лясы выхадзіла».

*11 мая, пятніца*

* Былая касірка, кіпа білетаў: «Ай, як ты асівеў!»

---

[1] Гл.: Забораўна ([1986]) // Маўчанне перуна. С. 222.

Мурагі, Аралля[1] (30 чалавек [спалена]), Тухоціна (205), Асавіна (40 чалавек), Бабовішча (515 чалавек) — спаленыя вёскі і ў Хатыні занесены. Бабовішча ўзноўлена з попелу.

РК КПБ. Гірсá. Званкі. «Як сяўба, як выпасы?»

Леў Рыгоравіч [Міхайлаў] шафёру рэдакцыйнаму:

— Дзе Аралля, ведаеш?

— Не.

— Мы туды, дзе сеюць і аруць.

Леанід Мікалаевіч Усцінаў — рэдакцыйны шафёр (доўга пытаўся — чый, глянуў — увесь па маці).

Вёска *Капылоўшчына.* Штаб брыгады імя Кароткіна (камбрыг Талаквадзе).

Леў Рыгоравіч [гаворыць] бабцы:

— Аддай пранік у музей. Ён збіўся.

— А чым жа мыць, пратаць чым?

Хата з вуллямі, дзе [спыняўся] камбрыг Талаквадзе (які не еў клёцак). Лазня, адкуль выскокваў галазадым [камбрыг, як немцы насунуліся]. З лесу ездзіў у прыцемку, зірнуў на камяні: «О, дык у вас авец яшчэ многа».

Ліцвін Мікалай Адамавіч, аграном саўгаса «Кублічы». Паказвае спаленыя вёскі, расказвае.

— Як — Ралля ці Аралля?

— Яно гавораць Аралля, а пішуць — Ралля.

Вёска *Аралля* — зарослая былая вуліца, зараз лясная дарога. Толькі кулакі падмуроўкі. Колькі сухіх яблынь здзічэлых і груш. Яны баяцца зацвісці. Каровы. Гарбалыскі і Гвядоні, Буроні. Пастух з сабакам. Журботная сястра Хатыні. Абнесены камнямі курганок, дзе, відаць, стаялі крыжы. Леў Рыгоравіч удакладняе, дзе былі *ростанькі* (ушацкае слова). Пастух з сабакам. Сабака малады, кароў не пасець, болі на птушак брэшаць. Шах Ягор Мінавіч, пастух саўгаса «Кублічы».

Май. Сонца свеціць, але вельмі золка, не затулена хатамі. Золка ад жудасці. Ад успамінаў, ад не ачахлага жаху. Сагнутая вярбінка, атожылкі асмельваюцца зазелянець. На хацішчы наступаюць кусткі ядленцу, як перакаці-поле. Як маладыя языкі полымя.

Карова са статку б'е рагамі ў кола «казла» рэдакцыйнага. Падсохлы ядленец, як ачахлае полымя. Камяні падмурку — валуны. З лесу дзікі паўзаралі поле. Карова чэша рог аб куст ядлоўца, шыю, лоб, прыхаро-

[1] Гл.: Былая вёска Аралля ([1982]) // Амплітуда смеласці. С. 18.

шваецца. Беразнячок здалёк саромеецца сваёй светлізны, каб не развеіць смутку. Як першапраходзец, смялее зязюльчын мох. Смутныя крушні падмурку.

Валянцін [Ждановіч]: «Ядловец садзяць на магілах, а ён сам вырас».

Падмурак. Камень паскіпаўся ад агню (нібы яго награвалі, каб раскалоць). Леташні дзядоўнік з дзядамі. У правaліне, былой яме, як форма будовы атама. Беларуская сухая вярбіна. Адстала кара. Нібыта яна раскідвала рукі, хацела адвесці пажар і бяду, і так усохла. Лясее — на камянях разводы моху акварэльныя. Ледавік пакінуў камяні скрозь, а тут хоча зямля назад забраць. Курганкі зязюльчынага моху цвітуць. І страшна арганна курганна крумкаюць крумкачы. Аралля — 13 двароў. На ўвесь голас не асмельваюцца запяяць жаўранкі. Некалькі маладых сасёнак як бы складаюць пальцы, вучацца скласці пальцы, каб пераксціцца. Хоць маладыя бязбожнікі.

Наш праваднік Мікалай Адамавіч у Лабанка ў Пуцілкавічах хадзіў за зброяй праз Суражскія вароты. Вёска Асавíна. Двароў 9–10. Мікалай Адамавіч: «Тут кучна вёска была, усё ў зелені было. 40 жыхароў». Мемарыяльная дошка, як пахілены комін з белай цэглы, дошка як абпаленая. Далей шуміць лес. Жаліцца кнігаўка. Выпаленае дупло ў ліпіне старой, маланкай абвуглена, чорная, а з ёй бяроза падкрэслівае чарнату. Хацішча рухнула, дрэва струхлела. Камень заціснуты ў руцэ дрэва ў адчаі. Як пабелены комін, бярозка. Чорныя камяні. Не чакае прырода, калі прывязуць жалобны граніт.

Былая студня на балацявіне (нядаўна ўляцеў лось). Тумановым прыцемкам ішлі па ваду. Веснавая сцежка халадзіла ногі. Не ахаладзіла, калі палілі. Яна стала большая, як студня слёз, засохлыя рукі алешын. Унізе лазінка, коцік, як залаты чмель, цягнецца напіцца. Купкі акусцелых ліпін, як з агню, яшчэ не зялёныя.

Возера Уклеіна, як [неразб. 1] уклееца. Конь пад сядлом гарцуе. Пастух ідзе і сабака, конь адварачвае кароў, пасець. Пастух на кані саўгаса «Кублічы» Жыжанаў Васіль Іванавіч.

Мікалай Адамавіч вазіў зямлю ў Хатынь. Коней трымае, конь самы калгаснік. Самі калгаснікі коней трымаюць падушна, а калгас не трымае.

Каля Баб’і гары я кажу: «Сонца». Эдуард Паўлавіч Сарокін: «Гэта ад пяску светла».

*Вялікія Дольцы*, едзем да млына. Кнігаўка кідаецца на варону (на баране гняздо). Млын. Сіняе возера. Злосна-белая пена плаціны. Пад плацінай на сценцы: «1961, хто работал, низнаю, а я дурак читаю». Сцяна млына, у камянёў зморшчаныя шчокі, адзін на адзін ціснуць. Млын 1927–1928 гг.

Вёска *Замошша* Вялікадалецкага сельсавета, рэчка Ушача, застаў, на ёй млын. Цікавая кладка бёрнаў. Дровы пад сценкамі, як скрылі мёду ў сотах.

Пасёлак *Мірны* (лясгас). Возера і вёска *Вечча.* Мазаіка рэзаных дроў. Леў Рыгоравіч: «Як пахне хлеб». Немцы. Партызанскія сем'і. Лагер. Зімой рэзалі дровы і везлі ў хлебапякарню. Дзед ззаду саней: «Дыхайце хлебам».

Немец вынес белага, за пазухай [нёс], прыліп да цела. Каршун схапіў курыцу. Бег, прасіў аддаць. Паўкіламетра аднёс і кінуў. Валлё бабка зашыла, і жыла курыца.

Антуноўскі лес. Магілкі з зорачкамі. Вёска *Пуцілкавічы.* Крыніцы. Пасека. [Дваюрадная] Сястра [Броўкі] Настасся: «Хай прыязджае Пятрусь. Сумна неяк».

Ушача-рэчка ад Броўкі пачынаецца. Пуцілкавічы. Вярба ў камянях на раллі.

Леў Рыгоравіч адкрывае папкі, там фота помнікаў. Мемарыяльных дошак. Там ягоныя накіды праектаў помніка і Надзі Касцючэнкі (бо ў мастацкім камбінаце халтуры), і новы на месцы дома маці Броўкі. Пастараліся ўсе, дзе можна, адліць дошкі, а там, дзе курган, дзе фігура.

Мікалай Адамавіч расказвае пра блакаду. Нехта крыкнуў: «Паравоз!» Пакуль апомніліся, што паравоз па кустах не ходзіць. Райрадыё: «Пастухамі выбраны сумленныя людзі». Спортнавіны: «З перамогай нашых хлопцаў».

[Адрас:] Гурьева Тамара Ивановна.

*** [Запіс 90-х гг.:] Пры саветах. Міхайлаў, які [загадваў] культурай у Вушачах. У Мінску нешта трэба [было дастаць]. У нейкім міністэрстве фіфачка: «А ў вас блокі ёсць?» — «Ёсць жалезабетонныя». (Якраз «Прарыў» рамантавалі.) Кіслая морда. Блокі — гэта падпіска на шматтомнікі.

*12 мая, субота*

Марыя Рыгораўна [Трафімава] скваркі сабіраець у дарогу: «Во гэты гладзейшыя» (тлусцейшыя).

*13 мая, нядзеля*

У *Вязынцы* злёт студэнтаў.

*14 мая, панядзелак*

На працу. У Галоўліт (Панчанка).

У Літфонд (наконт Бурсава).

*15 мая, аўторак*

Праца. Звон Кісліку, Спрынчану, Панчанку.

*Галіне Фатыхавай*

Мне б рыфмай самай палкаю
Ашаламіць Шувалкіну[1],
Радок крычыць задыхана:
Няхай жыве Фатыхава!
Хай зло ўсё стане глінаю
І тлом перад Галінаю!

*16 мая, серада*

Купіць білеты на Маскву. Звон Ждановічу (фота).

*17 мая, чацвер*

Праца. Звон Лужаніну. Да Дракахруста[2] (забраць сачыненні). Хелемскі Я. А. [гас. «Мінск»].

*18 мая, пятніца*

8.00 — Яўменаву звон, Зуёнку, Ждановічу. 11.00 — Лужанін (пытанні том[3]).

Кісліку, Шумакову. Хелемскі (абед).

*19 мая, субота*

Артыкул для «Маладосці».

Праводзіны Хелемскага.

*20 мая, надзеля*

Кніжку Лабанка праштудзіраваць.

Праводзіны Л. А. Озерава[4].

Маёр Пісарук Фёдар Фёдаравіч 39-21-68 (рабочы), 21-93-37 (хата). Мікола Гайдук[5], [гас.] «Юбілейная», № 517.

---

[1] Шувалкіна Г. А. (дзявоч. Фатыхава), навук. рэдактар рэдакцыі геаграфіі і геалогіі выд-ва «БелСЭ».

[2] Дракахруст Аляксандр Абрамавіч (1923–2008), рускі паэт, перакладчык.

[3] Лужанін М. Выбраныя творы: У 4-х т. Т. 1. Мінск, 1979.

[4] Озераў Леў Адольфавіч (сапр. Гольдберг; 1914–1996), рускі паэт, перакладчык. Заслужаны дзеяч мастацтваў РСФСР. Заслужаны дзеяч мастацтваў ЛітССР (1980).

[5] Гайдук Мікола (Мікалай Раманавіч; 1933–1998), беларускі паэт, публіцыст, краязнавец, фалькларыст, перакладчык (Польшча). Заслужаны дзеяч культуры Польшчы (1986).

*21 мая, панядзелак*

На працу. Артыкул пра Ушачы. Звон Зуёнку.

16.00 — Уфа. Тэле (тав. Смех). Мікола Гайдук.

*22 мая, аўторак*

Праца. Артыкул у «Маладосць». Аблваенкамат (Ждановіч). Пілар Рыёха (Мексіка).

*** [На вокладцы нататніка з паметай 22.V.79 малюнак «Вова сумуе без нас»].

У. Караткевіч напісаў на этыкетцы з-пад «Сталічнай»:

А за тым краем,
Як за тым раем
Цяжка ўздыхаем
І плачам.
Яшчэ раз,
Яшчэ раз,
Яшчэ раз убачым.
Бойся, ўрад,
Бойся, кат,
Яшчэ раз убачым.
Яшчэ раз,
Яшчэ раз
Вернемся,
Убачым.

[Аўтограф вершаў М. Наталіч[1] «Бродят слова, как уставшие кони…», «Утро раннее. Прозрачно и светло…», упісаныя ў блакнот па просьбе Рыгора Іванавіча.]

*23 мая, серада*

11.00 — да Элькінда[2] (білеты). ГУМ. Званок у ваенкамат (Ждановіч). 22.32 — на Маскву.

---

[1] Наталіч Марына (сапр. Давыдзенка Наталля Аляксееўна; н. 1950), руская і беларуская паэтэса і празаік. У 1974–1980 гг. карэктар, у 1980–1984 гг. мал. рэдактар рэдакцыі крытыкі, літаратуразнаўства і драматургіі выд-ва «Мастацкая літаратура». Гл.: Марына Наталіч (07.2004) // Дуліна ад Барадуліна. С. 58.

[2] Элькінд Сямён Саламонавіч, супрацоўнік СП БССР.

*24 мая, чацвер*

*[Масква.]* Бегавая, 17. Звон Хелемскаму. Але Максімаўне [Марчанка]. Кошалю[1]. *Івана-Франкоўск*, гатэль «Украіна».

* Аэрапорт. Гасцініца «Украіна». Паход маленькі па гораду. Ва ўтульненькім магазіне штопары і вышыванкі — 147 рублёў.

Ахмедхан[2] расказвае пра барана, які на старыя грошы 100 [руб. каштаваў], на новыя —150 рублёў.

Ансамбль танца загнаў у Японіі буркі (відыямагнітафон і яшчэ транзістар), той думаў шмат. А загналі ўсе артысты. Бо шмат поўсці, шмат воўны, з якой зробяць потым чыстую шэрсць, з сінтэтыкай прададуць.

*25 мая, пятніца*

* Гасцініца. Буфет багаты. Добра гатуюць каву.

Ускладанне вянкоў. Брацкі магільнік, мемарыял. Помнік Маці-жалоба з двума дзецьмі. Хор пяе, да слёз балючую, пранізлівую «Стэпом, стэпом…»

Абком. У вобласці жыве 1 млн 333 [тыс.] чалавек. 36 % — горад, астатнія — сёлы. Нафта, прыродны газ. Калійныя солі. Багацце — лес. Карысны адзіны край, дзе бук на мэблю [ідзе].

Галіцкае княства. 1224 г. — паўстанне супроць венграў. Ноўгарадскі князь Яраслаў Удалой[3], выжалі венграў, і Яраслаў князем [быў] 14 год.

Май 1915 года, Марыя Ільінічна Ульянава[4], Серафімовіч[5], дзейнічаў Васілій Іванавіч Чапаеў[6], за фарсіраванне [атрымаў] Георгія[7] за храбрасць. У 1920 г. Галіцкая Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка абвешчана. 224 тысячы грамадзян знішчылі ў [Вялікую Айчынную] вайну, 64 тысячы вывезена ў Нямеччыну.

У 1938 годзе ў ваяводстве Станіслаўскім — 80 % рабочых не мелі працы. Большасць не ведалі, што такое хлеб. Адсюль і эміграцыя.

---

[1] Кошаль Пётр Агеевіч (н. 1946), рускі паэт, перакладчык; студэнт Літаратурнага інстытута імя М. Горкага.

[2] Магчыма, Абу-Бакар Ахмедхан (сапр. Абакараў Ахмедхан; 1931–1991), даргінскі пісьменнік, публіцыст, сцэнарыст (Дагестанская АССР).

[3] У сапраўднасці, Мсціслаў Мсціслававіч Удалой (?–1228), запрошаны наўгародскі князь, князь галіцкі (1219–1227), у 1221 г. выгнаў з Галіцкага княства венгерскіх феадалаў.

[4] Ульянава Марыя Ільінічна (1878–1937), савецкі дзяржаўны дзеяч. Сястра У. Леніна.

[5] Серафімовіч Аляксандр Серафімавіч (сапр. Папоў; 1863–1949), рускі пісьменнік. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1943).

[6] Чапаеў Васілій Іванавіч (1887–1919), герой Грамадзянскай вайны ў Расіі (1918–1920), чырвоны камандзір дывізіі.

[7] Расійскі ордэн св. Георгія (з 1769; як воінская ўзнагарода афіцэраў і генералаў, з 1807 — салдат і унтэр-афіцэраў), з 1913 — Георгіеўскі крыж.

721 т. школ, 200 тыс. дзяцей. З 100 тыс. чалавек 84 чал. актыўныя ўдзельнікі мастацкай самадзейнасці.

Музей. Кій ведзьмара для адхілення буры.

Мэблевая фабрыка. Заходнегерманскі канвеер — дакладна падклейваецца, рэжацца. Бытоўкі пустыя.

Танец сексапаталагічны. И девочки рухавыя в глазах. Беспадобныя малыя гуцуляняты.

*26 мая, субота*

* Раніцай магільнік. Шмат скляпоў ускрыта золаташукальнікамі. На алеі збітыя крыжы польскіх салдат (14 г., 20 г.). Частку [магільніка] зносяць. Былы мэр вымушаны сваю жонку [магілу] перанесці. Зараз ён на пенсіі жыве не ў Станіславе.

Калі ў Азіі здымаются фільмы, на ролю басмачэй туркменаў бяруць.

Дарога ў *[г.] Далíна*. Цыганы двухпавярховыя дамы будуюць. Шафёр расказвае, што цыган запражэ каня, фургон. Каля ракі пераначуе і раніцай — дамоў.

Газ. Лесаапрацоўка. Солекамбінат. Сельская гаспадарка слабей. Асадкаў не менш як у субтропіках, але мала сонца і холад. Лён да 1000 руб. калгас [вырошчвае]. Не ўсе круглы год калгаснікі заняты. 7520 метраў шчыліна. Раней заняты мужчыны — лес, 50 тыс. нафтавікоў, жанчын загрузілі мясцовай прамысловасцю — швейная, мэблевая. Нафты мала, таму мужчыны засталіся не загружаны. Прырост насялення на раён — 2,5 і 2,7.

Былое Галіцка-Валынскае княства. Даліна ўпамінаецца ў ІІ пал. Х ст. у сувязі з дабычай солі. Уніяцкая царква моцная яшчэ.

Прафесіянальных калектываў няма, ёсць самадзейныя, — шкада, што многія зараз на гастролях. Шмат народных калектываў.

Больш трэці лясоў запаведныя. Невынішчальнасць фарбаў. Калыба — аснова будана гуцула. Рака Свяча [Свіча]. Яліцы і смэрэкі. Абрысы Карпат. Зоркі. Зубы і рот пажадныя. Каралі на шыі. І каламыйкі. Скрыпсы[1] [напісаныя] левай рукой.

*27 мая, нядзеля*

*Скалы Доўбуша[2]. Пластыка каменю. Студня. Сасна на скале. Яраслаў Пятровіч Федарчук. Увесь час хвалюецца за дождж: «Тры дажджы ў маю, а йшчэ кришку мраки и голова до с....»

Стрыманасць, скручанасць пружыны — такія рухі танцаў.

---

[1] Скрыпсы — лісты, запісы (ад лац. scriptum — тэкст).

[2] Доўбуш Алекса Васільевіч (1700–1745), кіраўнік нацыянальна-вызваленчага руху карпацкіх апрышкаў.

*** [Без даты:] Сын старшыні калгаса на Украіне, натуральна, быў распешчаны й распушчаны. Аднойчы нават падпіліў слупкі, на якіх трываліўся ганак, каб бацька грымнуўся. Шукаў сабе забаву.

*28 мая, панядзелак*

* *г. Надворная.* Надворненскі раён. Кафэ «Берізка», тры бярозкі пад вакном і навокал. Па дарозе. Новы дом шматпавярховы, а ўнізе першы паверх гаражы. Ласі з Беларусі. 110 пар ужо ў раёне ідуць. Недалёка знаходзіцца цэнтр Еўропы.

У Дзяляціне водаправод, аквінкум[1], равеснік рымскага, драўляны, абруч з чыстага жалеза, не ржавее.

*г. Ярэмча*. Вітае дзяўчына і заканчвае па-гуцульску: «Хай вам буде файно». На пліце каля помніка: «Партизаны Сумского партизанского соединения под командованием дважды Героя Советского союза С. А. Ковпака[2] и Героя Советского Союза С. В. Руднева[3], погибшие в период Карпатского рейда». Помнік партызану, які нібы рассунуў цясніны Карпат (нечым блізкі «Прарыву» каля Ушач). Словы Варанько[4] ў бронзе.

У Музеі партызанскай славы. Піянерскі ўрачысты збор, рапарт Варанько і потым гальштук [павязваюць], прымаюць у піянеры. Камень Доўбуша, на мезенцы прынёс і паклаў, і там ўнізе партрэт ягоны. Хто хоча паглядзець, падымець камень. [Вяршыня] Гаверла. Прут (легенда). Курная колиба. «Ярэмча» — турбаза ў 1969–1970 гг. пабудавана як бы даўняя.

[Адрас:] Байляк Василий Николаевич (Надворная, редакция; зборнік гумару даслаць).

*29 мая, аўторак*

9.00 — УАП[5] «Абсяг»[6] 2 экз. [Папярэдняя паметка.]

*Абком. Бабка прадавала старую хаціну для музея. Спачатку за мех мукі, потым [за] два. Урэшце запрасіла 5 тысяч. (А калгас будаваў ёй новую.)

---

[1] Дакладней, акведук — водаправод. (Аквінк — назва старажытнарымскай крэпасці на тэрыторыі сучаснага Будапешта.)

[2] Каўпак Сідар Арцем’евіч (1887–1967), савецкі дзяржаўны дзеяч. Герой Савецкага Саюза (1942, 1944). Генерал-маёр (1943). Камандзір Сумскага партызанскага аб’яднання.

[3] Руднеў Сямён Васільевіч (1899–1943), адзін з кіраўнікоў партызанскага руху. Генерал-маёр. Герой Савецкага Саюза (1944).

[4] Варанько Платон Мікітавіч (1913–1988), украінскі паэт. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1951), Рэспубліканскай камсамольскай прэміі імя М. Астроўскага (1962), Дзяржаўнай прэміі УССР імя Т. Г. Шаўчэнка (1972), прэміі імя Лесі Украінкі ( (1976).

[5] УААП — Усесаюзнае агенцтва па аўтарскіх правах.

[6] Барадулін Р. Абсяг. Мінск, 1978.

Сустрэча з журналістамі. Прыборабудаўнічы завод. Спачатку газавыя лічыльнікі, глыбінныя прыборы. Прыборы другога пакалення (і электроніка). 5 тыс. чалавек (палова па ўзросту 18–25 год). 48 млн рублёў таварнай прадукцыі.

Сярэдняя сястра — Беларусь, малодшая — Латвія, — сказала ў прывітанні дзяўчына.

г. Івана-Франкоўск. Перагаворная станцыя: «Бэндэры, Кіеў, Ужгарад, Будапешт 5-я кабіна».

[Адрас:] Павличко[1] Дмитро (Київ, Хрещатик; даслаць пяцітомнік Я. Купалы).

*** В президиум [запіска]: «Известно, что Рыгор Бородулин на Украине бывал много раз. Его переводили. Но интересно, чтобы он прочёл на родном языке свой любимый стих».

Мартын Наг[2] (Нарвегія): «Пісаць — гэта справа кожны раз аднолькавая, але кожны раз новыя перагаворы з жыццём».

*30 мая, серада*

Яшу [Серперу] дзень нараджэння.

*31 мая, чацвер*

* *Масква.* [Аэрапорт] Унукава. Пасадка ў самалёт. Страшэнна многа глуханямых. Славенка з наборам маніст з манет на шыі (расшыраныя вочы), азіяты.

Многа рухаў гегемоністасці і мільярдны разрэз вачэй. Інтэрнацыяналісты маўклівыя.

*4 чэрвеня, панядзелак*

Да Яшы [Серпера] (Быкаву лекі). 14.00 — да Броўкі, у «Бярозку» верш, песню.

* Анастасся Юльянаўна Пярэдня[3], стрыечная сястра; маці Броўкі і яе бацька родныя брат і сястра. Малы Пятрусь ўбачыў дзядзьку Юльяна і закрычаў: «Я цябе па мордзе пазнаў!»

*** *Празрыстая і гнуткая мелодыя душы.*

Горад трымаўся думкамі, вёска жыла з мазаля[4].

---

[1] Паўлычка Дзмітро (Дзмітрый Васільевіч; н. 1929), украінскі паэт, перакладчык, крытык, палітычны дзеяч, дыпламат. Лаўрэат Рэспубліканскай камсамольскай прэміі імя М. Астроўскага (1961), Дзяржаўнай прэміі УССР імя Т. Г. Шаўчэнкі (1977). Герой Украіны (2004).

[2] Наг Марцін Гунар (1927–2015), нарвежскі паэт, крытык, перакладчык, літаратуразнавец-славіст.

[3] Гл.: Юльянішка ([1986]) // Маўчанне перуна. С. 138.

[4] Гл.: «Клопат прыспешваў...» ([1982]) // Амплітуда смеласці. С. 43.

*5 чэрвеня, аўторак*

Яўменаву звон. 9.00 — у АН «Абсяг». Дагавор з Броўкам. 19.00 — «Гамлет»[1] (на Таганку).

*6 чэрвеня, серада*

У «Маладосць», у «Бярозку». СП. Тацяна Кузьмінічна [Іваніцкая].

*** Лубянкова Лідзія Лявонцьеўна 29-32-23 (гістпарт; даведка пра бацьку партызанская).

Бальчэўская[2] Галіна 66-73-11. вул. Валгаградская, д. 61, кв. 29.

Конанаў Гаўрыіл Міхайлавіч, нам. Паўлава[3].

*7 чэрвеня, чацвер*

12.00 — да Петруся Усцінавіча [Броўкі], у «Маладосць», у «Беларусь».

*8 чэрвеня, пятніца*

Школа (Ілона[4]). Праца. Камароўка. Звон Аўрамчыку, Ждановічу, Рэму [Нікіфаровічу].

*9 чэрвеня, субота*

Звон Рэму [Нікіфаровічу] (карэктура). 8.00 — у аэрапорт, на Полацк, Ушача. Могілкі.

* [*п. Ушачы.* М. Р. Трафімава]: цягаюць кацёнка, ён ужо чуць клеваіць.

Выпетралыя на сівярах, складзеныя ў кастры і грады [дровы]. У мароз, як мёд з сотамі, агонь будзе смактаць[5].

Калі памірае пчаляр, раі пакідаюць хату.

[Адрас:] Магілёўская воб., Слаўгарадскі раён, Гайшынская сельская бібліятэка. Васількоў Васіль Фядотавіч (кніжку паслаць).

---

[1] Спектакль па п’есе У. Шэкспіра Маскоўскага тэатра драмы і камедыі на Таганцы. Гал. рэжысёр тэатра Ю. Любімаў (1964–1984). *Любімаў* Юрый Пятровіч (1917–2014), рускі рэжысёр і акцёр. Заслужаны артыст РСФСР (1954). Народны артыст РСФСР (1992). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1952), Дзяржаўнай прэміі РФ (1997).

[2] Бальчэўская Галіна Фёдараўна (1945–2005), беларуская актрыса. З 1972 г. актрыса Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы. Заслужаная артыстка Беларусі (1999).

[3] Паўлаў Савелій Яфімавіч (н.1934), сакратар ЦК КПБ па ідэалогіі.

[4] Барадуліна Ілона Рыгораўна (н. 1962), дачка; мастачка. Гл.: «Ганіце сум з ілбоў...» (7.08.78) // Вечалле. С. 163.

[5] Гл.: Дровы (17.05.82) // Амплітуда смеласці. С. 45.

*10 чэрвеня, нядзеля*

Маме[1] — 70 гадоў. На магільнік. Зоя Канстанцінаўна[2], 55 год.

[Без даты:] Мама ў бальніцы запісвала мне вясёлую песню.

*11 чэрвеня, панядзелак*

5.00 — ад'езд на Мінск. Звон Та́расу. Праца. Юбілей Авяр'яна[3].

* Па дарозе ў Мінск расказвае Іван Сцяпанавіч Роўба: «У ноч з 3 на 4 мая 1944 года. Вёска Забораўна. Узвод немцаў. Страляюць па лесе. Лес маўчыць, хоць усім мясцовым вядома — там партызаны. Немцы расстрэльваюць усіх мужчын, пачынаючы з 14-ці гадоў. Суседскага хлопчыка падстрэлілі, сябра Іванавага, ён уцякае і точыцца ў стажок саломы. Адзін немец выцягвае малога, другі тут жа расстрэльвае.

Закасаныя рукавы карнікаў. Немцы ідуць спакойна ў лес. Пераходзяць кладку (са склепа відаць). Немцы на паляне. І тут страляніна разрывае наваколле. Некалькі немцаў уцалела. (Пасля ўсе забітыя немцы [ляжалі] ў позах рачком, галава ў зямлю). Партызаны ў вёску. Выпускаюць падлеткаў і старых, якіх запёрлі карнікі ў хляве.

Зноў немцы — падмацаванне. Немец прычапіўся да найменшага браціка (з 1943 года): «Партызан!» Маці пад сябе [падграбае], як куранят. У склепе. Страляніна. Сярэдні просіцца: «Мама, пусці, я паслухаю шпакоў»[4], — (гэта пад вуглом стаяў кулямёт — цэлая груда гільзаў яшчэ не астылых валялася).

Партызанка параненая ўзяла на рукі малога, тым і ўратавалася. Пагналі ў Качаны (мы разам, выходзіць, былі, — [заўвага Рыгора Іванавіча]). Маці знайшла бацьку ўчарнелага ўжо, калі блакада адышла, калі вярнуліся ў вёску назад».

*12 чэрвеня, аўторак*

Праца. 12.00 — «ЛіМ» 2 старонкі. Пахаванне Івана Калесніка[5]. Карэктура [ў] «Маладосці».

---

[1] Барадуліна Акуліна Андрэеўна (1909–1971). Гл.: Вогнепаклонніца (24.10.79, Бараўляны, бальніца), «Мама, я пастарэў без цябе...» (28.10.79) // Вечалле. С. 7, 17; У адкрытым космасе (28.12.79, Гавана) // Самота паломніцтва. Мінск, 1990. С. 62; І шчырасць іхняя, і ласка... (1982) // Парастак радка, галінка верша. С. 135.

[2] Касцючэнка З. К., суседка ва Ушачах.

[3] Дзеружынскі Авяр'ян Сафонавіч (1919–2002), беларускі паэт. У 1972–1981 гг. рэдактар выд-ва «Мастацкая літаратура».

[4] Гл.: « — Мама, я паслухаю шпакоў...» (19.05.82) // Амплітуда смеласці. С. 19.

[5] Калеснік Іван Іванавіч (1932–1979), беларускі паэт, перакладчык. У 1972–1979 гг. рэдактар рэдакцыі паэзіі выд-ва «Мастацкая літаратура». Гл.: Ён вёсны будзіў (1981) // Парастак радка, галінка верша. С. 112.

*13 чэрвеня, серада*

Праўленыя вершы — Тулупава[1]. Яшу [Серперу] — адрас [Анатоля] Емяльянава. Да Яшы па лекі.

*14 чэрвеня, чацвер*

На працу. Звон Аўрамчыку. 10.00 — Галоўпаштамт (сустрэча з Някляевым[2]). Жак[3], Вазнясенскі. 13.00 — да Петруся Усцінавіча [Броўкі]. 14.00 — Ленінская бібліятэка.

*15 чэрвеня, пятніца*

Да дырэктара. 10.30 — па білеты ў СП. 11.00 — Слава Казакевіч.

*19 чэрвеня, аўторак*

Дзень нараджэння Васіля Быкава.

* Редакция журнала «Советская литература» на иностранных языках. Отдел художественной литературы. Ивановская Ариадна Александровна.

*Алма-Ата* [19–25 чэрвеня Усесаюзная творчая канферэнцыя, прысвечаная 25-годдзю асваення цаліны].

*Іваноў[4] Іван Іванавіч*, першацалiннiк, Герой Сацыялістычнай Працы, без ног з вайны, на пратэзах, камбайнёр: «У мяне з казахскай зямлёй даўняя і моцная ўзаемнасць».

*Іосіф Нанешвілі[5]*: «Мы дзелім чалавецтва на дзве часткі: хто быў у Грузіі і хто не быў».

*Aziz[6]* у Баку: «Мы ездзім да вас праз парыжскія вароты, а вы праз маскоўскія».

*Жэня Янішчыц[7]* чытае Стэфану Паптоневу балгарскія вершы. Стэфан толькі папраўляе націскі. У Стэфана Паптонева ў новай кнізе эсэ ёсць мясціна пра Ушаччыну.

---

[1] Тулупава Нэлі Іванаўна (Лісоўская; 1938–2001), беларуская паэтэса. У 1979–1988 гг. ст. рэдактар выд-ва «Мастацкая літаратура».

[2] Някляеў Уладзімір Пракопавіч (н. 1946), беларускі паэт, празаік, эсэіст, грамадскі дзеяч. У 1978–1987 гг. ст. рэдактар Галоўнай рэдакцыі літаратурна-драматычных праграм Беларускага тэлебачання. Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1979), Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1998).

[3] Жак Віктар Герасімавіч (1931–1998), дэкан інжынерна-педагагічнага факультэта Беларускага політэхнічнага інстытута. Кандыдат педагагічных навук. Сябар А. Вазнясенскага.

[4] Іваноў Іван Іванавіч (1922–1992), Герой Сацыялістычнай Працы (1972).

[5] Нанешвілі Іосіф Эліозавіч (1918–1980), грузінскі паэт.

[6] Азіз Нэсін (сапр. Махмуд Нусрэт; 1915–1995), турэцкі пісьменнік-сатырык.

[7] Янішчыц Яўгенія Іосіфаўна (1948–1988), беларуская паэтэса. У 1976–1983 гг. літкансультант «Сельскай газеты». Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1978), Дзяржаўнай прэміі БССР імя Янкі Купалы (1986).

[Пазнейшы запіс паводле накіда 2-х першых радкоў:]

У барана чалавечыя вочы,
Адно галава барановая.
Не вельмі часта,
Не надта ахвоча
З нас кожны з іншым
Сябе параўноўвае.

*Спякотным чэрвенем перад дажджом ластавак голас.*
Струмень калонкі хапае ў рот за ноч прымлелая дама[1].
*Здзіўленыя бровы рымскае пяцёркі.*

*20 чэрвеня, серада*

* *Верчанка*[2] пра раман адзін: «Медлительно-основательный.

Вясковая студня святая, але для вёскі патрэбен і сучасны водаправод. Сімбіёзны жанр прозы, дзе ўсё ўвязана, тут і жанры запісак, падарожных уражанняў. Культура чалавека ўключае ў сябе эстэтычныя адносіны да працы і да наваколля. Мастацкі дакументалізм падчас псуе і нарыс, і [ў] мастацкай літаратуры вялікі аб'ём дыялогаў. Літполе не ведае севазвароту. Год на год не выпадае. У вершах нацыянальна-генетычная памяць».

*Ананьеў*[3]: «Спыніць ці затрымаць вёску — самазагубства для любога народа. І партыйны работнік — таксама савецкі чалавек».

*Доўжык Міхаіл Ягоравіч* [1928–1998], Герой Сацыялістычнай Працы, механізатар, аўтар кнігі «Упоравень з векам».

Рахмат Файзі[4].

*Гунар Прыедэ*[5]: «Яна мяне кліча».

*Міхаіл Гадэнк*а[6]: «Маргун Фёдар Трахімавіч: «Нараджайце, бабы, буракі пачакаюць». Само жыццё падносіць нам такіх, як Фёдар Маргун. Цаліна нам дала не толькі хлеб. Але і людзей».

Парпара[7].

---

[1] Гл.: Душная раніца (4.11.79, Бараўляны, бальніца) // Вечалле. С. 75.

[2] Верчанка Юрый Мікалаевіч (1930–1994), першы сакратар праўлення СП СССР (да 1991).

[3] Ананьеў Анатолій Андрэевіч (1925–2001), рускі празаік, публіцыст. Герой Сацыялістычнай Працы (1984).

[4] Файзі Рахмат (Файзіеў Рахмат Файзіевіч; 1919–1988), узбекскі празаік, кінадраматург. Народны пісьменнік УзбССР (1978).

[5] Прыедэ Гунар (1928–2000), латышскі драматург. Народны пісьменнік ЛатвССР (1988).

[6] Гадэнка Міхаіл Мацвеевіч (н. 1919), рускі паэт, празаік.

[7] Парпара Анатолій Анатольевіч (н. 1940), рускі паэт, драматург, грамадскі дзеяч, педагог. Прафесар. Заслужаны дзеяч культуры РСФСР (1982). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі РСФСР імя М. Горкага (1989).

*Логінаў*[1] (Краснадар): «Мы правялі авечкінскія дні. Авечкін[2] як сакратар парт'ячэйкі станіцы Цімергоеўскай даў хлеб. Уманскай і Палтаўскай станіц няма, няма іх людзей. А Цімергоеўская станіца засталася».

(*Эрэван)*. «[Цераз] 3 тысячы гадоў зерне знойдзена, і паганскія бог з багіняй, значыць, багі жывуць там, дзе хлеб. Клянёмся, паклаўшы руку на хлеб, і праклінаем, паклаўшы руку на хлеб. Часта героям твораў пісьменніка даюць званне Героя Сацпрацы, а пісьменніку не. Бог зямлю за 6 дзён [стварыў], а армяне з каменя зямлю стваралі, з кожнага кв. м вымалі.

Селянін сына паслаў уперад, каб дастаў яйкі, масла, каб пісьменніка пачаставаць. «Жыгулі» стаяць, а няма жывіны. Трэба берагчы малыя цаліны. Мала зямлі. А за вінаград, за віно ўсе залатыя і сярэбраныя медалі далі саюзныя і сусветныя».

*Зоя Кедрына*[3]: «Разгляд казахскай прозы: праблема цаліны і новага ў чалавеку».

*Алесь Савіцкі*. Пра калгас імя М. Сільніцкага. «Не асфальтуй дарогу ў калгасе — уцячэ рэшта. А выйшла наадварот».

Кыма Сар — рэчка — Хто пяройдзе[4]. А рускія — [переназвалі] Камісараўка. Алатау — Пярэстая гара.

Глог цвіце. Белы снег глогу, рачулка Алмаацінка. Куюк Су — заціснуты гарамі ледавік.

*21 чэрвеня, чацвер*

* На Нарынкол. Снежныя кар'еры гор. Я хмару падштурхнуў плячом[5]. Смуга ў гарах, як у зрубах снег. Чый — як кавыль. Джусан — рэзкі пах і моцны. Стомленыя маладзікі і ніцыя ветахі на магільніках над маўзалеямі.

Горад *Нарынкол.* Побач граніца з Кітаем. Зала ўся аднанацыянальная. Яны на сваёй зямлі, ім не ўцякаць, хоць трывожна на граніцы.

*Есенаманаў Шахман*[6]: «У ліку буйнейшых авечкагадоўчых раёнаў. Пачынае асвойвацца бульба». Першы сакратар РК: «Не бойцеся кітайскіх рэвізіяністаў, прыязджайце да нас часцей, на варце нашы пагранічнікі. Наша армія магутная».

---

[1] Логінаў Віктар Мікалаевіч (1925–2012), рускі празаік (г. Краснадар).

[2] Авечкін Валянцін Уладзіміравіч (1904–1968), рускі пісьменнік, нарысіст.

[3] Кедрына Зоя Сяргееўна (1904–1992), рускі крытык, літаратуразнавец.

[4] Гл.: Гаспадыня Медэо (26.10.79, Бараўляны, бальніца) // Вечалле. С. 195.

[5] Гл.: «Я падштурхнуў плячом...» (5.11.79, Бараўляны, бальніца) // Вечалле. С. 202.

[6] Есенаманаў Шахман Зіятханавіч (1935–1980), першы сакратар Нарынкольскага РК.

Адзін франтавік: «Заўтра «Вызваленне Беларусі»[1]. Канун 3 ліпеня — кінаэпапея».

Дырэктар школы Уралбек Шамрханаў. У яго сябра Іван Іванавіч Міхалкевіч, з 1914 года, партызан. Нядаўна прыехаў, гонар партыі. Абедзве дочкі закончылі БДУ імя Леніна. Працаваў шафёрам, паламаў рукі, зараз пасечнікам.

Са сцэны Ленін[2] з казахскім аблiччам. Гэта цікава, што ён у кожным народзе свой, растварыўся, шматаблічыўся. Выступае саліст. Голас ужо мацней, бо горны раён. Руская дзяўчына Марыя Ягорава палюбіла казаха і напісала яму песню-прызнанне на казахскай мове, мелодыя яе ж. Памерла ў 1946 годзе. Выконвае малады хлопец.

У раёне $^{1}/_{2}$ млн авечак. 3-е месца па авечках у рэспубліцы.

Стамлёны арол малады вечарэе каля рэчкі на камянях. Кусцістыя бровы чыя. Раней на 3 гадзіны дзень каля кітайскай граніцы. Рунь пагонаў спакойна рунее.

У юрце іграе на дамбры механізатар калгаса.

*22 чэрвеня, пятніца*

*Джайляу [летняя паша]. Цішыня. Раніцай па-дзіцячы плачуць авечкі[3]. Цяньшаністыя яліны[4]. Цвіце ірыс, каб у арнаменце [адбіцца]. Юрта [абвязана] вяроўкамі, як мерыдыянамі. Канцы прасмолены, як аленія ці казіныя капыткі. *Каб не страшны вам былі ані ворагі, ні госці*.

З 1943 года, Орша, Віцебск, Ботмухамбетов Шатхыслам — 2-ой сакратар РК. Сарджайляу — Галава джайляу, песню сам склаў. Абдыгані Мукашат, шафёр, Алімжанава Куляікан — саўгас «Камунізм», танцавалі.

Паездка ў горы. Паглядзелі [гару] Хантэнгры [Хан-Тэнгры]. *Нябесны рэвізор недалічыць зор.* Да зор падаць рукою. Коўш Мядзведзіцы блізка. Млечны Шлях сцяжынкай утуманелай. Арлы. У гарах птушкі, чабаны і мурашы, толькі не гадзюкі. Можна лётаць, можна лунаць, хадзіць, адно немагчыма — поўзаць[5].

---

[1] Кінаэпапея аб Вялікай Айчыннай вайне (з 5-ці фільмаў) «Вызваленне» (1968–1972) рэжысёра Ю. Озерава па сцэнарыю Ю. Бондарава і А. Курганава. *Озераў* Юрый Мікалаевіч (1921–2001), рускі кінарэжысёр. Народны артыст СССР (1977). Лаўрэат Ленінскай прэміі (1972), Дзяржаўнай прэміі СССР (1982). *Бондараў* Юрый Васільевіч (н. 1924), рускі пісьменнік. Герой Сацыялістычнай Працы (1984). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1977, 1983). *Курганаў* Аскар Іерамеевіч (1907–1997), рускі сцэнарыст.

[2] Ленін Уладзімір Ільіч (сапр. Ульянаў; 1870–1924), расійскі палітычны і дзяржаўны дзеяч, стваральнік сацыял-дэмакратычнай партыі (бальшавікоў) і Савецкай дзяржавы.

[3] Гл.: Джайляу (1.11.79, Бараўляны, бальніца) // Вечалле. С. 196.

[4] Гл.: Цяньшаньская яліна (2.11.79, Бараўляны, бальніца) // Тамсама. С. 212.

[5] Гл.: Вышыня (26.10.79, Бараўляны, бальніца) // Тамсама. С. 205.

Ірыс цвіце, на пялёстках белыя палоскі, як на крылах матылькоў. Здаецца, хоча далучыцца да блакіту, застылыя кроплі блакіту на альпійскіх лугах.

Ільды ў гарах, снежныя полюсы, нібы вясной не ўвесь сышоў снег з часоў зімы ледавіка.

Ахіяр Хакімаў[1], сын палка ў Быхаве, упершыню пазнаёміўся з Максімам Багдановічам[2], папрасіў заспяваць «Зорку Венеру», каля самай Хантэнгры[3] беларуская мова. Рака — ле, Лебасы — Галава ле. Коксай — Зялёная цясніна (ці схіл). Яліны Цянь-Шаня за горнае крыссе [трымаюцца].

Дырэктар саўгаса «Коксай» Даутаў. Стронгу ловяць таптухай, боўткай б'юць, каменем з берага пад карчы. Кіданне чаравікаў, гэта ўзятая прастора, чым далей. Падае конь — кідае далей камчы. Тры разы раніцай мыйся — [калі] спаў з жанчынай. Новы саўгас [арганізаваны] у красавіку мінулага [года], цалінны «Коксай».

Цясніна Кокбель — Зялёны хрыбет, спакойныя схілы, як выпаўнелыя статкі кароў. Белая з гор рэчка Каксайка, пасвяцца каровы. У бок юрты без спраў не скачуць, едуць спакойна. Скачуць ці з радаснай весткай, ці з сумнай.

Бородулин — поэт большой,
Ко всем относится с душой.
Одна печаль: не пьёт ни грамма,
Незыблема его программа.

*22 июня 1979 М. Джангужин [?]*

Як дома, так накрываюць, можна ляжаць. Так можна і звыкнуць да начальства.

У юрце. На дамбры (пра якую чуў ад Джамбула[4]) [ігралі] хлопец, дзяўчына. Дужа рытмічныя песні. Словы ўнутры па гуку рыфмуюцца.

На руках у маладой жанчыны малы з соскай — будучы касманаўт — дужа чорныя вачаняты. Як парасятка з салодкім пятачком. Мама пяе, ён плача, тады бярэ на рукі і працягвае спяваць пад акампанемент[5]. Майстры хлопаюць і яму — трыо.

---

[1] Хакімаў Ахіяр Хасанавіч (1929–2003), башкірскі пісьменнік, крытык, літаратуразнавец, перакладчык. Народны пісьменнік Рэспублікі Башкортастан (2001). Заслужаны работнік культуры РСФСР (1985). Лаўрэат прэміі РСФСР імя М. Горкага.

[2] Багдановіч Максім Адамавіч (1891–1917), беларускі паэт, перакладчык, крытык, літаратуразнавец. Гл.: Блакітная легенда (29.08.81) // Амплітуда смеласці. С. 40.

[3] Гл.: Хантэнгры слухае «Зорку Венеру» (28.10.79, Бараўляны, бальніца) // Вечалле. С. 193.

[4] Джамбул Джабаеў (1845–1945), казахскі паэт-акын. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1941).

[5] Гл.: Пад небам юрты (1.11.79, Бараўляны, бальніца) // Вечалле. С. 206.

Балтагулаў Ізбасар Балтагулавіч, сакратар абкома, бацька быў вядомы акын, і сам пяе і іграе на дамбры. Цяньшаньская яліна, шырока карані па зямлі, далей рукі [?], але трымаецца моцна, на такой камяністай зямлі, дзе вышыня 3,5 тысячы м, толькі ўшырыню разыходзіцца.

*23 чэрвеня, субота*

* Цясніна Сулашыт — Святая вада, павукі на кусце дзікага смуроду. Цясніна неапісваемай прыгажосці. Кыз з калонкі бярэ ваду і з вядра поўнага поіць каня[1], пасека саўгаса «Камунізм».

Клуб. Зафіранены вокны, пасля кожнай фразы хлопаюць. «Мы жывем на граніцы з Кітаем», — хлопаюць. Заатэхнік зазначае: «Сіментальскай пароды гавяда з Беларусі». Выступае настаўніца: «Саўгас перавыканаў [план] па мясу, малаку, воўне, бульбе».

У зімовай хаціне на кашары выразкі з часопісаў — усе азіяты. Адна выразка з [час.] «Огонька», й там славяне з азіяцінкай. Убачыш юрту — заходзь, пачастуюць, не спытаюць, хто ты. Пасля скажы [сам].

Віхор, міні-смерч перабягае дарогу на поўны рост. Са стэпу па асфальту сухавей, нібы віхор верацяна злёгку круціцца, столькі верацёнаў, што можна саткаць саван, каб пахаваць жывое[2].

Дзяўчына, пакуль дзяўчына, — увага, на руках носяць, песні, яна пяе, яна танцуе. Выйшла замуж. Чакае дзіця — яна ў сям'ю пайшла, больш не ў грамадстве.

Нарынкольская пагранзастава, [салдаты] маладзенькія-маладзенькія, брытагаловыя, з чубчыкамі. На вышцы так, [як] на зямлі. У двары пагранзаставы бабка развешвае анучы, навалачкі, ручнікі.

Хантэнгры, як белая юрта, захмар'е. 12.40. Непакораны [?] 79 года. Сярод астатніх белых юрт і фіміам з аблокаў (з абломкаў). Рыжая гара, як піраміда аголеная. Белыя чалы юрт — арнамент: авечка, кабылка з жарабяткам.

Праводзяць Рахмат-ага [Файзі], Муміна[3], Ахіяра [Хакімава] — [дорацць] па нацыянальнаму халату і шапцы, Муміну малінавы, астатнім чорныя (зімнія). Канцэрт на паляне, каля юрты, унізе, белая ад злосці і святла рэчка. Дуэт дзяўчат, спяваюць «Уральскую рябинушку»[4]. Валя Паўлаўна Коласа [ведае?], урач-псіхіятр, пяе Абая[5] па-руску і па-казахску.

---

[1] Гл.: Пад вярбой вада... (2.11.79, Бараўляны, бальніца) // Вечалле. С. 200.

[2] Гл.: Стэпавы краявід (2.11.79, Бараўляны, бальніца) // Тамсама. С. 217.

[3] Канаат Мумін (Канаатаў Муміншо; н. 1932), таджыкскі паэт. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1977).

[4] «Уральская рябинушка», песня Я. Радыгіна на словы М. Піліпенкі. *Радыгін* Яўгеній Паўлавіч (н. 1925), рускі кампазітар. Народны артыст Расіі (1999). Заслужаны дзеяч мастацтваў РСФСР (1973). *Піліпенка* Міхаіл Міхайлавіч (1919–1957), рускі паэт.

[5] Абай Кунанбаеў (1845–1904), казахскі паэт-асветнік.

Баймухамбетаў Шайхыслан, 2-гі сакратар РК Нарынкола. Арипов Рауан, председатель райисполкома Нарынкола. Нарынкольскі раён, калгас імя Калініна, Солтанбеков Хафиз, старшыня.

Верабей адпачывае на маладзічку мазара.

Каркарынская гара, Каркарынскі стэп, Каркарынскі[1] сусветны кірмаш, бо праходзіць Шаўковы шлях!

Молдасанаў Джолсіiт[2]. 11 дзяцей. 6 сыноў, 5 дочак. 36 год чабаном. Дачцэ старэйшай 30 год, 9 год сыну, член Рэвізійнай камісіі ЦК КПСС. Сам назваў сябе без -*аў*. Перадаў прывітанне родным майстрам, каб пяро было вострым, а думка... Прыём у ягонай юрце. Вочы гаспадыні здалёк сочаць за ўсімі, гаспадыняУлтусар — Радзі сына. На зямлі Шаўковага пляху. Шкура мацёрага ваўка, якога сам гаспадар забіў. Гаспадыня пра працу пісьменніка: «Твор пісьменніка хай будзе люстэркам, якое правільна адаб'е жыццё». Праца аратая і пісьменніка, ёй жадаю 15 дзяцей; каб 10 год назад дакладна б выканалі.

На чахле юрты ластаўкі. Дорыць Маркаву[3] халат [?]. Рака Каркара[ла]. Чарачкі з сярэбраным дном.

Кегенскі перавал 14 км. Кыз емщек[4] — Дзявочыя грудкі. Грудак узгоркі кранаюць аблокі. Узлёт бяруць птушкі. Кокпек, цясніна 7 км. Паўсюль арлы. Той не казах, хто не ўмее трымаць дамбры і пасвіць авечак.

*** Прэсны мацярык. *Зялёнае мяса леса.*

*24 чэрвеня, нядзеля*

Ул. Круку дзень нараджэння.

* Алма-Ата. [Адрас:] Ахмедов Сабир[5] (г. Баку); Ісіналіеў[6] Міхаіл Іванавіч.

Ангел-предохранитель. Ногі, як стрэлкі на гадзінніку, *шагістыка (містыка)*, выпростваюць ногі, як стрэлкі ў суставах. На вуліцы пяць указальнікаў са словам «піва», як у бомбасховішча пры такой спякоце.

Тот, кто пьёт «Сарыгач»,
Не получит строгач.

---

[1] Дакладней, Каркаралінскія горы, Каркаралінскі стэп, Каркаралінскі кірмаш.

[2] Гл.: У Джолсііта Малдасанава (30.10.79, Бараўляны, бальніца) // Вечалле. С. 203.

[3] Маркаў Георгій Макеевіч (1911–1991), рускі пісьменнік, грамадскі дзеяч. Старшыня праўлення СП СССР (1977–1989). Герой Сацыялістычнай Працы (1974, 1984). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1952), Ленінскай прэміі (1976).

[4] Гл.: Кыз ямшчэк (30.10.79, Бараўляны, бальніца) // Вечалле. С. 211.

[5] Ахмедаў Сабір Магамед аглы (н. 1930), азербайджанскі празаік.

[6] Ісіналіеў Міхаіл Іванавіч (1928–1999), казахстанскі дзяржаўны і партыйны дзеяч, дыпламат, пісьменнік.

Борис Укачин[1]
Был вдрызг накачан.

Шэдэўр перакладу: *батюшка шах*. Шаханаў[2] (вёў) Паптонева ў гасцініцу, бо ён там забыўся верш. Новая машына (2000 км). Пасля чытання вершы пра недахоп высакароднага металу і высакароднасці ў перакладзе Яўгена Еўтушэнкі.

Стэфан Паптонеў напісаў верш пра хлеб. Планета здасца зернеткам касманаўту. Зноў гаварылі пра Ушачы. Хоча да свайго прыезду напісаць (закончыць) паэму пра Ушаччыну.

Выступае кубінка. Выступае *Ул. Гардейчаў*[3], пра Кубу верш. Толькі прагучала слова «бывай», і адразу ўвесь Пушкіна[4] памер «Прощай, свободная стихия…».

Александр Романов[5], Виктор Коротаев[6] (Вологда). Михаил Глазков[7] (Ярославль). Владимир Жуков[8] (Иваново). Виктор Дронников[9] (Орёл). Юрий Пашков[10] (Смоленск). Сергей Викулов [11] постоянен в своей игре.

*Николай Тряпкин*[12]: «Наша целина — болоты, лес, грибы, ягоды. Не осушить бы душу. Может заглотить миллионы, — один рассказывал, — цифры освоенных денег, но не земли. Надо бы делать заповедниками. Как бы не пришлось наново обводнять. В России одних назвали почвенниками, другие в международные. Есенин ещё долго будет властителем дум. Глазами Есенина смотрим на землю. До сих пор есенинский смешной дуролей в сердце стучит копытами. Как лошадей содержат своими силами».

Інтэлект зямлі[13].

---

[1] Укачын Барыс Укачынавіч (1937–2003), алтайскі паэт, празаік.
[2] Шаханаў Мухтар (Азамат-Улы; н. 1942), казахскі паэт, празаік, палітычны дзеяч. Народны пісьменнік Казахстана і Кыргызстана. Лаўрэат Ленінскага камсамола Казахстана (1972), Ленінскага камсамола (1982).
[3] Гардзейчаў Уладзімір Грыгор’евіч (1930–1995), рускі паэт, перакладчык (г. Варонеж).
[4] Пушкін Аляксандр Сяргеевіч (1799–1837), рускі паэт.
[5] Раманаў Аляксандр Аляксандравіч (1930–1999), рускі паэт (г. Волагда).
[6] Каратаеў Віктар Веніямінавіч (1939–1997), рускі паэт. Заслужаны дзеяч культуры РСФСР.
[7] Глазкоў Міхаіл Іванавіч (1930–1987), рускі паэт.
[8] Жукаў Уладзімір Сямёнавіч (1920–1997), рускі паэт.
[9] Дроннікаў Віктар Пятровіч (1940–2008), рускі паэт.
[10] Пашкоў Юрый Васільевіч (н. 1930), рускі паэт. Лаўрэат Усерасійскай літаратурнай прэміі імя А. Твардоўскага (1998), Усерасійскай літаратурнай прэміі імя М. Забалоцкага (2005).
[11] Вікулаў Сяргей Васільевіч (1922–2006), рускі паэт. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі РСФСР імя М. Горкага (1974), Міжнароднай прэміі імя М. Шолахава.
[12] Трапкін Мікалай Іванавіч (1918–1999), рускі паэт (г. Рэутаў).
[13] Гл.: Інтэлект зямлі (1979) // Парастак радка, галінка верша. С. 66.

*Римма Казакова*[1]: «Целина лежала как женщина, которая хотела отдаться. Кольцов[2] и Никитин[3], но Есенин[4] так нашёл интонации, что долго не могут выбраться из-под него многие русские поэты, и не только русские. Так, как украинские из-под папахи Тараса Шевченко[5]. «Недалёко ад горада вёска моя». НТР. Но про это лучше сказал сугубо горожанин А. Вознесенский: «Землю попашет, попишет стихи»[6]. Лучше бы землю, чтобы отдохнули литконсультанты».

Можа, мы апошнія паэты,
Што вось так цікавяцца зямлёй.

Ул. Фаменка[7] (Растоў) пра сваю працу над вобразам сацкы-сольскага [?] райкома.

Баба-бугаятніца.

*25 чэрвеня, панядзелак*

* *Валеры Паваляеў*[8]: «Паняццe сібірскі характар — яму ідэнтычны цалінны характар».

*Вітаўтас Бубніс*[9]: «Огромные перспективы для літаратуры. Інстынкт уласніцтва яшчэ жывучы ў чалавека, калгасы то драбнілі, то ўзбуйнялі. Ёсць думка, што сельская тэма толькі для сяла, гэта няправільна».

*Леанід Іваноў*[10] (г. Омск): «На цаліну нацэльваліся яшчэ ў 1929–1930 гг. амерыканцы. Акцыянернае таварыства [стварылі]. 52 тыс. га адзін саўгас ў Сібіры. Узараць цаліну ўзаралі, а асвоіць не змаглі. Амерыканцы пакінулі транспарт і выйшлі з акцыянернага таварыства».

Мікалай Корсікаў[11] (г. Уральск).

---

[1] Казакова Рыма Фёдараўна (1932–2008), руская паэтэса, перакладчыца. Заслужаны работнік культуры УзбССР і Каракалпакскай АССР (1981).

[2] Кальцоў Аляксей Васільевіч (1809–1842), рускі паэт.

[3] Нікіцін Іван Савіч (1824–1861), рускі паэт.

[4] Ясенін Сяргей Аляксандравіч (1895–1925), рускі паэт.

[5] Шаўчэнка Тарас Грыгор’евіч (1814–1861), украінскі паэт, празаік, мастак.

[6] У сапраўднасці, цытата з паэмы «Хорошо!» У. Маякоўскага. *Маякоўскі* Уладзімір Уладзіміравіч (1893–1930), рускі паэт.

[7] Фаменка Уладзімір Дзмітрыевіч (1911–1990), рускі празаік, нарысіст. Заслужаны работнік культуры РСФСР (г. Растоў-на-Доне).

[8] Паваляеў Валерый Дзмітрыевіч (1940–1996), рускі празаік.

[9] Бубніс Вітаўтас (н. 1932), літоўскі празаік. Заслужаны дзеяч культуры ЛітССР (1982). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі ЛітССР (1974).

[10] Іваноў Леанід Іванавіч (1914–1989), рускі празаік, нарысіст, публіцыст.

[11] Дакладней, Корсунаў Мікалай Фёдаравіч (1927–2009), рускі празаік, журналіст. Заслужаны работнік культуры РФ.

*Юра Куранаў*[1] (Расія): «Адзіным фронтам выступаюць п'яніцы, людзям гадамі стараюцца даказаць, што яны не вярблюды».

*Крымкул Кадыраў*[2] (Узбекістан) — дакументальнасць і псіхалагізм.

*Аляксандр Сізоненка*[3] (Украіна) — суцэльны паток слоў.

*Ніна Падзорава*[4] (Масква): «Як чалавеку ў калгасе селянінам застацца. У Сібір аратаі прыйшлі раней, чым Ярмак[5]. Вашы нарысы падабаюцца, але нам патрабуецца зараз Нечарназем'е і Цюмень. Як бы не ўжыць вясковы нарыс, як некалі прысядзібныя ўчасткі».

Міхаіл Львоў[6] (Масква).

*Сітнікаў*[7] (г. Кіраў): «Каня занядбалі пісьменнікі-фантасты, лічаць каня транспартам будучага. Конь на Поўначы можа трапіць у Чырвоную кнігу. Спачатку не хапала дзяўчат, потым хлопцаў, пасля наадварот. Назвы дарог: гравійкі, ляжнёўкі, тарцоўкі, дарогі шмат значаць. Знікаюць старыя вёскі і з'яўляюцца новыя».

*Ірына Стралкова*[8] (Масква): «Творчасць Шукшына[9] можна суаднесці з уздымам цаліны. Шмат залежыць ад літаратара, у каго будзе ператварацца калгаснік — у старанніка ці мешчаніна».

! Фёдар Абрамаў[10] «Дом» (прачытаць).

*Васіль Лебедзеў*[11] (г. Ленінград): «Мільён мірных жыхароў аддаў Ленінград у вайну. Кампанія спынілася, а есці мы працягваем хацець».

*Валянцін Рошку*[12] (Малдавія): «У Малдавіі не хапае вады, парушылі плаўні інтэнсіфікацыяй сельскай гаспадаркі, карозія. Сяляне садзілі грэцкі арэх і чарнасліў. Знішчаны былі грэцкі арэх і чарнасліў, і пасадзілі новыя сады. І зараз месяцовы далягляд, ахова прыроды. Пчала заблу-

---

[1] Куранаў Юрый Мікалаевіч (1931–2001), рускі празаік (г. Пскоў).

[2] Кадыраў (дакладней) Пірымкул (1928–2010), узбекскі празаік. Народны пісьменнік Узбекістана. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі УзбССР імя Хамзы (1981).

[3] Сізаненка Аляксандр Аляксандравіч (н. 1923), украінскі празаік, публіцыст, літаратуразнавец. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі УССР імя Т. Г. Шаўчэнкі.

[4] Падзорава Ніна Аляксандраўна, рускі журналіст, літаратуразнавец.

[5] Ярмак Цімафеевіч (?–1585), казачы атаман. Паходам каля 1581 г. пачаў асваенне Сібіры Расійскай дзяржавай.

[6] Львоў Міхаіл Давыдавіч (сапр. Львоў-Малікаў Рафкат Даўлетавіч; 1916/1917–1988), рускі паэт.

[7] Сітнікаў Уладзімір Арсенцьевіч (н. 1930), рускі празаік.

[8] Стралкова Ірына Іванаўна (1924–2006), рускі празаік, крытык.

[9] Шукшын Васілій Макаравіч (1929–1974), рускі пісьменнік, кінарэжысёр, акцёр. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1971), Ленінскай прэміі (1973, пасмяротна).

[10] Абрамаў Фёдар Аляксандравіч (1920–1983), рускі празаік, крытык. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1975).

[11] Лебедзеў Васілій Аляксеевіч (1934–1981), рускі празаік.

[12] Дакладней, Рошка Валянцін Фёдаравіч (н. 1925), малдаўскі пісьменнік.

джвае на вялікіх плантацыях, і яны ў многіх мясцінах стэрэлізаваныя. Знікаюць звяры і кузуркі, ім няма дзе распладзіцца».

*Мікалай Пайкін*[1]: «Два падуросткі ў заапарку забілі кенгуру, пілі гарэлку праз саломінку. У Саратаўскай вобласці суслікі пачалі цягаць салому, не даўшы прыплоду, значыць, будзе засуха. Адны пілі гарэлку праз саломінку, другія салому захавалі. Сучасны хлебароб рукамі непасрэдна не дакранаецца [да зямлі], здавалася б, а на самой справе не так».

*Георгі Маркаў*: «Ул. Фаменка («Памяць зямлі» — найлепшая кніга). Увага савецкай літаратуры будзе ўзрастаць імкліва і ёміста (объёмно). Заваяванне прэсы ўсімі сіламі пісьменнікаў не ўдзячнымі позіркамі сваіх залатых вачэй, мы павінны творамі [паказваць] водсвет вечнасці. У мяне адчуванне, блізкае да [адчування] чабана, што са сваёй атарай [наблізіўся] да гары, бачыць альпійскі луг і мусіць туды ўзняцца».

[Аўтограф С. Паптонева — віншаванне і пажаданні да дня нараджэння Петрусю Броўку.]

*26 чэрвеня, аўторак*

* *г. Куйбышаў.* У аэрапорце плакат супраць п’янства, і канцоўка вершаў: «Горьким пьяницам — вечный позор!»

У Мінск! Званкі ўсім.

*** «...ведь родина без свободы горька, словно плод неспелый» (Пабло Неруда).

*27 чэрвеня, серада*

Ярохіну[2] нарыс і вершы. На працу.

*28 чэрвеня, чацвер*

Да Яшы [Серпера] — Бярозкіну лекі, цэрабралізін. 12.00 — на радыё запіс Блатуна. 17.40 — радыё слухаць (пра У.?).

*** [Без даты:] Бярозкін: «Вялюгін у скрынях са снарадамі вазіў сіяністкую літаратуру».

*29 чэрвеня, пятніца*

Звон Броўку. Звон ва Ушачы. 16.00 — Інстытут фізікі. 19.00 — на Таганцы [спектакль]. Гурыновіч[3].

---

[1] Дакладней, Палькін Мікалай Ягоравіч (1927–2013), рускі паэт. заслужаны работнік культуры РСФСР (г. Саратаў).

[2] Ярохін Раман Аляксандравіч, рэдактар выд-ва «Беларусь».

[3] Гурыновіч Хведар Хведаравіч (н. 1950), беларускі паэт. Працаваў на электратэхнічным заводзе, у рудупраўленні, на рамонтна-механічным заводзе ў Салігорску.

*3 ліпеня, аўторак*

Дзень нараджэння Бярозкіна і Зуёнка[1]. 9.00 — Хв. Гурыновіч.

*4 ліпеня, серада*

11.30 — «ЛіМ» (Юрась [Свірка]. [Неразб. 1].

*5 ліпеня, чацвер*

Да Яўменава, праца. 16.00 — [неразб. 1]. Звон Лойку[2].

*6 ліпеня, пятніца*

З стар. Новая студыя. 10.30 — тэле ([пра] Нядзведскага[3] Якаву Аляксеевічу). 15.00 — Лойка (выдавецтва).

* * *

Да 50-годдзя Ул. Нядзведскага
[24.07.29–17.10.73]

А ты між трох бяроз
На фотаздымку даўнім.
Сябе ты не бярог,
Свой смутак перадаў мне.

На раздарожжы спраў,
Дзе ўпэўненасць звякуе,
Лёс
З трох дарог абраў
Зімовую, цяжкую.

Зноў лёс табе паслаў
І гэты ложак мулкі.
Быў шчодры, Уладзіслаў,
Лёс да цябе на мукі.

Аслеплая яна,
Апошняя шраціна,
Зноў мачыха-вайна
Гняздо асіраціла.

---

[1] Памылка, дзень нараджэння В. Зуёнка 3 чэрвеня.
[2] Лойка Алег Антонавіч (1931–2008), беларускі паэт, празаік, перакладчык, крытык і літаратуразнавец. У 1956–2004 гг. выкладчык беларускай літаратуры філфака БДУ. Доктар філалагічных навук (1969), прафесар (1971). Член-карэспандэнт АН БССР (1989). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР імя Якуба Коласа (1990), Прэміі імя У. Пічэты (2003).
[3] Нядзведскі Уладзіслаў Іосіфавіч (1929–1973), беларускі паэт.

Адпасвіў статак слоў,
Адбыў сваю радоўку,
Узыдзе зноў і зноў
Нязломісты радок твой.

*7 ліпеня, субота*

20.00 — тэле. Запіс пра Веніяміна Арлова[1].

*8 ліпеня, нядзеля*

*Уладзіміру Каламійцу*

Пакуль славянскі род не вымер, —
А ён ані памрэ ніколі! —
Слаў Нэньку, горды Уладзімір,
Ярылам хрышчаны саколе!

*9 ліпеня, панядзелак*

Піцунда, Дом творчасці, Грузія [пуцёўка].
Зайчыку О! 13.30 — у выдавецтва, Міхаіл Герчык[2].

*10 ліпеня, аўторак*

Праца. Звон Бурсаву. Да Кісліка.

*11 ліпеня, серада*

Законнікаву верш. 13.00 — аўтар Спрынчану. Да Яўменава.

*12 ліпеня, чацвер*

У «Неман». 14.00 — у выдавецтва, Шахавец. 18, 12.

* Музей. Кераміка і ткацтва дужа развіта на Беларусі. Гляк, як знутры выпірае.

Замкавая архітэктура, вежы збоку. Беларускае барока, дзве вежы збоку, і аб'ём, дэкор ствараюць пабелка і тынкоўка. Полацкая Сафія як заснавальніца беларускай школы. Касцюм беларускі заходні.

Невядомы святы XVIII ст. (Магілёў). Вецер у валасах, як Мікеланджэла[3]. Хрыстос перад Пілатам, XVIII ст. (Брэстчына), вяроўка, як пояс, як арнамент, рукі павязаны вяроўкай, як ружанец, як пута, каня путаць. Німб, як падкова. Звычайна павялічаны памеры рук. Як у сялян, прыдалі сялянскасць святым. На галаве Хрыста з церняў вянец, як з калючага дроту.

---

[1] Арлоў Веніямін Аляксандравіч, беларускі тэлерэжысёр.

[2] Герчык Міхаіл Навумавіч (Майсей Беньямінавіч; 1932–2008), рускі і беларускі пісьменнік. У 1972–1992 гг. ст. рэдактар выд-ва «Мастацкая літаратура».

[3] Мікеланджэла Буанарроці (1475–1564), італьянскі скульптар, мастак, архітэктар, паэт.

Апостал Павел. XVIII ст. (Прошкава Віцебскай вобласці) і апостал Пётр. Па прынцыпу начовак, каб не гнілі і не скіпаліся, пакрыты смалой, як човен, як дамавіну цяслом выдзёўбвалі. Апостал падперазаны, як сват, ручніком, і складкі ў пляча левага спадаюць. Чало Пятра ў маршчынах. Ногі, як два плыткія пранікі. Невядомая святая XVIII ст. (Брэст). У адзежах складкі даюць пышнасць. Драўляныя скульптуры на іконах.

[Чужой рукой:] 39-48-83, Ольга Васильевна, Алла Константиновна.

Балтыка, як з-за крат, выплёўвае бурштын зубоў[1].

*** [Запіс змешчаны паміж красавіком і жніўнем 1979 г.] Хрыстос уцякае з вяроўкаю на шыі. Абгарэлая галава адна, як думка, далёкая ад плоці[2]. Старадрэвіны, старадрукі. Галубы на гарышчы.

*Маленне да ліпы*: Прасілася душа на пакаянне. Сусветы пчол над ліпай.

*13 ліпеня, пятніца*

Звон Шкляру [Шклярэўскаму], Броўку, Яшу [Серперу]. Карэктуру Пімену [Панчанку]. Узяць у Лены [машыністкі] II экземпляр Яўменава[3].

*14 ліпеня, субота*

Рынак. Хелемскі. Ліст і «З грэкаў у варагі» — Шкляру [Шклярэўскаму].

*16 ліпеня, панядзелак*

Міхальчуку[4] — Сержа[5]. Браніславу[6] — звон. Паўлаву — наконт Катлярова[7]. Вечарам — Яўменаву звон.

*17 ліпеня, аўторак*

На працу. У «ЛіМ», да Вагнера[8]. Зуёнку звон. Да Навума [Кісліка]. Лапушын.

---

[1] Гл.: «Гнеў мора...» (13.03.90, Дубулты) // Міласэрнасць плахі. Мінск, 1992. С. 76.

[2] Гл.: Як думка... (17.07.94) // Ксты. Мінск, 2006. Выд. 2. С. 173.

[3] Яўменаў Л. Чужая планета. Мінск, 1980.

[4] Міхальчук Сяргей Апанасавіч (1925–1995), беларускі пісьменнік, перакладчык. У 1972–1980 гг. заг. рэдакцыі дзіцячай літартуры выд-ва «Мастацкая літаратура». Заслужаны работнік культуры БССР (1972).

[5] Панізнік Сяргей Сцяпанавіч (н. 1942), беларускі паэт, перакладчык. У 1980–1982 гг. рэдактар Дзяржтэлерадыё БССР. Панізнік С. Адкуль вясёлка п’е ваду. Мінск, 1980.

[6] Спрынчан Браніслаў Пятровіч (1928–2008), рускі паэт і перакладчык. У 1966–1991 гг. заг. аддзела паэзіі час. «Нёман».

[7] Катляроў Ізяслаў Рыгоравіч (н. 1938), рускі паэт. З 1979 г. нам. рэдактара газ. «Огни коммунизма» (г. Светлагорск).

[8] Вагнер Генрых Матусавіч (1922–2000), беларускі кампазітар, педагог. У 1962–1995 гг. выкладчык Беларускага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта імя М. Танка. Прафесар (1988). Заслужаны дзеяч мастацтваў БССР (1963). Народны артыст БССР (1988).

*18 ліпеня, серада*

Ілоне — 17! Вершы Хелемскага перадрук. Нузэт Умераў[1] (Элькінд, гасцініца).

*19 ліпеня, чацвер*

Радыё, «ЛіМ». СП (Нузэт). Звон Яўменаву.

*20 ліпеня, пятніца*

Домакіраўніцтва. Звон Фаме[2], Арлену[3], Броўку. 12.00 — да Яўменава.

*Незнаёмаму каню*
*на Юбілейным рынку*

Іржы, цягун, на лёс
Ад радасці, ад суму.
Не палягчэў твой воз,
На колы ўспяўшы гуму.
Каб жылы,
Пакуль жывы,
Вітай кабылу.
І я свае цягну,
Ажно трашчаць пастронкі
стромкі…

*21 ліпеня, субота*

8.00 — на *Ушачу*! 14.00 — РК КПБ, сустрэць Лабанка!

*22 ліпеня, нядзеля*

На *Пуцілкавічы*, на Мінск.

*23 ліпеня, панядзелак*

Звон Бурсаву. 11.00 — Броўка.

*24 ліпеня, аўторак*

16.00 — сустрэча з польскімі выкладчыкамі.

---

[1] Умераў Нузет Абібулаевіч (н. 1931), крымска-татарскі празаік, паэт, перакладчык (Ташкент).

[2] Нейкі час У. Караткевічу дакучалі па тэлефоне званкамі былому гаспадару кватэры Фаме Фамічу, адсюль і мянушка.

[3] Кашкурэвіч Арлен Міхайлавіч (Арсен; 1929–2013), беларускі графік. Заслужаны дзеяч мастацтваў БССР (1973). Народны мастак Беларусі (1991).

*25 ліпеня, серада*
У БДУ заяву[1]. У СП (да Ладуценкі).

*26 ліпеня, чацвер*
БДУ. Да Гаўрылкіна[2] (слова пра Броўку). Звон Мальдзісу.

*27 ліпеня, пятніца*
14.00 — у СП (камандзіроўка).
*** Жанчына трымае зарэзанага галуба: «Каб цябе не …ула [?] да вечара такое, паразіт няшчасны».

*28 ліпеня, субота*
Стары дзед прадае на рынку лісце дуба для гуркоў саліць. Напісана на галінцы — 3 кап. У дзеда ляжыць некалькі звязачак. Даю 15 кап. Думаю, каб дзед не стаяў. Аж у дзеда ад скнарання рука дрыжыць — выходзіць, амаль лісціначка па 3 капейкі. Пашкадаваў дзеда (Камароўка).

*29 ліпеня, нядзеля*
14.00–17.00 — на тэле.

*30 ліпеня, панядзелак*
Звон Лукіну Сяргею (Натан [Злотнікаў]). «Вясёлка». Каралішчавічы 14.00 [неразб. 1].

*31 ліпеня, аўторак*
Прыезд Шкляры [Шклярэўскага]. 14.00 (2-гі кабінет зубкі).

*1 жніўня, серада*
Сустрэча Шкляры [Шклярэўскага] 8.55. Выдавецтва. 19.30 — Галоўпаштамт (політэхнічны, будатрады).

*2 жніўня, чацвер*
10.00 — на радыё (з Ігарам [Шклярэўскім]). Дагавор Броўку (пра Купалу[3]). У «Маладосці» забраць вершы Броўкі.

---

[1] Ілона паступала на філалагічны факультэт БДУ.
[2] Гаўрылкін Леанід Іванавіч (1935–1989), беларускі празаік, драматург. У 1977–1979 гг. гал. рэдактар кінастудыі «Беларусьфільм», у 1979–1986 гг. сакратар праўлення СП БССР.
[3] Купала Янка (сапр. Луцэвіч Іван Дамінікавіч; 1882–1942), беларускі паэт, драматург, публіцыст. Народны паэт БССР (1925). Акадэмік АН БССР (1928) і АН УССР (1929). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1941).

*3 жніўня, пятніца*

Шкляра! [Шклярэўскі]. 15.00 — паказаць В. Кузняцову[1] Хатынь — Раўбічы — Курган Славы.

* Званю [Броўку. Кажа:]

— Мы з табой зрабілі.

— Ну, я як тая муха ў вала на рагу: «І мы аралі».

— Мы з табой у адной упражцы.

*4 жніўня, субота*

У Шкляры [Шклярэўскага] рукапіс. Фотатэлеграмай Каламіец — верш пра Кіеў[2].

*5 жніўня, нядзеля*

Рынак. Еўтушэнку і Хелемскаму — бандэролі.

*6 жніўня, панядзелак*

Праца. Лужаніну — карэктуру. Звон Броўку. На радыё вершы. Дом друку (бухгалтэрыя).

*7 жніўня, аўторак*

14.30 — зубкі.

*8 жніўня, серада*

9.00 — Валерыю [Чамбарысаву] (Хаяма).

*10 жніўня, пятніца*

Лужанін (11–12 гадзін).

Паплавок на Сажы
Успаміны калыша.
Хоць маўчы,
Хоць кажы —
Адгукаецца ціша.
Бог, напэўна, паслаў
Нам хвіліны калісьці,
Наш наіў, Браніслаў[3],
Без дагляду ў калысцы…

---

[1] Кузняцоў Вадзім Пятровіч (1935–2003), рускі паэт, перакладчык.

[2] Каламіец Тамара Апанасаўна (н. 1935), украінская паэтэса, перакладчыца. Гл.: «Старэйшына славянскіх гарадоў…» (31.07.79) // Дзень паэзіі. Мінск, 1980. Пераклад Т. Каламіец быў надрукаваны ў зб. «Сузір'я» (Київ, 1982).

[3] Б. Спрынчан.

*11 жніўня, субота*

З Бурсавым ва *Ушачы.*

*Марыя Рыгораўна [Трафімава]: «Фотакартачка, яна ўрадная, красівая, але нашто мне рукі ў роце?

Масла ў Вушачы німа, каб я яго ела, я б пільнавала; сядайце за сталом, а то паседжання не доўга будзіць; вецір халодный павіваў з-за вуглоў; кукшынкі на шырокіх лістах, жоўтыя; ён кажаць, што ён ваўчыцу сціснуў, — той ляцеў не дыхаўшы. Ваўчыца як ляснула зубамі, той ходу, ляцеў нявогляддзю; час прайшоў, я і акунёў налавіла (падрамала); матрамоззе».

Адноўленыя вёскі Ушаччыны Масцяркі, Слаўнае, Бабовішча.

*

Выйду штораз я на ганак,
Гляну я на возера.
Жалка-жалка мне таго,
Каго зімой марозіла.

*

Возера, возера
Ногі прымарозіла,
А як хлопчыкі прыйшлі,
Ногі ўсталі і пайшлі.

*12 жніўня, нядзеля*

У Мінск.

*13 жніўня, панядзелак*

Прыезд Шкляры [Шклярэўскага].

*14 жніўня, аўторак*

Праца. Запіс на радыё.

*15 жніўня, серада*

Пазваніць Веніяміну Арлову.

*16 жніўня, чацвер*

У «Маладосць» карэктуру ўзяць і да Броўкі 14.00. 20.50 — кіно.

* На 14.00 дамоўлена. Без 20-ці званю [Броўку]. «А ўжо паўгадзіны чакаю. Заходзь, Грыша мілы».

Пра паездку: ніякіх сустрэч. Ва Ушачах каля райкома, дзе да вайны быў тэхнічным сакратаром. Звалі малога не Пётр, а Пятрок Юстынёнак.

Аркестр: бацька — на йскрыпцы, Клёмка — на цымбалах, Ігнась — наваласянцы.

«Дом культуры ва Ушачах цвярдзей узяў пад асабісты кантроль.

Хай Гірсá звоніць. Дарогу таксама да Пуцілкавіч [давесці] дамоўлена (з міністрам, з Шыбскім). Не буду ж я сам з лапатай стаяць».

*17 жніўня, пятніца*

Звон Рэму [Нікіфаровічу], Сяргею [Законнікаву]. Чакаць званка Ждановіча. Зборы.

*18 жніўня, субота*

8.45 — ля дома Броўкі (на *Ушачы*), *Пуцілкавічы*.

*19 жніўня, нядзеля*

На зямлянкі з Пятром[1].

*20 жніўня, панядзелак*

Звон Броўку, Зуёнку (карэктура Броўкі).

*21 жніўня, аўторак*

У Дом друку. Звон у выдавецтва. Для «Вопросов литературы»[2].

*22 жніўня, серада*

11.00 — Мілаванаў[3] (рукапіс).

*23 жніўня, чацвер*

Пімену [Панчанку]— дзень нараджэння.

*Званю. Кажу экспромт. Віншую з днём нараджэння.

Няхай паэтаў лічаць пачкамі,
Па-ўшацку кажучы — пачкáмі,
Але такіх, як Пімен Панчанка,
Стагоддзямі зямля чакае.

Пімен Емяльянавіч кажа, што раненька нарэшце напісаў верш пра Аркадзя Куляшова.

*** *Нібыта агаслы касцёр з белымі скронямі прыску.*
*Для вёскі абноскі. Ды жмурыцца вёска, у куфрах моды…*

---

[1] Трафімаў Пётр Аляксандравіч (1924–1998), стрыечны пляменнік, сын М. Р. Трафімавай.
[2] Бородулин Р. Живые традиции: [Выказванне] // Вопросы литературы. 1979, № 10.
[3] Мілаванаў Васіль Андрэевіч (н. 1918), беларускі навуковец. Кандыдат гістарычных навук.

*26 жніўня, нядзеля*

Лужаніна шукаць. Іна Паўлаўна, Музей Якуба Коласа.

*27 жніўня, панядзелак*

На *Полацк.*

* Яноўскае возера сярпом зжынае апошнія травы. Бярозы надсмакаваныя туманом. Помнік партызанам-цябутцам. Каля Гомля з двух бакоў азяры, астроў, і галавешкі лёну, як кастроў восені. Ля Гомля паўночныя вароты партызанскага краю. У Лясінах дот у гародзе пад склеп [прыстасаваны]. На бярозе скрынка жасцяная для пісем, ці пісьмы, ці слёзы бяроз, ці жоўты ліст абраніла.

Паштовая скрынка
На прыстарэлай бярозе.
Калісьці лясістая вёска Лясіны.
Бяроза пры самым парозе,
Тут гучна смяялася радасць,
бяда галасіла[1].

*28 жніўня, аўторак*

У Віцебскім семінары ўдзел.

* Суя [?]. Патэнцыяльна-магчымыя кандыдатуры ў калектыўны зборнік:

Валеры Маслюк[2],
Сяргей Рублеўскі[3],
Мікіта Лісічонак,
Алесь Касцень[4] (зборнік!),
Валянціна Аколава[5],
Навум Гальпяровіч[6] (зборнік),

---

[1] Гл.: «Паштовая скрынка...» (24.02.81, Дубулты) // Амплітуда смеласці. С. 29; Лісты (28.10.2000) // Руны перуновы. Мінск, 2006. С. 197.

[2] Маслюк Валерый Васільевіч (1953–2001), беларускі рэжысёр, драматург, паэт. У 1979–1981 гг. рэжысёр Беларускага дзяржаўнага тэатра імя Якуба Коласа (г. Віцебск), у 1981–1983 гг. гал. рэжысёр Магілёўскага абласнога тэатра. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1986).

[3] Рублеўскі Сяргей Васільевіч (н. 1954), беларускі празаік, паэт. У 1977–1990 гг. працаваў у раённым перыядычным друку і абласной газ. «Віцебскі рабочы».

[4] Касцень Алесь (Аляксандр Дзмітрыевіч; 1955–2003), беларускі паэт, журналіст.

[5] Аколава Валянціна Валянцінаўна (1954–2013), беларуская паэтэса. У 1979–1980 гг. працавала ў рэдакцыі радыёвяшчання Наваполацкага вытворчага аб'яднання «Палімір», у 1981–1986 гг. у выд-ве «Юнацтва».

[6] Гальпяровіч Навум Якаўлевіч (н. 1948), беларускі паэт. У 1977–1980 гг. рэдактар радыёвяшчання Наваполацкага вытворчага аб'яднання «Палімір», у 1980–1981 гг.

Папковіч[1] Ул.,
Ламан[2] Пётр.
Літаб’яднанне. Паседжанне з працягам у інтэрнаце, на заводзе.

*[Валянціне Аколавай]*

Валянціна Валянцінаўна
З прыпалескай Салігоршчыны,
Чэрпайце вясняна-здзіўлена
Вершы поўнымі прыгоршчамі.

*29 жніўня, серада*

* *в. Варонавічы.* Партызанскі камісар Іван Іванавіч Стрыкель партызанскага атрада «Бальшавік» брыгады імя Варашылава. Снеданне. «На возера працякае Ушача. Замкавае возера. Я веласіпед у траву пакладу, ён і ляжыць дагары нагамі. Рыба ў час нерасту — [завецца] ікранка. На востраве дубы, падгрызеныя бабрамі, бабры ямы пакапалі ў пад’ездах да возера. Далей — Касароўскае возера. Усе яны па дарозе на шляху ракі Ушачы, яна як сувязная. Між азёрамі — партызанскімі базамі [стаялі].

Добра рыба — з вады, мяса — з-пад нажа, а жонка — з лазні».

Інваліды — асколкі вайны[3].

Вульгарная, як прадаўшчыца, якой даступны дэфіцыт.

Старая. Хусцінка са шлякамі. Сонца заходзіць. Восень. Старая грэе плечы ля халоднага мура сцяны на астатку прыслонка. Мур цяпло не трымае. На печы добрыя рэчы, — грэе прыказка, што ў вёсцы разам з печчу засталася. Сонца заходзіць. Восень[4].

*3 верасня, панядзелак*

Ілону — на бульбу[5]. Лечкамісія. Праца.

*4 верасня, аўторак*

11.00 — Лужанін. У Віцебск. Звон Лабанку, Броўку, Ждановічу.

---

супрацоўнік наваполацкай газ. «Химик», у 1981–1997 гг. уласны карэспандэнт Дзяржтэлерадыё Беларусі па Віцебскай вобл.

[1] Папковіч Уладзімір Антонавіч (н. 1935), беларускі пісьменнік, перакладчык. У 1973–1982 гг. выкладчык нямецкай і англійскай моваў Віцебскага індустрыяльнага тэхнікума.

[2] Ламан Пятро (Пётр Аляксандравіч; н. 1949), беларускі паэт, акцёр. З 1971 г. акцёр Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Якуба Коласа (г. Віцебск).

[3] Гл.: «Інваліды — асколкі вайны…» (27.02.80) // Амплітуда смеласці. С. 38.

[4] Гл.: «Прайсці туркі-баркі…» (19.06.82) // Тамсама. С. 53.

[5] Выезд студэнтаў на ўборку бульбы.

*5 верасня, серада*
11.30 — Лабанок каля ЦК ЛКСМБ. Да Броўкі. «Маладосць», праца.

*7 верасня, пятніца*
Кватэру на [вул.] Мележа. 60 год Алесю Асіпенку[1].

*Алесю Асіпенку ў дзень 60-годдзя*

Віцяблян па восені падлічваюць,
Сёння восень Ваша залатая.
Велічны душой без узвялічвання
Паспаліты люд — ён Вас чытае.
Віцябляне між сабой не грызліся,
Хай шалеюць зводнікі запечна.
Як разведчык, партызан няўрымслівы
Вы заўсёды там, дзе небяспечна.
Сталасць Вам пасуе, апантанаму,
Старасці не смейце паддавацца,
Маладосць сваю згадайце нанава,
Моц адчуйце два разы па дваццаць!

*8 верасня, субота*
Паштоўку Але Харатонавай.

*9 верасня, нядзеля*
На *Ушачы.*
*Марыя Рыгораўна [Трафімава]:

У чыстым полі
Пасець Раман коней.

*

Мяне мілы пакідаіць,
Мне на гэта напляваць,
Я такога палоніка
Магу рэшатам спаймаць.

*

Раней былі гарбузы,
А цяпер гарбузікі.

[1] Асіпенка Алесь (Аляксандр Харытонавіч; 1919–1994), беларускі пісьменнік, сцэнарыст. У 1976–1980 гг. гал. рэдактар газ. «Літаратура і мастацтва». Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1974), Літаратурнай прэміі імя І. Мележа (1981).

Раней былі кавалеры —
Цяпер карапузікі.

*

А што гэта за манеры,
Што малыя кавалеры.
Лепей чорны дзёгаць піць,
Нячым маленькага любіць.

*Песні з гняздоўяў лятуць.*

[Адрас:] в. Ваўчо Лутаўскага с]с, Усцін Васіль Барысавіч [аднакласнік]; Люцько Міхаіл Сцяпанавіч.

*10 верасня, панядзелак*

На Мінск. На працу.

*12 верасня, серада*

Грошы хлопцам. У СП. На рамонт машынку.

*13 верасня, чацвер*

Аптэка № 42 (інтал). Ірына Анісімаўна.

*15 верасня, субота*

50 год Арлену Кашкурэвічу. 220013, Мінск, Сурганава, 10, кв. 8. Арлен Міхайлавіч.

Сапраўдны талент
Ненавідзіць размен.
Ён брат маналіта,
Таму менавіта
Усё, што ні робіць
Маэстра Арлен, —
Нязменна адменна
І — арленавіта.

*У Італіі вада ліе.*

* * *

У восеньскай тузе
На смутак ёсць падставы…

Як можна толькі ў сне,
Няўлоўна-таямніча,
Прыходзіць да мяне

Жаданае аблічча.
Як можна толькі ў сне,
Прыходзіць да мяне
Твой голас незабыўны.
Чаму сама не прыйдзеш?

*17 верасня, панядзелак*

10.00 — званіць Музей Купалы 22-79-43 (фота). Уладзімір Сцяпанавіч Сіз. 16.00 — Дом палітпроса.

*18 верасня, аўторак*

10.00 — Мілаванаў (рукапіс). 12.00 — на радыё Паптонеў, экз. Багдановіча — у рэдакцыю.

*19 верасня, серада*

Быкаву — лекі. У СП — камандзіроўка.

*20 верасня, чацвер*

8.05 — сустрэча Паптонева. 15.00 — выступленне перад бібліятэкарамі. 17.30 — СП. Сакратарыят. 19.00 — вечар Ст. Паптонева.

* Сустрэча Стэфана Паптонева. Кожны чалавек ці паэт, ці начальнік — іншых няма ўвогуле. Пытанне зНіколам Вапцаравым[1].

*Васіль Быкаў*: «Калі б было болей галосных, дык ўсё было [б] зразумела. Балгарская мова дужа эканомна з галоснымі абыходзіцца».

*21 верасня, пятніца*

Карэктуру Таццяне Кузьмінічне [Іваніцкай]. Тулупава. Праца. Здаць Шаўню. [Атэлье] «Дожджык». Кватэра. 15.00. — тэлезапіс.

* На тэле Марына Захарэвіч[2].

Чытае вершы Захарэвіч Марына — захварэеш[3].

*22 верасня, субота*

9.45 — Музей Айчыннай вайны (Броўка, Быкаў, Лабанок).

* Стэфану 50 гадин, у пераводзе і ў перакладзе на беларускую мову — зусім мала — 50 гадзін.

---

[1] Вапцараў Нікола (1909–1942), балгарскі паэт, удзельнік антыфашыскага руху. Расстраляны гітлераўцамі.

[2] Захарэвіч Марыя Георгіеўна (н. 1936), беларуская актрыса, выкладчык. З 1957 г. у Нацыянальным акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы. Прафесар (1999). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1984).

[3] Гл.: Чытае вершы Захарэвіч (5.12.80, Рыга) // Амплітуда смеласці. С. 74.

Маркевич Сергей Васильевич (для Ждановіча [сфатаграфаваць]). Лабанок пра Самуся: літр гарэлкі слоікам (0,5) мёду зап'е і здароў. Паліцая кулаком па галаве — і няма. Кароткі допыт.

*Не адпачыў — нават па чым.*

[Аўтограф верша С. Паптонева «Вера».]

*Былым сябрам*

Дзе знайсці нам такога моцнага ворага,
Каб наноў аб'яднаў нас усіх[1].

Беларусь — крынічная плынь, якая змывае твары злыдняў і зноў цяче незамутненая і чыстая.

[Адрасы:] г. Горкі, ул. Крылова, 7, кв. 8. Шлапакоў[2] Іван Раманавіч; Мінск, ул. Шчорса, 46, кв. 6. Лемза[3] Уладзімір Антонавіч.

*23 верасня, нядзеля*

14.00 — Панізнік Сяргей. Мазуркевіч Віктар [Уладзіміравіч] (шпалеры) 23-77-80. Ладуценка Мікалай Дзмітрыевіч 33-19-91.

*24 верасня, панядзелак*

*г. Магілёў.* Абком. Габраўцы-мармуроўшчыкі[4] Дом культуры аздаблялі. Сакратар: «Сельская гаспадарка пад адкрытым небам клопатна».

Хімвалакно [камбінат]. *Аляксей Пысін*: «Хваліцца няма чым, налета стукне 60 гадоў, але жыць трэба». Ручаінкі смалы, з іх нітачкі (вытчуцца). Хімія. Мама шпулькі матала, і кот абавязкова [спрабаваў гуляць]. Паток. Тонамі вымяраецца вага шпулек.

Аляксея Пысіна запіскай пытаюць: «Любімая тэма Вашых вершаў?» — «Любімая тэма маіх вершаў — гэта я сам. Я пішу пра ўсё, што мяне цікавіць, пішу сябе».

У гасцях у казкі дрэва. Раман Якаўлевіч Іванчанка. Персанажы з 7-мі чавускіх вёсак. «Людзі радуюцца, і я радуюся. План — план, а гэта для душы. У мяне аўчарачкі — званкі» — (на самай справе шавачкі). Для юшкі планкі выразае, у муцэ, як млынар. Маскі (з глюгай), [скульптуры] «Лодыр-гультай чорта ў хамут запрагае», «Пляткаркі», «Падплотнікі цалуюцца», элегантны «Мефісто». Лесніку паўлітэрак, ён яму калоду, так

---

[1] Гл.: Былым літсябрам (3.11.79, Бараўляны, бальніца) // Амплітуда смеласці. С. 169.

[2] Шлапакоў І. Р. (1909–2001, г. Ніжні Ноўгарад, РФ), адзін з кіраўнікоў партызанскага руху на Віцебшчыне.

[3] Лемза У. А., адзін з кіраўнікоў партызанскага руху на Віцебшчыне; брыгада імя Варашылава.

[4] Габраўцы — жыхары балгарскага г. Габрава.

матэрыял здабывае разьбяр. Сава на галаве ў Бабы-Ягі, і абвівае змяя з пулятымі вачмі і храпамі пахабнымі. «Ліст з фронту».

Ад святла да святла [працуе], і за тры дні скульптура [гатова]. Іванчанка: «Ленін з сасны, Пушкін — з асіны, Мефісто — з моранага дуба». Цэлы свет у двары, дзе бульба толькі выбрана. Будзе плот узводзіцца для тэрыторыі для зэкаў, каб будаваць працяг лаўсана [камбіната].

«Калі праца па душы, можна жыць 102 гады».

[Адрасы:] г. Магілёў, Матросава, 43. Раман Якаўлевіч Іванчанка; г. Магілёў, пр. Міру. Пысін А.; Кот Тамара Рыгораўна, сакратар Магілёўскага ГК КПБ.

*25 верасня, аўторак*

Танк сваім ходам узышоў на пастамент. Чалавек — рэдка. Пасля таго, як панясуць уперад нагамі.

На дне кожнага яра свая рачулка, якія жывяць Днепр. *Лупалава.* Магільнік. Канцлагер (ад кажалупа [неразб. 1] корань [назвы]). Пасля, як лагер [зрабілі], праз некалькі дзён ні травінкі, ні лісцінкі — з'елі ўсё. 150 смерцяў у дзень. Былі выпадкі людаедства. Дошка з крывёй — «Нас было 81 тысяча».

1824 год, 6 —7 спынілася ля пошты карэта. Гусар ... даведаўся, хто прыехаў. Усю ноч прымалі А. С. Пушкіна. Ванну шампанскім напоўнілі. Госць сказаў, што трэба ехаць.

Музвучылішча. Леанід Леанідавіч Іваноў.

Стэфан [Паптонеў]: «Чалавечае глупства, як Сусвет».

Толькі наш народ мог заўважыць, паспачуваць: «А ў перапёлкі ножкі баляць», — хоць самому балела, цела смылела, ныла душа.

Бібліятэка. Выступае выкладчыца бібліятэчнага тэхнікума Міхальцова Лідзія Антонаўна. Натхнёна. Выдатнае веданне мовы.

*26 верасня, серада*

Мікалай Уладзіміравіч Дарафеенка[1]. Рэдакцыя. Рэдактар: «Дарагі таварыш Стэфан...»

1.IX.42 года столькі партызан, колькі на ўсёй Беларусі і ў два разы больш, чым на Украіне. За вайну 125 Герояў Савецкага Саюза. У Віцебску на кожных 8 жыхароў прыпадае 1 акупант. На сённяшні дзень Віцебшчына і Смаленшчына не дабіраюць даваеннага ўзроўню жыхароў.

Засуха. Зерне драмала, а зараз у рост [ідзе], зялёнае. Ястрабаў Мацвей Іванавіч — сакратар Ушацкага РК КПБ, дырэктар «Віцебскага рабочага» (для Ждановіча [зрабіць фота]).

---

[1] Дарафеенка Мікалай Уладзіміравіч (1923–1991), беларускі краязнавец.

Дима Дмитриев (ваенны аташэ Балгарыі ў Маскве) у атрадзе [быў] камандзірам падрыўнікоў групы брыгады імя Чапаева, а Ястрабаў быў камісарам атрада. Кніга «В тылу врага» — Н. А. Якубовский. Мн.: «Беларусь». 1979. (Для кнігі пра Ушачу.)

Успенка [Успенскі сабор]. Палац губернатара ў 14–16 ст. Взгорский замок (узгорак). *Віцебск быў на 7 узгорках. Засталося 4.* Тры з твару зямлі [зрылі] архітэктары, *бо эканомілі плошчу і матэрыял.*

Рабушаў Георгій Фёдаравіч — інструктар ГК КПБ. У адной магіле 8 герояў СССР ля Бешанковіч. «Да помніка прывыкаеш, як да новага суседа. Як няма — сумна, таксама да кварталаў і дамоў».

*27 верасня, чацвер*

Дывановы камбінат. Званок Лабанку. «Ваенная кніга» (Наваполацк, Чкалава, 9, кор. 5, кв. 17).

* Тэлебачанне. Ламан чытае вершы Стэфана [Паптонева]. Перад гэтым яго бачылі, піжоністага і маладога, з двума шчупакамі.

Дывановы камбінат. Дырэктар Алег Іванавіч. Да рэвалюцыі [жылі] у бараках — і дзеці, і жанчыны, і мужчыны — можна сказаць, адзін пакой. Рабочыя вывезлі аднаго дырэктара на тачцы. А калі на тачцы — значыць не можа быць кіраўніком. Ад тачкі да стачкі.

Да вайны ільнопрадзільная фабрыка, а 5 кастрычніка 1947-га — дываново-плюшавы камбінат. Партрэты-кілімы Міная[1] таго, таго і Мазурава[2] ў свой час. 8 млн 500 тыс. кв. м — наступны год 11 млн 600 тыс. кв. м дываноў будзе.

Мяккае святло ад жаўталісцця,
Развітальная краса травы
засталіся.

*г. Наваполацк.* Сімураў Уладзімір Трафімавіч, рэдактар [газ.] «Химик». Анастасія Сцяпанаўна Кашэра, намеснік загадчыка аддзела.

*28 верасня, пятніца*

Намеснік старшыні гарвыканкама Эрдман Іван Вікенцьевіч. Лістоўныя [дрэвы] лепей, бо скідаюць лісце штогод, а ігліцы цяжэй (зімой і летам адным цветам). У век прагрэсу і хіміі перспектыўны той, хто менш. Праблема: на замкнуты цыкл вады, толькі падпітак браць. 3600 пенсія-

[1] Шмыроў Мінай Піліпавіч (1891–1964), адзін з кіраўнікоў партызанскага руху ў Беларусі. Герой Савецкага Саюза (1944).

[2] Мазураў Кірыл Трафімавіч (1914–1989), беларускі партыйны і дзяржаўны дзеяч. У 1942–1943 гг. прадстаўнік Цэнтральнага штаба партызанскага руху. У 1956–1965 гг. 1-шы сакратар ЦК КПБ. Герой Сацыялістычнай Працы (1974).

нераў, бо дзеці абрастаюць бабулямі і дзядулямі. Цяпер 28,5 — сярэдні ўзрост. Елка ў горадзе расці не будзе. Больш падсаджваюць, чым высякаюць. Ласі ходзяць на гароднінную базу — лізаць соль. Зайцоў хімікі [атруцілі], таму лісы худыя. Калі вёска не абсталявала кола для буслоў, кепскія людзі. Па буслах [вызначалі]. У наваполацкай лыжні 56 тыс. [удзельнікаў] было.

*г. Полацк.* Сафійка. Вартаўнічка адчыняе і бурчыць, што парылі падлогу: «Што яны — золата тут шукаюць, такія, як вы». Мы кажам — рэстаўрацыя, не слухае. Бусел пад скляпеннем Сафіі, разам са святымі.

Сімураў паехаў на 5 год у Балгарыю, бацьку пакінуў глядзець за дочкамі ў Мінску (яны студэнткі былі). Бацька пасля: «Даў ты мне, сын, 5 год турмы: ні на рыбу, ні на паляванне…»

«Палімір». Прамагонны бензін. Хораша гучыць *прапіле́н.* Камсамольскае возера. Русалкі-камсамолкі не зняты з уліку. *Не схімнікі-схаластыкі, а хімікі-халасцякі.*

Літаб’яднанне «Маладзік». Каб ветахам не стаў Наум [Гальпяровіч], Міхась, Уладзімір.

Аб’яднанне «Палімір». Уладзімір Хвашчэўскі — электрык, завочна [вучыцца] ў інстытуце. Нарадзіўся ў Загуззі каля самага «Прарыву», 1956 года нараджэння. На Паўночным флоце служыў. Электраманцёр цэха № 14, сакратар камсамольскай арганізацыі (для Ждановіча [зрабіць фота]). Элеанора Пятроўна Дубіна — кнігалюбы пад яе кіраўніцтвам. «Палімір[а]» — новую рыфму для слова *шчыра* лягло ў беларускую мову.

*30 верасня, нядзеля*

60 лет Эмину. 84–78. Міклашэўскі[1] Іван Станіслававіч. 211440, Наваполацк. Света Маслякова 5-48-71.

* *п. Ушачы.* 1,30 сотак сам Гірса [партыйны кіраўнік] выкасіў, і ўсе мусілі столькі ж.

Бярозкі сталі з жаночымі постацямі.

[М. Р. Трафімава:] доктар падняў плечы і ўсё абстукаў, і ўсё абслухаў. У руху — усё раблю, усё. Якраз тарадон: як устанець, дык і бярэцца: тараба-ра, тараба-ра. Гэта такая ўвычка: ня можаць язык маўчаць. Надаела слухаць анде́і.

А я жала да вечара,
Забалела сярэдзіна,
А мой свёкарка спагадлівы,
Ён вытапіў банечку,
І паламаў бярэзнічку,
І мне папарыў сярэдзінку.

---

[1] Міклашэўскі І. С., сын Філіцыі Антонаўны Міклашэўскай, хроснай маці Р. Барадуліна.

*

Салавей, салавей,
Што на свеце саладзей —
Ці гарэлка, ці мядок,
Ці ў дзяўчыны перадок?

Смалакурны завод у Закутках, для партызан шкіпінар [гналі], для [кулямёта] «Максіма», заліваць ствалы, каб не замярзалі. Іванковіч быў доктар, а вугалі для партызан на льнозаводзе [бралі].

*1 кастрычніка, панядзелак*
23-98-84 Каранкевіч Анна Пятроўна.

*2 кастрычніка, аўторак*
Праводзіны Стэфана [Паптонева].
*** Ваймір Асенаў, Іван Методзіеў[1], Паптонеў.

*3 кастрычніка, серада*
12.00 — «Маладосць». Бурсаву 50 экз. у Плескача[2].

*5 кастрычніка, пятніца*
19.00 — Камінная зала [Дома літаратара].
Ляхновіч Віктар Фёдаравіч 2-12-45, 2-19-60 прыёмная [г. Лепель ?].

*9 кастрычніка, аўторак*
15.00 — прыёмная камісія.

*10 кастрычніка, серада*
5.30 — на *Лепель.*
* На Лепель. 6.15. З туману апорныя слупы, як высакавольтныя яліны. Лепель. Падпалкоўнік Шытаванаў Аляксандр Мікалаевіч.

Ва універмагу. Кажу: «Рушнікі». Старая (не дужа): «Такія рушнікі (толькі) на бога вешаць. Дарагія».

Журавы скубуць рунь. Палёт над Ушаччынай. Натруджаныя далоні аралі голыя. На рудой траве, на зялёнай руні ў прасветах сонца, збоку цень верталёта, нібы на пару ляціць. Сосны ў вадзе, стыла, бачаць сябе да вершалін, да верху ў Вечаллі.

---

[1] Методзіеў Іван (1946–2003), балгарскі паэт, літаратуразнавец.

[2] Бурсов И. Сказки, полные чудес. Минск, 1979. *Пляскач* Аляксандр Іванавіч, заг. гаспадаркі выд-ва «Мастацкая літаратура». У яго захоўваліся заказаныя аўтарскія экземпляры выдадзеных кніг.

Здановіч [на здымках] сабаку з'еў, прывязаны на рамяні. Магільнік, агароды, як дзіцячыя цацкі, як дзіцячы гарадок. Упала (прыпала) сасна папіць, не падымаецца болей. Атава на лодцы плыве зялёнай кузуркай незразумелай. Качкі плывуць (гусі), нібы адштурхоўваюцца ад дна.

Азёры. Зямля пачынае здавацца астраўком. Вецярок па пільсці хваль гладзіць, мяняецца настрой глыбіні, праплываюць аблачынкі бруйка.

*Чаратовая — выратоўвае.*

*Ушаччына з вышыні нябёс*

На далоні голыя раллі,
Па траве рудой, зялёнай руні,
Абмінаючы вятроў раі,
Верталёт уласны цень кіруе.
Бачаць сосны ў Вечаллі сябе
Ад карэння аж да вершаліны.
Човен стог атавы на гарбе
Валачэ, як тую гужпавіннасць.
Як прыгоршчы са святой вадой,
Азяркі, азёры, азярыны.
І мяняецца глыбінь настрой
Ад бруйка, ад ценю аблачыны.

Астраўкі на азёрах, як рэшткі пачарнелых крыг, рэшткі зялёнай дарогі, усё сплываюць і сплываюць. Ляцім: быццам на месцы, а нехта суне з-пад цябе зямлю. Маршчыністая імшарына. Астравы, як замкі і лясныя кварталы ля возера. Дрэвы, як паганцы да святой вады, увайшлі ў рэчку. Астравок выдрай плыве. Каньёны. Крушні кулакі ў адчаі сціскаюць, што адцясніла іх ралля. Крушні ў злосці склыгаюць зубамі. І дужа радуюць зрубы. *Абы зруб — абы з рук*.

Астраўкі, як рэшткі счахлых крыг.
Крушні сціскаюць кулакі,
Што ворыва пацясніла пакручасты аўтограф,
Адкрыты толькі небу.
Быццам нехта з-пад цябе зямлю
Цягне, як абрус, а ты трымаеш.
Хораша нябеснаму чмялю.
Дрэвы, як паганцы, да вады
Нехта гоніць, каб аксціць.

У *Пуцілкавічах* чорны бычок чакае тарэра, падбрыквае.

Маленькі паясок, але дужы, настоены на каранях рачулак Ушаччыны («Быццам кінуў хто далёка срэбны пояс між травы»[1], — П. Броўка). След ад калёс па руні вадой заплыў, тут жа і дужэе плячо Бярэзінскага запаведніка. Радзіма Броўкі.

Дзве качкі, а ў вадзе адбілася яшчэ дзве, і выйшла чатыры.

На зямлі стаіць [верталёт], а вінты (лопасці) круцяцца, як паэт па інерцыі ўсё піша і піша, хоць пісаць даўно не варта.

*З любых становішч — Валянцін Ждановіч.*

Знаёмая пасівелая (як заінелая капуста) нясе ў руках качан, як немаўля (і адразу ўсплывае: сорак насавоў, а ўсе без рукавоў)[2].

Даўгі Дземенец [возера], светлагаловы клінок (кадры з верталёта).

*11 кастрычніка, чацвер*

Даліна Броўкі. Дземенец [возера], магільнік. Ад'езд на Мінск.

* *вв. Наваселле, Паўвіркі* (на карце ваеннай Подвирки). Туман разыходзіцца, у рацэ праяўляюцца дрэвы, пасля галіны, пасля лісцінкі. Падымаецца сонца, рукавы прамянёў і туман дакладна выдае кожны вывіў ракі. Перад камерай лётае сарока і сакоча. Валянцін [Ждановіч] пачынае рыфмаваць:

Сарока з Сарочына
У кадр хоча
на.

*

Сарока — Сарочына
Толькі б не сурочыла
Ні туману, ні промня.
Хароміна
З ранішняга святла
Змрок з'ела датла.

Качанаў Іван Гаўрылавіч (з Кубліч родам) у вайну партызаніў у раёне Кубліч. З касой ідзе касіць асянчыну, каб абкласці бурт з бульбай (кадр).

Кусты з туману выходзяць, як партызаны ў маскхалатах. Сонца вышэй, рукавы святла шыраюць, знікаюць, знізу белыя падпаліны халоднага дыму, не зразумела: ці долу туман асядае, ці знізу святло расце, ці прарастае святло, ці пускае святло карані.

Пакуль не занесла
Крутая сваю касу,

[1] Радкі з «Паэмы пра Смалячкова» П. Броўкі.
[2] Гл.: «Любуецца восень...» (9.03.80, Каралішчавічы) // Амплітуда смеласці. С. 26.

Няўмольніца тая,
Клопатаў стае,
І па ладным кусу.

*Бутаўскі магільнік*

Адпачывае да вясны адхон.
Рунь у расе,
Ў сцюдзёнай першай скрусе.
Дагледзеўшы жыцця кароткі сон,
На вечны сон, відаць, сюды вярнуся.

Марыя Рыгораўна [Трафімава] ніжэй і ніжэй. Відаць драбніца любая[1].

А ўзгорак жыцця круцей,
Бліжэй даліна спачыну.
Чакаць і дзяцей, і гасцей,
Дажджлівую аблачыну.
Навязала казу і ідзе па раллі,
Збірае зялёны бульбеннік,
Апошнюю траву,
Зялёную яшчэ,
І яблыкі толькі з лісцем.
Атава зялёная яшчэ.

Зарослы маленькі круглы Дземенчык, кругловіна. Ваўчэнскае возера. Кошчын гарадок ля возера, угоркі ля леспрамгаса (кадры). Даўгі Дземенец з чыста ўшацкім характарам, адразу не падступішся. Толькі небу адкрыты, толькі з вышыні відаць, з вышынёй шчыры. Нароўні толькі з вышынёй, як сапраўдная краса.

Даўгі Дземенец. Маладыя клянкі, адзін жоўты, другі зелянкавы, прасвечваецца возера. Лістоўніцы, а ўнізе ценем на лістоўніцы зверху пажар іголак, а спердзі ўжо ачарнены. Спытаць у леснікоў, кадры адкуль.

Курылянéцкае возера, дарога на *Пожанькі.* У воінскай часці, расказвае: «У выхадныя дні на лоб тэлевізару кладзем мокрую анучку — так разаграваецца. Вакол лес — ніякіх забаў болей».

І слова, і слава твае
Стаялі з ляснымі франтамі.
Ушацкае сонца ўстае
Вітаць партызанскіх ратаяў.
Віднеюць сляды капытоў,
Як маладзікова падкова.

---

[1] Гл.: Марыя Рыгораўна (31.10.79, Бараўляны, бальніца) // Вечалле. С. 129.

*13 кастрычніка, субота*
Суркову[1] — тэлеграму (80 год).

*Алегу Маціевічу*[2]
*на «Озере твоих очей»*

Пусть век стремит свой бег,
Перводичает в твисте, —
Желаю Вам, Олег,
Неторопливой кисти!

*** *Вясёлая касмехтыка.* Касмехтычны кабінет. Зніманне з дурняў масак.

Drmola (*чэш.*) — тарахцёлка, адсюль і Р. Я. Тармола?

*Быў бы лоб*

Зірні: у яго на ілбе
Не думка — муха пасецца.

*Р. Тармола*

Я сам сабе бог і кумір,
Быў дзёрзкім яшчэ ў камсамоле.
На замку трымаецца Мір,
А кінаэкран на Тармоле.

*1979*

*Толькі я*

Шаную асобу сваю,
У класіку ўклад мой вялізны,
Я толькі сябе прызнаю,
Ствараю свае тармалізмы!

*[1979]*

*15 кастрычніка, панядзелак*
11.00 — Вагнер (33-24-18).

*18 кастрычніка, чацвер*
Праца. Навум [Кіслік]. Шкляра [Шклярэўскі].

---

[1] Суркоў Аляксей Аляксандравіч (1899–1983), рускі паэт, грамадскі дзеяч. Герой Сацыялістычнай Працы (1969). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1946, 1951).
[2] Маціевіч Алег Мікалаевіч (н. 1947), беларускі мастак. Гл.: Алег Маціевіч (18.11–18.12.79) // Вечалле. С. 115.

*19 кастрычніка, пятніца*
22-84-54, з раніцы Шабан.

*20 кастрычніка, субота*
Фота — Натану! [Злотнікаву.]

*22 кастрычніка, панядзелак*
8.30 — Яша [Серпер]. Бараўляны. Абласная. Бурсаў.

*23 кастрычніка, аўторак*
Бурсаў. Навум [Кіслік]. Латышы. Лямпачкі.

*24 кастрычніка, серада*
Бурсаў. Валя [Тáрас]. Валошкі ад Зайчыка.

*25 кастрычніка, чацвер*
Аперацыя.

*28 кастрычніка, нядзеля*
Прыедуць Быкаў, Караткевіч.

*1 лістапада, чацвер*
[Прыходзілі] Рэм [Нікіфаровіч], Тáрас. (Анкета для Кубы.)

*2 лістапада, пятніца*
Цераз адно швы[1] [знялі].

*4 лістапада, нядзеля*
[Прыходзілі] Бубнаў[2], Семашкевіч[3], Караткевіч, Сяргей [Законнікаў], Савіцкі, Лукша, Вагнер, Зайчык.

Загадчык аддзялення Анатоль Андрэевіч, нам. Павел Паўлавіч, мой хірург заг. адд. Дзмітрый Зіноўевіч Хадасевіч.

*5 лістапада, панядзелак*
УВЧ[-тэрапія]. Звон Зайчыку, Круку, Лукшу.

---

[1] Гл.: Сон у бальніцы (3.11.79, Бараўляны, бальніца) // Вечалле. С. 59.

[2] Бубнаў Генадзь Фёдаравіч (н. 1945), рускі паэт, перакладчык. У 1977–1984 гг. рэдактар аддзела крытыкі і бібліяграфіі час. «Неман».

[3] Семашкевіч Рыгор Міхайлавіч (1945–1982), беларускі паэт, празаік, літаратуразнавец. У 1970–1982 гг. выкладчык беларускай літаратуры філфака БДУ. Кандыдат філалагічных навук (1970), дацэнт.

*6 лістапад, аўторак*

Выпіска.

*10 лістапада, субота*

Да Броўкі 12.00.

*11 лістапада, нядзеля*

Звон Лабанку.

*12 лістапада, панядзелак*

16.00 — да Броўкі. Арлену [Кашкурэвічу].

*13 лістапада, аўторак*

9 раніцы ў выдавецтва П. Броўка (у Лёлі даведку, калі грошы Броўку). 10.00 — Жычка. Нашча ў ЦК.

*** 25 экз. «Што сэрца праспявала»[1], 100 штук «Над родной рекой Березой»[2].

*15 лістапада, чацвер*

Караткевіч на пленуме па прозе. (Даклад Чыгірыні [Чыгрынава].) [Караткевіч:] «Балбоча, а я застуджаны, мне галава баліць». У Івангардзе прозы[3]. Явление холста народу (перста).

[Малюнак У. Караткевіча «Нясмелы леў», малюнак «Пегас» Н. Кісліка. 15.XI.79.]

*** «Сапраўды сказана ў старажытных: краіны ў перыяд росквіту раджаюць вялікіх паэтаў, герояў і каханкаў, а ў перыяд заняпаду — пылі шмат і начальства...» — Ул. Караткевіч.

*17 лістапада, субота*

13.10 — перадача пра Броўку.

*19 лістапада, панядзелак*

15.00 — машына, Броўке кнігі.

*** Броўка: «Хай даруе Рэм [Нікіфаровіч], што не павіншаваў. Мы ўдваіх браты Кірылы і Мяфодзія[4]».

---

[1] Броўка П. Што сэрца праспявала. Мінск, 1979.

[2] Бровка П. Над родной рекой Березой: Поэма. Минск, 1979.

[3] Абразы́ без абра́зы: Сяброўскія шаржы і эпіграмы: Маляваў Кастусь Куксо. Рыфмаваў Рыгор Барадулін. Мінск, 1985. С. 172.

[4] Кірыл (свецкае Канстанцін; каля 826 ці 827–869) і Мяфодзій (Методзій; каля 815–885), браты; славянскія асветнікі, стваральнікі славянскай азбукі, прапаведнікі хрысціянства. Першыя перакладчыкі богаслужбовых кніг з грэчаскай на славянскую мову.

*20 лістапада, аўторак*

Дзень нараджэння Жэні [Янішчыц].

*21 лістапада, серада*

14.00 — перадача па радыё.

*23 лістапада, пятніца*

16.00 — да Петруся Усцінавіча [Броўкі].

*26 лістапада, панядзелак*

Карэктуру Навуму[1] [Кісліку], Та́расу кнігі.

***«На выстаўцы Язэпа Драздовіча[2] я спаткаўся з Радзімай. Вялікі дзякуй. *Андрэй Тумас, вучань VI класа СШ № 13 г. Мінск*».

*28 лістапада, серада*

17.00 — Лечкамісія (з Правасудам[3] 1-шы Акцябрскі райком).

*** Даследчыкі-гістарыёграфы, паэзія — археалогія. Прывучалі муху правіл вулічнага руху[4].

*29 лістапада, чацвер*

Галіна Іосіфаўна [№] 863 (тэле) бухгалтэрыя.

*30 лістапада, пятніца*

16.00 — на Ушачы! *Ушачы.*

*1 снежня, субота*

16.00 — на Мінск. Звон Быкаву.

*2 снежня, нядзеля*

12.00 — да Караткевіча ў музей (Палац мастацтва).

Някляеў [тэл.] (328-я палата).

*Уладзімір Някляеў*

У вершах — маг,
На сцэне — бог,
Пасе паклонніц пільным вокам.

---

[1] Кислик Н. Первоснежье. Минск, 1980.

[2] Драздовіч Язэп Нарцызавіч (1888–1954), беларускі мастак, скульптар, этнограф, фалькларыст, археолаг, пісьменнік. Гл.: Споведзь калосся (27.11.79) // Вечалле. С. 73.

[3] Правасуд Уладзімір Рыгоравіч (1934–2010), беларускі пісьменнік. З 1967 г. супрацоўнік час. «Вожык».

[4] Гл.: Даведалася (8.08.81) // Мудрэц са ступаю. Мінск, 1988. С. 86.

Ідзе «Дарогаю дарог»
Масціта-камсамольскім крокам.

*[1979]*

*3 снежня, панядзелак*
Сустрэча Зайца. Аптэка № 7, Лідзія Аляксандраўна.

*4 снежня, аўторак*
На працу. Дылу[1] на дублікаты. 12.00 — да Броўкі.

*5 снежня, серада*
На працу. Фама [Караткевіч]. Звон Грачанікаву[2].

*Валянціну Тарасу*

Ані БелАЗ, ані «Ікарус»
Узняць не зможа ні адзін
Удзячных слоў, што варты Тарас,
Востраязыкі Валянцін.

*

Шчырасці расу трасу
Валянціну Тарасу.
Разумення тра́су
Ні на міг не трачу!

*

Кормило прозы, лиры парус —
Да здравствует Валюша Тарас!

*Алесю Петрашкевічу*[3]

З трыбуны застолля,
З прыязні амбона
Удач жураўля ў руку

---

[1] Дыла Я. Творы. Мінск, 1981. *Дыла* Язэп (Восіп Лявонавіч; 1880–1973). Беларускі пісьменнік, крытык, перакладчык. Быў рэпрэсаваны.
[2] Грачанікаў Анатоль Сымонавіч (1938–1991), беларускі паэт, перакладчык. У 1978–1982 гг. гал. рэдактар час. «Бярозка», у 1982–1991 гг. гал. рэдактар час. «Маладосць». Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1974), Дзяржаўнай прэміі БССР (1984).
[3] Петрашкевіч Алесь (Аляксандр Лявонцьевіч; 1930–2012), беларускі пісьменнік, драматург, сцэнарыст. Кандыдат гістарычных навук (1967). У 1976–1979 гг. заг. аддзела культуры ЦК КПБ, у 1979–1991 гг. адказны сакратар, нам. галоўнага рэдактара выд-ва «БелЭ». Заслужаны работнік культуры БССР (1975). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1976).

Жадаю Алесю, сыну Лявона,
Шаноўнаму земляку.

*6 снежня, чацвер*

12.00 — звон Яшу [Серперу].

*7 снежня, пятніца*

На працу.

*Вользе Іпатавай*[1]

Не пад густ ёй ні розгі, ні патака —
Падступіцца да вечнасці ўпрытык.
Ніву жне ў тры сярпы В. Іпатава —
Паэтэса, празаік, крытык.

*1979*

*8 снежня, субота*

* * *

Дрэвы голыя, быццам ісціна.
Голыя дрэвы праймае сорам.
Галубоў апошняе лісце
Дакружваецца над саборам.

*10 снежня, панядзелак*

[Атэлье] «Дожджык» [тэл.]. Праца. Паліклініка. Звон Яшу [Серперу], Бурсаву, Залатухінай.

*11 снежня, аўторак*

Праца. Радыё. Паліклініка.

*16 снежня, нядзеля*

*Палац спорту, «Песняры»[2]. Кладка брусаваная. Радыё*вісчанне.*

---

[1] Іпатава Вольга Міхайлаўна (н. 1945), беларуская паэтэса і празаік. У 1978–1979 гг. літкансультант газ. «Чырвоная змена».

[2] «Песняры» — беларускі вакальна-інструментальны ансамбль, створаны ў 1969 г. пры Беларускай філармоніі. Мастацкі кіраўнік У. Мулявін. *Мулявін* Уладзімір Георгіевіч (1941–2003), беларускі артыст эстрады, кампазітар. Народны артыст БССР (1979). Народны артыст СССР (1990). Заслужаны дзеяч культуры Польшчы (1980). Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1976). Гл.: Тэмпература радасці (1977–9.12.82) // Мудрэц са ступаю. С. 89.

*18 снежня, аўторак*

Здаць у набор Броўку.

*** П. Броўка: «Каб ты яму ў вока запаў».

Наконт кіпарысаў. Як адкупленне грахоў, ёсць дзе ў засені пасядзець.

Адкуль ушацкае «ў Нітаву хадзіць»? — г. Мітава Курляндскай губерні.

Старшыня слуцкага калгаса Герой Сацыялістычнай Працы: «Перадайце паклон майму калегу, які зрываў з пальмы вялікія яблыкі».

Гільен[1] назваў яго атлетам музыкі, бо атлет падымае вагу, а ён — публіку!

*20 снежня, чацвер*

[Аўтограф Віктара Стрыжака:]

*Рэха*

Рыгору Барадуліну

Ночы восеньскай шок.
Над прыціхлым сялом
Голас нечы ўзышоў
Векавечнасцю слоў.

Чую рэха былін.
Запавольваю крок.
Як мелодыі плынь,
Рэхам поўніцца кроў...

Цені вояў вакол...
Я маўчу — сам не свой.
Днее голас вякоў,
Звоніць памяці звон...

Пошчак пушчай прапах...
Гук ад продкаў — паслом.
Слых засмяглы прыпаў
Мой
Да вечнасці слоў.

*в. Заражжа*

*21 снежня, пятніца*

Самалёт на Маскву (не ўзляцеў!).

---

[1] Гільен Нікалас (Гільен Бацiста Нікалас Крыстабаль; 1902–1989), кубінскі паэт і грамадскі дзеяч. Лаўрэат Міжнароднай Ленінскай прэміі (1954). Гл.: Запрашэнне Нікаласа Гільена ў Беларусь ([1982]) // Амплітуда смеласці. С. 80.

*22 снежня, субота*

У Элькінда білет на Маскву.

*23 снежня, нядзеля*

*Масква.* Ваня [Бурсаў]. Грэйдзінг[1].

* Tres, tres, seis, seis, siete, deme, por favor, ciudad [33-66-7, дайце мне, калі ласка, горад]. Тацяна Мікалаеўна, Юры Леанідавіч. UNEAC[2] [тэл.], 17-я вул. 351 раён Vedado.

Першы раздзел для нататак можна і назваць «Ушачы — Гавана».

Дзяжурны па пасольству.

*24 снежня, панядзелак*

[Аэрапорт] Шарамецьева. 7.40 — на Гавану! 21.45 — *Гавана.* Hotel Habana Libre. Каляды!

* Шарамецьева. Сустрэча ўшацкага земляка[3], які едзе чытаць лекцыі ў Камагуэйскі ўніверсітэт (матэматык). Сцюардэса: «Ваша выратавальная камізэлька пад крэслам. Пры дрэннай бачнасці свістком карыстайцеся». Дэманструе бялявая дама. Здаровая, як Кошка Ленка[4].

Ляцім, даганяючы дзень, які ўцякае (учарашні дзень), ляцім на мяжы дня і начы. Ззаду дзень, уперадзе ноч[5]. Ляцім прадстаўнікамі дня, калегамі світання. Пад хмарамі скандынаўскія гарадкі, як далёкія зарніцы, сполахі. Ляцім над акіянам (перадаю паклон ад Пімена [Панчанкі]). Цёмна. Злева палоска світання.

Гадзіна дня па хятняму часу, у ілюмінатарах ноч, унізе гурбы хмар і злева палоска досвітку. 14.00 на вышыні 10 тыс. м, за бортам –56°. Унізе халодна-цёмныя хвалі Атлантыкі праз бялявыя хмары. Злева патроху падымаецца дужа чыстае сонца. Як Афрадыта выкупаная. Гурбы хмар пачалі бялець і святлець. Пад хмарамі ўзгадваецца рух хваль, як рух цела знаёмай жанчыны пад лёгкай вольнай вопраткай, пад вольнымі ўборамі.

Над Канадай. –1°. Рака белая ў лёдзе, ляскі, лясы, як на Ушаччыне.

[*Канада, аэрапорт і г.*] *Gander.* У чакальні фота з бярозкамі — і тут славяне сумуюць. [Востраў] Ньюфаўндленд. У кіёсках усё, у кішэні ў нас нічога. Мардаты бармэн грэбліва пазірае на нас, бо адчувае, што неплацежаздольныя. Гандэр — Гавана 4 тыс. км, з вакна аэрапорта [бачна] возера, як Чаравецкае, хоць ты пайдзі ды паглядзі, дзе ракі зімуюць.

---

[1] Грэйдзінг Юрый Леанідавіч, супрацоўнік Замежнай камісіі СП СССР. Гл.: Краявід з гаванскай пальмай (26.12.79, Гавана) // Вечалле. С. 311.

[2] Сацыяльная, культурная і прафесіянальная арганізацыя пісьменнікаў, мастакоў, скульптараў, музыкантаў і артыстаў розных жанраў (Куба).

[3] Крахотка Валерый Васільевіч, выкладчык БДУ.

[4] Сяброўская мянушка А. Чарняўскай, якая некалі жыла ў кватэры Барадуліных.

[5] Гл.: На лініі дня і начы ([1980]) // Вечалле. С. 320.

Бог з ім з такім прагрэсам, дзе на кожным кроку адчуваеш: ты павінен плаціць, ты павінен мець грошы, ты настолькі чалавек, наколькі ты з грашыма. Мы хоць голыя, ды вясёлыя.

Адрульваем. На фоне амаль ушацкага прызімку, як дэкарацыя, глядзяцца лацінскія літары Gander. Дужа ж падобна ўсё на хатняе, і нават паласаты рукаў-ветравік, як у Аўдошкі Генкі на нашым [ушацкім] аэрапорце, толькі чырвона-белы.

Асфальтавае поле ў белых заносах снегу, як Ваўчэнскае возера, што толькі стала нарэшце, чакаючы зімы. Маленькія кавалачкі парыжэлай травы, нібы заберагі.

Па дарозе рыфмы самі лезуць: *Гавана — схавана, цкавана; з цёмнымі — сцёгнамі; планетасцёгная мулатка — немаўлятка; пальмы — амаль мы.*

Унізе чародкі каралавых рыфаў праз аблокі цікава глядзяцца. 20.45. Багамскія астравы. Вада колеру руні, белая кайма прыбою каля каралавых выспаў. Выспы, як размытая палітра — падбірай, які колер. Кавалак нейкага беламураванага горада, праз белыя аблачыны з німбам прыбярэжнай лініі. Плыткае прыбярэжжа адбівае далікатна неба, а глыбіня паглынае, і таму цёмная. У зялёна-блакітным моры парэпаныя астравы, як карта аднакалёрная, альбо хто распяў сушыць шкуры вычварных звяроў.

*Куба.* Рунь трысняговў. Белыя ствалы каралеўскіх пальм, і над востравам кучаравыя рахманыя белыя аблокі, нібы зацвілі сады[1].

Радасныя вочы маладых будучых лётчыкаў. Квадраты чырвонага ворыва. Чырваназём, як на дзіцячых малюнках. 27°, мясцовы [час] 13.50, наш 21.50. *Гавана*! Мытніца. Трасуць мексіканцаў. Доўга трансмісія не выдае майго чамадана[2]. І наконец мы на вуліцы. Як вялікае свята, сустракае радня сваіх. Курсантаў-авіятараў ніхто не сустрэў. Як курортны наш гарадок. Аэрапорт Хасэ Марці.

У аўтобус убіліся. Машыны ўсіх марак. Па тратуары стары вядзе двух якаў. Рэвалюцыя Фідэля на [неразб. 1] маладая, едуць у машыне рабочыя. Вецер падвявае кашулі — голыя смуглыя залішне спіны.

Каляды. Тут +27°. Маладзік зусім нязвыкла стаіць. 2311 нумар. З балкона ўся ў агнях Гавана, былы арыстакратычны раён.

Забяспечаная нястачамі,
Ведаў прагнучы,
Галадае
Для наступных дзён

---

[1] Гл.: Пытанні з крыла самалёта ([1980]) // Вечалле. С. 289.
[2] Гл.: Omnia mea mecum porto (29.12.79, Гавана) // Тамсама. С. 306.

Нерастрачаная
Рэвалюцыя маладая[1].

*25 снежня, аўторак*

Знайсці пасольства, перадаць Дурдыеву[2] ліст. Начное мора.

* Прачнуўся 2.30. Не ведаю, колькі гэта — дня ці ночы. Які дзень? Прыгадаў, што другі дзень Каляд. Неяк знаёма прыцемна. А гэта малы дожджык дый накрапáе. Справа акіян. Зліваюцца смуга, хмары, далягляд. Нейкая аўдавелая пасля ўчарашняй начной зыркасці Гавана. Плыткая, пляскатачырвонадахая Гавана. Шумныя вуліцы. *І на чырвонае святло ідуць няўсцерпныя гаванкі — хаванкі.*

Мулатка чхае ў далонь і потым выцірае другой, пры гэтым правярае чамусьці цвік у абцасе. Ідуць двое. Ён на працу, яна вымае цыгарэтку, цалуюцца, ідзе далей, цыгарэтку ў рот.

Страшэнны гвалт у дзіцячым садзе. Піянерскія гальштукі добра пасуюць да смуглаты. Малы ў двары стараецца з малатком — разбівае нейкія плады і тут жа ласуецца. Не чакае імпарту!

У расшчэліне дарожкі хоць адна знаёмая расліна — дужа лапушысты трыпутнік. Атлантычны б'е ў бераг у лютасці. Салёныя пырскі далёка на губах чуваць. Лозунгі і транспаранты на сонцы хутка выгараюць — толькі справы трывалыя. Рэвалюцыя маладая не абрасла барахлом. Фідэль проста Фідэль, без тытулаў, без аксельбантаў, у вайсковай форме.

Escuela primaria — пачатковая школа. Перапынак. Гэвалт страшэнны. Відаць, не хочуць ісці ў клас. Хто каго перакрычыць, настаўніца ці вучні. Нібы ў гэтым і ўся навука заключаецца.

У дзіцячым садку. Малы глядзіць чорнымі вочкамі з-за сеткі. Крываногі. Усе бегаюць, смуглыя, чорныя, светлаватыя. Няня чорная ўся, крычаць.

Цікавыя дрэвы, накшталт фікусаў лісце, ствол перавіты, як языкі полымя. Зялёналістыя кастры. У скверыку скамеечкі разгароджаныя па тры дужа шырокія месцы, аж гэта для дваіх, і шчыльней сядзець, і ніякіх праблем. Нават верабей гучыць неяк паважна, хоць дабаўляй «сіньёр» ці «дон», gorrión. Варона і ў іспанскай мове каркае corneja, a varón — мужчына. Пальмы паднялі ўгору рукі і расслабілі даланю.

*26 снежня, серада*

Чакаць! Звон Дурдыеву. 15.30 будзе машына на Teatro Mella. 20.15 машына.

* Ці 26-е? Дзе ноч, дзе дзень?

[1] Гл.: Рэвалюцыя — маладая! (5.12–23.03.80) // Вечалле. С. 292.

[2] Дурдыеў Тахір Бяшымавіч (н. 1937), савецкі дыпламат. Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол СССР (1995).

Costilla — рабро, размоўнае — жонка.

З балкона гасцініцы Гавана па-ранейшаму светлая. Мора патроху супакойваецца. Пад пальмай гарыць агонь — хоць нанова адкрывай востраў, сівізной вякоў дыхнула. На дах выйшаў беленькі сабачаня. Прыняў дзелавую позу. З балкона ўбачыў Hotel Colina, там мае спадарожнікі спыніліся. Пайшоў, можа, убачу каго, — няма. Побач універсітэт. Рэвалюцыйныя лозунгі.

Прыйшлі хлопцы з UNEACa, маладыя, сімпатычныя. Адзін гаворыць па-руску. Відаць, зрушыцца з месца справа. Абед наверсе. Шведскі стол, далібог, не бядней, чым у Стакгольме. Хоць тугавата Кубе, але для гасцей (шмат з Амерыкі эмігрантаў) паказвае і аддае шчодра.

Акварыум. Чарапаха лятае ў вадзе (*і болей нідзе, амар ад зямлі да хмар*). Лангуст з метровымі вусамі, з нары не возьмеш ніякімі спакусамі, як ліст фікуса з адным вокам. У чарапахі пад жыватом акулкі. *Акварыум — шматварыум.* Як у зялёным мосе замшавая нібы з хвастом пляскатым гадзюка (caji [рыба] пазяхае ці чакае ахвяру); sábalo [бешанка] з ватэрлініямі на спіне; cubera [рыба] з адвіслай сківіцай, як у прызідыуме СП класік.

Без таліі, не спартыўны загадчык пратакольнага аддзела UNEACa Хорхе Фанега. Крыху ведае чэшскую мову, слова беларускае, слова польскае, а ўсё ж нешта разумелі.

Пайшоў вячэраць, заказаць cena [вячэру], з тых часоў, як учора асвоіў слова carne [мяса], усё пайшло лепей. Афіцыянтка паясніла, што ёсць гуляш. Мяса болей, чым у нашым, разы ў тры, рыс. А то ўжо хацеў папрасіць gallina [курыцу]. Чамусьці cafè negro [чорнай кавы] няма другі раз, а чай — tè далі, як у нашых сталоўках падаграваны, затое дзве палавінкі лімона, думаў, дабавяць, адну пакінуў — не браць жа з сабой у тэатр.

Калі пад'еў, на трэці дзень заўважыў, што на паверсе гараць на сценках лямпы ў выглядзе самбрэра, нібы хто павесіў на сценку і забыўся. Так і чакаў, што гаспадар спахопіцца, што галаву забыўся.

Conjunto folclórico nacional de Cuba [Нацыянальны фальклорны ансамбль Кубы]. Фальклорны ансамбль выбівае рух кожнага саліста. Куба танцуе босая, а грук, як ад абцасаў, і змаўкае сыты смех амерыканізіраваных кубінцаў і чыста амерыканцаў. Калі ў дзеравяшках — гул і трэтар, ці рух ёй выбівае плечы, ці яна атрэсці хоча рытм.

Толькі ў Мінску слухаў калядкі «Песняроў», а тут Каляды, маскі (амаль агонь жывы выліты на актораў) з рагамі, з зоркай, дух нейкі увесь у стужках — у святле аж гарыць, згарае ў скоках.

Артысты самі настолькі ўваходзяць у смак, што не хочуць сыходзіць са сцэны, ідуць да гледачоў, кідаюць канфеці — шкада, на мяне ўжо не кідаюць. Пасля зноў на сцэну. Сцэна ў фінале ўся ў стужках, нібы актораў,

танцораў габляваў рух — сапраўды стружку здымаў. *Tarjeta, tarjeta [*картка, хутчэй, запрашальны білет] — *большая сила эта!*

*27 снежня, чацвер*

12.00 — UNEAC (на сваёй машыне прывёз Adolfo Marti).

* На мяса раніцай забудзь, Куба!

Малы падстрыжаны, і капронавая панчоха на галаве.

Усім кварталам крычаць, каб немаўлятка ўсміхнулася[1].

Вуліцы San Lázaro, San Martín, Рафаэля, Neptin [?], Jesús Peregrino. Усе спяшаюцца да мора, як на спатканне. Прадавец-разносчык крычыць, рэкламуючы часопіс мод, попыту няма. Наіўна.

Каляды. Маленькі з маленечкай ў правулку галапопенькія, у адных апранашачках-разлятаечках, шлёпаецца голай попкай на цвёрды камень ганку, аж гул ідзе. Каб што!

Francisco Matos — малады і сімпатычны шафёр UNEACa. Хорхе Фанега, сустрэча ў UNEACy, я ім патрэбен як 5-я спіца. Перакладчыца крыху лепей, чым я іспанскую, ведае рускую. Elena Rosell, толькі закончыла Гаванскі ўніверсітэт. Абедаем. Кажу, што не п’ю. Так спакойна, са спачуваннем: «Гэта кепска». Учора хавала дзеда. Бацька ў Конга. Праграму мне зрабілі аблегчаную.

Вечарэе Гавана. Пасля 6-ці чамусьці сёння надзвычай цёмна ў параўнанні. Усе спяшаюцца, відаць, з працы, з установ. Знайшоў кіно, сумесна Мексіка — Куба — Францыя, на касе cerrado — зачынена. Чамусьці ў галаву ўбілася рыфма *Бацічэллі*[2] — *Завячэлле*.

Хоць ноччу ды купіў урэшце mapa [карту] Гаваны. А то як кот у мяху. Un peso [адзін песо], і ўсяго страху. Яшчэ застаецца 70! Магу купіць 70 карт Гаваны і падараваць усім сябрам.

*Анатолю Вялюгіну*

Ніхто не можа пасварыць нас, даўніх.
Любоў да Вас — адна мая віна.
У гонар Ваш, шаноўнейшы настаўнік,
Гатовы выпіць Вечалле да дна.

*[1979]*

*28 снежня, пятніца*

10.00 — Editorial arte y literatura [выдавецтва «Мастацтва і літаратура»] (Рауль Луіс). Пошту ў Мінск.

---

[1] Гл.: Раніца (28.12.79, Гавана) // Вечалле. С. 298.
[2] Баттычэллі Сандра (сапр. Алесандра Філіпэпі; каля 1445–1510), італьянскі мастак.

* Ноччу сніўся Янка Сіпакоў[1], з пакрыўджаным носам, па-правінцыйнаму ганарысты. Нешта даказваў, крыўдзіўся. З чаго б гэта?

Вывучаю карту. Дзякуй Юрыю Леанідавічу [Грэйдзінгу] за два слоўнікі. Без іх быў бы 100% туркам, а так на 99%. А то ўчора гляджу ў меню, напісана tortilla (тут і згадаўся «Залаты ключык»[2], а раптам з чарапахай што?), аж гэта бяскрыўдная яешня.

Малая гады 2–3, з такім жа брацікам, з мамай, педыкюр і манікюр, і наманікюраным пальчыкам усё роўна смачна лезе ў нос.

Дужа добра два клічнікі — злева і справа, для ўзмацнення.

З малымі не чыкаюцца, шлепака, па мордачцы, зашчэміць галаву ў ногі, а ён па падлозе качаецца, а не ўцячы нікуды.

Ласара Э. Ласо расчуліўся, калі глядзеў фільм В. Быкава. Выдаецца Быкаў, Пушкін, Лермантаў[3], Карпаў[4], Багамолаў[5], А. Талстой «Гіпербалоід [інжынера Гарына]», Дастаеўскі[6]. Выдавецтва «Мастацтва і літаратура» — Editorial arte y literatura. Людзей мала, яшчэ [не] на ўсю нагрузку [працуюць], пасля будуць расшыраны на аддзелы і г. д. Рауль Луіс вядзе паэзію ў выдавецтве, быў культурным прадстаўніком ў Маскве, двойчы быў у Мінску, успамінае Хатынь, Плошчу Перамогі. Падарыў мне анталогію маладой паэзіі Кубы.

Elene падарыў набор сурвэтак для чаю, тлумачу, што гэта лён беларускі. Яна паясняе — гэта лепей, чым нэлён (нэйлон мае на ўвазе), атрымліваецца смешна і правільна: лён лепей, чым не-лён. Але матрунцы была страшэнна ўзрадавана, усю сваю радню прасіла прывезці матрунку, а яны забываліся ў апошні момант. Бацька яе консулам у Конга. Па радыё ўвесь час музыка, у перапынках падкрэслівае, гаворыць: «Куба — вольная тэрыторыя Амерыкі».

Стамілася Elena, на хвіліну прылегла на канапу, ужо хутка 4, а 15-й павінны быць у музеі, а так смачна заснула, толькі чорным носікам сапе. Крыху старэй за Ілонку. Шкада будзіць, тым болей Ілона недзе спіць, у нас 0.5 ночы.

---

[1] Сіпакоў Янка (Іван Данілавіч; 1936–2011), беларускі паэт, празаік, перакладчык. У 1973–1989 гг. заг. аддзела мастацтва, крытыкі і бібліяграфіі час. «Маладосць». Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1976). Заслужаны дзеяч культуры Беларусі (1997).

[2] Кніга для дзяцей «Залаты ключык, альбо Прыгоды Бураціна» А. Талстога. *Талстой* Аляксей Мікалаевіч (1882–1945), рускі пісьменнік. Акадэмік АН СССР (1939). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1941, 1943, 1946, пасмяротна).

[3] Лермантаў Міхаіл Юр’евіч (1814–1841), рускі пісьменнік.

[4] Карпаў Уладзімір Васільевіч (1922–2010), рускі празаік. Герой Савецкага Саюза (1944). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Узбекістана (1970), Дзяржаўнай прэміі СССР (1986).

[5] Багамолаў Уладзімір Осіпавіч (1926–2003), рускі празаік.

[6] Дастаеўскі Фёдар Міхайлавіч (1821–1881), рускі пісьменнік, публіцыст, крытык.

У рэстаране шведскі стол. Нарэшце даведаўся, што чырванаватая — фрута-бомба, а нешта белае парэзанае, як рэдзька, пытаю ў Eleny, чую адказ — нешта як дыня, аказалася piña, альбо anana(s), якія буржуй дажоўвае. І я, сын цесляра Івана Барадуліна[1] і мамы Акуліны Андрэеўны, 28 снежня выбіраю яшчэ — ананас ці апельсін і якім сокам запіваць mango orango.

Пад вечар і наогул у дзень вузкіх вулачак для пешаходаў амаль не існуе — яны як частка двара, дома, тут як у нас у вёсцы на прызбе сядзяць, у асноўным стаяць, і апошнімі навінамі дзеляцца. Днём трохі цішэй, а пад вечар у кожным кафэ, у кожнай забягалаўцы (хай даруюць таварышы, бо не ведаю, як па-іспанску такія ўстановы) пяюць, п'юць.

Аднёс на пошту ліст Пімену Панчанку[2]. Ён дужа ўзрадваўся ў Мінску, калі сказаў яму, што паеду на Кубу.

*29 снежня, субота*

12.00 — Elena. Artes Decorativas, Museo Napoleónico[3] [Музей Напалеона]. 20.30 тэатр.

* Ранішняя Гавана (у нас ужо 4 гадзіны дня) у сінявай смузе. Мора крыху ружавата-бруднае. У глыбіні горада ліхтары вуліц у вільгатнаватай смузе пабліскваюць, як дыяменцікі інею, як ранішні, настылы, крохкі, дрыгатлівы іней. Хоць гэта крыху падобна на снежань, на прыход зімы. Што там дома, адліга ці мароз? Усё пераблыталася. Смецце змятае дворнік ля гасцініцы, старанна правяраючы, ці цэлыя бычкі, — арфуе.

Ледзь знайшоў галерыю Гаваны, але яна зрання зачынена. Пакуль шукаў, аглядзеў помнік Новаму свету. Усе жанчыны — барэльефы — грудастыя, з аголенымі цыцамі. Дзе гніюць зараз натуршчыцы, а іхнія грудзі цалуюць вятры. Разняволеныя грудзі.

На аўтапрыпынку падпалкоўнік трымае ў руках «El arpa y la sombra» Алеха Карпенцьера[4].

Рэдка ўбачыш галуба. Крошкі хлеба на балконе так і праляжалі некалькі дзён — не кранулі галубы міру. Каты ў дварах, як і ў нас, шмат запушчаных, брудных, чорны больш-менш прычапурыўся.

*Музей дэкаратыўнага мастацтва — Artes Decorativas*. Спачатку [вырабы] з бурштыну, цікавыя з ракавін і ладдзі, і лілеі. Асабняк цукровага мільянера. María Luisa Gómez Mewa Conoesa O'Revilla d'Camaeco, багатыя пакоі ў французскім, японскім, кітайскім стылях. Асабліва багатая калек-

---

[1] Барадулін Іван Рыгоравіч (1908–1944).

[2] Гл.: Навагодняе пасланне Пімену Панчанку (28.12.79, Гавана) // Вечалле. Мн., 1980. С. 319.

[3] Напалеон I (Напалеон Банапарт; 1769–1821), французскі імператар (1804–1814 і 1815).

[4] Карпенцьер Алеха (сапр. Карпенцьер-і-Вальмонт; 1904–1980), кубінскі пісьменнік, грамадскі дзеяч, дыпламат.

цыя вырабаў з агату, са смарагду (вось бы Зайчыку хоць кавалачак). Карціны — падробка. Вырабы Індыі (багі ў асноўным) і Японіі цікавыя. Увогуле гэта ўмоўна названа музеем, проста багатая віла, багатая калекцыя.

*Museo Napoleónico*. У асабняку італьянскіх мільянераў (асабняк дзівосны) калекцыя нейкага вар'ята, што сабіраў усё звязанае з Напалеонам. Чаго там толькі няма, хіба што конскіх валасоў з хвастоў коней, на якіх ездзіў Напалеон. Бітва [пры] Ватэрлоа — рэпрадукцыя. Чамусьці нічога няма пра паход у Расію, пра Бярозу, дзе рукавіцы згубіў. Тры паверхі асабняка. Раскошная мэбля, нават нажы для разразання кніг з галавой Напалеона — тронкі.

Ішлі каля ўніверсітэта. Аказваецца, Elena толькі будзе на лета паступаць, яна закончыла сярэднюю адукацыйную школу. Ёй 25, дачцы 7 год, муж працуе ў аддзеле камунальнай гаспадаркі, наколькі я зразумеў. Начальнікам нейкім. Яна сказала, што муж пахваліў manta [сурвэтку] з лёну (набор для чаю), шакаладку, па-мойму, з'ела ўсю сама, малой не занесла.

Дужа пацешна, як негрытутачкі падводзяць сабе на шчоках румянак, толькі на скулах, нешта накшталт яечні пулятай атрымліваецца, калі зірнуць збоку на такую касметыку.

На таксі плата 4 кварталы 10 сэнтаво, блізка да нашай старой цаны. Гляджу на ўсіх гэтых турыстычных лацінаамерыканцаў і з халадком пад лыжачкай думаю, што дужа смуглее планета. Белыя першапраходцы ў чорнай начы тубыльцаў пацямнелі самі. А белай расы мала, каб абяліць смуглату ўсю. Адна наша Азія чаго варта. Сапраўды, М. С. Хрушчоў[1] прыгаворваў: белого кобеля не отмоешь…

Поўны шакалад. Чакаю сваю так сказаць перакладчыцу. Гэвалт страшэнны — усе ў рэстараны і ў бары валяць, гэта, пэўна. Перадновагоднія балі — зрэдку хто ў бальнай вячэрняй сукні, хто ў чым. Дзіўнавата, перад Новым годам каб паліто, каб футра, як у Сочах у спякотны сезон у кабак. Аднаго нейкага фраера бачыў з гальштукам, і той нёс гальштук у руках незавязаны, маўляў, па-еўрапейску.

Неабавязковасць кубінская жахлівая! Гэтую смаркуначку чорненькую прачакаў 50 хвілін. Не з'явілася. Як панну белую на спатканне чакаў. Смешна і непрыемна. Калі такімі тэмпамі пойдзе ў іх неабавязковасць, хто ж працаваць будзе? Успамінаю, у Маскве за «круглым сталом» ўсе сядзяць чакаюць, а кубінцы з'яўляюцца праз гадзіну. І гэта як і трэба.

Ноччу сніліся Ушачы. Хелемскі прыехаў ва Ушачы. І так добра дома. Шкада было прачынацца.

---

[1] Хрушчоў Мікіта Сяргеевіч (1894–1971), савецкі партыйны і дзяржаўны дзеяч. З 1953 г. Першы сакратар ЦК КПСС і адначасова ў 1958–1964 гг. старшыня Савета Міністраў СССР.

*30 снежня, нядзеля*

10.00 — парк Леніна.

* 1924 Polonia, 1928 no USSR, padre [бацька] Dombrowki Farber, cerca de [побач] Grodno, madre [матка] Kobrin cerca [de] Brest Litovsk, Rowinska. New York 1958, Brooklyn college. 1920, transporte malo [дрэнны транспарт], poeta bielorruso [беларускі паэт].

Сняданне ў кафэ пачалося з вывучэння іспанскай мовы, дарыў сальнічку, не там націск у слове árbol. Сусед паправіў. Прафесар сацыялогіі (англійскую і яўрэйскую ведае), на цёткі Фіры сына падобны. Калі пачытаў яму Zunele, nu, wer anschlofn[1], — расцвіў. Ведае Шолама-Алейхема[2]. А літаратуру камсі, камса[3].

Нарэшце едзем у парк Леніна. Гэта за горадам. (Elene сказала, што тэмпература, таму ўчора не была — муж раўнуе.) Па дарозе козы чорныя, піянерскі лагер імя Чэ Гевары. Атракцыёны. Малыя чарцяняткі плывуць, лятаюць на сланах. Слон знік, але тут камуфляжныя праз колькі пакаленняў вярнуліся, хоць на штучнага. Смяецца будучае Кубы ў парку Леніна ў Гаване, б’е з каменя вада жывая, можна чарцянятам папіць, і неслухмяную чупрыну змачыць, і грабянцом спакорыць. А побач піянерскі лагер імя Чэ Гевары. У піянерскім лагеры самалёт. У парку атракцыёны, трубіць адбыццё паравозік.

Блакітныя азёры, малыя галяком сядзяць — ім добра. Рака ахалодна, і пальмы — скрозь! Сярод пальмаў і экзатычных дрэў А. С. Пушкін, побач маладая pino [сасна] пасаджана, дужа доўгія вейкі, як у моднай дамы. Бюст на прыродным камені, ніякіх подпісаў — пэўна вядома, што гэта Пушкін. Амаль на прарадзіму вярнуўся[4].

I Bienale de artesanía [1-е біенале народных промыслаў], Amelia Pelaez[5]. Чаканка, совы глядзяць, карункі, шкло, зноў бурштын, сумкі са скуры і як заўсёды ганчарныя вырабы.

«El arroyo de la sierra me complace más que el mar» Хасэ Марці — аплікацыя на матэрыі[6]. Цікавыя саламяныя, як лапці, толькі без заднікаў, як мадэрныя, тапці. Капелюшы з саломы цікавыя.

Амфітэатр у камені высечаны, месцы зручныя, зараслі травой рады, амаль муравой, амаль зялёнай (гэта ж Новы год ужо), камяні пад нагамі адшліфаваны. Сцэна на блакітным азярку, якое, відаць, зроблена з ракі, справа пальма, верх японскай арыкай засаджаны, акацыі, як у кіно. Як

[1] Сынок, ну, засынай (*ідыш*).

[2] Шалом-Алейхем (сапр. Рабіновіч Шалом Нахумавіч; 1859–1916), яўрэйскі пісьменнік.

[3] Камсі, камса — так сабе ( *фр.*).

[4] Гл.: У парку Леніна ў Гаване (31.12.79–202.80, Гавана — Мінск) // Вечалле. С. 304.

[5] Пелаэз дэль Касаль Амелія (1896–1968), кубінская мастачка.

[6] «Горны ручай мне падабаецца больш за мора», — радок з песні «Гуантанамера» на словы Х. Марці.

тэлеграфныя слупы, на даляглядзе пальмы, слупы, на якія ўпала зверху сена з высокіх стагоў.

У акварыуме на сцяне гумар — маленькая чорненькая чытае па складах. Два кракадзілы, адзін у вадзе, як гусеніцы трактара.

[Аўтограф:] Pedro Meyer, Apartado, 10-670, Mexico, 10, D. F. Tel. Старшыня Мексіканскага савета фатаграфіі. Пра яго ў часопісе «Куба», № 7/79, с. 4.

Па дарозе ў парк Леніна муж Eleny Геордано (здаецца, так) вылез, і мы ў машыну ўзялі дужа сімпатычную малую Бабарыту, пляменніцу Еленіну, дачка брата Геордана. 8 год, белатварая, чорныя прыгожыя валасы, у 2-гі клас ходзіць. Пытаю, гэта ад першай жонкі мужа? — пярэчыць. Толькі некультурныя людзі маюць некалькі жонак (я разумею — гэта каханак). Муж раўнівы. Адразу відаць. Савецкі мастак хацеў намаляваць Elenu — забараніў, такі смуглы Атэла.

З намі ездзіў прэзідэнт фотаклуба Лацінскай Амерыкі Педра Меер. Абяцаў даслаць фота. Я паабяцаў яму «Бераг белых буслоў». Ён крыху ведае нямецкую мову, так-сяк зразумелі адзін аднаго. Калі хадзілі па парку Леніна, ён толькі паўтараў fantástico, а я дабаўляў: märschen![1]

Прыехалі. Малая папрасіла — два кавалачкі мыла ў умывальніку ляжала. Малыя ёсць малыя, падабаецца маленькае ўсё.

Выйшаў на балкон першы раз у гэтым годзе, ад яго застаўся адзін дзень, змог бы загараць. Зняў чувашскую сваю распашонку і падставіў спіну сонцу. Сапраўды фантастыка 30 снежня!

Успомніў: раніцай па вуліцы ішоў гаванец у гадах, ён нёс гітару. Не, ён не нёс яе, ён злёгку прытрымліваў, не, ён не прытрымліваў яе, ён ледзьве кранаўся яе, на ветры трымаў, далікатна вёў падручкі як каханую, як у апошні год кахання, калі чалавек зразумеў, што ён кахае і ўжо каханне гэтае неўзабаве страціць. Так бываюць апошнія ясныя дні перад зімой, калі на момант усё ясна, усё празрыста, яшчэ цёпла, а золь ужо блізка, дыханне яе не чуецца, а адчуваецца.

Гаванец ішоў з гітарай. Дакладней, гітара дазваляла ісці з ёй, суправаджаць яе, берагчы ад абразлівых слоў і вачэй, дазваляла апошні раз паслухаць яе. Гаванец ішоў з гітарай.

Мне згадаліся піжоны зялёныя, якія на каляровых ашыйніках цягнуць гітару, перацíснуўшы горла ганарліўцы.

Гаванец ішоў з гітарай. Гітара адчувала, што ён затаіўшы дыханне пры ёй ідзе. І гукі пяшчотныя самыя, гукі тугі і адчаю пераселі ў горле гітары.

---

[1] Казка (*ням.*).

Зайздрошчу табе, гаванец з гітарай![1]

У скверыку двое малых б'юцца на зялёных капронавых шпагах. У меншага ўперадзе ніводнага зуба, толькі з края два, мяняюцца. Заядла. Па-іспанску. Будучыя рыцары[2].

На версе пальмы ў зеляніне два маэстро estornino — толькі фрак чарнейшы — шпак. У снежні перад Новым годам.

Знайшоў, нарэшце, дакладней, адчынена была Galería de la Habana — невялічкія два пакоі. Патугі на экспрэсію нейкай compañera [таварыша]. Размытае фота, негатыў і зноў нармальна. Палітыкі трошкі і трошкі рэкламы дыдактычнага парадку.

Зайшоў у кіно. Un peso, і сядзі хоць цэлы дзень, прыцемна, дзе хочаш, там і сядзі. Гэта на еўрапейскі лад. Відаць, яшчэ з часоў да [абарваны сказ].

Фільм itala-іспанскі, пірат Блэкі ці нешта накшталт. Серыйны баявік. Добра і стандартна-масавы мардабой. Дзве лэдзі для антуражу. Пасля цікавыя дакументальныя кадры пра кубінскага самадзейнага кампазітара, з гісторыі рытмічнай музыкі Кубы. У прыватнасці, ча-ча-ча. Віртуозы. На адной назе таўсцяк накшталт Ігара Краўчанкі, прысядае на адной назе, кладзе самбрэра на зямлю, пасля выкручваецца як уюн і становіцца на рукі і галавой у самбрэра і зноў ужо адбівае ча-ча-ча ў самбрэра. Цікава: адзін аднаго аклікаюць, клікаюць, гук, як сабаку ці парася.

Слова compañero настолькі яшчэ свежае, як хлеб, з асаблівай асалодай кожны вымаўляе, паўсюль толькі і гучыць.

*31 снежня, панядзелак*

З землякамі Новы год. Кіно.

* Яшчэ 79-ты. 8.30. У нас недзе 18.30. Мае зайчыкі каля ёлкі скачуць. Тут замест ёлкі, казала Elena, ставяць сасну. Як гэта выглядзіць, не ведаю. Кубінская гасціннасць цікавая. Тархету [картку] ў зубы і сядзі ў гатэлі. Хто ракетчыкам, хто тархетчыкам. Не славяне. Не пабялеюць!

Мора зліваецца з небам, размыта-блакітна-шэраваты колер, у глыбіні Гаваны нешта накшталт туману, паступова знікае. Прыцішанасць перадсвяточная. У двары машына. Грузяць нейкія чырвоныя скрынкі. Вышэй за свой рост кідае, і скрынкі становяцца роўна, як касеты. У перапынку грузчык адбівае ча-ча-ча.

Палез у прыскрынак па новы блакнот. Парасон Івана, Цярэшкавага сына [Бурсава], так нераскрыты ні разу, жалобна чарнее.

---

[1] Гл.: Настрой (30.12.79, Гавана) // Вечалле. С. 299.

[2] Гл.: «Зялёныя капронавыя шпагі...» (30.03.80, Каралішчавічы) // Тамсама. С. 318.

Некалькі разоў чамусьці ў галаву лезе эпізод у Швецыі. Стакгольм. Рэстаран. Шведскі стол. Спакойныя турысты корпаюцца ў стравах. І раптам голас: «Ваня, подай мне солёный огурец» — (і ўсё окаючы!).

Дарэчы, у кіно ў дакументальных кадрах і кампазітары асветлены, і Алехо Карпенцьер ідзе, абдымаецца з чытачамі, тут жа знікае, растае ладны стос «El arpa y la sombra», бяруць кнігу, чорныя рукі з ружовымі далонямі высыпаюць манеты, такія ж рукі бяруць. Няблага было б і ў нашых кіначасопісах рабіць такое, хаця б выхад выбраных, збораў твораў. Хаця б сакратароў СП.

Раніца. У нумары ахалодна. На вуліцы — сквар — calor. Некалькі турыстаў у шортах. Усе кіны пазачыняны. Нікуды не сунуцца. Трэба шапку на галаву ды пахадзіць.

Іду ў нумар — палякі. Думаў, што тут іх няма. Цыганістая нацыя сярод славян. Што ўжо тут яны могуць скупіць і перакупіць?

Канец блакноту. Дзякуй! *31.XII.79. 10.35. Habana.*

Сустрэў дзвюх дунь з Карэліі, шукалі пошту. Паказаў. Яны, бачыце, з групай, усе казахі-механізатары, а яны — інтэлігенцыя — лётчыкі, жонкі (з літары *б*) і г. д. Такіх землякоў сустрэнеш — настрой падае.

За вітрынай халадзільнікі «Мінск-10», 800, 1200. І тут мае землячкі высока каціруюцца.

Па вуліцы ходзіш — шарахаешся ад рэзкіх крыкаў. Крычаць усе. Як у хаце, як на кухні.

Нарэшце пераднавагодні дожджык. Цёплы, летні. У нас ужо за стол сабіраюцца. Што там мае зайчыкі робяць?

Ішла гаваначка з такім бюстам, што радкі самі прыйшлі[1].

Цікава па-іспанску *іней* — helada blanca — белы мароз.

І дождж прайшоў, і ваўкі ў лесе здохлі: Elena пазваніла і сказала, што галерэя зачынена. Можа, да дакладнасці прывыкне, ці ёй нешта трэба ў гасцініцы, а пра галерэю так, да слова.

Дожджык перастае, робіцца сонечна, ясна, крыху разамлела. З-за дружбы сяджу галодны перад Новым годам, чакаю.

16.00. Новы год! У нас. Тут яшчэ стары. Вячэра (па-нашаму) была нават з півам. Прынеслі. Глядзеў, як бурбалачкі з фужэра выходзяць. Піў кепскі чай. Сок нармальны.

І ўвесь дзень святочны стол. А дома недзе амаль цяля ў халадзільніку. Нічога!

---

[1] Гл.: Стратэгічныя вывады (31.12.79, Гавана) // Вечалле. С. 312.

Па радыё праз столькі год «Besame mucho»[1], песня маёй маладосці. Пазваніў Валера [Крахотка]. Яны ніхто не паехалі. Да гэтага часу ў Colina. Хоць зямляцкі голас пачуў. І ў Новым годзе Ушачы. Гавана. Усе нашы тут. Так і не адправілі ні ў Камагуэй, ні ў Сант'яга, відаць, яшчэ доўга будуць сядзець. Паглядзелі кінафільм «Народны раман», напаўсекс на фоне фабрыкі. Новы год кубінскі сустрэў з землякамі. Чай. Яны каву. Яшчэ ваду.

Ушачы — Гавана. Лабанок — старшыня Беларускага аддзялення таварыства «Куба — СССР». Тут з ушацкіх лясоў нумар [час.] Unión прысвечаны савецкай літаратуры — Броўка, Быкаў.

Новы год!
А мне чуваць: — На выхад!
Затрымацца хочацца ў жыцці.
Крыгаход
(Напомніў шклянак) скрыгат...[2]

* * *

Ці ў часе мы,
Ці час у нас?
Мы для яго сакрэты
Ці ён для нас сакрэт?
Адказ
Наіўнасцю сагрэты.

Нам час дае сябе на час —
Ісці да зорнай мэты
І ў вечнасці спыняе нас —
Свайго адчаю меты![3]

---

[1] Найпапулярнейшая ва ўсім свеце песня (асабліва з 1941 г.) «Бесаме мучо...» («Цалуй мяне мацней...»). Аўтар — мексіканская піяністка Кансуэла Веласкес (у замуж. Рывера) — напісала яе ў 15 гадоў.
[2] Гл.: Мне чуваць (31.12.79, Гавана— 26.8.94) // Ксты. Мінск, 2005. Выд. 1. С. 299.
[3] Гл.: «Ці ў часе мы...» (1.02.2008) // Халодная памяць вады. Мінск, 2010. С. 302.

## 1980

*1 студзеня, аўторак*

Martes [аўторак]. Дзень добры, Новы год! Будзь ласкавы да мяне! Ты мне прынёс 45. На градусы гэтая лічба добрая. На гады таксама яшчэ — няблага. Хацелася б, каб яшчэ два разы нуль падкочваўся і да 9-ці і да нуля— 2000! Але гэта — бог бацька.

Новы год, новыя дарогі, новыя сустрэчы!

Без хвосціка 7 раніцы ў паласатых сваіх трусіках, амаль як штатаўскі сцяг, рабіў крыху зарадку на балконе. У нас дома такое толькі маржам можна!

Дожджык прабрыгаў каля Гаванскага ўніверсітэта; падаслаўшы цалафанавы мех, сядзіць кубінец, вучыць канспект, сесія.

З землякамі аўтападарожжа Castillo del Morro [Крэпасць валхвоў, 1589]. Тунель, непрыступны роў, раз'юшаны прыбой, хвалі б'юць блакітныя ад лютасці, перакідныя вароты, байніцы, гулкасць кожнага гуку, нібы акіян выбраў тут для акустыкі аўдыторыю для вывучэння іспанскай мовы. Буйкі, якія паказваюць фарватэр, як івань-устанькі, як удыміну п'яныя, але стойкія.

Старая Гавана. На кожным кроку малыя просяць гумку: «Таварыш, дай». У вітрыне капрон віцебскай фабрыкі, зноў землякі. У замку Мора кажу, што б для Караткевіча на сувенір, ланцуг ад перакіднога моста? Кляўчэня[1] хваліць Валодзю [Караткевіча]: цікавы і нацыянальны.

Пасля абеду на мора. Па дарозе Кляўчэня заўважае, што шмат травы, можна болей кароў трымаць, аж бачыце, як няскошанае *пасхло*. Аж сюды ганцавіцкае слова [даляцела] (зямляк святой памяці Ул. Нядзведскага).

Першы дзень новага года пачаў з купання. Вада цёплая-цёплая. Халаднавата на беразе. Хваля набірае вышыню. Салёная вада, як у Ціхім. Абыходзім пальмы і сосны (доўгія вейкі) і непаўторна мякка-блакітны ўзбераг у белай манішцы пены. Юры Карпаў і мой зямляк Валера [Крахотка] збіваюць кіем два какосы, адзін мне зямляк дае давезці да Мінска. Па дарозе неблагія вілы, гараж пад домам.

Кляўчэня з Валерам злавілі двух пясчаных крабаў, увесь, нібы якая схема, бясколерны, ружаваты, толькі дзве клюшні сапраўдныя, цвёр-

---

[1] Магчыма, Кляўчэня Аляксандр Сямёнавіч (н. 1924), беларускі філосаф. Доктар філасофскіх навук (1971), прафесар (1972). У 1974–1988 гг. заг. кафедры гісторыі філасофіі і логікі БДУ.

дыя, белыя, вочы чорныя выстаўлены, як перыскопы, смешна ўцякае, як кашмар прыбярэжных пяскоў.

У аўтобус заходзяць у пярэднія дзверы, трэба кідаць 5 centavos для праезда ў горадзе і 20 centavos за горад. Выхад праз сярэднія дзверы. Прыбліжана да нашых азербайджан усё. Маладыя чорненькія самцы сядзяць, старыя стаяць. Маладым дарога, старым — пашана.

*2 студзеня, серада*

Miércoles [серада]. Землякі яшчэ не паехалі, суцэльнае 7.40 [яўр]. Рэйс на Кубу. У кафэ прыйшоў снедаць, зноў 7.40.

Школьнікі ідуць у школу. Блакітныя гальштучкі. Хто ў чым абуты. Нават ва в'етнамкі.

Здаецца, паехалі мае землякі на 10-ты дзень, аджылі ў клапоўні лепшыя выкладчыкі, калі яшчэ самалёт узляціць.

На вуліцах і ў скверах ствалы пальмаў у цвіках, як каваныя боты. Відаць, розныя лозунгі і заклікі вешалі, яны іх перажылі і ў неба, гайдаюць блакіт.

Cementerio [могілкі]. Каля рэстарана Pekín перад магільнікам кветкавы рынак: астры, ружы і маладыя сланечнікі. Горад белы і светлы: мармур, цэмент. Анёлы з крыламі, як нераскрытымі парашутамі. Езусы бронзавыя і мармуровыя з церневымі вянкамі. Толькі сухі шоргат лісцяў, шмыганне пранырлівых яшчарак і бесклапотны спеў птушак.

Усыпальні, як асабняк з чорнага і белага мармуру, з партрэтамі, з скульптурамі мадонны, з кветкамі, лавачкамі, падсвечнікамі на французскіх замках, з вітражамі. Спакойна ездзіць таксі, вуліцы шырэй, чым у некаторых дварах нашых мікрараёнаў. Velocidad máxima [максімальная хуткасць] 30 km. У адным склепе mama y papa. Калегія адваката, нейкі клуб — Logia cosmopolita, 1965.

Якраз і ўбачыў пахаванне. Са светлай сучаснай машыны вымаюць, як футарал, адчыняюць ламамі вечка магілы, зачыняюць. Таварыш нешта гаворыць. Трошкі плачуць. Пра характар нябожчыка. Club tinetense — нешта добрае. Некалькі вянкоў з папяровымі стужкамі. Стаяць дзве машыны. Магільшчыкі здароваюцца з шафёрам. І тут падпісваюць нейкую tarjeta [паштоўку]. Касцёл. Паштоўка Папы Паўла II[1]. Capilla central [цэнтральную капліцу] убіраюць, дужа гучна [званіць] тэлефон. Ручкі у выглядзе далоняў.

«3 de diciembre 1979. Saludo y bendigo a todos mis Niños de Cuba. *Ioannes Paulus n. II*[2]», — ад рукі, чорным чарнілам. Пры ўваходзе з пальмаў сена, пакланенне валхвоў.

---

[1] Іаан Павел II (Вайтыла Кароль Юзаф; 1920–2005), Папа Рымскі (1978–2005).

[2] «3 снежня 1979 г. Вітаю і бласлаўляю усіх маіх дзяцей Кубы», — Іаан Павел II.

Заязджаюць велізарныя турысцкія аўтобусы каля capilla central. Відаць, аднаго дня мала, каб хоць трошкі агледзець гэты горад усопшых. Такой раскошы ў горадзе жывых няма, і такой чысціні, і такой выдумкі. Выходжу. Пытаю ў аднаго: tumba [магіла] Чэ Гевары[1], — no! У рэвалюцыянераў і паэтаў (Лорка, Пётэфі[2]) няма ні надтрунняў, ні магіл. Уся зямля магіла, жыццё, якое робіцца святлейшым, лепшы помнік.

З'явілася Elena. Музей Хэма[3] зачынены. Усё чамусьці не працуе ў яе. Дзядзька яе казаў, што бачыў вёску Хатынь, помнік — стары сына на руках трымае.

У газеце De Cuba падборка беларускіх вершаў — П. Броўка, М. Танк[4]. Рэдакцыя Unión. За 18 год [існавання] часопіса стала публікуюцца савецкія аўтары. Новы варыянт паэмы А. Блока[5]. «Дванаццаць». Здаецца, гэта найлепшы пераклад. Раздзел «Новыя пераклады» — [вершы] нанава перакладаюцца. Увагу літаратуры Карыбскага басейна, увагу літаратуры маленькіх народаў, нашых суседзяў. Летась быў фестываль мастацтва Карыбскага басейна, 65 аўтараў далі пераклады з дацкай, некаторыя на французскай мове. Гэты нумар часопіса і газеты мела вялікае значэнне. Чэхі хочуць перакладаць гэты нумар, і палякі маюць намер. Першы раз гавораць пра лацінаамерыканскую паэзію. Выпусцілі павялічаным тыражом і распаўсюдзілі ў краінах Карыбскага басейна.

Barnet[6]. У часопісе штат 3 чалавекі… Для часопіса Unión хацелі б атрымліваць «Литгазету», «Вопросы литературы». Поштай, пацвердзіць, што атрымалі. Каб ін'яз атрымліваў літаратуру. Самая дзелавая гутарка з усіх, бо перакладаў Дурдыеў.

Otto Fernández[7], editor Revista Unión. Luis Marrè[8], redactor vefe [?] gaceta de Cuba. Miguel Barnet, ediciones Unión. Gustavo Eguren[9], Revista Unión.

---

[1] Гевара Чэ (Гевара дэ ла Сэрна Эрнеста; 1928–1967), лацінаамерыканскі рэвалюцыянер, удзельнік Кубінскай рэвалюцыі.

[2] Пецёфі Шандар (1823–1849), венгерскі паэт, рэвалюцыянер.

[3] Хэмінгуэй Эрнест Мілер (1899–1961), амерыканскі пісьменнік, журналіст.

[4] Танк Максім (сапр. Скурко Яўген Іванавіч; 1912–1995), беларускі пісьменнік і грамадскі дзеяч. Народны паэт БССР (1968). У 1971–1990 гг. старшыня праўлення СП БССР. Акадэмік АН БССР (1972). Герой Сацыялістычнай Працы (1974). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1948), Літаратурнай прэміі імя Янкі Купалы (1959), Дзяржаўнай прэміі БССР імя Янкі Купалы (1966), Ленінскай прэміі (1978). Гл.: Максіму Танку (13.06.82) // Маўчанне перуна. С. 170.

[5] Блок Аляксандр Аляксандравіч (1880–1921), рускі паэт.

[6] Барнет Мігуэль Ангел (н. 1940), супрацоўнік час. Unión; кубінскі пісьменнік, этнограф.

[7] Фернандес Ота, выдавец час. Unión.

[8] Маррэ Луіс (1929–2013), рэдактар газ. De Cuba; кубінскі паэт, празаік.

[9] Эгурэн Густава (1925–2010), супрацоўнік час. Unión; кубінскі пісьменнік, вучоны-філолаг.

Заехалі ў магазін савецкай кнігі. Ёсць Куляшоў, Шамякін (маскоўскія выданні), нават Георгій Папоў[1] «Память», наша выданне. Некалькі кніг на ўкраінскай мове. Іван Драч, 2 экз. «Солнечный гром».

Побач у адной з залаў [гасцініцы] Habana Libre адкрылася выстаўка маладых мастакоў. Ёсць і ўжо вядомы мадэрн, ёсць і традыцыя не дужа ўстарэлая. Цікава: Ленін у вясёлках, як у паласатых матросках. Трэба будзе яшчэ заўтра дэталёва паглядзець, сёння спяшаўся, бо ў 20.15 Matos прыехалі з Elena.

Тэатр імя Ф. Гарсія Лоркі. Аркестр глушыць салістаў, спевакі слабыя. Увесь спектакль амаль цыганскі табар і па афармленню, і па сюжэту, і па выкананню. Апрануты ва ўсё, у што можна. Сам будынак тэатра пампезна-класічны, ужо даволі прыстойна зачуханы. Пад канец крыху разыграліся, аркестр змарыўся, перастаў глушыць. Дарэчы, Desidero Navarro[2] не атрымаў ні кніг Янкі Купалы (ён мае намер нешта перакласці да 100-годдзя), ні іншых. Яму па-польску лягчэй гаварыць, чым па-руску. Трэба спытаць у Кузьміча[3], што з кнігамі?

* * *

Па мне б так шчыра галасілі
Мае так званыя сябры,
Узрушанасцю б не хлусілі
І ў новых туфлях жвір мясілі,
Нібы цэмент яшчэ сыры.
Звінелі б радасныя рыдлі —
Не трэба, каб валіць,
Сабе хаўруснікі абрыдлі,
А так самім сябе хваліць.
Ад неспакойнае карыды,
Дзе трэба кожны дзень цвяліць,
Сляза мужчынская, цяжкая
Ядро зямное прапячэ.
Хай праца дружная такая
Сяброў пакуль што пачакае,
Я лепей пажыву яшчэ!

*11 студзеня 1980*

---

[1] Папоў Георгій Ляонцьевіч (1918–1995), рускі пісьменнік, перакладчык. Заслужаны работнік культуры БССР (1977).

[2] Наварра Дэсідэра (н. 1948), кубінскі літаратурны крытык, мастацтвазнавец, культуролаг.

[3] Гардзіцкі Аляксей Кузьміч (1934–1999), беларускі пісьменнік. Аўтар кніг дыялогаў, інтэрв’ю, гутарак пра літаратуру, складальнік біяграфічных даведнікаў. З 1972 г. працаваў літкансультантам СП БССР.

*3 студзеня, чацвер*

Jueves [чацвер]. Зайшоў глянуць, якое кіно. У касе абсалютна голы да пояса вусаты касір па тэлефоне балбоча.

Чакаю ў вестыбюле машыну, каб ехаць у музей Хэма. Маленькі негрыцянютка падстрыжаны пад качан, валосікі адрастаюць, як у авечак пасля стрыжкі. Прынцып валасоў адзін і той у малых; і адзін другога аклікаюць гукамі, блізкімі да піс-піс, сык-сык, як на гаршчок садзяць, толькі што не свішчуць, як каню, каб пісаў.

*Rancho [ранча] Хэма*[1]. Каза Хэма, трафей паляўнічага, і шмат пошты неразрэзанай**.** Ён яшчэ жыве, бо пошта ідзе. Для турыстаў і туалет, і ўнітаз. З вышыні вежы ўся Гавана. Пальмы на ўзгорку, як шасціпалыя зоры зялёныя. У кабінеце галава страшэннага звера, а гэта toro bufalo; як стэлажы з дроў, тэпці, чаравікі; сланы, конікі на стале.

Усё тлен і звычайна без гаспадара, толькі думка вечная. Акуляры зняў і так не дачытаў часопіса, не разрэзаў бандэроляў.

Больш сцягоў у госці, і наш чырвоны — забарона [неразб. 1], вечна мокрыя плечы порта.

З Пэдра Меерам [ядзім] халодна-салодкае марожанае. Здымае ў адкрытым кафэ «курачак» made in Cuba Libre, каб даць такі здымак у [час.] «Латинскую Америку». Запрашаю ў Мінск (даю «Белавежскую»). Гаворыць: «Трэба разам з Elena, бо як адзін другога зразумеем?» Кажу: «Ці так, ці прыйдзецца іспанскую вывучыць».

Пасля абеда Elena кажа, што муж быў бы ў гневе, каб даведаўся, што яшчэ яе фатаграфуюць. Сёлета пойдзе ў універсітэт, niña [дзяўчынка] будзе з бабуляй.

Турысцкая «Odessa», і з вугалем разгружаецца «Нар'ян-Мар».

15.00 *Музей — Museo de los Capitanes Generales*. Металічныя саркафагі (siglo XIX) з ручкамі, як футарал для скрыпкі. Сіфілітычна-праваленыя насы ў антычных статуй з мармура. Herreros — прозвішча і даты 1559, 1582, 1600, і пяць званоў унізе стаяць на падлозе, адзванілі сваё з неба на дол. Вуха шчыльна да зямлі, слухаць трывогу зямлі, трывогу неба падслухаць.

Далёкі правобраз машыны bomberos — пажарныя машыны. Скрозь вялізныя збаны для вады. Garras de león — дзве лапкі льва з медзі адліты, у такія абдымкі, і ўсё. Замкі і ключы ад малых да пудовых.

Статуя Ураджая — маці са снапом, з сярпом і малы галапупік на руках. Ванна ў выглядзе ракавін вялікіх.

Ён круглы, шар зямны, бо ўвесь час паварочвае да мяне тым бокам, дзе ты (Заю)[2].

---

[1] Гл.: Ранча Хэмінгуэя (4.01.80, Гавана) // Вечалле. С. 316.

[2] Гл.: «Круглая Зямля...» (5.01.80, Varadero; з прысвячэннем Заіньку) // Тамсама. С. 322.

Дрэўка сцяга незалежнасці заканчваецца штыком. Так правільна. Аматарам медалёў, шпор і бармаў трэба схадзіць у музей — якімі бразготкамі яны здаюцца з выліналымі анучкамі стужак, а за іх жыццё клалі. А мастак, скульптар, які на хлеб зарабляе ў сваёй працы, засталіся.

Газета Batista en fuga [«Бегства Бацісты[1]»]. Трон-крэсла, пружыны выйшлі ўніз, павалены статуі-галовы міністраў, тэлефон так і не пакладзены на рычаг, паламаныя крылы вялізнага арла. Фота пераможцаў перавароту[2]. Хто блізка стаіць, пасля знікаюць, пасля няма (рэвалюцыя, перамога). *Мармур — варвар.*

Burro — асёл. Сэнс пагаворкі ўшацкай болей да яго падыходзіць: валі на бурага, буры звязе. Амур крылаты раней неяк узвышаў каханне, а зараз крылы абрэзалі як архітэктурныя выдаткі, і прыземлена поўзае, часцей за ўсё чацвераногае каханне.

Як сувой, з люка космасу вакол вясёлкі. Eladio Rivadulla[3] «Octubre de Lenin (17)» [«Ленін у Кастрычніку (1917)»]. Чорная негрыцянка, толькі загараюцца чырвоныя губы. Сустрэча з горадам, паветраныя змеі з мордамі добрымі абарваліся, заблытаўшыся за пальму[4]. Секс і тэма мацярынства. Грудзі па самбрэра кожная.

Interpressfoto-79. 16 de abril 1961 Declaración de Cuba Socialista. Фідэль і ўзнятыя вінтоўкі, як трыснягі гневу і вернасці. ¿ WHY ? [Чаму?] (Cuba). Малая сядзіць на амерыканскай касцы, як на гаршку[5].

Кубінскае кіно, як і, відаць, першы раз цыгару, многа нельга, аднаго надоўга хапае. Кіно «Maluolla» [?], Гран-пры Лаціна-Амерыкі. Шмат крыві, песень. Фільма няма!

Наша дуня (іспанская доння) з мужам, як з лабрадору высечаны на помнік магутнаму славянскаму свету. Заказвае, і прыносяць салодкае, бутэрброд, і той смешна выглядае, а ён хоча мяса.

*4 студзеня, пятніца*

Viernes [пятніца]. El Caimán barbudo — газета маладзёжная, тыраж 30 тыс., 5 чалавек [калектыў]. 3 творчых [супрацоўніка], 1 фота]карэспандэнт], 1 сакратар, 1 адміністратар, 1 начальнік, 1 карэктар. Francisco Noa — director El Caiman Barbudo. Шмат увагі маладым. З 1966 года выходзіць у кожным нумары паэзія і проза, тут працуюць і з брыгады —

---

[1] Баціста-і-Сальдывар Рубэн Фульхенсіа (1901–1973), дыктатар Кубы у 1934–1944 і 1952–1958 гг.; у 1940–1944 і 1954–1958 гг. афіцыйна займаў пасаду прэзідэнта. Зрынуты ў выніку перамогі Кубінскай рэвалюцыі.

[2] Гл.: У былой рэзідэнцыі (25.03.80, Каралішчавічы) // Вечалле. С. 308.

[3] Рывадулья Эладзіа (1923–2011), кубінскі мастак.

[4] Гл.: На беразе блакіту (7.01.80, Varadero // Вечалле. С. 310.

[5] Гл.: На выстаўцы «Інтэрпрэсфота, 79», Гавана (30.11.85) // Маўчанне перуна. С. 283.

Brigada Hermanos Saiz[1], дзе маладыя пісьменнікі, артысты, кіно, тэлерадыё, тэатр, — прэзідэнт зараз на актыве, Omar González Narrador[2]. «Гэта арганізацыя мае вялікае значэнне для выхавання моладзі. Гавораць, што ўсе моладзь, а ён стары адзін — 37 год (у асноўным 21–24 гады). Першая газета, якая пачала літаратурную крытыку і наогул крытыку. Ён павінен думаць як малады, калі не трэба ісці на пенсію». Рэдактар, што сустракаў мяне, быў у Мінску (Хатынь і г. д.), ён жа старшыня секцыі маладых творчых работнікаў у ЦК камсамола. Чакаем машыну, пытае, як падабаюцца кубінскія жанчыны. Адказваю, што прыгожыя, як у акварыуме. Рагоча!

Entrevista con [інтэрв'ю з] Angel Augier[3] vicepresidente de la UNEAC: «[У] 1982 г. шырока будзе адзначацца 80 год Нікаласа Гільена (Купала і Колас[4] — 100). Арганізаваць сустрэчу крытыкаў і перакладчыкаў. Даслаць крытыку пра кнігу Гільена. Перакладаў Блока і Маякоўскага, ведае, што такое, цяжка зблізіць дзве мовы, калі перакладаеш паэзію. Трэба ведаць перш за ўсё мову. Перакладаў паэму «Ленін»[5]. І, здаецца, пераклад быў добра прыняты ў СССР. Сяргей Ганчарэнка[6] напісаў дадатна пра пераклад. Небяспека, што пераклад [зроблены] не адпаведна арыгінала. Трэба імкнуцца бліжэй данесці сэнс, не заўсёды ўдаецца. У нас супадаюць юбілеі Янкі Купалы і Якуба Коласа. Прысляць матэрыялы пра Купалу і Коласа.

«Вялікае развіццё літаратуры, шмат паэтаў з'явілася, як у Калумбіі, калі на вуліцы: «Прывет, паэт!» — і ўсе азіраюцца, думаюць, што гэта да яго адносіцца.

Самы развіты жанр — паэзія, пасля проза і драматургія. На Кубе здаўна болей паэтаў, чым каго, старая і добрая традыцыя. Брыгада братоў Саіс — маладыя дзеячы мастацтваў, рух літаратурных цэхаў ёсць у раёнах, па месцы працы, вучобы. Штогод літцэхі ў правінцыі падводзяць вынікі і нацыянальныя сустрэчы, дзе лепшыя. З літцэхаў лепшыя ў Брыгаду братоў Саіс [уступаюць], а лепшыя ў UNEAC. Сёлета ў Сант'яга-дэ-Куба, пасля яшчэ дзе, у розных месцах. Мерапрыемствы ўсе імкнёмся [праводзіць] на

---

[1] Брыгада братоў Саіс — суполка маладых дзеячаў мастацтваў.

[2] Гансалес Наррадор Амар (н. 1943), прэзідэнт Аб'яднанага саюза творчых працаўнікоў Кубы.

[3] Аўхьер Анхель, кубінскі паэт, літаратуразнавец. Віцэ-прэзідэнт Аб'яднанага саюза творчых працаўнікоў Кубы.

[4] Колас Якуб (сапр. Міцкевіч Канстанцін Міхайлавіч; 1882–1956), беларускі пісьменнік. Народны паэт БССР (1926). Акадэмік АН БССР (1928). Заслужаны дзеяч навукі БССР (1944).

[5] Паэма У. Маякоўскага «Уладзімір Ільіч Ленін».

[6] Ганчарэнка Сяргей Філіпавіч (1945–2006), рускі паэт, перакладчык, іспаніст. Акадэмік РАЕН, доктар філалагічных навук, прафесар.

месцах, шмат удзельнікаў, а выбіраецца лепшае, а лепшых не так і шмат. Цяжка назваць лічбы, праблема, каб павысіць якасць».

«UNEAC штогод [праводзіць] нацыянальны конкурс (Давід[1] [расказвае]), для аўтараў, якія яшчэ ніколі не выдаваліся, тут жанры: расказ, паэзія, сведчанне і тэатр. На конкурсе высокія патрабаванні да якасці. Літмоладзь [мае] дастаткова магчымасці для публікацыі ў выдавецтве Unión, лінія ў маладых — рэвалюцыйная праз лірыку, для іх рэвалюцыя — штодзённае жыццё, усё праз любоў, праз пейзажы. Нельга раздзяляць асабістае жыццё з рэвалюцыяй, усё гэта ўзаемазвязана. Мы павышаем патрабаванне да паэзіі, бо ў Лацінскай Амерыцы і на Кубе паэзія свабодна. Небяспека празаізацыі, бо вольны верш. Таму даволі строгі [адбор], каб паэзія была паэзіяй, каб не станавілася прозай у вершаванай форме. Трэба больш перакладаць савецкай паэзіі. Зборнік « 30 [?] савецкіх паэтаў». Броўку ведае — ас.

Хто паедзе, не ведае, бо не ведае план мерапрыемстваў. У кастрычніку на нараду прадстаўнікоў соцкраін, магчыма, Анхель, хоць там ахалода, а ён не дужа здаровы. Новыя падсекцыі літаратуры — паэзія, проза, крытыка і літдаследаванне, будзе створана — драматургіі, існуе падсекцыя дзіцячай літаратуры, будзе гістарычнай прозы сёлета.

У нас раней 150 членаў літаратуры, уступіла 75 за год — ёсць драматургія і гістарычная проза нарысістаў. Летась [гарады] Сант’яга-дэ-Куба, Камагуэй, Матансас, Вілья-Клара [правінцыя], Санкты-Спірытус. Сёлета магчыма адкрыць філіялы ў тых правінцыях, дзе для гэтага ёсць умовы.

Наконт сярэдніх выдаткаў — усім братэрскім саюзам прапануюць раўнацэннасць. Машыны далі, а грошы не было. Зараз ганарар ад 80 pesos за радок да 1,20, 1,40, 1,50. Асноўны тыраж 5000. Пасля рэвалюцыі адразу ганарары былі, а потым трэба было выдаваць падручнікі, адмовіліся. Зараз зноў ёсць».

Калі казаў Аўхьеру, што Пімен Панчанка разам з прывітаннем Кубе перадаваў паклон Атлантычнаму акіяну як стары вандроўнік, дужа спадабалася. Цікавіўся, адкуль Карлас Шэрман, што так выдатна ведае іспанскую мову. Падпісаў мне дзве кнігі. Пакінуў яму экземпляр сваіх вершаў у перакладзе Карласа Шэрмана. David Cherición, аказваецца, перакладаў мой верш у зборнік «Масква — Гавана — Масква», сам лічыць сваім самым лепшым перакладам у гэтай кнізе. Трэба не застацца ў даўгу і перакласці што-небудзь яго. Тым болей, ён падпісаў мне кнігу. Анхель Аўхьер прасіў перадаць паклон Петрусю Броўку (зноў Ушачы — Гавана).

[1] Чэрысьян Давід Фернандэс (1940–2002), кубінскі паэт.

José Martínez Matos[1], secretario sección de literatura UNEAC. Знаўца Балгарыі (жыў 2 гады), пераклаў класіку і сучасных. Піша вершы і прозу.

*Cabaret Tropicana*. З 10 да 3–4 раніцы звычайна [наведваюць] турысты. Нас дождж занёс пад шаху. Пальмы ў фантастычным асвятленні. Крэслы свабодныя, пад стол падбародкам абапёрліся і ногі паднялі, як гімнасткі. Летась на Кубе было 100 тыс. турыстаў, трэба валюта.

Elena ў начным асвятленні глядзіцца цікава. Адсюль і начныя негрытуткі відаць здорава. Танцы — адны абдымаюць вяндліну ў форме з цыгарэткамі, аж падаюць, другія чорныя таршэры, абцягнутыя матэрыялам сарочак, блізкіх да начных. Трэба з такой адразу ў пасцель, што там каніцель. Калі адпаведна адпаведнае прыпякае — у Трапікану. Танец жывата і сцёгнаў. Планетасцёжная публіка, ад цела аж горача, фотаапараты, пераліў агней. Чакаеш, што зляціць рэштка вопраткі, здаецца, зараз узляціць, цела хоча страціць тлен вопраткі, яно вечнае. Рух плоці. Дзякуй аэрафлоту, ён праз два дні дамоў. Суёты патрабуюць самастойнасці, хочуць аддзяліцца.

Турысты з фотаапаратамі на падлозе, як дзеці ў кіно ў сяле, да д’ябла правілы тону! Аж раздражаюць танцоры з бл…… побач! Нібыта пальмы ажылі. Нібы круціць тысячы абручоў пажадных позіркаў, як змей, хоча страсці. Такая эскімоса на льдзіне падсмажыць, як ляшча. На галовах кашы з дарамі зямлі, а ўсё рух, падміргвае пуп, як далёка пайшла рабрына Адама, назад не ўставіш. Рух плоці, рух рук, у барабана сапраўды лопнуць перапонкі. Танец колераў, гукаў, рытму, пацее шакалад. Са сцэны ў залу аж страшна [зірнуць], каб ўтрымацца. Ідзе праца цела[2].

Цікава Хасе Марцінес сказаў, што няма яблыкаў на Кубе і віна свайго, а я думаў, усё ёсць.

*5 студзеня, субота*

Сёння ўжо лічыцца зіма. Адно слова frio [холад]. Касір у кіно ўжо голы не сядзіць. На страсе распінаюць белыя сцягі прасцін. У вестыбюлі полька прадае нейкай турыстцы чырвоныя штанцы і банальныя басаножкі. Скрозь польскі гандаль. (Учора не пусцілі гжэчную ў першы рад Tropicana).

Сама сабой валодае
            адкупорваць
Не кубел з асалодаю,
А бочка[3] з порахам.

[1] Марцінес Матас Хасе (1930–1999), кубінскі паэт, навеліст; рэдактар секцыі літаратуры UNEAC.
[2] Гл.: Tropikana (6.01.80, Varadero) // Вечалле. С. 313.
[3] Cuba — бочка (*ісп.; заўв. Р. Барадуліна).*

Ад спёкі веерам пальм,
Ад небяспекі — лакатарамі[1].

Нарэшце едзем.
Мелюць сонца і вецер салёны,
Пальмы — зялёныя ветракі.
Пікіруюць каршакі[2].

Блакітнае мора і белыя хвалі, як крыгі зімы. Пальмы, як індзейцы, голыя, толькі зялёны ўбор на галаве, па схілах ідуць да аўтастрады падзівіцца на чаднага каня — машыну. Птушкі накшталт каршакоў чорных, шмат кружаць — guanajo. Зялёныя горы, схілы, пакрытыя лесам.

*Matanzas [г. Матансас],* прыморскі гарадок партовы, як наш райцэнтр. Зялёныя кастры, як альяс. Henequen Cuevas de Bellamar пад драўляным навесам, пакрыты травой henequen, як наш амбар, крэслы абцягнуты скурай, як барабан, называюцца taurete, са скуры chivo — казла, сядзенне і спінка; тут можна, налізаўшыся, і замэкаць.

Драўляная зыгарадзь у рэстаране (стадола), каб не выбегчы, пераскачыць можна, як стары плот, дрэва абветранае, замурзанае. Будынак доўгі, выцягнуты. Цэлы статак казлоў пайшоў голы на tanrete, п’янаму здаецца — чацвераногія забляюць.

Elena ў «Трапікана»: «Вы напішыце, што перакладчыца была чорная, але прыгожая».

На салодкае кавалак сыра з патакай з соку манга (сок манга, звараны з цукрам). Лыжачкі ў кубачках алюмініевыя.

Пячора гатычная, салон-готыка, уніз чалавек каціцца, горла (пашча) д’ябла, тыгра. Моц кахання, крыніц маладосці (і мыюцца малыя). Blanca coca.

Рэчкі дзівоснай пекнаты, кустоўе як наша здалёк, толькі бераг рэзка абрэзаны травой ці як плінтоўкі ў зялёна-шэрых кустах. Henequen, злева сосны, і пальмы, і мора сінім акаёмам, белае полымя прыбою хваль. Пераліваецца, як зімою ў глыбокім возеры, калі прабіць ільдзіны, мора.

Varadero, hotel Kawama. Зручныя катэджыкі на 3 нумары ўнізе і на другім паверсе. Мне трапіўся нумар як савецкаму — у туалет бегаць, зліў не працуе. І тут ужо, як і скрозь, для нас не працуе. Кубінцы блізкія да азербайджанцаў, да цыганоў па беспардоннасці, — мой нумар Elena заняла адразу, на другім паверсе, з выхадам на мора (выхад вокан).

Веерам пальмаў Куба ратуецца ад спёкі.

Matos прапануе сакрэт лоўлі кракадзілаў, калі яшчэ раз прыеду. Трэба ласо на горла, але каб хвастом не збіў сакрэт — ciénaga de zapato.

---

[1] Гл.: Пралог (6.01.80, Varadero) // Вечалле. С. 291.
[2] Гл.: Зімовая спёка (6.01.80, Varadero) // Тамсама. С. 307.

Амерыканскія турысткі з пер’ямі ў галаве пад індзеек.

Зноў шоў — fantasia tropical, — столькі голых, што пад канец захочацца захутаць рую ў кажухі і андаракі. Не ўбіцца на шоў і гэты тэатр. Цэлая трупа перад двума дзясяткамі выступае, а тут ломіцца, як па жмені жару ўсыпалі паміж ног і доўга тушаць, а ён распальваецца. У кабарэ нейкая дама зацягнута ў карсет туга, а ўсё роўна ёсць небяспека, што грудзі (вымя, хутчэй) захлынуць і галаву і горла дзявятым валам!

Elena, гледзячы, як я нешта занатоўваю, гаворыць, што па-беларуску, як па-армянску, пішуць. Гэта мае такія асобна напісаныя каракулі на хаду наводзяць яе на такі вывад. Нешта ж дукрыць. Ёй падабаецца французская мова. Бацька гаворыць па-англійску і трохі па-французску. Англійская мова на Кубе з першага класа раней [вывучалася]. Цяпер рускую спачатку, а пасля англійскую. Але англійскую ўсе практычна разумеюць.

У холе стаіць тэлек «Крым». З працягам серыі пра дыверсантаў: абліваюць бензінам, запалкамі паляць — і выбух, на драты высокага напружання кідаюць ланцуг — замыканне. Доблесныя іх затрымліваюць, б’юць морды. Як у нас перад.

Амін! *6.1.80. 1.30 ночы.*

*6 студзеня, нядзеля*

*Varadero*. Знаёмства маленькае. Дом Дзюпона. «Пячора пірата». Рэстаран у марскім плане.

* Varadero, hotel Kawama. Пасля ўчарашняга шоў можна спаць у гэтай «Чарапасе». Меней жаровень раздзімалі свой агонь між ног. Здорава працаваў негр высокі і спявак амаль чорны, як Робсан[1], раскачваў гром у горле. Але мякка, прыемна. Ножкі ў беленькіх і чорненькіх худзенькія, не дужа. Адна негрытутачка была амаль славянскай камплекцыі, але руху на полк польскіх kurw. Сапраўды, пасля стольких голых захочацца, каб у кажухі і сукні была захутана недзе на цёплай печы ў завеенай хаце. Як у акварыуме рыбы: хоць голыя, а халадна.

Едзем. Дарога ва ўзгорках, каб узбуджаць. Дом, дзе жывуць касманаўты. Таўшчэнныя дрэвы, як у старым запушчаным садзе з калючымі языкамі — кактусы.

Дом Дзюпона. Пакой — зараз рэстаран; бібліятэка — Кіплінг[2], Бальзак[3] — поўны. 15-гадовая фатаграфуецца ў блакітнай сукні, з ружамі — на 20 год выгледзіць, рэвалюцыйнае харчаванне.

---

[1] Робсан Поль (1898–1976), амерыканскі спявак, акцёр, грамадскі дзеяч. Лаўрэат Міжнароднай прэміі Міру (1950), Міжнароднай Ленінскай прэміі (1952).

[2] Кіплінг Джозеф Рэдзьярд (1865–1936), англійскі пісьменнік. Лаўрэат Нобелеўскай прэміі (1907).

[3] Бальзак Анарэ дэ (1799–1850), французскі пісьменнік.

Вакол сажалкі ці рукавы рэчкі.

«Пячора пірата» — кавярня ў натуральнай пячоры, павук страшны і як павуціна сетка. Павук падсвечаны; пірацкі куфар, пляцоўка для танцаў, са столі капае: павук з нагамі ў ботах, чатыры нагі, вочы свецяцца.

Кубінскі «Артэк». Куток Францыі, кэмпінг. Абапал пячоры малыя. У сонцы мора і сілуэт невысокіх гор. Па тэлеку танцы, спевы і раптам — гляджу — выбухі, вайна. Нешта знаёмыя дрэвы. Аж гэта серыял «Вялікая Айчынная». Як доўга ідзе да гэтага свету боль нашай зямлі, а да большай часткі яна, вайна і боль, дасюль не дайшоў.

Снедалі ў кавярні, кабарэ, з цікавага каменя, столі драўляныя, пачарнелыя, суцэльны мадэрн. Рэстаран, дзе абедалі і вячэралі, з такога ж каменя, зноў чорнае ад часу дрэва. Турыстаў столькі, што хоць заспявай песню: «Мы за мир, но наши автоматы…» Такое ўражанне, што яны ніколі адсюль не выязджалі, толькі на час адлучаліся ў Амерыку і зноў тут.

Рэстаран, на сценах чарапаха, каралы, падсвечнікі — лямпачкі закрыты ракавінкамі; рыба-меч, ці якая; фіранкі з нізак ракавінак, як у нас грыбы сушаць на зіму. На сценах крабы, рэстаран Albacora. Tortuga — галава гэтай чарапахі маўкліва-велічная, дужа падобна на светлай памяці Ю. П. Гаўрука[1], асабліва вочы — вылітыя. Рыба на сцяне, мне Matos тлумачыў знакамі і паказваў, што лавіў Хэм, aguja.

Каралаў ускрыты мозак, мазаіка мозаку. Fidelidad — вернасць, адданасць.

*7 студзеня, панядзелак*

Недзе апалове трэцяй прачнуўся — сусветна вядомы курорт, а дзверы, як у хляве ў кепскага гаспадара. Наскрозь прадзімае. Складныя вокны замест шыб і сетка ад машкі. Спёкі няма, машкі — таксама. Жах.

А хутчэй за ўсё не дае спаць — неўзабаве павінен ужо сабірацца і чамаданам і думкамі дадому. Добрага патрошку. У нас ва Ушачах кажуць: лішняга і свінні не ядуць. Дзякуй таварышам за ўсё. Хай і далей завіхаюцца каля амерыканскіх турыстаў. Падкрэсліваюць, што ўся абслуга на Кубе ведае англійскую мову. Цудоўна. Але за два млн штодня можна было б хоць у якой харчэўні і славян разумець. Але бог з імі.

Недзе даўно ўжо не спалася пеўням. Шуміць ўсю ноч мора. Як бы экзатычна ні было ўсё гэта, а шум сосен мне куды ласкавейшы. Праўда, сабакі брэшуць зусім інтэрнацыянальна. Як на ўсёй планеце ў іх свая праблема: косткі і пачосткі. Так і бачу, як не зусім ахвотна брэша, нібы хапае на ўсю пашчу паветра і лянотна трымае яго, каб хапіць новую порцыю ці новы кусман паветра, бо невядома, калі яшчэ сабачае сняданне.

---

[1] Гаўрук Юрка (Юрый Паўлавіч; 1905–1979), беларускі перакладчык, паэт. Быў рэпрэсаваны.

Троху падрамаў — трэба ўставаць. Праз пальцы маіх «шыб» сочыцца святло, тэхніка гудзе, як некалі на двары МТС. А птушачка нейкая да таго смачна прыцмоквае, што не ўлежаш — хочацца паглядзець, што ж там такое цікавае.

Добрай раніцы,Varadero! Сёння з раніцы сонечна, мора перашалела, толькі вінаватай хваляй залізвае свае начныя оргіі. Трава часткова зялёная, часткова бураватая. На траве халодная раса. *Зімовая, студзеньская раса.*

Пляж Varadero нечым нагадвае мне Вечалле, водмелы Вечалля. А наогул, практычна пры такім надвор'і — Прыбалтыку. Узяў з пяску некалькі ракавінак. То пялёсткі, то капыткі, то фантастычныя стварэнні. У акіяне чалавецтва ад чалавека і столькі не застанецца, прыбой часу нічога не выб'е, думка адна вечная, ёю трымаецца і сувязь часоў, і працяг пакаленняў, ёю рухаецца ўсё наперад і, як сваё адваротнае, назад.

Сасна здалёку сасна, толькі з доўгай іглiцай, дакранаешся ствала — нейкі калюча-непрыемны, заўчасна стары. Iгліца рыжая нападала, нібы ў цырульні валасы на каўняры не змеценыя. Трэба тут нарадзіцца, каб зразумець і гэтую ласкавасць, і гэтую суровасць, а для жыхара поўначы — бутафорская экзотыка.

Увесь час у рыфму да *Varadero* просіцца далікатнае ўшацкае слова *блядэра,* гэта не закончаная курва, а пачаткоўка без навыкаў, ці што, у гэтым слове ёсць і адценне ласкавасці да яе. Ах ты, блядэра, накшталт блядзюшкі. *Але не — алені.*

«Cuba territorio librē de America» [«Куба — свабодная тэрыторыя Амерыкі»]. «Cuba Faro de America Latina» [«Куба — маяк Лацінскай Амерыкі»].

Прапаную перад дарогай прысесці, Elena кажа — гэта руская традыцыя (дакладней, савецкая), а на Кубе няма такой. Дадаю: яшчэ выпіць трэба, — гэта падабаецца.

У адміністратарскай гасцініцы з дрэва нешта накшталт казла ці аленя з дужа вялікім вянком рагоў і адпаведна дужа сумнай мордай, аж выцягнулася. Перад Matanzas шчыт — Л. І. Брэжнеў[1] і Фідэль — поціск рук.

Mirador de Bacuna yagua — цікавая да страху цясніна, камяні, унізе адпачывае да вясны рака, цясніна ідзе да мора, зеляніна і цікава пальмы глядзяцца. Зялёнае сонца пальмы. Пальмы і стройныя, і з жыватамі, як спарадзіхі. *Горы, як усыпальні — пальмы. Безгаловыя, як слупы.* На двух валах арэ, аралля чырванавата-бурая, як валы. Матычыць нейкую расаду.

---

[1] Брэжнеў Леанід Ільіч (1906–1982), савецкі палітычны і дзяржаўны дзеяч. З 1964 г. Першы, з 1966 г. Генеральны сакратар ЦК КПСС, адначасова з 1977 г. старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР. Герой Сацыялістычнай Працы (1961), Герой Савецкага Саюза (1966, 1976, 1978).

Развітаўся з Тахірам Бяшымавічам [Дурдыевым] па тэлефоне. Перадаць: Алекс Ля Гума[1] вылятае 15-га. Тамару затрымаць, бо трэба за 10 дзён паведаміць UNEAC (Фанега — лепей у сакавіку).

Прыйшла Elena і Фанега. Matos адвёз да аэрапорта, на развітанне даю «Белавежскую». Фанега прапануе піць з сальнічкі, якую яму падарыў я. Па разу прыклаліся, Matos просіць яшчэ раз паўтарыць, трэці раз Фанега не дазваляе, бо за рулём.

Без дагляду чамадан, ледзь упакаваў кнігі. Паветра! Зноў сцюардэса дэманструе выратавальную камізэльку. «Пры кепскай бачнасці карыстайцеся сігнальным свістком». *З апошніх крыг.*

[Адрасы:] Francisco Matos Gonzáles, calle 30 # 306 $^{e}]_{n}$ 25 y 27 Vedado Ciudad de la Habana Cuba; Bertha Elena Rosell Planos[2], calle $S^{ta}$ # 550 2 y 4 apto 1 Vedado Ciudad de la Habana Cuba.

*8 студзеня, аўторак*

Ляцім над Атлантычным на вышыні 10 тыс. км. Галава свінцовая, дзве гадзіны з хвастом добрым па Гаване. Толькі рыфмы і лезуць:

Ад Рабата да Арбата
Вёрсты коцяцца гарбата,
Ды ля Ушач гарбацяцца —
Мне праз хмары бачыцца.

Страшэнна трасе! Падлятаем да Рабата. Вісім над вадой, як гусіная скура. Тры нейкія чорныя галовы — можа, кіты. Невялікая лодка — ніжэй ідзем, [самалёт] кладзецца на крыло. Адчуванне самае бадзёрае. Ды яшчэ кругом нямецкая мова брэша і гергеча. Дзіва, але ўсплываюць нямецкія словы. З інжынерам паўгадзіны размаўляў. А па-англійску і двух слоў звязаць не адважыўся.

Зямля. *г. Рабат.* Белыя будыніны, лапіклы ворыва, халодная белая хваля, +5°. Далёка раскіданыя мураванкі, сам горад.

У загарадзі накшталт раённага аэрапорта мараканец прышчакаваты ў чаравіках са збітымі запяткамі ў гразі выдае, як у лагеры баланду, па пляшцы кока-колы.

Прыляцеў «Боінг», 3 чалавекі вылезлі, малады мараканец, відаць, вучыўся ў нас, прывёз чарговую жонку, смугла-жоўтая, васковая, з абручамі завушніц. На тыдзень у цыганскі табар — і не пазнаеш — лахудра лахудрай будзе.

[1] Ла Гума Алекс (1925–1985), пісьменнік Паўднёва-Афрыканскай Рэспублікі.
[2] Гл.: «За тлумачэнні дзякуй, Elena...» (31.03.80, Каралішчавічы) // Вечалле. С. 324.

Садзіцца ў «Боінг» многа, з балкона аэрасенцаў махаюць рукамі. Адна ў паранджы, шмат жанчын у намордніках. І тут ёсць магчымасць памагаць, пакуль не пасінееш, як яны, да чарнаты!

У двары велізарны кактус паверхі на паўтара. Такі б суседу, каб столь прабіў і ў зад упёрся калючкамі: гарнітур для малагабарыткі — «і нічога болей». Японскаму будзе далёка.

Каля складоў некалькі вайскоўцаў з апоўзлымі штанамі, аўтаматы трымаюць недзе на азадку, як кій для жабрацкай торбы. Лянотныя, сонныя.

Ляцім над Марока, нейкія цёмныя плямы, быццам лес ці чорныя клубы дыму, і маленькія азёрцы ды там-сям вывіваецца згаладалатанклявая рачулка. Хоць ты вясёлымі наклейкамі з апельсінаў асвяжы гэты сумны, прыгнечаны краявід. Унізе як задымлены д'ябальскі кар'ер. Прарэзаліся белыя зубы снежных гор, і зноў — акіян.

Ляцім над белымі вухналямі зімовых гор, нібы фелахі рушылі ў падарожжа. Валявы твар парэзаны глыбокімі складкамі маршчын, абветраны і замучаны дарожным пылам. 19.25 (па Гаване). Як з рэрыхаўскіх[1] краявідаў Індыі.

Як замарожаны горад. Ад аднаго іх выгляду сонцу зябка, і сонца слепне ад такой белаты халоднай. Толькі цень адной гары на другую аддае цёмным цяплом, крыху размаічваючы аднастайнасць, робячы яшчэ больш глыбейшымі ўпадзіны і вышэйшымі выцягнутыя дзюбы, пікі. Ці хто пальцы склаў пястачкай, узнёс угору, ды пястачка так і засталася змерзлай глыбай з намёкам слабым на пальцы.

Пачынаем прывыкаць, і яны ўжо не на адзін твар. Бачым вострыя стрэхі хат, пляскатыя дахі сакляў, стагі белага сена, сцірты белай саломы, зацвярдзелыя хмары бавоўны, белыя грані, што паламаў зубіла скульптара і так застаўся задуманым, але незавершаным, назаўсёды адышоўшы ў рэальны свет фантазіі. Вунь у цясніне плыве рака з няўлоўнага туману, з халоднага дыму снегу, і зноў хібяцца вострыя хрыбты белых валоў, якія палі на ногі, ды так ніколі не ўздымуцца. А далей белыя кусты аблокаў, і на беразе невялікі горад, белы ад белізны гор, ад белізны аблокаў, ад белізны замерзлых далін, дзе чорна акрэслены бязлістыя ствалы незамёрзлых рэчак.

Неўзабаве будзе Люксембург. Горы застаюцца ззаду. Зараз цені глыбей прарэзалі іх маршчынамі, адцяніўшы кожны пік, кожную строму.

---

[1] Рэрых (Рёрых) Мікалай Канстанцінавіч (1874–1947), рускі жывапісец і тэатральны мастак, мысліцель, археолаг, пісьменнік, ініцыятар руху ў абарону помнікаў культуры. Акадэмік Пецярбургскай АМ (1909). З 20-х гадоў XX ст. жыў у Індыі.

Пачалася скульптура хмар. Храпе, задраўшы ўгору нос, толькі вусы варушацца, каўказец, побач плыве айсбергам круглая вежа замка, бялеюць каралы, Іванька-дурань едзе на печы — толькі комін пахістваецца.

Аб'яўляюць Люксембург, –2°, а яго не відаць, усё яшчэ аблокі, белыя Кодры, белая Букавіна вянкоў. Плыве крэйсер. Раён Баку з мячэцямі. Віславухі сабака таўстаморды ў пене — купаўся, але ўцёк з ванны.

Самалёт стрыжэ аблокі. Аблокі перавальваюца цераз крыло. Грыміць гром шасі. Крыло самалёта зліваецца па колеру з аблокамі, у суцэльным туманным дыме ідзе на зніжэнне. Толькі чорныя лічбы 864774 яшчэ выступаюць, і яны паступова бялеюць, чуецца блізка зямля, а яе не відаць[1]. Крыло бялее, выступаюць швы заклёпак. Цёмна, яшчэ цямней. Белыя дамы. Цёмны лес — *Люксембург*! Аэрапорт. Склад Luxair [авіякампанія]. Некалькі кіламетраў па дарожцы. Нарэшце чырвонымі агнямі рукавіц махае чалавек — кіруе выруліваннем. Абмацванне ў аэрапорце, і зала чакання з наборам танных і дарагіх барахлушак.

І надзею страцілі сядзець у самалёце, але нарэшце: «Прышпіліце рамяні». На вышыні 11 тыс. км пралятаем Лодзь, Варшаву, Віцебск. Надакучылі курцы, а яшчэ эмансіпэ з імем толькі жанчыны сістэмы Д2С (доска два соска). Як у тонкія ногі магутны член, у пальцы заціснута цыгарэтка, над сядзеннямі дыміцца.

*9 студзеня, серада*

«Метраполь». Тацяна Сяргееўна альбо адміністратар. Да Грэйдзінга. Званіў Сяргей [Законнікаў] Івану [Бурсаву]. Броўка казаў: «Пашлю тэлеграму Фідэлю, дзе дзелі Рыгора?»

*11 студзеня, пятніца*

13.00 — да Петруся Усцінавіча [Броўкі]. 14.30 — рэдкалегія «Полымя». Забраць у П. Броўкі рукапіс А. Сафронава[2].

* Пасля прылёту і пасля пералётаў другія суткі не магу ноччу спаць, а днём галава свінцовая. Проста жах. Як класічна-канонны паэт нядрэмна па начах працую.

Алег Орач[3] даслаў «Лісову колиску».

Я Алега Орача
Паважаю горача,
Словы ўдзячнасці крычу

---

[1] Гл.: Над хмарамі ([1980]) // Вечалле. С. 325.

[2] Сафронаў Анатолій Уладзіміравіч (1911–1990), рускі драматург, паэт. Герой Сацыялістычнай Працы (1981). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі (1947, 1949). Софронов А. Стихи и поэмы. Минск, 1981.

[3] Орач Алег Юхімавіч (сапр. Комар; 1940–2006), украінскі паэт, празаік, дзіцячы пісьменнік.

Дарагому Орачу,
І паштоўцы паручу
Пакланіцца Орачу,
Ад сяброў і ад калег —
Шчасця, плёну Вам, Алег!

М. Танк: «Чым больш ляжыць [рукапіс], тым большая з’ява». (Рэдкалегія «Полымя»).

Касірку, як птушку, з рукі дробяззю кормяць[1].

*12 студзеня, субота*

Раніцай будзе В. Жак (перадаць «Озеро [твоих очей]» Андрэю [Вазнясенскаму]).

Крыху разабраць паперы.

*13 студзеня, нядзеля*

22.00 (запіс на тэле пра М. Ісакоўскага[2]).

*14 студзеня, панядзелак*

10.00 — да Яшы [Серпера] (з прарабам), у выдавецтва. Петрусю Усцінавічу [Броўку] «Над родной рекой Березой», звон Калабку[3].

*15 студзеня, аўторак*

8.30 — на працу. Пазваніць Пімену Панчанку, Быкаву (артыкул пра Пімена ў «Дзень паэзіі»[4]), Зуёнку, Яўменаву, Шаўню, Бурсаву. Перадрукаваць вершы Рэму [Нікіфаровічу].

*16 студзеня, серада*

Чакаць Ан. Шаўню, вершы Рэму [Нікіфаровічу]; лак зірнуць; да Петруся Усцінавіча [Броўкі], да Пімена Панчанкі.

*17 студзеня, чацвер*

11.00 — радыё (слова пра маладых). Да Пімена Панчанкі (артыкул Васіля Быкава), пазваніць Петрусю Броўку.

---

[1] Гл.: «У краме хлебнай чарга не менее…» (23.01.80) // Амплітуда смеласці. С. 103.

[2] Ісакоўскі Міхаіл Васільевіч (1900–1973), рускі паэт. Герой Сацыялістычнай Працы (1970). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1943, 1949).

[3] Чарняўскі Мікола (Мікалай Мікалаевіч; н. 1943), беларускі паэт, перакладчык. У 1966–1988 гг. літсупрацоўнік, ст. рэдактар аддзела, адказны сакратар час. «Бярозка».

[4] Быкаў В. Паэзія дабрыні і мужнасці // Дзень паэзіі. Мінск, 1980.

*18 студзеня, пятніца*

9.00 — да прараба (Гарык). На радыё (запіс). 19.30 — Вечар Генрыха Вагнера.

*20 студзеня, нядзеля*

Да Сашы Шэверава[1], да Карласа [Шэрмана] (перадаць кнігі з Кубы). Ілона ў Гродна.

* * *

Жывучы на месцы адным,
Заўважаючы, як суседзі аселі,
Як выцыбаліся падлеткі,
Прыкмячаеш міжволі,
Што сам старэеш.

*21 студзеня, панядзелак*

Чакаць Яшу [Серпера]. Да М. Ф.[2] (наконт Хелемскага). 15.00 — да Лабанка. 17.00 — да Петруся Усцінавіча [Броўкі]. 18.30 — Палац культуры прафсаюзаў, Дзітлаў[3] («Спектар», 2 паверх, 63 (202).

* [Выбраныя подпісы (са 104-х) пад фота з архіва У. Е. Лабанка для альбома «Вяртанне», прысвечанага партызанскай Ушаччыне[1], які рыхтаваўся некалькі гадоў для выд-ва «Беларусь». Тэксты і вершы Р. Барадуліна, фота В. Ждановіча і архіўныя[4]. Упоперак старонкі:] Старонка 225 БСЭ, том 8.

1. Трыгубаў — камісар атрада, ішоў з-за лініі фронта (можа быць, камандзір, 3-ці злева).

2. Дуброўскі [Ф. Ф.].

3. Маркевіч [С. В.].

5. Партызанскі ўрач [М. Т.] Мусакоў.

7. Карціна [М.] Абрыньбы (партызанскі мастак). Выезд на аперацыю — брыгада «Дубава».

8. Ушачы, выезд на перадавую пазіцыю. Уладзімір Елісеевіч [Лабанок] справа і пасярод Чарноў Іван Гаўрылавіч, ад'ютант.

9. Тры камандзіры атрадаў: [Б. П.] Звонаў (справа), Вася Нікіфараў (загінуў), [М. М.] Дыдэнка (злева).

---

[1] Шэвераў Аляксандр Калістратавіч, мастацкі рэдактар выд-ва «Юнацтва».

[2] Дубянецкі Міхаіл Фёдаравіч (1927–1990), беларускі перакладчык. У 1975–1979 гг. адказны сакратар, нам. галоўнага рэдактара выд-ва «БелСЭ», у 1979–1986 гг. дырэктар выд-ва «Мастацкая літаратура».

[3] Дзітлаў Аляксандр Сяргеевіч (1912–2009), беларускі журналіст, фотакарэспандэнт. Заслужаны журналіст РБ.

[4] Барадулін Р., Ждановіч В. Вяртанне: Альбом. Мінск, 1988.

13. Інструктар Віцебскага абкома Адміралаў.

14. Чайкін [М.] — камандзір атрада.

15. Барадаўкін — начальнік штаба брыгады «Дубава».

18. Камандзір атрада Бурко, у Вілейцы жыве.

21. Баявая партызанка Лідзія Попік.

26. Сакратар Ушацкага падпольнага РК камсамола Захватаева Ольга.

27. Камандзір атрада [М. Д.] Сафонаў і медсястра Стася.

35. Трафейны матацыкл, злева Ерашоў Мікалай, Уладзімір Елісеевіч [Лабанок], Кіціна Іван, інструктар абкома Кіслоў.

36. Распрацоўка аперацыі ў штабе. Іван Езіненка, Чычкайла (армейская група распрацоўвае план аперацыі).

37. Уручэнне. Пасля ў Крамлі сакратар, другі злева Варвашэня, пасля — Цімох Сезановіч [Сазановіч — партыйны работнік].

39. З [М. Ц.] Калашнікавым [канструктарам] (25 з'езд [КПСС]).

42. На Кангрэсе (г. Аракс) у Францыі (1977), Камітэт ветэранаў вайны [Савецкага] Саюза.

43. Прыём самалёта. Маліноўскі і [Дз. Ц.] Караленка (камбрыг), 1942 г.

44. З намеснікам. Бруханаў (1943).

47. Атрад Самуся Лепельскай брыгады.

48. Лосік (другі справа), Марцылеў, Панамарэнка, Мацвееў.

56. Казлоў [Ц.], Маргевіч Вера і Булах Насця (медсястра).

63. У дзіцячым доме (справа) далі імя Няпомняшчы, жанчыны — Плігаўка [Марыя], Булах Вольга.

64. Яско, Хацко (інструктар), Сухава Маша, Лабанок, Качан, Барсток (Сухава частуе з Масквы прысмакамі).

65. Камандзір атрада (справа). Цыганкевіч Мікіта і Малкаў.

66. Намеснік камандзіра опергрупы па разведцы [Д. А.] Фралоў.

67. Камбрыг Караленка, ад'ютант Казлоўскі і Любаў (кам. атрада, справа налева).

70. в. Антунова. Хата Броўкі. Выхад брыгады на чыгунку.

71. Фарсіраванне ракі ў Літву. Лядок. Немцы націскаюць. Вырашана раздзецца. А не ведаю, ці ёсць лёд. ≈ 800 м па лёдзе трэба было ісці. Пасля апрануўся і хуткім крокам. Немцы падышлі, дзе [партызаны] ? — як у ваду лунулі.

72. А. А. Марунька — камісар, загінуў.

77. Нямецкі лагер. Папаўся нямецкі [фота]апарат. Мы праявілі [плёнку].

80. Кам. атрада М. Дз. Кацубінскі.

85. Прыплод. І. Гуціеў у нямецкім фрэнчы. Стар. 221 БелСЭ.

87. Казлоў, камбрыг Ермаш і Старынскі з Антунова.

91. Разведчык Шайтаронак [Шатыронак] Сцяпан (называлі [мянушка] Талашом).

95. Абрыньба [М.]. Запускаюць [паветранага] змея [з лістоўкамі].

98. Падпольная камсамольская група Армонікі, 3-е засталіся жыць, адзін у рана ў Уздзе.

99. Бараноўскі Сяргей, замучаны; арганізатар [партызанскага] друку.

100. Вілюгіна Іра — лепельская падпольшчыца.

101. Даша Лаўрыновіч, лепельская падпольшчыца.

103. «Зорачка» — настаўнік падпольнай групы.

104. Падпольшчык з вёскі Ляхавічы, кіраўнік падпольнай групы Смаляк Іван Кузьміч.

*22 студзеня, аўторак*

На працу (адрэдагаваўшы тэкст Дубянецкаму). У «Бярозку» (Пысін).

*23 студзеня, серада*

Сядзець дома і дабіваць [зборнік] «Вечалле»[1]. Вялюгіну — падборку, звон Вялюгіну, Законнікаву. Купіць зборнік Пракоф'ева[2] па-беларуску.

*24 студзеня, чацвер*

Сазваніцца з Рэмам [Нікіфаровічам] (наконт Ушач), Сапажкову[3], Шаўню. Друкаваць свае вершы. Дачытаць Мятліка[4].

*25 студзеня, пятніца*

Звон Броўку. Узяць у Дубянецкага матэрыялы на Хелемскага. Зняць пытанні з Мятлікам [Мятліцкім]. Мальдзісу (Дыла).

*26 студзеня, субота*

Перадрук. Шкляра [Шклярэўскі] прыехаў (да Навума [Кісліка]).

*27 студзеня, нядзеля*

Прадмову да Алы Цюцюннік. 17.40 — на Ушачы!

---

[1] Гл. таксама верш, які даў назву зборніку: Вечалле (19.02.80) // Вечалле. С. 21.

[2] Пракоф'еў А. Святло над светам. Мінск, 1976. *Пракоф'еў* Аляксандр Андрэевіч (1900–1971), рускі паэт. Герой Сацыялістычнай Працы (1970). Заслужаны дзеяч культуры БССР (1968). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1946), Ленінскай прэміі (1961).

[3] Сапажкоў Юрый Міхайлавіч (1940–2013), рускі паэт, журналіст. Працаваў у газ. «Советская Белоруссия», уласным карэспандэнтам Усесаюзнага агенцтва друку «Навіны» па БССР.

[4] Мятліцкі Мікола (Мікалай Міхайлавіч; н. 1954), беларускі паэт. У 1977–1983 гг. карэспандэнт газ. «Літаратура і мастацтва». Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1986), Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1998).

*28 студзеня, панядзелак*

[*п. Ушачы*.] Да Марыі Рыгораўны [Трафімавай]. 11.00 — у РК КПБ (Гірса). Музей народнай славы. Абед у Марыі Рыгораўны, да мамы.

*29 студзеня, аўторак*

Да Марыі Рыгораўны [Трафімавай]. 8.50 — у райком (Гірса). На Мінск. У атэлье «Дожджык».

*31 студзеня, чацвер*

Звон Хелемскаму, Кісліку.

*1 лютага, пятніца*

На працу. У домакіраўніцтва. Да Шклярэўскага. 16.00 — паглядзець кватэру.

*2 лютага, субота*

32-37-18 (Нелі Тулупава). У хімчыстку, абутак з рамонту. Рэму [Нікіфаровічу] звон.

*3 лютага, нядзеля*

12.00 — да Петруся Усцінавіча [Броўкі]. Паптонева перакладаць.

*4 лютага, панядзелак*

На працу. Вадзім [Спрынчан]. Шкляра [Шклярэўскі]. Тэле (Кажадубу[1] — вершы пра Украіну).

*5 лютага, аўторак*

Звон Шаўню. 12.30 — тэле (запіс пра Ушаччыну, урывак Стэфана [Паптонева]). 19.10 — жыўцом у эфір на тэле.

*6 лютага, серада*

Праца. Подпісы да фотаілюстрацый Броўкі. Удакладніць са Шклярам [Шклярэўскім]. Сяргей (рукапіс[2]). 10.30 — ад'езд Шкляры.

---

[1] Кажадуб Алесь (Аляксандр Канстанцінавіч; н. 1952), беларускі пісьменнік. У 1977–1981 гг. рэдактар літаратурна-драматычных праграм Беларускага тэлебачання, у 1981–1983 гг. літсупрацоўнік аддзела публіцыстыкі час. «Маладосць».

[2] Законнікаў С. Пакуль жыве мая бяроза. Мінск, 1981.

*7 лютага, чацвер*

Звон Тані Лукшы[1], Навуму [Кісліку], Бурсаву. 10.00 — Ан. Шаўня (Severini). Спрынчану Браніславу звон. Домакраўніцтва (спраўка з выпіскай).

*8 лютага, пятніца*

У домакіраўніцтва. Звон Шаўню. Прыехаў Ваня [Бурсаў] (дазваніцца). Стрыжак.

*9 лютага, субота*

Стрыжак. Прыйдзе Ваня [Бурсаў] з Рытай. 17.00 — кафэ Дома літаратара (50 — Та́расу!).

*10 лютага, нядзеля*

Пошта. [Напой] «[Рыжскі] бальзам». 14–15.00 — Ваня [Бурсаў] з Рытай (Някляеў, Моркаўка[2], Мядзведзь[3], Алег Маціевіч).

*11 лютага, панядзелак*

У домакіраўніцтва. Ілоне паглядзець каралі ([маг.] «Яхант»). Дачытаць Пімена [Панчанку[4]] (І том).

*12 лютага, аўторак*

Праца. Пімена [Панчанку] — на дублікаты. Падпісаць Гурыновіча[5]. Звон Пімену, (Броўку — дамоў). Да Валянціна Ждановіча (узяць фота, слайды).

*13 лютага, серада*

На працу. Падпісаць Аўрамчыка[6]. Звон Рэму [Нікіфаровічу]. Звон Сяргею [Законнікаву]. 17.00 — у Лечкамісію да Петруся Усцінавіча [Броўкі].

*14 лютага, чацвер*

10.00 — прыйдзе Ул. Шніп[7] (разбор вершаў). 14.00 — у домакіраўніцтва, у Савецкі райвыканкам. Звон Вялюгіну, Зуёнку.

---

[1] Лукша Таццяна, жонка В. Лукшы.

[2] Моркаўка Дзмітрый Аркадзьевіч, беларускі журналіст. Сын паэта А. Моркаўкі.

[3] Пушкароў Міхаіл, беларускі оперны спявак.

[4] Панчанка П. Збор твораў: У 4-х т. Мінск, 1981–1983.

[5] Гурыновіч Х. Хлеб і соль. Мінск, 1980.

[6] Аўрамчык М. Выбраныя творы: У 2-х т. Мінск, 1980.

[7] Шніп Віктар Анатольевіч (н. 1960), беларускі паэт. Працаваў цесляром, літкансультантам у час. «Неман», газ. «Вячэрні Мінск». Лаўрэат прэміі імя У. Маякоўскага Савета Міністраў Грузіі (1987).

*15 лютага, пятніца*

10.00 — сход у выдавецтве. 11.00 — Карлас [Шэрман] (лацінкай словы). З Жычкам чэхаў выверыць. Сямёнавай (каб узяла Зуёнка).

*16 лютага, субота*

11.00 — да Нікіфаровіча (скрынка). Вершы Ан. Шаўні паслаць Івану Бурсаву.

*17 лютага, нядзеля*

17.00 — да Броўкі (Лечкамісія). 18.00 — прыйдзе Алег Маціевіч.

*** Алег Маціевіч на Валагодчыне [маляваў] пано. Побач Дыянісій. Трава, казулі. Нават чмялі ляцелі, прызналі траву, якая пахне.

*18 лютага, панядзелак*

Калабку [Чарняўскаму] (Лукша пра Броўку). 11.00 — у «ЛіМ» (2–3 старонкі пра Быкава[1]). Пазваніць у Маскву (Ваню [Бурсаву]). 19.30 — АДА[2] вечар сустрэчы.

*19 лютага, аўторак*

На працу. Аддаць мастакам Сафронава. У «Полымя» (падпісаць дадзыбаю за Пашкова[3]). У Дом друку.

*20 лютага, серада*

На працу. Да Пімена [Панчанкі]. Да Зуёнка (рукапіс узяць). У райвыканком — ордэр[4]! 32-05-91 Галіна Міхайлаўна (райвыканком).

*21 лютага, чацвер*

Праца. Пытанні з Вадзімам [Спрынчанам]. На афармленне Зуёнка[5]. Звон Някляеву. На машынку пра Ушаччыну.

*22 лютага, пятніца*

На працу. Вадзіму [Спрынчану] — «Озеро [твоих очей]». Шаўню аддаць артыкул.

---

[1] Гл.: Наш Васіль Быкаў // Літ. і мастацтва. 1980, 22 лют.

[2] Акружны Дом афіцэраў.

[3] Пашкоў Генадзь Пятровіч (н. 1948), беларускі паэт, публіцыст. У 1972–1979 гг. заг. рэдакцыі, адказны сакратар, у 1979–1989 гг. нам. галоўнага рэдактара час. «Полымя». Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1980), Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1998).

[4] Барадуліны атрымалі новую кватэру па вул. Мележа, 2, кв. 256.

[5] Зуёнак В. Час вяртання. Мінск, 1981.

*23 лютага, субота*

На працу працаваць (дагнаць хвасты). У магазіны.

*** На адной з галоўных вуліц Мінска. Грузавая машына, нагружаная цяжкімі сундукамі, урэзалася тралейбусу ў сцягно. На борце машыны: «Усесаюзны агляд бяспекі руху».

*24 лютага, нядзеля*

Мне — 45. Звон Шкляру [Шклярэўскаму]. 17.00 — у Лечкамісію да Броўкі.

* Мне сёння 45. Васіль Быкаў пазваніў. І словы: «Будзь здаровенькі, будзь шчаслівенькі» (нават *й* кароткае крыху прыдыхае), нібы самы родны павіншаваў, бо так па-ўшацку жадала мне мама (здаровенькі, шчаслівенькі).

* * *

Для ЦК ён — цацан,
А зусім не бякін,
Славаю абмацан
Наш член-кор Шамякін[1].

*25 лютага, панядзелак*

На працу. 10.00 — да Яшы [Серпера] (новы дом). Шэвераў прынясе макет «Бегемота»[2].

*26 лютага, аўторак*

На працу. Чакаць Вялюгіна. Зуёнка на дублікаты. Пазваніць Пімену Емяльянавічу [Панчанку]. Лужаніну (ці дае фота).

*27 лютага, серада*

10.00 — дзевы з вершамі. Да Панчанкі. Вялюгіну кіргізаў[3]. Забраць кніжкі Вані [Бурсава] ў Плескача.

* У Панчанкі. Здымаем пытанні па тому: «У кожнага паэта павінен быць свой фокус». На пахаванні галашэнні: «А хто ж мяне паб’е цяпер!» «Як у Юрася [Свіркі] пра арэхі: звіняць у дно вядра. Фальш: хадзілі з торбамі». Я кажу, што з вёдрамі — толькі ў журавіны. Пімен Емяльянавіч папраўляе: «З рэшатамі, пачэплівалі, як сявалкі, на шыю». Памяць дэталяў!

---

[1] У 1980 г. І. Шамякін быў выбраны член-карэспандэнтам АН БССР.

[2] Барадулін Р. Ці пазяхае бегемот? Мінск, 1981. Малюнкі А. Шэверава.

[3] Пераклады вершаў кіргізскіх паэтаў Такамбаева А., Малікава К., Султанава А., Алыбаева Дж. (Полымя. 1980. № 5).

«У прынцыпе, усё ў вершах паэта ад ўражанняў, ад назіранняў маленства. Паэт глядзіць на рэчы, на свет вачыма сваёй малой радзімы, свайго маленства. Выключэнне: запас уражанняў ад далёкіх паездак, і то яны таксама пад вуглом тым жа».

*28 лютага, чацвер*

Праца. Да Дзяльца[1] (вершы аддаць).

Падпісаць Зуёнка і аддаць «бугру»[2].

12.00 — да Пімена Панчанкі (уручэнне дэпутацкага мандата[3]).

Звон Шаўню.

*29 лютага, пятніца*

Аддрукаваць кіргізаў і ў «Полымя» да 14-ці, у СП (Літфонд, пуцёўку ў лес). Праца. Сустрэцца з Шаўнём.

*1 сакавіка, субота*

10.00 — Толя [Шаўня]. У лес.

Дачытаць «У баях за Радзіму»[4].

*2 сакавіка, нядзеля*

«Партызаны прымаюць бой»[5]. Звон у Мінск.

*3 сакавіка, панядзелак*

Дачытаць «Партызаны прымаюць бой». Дазваніцца да Мінска. Заўтра тэлеграму Шасцінскаму. Аддаць Міхальчуку частку [рукапіса «Ці пазяхае бегемот?»].

*4 сакавіка, аўторак*

Звон у Мінск. На працу (калі прарвуся са снегу). У Лабанка (калі дазванюся) удакладніць. Радыё. Чэхі. Звон Бурсаву.

---

[1] Дзялец Міхаіл Іванавіч (1918–1999), старшыня Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю (1973–1989). Магчыма, гэта той выпадак, калі М. І. Дзялец перадаў у выдавецтва рукапіс сваіх вершаў, і Рыгору Іванавічу давялося далікатна адгаварыць яго ад публікацыі (*заўв*. Н. Давыдзенка).

[2] Марціновіч Аркадзь Нічыпаравіч (1920–2013), беларускі празаік, паэт, перакладчык. У 1974–1981 гг. гал. рэдактар выд-ва «Мастацкая літаратура». Заслужаны работнік культуры БССР (1980).

[3] П. Панчанка выбіраўся дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР у 1971–1990 гг.

[4] Лабанок У. Е. У баях за Радзіму. Мінск, 1964. Выд. 3.

[5] Лобанок В. Е. Партизаны принимают бой. Минск, 1976.

*5 сакавіка, серада*

9.45 — тэлестудыя (старая). На працу. Аддаць «Ці пазяхае бегемот?». Пытанні па Северыні. 13.30 — у лес.

*6 сакавіка, чацвер*

Звон у Мінск Ждановічу, Шаўню, Зайцу.

«Ушаччына з вышыні нябёс».

*7 сакавіка, пятніца*

Сазваніцца з Мінскам (узяць Валі харчаванне [у «Каралішчавічах»] ў бухгалтэрыі).

*8 сакавіка, субота*

Коцікаў для Зайчыка наламаць і сустрэць.

Артыкул пра Уладзіміра Елісеевіча [Лабанка[1]]. Звон Зуёнку.

*Васіль Зуёнак*

Ні крытычных ям, ні літпалонак
Не прывык баяцца В. Зуёнак.
І зямляк[2] Зуёнкаў самы блізкі
Лётаў доўга ў космасе,
Няйначай,
Зачытаўся Васілёвай «Начай».
Кандыдатам стаў і паэмістам,
Пра траву пісаў,
Не слаўся лістам,
Не дрыжэў радок,
Як хвост у пліскі.
Хоць трава маўчыць[3],
Гамоніць прэса
У яго ніколі дзеля стрэсу.

*9 сакавіка, нядзеля*

Ад'езд Заі.

Закончыць артыкул.

---

[1] Гл.: Любоў вяла да перамогі...: [Нарыс] // Маладосць. 1980. № 5.

[2] Кавалёнак Уладзімір Васільевіч (н. 1942), лётчык-касманаўт СССР. Генерал-палкоўнік (1993). Кандыдат ваенных навук, прафесар (1991). Герой Савецкага Саюза (1978, 1981). Герой ГДР (1978). Герой МНР (1981). Ураджэнец Беларусі. Гл.: «Мы толькі ходзім па зямлі...» (25.02.81, Дубулты) // Амплітуда смеласці. С. 22.

[3] Паэмы В. Зуёнка «Нача» (1975) і «Маўчанне травы» (1980).

*10 сакавіка, панядзелак*

У Мінск! Пасля 12-ці Васіль [Быкаў]. 60 год Аркадзю Марціновічу. Пазваніць у СЖ Садоўскаму, 32-04-97 (Індыя[1]). Званіў Лабанок (просьба да Ждановіча).

*11 сакавіка, аўторак*

Забраць у Быкава том[2]. Дазваніцца да Ждановіча. Зняць пытанні з Вадзімам [Спрынчанам]. Звон ад Вялюгіна.

*12 сакавіка, серада*

11.00 — прыязджае Шаўня. 12.00 — да Ждановіча (з блакнотам), фота Лабанка. Узяць з перадруку і аддаць Кухараву[3] матэрыял [нарыс].

*Сцяпану Кухараву*
*(падпісваючы «Прынамсі»)*

Тут нашых улюбёнцаў многа,
Але туды ім і дарога —
У класіку (яшчэ ж куды!).
Хай тужацца — такой бяды.
Сцяпан Іванавіч шаноўны,
Да Вас я ўвесь любові поўны!

*1980*

*Эдуарду Савіцкаму*[4]

Ты зачах,
І я засмяг
Без святога зелля.
Эдуард, прымі «Абсяг»
Успаміну дзеля.
Мы з табой адчулі смак
Міжпланетных рубак.
Маладзік у небе, як
Гістарычны кубак.

*[1980]*

---

[1] Паездка Рыгора Іванавіча ў Індыю ад Саюза журналістаў адбылася толькі ў 1988 г.

[2] Быкаў В. Збор твораў: У 4-х. т. Мінск, 1980–1982.

[3] Кухараў Сцяпан Іванавіч (1919–2011), беларускі пісьменнік, нарысіст. У 1957–1981 гг. рэдактар аддзела нарыса і публіцыстыкі час. «Маладосць». Заслужаны работнік культуры БССР (1980).

[4] Савіцкі Эдуард Міхайлавіч (н. 1935), беларускі гісторык-архівіст. З 1977 г. супрацоўнік Інстытута гісторыі АН БССР. Доктар гістарычных навук (1992), прафесар (1997).

*13 сакавіка, чацвер*

На працу (зняць пытанні з Вадзімам [Спрынчанам]. Фота знайсці і аддаць для «БелСЭ». Да дырэктара [Дубянецкага]. Дазваніцца дамоў да Броўкі. У «Маладосць».

*Родная мова*

Каб роднасць адчулі
Ў сусвеце людскім.

*14 сакавіка, пятніца*

10.00 — Зарыцкі[1].

12.0 — да Ждановіча (фота Лабанка).

*17 сакавіка, панядзелак*

Да Лабанка! На радыё да Макарэвіча[2] (вершы і ўступ да маладых). Ждановіч, званіць 29-38-54 (з вуліцы). На машынку дублікаты Северыні. На тэлефонную станцыю.

*18 сакавіка, аўторак*

9.30 — да Лабанка. На працу. Сазваніцца з Нікіфаровічам. З Вадзімам [Спрынчанам] наконт магчымых правак.

* У Лабанка. «Брыгада [М. В.] Уткіна і [А. Ф.] Данукалава на [возеры] Шо, а ў мяне 13 брыгад, і гэтымі сіламі рабілі прарыў».

Чытае тэкст. «Эх, я вам пакажу зараз адну рэч» — (пісьмо да Гітлера[3]), — корпаецца ў паперах. Паказвае верш Шэфнера[4]. Пытае пра яго. Я хвалю. «Мне здаецца, што ён дужа цікавы».

Робіць папраўку «маўзер» («ён зараз у музеі»). «У Маскве я ўдзельнічаў у распрацоўцы аперацыі па захопу Лепеля і канкрэтныя прапановы [ўносіў] (потым па гэтаму плану два разы ваявалі ў цэнтры Лепеля).

У мяне яшчэ цяжкі выпадак: бой за вёску Заслаўкі (на возеры). Мне пазваніла: немцы націскаюць. Я на самалёт, падлятаю, вёска гарыць, а нікога не відаць. Толькі мы далі круг. Ад аднаго дома двое ў касцы, немцы. Толькі мы з другога заходу, яны з кулямёта, як не збілі. Вясной 44 [года]. Немцы абяцалі на кручок [злавіць] Лабанка.

---

[1] Зарыцкі Аляксей Аляксандравіч (1911–1987), беларускаі паэт, празаік, перакладчык. Зарыцкі А. Выбраныя творы: У 2-х т. Мінск, 1981.

[2] Макарэвіч Васіль Сцяпанавіч (н. 1939), беларускі паэт, нарысіст. З 1979 г. спецкарэспандэнт Беларускага радыё.

[3] Гітлер Адольф (сапр. Шыкльгрубер; 1899–1945), фашысцкі дыктатар Германіі (1933–1945), нацысцкі ваенны злачынец.

[4] Шэфнер Вадзім Сяргеевіч (1915–2002), рускі паэт, празаік.

З [в. Двор-]Пліна каменданта павесілі. Тоўсты. У лапцях. Абшарпаны. А гэта яго партызаны разулі (Васька Косы, здаецца)[1].

«Зорачка». Немцы хацелі падкарміць [дзяцей] і браць кроў. У вёску Бельчыцы. І цяжка было дзяцей узяць. Падпольная група памагла. Немцы баяліся дакладваць, што з-пад носа ўвялі, не дакладвалі. Страшна было глядзець. Даў распараджэнне вывесці. Адна жанчына зараз у Крыме [жыве], пазнала сябе ў шматсерыйным фільме савецка-амерыканскім [пра] Вялікую Айчынную вайну і напісала.

Фідэль [Кастра]: «Валодзя», — (Леніна-помнік па імені). Патроны.

«Час выбраў нас», — гэта ж глупства, я лаяўся з імі, але нічога не памагло.

Калі прывезлі падпалкоўніка, ранены (уткінцы разграмілі Сукнеўшчыну, фашыст. «Ён не падох яшчэ?» А ён па-руску адказвае: «Не падох, не падох», — і тут жа памёр.

Вопратка была як ва ўсіх, гэта і ратавала. Акружылі штаб Радзівонава[2], і мой Кіціна з абкома, расфуфыраны. Мы ўдваіх. Гляджу, ён ўпаў. Снайпер з дрэва.

Мы ў акружэнні. Наперадзе немцы, за возерам немцы, каля 10 лётчыкаў са збітых самалётаў, [каля] 15 партызан і жанчыны. Радзівонаву даю каманду: сеў на пень. Дрыжаць рукі. Разгубіўся. Я тут неяк сам даю каманду зарадзіць аўтаматы (вышынька метраў 200 — там немцы). Трэба крычаць «ура» і страляць. Аўтаматы сякуць галінкі, у другую лінію прарываемся. Балота. Так даваяваўся, што не было сілы выцягнуць бот з бузы. Так у [адным] боце і шкарпэтцы [ішоў]. Полк Садчыкава [І. Ф.]. Радзівонаўцы ў нямецкай адзежы. Бой. Радзівонаў паранены. Ралову: «Зорку здымі і ў балота закіць». [І. М.] Цімчук каля года дакументы [гатовіў], ён увесь час сабой засланяў.

Пасылаю ад'ютанта, дзе хто. Пабег, і рота палка Садчыкава нас выручыла. Палова выйшла з балота. 4-га днём было, калі выйшлі з балота на [в. Двор-]Пліна, да 1000 немцаў ішло. Засада партызанская, зрываюць. Кідаюць ПТР і кулямёты і бяжаць. Тады з лётчыкамі сталі на шляху партызан і спынілі іх. У мяне атрад «Марака». Да вечара затрымалі. Яны бой з другой групай [вялі]. Самы цяжкі момант, калі кідаюць зброю.

У Лепелі Вера Маргевіч, 18 год было, закончыла тэхнікум, зараз сельская школа яе імя. Палітруком роты была. Загінуў кулямётчык. Яна камандуе адыходзіць і сама за кулямётам загінула.

---

[1] Гл.: Перад блакадай (1984) // Маўчанне перуна. С. 53.

[2] Гіль-Радзіёнаў Уладзімір Уладзіміравіч (1906–1944). Вайсковец, раненым трапіў у палон. З 1942 г. камандзір «дружыны», палка, брыгады «Рускай нацыянальнай народнай арміі», сфарміраванай гітлераўцамі з ваеннапалонных. 16 жн. 1943 г. у поўным складзе перайшлі (так лічыцца) да партызан; атрымалі назву 1-я Антыфашысцкая партызанская брыгада.

Партрэт Гітлера вісеў дні 4 ў Лепелі.

Шакаладава ў Зябках страляла ў каменданта, разведчыца. «Навучыце страляць з «вальтэра», я каменданта заб'ю».

Кудраўцаў. Пярэдня: «У засадзе думаў пра зямлю».

Лабанок: «Зайшлі у бальніцу да Броўкі. [Кажу:] «Верш у «Правде» добры». — Адразу павесялеў».

** У Лабанка. «Няма слоў для таго, каб апісаць жорсткія і зверскія спосабы вядзення боя партызан у гэтыя дні». Otto Heildkämper. Witebsk. Kampf und Untergang der 3. Panzerarmee. Heidelberg, 1956 [1954]. [Ота Хайдкемпер. Віцебск. Барацьба і гібель 3-й танкавай арміі. Гейдэльберг, 1954.]

«Каля самалёта: Маліноўскі, Караленка, Ермаш.

№ 81. Міхаіл Жукаў, камандзір атрада брыгады «Дубава». Пётр Літвінаў ішоў у бой і загінуў.

Як выплаўлялі тол у Васькаўшчыне. Снарад нагрэлі даясна (утраіх партызаны). Кузню разнесла, а людзі жывы, толькі чорныя і перапонкі палопаліся.

Самых цяжкіх два моманты.

1) Немцы акружылі ў доме ў 41-м годзе, у лістападзе. Дамовіліся ўзарваць мост Мінск — Віцебск. Прыйшлі на досвітку з другім камуністам. Кажуць: карнікаў атрад. Зялёны Востраў. Немцы злавілі яго, пахлопалі: «Камісар, камісар», — і адпусцілі. Лабанок: «Трэба ўцякаць». [Неразб.1] у гарод самаробную міну. Вёска Валосавічы, ягоны дом канцавы. Тут грукат калёс: «Федзя, немцы, уцячэм». Ён кажа: «Вы напалоханыя». На ўсякі выпадак на ложак заваліўся (пісталет, гранату пад падушку). Толькі засынаць — у вокны ла-ла — немцы. Да яго: «Расказвай, як забіваў нашых», — (ён ляснічы). На кухні пачалі біць. Я (Лабанок) у лімонку палец заклаў (калі б не сям'я — узарваў бы). Жонка: «Вы дужа моцна дыхаеце». Штаны пераблыталі. Ён высокі. З перапуду на гарышча. Выскачыў, боты ў руках. Падмёрзлы шлях, я ў шкарпэтках, у другую [неразб.1].

2) З немцамі ў вёску. Хадзілі хутка (50 км), в. Бор. Крыссі пад рэмень. Гляджу — 2 чалавекі, бліжэй — з вінтоўкамі. Не паспеў перапужацца. «Стой, хто ідзе?» — «Сваі». Яны спыніліся. 4 патроны (2 самаробных і 2 фабрычных). Страляю, яны падаюць. А яшчэ — немцы, я ў двор. Снег глыбокі. Амаль за вёскай.

Самы цяжкі — прарыў. Зямля ходзіць, калышацца, мяне накрыла зямлёй. Калі б 15–20 хвілін спазніліся б, дывізія б закрыла [праход] (удалося «языка» спаймаць).

Прарыў не толькі 4-га. Трэба было запутаць сляды. Падышлі да чыгункі, думалі на Нарач [ісці]. Яны 2 бронецягнікі [пусцілі], і група Вятвіц-

кага (500 чалавек латышы), амаль увесь атрад паклалі. Прарвалі [блакаду] ў раёне Ушач[1]».

*19 сакавіка, серада*

На працу. Узяць з машынкі дублікаты. Васілю [Зуёнку] праўкі. Якуніну[2] фота.

*20 сакавіка, чацвер*

У СП. Заяву на лета, пуцёўку ў лес. Да Навума [Кісліка]. Звон Валі. На працу — дагавор.

*21 сакавіка, пятніца*

10.00 — Лявонаў (казкі). Прынесці Сафронава. Рэкамендацыю Крупенька[3]. Законнікаву (зборнік, білеты). 66-29-88 Сяргей Альбертавіч Картэс[4].

*22 сакавіка, субота.*

Пысіну — 60 год[5].

8.40 — на *Пінск*. Картэс у № 479. Дом культуры [фабрыкі] верхняга трыкатажу.

Самападслухоўванне.

* * *

Когда я вижу Ольгу Тишину[6],
Дышу и думаю возвышенно.
Да будет Господом услышана
Непревзойдённейшая Тишина.
Лишь только запоёт она —
Звенит от счастья тишина.

Якую трэба мець вялікую душу народную (Грузія, Латвія, Літва), каб адусюль ехалі і ўсім хапала ўвагі і цяпла.

---

[1] Гл.: «Нібы ў пячорах…» (27.02.80) // Вяртанне: Альбом; з В. Ждановічам. С. 185.

[2] Якунін Уладзімір М., мастацкі рэдактар выд-ва «Мастацкая літаратура».

[3] Крупенька Яўген Міхайлавіч (1936–1990), беларускі пісьменнік. У 1970–1990 гг. супрацоўнік газ. «Чырвоная змена».

[4] Картэс Сяргей Альбертавіч (1935, Чылі — 2016), беларускі кампазітар. Народны артыст РБ (1999). У 1972–1991 гг. муз. рэдактар, гал. рэдактар кінастудыі «Беларусьфільм». Заслужаны дзеяч мастацтваў БССР (1980). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1982).

[5] Г.: Аляксею Пысіну на 60 гадоў (21.03.80) // Амплітуда смеласці. С. 71.

[6] Цішына Вольга, беларуская спявачка. Салістка Беларускага дзяржаўнага тэатра оперы і балета.

Пытанне Сяргею Картэсу: «Чаму Вы прыехалі да нас, у Беларусь? Мабыць, Вас прывабілі лепей нашы беларускія цымбалы?» — (вучні Лагішынскай школы).

Ханок[1]: «Я полностью ушел в песню».

Маленькія балерынкі з пінскай харэаграфічнай школы.

«Я не любитель, я профессионал, потому у меня нет любимых песен» [Ханок].

*Эдуарду Ханку*

На композиторский станок
Бросает тексты торопливо
Полу-мужик, полу-панок,
Делец московского разлива.
Как будто Игорь Лученок.

Не дай бог вярнуцца на радзіму без голасу — Магамаеў[2].

*23 сакавіка, нядзеля*

Мінск. У Лечкамісію да Броўкі.

Зарыцкі 22-98-15.

*24 сакавіка, панядзелак*

5 раніцы памёр Пятрусь Усцінавіч [Броўка]. Сазваніцца з Шаўнём. У лес. Шабан у лесе.

Пальмаў напаленыя ствалы[3].

*На смерць Петруся Броўкі*

Яшчэ не развіднелася імгла,
Як чорная вестка апала злюцела:
Радзіма паэтава асірацела.
І слова знайсці Беларусь не змагла…

*25 сакавіка, аўторак*

Звон Навуму [Кісліку] (хай пазвоніць Шкляру [Шклярэўскаму] і Ваню [Бурсаву]). Звон Шабану. Мінск. Звон у СП.

---

[1] Ханок Эдуард Сямёнавіч (н. 1940), беларускі кампазітар. Заслужаны дзеяч мастацтваў БССР (1982). Народны артыст РБ (1996).

[2] Магамаеў Муслім Магаметавіч (1942–2008), рускі і азербайджанскі оперны і эстрадны спявак, кампазітар, акцёр і грамадскі дзеяч. Заслужаны артыст АзССР (1964). Народны артыст СССР (1973). Народны артыст Азербайджана.

[3] Гл.: Пад надзейную ахову (24.03.80, Каралішчавічы) // Вечалле. С. 301.

*26 сакавіка, серада*

У Дом літаратара на пахаванне. Да Вялюгіна. Маскоўскі могільнік. Жалобная вячэра. Шкляра [Шклярэўскі]. Навум [Кіслік].

*27 сакавіка, чацвер*

Да Шкляры [Шклярэўскага] (у Яфіма [Лапушына]). Падарунак Лідзе[1]. Кніжку Лапушыным. Звон Шабану. На Шабане ў лес.

*28 сакавіка, пятніца*

Артыкул пра Петруся Усцінавіча Броўку[2] рабіць! Звон Зайцу, Адміралу [Вялюгіну], у «Полымя».

* * *

Працую да вясёлак уваччу,
Нібы з касой іду дадому з лугу.
Хоць радыё на момант уключу,
Каб мову беларускую паслухаць.

«Петрусь Бровка искусно владеет поэтическим мастерством, в его стихах находят место и сарказм, и ирония. И юмор. Всё это в характере самого народа.

Переводы стихов сделаны одним переводчиком — Яковом Хелемским. И они доносят до читателя богатство и силу стиха поэта».

*А. Прокофьев. Литература и жизнь. 21.Ш.62 г.*

«Я тебя люблю за то, что ты умеешь беседовать. Будь ты в Полесье или в Америке, ты беседуешь со мной. Это драгоценный дар… а общее впечатление от книги такое — как будто я сам её написал. Такое впечатление должно быть у читателя от каждой хорошей книги.

*P. S.* Ещё я забыл сказать, что тебя очень хорошо перевёл Яков Хелемский».

*М. Светлов[3]. Письмо вместо рецензии.*
*Литературная газета. 24.X.61 г.*

*29 сакавіка, субота*

Звон Лукшу дамоў, Зуёнку, Ждановічу.

---

[1] Жонка І. Шклярэўскага.

[2] Гл.: «З-пад Ушачы крыніцы…» (23.03.80; Маладосць. № 6; Парастак радка, галінка верша. С. 75; Зямляк //Аратай, які пасвіць аблокі. Мінск, 1995. С. 159.

[3] Святлоў Міхаіл Аркадзьевіч (1903–1964), рускі пісьменнік. Лаўрэат Ленінскай прэміі (1967, пасмяротна).

*30 сакавіка, нядзеля*

Успаміны-артыкул пра Петруся Усцінавіча [Броўку].

* Каралішчавічы. Па радыё выступае жанчына: «Не было на каго абаперціся; трактарыстам панаравіла; пакуль я не выспяюся; іграе баян — дай я пабарабаню, барабаню і пяю; я як верталёт — шух і там; добры, харошы лён рос; сыны мае робяць, сын у клубе робіць на ансамблі. Мне хочацца рабіць, мяне цягне да работы, стараюся, раблю.

Чырвона каліна
Белым цветам цвіла.
За цябе, казача,
Мяне маці біла.
Біла мяне маці
Бярозавым прутам,
Каб я не гуляла
З маладым рэкрутам.

Ён да песень, да танцаў самы першы хлопец; пайшоў на ўступкі; сем класаў кончыла ў маі; і майстра зарабіла першага класу (даярка)».

*31 сакавіка, панядзелак*

Звон Вялюгіну, «БелСЭ», Сяргею Законнікаву. Прывесці ў парадак вершы (кубінскую нізку), перадрук.

Вершы Н. Паблера[1].

* Каралішчавічы. Жэня Шабан дае семак і па-філасофску заключае: «Я разумею, чаму такія ўкраінцы тупыя, бо семкі ўвесь час грызуць. Сам адчуваю па сабе — як толькі гэтую заразу ў рот вазьмеш, адразу ні пра што не думаеш і галава свінцом тупасці наліваецца».

Як у паблуд пойдзе… Што ты — ні пылі!

*1 красавіка, аўторак*

Звон Зайчыку, Законнікаву (мяркуемы склад камісіі па спадчыне [Броўкі]).

*2 красавіка, серада*

Выезд у Мінск. СЖ, Гусеў Генадзь Канстанцінавіч 36-33-36. Садоўскі 32-04-97 (Індыя).

Да Рабкова[2] (тэлефон).

---

[1] Гублер Навум Якаўлевіч (н. 1933), беларускі пісьменнік. Жыве ў ЗША.
[2] Рабкоў Віктар, супрацоўнік Дзяржаўнага Гістарычнага музея.

*3 красавіка, чацвер*

9.00 — Іван Іванавіч Антановіч[1] 29-39-55. ! Кніжку Васілю Уладзіміравічу Пяткевічу, «Книжное обозрение» 28.III.80 (Кіслік). Ждановіч (фота Броўкі). Да Фамы [Караткевіча].

*6 красавіка, нядзеля*

Вялікдзень!

*7 красавіка, панядзелак*

10.00 — на *«Прарыў»*. 13.00 — абед. Ад'езд на Мінск. Дамоў забегчы, развітацца з хатай [ва *Ушачах*].

8 красавіка, аўторак

Муштаеў[2] № 649 [гас. «Мінск»]. 9.00 — у гасцініцы праводзіны Муштаева і Чалдаева[3]. На працу. Звон Шаўні. 11.00 — да Лабанка. 32-24-96 — Крупенька.

*9 красавіка, серада*

10.00 — выезд СП у *Слуцак.* Да Якава Абрамавіча [Серпера]. Сяргею [Законнікаву] (Школьную вуліцу [ва Ушачах перайменаваць] — Броўкі).

*10 красавіка, чацвер*

На працу. 12.00 — да Ждановіча. Панчанка — афармленне[4]. На радыё — артыкул, вершы. Паслаць Бяспаламу[5] вершы і Лучука[6].

*11 красавіка, пятніца*

На працу. 14.00 — пленум у філармоніі. 16.00 — да хірурга. Да Навума [Кісліка].

Сакавіцкая завіруха, сакавіты апошні снег. *Лютня навальніцы — ліўневыя струны.* Светлафор сціскае і расціскае кулачкі.

*12 красавіка, субота*

Да Ждановіча. Звон Сяргею [Законнікаву].

---

[1] Антановіч Іван Іванавіч (н. 1937), беларускі філосаф. Доктар філасофскіх навук (1973). Прафесар (1977). У 1977–1987 гг. на партыйнай рабоце.

[2] Муштаеў Уладзімір Паўлавіч (н.1934), рускі журналіст, пісьменнік, тэлесцэнарыст. Супрацоўнік Цэнтральнага тэлебачання (Масква).

[3] Дакладней, Чалмаеў Віктар Андрэевіч (н. 1932), рускі крытык, літаратуразнавец.

[4] Панчанка П. Маўклівая малітва. Мінск, 1981.

[5] Бяспалы Змітро (Дзмітрый Аляксандравіч; 1934–1999), беларускі пісьменнік. У 1977–1994 гг. гал. рэдактар час. «Родная прырода».

[6] Лучук Уладзімір Іванавіч (1934–1994), украінскі паэт, перакладчык.

*14 красавіка, панядзелак*

Ад 10 красавіка гэтага года. Дырэктар магазіна «ВАЗ» Басько Мікалай Рыгоравіч, ліст 779.

Назва [кнігі] Івана Драча «Мелодыя каліны»[1]. З Вадзімам [Спрынчанам]. 12–13.00 — запіс на радыё. 14.00 — да Ждановіча. Да Лабанка — фота (удакладніць км тэле [?] 25). 19.00 — урачысты вечар 36-81-95.

* У Лабанка. Калгас [імя] Жданава, Чашніцкі раён, Мядзведск, Шатыронак Сцяпан Міхайлавіч — [мянушка] Дзед Талаш. Ён просіць, каб яго сфатаграфавалі з Лабанком над картай. Лабанок усміхаецца. Перадаю фота. «Толькі гэтую асобу (паказвае на сябе) меней давайце».

*Як непатрэбны — лёс б'е пад рэбры.* Паве́чка (ушацкае) — вейка, ресніца. *Век дня. Дзень паўтарае век, але ў імгненне вока.*

*15 красавіка, аўторак*

Выезд ва *Ушачу.* На Завячэльскі магільнік, на Ваўчэнскі, на Бутаўскі. Да Марыі Рыгораўны [Трафімавай].

*** *Апошняй снежкай на альшыне сарока, якую зляпіў красавік.*

*16 красавіка, серада*

9.30 — у райком (бензін, аддаць фота). На азёры Чарсцвяды [Чарсцвяты], Атолава. На Мінск.

*18 красавіка, пятніца*

10.00 — Шніп у рэдакцыі.

*19 красавіка, субота*

Суботнік. Здаць Сафронава. Званок Алене Міхайлаўне [Броўка].

*21 красавіка, панядзелак*

У «Вясёлку» — верш. 22-79-54 Роза Тодараўна[2], 11–12.00 — Музей Янкі Купалы (паэму Паптонева).

*22 красавіка, аўторак*

Праца. Фота новае ў «Вечалле». 16.00 — пахаванне Марыі Майсееўны Цуран[3].

* Званю Караткевічу, дзякую за кніжку, за афтограф Ілоне, за эсэ пра Скарыну ў «Беларусі», № 4. Кажу, калі буду некалі пісаць пра цябе, напішу, што з гісторыяй быў як роўны. Як з суседкай.

---

[1] Драч І. Мелодыя каліны. Мінск, 1981.

[2] Станкевіч Роза Тодараўна, супрацоўніца Літаратурнага музея Янкі Купалы.

[3] Цуран М. М., настаўніца рускай мовы Ушацкай СШ.

— У якой суседа няма, — дадае Валодзя.

*23 красавіка, серада*

У Саюз журналістаў (паперы наконт Індыі). У домакіраўніцтва, вузел связі, да Яшы [Серпера].

*24 красавіка, чацвер*

У фотаатэлье, на вузел связі, да Яшы [Серпера]. 15.00 — прыёмная камісія.

*25 красавіка, пятніца*

Праца. Званкі Зуёнку, Пімену [Панчанку], Сяргею [Законнікаву].

*26 красавіка, субота*

У фотаатэлье.

*27 красавіка, нядзеля*

Папаніна, 1а (міліцыя). Крыл. Ал. Сом.[?] к 10-ці, пакой 13.

*28 красавіка, панядзелак*

Да Яшы [Серпера]. Анатоль Емяльянаў. На працу.

29 красавіка, аўторак

Праца. Зняць пытанні з Піменам Панчанкам. Артур Кляўко[1] прыйдзе. 20.00 — чакаць Яшу [Серпера].

*30 красавіка, серада*

Праца. Пытанні па тэлефоне з Піменам [Панчанкам]. Звон Сяргею [Законнікаву].

* * *

Паэт — не схлудзелых радкоў вазак.
Паэт,
        ён гарыць,
                        як балючы гузак
На лобе абражанага народа.

*1 мая, чацвер*

Дома сядзець і перакладаць Івана Драча. Паштоўкі, званкі.

---

[1] Сын Г. Кляўко.

*2 мая, пятніца*

І. Драч. Паштоўкі, званкі. Закончыць верш[1]. Працаваць па гаспадарцы. *Кракадзіла — крок адзіны.*

*3 мая, субота*

Сарачыны Петруся Усцінавіча [Броўкі] ў СП.

*Віктару Жаку*

Віншую з усімі мая́мі
І з будучымі баямі,
Дзе ўсё вырашае атака,
Шаноўнага Віктара Жака!
Змяняюцца марты мая́мі.
У марах няхай і наяве
Заўсёды ўсё будзе на ўздыме
У сябра майго з маладымі.

*4 мая, нядзеля*

14.00 — да Дзімы Моркаўкі. Прыезд Бурсава, [гас.] «Мінск», № 505.

*5 мая, панядзелак*

На працу. Жычка. 10.00 — «Дзень паэзіі». Бурсава ў гасцініцы. На працу. Звон Сяргею [Законнікаву], Алене Міхайлаўне [Броўка], у СП (бухгалтэрыя). Да Навума [Кісліка]. Звон Ждановічу, Рэму [Нікіфаровічу], «Полымя».

*6 мая, аўторак*

10.00 — да Вані [Бурсава]. Ваенкамат, да Яшы [Серпера]. Пазваніць Лабанку (калі можна запісаць на тэле). Сяргею [Законнікаву] рукапіс Броўкі.

*7 мая, серада*

9.00 — да Яшы [Серпера] (нафтызін).

*10 мая, субота*

*Анатолию Чмыхало*[2]

Красный Яр
И ярость краснотала —
Было всё,

[1] «Гармату мог бы перці на спіне...» (2.05.80; верш у рабочым блакноце).
[2] Чмыхала Анатолій Іванавіч (1924–2013), рускі паэт. Ганаровы грамадзянін г. Краснаярска.

Но красен город тем,
Что монументальнейший Чмыхало
В нём живёт
Незыблемостью тем.

*11 мая, нядзеля*
На новую кватэру лямпачкі.

*12 мая, панядзелак*
Наконт тэлефона.
Да Ждановіча і да Шрамякова[1].

*13 мая, аўторак*
Да Фёдара Фёдаравіча (папку Грэйдзінгу), у ваенкамат, міліцыю, у стол знаходак трамвайнага парка.

*14 мая, серада*
16.00 — да Яшы [Серпера]. Плётка з абліцоўшчыкам. Звон Карласу [Шэрману].

Грэйдзінгу цягніком пераслаць папку.

* У Лабанка. Тэлезапіс. Лётчыкі Паўзуноў, Жога, Фадзееў.

Лабанок: «Вёска Васькава, мы стомленыя, заснулі, а — немцы. А тут рэчка. А я ў ботах і ў трусах.

Нехта перадаў, і немцы выпусцілі карэкатуру-лісток і скінулі ў нашу зону. Тады мы Гітлера разрабілі на твары ўсе зверствы і ў Лепелі [раскідалі].

Каля Камена [вывесілі] сцяг. Немцы думалі, што мініравана. Яны пачалі па сцягу [страляць]. А з процілеглага боку ехалі немцы і адкрылі агонь.

У [в. Двор-]Пліна камендант лютаваў. Заданне — злавіць. Злавілі. Вязем. Ну што за камендант. Абадраны, у лапцях. «А дзе камендант?» — «Во ён». Яны яго распранулі».

*15 мая, чацвер*
Да Мікалая Дзмітрыевіча [Ладуценкі].

*16 мая, пятніца*
Праца. У «Маладосці» забраць карэктуру. Пазваніць Шрамякову (*Ушачы,* ад'езд).

---

[1] Шрамякоў Віктар Рыгоравіч (н. 1930), беларускі мастак.

*19 мая, панядзелак*

Устаноўка тэлефона. Праўкі ў «Маладосць». Вершы Вярбе[1] ў [час.] «Беларусь». Да Яшы [Серпера] (нітралак).

*20 мая, аўторак*

Праца. Звон Лужаніну, Зарыцкі. Сяргей [Законнікаў] (рукапіс). У паліклініку СП. На новую кватэру. Звон Навуму [Кісліку].

*21 мая, серада*

На працу. У клініку СП. Прэзідыум (прыём ў СП: Крупенка [Крупенька]). Да Рабкова.

*22 мая, чацвер*

Праца. З Вадзімам [Спрынчанам] пытанні зняць па Сяргею Законнікаву. У клініку. Да Навума [Кісліка]. Білет знайшоўся! На кватэру новую, да Яшы [Серпера].

*23 мая, пятніца*

8.00 — на новую кватэру. Скобелеву[2] 29-35-07. Сяргею [Законнікаву] звон.

*26 мая, панядзелак*

Праца. Быкаву (вычытаць карэктуру). Звон Лойку. У Вялюгіна — гора [памерла жонка[3]]. Да Навума [Кісліка] (у «Полымі» апошні верш Броўкі). Да Вялюгіна. У новую кватэру.

*27 мая, аўторак*

Александровіч Радаслаў[4] (чакаць), звон Лойку. 13.00 — пахаванне Наталлі Канстанцінаўны Кедалавай (Чыжоўка). Карэктура Андрэя [Вазнясенскага[5]].

---

[1] Вярба Вера (сапр. Сакалова Гертруда Пятроўна; 1942–2012), беларуская паэтэса. У 1980–1983 гг. супрацоўніца час. «Беларусь».

[2] Скобелеў Эдуард Марцінавіч (н. 1935), рускі пісьменнік, дыпламат. У 1966–1991 гг. працаваў у апараце ЦК КПБ. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1998).

[3] Кедалава Наталля Канстанцінаўна.

[4] Александровіч Радаслаў Андрэевіч, сын А. І. Александровіча, звяртаўся ў выдавецтва з просьбай надрукаваць вершы ці пераклады бацькі. *Александровіч* Андрэй Іванавіч (1906 —1963), беларускі пісьменнік, член ЦВК БССР, член-карэспандэнт АН БССР. Быў двойчы рэпрэсаваны (1938–1947; 1949–1955).

[5] Вазнясенскі А. Небам адзіным. Мн., 1980. Пер. Р. Барадуліна. Гл.: Паломнік у край раптоўнага слова (1980) // Парастак радка, галінка верша. С. 95; Андрэй Вазьнясенскі (2004) // Дуліна ад Барадуліна. С. 116.

* Хаваюць Кедалаву. Словы перабіваюць шпакі, чаркат малых шпачанят. Маладое жыццё з патрабаваннем ежы перабівае словы. У шпака клопаты. Дзюбы разяўляюцца шырэй і шырэй.

*28 мая, серада*

Праца. Жычку (характар папрасіць рухаць). У новую сядзібу. У клініку. Да Навума [Кісліка], звон Вадзіму [Спрынчану]. Арлову В[еніяміну] А. пазваніць (паездка ва Ушачы, 65-29-22).

*29 мая, чацвер*

14.00 — Гарык [прараб].

Яша [Серпер]. Клініка (рэцэпт В. Быкаву).

*Яшу Серперу*

Столькі ж год яшчэ цягні
Клопату і шалу гіру,
Не падводзячы ані
Ні кліентак, ані Міру!

*31 мая*

*** Аб'ява. Студэнтка з музвучылішча: «Згублены кашалёк. Вярніце хоць дакументы і вершы»[1].

Домік 1-га з'езда РСДРП[2], аканіцы разнасцежаны, як ад задухі.

Вялікаму рублю вялікае плаванне.

Калі Ніл [Гілевіч] будзе сакратаром СП, то будзе саюз алігатараў Беларусі.

Дожджык-імажыніст, імжыць.

Малы: «Пажарная машына паехала глядзець, дзе агонь».

Кот пабіў вазу, глядзіць на двор і цягне ўсё адно: фар-фор[3].

*2 чэрвеня, панядзелак*

*п. Ушачы.* [М. Р. Трафімава:] «Як была Купала, [збіраліся], у каго што было [прыносілі]. У Васільковай старой хаце робілі Купалу. Фэля [Міклашэўская] кіслым малаком заправіла цыбулю. Напаследку з'елі і міску абскра́балі. Сягоння першы дзень Пятроўкі. А ўчора былі загавіны. А Пятроўка раней стала, цыбуля яшчэ не нарасла. Расада яшчэ не выспела — ківаецца».

---

[1] Гл.: Ля дошкі аб'яў ([1986]) // Маўчанне перуна. С. 33.

[2] Дом-музей адкрыты ў 1923 г. у доме, дзе ў 1898 г. адбыўся 1-шы з'езд Расійскай сацыял-дэмакратычнай рабочай партыі (бальшавікоў; 1912–1918).

[3] Гл.: Фарфор ([1985]) // Індыкала-кудыкала. Мінск, 1986. С. 14.

Паэт не выбірае радзіму, радзіма выбірае свайго паэта. Ушаччына — спеўная, крынічная, баравая, партызанская, выбрала сваім паэтам Петруся Броўку.

Сусалка Пётр, загадчык аддзела прапаганды і агітацыі Віцебскага абкома.

*Забораўна — у бора за пазухай.*

[Чужой рукой:] Кубличи. Козловский Михаил Ефимович.

* * *

Праз пакаленняў колькі
Дзеці ў індзейцаў гуляюць.
Індзейцаў даўно няма,
А дзеці іх, як духаў вякоў,
выклікаюць
І з нябыту вяртаюць.
Няўжо некалі будуць гуляць
У зямлян, у беларусаў, літоўцаў?[1]

* * *

Хто гэта? Птушка.
Што гэта? Дрэва.
Што гэта? Трава.
Старэйшых,
Што былі знітаваны
з прыродай, няма.
А мы толькі ведаем
дэталі машын, маркі машын,
Што, здаецца, будзем брахаць,
як машыны.

* * *

Хто гэта спявае?
Птушка.
Хто гэта гамоніць?
Дрэва.
Хто гэта шуміць?
Трава.
Іхнія імёны мы забылі,
А бацькоў,
што жылі ў суседзях

[1] Гл.: «Праз пакаленняў колькі…» ([1986]) // Маўчанне перуна. С. 28.

З дрэвамі і птушкамі,
няма[1].

*3 чэрвеня, аўторак*

Лабанку 9.30.

* *г. Віцебск,* [газ.] «Віцебскі рабочы». Харашкевіч Іван Мікалаевіч, Старое Сяло, Плінская школа, ваенрук (з бацькам у кулямётным разліку).

Іван Шамякін: «Я напісаў п’ес столькі, колькі Макаёнак[2], але ў яго ў 150 тэатрах ідзе, а мае ў тэатрах 10–15-ці. Але п’есы мяне ўцягнулі, і я пісаць буду. Бывае выпадак, калі матэрыял шукае пісьменніка, а бывае, калі пісьменнік матэрыял. Пакуль жыву, датуль пішу».

Па дарозе вязуць карову ў самазвале, абгароджаным, як плотам, шафёр з напарнікам дае газ, пераганяе аўтобус наш, карова рагамі прывязана, на нагах стаіць, на ўхабах аж прысядае; чорна-белая, вочы сумныя-сумныя, баюся сустрэць гэты позірк, калі машына параўноўваецца, вочы карміцелькі. Хачу, каб наш шафёр абагнаў.

На блакіт наплываюць белыя хмары, нібы забінтаваць хочуць, але позна. Нешанцлівае месца над абрывам. Сасна маладая з маладой рабінкай. Старая дала абсадкі, вакол яе дзеткі растуць.

Віцебскі раён, в. Вароны, школа. Балабоўка Мікола Апанасавіч.

*4 чэрвеня, серада*

*п. Ушачы, в. Новае Жыццё.* Сасна з аўтографамі маланак. Адзін ствол адколаты, на другім пісяг маланкі, абрэзаныя сукі, яшчэ ў небе рунее ігліца, і страла падсочкі на ствале ўніз. Як указальнік капцамі ісці ў зямлю.

В[еня] А[рлоў] *NB.*: «Раз у сто год сасна змяняецца бярозай, цёмны лес светлым. Як на планеце нашай белая і смуглая расы».

*Нервовы почырк бліскавіцы.*

Яліна цёмная цвіце, не ўзбегшы на абрыў высокі, дзве светлыя бярозы зялёным полымем шумяць. Трывалы ствол. Як партызанка з пекла блакаднага, як ўдава закаханая з разучай выйшла асакі[3].

Падсмалены скварам ядленец падсвечвае зеляніну, скупую, але спрадвечную, і кучаравая на кручы зялёнахмарая сасна.

Рунь запазнілася — здалёку зялёная кволасцю сваёй. Сунічнік белым зацвітае, аж забегалі мурашы. Рабінка белы агонь сунічніка з зямлі пераняла. І свечкі сосен дагасмягаюць, і смягнуць птушак галасы.

---

[1] Гл.: «Хто гэта спявае?» (1980–06.1983) // Маўчанне перуна. С. 83.

[2] Макаёнак Андрэй Ягоравіч (1920–1982), беларускі драматург. Народны пісьменнік БССР (1977). Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Янкі Купалы (1962), Дзяржаўнай прэміі імя Якуба Коласа (1974).

[3] Гл.: Яліна цвіце ([1986]) // Маўчанне перуна. С. 211.

Ад ветру па следу пісягу маланкі бурштынее смала, і на падсочцы таксама бурштынінка-смала. Тут мясціны помняць партызан. Веня здымае сад ў цвеце.

Леў Рыгоравіч [Міхайлаў]: «Пчол няма, хоць вецер апыляе».

Настасся Юльянаўна [Пярэдня]: «І туды едуць, і адтуль едуць па дарозе, а я адна.

Летась паглядзела на Петруся і падумала: «Ужо ты, браток, больш не прыедзеш».

*в. Пуцілкавічы.* Яблыні цвітуць. Помнік маці [Броўкі] і дзве бярозы проставалосыя ў адчаі. Хата Настассі Юльянаўны, у вуллях некаторых пчолы. У траве зарослыя, як старыя, хаты (хаты з павязкамі сасновымі на вачах). Кладачка. Тут летась стаяў П. У. Броўка. Кладка засталася.

Леў Рыгоравіч: «Бяроза піянер, як і асіна. Пакуль вырасце *жараднякоавага* ўзросту, калі чалавек не ўмяшаецца, дык змена парод».

*5 чэрвеня, чацвер*

*г. Полацк.* Па П. У. Броўку. Будынак [газ.] «Чырвонай Полаччыны». Акружком, вуліцу Ветранская шаша [перасякае], плошча каля помніка Скарыны[1] (без назвы, завуць Цэнтральная), гасцініца.

Родныя мясціны, родная зямля спакойна адпускае нас у свет, бо ведае: з кожным годам мацней і мацней пацягне нас назад, да вытокаў[2]. З кожным годам даражэй і бліжэй будуць і дрэўца кожнае, і паварот сцяжынкі, і ростанькі, як лініі лёсу на далані жыцця.

*7 чэрвеня, субота*

*в. Паўвіркі.* Салаўі ў кустах. Адлівае з поўнага, булькае, а пасля прыцмоквае. Нібыта гарачы спеў вылівае з гулкага слоіка — буль-буль-буль. Так-так-так — прыцмоквае.

У Паўвірках Веня [Арлоў] рыхтуецца здымаць — кабеты пасуць кароў: «Ці гэта кіно будзець, ці любіцелі?»

Потым адна далей гоніць кароў, а адна ламае шчодры букет бэзу з былога двара і ідзе дадому.

---

[1] Помнік-бюст Ф. Скарыне ў Полацку (1975. Скульптары А. Глебаў, І. Глебаў, А. Заспіцкі). *Скарына* Францыск (да 1490 — каля 1541), беларускі і ўсходнеславянскі першадрукар, перакладчык Бібліі на беларускую мову, мысліцель-гуманіст, асветнік, пісьменнік. *Глебаў* Аляксей Канстанцінавіч (1908–1968). Народны мастак БССР (1955). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1976, пасмяротна). *Глебаў* Ігар Мікалаевіч (1923–1986). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1976). *Заспіцкі* Андрэй Міхайлавіч (н. 1924). Заслужаны дзеяч мастацтваў БССР. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1976), Дзяржаўнай прэміі СССР (1977).

[2] Гл.: Петрусю Броўку ў дзень 75-годдзя (25.06.80) // Амплітуда смеласці. С. 66.

*2 ліпеня, серада*

У Пімена Панчанкі. Забіраю прадмову[1] да «Истока моей судьбы» Петруся Броўкі, чытаю. Добрая прадмова.

— А чаму не дабавілі пад сваім прозвішчам «народны»?

— Мне нялоўка. Як хочаш — сам напішы.

Гаворым пра паэзію. Паэма адной паэткі. Адступленні ў лістах, раскінутых так-сяк рыфмаваных радках пад прозу.

— На Захадзе гэта даўно. Але там, калі піша, а думка і пачуццё вырываюцца, не месцяцца ў гэты памер і настрой, тады натуральна гучаць.

— У адной паэтэсы чытаў: «Я іду па пажоўклай атаве». Не кажу ўжо, што сугучча. Як гэта пажоўклая атава? Атава зялёная да самага снегу, з-пад снегу зелянее. Яе авечкі дужа любяць. Яна сакавітая, зялёная.

*13 ліпеня, нядзеля*

*Кактэбель.* «Какая ложь, какая сила Тебя, прошедшее, вернёт!» (А. Блок).

Литературствующая бездарь.

Ишханову Сергею Михайловичу кніжкі ў «Кактэбель». Сасім Хіда [?], Б. Хмяльніцкага 10, кв. 25. Аляксею[2] ў Элісту [паслаць] Купалу, Броўку, «Як ліст дубовы…», Маруа[3].

* * *

Права першай ночы сала’ю
Па вясне належыць безумоўна.
Задыхнецца ў стогне: — Абаўю…
Зглухне дол, шалёны бэз замоўкне.

Абаўе надрэчную лазу,
Абаўе сустрэчу і расстанне.
Па слязе заранкі — па лязу
Аж да неба росны спеў дастане.

Возьме ад вясны-красны зарок
Не чапаць яго кусты густыя.
Потым змроку шэры вузялок
На траве ад песні зябкай стыне.

---

[1] Гл.: Панчанко П. С высоты опыта и мудрости // Бровка П. Истоки моей судьбы. Минск, 1981.

[2] Балакаеў Аляксей Гучынавіч (1928–1998), калмыцкі раэт, празаік, драматург, перакладчык. Народны пісьменнік Калмыкіі (1992). Заслужаны работнік культуры РСФСР, Лаўрэат прэміі Калмыцкай АССР імя О. І. Гарадавікова.

[3] Маруа Андрэ (сапр. Эрзог Эміль; 1885–1967), французскі пісьменнік.

Права першай ночы салавей
Заслужыў і ўладна заяўляе,
Так што лістабой і суравей
Да снягоў спяваюць салаўямі…

*** Калмыцкія прыслоўі: чалавек, які сядзіць на вярблюдзе, бліжэй да неба; чым быць малодшым братам дурня, лепей быць парасём.

*15 ліпеня, аўторак*

*Стары Крым.* Кэрым (крэпасць). Екацярынінскія мілі. Пацёмкін[1] жаніў салдат — шарэнга салдат, шарэнга дзевак, ты і ты, так і сям'я.

Дом-музей Грына[2]. Пародзісты шляхціц. Магіла Грына. Суцэльны жах. Жабрацтва. Няўжо няма грошай у СП? Адзін банкет ахвяраваць, і будзе надтрунне. Георгі Лакеевіч марыць пра тоны граніту, напэўна.

40-годдзе Паўла Моўчана[3]. Шмат армян. Адзін татарын (Рэнат[4]), які болей падобны на славяніна, чым я. Ашанін[5] чытае верш пра чарговую жонку. (Пальцы барабаняць па спіне.) Тост: «Каб заўсёды была спіна, па якой барабаняць пальцы».

Аляксей [Балакаеў]: «Першы год пасля аднаўлення Калмыкіі пілі ўсе разам — урад, рабочыя, інтэлігенцыя. Праз год урад уверх пайшоў і стаў піць сам, рабочыя самі сабе, а інтэлігенцыя як прастытуткі».

«Ні дня без *рыдка*» — дэвіз плакальшчыкаў.

Прагрэсу падчарка — дрывотня.
Чым лес цямней, тым ён дрымотней,
Пакуль прасекаю прагрэс…

*

Горад, быццам лебеда гарод,
Заглушае немата стагоддзяў.

---

[1] Пацёмкін Грыгорый Аляксандравіч (святлейшы князь Таўрычаскі; 1739–1791), расійскі дзяржаўны і ваенны дзеяч, генерал-фельдмаршал.

[2] Грын Аляксандр (сапр. Грынеўскі Аляксандр Сцяпанавіч; 1880–1932), рускі пісьменнік.

[3] Моўчан Паўло (Павел Міхайлавіч; н. 1939), украінскі паэт, перакладчык, сцэнарыст, грамадскі і палітычны дзеяч. Заслужаны дзеяч мастацтваў Украіны (1993). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Украіны імя Т. Г. Шаўчэнка (1992).

[4] Харысаў Рэнат Магсумавіч (н. 1941), татарскі паэт, крытык. Заслужаны работнік культуры Каракалпакскай АССР, заслужаны дзеяч мастацтваў Рэспублікі Татарстан, заслужаны работнік культуры Чувашскай Рэспублікі. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі РФ (2005), прэміі Татарстана імя Г. Тукая, прэміі Татарстана імя М. Джаліля, Міжнароднай прэміі Чувашыі імя М. Сеспеля (2009), прэміі Рэспублікі Башкортастан імя Ф. Карыма, расійскай прэміі «Залаты Дэльвіг» (2015).

[5] Ашанін Леў Іванавіч (1912–1996), рускі паэт. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1950). Гл.: Леў Ашанін (2004) // Дуліна ад Барадулна. С. 140.

Хоць стае грамам грымот,
Немату нічым не залагодзіш.
Тут стагналі войны,
Дынаміт,
Рушыліся камяніцы.
Можа, гэта наша глухата
Даўніне сівой перадалася.
Ці вякам абражаным знарок
Наша глухата перадалася…

*22 ліпеня, аўторак*

Генуэзская крэпасць. З едлаўцовага дрэва пракладка сейсмічная.

Суровая нітка жыцця
Не лезе ў шаршатку долі.
Ад часу-краўца
Ныцця
Ніхто не пачуў ніколі.

Ц — цыстэрна з кранам.
М — мы за рукі.
Ч — баскетбольная сетка; крэсла ў цырку.
Э — паказала язык, таму яго ў канец алфавіта паставілі.

*24 ліпеня, чацвер*

Карцінная галерэя Айвазоўскага[1]. «Сярод хваль» [напісаў] за 10 дзён у 80-гадовым узросце (аж холадна ад зеленаватых хваль, якія крышацца, як крыгі). Назіраў мора і пісаў потым па памяці.

*26 ліпеня, субота*

*Юрию Кобрину*[2]

С собой не сладить Юрию.
Как якорь перед бурею,
Он вновь висит на талии,
На талии Наталии.

*

Натурою и шкурою
Сочувствую я Юрию,

---

[1] Айвазоўскі Іван Канстанцінавіч (1817–1900), рускі мастак-марыніст.
[2] Кобрын Юрый Леанідавіч (н. 1943), рускі паэт, перакладчык (Літва). Заслужаны дзеяч мастацтваў Расіі. Наталля, жонка Ю. Кобрына.

Как он висел на талии,
На талии Наталии.

* * *

Нібыта заручылі іх сілком —
Бярозку-вывітушку з васільком,
І нарадзіўся сын з красою хворай,
І ён цвіце сухотліва — цыкорый.

* * *

А калі зазвоніць твой тэлефон,
Ведай, гэта не я званю,
Гэта вецер забытых вясновых дзён
Захацеў разбіць цішыню.
І калі нават голас пачуеш мой,
Ведай, гэта з начэй былых
Снег балючы далёкай Рыгі зімой
Захацеў патрывожыць слых.

*30 ліпеня, серада*

*Ренату Харису*
*(надпись на «Озере [твоих очей]»)*

Не боятся стихи преград,
Ни стихии, ни духа злого.
Расширяй, дорогой Ренат,
ХАРИСонты родного слова.

Пытаю ў аднаго ўкраінца, як будзе слова *бранить.* Пачынае тлумачыць — *гучыць жонка*; а як будзе па-расійску? «По-російську немає, бо російська мова бідніша, ніж наша».

*Як стэпавы букет, дурманліва пахучы…*

*1 жніўня, пятніца*

* * *

Радкі,
Як і каменьчыкі марскія,
Пакуль на іх дыханне мора стыне,
Зіхцяць, а ледзь прыбой на засуш скіне,
Шарэюць, аднастайныя, пустыя[1].

---

[1] Гл.: Каменьчыкі ([1994]) // Евангелле ад Мамы. Мінск, 1995. С. 377.

Не магу сказаць, ці я кахаю. Ведаю, што без цябе не магу[1].

*3 жніўня, нядзеля*

Пілоты паўднёвых рэйсаў грэюцца, як цыганы ці палякі, гародніну і садавіну [прадаюць].

Няўмольны рост пісьмовай культуры. Спачатку здымала шкуры і перавяла валоў. Зараз цэлыя дзялянкі. Наскальная культура — усё на месцы.

Наташа Кобрынава даўно жыве ў Вільнюсе, а расказвае, што ў Карме бабчын сад стаў нічыйным, і бабцы балюча глядзець, як ламаюць галінкі, і Наташы балюча.

*6 жніўня, серада*

Мінск. У магазіне «1000 дробязей», як ва ўспаміне, лірычным робішся, і пальцы ад зямлі адмываць, калі апусціліся рукі.

*13 жніўня, серада*

«ЛіМ», СП. (Барысу[2] заяву). ОВИР[3]. 17.40 — на *Ушачы.*

*** Партрэт Броўкі для школы [напісаў] Пучынскі[4].

1887–4 мая 1947 Гайко Малання Несцераўна[5].

Мне касаваротку дашывае мама, покуль я салодка сплю*.* Спіць яшчэ хмурына дажджавая, што прамые да касцей зямлю[6]. Гулкія пяткі сцяжынкі[7]. Баюся ўставаць, каб не будзіць сон. *Шкада сон будзіць.*

26 [снежня] — [час.] «Вясёлка» (юбілей).

Дубашынскі[8] пад яблынькай у жыце за «кальцом» трамвая № 1.

Пятніца, Генадзь, Брэст.

Гімнастыка для вушэй, хто падслухоўвае.

Халамыжныя.

---

[1] Гл.: «Ані ведаю, ці кахаю цябе я...» (28.12.76) // Дзённікі і запісы. Выпуск 2. 1970–1978. Мінск, 2015. С. 268; «Давяраю і жніўню, і маю...» // Маўчанне перуна. С. 131; Аль-бомнае ([2005]) // Руны перуновы. Мінск, с. 310.

[2] Сачанка Барыс Іванавіч (1936–1995), беларускі празаік, перакладчык. У 1976–1986 гг. сакратар праўлення СП БССР. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР імя Якуба Коласа (1982), Літаратурнай прэміі СП Беларусі імя І. Мележа (1991).

[3] ОВИР — Аддзел віз і рэгістрацыі.

[4] Пучынскі Юзаф Вульфавіч (1922–2007, ЗША), беларускі графік, мастак.

[5] Бабуля Рыгора Іванавіча па маці.

[6] Гл.: Маладзічком (2.01.83) // Маўчанне перуна. С. 68.

[7] Гл.: «Праз далячынь гадоў...» (15.08.80,Ушачы, Ваўчэнскае возера) // Амплітуда смеласці. С. 35.

[8] Дубашынскі Павел Піліпавіч (1931–2000), беларускі акцёр. Акцёр Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Я. Купалы. Народны артыст БССР (1989).

*Купалаўкам*

Паўлінкі нашы, нашы Дэздэмоны,
Купалінкі — ўлюбёнкі Мельпамены,
Прыміце ўсіх паклоннікаў паклоны
У дзень вясны,
ад вашых воч праменны.

[Адрасы:] г. Москва, ул. Сущевская, [час.] «Молодая гвардия», Вадзіму Кузняцову; Г. Сурус[1] [г. Мінск], ул. Куйбышева.

*4 верасня, чацвер*

У магазіне сумку прымярае дама. Цётка: «Як высокім, дык і нічога, а малым, дык ручкі па пяты».

На Камароўцы. Дзед глядзіць на в’етнамачак: «Чаго ж вы такія малыя пагадаваліся?»

Размова ў натоўпе: «Падышла мая чарга, якраз яна заднюю частку выстаўляе...»

*** П’яны. Падае. Жанчына: «Божа, сіла твая святая, за свае грошы так мучацца...»[2]

*7 верасня, нядзеля*

Лупіць бубен з шаргункамі,
Быццам бульбу з агуркамі
Падтрахае ў бочачцы.
А гармонік хрыпне басам,
Рэжа польку з выхілясаў,
Па-піжонску бочыцца.

На праспекце вераснёўскім у ласкавым прыцемку.
*Напяты да канца сталёвыя нервы чыгункі.*

*20 верасня, субота*

Ад’езд на *Ушачы*!

*21 верасня, нядзеля*

Бутаўшчына [могільнік], у Мінск.

---

[1] Сурус Рыгор Фёдаравіч (н. 1942), беларускі кампазітар. Заслужаны дзеяч мастацтваў БССР (1985).

[2] Гл.: За свае грошы // Здубавецця. Мінск: Паліфакт, 1996. С. 31.

*2 кастрычнік, чацвер*

*п. Ушачы.* [М. Р. Трафімава:] Дай божа сесці на шчаслівым месцы; у нас адна па жэбрах хадзіла; даруйце, што яна няўрадна як па гаспадарцы была; а куды вы досвіта?

*3 кастрычніка, пятніца*

[М. Р. Трафімава:] На маім жыцці столькі ваён было; тут пароддзя людзей (пакалення) не засталося, што тут пахаваны; без бога не да парога, а з богам уся дарога.

*** Трамвай ідзе ля стадыёна. «Усяродку гуляюць». Нейкі олух: «У футбол».

А. Махнач[1] кіёчкам асцярожна зямлю мацае, бо і ёй таксама баліць.

Размова: «Чым кантралёрам — лепей быць дырэктарам магільніка».

Міліцыянты-курсанты — Сівалапаў.

[Аўтограф В. Тараса:]

Я ўвесь увага!
Кладзі на вагу
Стварэнне бога, —
Мо і я змогу!

*6 кастрычніка, панядзелак*

*[Масква.* Аэрапорт] Шарамецьева. Адлёт на Сафію ТУ-154 — Б 85412. Асветленыя сонцам хмары праз вакно, зашторанае слюдой, як ільняное поле са снапамі і мэндлікамі.

Палкоўнікі пабліскваюць пагонамі, быццам этыкеткамі каньяку.

Над Балгарыяй горна-лясістай асмуглыя шчокі аралллі.

*Сафія.* Свой пах і свой нораў у горадзе. Ёсць рытм, але няма бяздумнай спешкі. Ашаніна і Дзяменцьева[2] не сустрэлі. Стэфан [Паптонеў] падвёз да СП. Машынам цесна. «Лаялі мяне і грузавікі, і прахожыя». На сценках плакаты. Пытаюся: «У вас выбары?» А гэта, выходзіць, некралогі па нябожчыках. Рэм [Нікіфаровіч] пасля заўважыў, што смерць выбірае лепшых. Стэфан: «Атрымаеш адчуванне ад маленькай краіны з вялікім сэрцам».

Арэх — вялікае дрэва. Нельга сячы. Да рэвалюцыі ішло толькі на прыклады вінтовак. Лошніцы — мяшчане. Стэфан [расказвае] план паездкі: « Та ударыць на горы».

---

[1] Махнач Аляксандр Іванавіч (1922–2001), беларускі драматург, празаік, публіцыст. Заслужаны работнік культуры БССР (1980). Гл.: Заступнік подзвігу (29.11.81, Каралішчавічы) // Амплітуда смеласці. С. 59.

[2] Дзяменцьеў Андрэй Дмітрыевіч (н. 1928), рускі паэт. Заслужаны дзеяч мастацтваў РФ (2004). Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола (1981), Дзяржаўнай прэміі СССР (1985).

*** *Сэрца ў адчаі выбухнула і разарвалася*. «Шлець мяне, маладу, у Дунай па ваду…» *Ад сахі я — Сафія*[1]*.*

Стэфан: «Я адкрываю Балгарыю вашымі вачыма». Балгарыя — чашма, з якой духоўную смагу веры наталіў славянскі свет[2].

Непрыручаная сцежка. Прыручэнне дарог.

*Ашалелы свет-бязбожнік хапаецца за абразы і храмы.*

Варна — старадаўняе балгарскае імя[3].

[Адрас:] 1618, София, ул. Хайдушка поляна, № 30, блок 32, вход А, апарт. 9. Георги Д. Вълчев[4].

*7 кастрычніка, аўторак*

Раніца, цішыня. Усе, выходзіць, пайшлі. Стэфан [Паптонеў], садзячыся ў машыну, падае газету «Строител», дзе [напісана] пра Ушачы. Стэфан: «Праславілі мы Ушачы. Уся Балгарыя зараз ведае Ушачы пасля паэмы».

Царква Баянская[5] на рэстаўрацыі. Секвоя цёмна-зялёная, як у сутане, якая рунее надзеяй. Стэфан: «Насуперак усяму мы ацалелі, а Візантыйскай імперыі няма». Пахне свежымі дошкамі і гістарычнай даўнінай. Камяні сцен ахаладзяць любыя гарачыя галовы.

Падае арэх. Стэфан: «Катэрычка [вавёрка] падари ці [табе] арэх, а не я. Самы свежы». Баянская царква. «Тайная вячэра». Часнок і рэпа есць Хрыстос.

Гара Віташа. Сафія ўнізе, вышынныя дамы, як тэрмометры над вокнамі. А чырвонадахія хаткі, як рудакапялюшныя баравічкі на светлых ножках. Цэлы неруш. Перасохлыя рэчышчы вуліц і зялёныя кнаты таполяў, якія сучаць дым зялёны. Рэстаран «Капыт».

Творчая правакацыя, Стэфан расказвае, як пісалася паэма. Спачатку быў факт, што заплакаў балгарскі пісьменнік, калі глядзеў фільм «Балада мужнасці і любові». Пасля запытаў, як рэагуюць немцы, калі бачаць гэты фільм. Так узнікла задума. Галоўнае — не уваскрашаць жахі, а абагуліць. Відаць, і гэта мае значэнне, што аснова Балгарыі гранітная, падмурак краіны на граніце.

Змена варты каля маўзалея Дзімітрава[6]. У гайдуцкай форме, з пер'ямі задзірыстых пеўняў. Крок цырыманіяльны — нібы ў гарах ідуць, ступню

---

[1] Гл.: Сафія — Стэфану Паптоневу (29.12.80) // Амплітуда смеласці. С. 111.

[2] Гл.: Гранітная чашма ([1982]) // Тамсама. С. 119.

[3] Гл.: Сем адказаў рэха (14.03.81) // Тамсама. С. 117.

[4] Вылчэў Георгій Дзімітраў (н. 1926), балгарскі крытык, літаратуразнавец, перакладчык, даследчык беларускай літаратуры.

[5] Гл.: Баянская царква (31.12.80) // Амплітуда смеласці. С. 129. Верш прысвечаны Г. Вылчэву.

[6] Дзімітраў Георгій Міхайлавіч (1882–1949), дзеяч балгарскага і міжнароднага камуністычнага руху. Гл.: Ля маўзалея Дзімітрова ([1982]) // Тамсама. С. 128.

стаўляюць услед за ступнёй. У нардуме: «Моля, не влизайте в магазина със сладолед»[1]. Негр з кукуру]зінай] у зубах [неразб. 2].

Георгі Вылчэў — доктар філасофіі Пражскага ўніверсітэта, член-карэспандэнт Фінляндскай літаратурнай акадэміі. Маці Найдэна[2] — Нэда. 82 год. На зіму да сына, а як толькі буслы дамоў — яна таксама: «Чакае гарод, цыбуля, часнок…» [Аўтограф Найдэна Вылчэва з намаляванай кветачкай.]

*8 кастрычніка, серада*

Дарога на [г.] Габрава. Восеньская казка, абапал ружы ў дварах і півоні. Першы перавал Гълъбец, планіна, горы ў пярэстай хусціне восені маладой.

Сяло *Буново* — партызанскі край. Перавал Козинца, злучаюцца дзве гары — Балкан і Срэдне-Гора (Сярэдні лес).

Царевица — кукуруза. Враслікі. Запрэжаныя буйвалы цягнуць вазы. Дзяўчынка пасвіць буйваліцу і восліка. Сяло *Антон* (па імю партызана).

Авечак душныя каралі
На шорсткай гарлавіне гор3.

Букавыя схілы гор, падпаленыя букі ў глыбіні Срэдне-Горы. Тут [адбылося] паўстанне супраць туркаў. Крывавае пісьмо. Сосенкі, як расчэсаныя, пасаджаны.

*г. Капрыўшчыца* (Копривщица). Брукаваныя вулачкі, жаўталіст бяроз, як у лазні на камянях. З каменныя дувары [сцяны], двары ў дварах, сосны, усё пад чарапіцай. [Неразб. балгарскі сказ.] Брукаваны мост праз рачулку, злева і справа надпісы.

Помнік Георгію Ціханэку[4], які першы [даў] стрэл на паўстанне. Званіца і звон, які даў сігнал для паўстання. Стаў мемарыяльным былы бунтар. [2 вершаваныя радкі, падпісаныя *Динчо Дебелянов*[5].] Дом-музей**.** 18 апрыл [красавіка] 1876. Калыска паэта. Крыху арба, з жэрдкай наверсе. Крывавае пісьмо Тодара Каблешкава[6]. Камень з тэкстам і побач

---

[1] Калі ласка, не ўваходзьце ў краму з марозівам (*балг.).*

[2] Вылчэў Найдэн Станеў (н. 1927), балгарскі паэт, перакладчык, эсэіст, журналіст. Узнагароджаны медалём Ф. Скарыны РБ (2000). Гл.: Пытанне Найдана Вылчава (3.08.81) // Амплітуда смеласці. С. 125.

[3] Гл.: Сіні сон (2.04.84–2.04.89) // Міласэрнасць плахі. С. 142.

[4] Ціханэк Георгій Нешаў (1845–1915), кіраўнік нацыянальна-вызваленчага паўстання ў Балгарыі супраць Асманскай імперыі 1876 г.

[5] Дэбелянаў Дзінча (1887–1918), балгарскі паэт.

[6] Каблешкаў Тодар (1851–1876), кіраўнік рэвалюцыйнага камітэта красавіцкага паўстання 1876 г. супраць Асманскай імперыі. Ён напісаў ліст аб пачатку паўстання крывёю забітага турэцкага паліцэйскага.

камень. «Копривщица беше първия град в България на отряд «Георги Бенковски» и чета «Бачо Киро» на отряд «Чавдар»[1].

Странноприемница [гасцініца] «Дедо Либен».

Загараюцца букавыя лясы. Іскры чырваналіста лятуць на дарогу. На голых схілах кавалкі лесу, нібы палітра, дзе маладая восень разводзіць фарбы. Стэфан [Паптонеў]: «Рыгор, захавай уздых, ён табе яшчэ спатрэбіцца». На галашчокіх скалах, нібы абрэзаліся, брыючыся, чырванеюць у некалькі лісткоў букі-саджанцы.

Гарматы з дрэва чарэшні [рабілі], а ядры з турэцкіх вагаў, з гіраў, абкручвалі ствалы дротам, бляшанкамі. У 1876 годзе априла [красавіка] мясціна 3 ли дол [?] першая батарэя страляла. Град Клісура.

Сяло *Розино.* Ружаварня, мячэтка (туркі і цыганы). Даліна руж[2]. Кусты руж, прамысловы алей, які даражэй за золата. Шмат арэхаў. Частыя навальніцы, супрацьграданосныя ракеты, артылерыя, каб град ружы не пабіў. Каля хаты старая вяжа панчоху. Вослік правярае, ці абодва вухі ў яго на месцы. Улюбёнка навальніч. прамысловыя ружы. На будках КАТ (кажа: ДАІ[3]).

*Сопот.* Каля хаты Вазава[4] чашма. Чарпак, на ім выбіта: «Украдзена ад чашмы на плошчы Вазава. *18.6.80*».

*Карлово* — радзіма Васіля Леўскага, «апостала волі». «Аз, Васил Левски, в Карлово роден, не щях да съм турски и никакъв роб...»[5] У цэрвулях (скураных лапцях), узброены, у іх ён прайшоў усю Балгарыю. Маці Леўскага помнік у двары. Акамянелі маці ад чакання сваіх сыноў.

Дзяўчына адпачывае, а выпражаны вослік скубе крыху зялёную траву ў хамуце, як з павязкай ад застуды. Сушыцца кукуруза, як зліткі золата, і стары вартуе клад. Дояць вінаград.

г. *Калофер.* Юпрук-чал (Ботевврък), самая высокая частка Балкан (Стара-Планіны). Помнік Боцеву[6] зноў, і побач маці. Дом Боцева заўсёды адчынены.

У Балканах турак не мог ноччу боса і на кані ехаць, [павінен] злезці з каня і за аброць весці.

---

[1] Капрыўшчыца была першым горадам ў Балгарыі, які быў вызвалены атрадам «Георгія Бенкоўскага» і дружынай «Бача Кіра» атрада «Чаўдар» (*балг.*).

[2] Гл.: Даліна руж (3.08.81) // Амплітуда смеласці. С. 120.

[3] ДАІ — дарожная аўтамабільная інспекцыя.

[4] Вазаў Іван (1850–1921), балгарскі пісьменнік.

[5] Леўскі Васіл (сапр. Іваноў; 1837–1873), балгарскі рэвалюцыянер. Пакараны турэцкімі ўладамі. «Я, Васіл Леўскі, у Карлава народжаны, не хацеў бы быць ні турэцкім, ні чыім рабом».

[6] Боцеў Хрыста (1849–1876), балгарскі рэвалюцыянер, паэт, публіцыст.

Нікалай Хрыстозаў[1] Азізу Нэсіну сказаў: «Вы нас так згуртавалі, што ніхто не можа раз'яднаць». Бо той сказаў, што балгары і туркі адна нацыя.

Пад арэшынай абед. Вінаград з грэцкімі арэхамі, якія самі падаюць у далоні.

*Шэйнава,* дзе турак разбілі, палонілі Весел-пашу. Таполі, як пушкінскія пёры, як рускія штыкі, як кочы [парусныя судны] гайдукоў.

Шыпка ў тумане, як выцягнуты кратэр вулкана. У 1925 [сапр. 1923] годзе званы храма ў Шыпцы далі сігнал на паўстанне[2]. Царква. На абразах німбы над салдатамі святыя, як полымі, нібы свечкі ў цемры святыя свецяцца. Усыпальня. Палкі, дывізіі, чырвоныя кветкі на плітах, і ў гільзах серабрыстых кветкі стаяць.

Стэфан, паказваючы край, праз сяброў наноў адчуў Балгарыю і зразумеў, што Балгарыя самая прыгожая.

Шыпчынскі перавал. Самая зямля як некропаль. Валынскія вышыні. Шыпка ў рыштаваннях, нібы арлы гняздо ладзьбуюць. 830 (900) прыступкаў.

Дрэвы, прыгнуўшыся, ідуць угору і рэдка да сярэдзіны даходзяць, драбнеюць, а салдатам трэба было ісці.

Арлінае гняздо, зялёныя гарматы, цвіце дзядоўнік і, як пакутнік у руцэ, трымае белы агонь памяці. Кідалі камяні і трупы таварышаў на туркаў[3].

*г. Габрава*, рака Янтра. Чырвоныя стрэхі. Габрава ў Балгарыі, як конь у возе. Помнік кавалю пасярод ракі.

Балгарка — забаронная чарка,
Ні абшчапіць, ні прыгубіць[4].

Ул. Фірсаў[5]: «Ашанін любіць доўга пену ствараць».

У Габраве вязе каляску: уздрыг грудзей, нагі ўскалых. Па-балгарску: ни кола, ни двора — ні машыны, ні двара. Усё-ткі Габрава ёсць Габрава. У гаванне[6] душ-сланечнік. Кручу — усё халоднае. Аж усё наадварот: чырвоная — халодная, а сіняе — гарачае.

---

[1] Хрыстозаў Нікалай (1931–2015), балгарскі паэт, публіцыст, перакладчык.

[2] Антыфашысцкае паўстанне 9 чэрвеня 1923 г.

[3] У час руска-турэцкай вайны 1877–1878 гг. былі адбіты атакі турэцкіх войск. Паблізу Шыпкі — помнік-музей рускім і балгарскім воінам, якія загінулі за вызваленне Балгарыі ад улады Асманскай імперыі.

[4] Гл.: «Як забароненая чарка... (26.02.81) // Амплітуда смеласці. С. 115.

[5] Фірсаў Уладзімір Іванавіч (1937–2011), рускі паэт. Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола (1968), Дзяржаўнай прэміі РСФСР імя М. Горкага (1976), прэміі Урада РФ (2009).

[6] Яўная гульня словаў; ванная па-балгарску баня.

*Азарт*

Мы — скаковые лошади азарта.
На нас ещё немало ставят карт.
И, может быть,
мы тяжко рухнем завтра.
Но это — завтра.
А сейчас — азарт!

*Андрей Дементьев*
*8.Х.80, София — Габрово*
*На память прекрасному поэту и доброму человеку —*
*Рыгору Бородулину.*

*9 кастрычника, чацвер*

*Село Горбалъди* [?], *г. Трявна*. Каменныя стрэхі з пліт каменя. Балгарскія цэрквы ў зямлі, чым ніжэй тапталі, тым вышэй дух[1].

«Паважаныя госці з СССР, з ГДР, з Балгарыі і з Габрава», — першы сакратар Трявна. Траўна яшчэ з часоў фракійцаў [існуе], горад з XII стагоддзя. Прывілеяванае становішча. Турак мусіў спешвацца і весці за аброць каня. *Як акурак.*

Разьбярства развіта з даўніх часоў. Дэсени — чую слова ў дакладзе. Музей разьбярства і графікі. Пакланенне на балгарскі дух. Траўна — адзіны горад, які мае свой маральны кодэкс.

Майстар узвёў 80 цэркваў у Балгарыі, Грэцыі і Румыніі. Камітэт цвярозасці. Кажуць: «Всички [усе] картины на левы [за левы можна купіць], а е [ёсць] — думкі налева пайшлі». *Вачам тваім цесна.*

Царква Архангела Міхаіла XI века. Кутыя вароты, 1188 год, лісты жалеза і вухналямі прыбітыя. Ікона, якая за мяжу… «Плачущая богородица». Драўляны трон уладыкі з дрэва, а ўнізе ільвы без языкоў, але гатовыя да скачка, як народ Балгарыі. Першы сакратар уключае святло, дзе пропаведзі [прамаўляюцца]. Дах царквы [пакрыты] каменнымі плітамі, званіца нізкая, бо туркі забаранялі.

1804 год. Два майстры-браты; хто зробіць лепш сонца, той будзе мужам; абодва зрабілі і нельга адрозніць. Майстар Найдэн і Жыўка. Димитр Ошеница. Хацеў [гаспадар] мармуровую столь, а майстар сказаў, што з дрэва зраблю лепш. 6 месяцаў працаваў, і ў пакоі стала цёпла і вяснова ад сонца. А стары зрабіў сонца, якое давала плады. А ў маладога больш пякучае. Сто восемдзесят гадоў грэе гэта драўлянае сонца.

[1] Гл.: Крона (3.08.81) // Амплітуда смеласці. С. 112.

Камяні на даху і лісце жоўтае падае, камяні як лісце вякоў, якія вечнасць не садзьме, дождж знішчэння не возьме. Пліты доле, таксама цвёрда назе, адчуваць апору трэба.

Славянскае пісьмо,
Ты ўрэзалася ў дрэва, граніт,
А дрэву балючэй,
І гэта ж сэрцу трэба.
Тут і пісаць, і дыхаць слаўна,
Разьбярыць думку тут з рукі.
Хай славіцца майстэрствам Траўна,
Ідзе, нязломнае, ў вякі.

На сцяне: «Наздраве дружина с Никифорова кратуна»[1].

Габровци габър (дерево) ели (кушали) та измрели. Трявненци трава пасли та порасли[2]. Тут, пэўна, бог зямлю араў на свой прысядзебны [ўчастак].

Дарога вывіваецца; як кажаны, вісім, трымаючыся за ручку ўгары ў машыне. Лісткі жалобныя на плітах, на дрэвах, на дамах, лістапад людзей, лістапад чалавецтва.

Львіныя цэны ў Балгарыі (на левы).

На дарозе на Дрянова жоўтыя, барвовыя і зялёныя букі. Помнік папу Харытону[3]. Радзіма Тэадоры[4]. Паўночная частка Сярэдняй Планіны. Нібы авечкі ўсіх масцей суцэльнай лавай з гор, найбольш рыжых, цёплых. Авечкі, як з бібліі. Стэфан [Паптонеў]: «Мы павінны быць кавалерамі і прапускаць авечак, яны бываюць карысней ад іншых дам».

*в. Тырнава*. Скалы, як каляны каўнер свэдра з бурай воўны букаў. Як гнёзды ластавак-беражанак, дамы на скале, унізе рака Янтра. А ўвогуле, Тырнава як апусціла дзве рукі — на дне вылавіць шчасце. Два ўзгоркі — Царевиц [Царэвец] и Трапезица, і мелі скураны мост. Натуральная, прыродная сцяна крэпасці над прорвай, быццам свет, трывне горад, а лес густы, нібы пасля катастрофы. Патрыярх Еўцімій[5], уката застыгла рука. Еўцімій і ў Кіеў паехаў, у Беларусь. Цамблак[6].

[1] Тост балгарскага хана Крума Грознага (Страшнага; каля 755–814), які пасля шматлікіх параз нарэшце ў 809 г. атрымаў перамогу над візантыйскім імператарам Нікіфарам I і зрабіў чашу з яго чэрапа: «За здароўе дружыны з Нікіфаравай чашы».

[2] Габраўцы граб елі да і павымерлі. Траўненцы на траве пасліся, так і выраслі (*балг.*).

[3] Халачэў Харытон Станчэў (1835–1876), дзеяч нацыянальна-вызваленчага руху 1876 г.; святар.

[4] Ганчава Тэадора (н. 1935), балгарская паэтэса, літаратуразнавец.

[5] Патрыярх Еўфімій (Еўцімій) Тырнаўскі (XIV ст.), балгарскі рэлігійны дзеяч, асветнік, пісьменнік.

[6] Цамблак Грыгорый (1364]?]–1450]?]), рэлігійны дзеяч, пісьменнік (паслядоўнік Еўфімія Тырнаўскага); першы мітрапаліт у Вялікім княстве Літоўскім. Ураджэнец г. Вяліка-Тырнава.

Ядзім кукурузу са Стэфанам. Дзеці на Царэвіцы царавіцу ядуць. Тырнава пад аховай царыцы Ма́ры. Іван Шышман[1], калі цар аддаў сястру ў гарэм, каб выратаваць дзяржаву, калі пакідала, плакала, з яе слёз — вінаградная лаза.

*Лескавец* (ляскаў пугай Пярун) унізе ў агнях вечара. Мы ля Лескаўскага манастыра свсв. Пятра і Паўла, дзе б]араніліся] супроць грэчаскага [візантыйскага] духоўнага рабства (800 год).

Господа́ры (балгарскія) Тэман, Цварку. Каровіны сохнуць, пахнуць домам, кароўнік, гной выкідвае натуральны гаспадар, і, каб завяршыць змрок, манашка — чорная таполя. Добър вечер. Жаночы манастыр.

У хаце радні Стэфана — кілім, усё заслана штучнымі шкурамі, як у Ланы некалі была шапка ў малой. Разуваюцца ўсе. Калідор абабіты дрэвам. Сівы, але маладжавы тварам, 76 год, майстар вінаграду. Ягонае віно на лекі многія купляюць. Гатунак памідор ружовы, з яго ружовае віно ад шчырага сэрца. Карабок з некалькімі цукеркамі.

У планеце на якім плячы?[2]

*г. Шумен* — старажытная сталіца Балгарыі.

Па дарозе слупкі, якія фасфарысцыруюць — «кашачыя вочы». Перад самым Шуменам натуральная кошка, і вочы блішчаць; сядзіць, як ажыўшы слупок дарожны.

*І мятаю пранёс я па ўсіх шляхах імя тваё.* Трыпутнік з родных мясцін праб’ецца праз пліты чужых гародаў і казытне твае ногі.

Галінка з матчынага двара праз хмары на вышыні недасяжнае грукне ў ілюмінатар.

І шлях тугой, расстаннем пах,
І палыном, і мятаю імя твайго,
На ўсіх вятрах імя таю…

*10 кастрычніка, пятніца*

У гасцініцы грукат ад машын — невераемны. Заводзяць пад вокнамі далёкарэйсавыя, прыпынак таксі. Доўга не разумеў, чым пахне ў стаи (корань, пэўна, асабліва тут, — ад стайні), пакуль дайшло — клапамі. Іх нядаўна марылі. У шуфлядцы здохлы клоп такіх памераў, як хрушч амаль. Але ўсё гэта — глупства. Сонца ёсць. Цёпла.

У Габраве хоць маленькі ды гумар з Андрэем Дзяменцьевым. У яго фінская тройка і пінжак крыху нагадваў мой. Назаўтра замяніўся касцюмам.

---

[1] Шышман Іван (1371–1395), балгарскі цар, атрымаў ад бацькі, цара Івана Аляксандра (правіў 1331–1371), частку Балгарскага царства — Відзінскае.

[2] Гл.: Па дарозе ў балгарскую восень (5.01.81) // Амплітуда смеласці. С. 118.

[Чужой рукой:] Всичко е в нашите ръце, а ние сме в ръцете на бога. А бог е в ръцете на РЪКОВОДСТВОТО!!![1]

*г. Новы Пасар* (Новы Базар). ≈ 200 тыс. насельніцтва. На вуліцы пасярэдзіне ружы як звычайныя кветкі. У зале кветкі (гваздзікі). На шчотцы — іголачка. Стэфан [Паптонеў]: «Душэўны мікраклімат».

А гэты вочы з абразоў
Сышлі на тратуары.
Цямнеюць німбы валасоў.

Цікавыя і глыбокія пытанні ў зале. Адно: «Ці мае паэт права на асабістыя тэмы» [*пачуццё* — закрэслена]. Пасля ля гасцініцы Дзімітр Панцялееў[2]: «Паэзія — гэта асабістая і суперасабістая тэма». У гімназіі яго запыталі, як напісаў і каму пасвяціў першы свой верш. Адказаў: «Адной чарнявай дзяўчынцы».

Акруговы камітэт партыі. Хан Аспарух[3] — заснавальнік дзяржавы — першае читалище [бібліятэка]. Тут самыя старыя цыгарэтня, півнарня. «Да першага юбілею мы ўсе маладыя». Колво Георгиев — драматург, празаік: «Я тут сядзеў 1,5 года ў турме».

*г. Вялікі Праслаў* — калыска першая дзяржавы. Леўчаў[4]: «Станем на калені і ўшануем, хто паў за волю Балгарыі, усе на калені. Хвіліну моўчкі». Камен Калчэў[5] запальвае агонь. Дзімітр Панцялееў: «Мая зімовая рэзідэнцыя. Там міністр абароны з усім генералітэтам. Адзін афіцэр: «Чаму ў нашай літаратуры няма ніводнага Шолахава[6]?» — «А, другарэ капітан, чаму ў балгарскай арміі няма ніводнага маршала?» Лейтэнант: «Другарэ Панцялееў, вы пішаце толькі вершы, а не прозу?» — «Таму што паэзія — атрыбут (адзнака) маладосці».

На сцэне свечка высвятляе ікону — лік хана Аспаруха. Акапэльны спеў. Акцёр чытае Охрыдскага[7] ў гонар Кірыла, потым на стараславянскай актрыса: «Азъ, веди, глагол…» Яна літару [вымаўляе], як радок. «Господи боже светотворца, человеколюбец…»

Першаславянская чысціня балгарскай мовы, пераклад на балгарскую мову, як ачышчэнне ад напластаванняў да першачысціні. Хор імя

---

[1] Усё ў нашых руках, а мы ў руцэ божай. А бог у руках КІРАЎНІКОЎ!!! (*Балг.*)

[2] Панцялееў Дзімітр (1911–1993), балгарскі паэт, перакладчык.

[3] Хан Аспарух, заснавальнік першай славяна-балгарскай дзяржавы (680).

[4] Леўчэў Любамір (н. 1935), балгарскі паэт, празаік.

[5] Калчэў Камен (1914–1988), балгарскі пісьменнік і грамадскі дзеяч.

[6] Шолахаў Міхаіл Аляксандравіч (1905–1984), рускі пісьменнік, грамадскі дзеяч. Акадэмік АН СССР (1939). Герой Сацыялістычнай Працы (1967). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1941), Ленінскай прэміі (1960), Нобелеўскай прэміі (1965).

[7] Клімент Охрыдскі (Велічскі або Славенскі; каля 840–916), славянскі асветнік, пісьменнік, адзін з заснавальнікаў старажытнай балгарскай літаратуры.

Носіны, Кукузель[1] — сярэдневяковы кампазітар, мала твораў асталося, але здорава і ўрачыста гучаць песняспевы.

На сцэне паэты, стэнд «Литературни дни «Велики Преслав — 80»; дзве рукі завастраюць пяро. Стэфан чытае маіх «Ветэранаў»[2] і свой верш пра Янтру: «Янтра цячэ праз Тырнаўскі край і праз маё сэрца». Мужападобная піжонка, перш чым чытаць, [кажа:] «Хоць на мне амерыканскія штаны, я балгарка душой». Відаць, часта выступае па Бюро прапаганды. Вершы на гістарычныя тэмы. Расцягнута крыху. Пляжная паэтэса. Всеки за селото пее, но във София живее[3].

Пасля царкоўнаславянскага гучання, пасля высокага стылю Охрыцкага сучасныя вершы гучаць крыху засмечана, няма той перакананасці і фанатычнай упартасці. Над усімі мудрай птушкай сядзіць Дзімітр Панцялееў з нервовымі жэстамі, з блізкасцю да спасціжэння вечнасці. На сцэне была керамічная ікона св. Тодара (X ст.).

Старое дрэва черница (тут), якая помніць Івана Вазава. У карчме. Карчмар: «У мяне таксама [ёсць] паэт: два вершы [напісаў] — некралог на смерць свінні і ў гонар нараджэння сына». Страха была дзіравая; калі гаспадар прапанаваў ссячы галіну, Іван Вазаў раскрыў парасон. Калчэў тост за слова ўздымае, за веліч балгарскага духу!

Музы́ка Іаан Кукузель (XII ст.), музыка націраваная, візантыйская тэхніка запісу, ансамбль ў Еўропе выступаў. Маленькія танцы, танец ръчени́ца[4], маленькія ручаняткі прадуць нябачную пражу мелодыі, а ножкі такт адбіваюць. Народны ансамбль «Га́йда» (як валынская гаду́лка), пасля дарослая ручаніца. Рытм, рытм, дарослыя працягваюць ручаніцу.

Панцялееў цікавіцца рускай, беларускай, украінскай, славенскай паэзіяй — польскую, югаслаўскую перакладаў раней з французскай, з італьянскай. «Вас, товарищ Бородулин, знаю 15 лет».

Ён у Ленінградзе. Стары, які помніць усяго Ясеніна на памяць, пачаў расказваць. «Міліцыянер: «Старик, иди домой, здесь иностранцы». А стары (уся сям'я загінула ў блакаду і вайну): «У мяне толькі Ясенін і кошка». Прыехаў дамоў і запомніў не завод, а гэтага старога, напісаў эсэ. Раз'яднанне душ. Пра аднаго пісаў у газеце: стаў Героем Сацпрацы, ехаў на машыне, але не падвёз. «Не герой, а ўзломнічак».

[Адрас:] НРБ, гр. Шумен, КТА «Мадара», Ганчо Мошков[5], редактор (пераслаць «Дзверы»[6]).

---

[1] Кукузель Іаан (грэч. Іаанніс Кукузеліс; каля 1280 — каля 1360), балгарскі і візантыйскі пеўчы, кампазітар, музыкальны тэарэтык.

[2] Гл.: Ветэраны (22.02.75) // Абсяг. С. 30.

[3] Усе пра вёску пяюць, але ў Сафіі жывуць (*балг.*).

[4] У рабочым блакноце незакончаны верш «Ручаніца»: «Каб усё ішло рукой...» (14.08.81).

[5] Мошкаў Ганча (1934–2001), балгарскі паэт.

[6] Гл.: Ода дзвярынам (23.08.78, Ялта) // Вечалле. С. 155.

*11 кастрычніка, субота*

Стэфан [Паптонеў]: «З кожным годам робіцца лягчэй, і мы робімся лягчэй».

Курортна-пляжная паэтэса («Я ў амерыканскіх шортах, але душой я — балгарка») днём у нармальнай спадніцы, супермоднай, а там казала, што з цягніка.

[Аўтограф верша «Необходимост», падпісанага *Бай Матей Шопкин*[7].]

Шафёр у аўтобусе вымятае акуркі: «Лепей простых людзей вазіць, чым гэтых. А яшчэ культурныя. Горш за туркаў».

Чарнее аралля, і конь на ёй маленькі.

Сяло *Пліска.* Чырвоны перац сохне, як д'яблавы каралі ў муках. Чырвоны ад пакутаў, як д'яблавы каралі. Ішак цягне кіяхі, як свечкі запальвае, і вушы натужвае, нібы хоча сказаць будзі-бук.

*Пліска* (681 год), два вякі была сталіцай. Узнікла як сяленне XII–XIII [ст.] і больш не існавала, каб не абражалі былую веліч жалкія лачугі.

Паганскі храм, капища. Адцвітаюць дзьмухаўцы — як сімвал нетрываласці вякоў. Тэатр у скале. Тэкст Чарнарызца Харобры[8]. Паганскае сярэдневяковае богаслужэнне, ідуць у рызах, нясуць абраз драўляны, песнопение. Коннік на скале. Кожны цар выбіваў сваё імя, але застаўся коннік і конь, вечны рух, вечнае памкненне.

Цемра раптоўна падае, яшчаркі шуршаць. Стэфан: «Паэт убачыць конніка, а Рэма [Нікіфаровіч], а я аўтаматы». Гараць свечкі, і, як янычары, як паганцы, кіношнікі і рэпарцёры. Тъм твой рай і рай на свой народ[9]. Азбучнае мастацтва — першы верш у балгарскай паэзіі [*чытае акцёр* — закрэслена] Канстанцін: «Бъди по душе младенец, а по думи старац»[10]. Дзея адбываецца ў Канстанцінопалі. «Ойча Методзій, папа рымскі: Анатэма!» А недзе далёка цягнік туркоча і самалёт разрывае цішыню. «Болгарскому народу — просветителю всех славян — многая лета!»

Свечкі, як неакрэплыя душы, толькі пад скляпеннем каменным «Многая лета!». Чорнае неба і горы, толькі бяроза і светлае скляпенне, як вечная цемра, як космас паганства. Зоркі і свечкі асветы. *Толькі зоркі нам свяцілі,* — прапануе Рэм радок. *Пячора — вуха цішыні.* Конікі вучаць балгарскія галосныя.

Дамен Даменаў прыдумаў каламбур: спачатку по.беса, а потым — поетэсса.

---

[7] Шопкін Мацей (н. 1938), балгарскі паэт, перакладчык. Бай — дадатак перад імем старэйшага чалавека.

[8] Чарнарызец Храбр (кан. IX — X ст.), балгарскі рэлігійны пісьменнік, перакладчык помнікаў пісьменства візантыйскай літаратуры.

[9] Там твой рай і рай твайго народа (*балг.).*

[10] Будзь душой, як немаўля, а словамі, як старац (*балг*.).

Сербскія, грэчаскія песні забаўныя, а балгарскія не карчомныя, яны для душы. Глыбокі спеў, раўнінны — дужа блізкі да ўшацкай жніўнай песні.

Танцуюць шопскі[1] танец. Стэфан: «Ніякія афрыканцы ім не сапернікі — яны вельмі хуткія. Дръψ(ж) се, земьо, шоп те гази![2]» Хоро́ — усе танцуюць. Увайшоў у харо — танцуй добра, а калі дзяўчына не хоча, шчыпалі, яна павінна добра танцаваць харо — (рука за руку) узяцца за цяжкую харо.

Цыганскі ансамбль — ад чардаша да «Вочы чорныя». Стары падобны да Базарэвіча[3]. Сын кіруе, раней быў бацька. Цвярозаму нельга слухаць такую музыку, трэба пад хмелем. Ды яшчэ адна насупраць, што дужа нагадвае нават жэстам рук. Бацька [гайдае] скрыпку на вісу, як шалю правасуддзя. Сын са струны выцягвае мелодыю салаўя, як два салаўі.

Цыганскі ансамбль гэты зарабляе валюту па ўсёй Еўропе, толькі на зіму дамоў вяртаецца. Стары цыган, калі кончылі іграць, з павагай сеў за стол, спакойныя рухі, сапраўдны маэстра.

Вестници — газеты, як весніцы ў трывожны свет, адчынены заўсёды. ВТЕ — В. Тырнаўскі [неразб. 2] як віцебскі.

*12 кастрычніка, нядзеля*

На Варну. Радыё: България. Дела и документы, канкрэтнае слова, справа… Перавал, дзе Крум падпілнаваў Нікіфара і з галавы [яго] зрабіў чашу[4].

Дунайская раўніна блакітна-зялёная. Рэм [Нікіфаровіч]: «Авечкі ўжо на працы». Стэфан [Паптонеў]: «Яны не ходзяць на банкет».

Лісток жоўты на ветравое шкло ўпаў ў адказ на лісток з «Беларускай міфалогіі». Студ попари [ці] попарен от слана (пабілі замаразкі). Радыёдзень для дзяцей — певень пяе.

Сяло *Ветрино* мінаем. Сельскагаспадарчая авіяцыя. Стэфан: «Самая мірная, нябесныя коні. Зямлю толькі зернем бамбяць». Вослікі пад дугамі з тарчма вушамі.

*г. Варна.* Попар па-панадзгорску (нешта ў сумесі малако, брынза, сыраватка і пакрышана цтопка — белы хлеб).

Дом творчасці. Мора 16–17°, вада салёная і бадзёрая. Рэм у мяккіх тапачках, кашулі ішоў да мора. Крэйдавыя скалы Балчык (Balčyk).

---

[1] Шоп, шапкіня — народнасць заходніх абласцей Балгарыі.

[2] Трымайся, зямля, шоп цябе топча! (Радок з балгарскай песні.)

[3] Базарэвіч Мікалай, беларускі тэлежурналіст.

[4] Балгарскі хан Крум разбіў войска візантыйскага імператара Нікіфара I у Вышбышскай цясніне.

Сяло *Рогачево.* Комплекс Албена. Добруджа — частка Дунайскай нізіны [Ніжнедунайскай раўніны]. Жытніца краіны.

Комплекс Албена[1]. Архітэктару Дзімітраўская прэмія. Кожны дом пасвойму, не падобны на іншы. Комплекс ля мора, як плаціна святла. Белыя скалы. Палац апошняй румынскай каралевы для каханка турка, — легенда. Батанічны сад багаты. Барвяныя мантыі дзікага вінаграду. У каменным крыле сядзім — і адразу адчуваеш сябе ледзь не помнікамі, у сэнсе закалянелым, а не ў сэнсе велічным. Гэта, відаць, і аснова пастамента. Пышныя кветкі, як махровы бэз, пчолы і матылькі, нібыта ля ласкавага полымя грэюцца. Крэсла з каменя, дзе чакала турка з Варны каралева. Назад едзем — белыя горы, нібы рэшткі белакаменнай крэпасці. Акуратненькія домікі — дачнікі. Стэфан расказвае: у Шумене цырульнікі паміж сабой перажывалі футбольны матч, і ў выніку кліенту кончык вуха адзін адчыкрыжыў.

Рэстаран «Трифон Зарезан», унізе вінарня — п’юць толькі віно. Адна сцяна як соты, і там бутэлькі, для рэкламы дабрабыту. Адну вып’еш, глянеш — шмат, і мацней забярэ Трифон Зарезан — самы малады і вясёлы святы ў балгарскай міфалогіі, ягоны дзень абвяшчае пачатак вясны, у гэты дзень трэба абразаць лазу і піць, першае падразанне лазы. 14 лютага недзе, яшчэ снег не растаў, але людзі думаюць пра вясну, і вельмі шмат работы з апрацоўкай лазы. Трифон Зарезан — святы віна, але сам ніколі не напіваўся, першы прадвеснік, вястун вясны і пакравіцель віна[2].

Чубры́ца разам з соллю, сушаць траву і размолваюць, пасля на хлеб, дужа смачная. Лозница — навес, шаха, і вінаград расце на гэтай шасе.

Каля рэстарана шмат машын — вяселлі гуляе залатая балгарская восень. На капоце машын, машыны з маладой, палёўкі і лісце сухое бясшумна плывуць па шашы.

Дзень раптоўна западае ў ноч,
І цыкады звонкія пясчынкі —
Сыплюцца.
Цыкад клапотныя пясчынкі
Праз пальцы цэдзіць цішыня,
Аж зводзіць вечару пашчэнкі.
Пясчынкі клапатлівыя цыкад
Праз пальцы прасыпае цішыня.

*Тихомир Йорданов[3], 9009, Варна, бул. Карл Маркс, 202, бл. 13, вх. «Г», ап. 66. Вуліца ўпіраецца ў дом вул. Ціхаміра (пасля дабавіць Йарда-

[1] Курортны комплекс Албена. Архітэктар Н. Ненаў (60-я).
[2] Гл.: Трыфан Заразан (30.07.81) // Амплітуда смеласці. С. 122.
[3] Йарданаў Ціхамір (н. 1932), балгарскі паэт, празаік, перакладчык.

нава). Правадыр народнага паўстання супроць візантыйскага рабства XI ст. [1040 г.] А другі правадыр — [нібыта] унук цара Самуіла [правіў 997–1014] — Пётр Дэлян. Калі сустрэліся, народ выбраў Дэляна, а Ціхаміра забілі камянямі; правадыр з сялян.

*Ветрана і скварна — Варна.*

*** Адказ на ліст гомельца. Не так важна, ці складкі на рукавах пінжака, важна, каб складкі былі ў мазгах.

Так хваліў, што заваліў.

Для дзяцей зрабіць: «Падарожжа ў Запарожжа».

Вотрыны (ушацк.) — вотрубы.

У цыбулі ў хаце, як ў чорта, прарэзаўся рот.

*13 кастрычніка, панядзелак*

г. Варна[1]. Пакуль спаў у Доме творчасці балгарскіх пісьменнікаў, мора не спала. Шліфавала радкі, падганяла гук да гуку ў класічных рыфмах. Уначы белагубыя хвалі абсмакавалі ўсе тэмы надзённасці. Зараз мора ў ментарскай тозе, але ўсё яшчэ не можа стрымаць юнацкага парывання. Сонца з-за хмары. На даляглядзе параход пад колер смугі. Днём параход быў белы — для сталасці эпітэта. Прамяні праз аблачыны на даляглядзе паўтарылі славянскае сонца з гравюр, з каменных крыжоў, у галавах крыжоў. Лёгкіх рыфмаў — ластавачак хоць адбаўляй — яны пад рукой…

Перакусіў па-бядняцку — пітка (праснак белы) і вінаград «Міскет». Карай, Божа, павек! Снеданне ў почивален дом БЗНС.

Нікалай Хрыстозаў: «Балгары доўга не церпяць цара». (Зараз Сімяону II[2] 44 гады (1936) [жыве] у Іспаніі). Г]ітлер] называў цара Барыса балканскай лісіцай. Даводзілася яму хітрыць, бо ўлічваў вопыт горкі дзеда і бацькі[3], якіх народ выгнаў за беспатрэбнасцю.

Варна. Рэшткі сцяны і вежы старажытнага Адэсіса. Пад пераходам. Рабілі падземны пераход і выяснілася — рэшткі.

Грэчаскі квартал, толькі глыбей капні — агаляцца нервы гісторыі. Унізе па[?], а ўверсе будуецца новы дом. Рымскія лазні II — IV в. н. э. 4-га, лазні і грамадскія ўстановы. Бюст археолагу — Карэл Шкорпил[4].

Трыфан Заря́зан ішоў у нядзелю падрэзаць лазу, насустрач Дзева Марыя: «Глядзі, Трыфан, зрэжаш нос». — «А я рэжу не так, а так», — узяў нож і зрэзаў нос. А ён ішоў п’янаваты. Дапіваюць старое віно, і [трэба]

---

[1] Гл.: Семь адказаў рэха (14.03.81, Дубулты) // Амплітуда смеласці. С. 117.

[2] Сімяон II вярнуўся ў Балгарыю ў 2001 г. Прэм’е-міністр Рэспублікі Балгарыя (2001–2005).

[3] У 1887 г. балгарскім князем быў выбраны нямецкі прынц Фердынанд I Кобургскі (з 1908 цар; звергнуты ў 1918), пакінуў уладу сыну — Барысу III (да 1946, калі манархія перастала існаваць).

[4] Шкорпіл Карэл (1859–1944), чэшскі і балгарскі археолаг і музейны дзеяч.

сімвалічна пачаць палявыя работы (і вінаградарскія). Нашчадак Дыянісія. З'яўляецца раней, чым пралеска.

У Рэмавага [Нікіфаровічава] сябра. Ціхамір Йарданаў. Учарашні вінаградны сок, вінаград ціснуць праз «Журавінку».

«Тэадора і Памідора хораша круцяць задам», — надпіс выдрапаны на сцяне грэчаскім алфавітам.

Жонка Ціхаміра Темену́шка — чарнявая шапкіня. Кватэра, як у савецкага паэта, два пакоі. Кухня. На дзвярах пакоя, дзе два сыны-школьнікі: «Тут жывуць ільвы».

Па дарозе забег у краму. Купіў курыц вараных і памідорыцу (зверху ў чырвоным перцы). Дома некалькі дзён няма электрычнасці. Усё са свайго саду: памідоры, вінаград, нават персікі. Мілая дэталь: «Схадзі прынясі з балкона апошні персік». — «Яго няма. З'елі дзеці». Шчырасць і непасрэднасць. Сапраўды славянскае. На гэтай цеснай куханьцы так светла і так прасторна было ад дабраты і непасрэднасці.

У скверыку сядзяць пенсіянеры. Так, як у Растове, Віцебску, Полацку. Старыя, адпрацаваныя і не дужа некаму патрэбныя, відаць, і сабе ўжо надакучылі.

Рынак у панядзелак, як і наш. Пуставата людзей. Памідоры гараць. Шмат пражы авечай і казінай. З ракавінак, як і ў нас на поўдні, розныя фігуркі. Шмат кутых прадметаў. Ступкі з таўкачыкамі з медзі ці пад медзь.

*14 кастрычніка, аўторак*

Сняданне ў земляробаў. На сцяне карціна «Падразанне вінаграду». Ідзем да мора. Гародчык. Памідоры, перац хоча схаваць ад сораму свой чырвоны нос п'янюгі. Нос яго перасвервае. На беразе вялізныя чайкі — гла́русы.

*г. Златни Пясъци.* Турысцкі гарадок. Нешта паміж Прыбалтыкай і нашым поўднем, толькі болей дагледжана. Шмат нашых дунь і вась.

Індустрыя турызму
На сантыменты падкая.
З натураю капрызнай,
Ашчадная ў выдатках,
Гудрону не шкадуе —
Шыбуйце, магістралі.
Як трэба, калядуйце.
І песню маладую
Пагушквае старая.
Вярхі касцёла вострыць,
Царквам залоціць чолы
І ў прорве зробіць востраў,
Каб гандаль быў вясёлы.

Індустрыя турызму,
А мне тую прызму
Заклала ў зрок Ушача.
Я толькі тое бачу,
Што з мамаю,
Што домам
Мяне дасюль лучае.

*Анатолю Вялюгіну*

Настаўнік мой!
На Вашай далані
Паэзіі пясчынкі залатыя.
Хай Вашай музе
Лёс стагоддзіць дні.
Вам шле паклон
Вячыстая Сафія
І шчыра шэпча
Хваля глыбіні.

Тапалі ў аэрапорта, як у касцёле скляпенне, арган. На гербе Сафіі: «Расце, ды не старэе». Старая Сафія ніжа нізкі караляў аўтаагнёў.

*15 кастрычника, серада*

Нейкая бяссонная ноч. Пераснілiся ўсе, хто трэба і хто не трэба. Бадзёрая раніца. У адчыненае вакно Стэфанавага [Паптоневага] пакоя пах бензіну. Век мае сваю прыхільнасць да нафтадухаў. Пузатыя смеццевозы склыгаюць.

Шукаю шчотку для абутку. Дзве адна ў адной, адна для велюру, зразумела, а другая «за дрэхи», — палез у слоўнік — для «адежа», значыць, так мову хочаш не хочаш вывучыш.

Стэфан забыўся замкнуць машыну нанач — усё на месцы.

На сцяне СП некралог: «Почина Васил Попов[1], с богом, Василе [неразб. 1]».

Быў турэцкі капак, пятым Фердынанд, [потым] цар Барыс. Судзілі Васіля Леўскага і адсюль на шыбельніцу павялі. А насупраць маўзалей Дзімітрава.

Рускі бульвар, раней — Цар-вызваліцель. Музей. Гармата, з якой страляў поп Андрэй.

Прыём у камсамол. Галасуюць чырвонымі кніжачкамі камсамольскімі[2].

---

[1] Папоў Васіл (1930–1980), балгарскі пісьменнік.
[2] Гл.: Вольная зброя ([1982]) // Амплітуда смеласці. С. 126.

Паліцэйскія дубінкі. На адной надпіс: «Азъ знамъ всичко»[1]; металічныя, драўляныя, з жгута.

Крипта. «Обновка на икона XIII–XIV вв.», баішся, што рука выпусціць скрутак[2]. «Неизвесна святая XVI–XVII вв.», с. Крапец. Змыты часам вочы, як са скафандра, як з хмар рука і крылы, вясёлка выцвілая німба. «Св. Илия на огнена колесница XVII в.», крылатыя коні. «Деnec [?] с апостоли XVIII в.». Апосталы, твары — нібы сустрэліся сяляне і гутараць пра ўраджай і пра базар. Твары і разумныя, і хітрыя — людскія. «Богородица с младенца на трон» 1685 г., в. Търкта. Здаецца, немаўля заплача ў музейнай цішы. «Богородица с младенца на трон XVII–XVIII вв.», с. Бобожево, Кюстендилек [г. Кюстэндзіл]. Сялянка на жніве, на ўлонні трымае сына. Вочы з абразоў гавораць за стагоддзі, і маленькі тэлефон на сцяне, хоць пазвані Тварцу і папрасі спакой ў сэрца і на зямлі. «Св. четиридесет мъченици XVIII в.» [«Сорак святых вялікамучаніц XVIII ст.»], нібы перад ровам расстрэлу ў вайну нашыя ваеннапалонныя ці жыхары. Распятыя XVI–XVII стст., нібы туркі распінаюць, і плачуць сяляне і аднаверцы. Багародзіцы і святыя не падобная ніводная, у кожнага мастака свая.

Тай не змалювали тихої розмови...[3]

І такія ж вочы маладыя ходзяць і глядзяць, нібы з вякоў, нібы сышлі на гулкі дол.

Рэм [Нікіфаровіч] першы раз [даў] тэлеграму ў Варну — [прачыталі подпіс як] «Ван Карэм», — ці адзін, ці карэец.

[Адрас:] Симеон Владимиров[4], 1229 — София, кв. Свобода, бл. 35, вх. Г, ап. 68. Паслаць Г. Лорка, Ясенін, [Караткевіч] «Вока тайфуна», «Каласы пад сярпом тваім», «З вякоў мінулых», двухтомнік, «Замак Альшанскі».

Калі перакладаў «Пагарэльцы» Макаёнка, вельмі цяжка было [падабраць] слова, бо ў Балгарыі такіх пажараў няма. «Шрамы» Шабана будуць [ставіць] у Търговице. Сімяон Уладзіміраў перакладае для юбілейнага выдання. У 1945 годзе, калі выключалі з гімназіі, перакладаў Блока.

Алесю Траяноўскаму[5], каб выслаў кашубскую паэзію ў сваіх перакладах. Паслаць новы зборнік казак Пенцы Кыневай[6] («Людзей слухай, а свой розум май»[7]). Сімяону — дыялектны слоўнік.

---

[1] Я ведаю ўсё (*балг.*)

[2] Гл.: Крыпта (2.08.81) // Амплітуда смеласці. С. 124.

[3] Украінская народная песня «Летіла зозуля...».

[4] Уладзіміраў Сімеон (1925–2008), балгарскі перакладчык, літаратуразнавец.

[5] Траяноўскі Алесь (Аляксандр Пятровіч; 1925–2005), беларускі літаратуразнавец, перакладчык.

[6] Асенава Кынева Пенка (н. 1942), балгарская перакладчыца.

[7] Зборнік беларускіх народных казак (Мінск, 1980).

«Стоенето на граждани без консумация по масите е нежелател-но»[1], — [аб'ява] у кафэ.

Быкаву: паслаць Сімяону «Пастка», «Здрада», «Круглянскі мост».

Фонд залаты
Балгарскага народа,
Ён падымае восеньскі настрой.
Кастрычнік цёплы
Не пыліць кастрой[2].

Ангел Тодараў[3] — першы пераклад з беларускай паэзіі: [Андрэя] Александровіча «Дом». Выпівацкі і добры выгляд. Пра сябе ў Маскве [летась ?]: машына, шафёр: «Куды ты лезеш, чорт!» — «Я не чорт, я Ангел!» Пра Петруся Броўку — верш пра верасень, ягоны пераклад. На дачы ў Шамякіна спяваў вясёлы царкоўны гімн.

Індыйская паэтэса. Лаўрэат прэміі Ленінскай за мір і заўтра прэмію імяНіколы Вапцарава.

К. Калчэў: «Проза — іншы від паэзіі, глыбокі пласт».

Цытуе з Горкага[4]: «А вы не былі ў Казанлчъку і ў даліне руж?[5] — дык вы нічога не бачылі».

*16 кастрычніка, чацвер*

Калінка згубіла ключ, не можа пайсці, я свайго даць не магу.

Засмучана Калінка —
Пяцёрку атрымала,
І як не плача горка —
Патрэбна шасцёрка.

Стары з латарэйнымі білетамі, на Шыпцы прадае латарэйныя білеты.

Трамвай ідзе праз восень
Ад Стэфана Паптонева
У досвітак кляноў.
Дубы гараць прытоена.

---

[1] Сядзець за сталом без заказу непажадана (*балг.*).
[2] Гл.: Варненская восень ([14].10.80) // Амплітуда смеласці. С. 113.
[3] Тодараў Ангел Тошкаў (1906–1993), балгарскі пісьменнік, літаратуразнавец, перакладчык, выдавец.
[4] Горкі Максім (сапр. Пешкаў Аляксей Максімавіч; 1868–1936), рускі пісьменнік і грамадскі дзеяч.
[5] Балгарскі г. Казанлык і Казанлыкская катлавіна.

СП. Дора Габэ[1] ў штоніках. 102 [гады]. 6 год укругліла. У кафэ «Балгарыя» старога стылю, яшчэ з 30-х гадоў (іграе скрыпач). Іван Дайчынаў пытае Рэма [Нікіфаровіча], што будзе піць. «Мінеральную». — «А мінеральную чым запіваеш?» Пра Мінск (жыў у інтэрнаце на Свярдлова): «Нідзе не сустракаў столькі мяккіх людзей, як у Мінску. Я не маю на ўвазе жанчын. Яны паўсюль аднолькавыя. Нацыянальнае аблічча даюць не жанчыны, а мужчыны. У Рэма нават па тэлефоне не адчуваецца акцэнт (бо акцэнт асабліва адчуваецца менавіта па телефоне)».

Пама́кі[2] захавалі балгарскую мову XV стагоддзя, а прынялі іслам (туркі не былі расісты, абы прынялі веру), яны захавалі славянскі тып. Гагаузы[3] — гавораць па-турэцку, а веру праваслаўную захавалі.

Дама за столікам: «Малка руска водка, кока-кола, каву», — закурыла і выйшла.

Як Пушчык[4] мёд вызначаў, расказвае Рэм.

[Адрас:] България, 1000, София-Ц. П. К. № 651. Абдул Сатар Ал-Дилими[5]. [Аўтограф арабскай вяззю.] Яго пыталі балгары: «Як жонка?» — «Добра». — «Як дзеці?» — «Добра». — «А калі жонка з іншым будзе?» Спакойна: «Заколи…»

[Аўтограф верша І. Дайчынава на рускай мове «Умереть мгновенно не хочу я…»]

Генадзю Бураўкіну[6]. Мацей Шопкін — перадаць Гену, што як лаўрэат «Молодой гвардии» мае магчымасць пабыць у Маскве, пасля рытуалу можа пабыць у нашай рэспубліцы. Непарушны сакрэт СП *сёлета*, магчыма, з Магдаленай. [Аўтограф верша па-балгарску, з подпісам: «В ўспамін, Гриша: *Вылчаў*».]

Матэй Шопкін расказвае, як ён быў на Усесаюзнай нарадзе. Нацыянальныя проп. [?] былі, а не ўбачыліся. Яго пакрыўдзіў Эмін. У сябе ў Балгарыі напісаў уражанні і пераклаў па вершу самых маладых. Яны ўдзячны былі бясконца. А адзін заваліў тамамі і новымі вершамі.

---

[1] Габэ Ісідора Пятрова (1886–1983), балгарская паэтэса, празаік, эсэіст, перакладчык, крытык, тэатразнавец.

[2] Памакі — старая назва балгар-мусульман, якія жылі ў асноўным у Радопскіх гарах.

[3] Гагаузы — народ, які пражывае ў Малдове і Балгарыі.

[4] Пушчык — мядзведзік, герой фільма «Пушчык едзе ў Прагу» (1965). Фільм кінастудыі «Беларусьфільм» сумесна з «Барандаў» (Чэхаславакія). Рэжысёр Леў Голуб, сцэнарысты Юрый Якаўлеў і Іржы Плахетка.

[5] Ал-Дзімілі Абдул Сатар, балгарскі літаратар. Ураджэнец Ірака.

[6] Бураўкін Генадзь Мікалаевіч (1936–2014), беларускі паэт, празаік, перакладчык, кінасцэнарыст. У 1978–1990 гг. старшыня Дзяржаўнага камітэта БССР па тэлебачанні і радыёвяшчанні. Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1972), Дзяржаўнай прэміі БССР імя Янкі Купалы (1980). Гл.: Лясная паштоўка Г. Бураўкіну з першага снегу (5.12.81, Каралішчавічы) // Амплітуда смеласці. С. 25.

[Адрас:] София 1000, бул. Дундуков, 62а. Дойчинов Иван Богданович. Паслаць 2-томнік Пысіна.

*17 кастрычніка, пятніца*

Сонца ласкавае з самай раніцы. Зноў, відаць, лета паўторыцца, як у Варне. Рухаемся ў горад. Стэфан [Паптонеў выдае] чарговыя афарызмы ў сувязі з Георгіем Вылчавым: «Жанчын можа быць многа, а сям'я адна».

У выдавецтве сустрэча з Еўцімам Еўцімавым, там жа і дзесяцярык з «Молодой гвардии». Чакаю Стэфана каля магазіна ў сквэрыку. Поп, як з нашых фільмаў, сівабароды, падцягнуты, у доўгай чорнай сутане, у руках скураная сумка-партфель і мацерчатая авоська. Таксама нейкія клапоты мірскія.

Выстаўка «Ленін і наша эпоха». Усе кантыненты шукаюць Леніна свайго. Луне Коласо (Куба) «Лубов»: з мачэтэ абняў за стан дзяўчыну, падцягнулася спаднічка, і азадак высветлен плямай.

Рената Гутуза[7] «Погребението на Толиати» [«Пахаванне Тальяці[8]»]. Сцягі, твары, фігуры, і ў розным настроі — Ленін у калоне, шмат Ленінаў. Найбольш слаба, пасля Манголіі, мы прадстаўлены плакатна, гола. Старыя рэчы Бродскага[9] не ўспрымаюцца, бо затыражырваны рэпрадукцыямі. М. Савіцкі[10] «Житото от повата реколта» [«Хлеб новага ўраджаю»], 1974. Каляровы дэбільна-плакатны лубок. Лиляна Русева[11] «Надежда Крупская с деци», 1970. Балгарка Крупская з балгарскімі дзецьмі.

*Этнаграфічны музей.* Овчарски костюм, ножны для стрыжкі і калючы жалезны аброжак (відаць, каб сябе не спалі]ць ?]). Манекены, адна нага абутая, другая разутая, хоць маладой жонцы аўчара памажы абуць ножку другую!

Разам са мной ходзіць сялянка і лепей ад гіда тлумачыць мне, якія рэчы ёсць яшчэ ў яе маці, якія былі ў бабулі. Здзіўляецца, колькі пакояў (стай) было ў цара, што можна заблукаць. Нібыта з маці ці з суседкай з Ушач хаджу, і слова за словам балгарская мова нібы праз вякі каранямі ў мяне ўваходзіць. Гляджу, што нізкі калаўрот, у мамы вышэйшы, мяліца маленькая і шчоткі.

---

[7] Гуттуза Рэната (1912–1987), італьянскі мастак, графік, грамадскі дзеяч. Лаўрэат Міжнароднай Ленінскай прэміі (1972).

[8] Тальяцці Пальміра (1893–1964), дзеяч італьянскага і міжнароднага камуністычнага руху, Генеральны сакратар Італьянскай КП (з 1926).

[9] Бродскі Ісак Ізраілевіч (1883–1939), савецкі мастак, графік, педагог. Прафесар (1932). Заслужаны дзеяч мастацтваў РСФСР (1932).

[10] Савіцкі Міхаіл Андрэевіч (1922–2010), беларускі мастак. Народны мастак БССР (1972). Народны мастак СССР (1978). Акадэмік НАНБ (1995). Герой Беларусі (2006). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1973), Дзяржаўнай прэміі СССР і РФ (1970, 1980, 1996).

[11] Русева Ліляна (1932–2009), балгарская мастачка.

Стэфану Паптоневу [паслаць] кнігу Петруся Броўкі «Разам з камісарам» на беларускай мове.

Стопанинът го нема — ние сме свободни[1].

Васил Петлешковъ[2], Бразачово, 1845–1876. Сам съм, други няма[3]. Як факел згарэў, але не выдаў нікога.

«Чужая мова найлепей гучыць у жаночых вуснах» (Байран[4]).

Катеричка [вавёрка] ў парку, парк царскі. Таполі, як атухлыя факелы на фоне абеліска. Ласкавы змрок кляноў і разгалы дуб.

Симеон Владимиров раіць [перакладаць] Георгія Джагарава[5], Методзіеў[6] (апошніх год), Борис Христов[7].

У авосьцы цэлы пажар чырвоных гушак [перцаў], як запаленыя карчы, як галаўні. Проста на вуліцы адмерваюць покрыў на падлогу (як у фінскіх гасцініцах).

[Адрас:] България, София, 1336, ж. к. «Люлин», ул. 114, блок 11–14, вх. А. Теодора Ганчева. «Глядзіце ў Балгарыі на нябёсы. Лірычныя ветры, здаецца, рухаюць неба»[8].

*18 кастрычніка, субота*

Снедаем. Гавару Венеры: скъпа домокиня; яна пярэчыць, што дамакіня, якая толькі ў хаце сядзіць і не працуе. Трэба — стопáнка. Была да 9 верасня гаспадыня.

Квартал Кнежево, раней конскі трамвай 10 км па Сафіі. Пыльнае сена топчуць у нізкую, як для поні, брычку.

Рэстаран «100 дзён». Сто дзён працы, а 200 — адпачынак. Запрашае рэстаран.

У Балгарыі з 13-ці кліматычных зон — 6–7 зон. Захапляюся навакольнай экзотыкай, а Георгій Струмскі[9]: «Зямля прыгожая, шкада, што мала ворыва», — (душа селяніна). Мяккія абрысы павольных гор, каротка стрыжаныя схілы. Струмскі глядзіць наша выданне кнігі Паптонева: «Вершы, як падводная плынь, цікава аформлена і графічна пададзена».

Прывідна Рыла, як пераход хмар у горы.

---

[1] Гаспадара няма — мы вольныя (*балг.*).

[2] Петлешкаў Васіл Ангелаў (1844–1876), балгарскі паўстанец.

[3] Я адзін — іншых няма (*балг.*).

[4] Байран Джорд Наэл Гордан (1788–1824), англійскі паэт.

[5] Джагараў Георгій Георгіеў (1925–1993), балгарскі паэт, празаік, драматург і грамадскі дзеяч.

[6] Методзіеў Дзімітр Хрыстаў (1922–1995), балгарскі паэт, перакладчык і грамадскі дзеяч.

[7] Хрыстаў Барыс (н. 1945), балгарскі паэт, празаік, журналіст.

[8] Гл.: Парада (4.08.81) // Амплітуда смеласці. С. 123.

[9] Струмскі Георгій, балгарскі дзіцячы пісьменнік.

*г. Станке Димитров*. Веласіпедыст — у адной руцэ белую курыцу ўніз галавой трымае. У другой зеляніну. На закланне курыцы задурэе галава. На выездзе дрэва асенняе. Пастух ў чырвонай апранасе сядзіць. Авечкі мірна пасвяцца. Як бібліі старонкі. Рака Струма, Струмская даліна. Адрогі скал абапал дарогі пакрыты сеткай, як жалобнай вуалеткай. [Аўтограф верша «Имате ли вико...» з подпісам *18 октомври, 1980, гр. Станке Димитров*» і яго верша «Финал».]

Вазаў назваў Вялікая Рыльская пу́стыня (г. зн. цікавае месца). Асветленыя і выцененыя складкі гор. З балкона гушкі [перцы], яз. [?] барвяны дрко вінаград.

*Кочериново.* Іван Рыльскі[1] ўгары паліў агонь, а цар унізе, і гаварылі, але Іван Рыльскі не вярнуўся да светлага жыцця.

Суравеюць горы, зеляней з холадным адценнем. Халадней ваколле. Тут [ішлі] партызанскія баі. Рыльская рачулка, камяні, нібыта хвалі акамянелі ад захаплення і ад страху дотыку да такой непаўторнасці.

Ефрем Каранаж: «Рыльскі манастыр — бліскавіца ў рабскай начы». *Як праз вякі, праз Рыльскі манастыр*[2]. З пярэстай шавялюры цёплая праплешына гары — альпійскі луг. Гарачае адзенне і халодная стылая сінізна голых вяршалін абляцелых. І гарачы жар жаўталісту букаў абапал дарогі, і дарога, светлая ад букаў. Скала сціснула кулак — аж цурок пацёк, пасачыўся на дарогу.

Рыльскі манастыр, на вулачцы чорная «Волга», маладыя папы́ высаджваюць старых багамолак ці матуль. Чорная рака перабірае скамянелыя пацеры, валуноў вузялкі, ці ў памяці паўтарае малітвы забытых вякоў. Вякі засталіся ў малітвах. Конік на прыслонку адчыняе рыпучае завесаў акенца[3]. Сочесот [?] і афіша кіно, белыя буханкі хлеба надзённага, усе нясуць, тут самы смачны.

Саборная царква унікальная. Поп пазірае на гадзіннік і пачынае задзімаць свечкі, якія гараць, амаль як матылька ловіць. Багамолкі кладуць ручнікі, насоўкі [?], кветы. Пры ўваходзе ніжні рад тыя, хто ў пекле, блудзіць у пекле, перавіты змеямі, як шлангамі членаў. Млынар, які крадзе муку, пад каменем. Карчмар, што шмат даваў піць п'яніцам. Глобус, избработен от Неофит Рили в 1836 г. за манастирското училище[4].

Музей. З аднаго боку абразы, біблія, а насупроць зброя, якой абараняўся манастыр, і партрэты паўстанцаў супроць Турцыі. Напрестолен кръст направлен от манах Рафаил през 1790]1802 години[5]. На кожным

[1] Рыльскі Іван (Іаан; 876–946), найбольш шанаваны святы балгарскага народа.
[2] Гл.: «Да Рыльскага манастыра...» (12.07.81) // Амлітуда смеласці. С. 121.
[3] Гл.: «У горы восень ідзе неназойліва...» (26.02.81) // Тамсама. С. 123.
[4] Глобус, які зрабіў Неафіт Рыльскі ў 1836 г. для манастырскай школы (*балг.*)
[5] Напрастольны крыж, зроблены манахам Рафаілам у 1790–1802 гадах.

кв. см біблейскі сюжэт. Пасля яго асляпілі. Звыш 200 твараў і персанажаў, якія не паўтараюць адзін адно. Хапіла зроку, далі зрок толькі на гэтую працу, каб сам не ўбачыў. На драўляных нагах з чатырох вуглоў.

Келлі, дзе жывуць манахі. Манах Лука, іераманах. «А замкі сучасныя», — [заўважае] Стэфан [Паптонеў]. І людзі сучасныя (замкі французскія). Архимандрит Леонид, адсюль, дзе келлі, горы бліжэй, і яны змірылі гардыню і хочуць уніз сысці, схіму ўзяць. Горы і манахі, невядома, кто вышэй. Дух вышэй.

У сценах байніцы. Манастырская брама абкута жалезам, і цвікі, як вухналі. Жар букавых лістоў шуміць пад нагамі, і хочацца гэты жар заграбаць сваімі рукамі. Там, дзе расце бук, самая халодная і самая чыстая вада заўжды. Адпачылі жоўтыя лісты на радыятары ў Стэфана, мы крануліся, і яны ўзляцелі.

Чашма. Партрэт героя ўверсе і тэкст.

Мясціна Жабокрек (Жабін крык). Гроздобер — сезон і працэс збору вінаграду. Скалы ці лікі затворнікаў з аскетычнымі думкамі. Нявесцін мост — Струна невяста. Замуравалі жонку меншага брата ў мост, каб ён трымаўся.

*г. Кюстэндзіл*. «Міс Вясна», Уладзімір Дзімітраў[1], майстар, 1882 г.; скульптура аскетычнага мудраца. Сохне кераміка ў стопачках пад стрэшкамі, здалёк, як вуллі пчол. Майстар не малюе неба, а кветкі і плады, бо іменна яны неба чалавека, усе партрэты так. «Сълнчогледи» [«Сланечнікі»]. Здзіўлена прыжмураным вокам круг. Усе пісьмы: «Добр ден, добра и умна Станка».

Партрэт бацькі, і ўверсе: «Моля, не ми казвайте гршките»[2]. Прафесар, як [неразб. 1], любіць маляваць рукі, рука — той жа твар. «Автопортрет с лоза», і вочы высвечваюцца як бліскавіцы. «Старасць». Жанчына жахнулася, тады ён новы [напісаў] і як неба яе ўнукаў [неразб. 2]. Шмат маляваў маці і бацьку, бо казаў, што не мае сродкаў на натуршчыкаў. Калі маці памерла, два дні ляжала, не даваў хаваць, рабіў замалёўкі. Гарачае славянскае ўспрыняцце свету. Далёка Лацінскай Амерыцы да гэтага славяніна, аднагодкі Янкі Купалы. Спелыя яблыкі і жанчына, мак, ружы і дзяўчына.

На буржуазных выбарах:

— Вучылішча пабудуем.

— Дзяцей няма.

— Зробім.

— Мост пабудуем.

---

[1] Дзімітраў-Майстара Уладзімір (1882–1960), балгарскі мастак. Народны мастак НРБ (1952).

[2] Калі ласка, не кажыце мне пра памылкі (*балг.*).

— У нас ракі няма.
— І раку пракапаем, і мост пабудуем.

Лекар супроць п’янства: «Свіння 100 гр. выпіла і здохла». — «Ну і маць з ёй (шоп[1] кажа), гэта ж напітак не для свіней, а для людзей».

Шоп: «Не трэба хваляваццa, гэта пройдзе». Шоп задуманы каля брамы. «Чаму смутны?» — «Вагаюся. Летась былі на вяселлі, жонку е…, а мяне білі. Сёлета зноў запрашаюць, жонка згодна, а я вагаюся».

«Лозето не ще молитва, а иска мотика»[2], — поговорка.

г. Кюстендил. Новы шыкоўны тэст [?]. Фальклорны ансамбль. Танцавальная група, гарачы танец і каромісла з вёдрамі (як шырокі чайнік [?]), на сцэну. Чарнявачка ў Дунай па ваду.

Шопскі танец у чырвоных кушаках, арнамент на кашулях бліжэй да нашага. На нагах лапці — цэрву́лі. Дабруджанскі танец «Ручаніца». Гайдук у гарах з пісталетамі. Дзяўчына яму кветы. Пастух з ге́чай (кій з загагулінай, каб заварочваць авец), гучыць кава́л (наша жалейка). Два пастухі з гечамі, ямурлу́к — світа на плячах.

Тракійскі танец. Хвартухі чорныя і гарачыя ўзоры майстра. Наогул, здаецца — карціна майстра сышла. Харо — уся сцэна цвіце. Здаецца, зоры на небе ў карагодзе гарачым кружацца.

Танец. Двое зайчыкаў, і тут сабакі, паляўнічы страляе, зайчык дрыгае нагой, паляўнічы апрытомнее, зайчык уцякае. Шопскі танец. Бягуць сабакі зноў. Ён іх лаіць [?], п’е з маленькай бутэлечкі. Сабака брэша. Плюхаецца. Спіць. Зайцы танцуюць над ім. Сабака будзіць, і тут мядзведзь, кідае ружжо. Паляўнічы злой — поўныя штаны.

Зноў «Ручаніца», белыя галубкі ручнічкоў (ці насовачак), як белыя полымкі, ногі слухаюць рукі.

*Сафійскі адвячорак*

Ветрам-таксістам
Ліст па кутках развозіцца.
Дню наўздагон дзвярына
Хрыпіць: «Праганю!»
Галавешкі гарачыя перцу
Ў авосьцы
На вячэру нясець
Паглынальнік агню.

*14 сакавіка 1981*

---

[1] Як часта здараецца паміж народнасцямі адной краіны, балгары падсмейваюцца над шопамі як над прастакамі.
[2] Вінаградніку не трэба малітва, а трэба матыка (*балг.*).

*19 кастрычніка, нядзеля*

г. Кюстендил*.* Раніца ў ціхім гарадку ў даліне. Аблокі ідуць цераз перавал, як статак авечак. На вуліцы паслядажджавой, як вясной.

Соп. [?] Рэшткі рымскай лазні. Палацы рымскія рушыліся, з іх дамы [будавалі], у адным калона, у другім камень.

Туркі не дазвалялі, каб царква ў Балгарыі была вышэй за мячэць, і цэрквы ўглублялі ў зямлю на 2–3 паверхі. Дух балгараў у роднай зямлі. Як зямлянкі, макаўкі ўверсе, святло, як з ілюмінатараў у караблі, падводнай лодцы.

*Праснак* — ад пресен. Вежавы звон адбівае час, а ён тут ідзе спавагі, па жоўтым лісці каля рымскіх лазень. У дварах лазніцы некалькі ствалоў з зямлі, і засень другое неба ўтварае, дзе спеюць зоры вінаграду, унізе дровы на зіму.

Вялікі блочны дом, але ў выходны [едуць] у вёскі ціснуць лазу. Лазніца і тэлеантэны — сувязь з зямлёй і небам, і вяслы чырвоных гушак на балконе[1].

Генерал Гено Генов. «Не, не ў нагу кантужаны», — (англічанка).

Такая цеплыня, што быстрая Сафія паспешліва зрывае з сябе асенні палітон, аж долу падаюць гузікі каштанаў, і яны глуха падаюць на цёплыя ўпрыгожанні жаўталісту[2].

ЦК — цыганскі квартал. Кіламетры чарэшань. Тытунь выцясняе яблыні — выгадней.

На дахах гарбузы, як палі'ва.

*с. Шышкоўцы*. Тут майстар жыў доўга, сталіца майстра. Читалище — клуб, і бібліятэка, і кафэ. Фота майстра і ўсе другія партрэты ліняюць, такая асоба. Дзімітраў са сталінскай піпачкай, і такая ж поза. Падрамнік, фарбы, капялюш, паношанае паліто і некалькі (копія) скупых узнагарод і любімы тамбурын, і на сцяне самотны партрэт чорбаджаў[3], якія далі грошы на школу. Усё зямное, што ад яго асталося, а дух уканкрэтнены ў выявах жыве, перажыве ўсіх. «Ён усё жыццё раздаваў сябе і асабістага багацця не меў», — кажа Эміл[4].

І сціплая магіла ў двары читалища.

Сакочуць куры, і пеўні пяюць, свіргочуць ластаўкі. Пад цэлафанам даходзіць тытунь, правісае нанізаны. Денъ година храни [дзень год беражэ].

На пункце Лілы кажа адзін: «Карпаў — паэт і генерал».

---

[1] Гл.: Лазніца (3.03.81, Дубулты) // Амплітуда смеласці. С. 116.

[2] Г.: «І вецер верасня...» (6.01.81) // Тамсама. С. 115.

[3] Чорбаджыі — заможныя сяляне.

[4] Манаў Эміл (1919–1992), балгарскі пісьменнік.

Авечкі перад машынай, як цёплыя хвалі, пазваньваюць шаргункамі. Да кожнага звяртаўся, да малога і вялікага [Дзімітраў-Майстара]: «Ну, скажы, майстра», — і яму, як мянушка — «Майстар».

Эміл тлумачыць па-руску: «Зімой снег сядзіць тры дні і растае». Эміл праграму «Час» нашу па пятніцах [глядзіць] і слухае, якая t° у Мінску, і ўспамінае Рэма [Нікіфаровіча].

Поні з шорамі і з чырвонымі пампонамі на ілбе. Чым меней перац, тым люцей. Самы люты маленькі расце ўвесь год, 100 км у гадзіну аўтамабілі на гэтых гушках. «Калі лютую гушку ў зад каму — за 20 хвілін да Сафіі і назад у залежнасці ад загружанасці дарогі», — [смяецца] Эміл.

Абед у Эміла Манава. Сам гатаваў закусь. «Гаспадыні звычайна рэжуць каўбасу, як на рэнтген, а я груба, па-мужчынску». Майстар маляваў цётку і дзядзьку жонкі Эміла — «Цветы Руменінаў». Бузá — накшталт квасу. Калі Майстра пыталі, чаму не п’е, [казаў:] «Я на цвярозую галаву не магу з мастацтвам справіцца, а калі ты можаш на п’яную — хвала табе!»

Прыйшла другая дачка гаспадыні старой з мужам — ветрапалам (здароў, у любога жарабца яйцы ў імгненне возьме), спявае ў гарадскім хоры. Песні рытуальныя, па заяўках на вяселлях, класіка. Эміл паказвае калекцыю аўтаручак, а швагер: «Гендэль[1] усё напісаў гусіным пяром». А жонка, сястра гаспадыні, таксама з роду тых, каго Майстар маляваў. «Самае цяжкае: абвучыць пенсіянера не працаваць, а камсамольца — працаваць, асноўны стан — безвопростност».

Конеўская планінá. Праз агонь лісцёвых лясоў бягуць у гору тэлеграфныя слупы, над галавой трымаючы чашкі чашачак, нібы баяцца разліць халадок надзеі[2]. Каля *с. Драгамірава* возера Байкал.

Вечарам тэлеперадачы. Апошнія навіны і з усяго свету больш дынамічна падаюцца і больш канкрэтней, без лішняга рассусольвання. А пасля нашыя «Вясёлыя рабяты». Калінка хахатала на ўвесь вялікі дом Стэфана [Паптонева].

*20 кастрычніка, панядзелак*

Ноччу пайшоў дождж. Яшчэ з раніцы брыгае. Рыжы кот выйшаў на суседні ганак, асцярожна ступае і спрабуе на смак ваду, пазіраючы на вераб’я, які нахабна чырыкае: «Дождж, дождж, а я не баюся!»

*Перакласці* (парада Стэфана [Паптонева]): Еўцімаў, Пеце [?], Струмскі, Мацеў[3], Леўчэў, Шопкін, Теодора [Ганчава], Драгамір Шопаў[4] (верш пра Беларусь), Дз. Панцялееў.

---

[1] Гендэль Георг Фрыдрых (1683–1759), нямецкі кампазітар і арганіст.

[2] Гл.: «Нібыта сама даўніна...» (14.03.81, Дубулты) // Амплітуда смеласці. С. 117.

[3] Мацеў Павел Хрыстаў (1924–2006), балгарскі паэт і грамадскі дзеяч.

[4] Шопаў Драгамір (н. 1938), балгарскі паэт, публіцыст.

Кнігі Стэфана ў Казахстане. Васіль Яфімавіч Скарабагатаў — першы намеснік міністра па друку Казахстана. Ануару Аліджанаву[1] — ліст, Ларыну[2] — ліст, Алжасу[3] і Аяну[4].

У рабочым кабінеце (па-паэтычнаму ўмеру вэрхал) на някідкім месцы на паліцы стаіць 40 кніг Стэфана — вершы, паэмы, апавяданні, раманы, аповесці, эсэ, радкі паездак і дарог. А яму самому ідзе 52-гі. Неблагая суадносіна. У размове перад ад'ездам маім ён падкрэслівае: «Я не самы лепшы, я не афіцыйна прадстаўнічы пісьменнік. Буду ўдзячны, калі ты перакладзеш якія мае вершы, але ты павінен перакладаць і іншых, каб было паўнейшае ўражанне аб сённяшнім стане балгарскай паэзіі».

Ты прытрымай, спагадлівае лета,
І 20 дзён надвор'я прытрымай.

Улада не рашучая ў паэта,
Ды, Стэфане…

У падножжа Виташи (у поли Виташи) Драголевци дача Найдэна — там сарвана ружа, яшчэ ў дажджы, у аэрапорт перад ад'ездам па дарозе Стэфан ўзяў заўтрашні нумар «Пульса» з маімі вершамі. Апошнюю кропку паставіў на развітанне. Найдэн запытаў: «Пасля двух дзён, калі адаспішся, прачнуўшыся дома, што ўспомніш?» Адразу цяжка было адказаць. Настолькі шмат ураженняў. Адно на адно напластавалася ў каляровай і непадобнай мазаіцы[5].

Найдан, не мог я прынесці табе
З беларускага сна сняжку.
Ён растаў бы ў гарачых маіх руках
Да таго, як я апынуўся,
Акунуўся ў спякоту вачэй,
У прыпар спагады і ласкі,
У віры сонцадайных вачэй
У краіне, якую з маленства
Ведаю па Дунай-рацэ,
У якую матчына песня
Пасылае да першых пеўняў
Па ваду. І рака маленства

---

[1] Аліджанаў Ануар (Ануарбек; 1930–1993), казахскі пісьменнік, публіцыст.
[2] Ларын Веніямін Іванавіч (Іваноў В.; н. 1920), рускі празаік, публіцыст (Алма-Ата).
[3] Сулейменаў Алжас Амаравіч (н. 1936), казахскі і рускі паэт, кінасцэнарыст, грамадскі дзеяч.
[4] Нысаналін Аян (сапр. Сейтхан Бердзімухаммедулы; н. 1942), казахскі празаік, паэт, перакладчык, літаратуразнавец.
[5] Гл.: Пытанне Найдана Вылчава (3.08.81) // Амплітуда смеласці. С. 125.

Мне суседней была і хатняй.
І калі маладзіцы хвалілі
Маладую дзяўчыну,
Казалі: як дунай-дзяўчына,
Што значыла…

Пры даглядзе — багаж ручны — на трасмісіі:
— А гэта чаму не паклалі?
— Тут ружа.
— Ружу моліна, — усміхнулася строгая па службе балгарка.

Чакаем доўга рэйса. Цэлы зал грэкаў жвачку жвуць, баяцца забыцца жавальныя рухі. Уражанне, што ядуць. *Японачка — перапоначка.*

[Адрас:] София-104, бул. Емил Марков, бл. 42, вх. А. Пенка Кънева. «Людзей слухай, а свой розум май» — паслаць! І свае кнігі.

*12 лістапада, серада*

Элеанора Язерская[1] пра Грачанікава: «І да́мы слухалі вачамі…»

*18 лістапада, аўторак*

*Андрэю Макаёнку*
*(Вечарына з нагоды 60-годдзя)*

Рукою бога
На ім зашпілены
Не дужа строга
Сурдут Шэкспіравы.
Ласкава глянула
Мельпамена нядрэмная:
Вільяму — Вільямава!
Андрэю — Андрэева!

*26 лістапада, серада*

*Да 50-годдзя У. Караткевіча*

Трымайся, агнец між ваўкоў!
Пакуль славянства дух не вымер,
Не менш як 50 вякоў
Ты будзеў княжыць,
Уладзімер!
Ды што вякі —
Як чарвякі!

---

[1] Язерская Элеанора Аркадзьеўна (1946–2014), тэле- і радыёвядучая, актрыса.

Свет у тваім змясціўся імі.
Нятленныя чарнавікі
Эпох
З задумамі тваімі.

[Варыянт:]

Трымайся, агнец між ваўкоў.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Хай сніць масціты тыражы,
Цюкуе ў зборы твораў скруху,
Твой плён не пыліць стэлажы,
Твор кожны твой,
Як думка, ў руху!

*Аднадзёншчык*

Хай аднадзёншчык гоніць вал,
І ў зборы твораў ён бяздомны.
Да неба ўзнёс ты свой квартал,
Высокай якасцю шматтомны.

*[28 лістапада, пятніца]*

*** Беларускі рэвалюцыянер Тарашкевіч[1], седзячы ў польскай турме, перакладае генія Польшчы[2]. Сын Радаслаў у партызаны падаўся і падарваў машыну, дзе ехаў айчым, які працаваў перакладчыкам, потым і сам загінуў.

Ігар Васільевіч[3]: «Каб тону паперы спісаў, але ж як рэзаць паперу? Ён наогул нічога не робіць, толькі піша». Сястра[4]: «Ад маці і бацькі перапала ўсё Валодзю, ад нас, і я не зайздрошчу».

Цабэрак, многа розуму пры смутнай галаве.

[Чужой рукой, з нечытэльным подпісам *Ом...* :]

Я так сумую па сабе,
Я сам не свой,
Гляджу — не бачу.
Я так сумую па сабе,
Я сам сябе не перайначу.

---

[1] Тарашкевіч Браніслаў Адамавіч (1892–1938), беларускі грамадскі і партыйны дзеяч, мовазнавец, літаратуразнавец, перакладчык. Акадэмік АН БССР (1928). Рэпрэсаваны.

[2] Міцкевіч Адам (1798–1855), польскі паэт, дзеяч нацыянальна-вызваленчага руху.

[3] Кучкоўскі Ігар Васільевіч, муж Н. С. Кучкоўскай (Караткевіч).

[4] Кучкоўская Наталля Сямёнаўна (1922–2003), сястра У. Караткевіча.

*** У трамваі (перад зімой): «У мяне з галавы вымаразіла (!) зусім гэта зрабіць».

*1 снежня, панядзелак*

*Сяргею Грахоўскаму*[1]

У сілы верачы свае,
Як семкі пераклады лускае.
Блок сам сябе не пазнае,
Аглушаны гаворкай глускаю.

*

Для нашчадкаў шчыра нёс
Творчую рассаду:
«Спераду Ісус Хрыстос»,
А Грахоўскі — ззаду.

*2 снежня, аўторак*

Вакзал. Аб’яўляюць, што цягнік Кіеў — Рыга позніцца. «Пакуль (40$^{0}$) піцца, дык і замерзне», — дзядзька заўважае.

Праваднiца не разбудзіла, праехала Шаўляй: «Я яшчэ ўстаю, а сын недзе ў школу пайшоў».

Вязе брату ў Клайпеду маладзіца свежаніну, з-пад Бабруйска, ён у плаванні. «А ці ж нявестка рады дасць?» — «Дзіва што. Гатовае ж — не дурное».

*** Задоўга да першых нашых верлібраў, да палякаў, якія каля французаў труцца, мама лісты мне пісала без знакаў прыпынку, без загалоўных літар: «Каласутка мой каласок васілёк баравое зелейка»[2].

Саромкі, павечкі (ушацкае) — вейкі.

*Ніл*гілізм нашай паэзіі.

У кожнага латыша па сваёй дайне. [Вуліцы] Вялікага і Малога каня, Вальная, Замкавая[3]. З Аспазіяй[4] па стрэхах уцякалі ад паліцыі пасля рэвалюцыі ў 1905 годзе.

---

[1] Грахоўскі Сяргей Іванавіч (1913–2002), беларускі паэт, празаік. Быў рэпрэсаваны. Заслужаны работнік культуры БССР (1983). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі РБ імя Я. Коласа (1992).
[2] Гл.: Паслаў бы табе душу...: Ліставанне Рыгора Барадуліна з мамай (1954–1971). Мінск: Лімарыус. 2009.
[3] Гл.: Старая Рыга (25.02.81, Дубулты) // Амплітуда смеласці. С. 30.
[4] Аспазія (сапр. Розенберг Эльза; 1868–1943), латышская паэтэса і драматург. Жонка Я. Райніса.

Ёсць нешта развітальнае ў навагодніх паштоўках, віншаваннях, развітваемся не толькі са старым годам, развітваемся з тым, што ўжо не паўторыцца, з самімі сабой, з сябрамі… і так штогод, да апошняй кропкі.

Як есці мёд? Мядзведзь — пакажу, як есць мёд, — вылізаў соты, высмактаў і ў дзясяты раз, і ў соты. *Запрашай мяне налета, пакажу, як есці мёд.*

На слупе аб’ява: «Прадаецца новы дыван». Нехта чарнілам дапісаў «самалёт».

У «Правде» фота мядзведзя «Час у бярлог». Фота чытача з Улан-Удэ. Фота мядзведзя як прэзідэнта нейкай краіны. Бо гэта рэдкі ўжо госць. Усё хутка занясем у Чырвоную кнігу. Толькі б завесці і чорную, куды б злосць і г. д. *Мяцеліца-круцеліца.*

Лісты ледзь змяшчае дошка аб’яў,
Як дрэва бухматай вясною, —
Адзін чапурыцца, іншы абвяў.

Возьме ўдаўца на кватэру ўдава
Па сумяшчэнню з арэндай.

Мяняю цудоўны настрой на два —
На добры і на сярэдні.

Усё не можа знайсці галава
Для яе прыстойнага гуза.
… шыя гуж,
І няню часова самотны муж,
Якая б у час знікала.

Прадаецца дыван,
І хтосьці «самалёт» дабаўляе.

Падхалім
Ванцак на паляруш
Сіпякамі.
Крывы рог на просты.

! Ад першай ночкі —
Галава ды вочкі.

*

Не ў падкопах
З-пад пастаментаў
хітры жвір,
Не гроб у перапудзе.

З такім, як ён, —
І ў пір, і ў вір,
І ў добрыя людзі.

*12 снежня, пятніца*

Раніца. У двары ўборачная машына. Грузяць смецце хлопцы, як на каня, на машыну: «Тпру…». Хоць жартам, але конь з маленства іржэ дасюль ім, хоць гарадскімі сталі.

*14 снежня, нядзеля*

*Ушачы — Полацк — Віцебск.*

Паэма вёсак. Перад старасцю роўныя ўсе. Паэма старых (кніга з Валем [Ждановічам]). *Помснік — помнік. Трава — татарва. Талін — талент.* Возраст неба. Телеграммы надежд. У загадках зрабіць на паэтаў у выглядзе пародый.

Пімен [Панчанка] гуляе з малой Еленай ў кіта [?], і малюе, і ставіць адзнакі.

Магілёўская вуліца (дзе плошча, штыкі) быў інтэрнат мастацкага вучылішча [ў Віцебску, дзе вучыўся В. Быкаў].

Па дарозе Пімен Панчанка захапляецца лясамі: «У лесе вырас. У лесе ніколі не заблуджу». Пад'язджаем пад Бягомль (Бегамля). «Каля Маргавіцы былі горкі, адкуль мы на санках каталіся». Дужа хораша казаў пра Ушаччыну.

Бацька Генадзя [Бураўкіна]: «Ну, сын, не дзівí, нічога не прыгатаваў, маткі няма». [Кажа] прастакіша (прастакваша). Малая ўнучка: «Трэба дзеда здаць у камісійны магазін, а сабе возьмем маладзенькага, чорненькага». Дзед: «Добра, я адпішу козачку, сабачку, сад, дом, гарод на ўнука». Тады падышла і пацалавала: «А цяпер мне адпішы».

[Віцебск.] На чалавека 46 метраў у год [будуецца] на ўсе душы. Дывановы камбінат. Выпускнікі першага выпуску ФЗА[1] ідуць на пенсію. Фабзайчыкі.

Абком. Шабашоў[2] Сяргей Міхайлавіч. 2,5 тыс. азёр на Віцебшчыне. Да вайны на Віцебшчыне 1млн 737 тыс., [пасля] 1 млн 319 тыс. «І ў гэтых дзікіх умовах, — кажа Шабашоў, — мы ўсё-ткі тое-сёе ў сельскай гаспадарцы дасягнулі. На сяле сярэдні ўзровень пераваліў за 50 год. Трэба заказаць новы ледавік, каб бугры зраўнаваў, а меліяратары тут не сіла».

Віцебск. Абком партыі. Сусалка Пётр Сямёнавіч, загадчык аддзела прапаганды.

---

[1] ФЗА — школа фабрычна-завадскога абучэння.

[2] Шабашоў Сяргей Міхайлавіч, у 1971–1983 гг. першы сакратар Віцебскага абкама КПБ.

[Адрас:] Полацк, вул. Свярдлова, 16]29, кв. 29. Глобаж Рыме Мікалаеўне (для Лены — дзіцячыя кніжкі; пляменніца міністра); Витебск, ул. Октябрьская, д. 8, кв. 54. Пискунов Фёдор Г., дачка Іра — 7 клас, паслаць кніжкі! Віцебск, вул. «Правды», д. 63]3, кв. 31. Сухарава Вера (рэд.).

*15 снежня, панядзелак*

Пімен Панчанка адкрывае вечар Васіля Быкава[1]: «Паэзія жыла на нашай зямлі дзясяткі вякоў, паэзія гучала, калі нараджалася дзіця, калі хавалі чалавека, але сталасць літаратуры прыходзіць тады, калі [з'яўляецца] проза».

Выступае Крыцкі, ветэран працы. На добрай мове. Выступае студэнтка Ядровіч. Чытае *натхнёная,* а мне чуецца *наткнёная,* — да таго ж ядраная яна! У заключэнне называе Васіля маршалам нашага мастацкага слова.

*Натужаць лёску лёсу — торгне ўдачы акунёк.*

У прыродзе па-свойму захоўваецца раўнавага. Зямля бедная ўраджаем, багатая талентамі. Бо зямля, якая называецца радзімай, мусіць сябе выявіць, выказаць, паказаць. Бо любая зямля трымаецца шчодрасцю і шчырасцю душы людзей, якія жывуць, сеюць, пякуць хлеб.

Васіль Быкаў на сваім вечары: «Літаратура павінна пісаць праўду. Гэта аксіёма. Але праблема праўды заўсёды была складанай і цяжкой. Колькі ламалі копі'яў, колькі пісаў Леў Талстой[2]. Усімі пісалася праўда жыцця.

Няпраўду напісаць лягчэй, выгадней, з меншым намаганнем, чым праўду. Праўду жыцця я паклаў у аснову. Не прэтэндую на бездакорнасць пра вайну, пішу, абапіраючыся на ўласны вопыт.

Найжахлівая вайна. За 4 гады 20 млн [чалавек загінула], нават памяць не ўяўляе. Кожны, народжаны пад сонцам, хоча жыць. Паміраць маладому трагічна. На ваенных дарогах сустракаліся землякі: ушацкі Лёшка Арлоў — знік, Канатчыкаў з Коханава (асаблівы віцебскі тып, класічны віцеблянін). Яны не вярнуліся і не ўбачылі сваю Беларусь, сваю Віцебшчыну. З хлопцаў 23–25 гадоў вярнуліся 3 чалавекі з сотні. Мы павінны адчуваць свой абавязак. Твардоўскі[3]: «Но всё же, всё же, всё же…» Не можа не ціснуць на плечы 3-х з гэтай сотні. Пра гэтыя 20 млн нельга было гаварыць няпраўду.

---

[1] Гл.: Васіль Быкаў у Віцебску (13.12.80) // Амплітуда смеласці. С. 34.

[2] Талстой Леў Мікалаевіч (1828–1910), рускі празаік, драматург, публіцыст, крытык, аўтар рэлігійна-філасофскіх і педагагічных твораў.

[3] Твардоўскі Аляксандр Трыфанавіч (1910–1971), рускі паэт, празаік, крытык. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1941, 1946, 1947, 1971), Ленінскай прэміі (1961). Цытата з верша «Я знаю, никакой моей вины…».

Аднавіць усё, што на вайне было, вельмі складана. Не браў герояў легендарных — групку маладых салдат альбо занадта старыя. Адны маладосцю, другія старасцю на іншыя справы былі не здатныя. І таму на перадавую, адкуль не вярталіся.

У нашай гісторыі барацьбы з фашызмам шмат прыкладаў гераічнай [барацьбы], асабліва на Віцебшчыне. Магло б быць крыніцай для мастацтва на многія войны. Тэма гэтая невычарпальная нават для тых, хто не помніць вайны і не ведае жахаў.

У заключэнне дзякую ўсім, для каго мастацкая і беларуская літаратура з'яўляецца нечым важным у жыцці. І ў суперніцтве з кіно інтарэс да літаратуры не аслабне».

Адказы на пытанні:

—Усе чалавечыя тэмы ў нашыя дні актуальныя.

— *Ці зменіць вайсковую тэму на мірную?*

— Усё можа быць. Магчыма, я напішу не толькі пра вайну. Але калі гэта малады чытач пасляваеннага пакалення, то іхняе пакаленне я не адлюструю.

— *Дзе [знайшлі] вобраз Сахно, дзе мелі месца падзеі?*

— Прататып быў, месца на Украіне.

— *Якая задума «Пайсці і не вярнуцца», як разумець канвой?*

— Па-свойму.

— *Гісторыя стварэння «Альпійскай балады».*

— Гісторыя была ў Аўстрыі, у Альпах. Дзяўчына хадзіла ўздоўж калон і пытала, ці ёсць Іван, іх шмат было, але яна ківала галавой: no! Праз 18 год успомніў факт і напісаў.

— *Які твор найдаражэйшы?*

— Аднолькава, нашто дзяліць на дарагія — танныя…

— *Ці ёсць кантакты з Друнінай[1]?*

— Адносны.

— *Як [думаеце] аб сучаснай маладзі?*

— Вельмі хораша. Сам бы хацеў [быць] маладым, але нельга.

— *Каму з празаікаў і паэтаў [аддаяце] перавагу?*

— Шмат любімых аўтараў. Перачытаць толькі хацеў бы часам.

— *Ю. Бондараў[2] «Выбар».*

— Самы лепшы твор у сучаснай рускай літаратуры.

— *У Вашых ранейшых творах прысутнічае аўтар, пазней не.*

[1] Друніна Юлія Уладзіміраўна (1924–1991), руская паэтэса.

[2] Бондараў Юрый Васільевіч (н. 1924), рускі пісьменнік і грамадскі дзеяч. Герой Сацыялістычнай Працы (1984). Лаўрэат Ленінскай прэміі (1972), Дзяржаўнай прэміі СССР (1977, 1983).

— Я не адмовіўся. Але кожны прыём патрабуе ашчаднасці. Каб быў скрозь аўтар, ён бы пад нагамі блытаўся.

— *Савіцкі [Міхась].*

— Выдатны мастак, самы таленавіты з мастакоў Беларусі.

— *Характары герояў абумоўлены 40-мі гадамі, а моладзь іншая.*

— Гэта крыху так, пра вобразы 40-х у сувязі з сучасным пакаленнем. Ёсць пэўныя законы маральнай нравственности і ў 40-я, і цяпер, але раней больш выяўна, зараз больш змазана. Такі адрэзак часу як 40–50 год не могуць змяніць чалавека. І ў маіх творах: адбываецца ў вайну, але можа праявіцца і ў наш час. А чалавека 80-х гадоў [напішуць] пісьменнікі гэтага часу.

— *Над чым [працуеце зараз]?*

— Новую аповесць [пішу] пра пачатак вайны, ёсць і на сучасную тэму, але хваліцца [не буду].

— *Ці ў тых мясцінах, дзе ваявалі, ці былі?*

— Здаралася. Напрыклад, на Украіне. Цяжка пазнаць вёскі, многія зліліся, а гарады цяпер адзін на адзін падобныя.

Вітаюць землякі — Міхаіл Дзмітравіч Быкаў (Дубраўская школа): «Ведаю як аднавяскоўца, хадзілі ў школу [разам]. Адну памылку [адзначу]: пачаў [Быкаў] пісаць не з 49-га года, а з 6-га класа». (Ждановічу [зрабіць здымак]).

Дырэктар Камбіната дываноў: «Літаратура, прадукцыя, якую цяжка даць. Кілім таксама твор, які цяжка дастаць. Нават чаргі няма».

Васіль Само[йлавіч] Паршонак (блакада, армія): «Ён кнігу любіў, а я падлeніваўся. І цяпер ён у людзі выйшаў, а я як цяпер [памятаю] кухонны столік, бітком набіты кнігамі, чытаў і мне саветаваў. Я прачытваў, ды менш. І ён мяне любіў, і я яго любіў. Ён рысаваў. Будучы ў шастым класе ён пісаў, алі я не знаў (Леніна, Маркса[1], Сталіна[2]). Каб Вы пісалі болі. Я кінамеханікам [працую], я з вялікай увагай, Васілёк». (Ждановічу [зрабіць здымак].) Васіль Быкаў: «Вася… ну я пайду і чарацінку…»[3].

Заключнае слова Васіля на банкеце: «Цяжкая гэтая справа імяніны, якія зацягнуліся. Усё прайшло, нібы ўпершыню. Так усё добра падрыхтавана было.

---

[1] Маркс Карл (1818–1883), нямецкі мысліцель і грамадскі дзеяч, заснавальнік марксізму.

[2] Сталін Іосіф Вісарыёнавіч (сапр. Джугашвілі; 1879–1953), адзін з кіраўнікоў Камуністычнай партыі СССР і Савецкай дзяржавы.

[3] Гл.: Быкаў В. Доўгая дарога дамоў. Мінск, 2002. С. 16. «…а Валодзя Галавач… павёў на замерзлае возера, акуратна зрэзаў ножыкам чарацінку, уставіў туды пяро. І пачаў я вучыцца».

Не люблю металічнае дзе бразгае, [неразб. 1], лязгае, нешта рухаецца з крукамі, глядзі і цябе падхопіць.

А дывановы камбінат дужа падабаўся.

Бугаёў — выдатны мысліцель літаратуры, ён арыентуецца на свае меркі, на сваё сумленне, на свае ідэалы, а яны ў яго высокія. Ён самы лепшы, самы сумленны крытык.

Маіх землякоў цэлая лава выстраілася, усе яны мне вельмі сімпатычныя.

Вельмі часта мяняюцца [неразб.1] кіраўнікі. Не паспееш пазнаёміцца, прывыкнуць, а яны ўжо новыя. Новы старшыня ў Кублічах можа прымусіць гэтых лайдакоў працаваць.

Ды дырэктару [трэба] вучням [падказваць] не коску дзе ставіць, вучням зусім іншае трэба».

Усіх сваіх настаўнікаў помніць. Дзякуе настаўніку беларускай мовы, які на ўсё жыццё яго навучыў роднай мове. Братавую. Нехта: «Хай сястра ўстане». Яна [Валянціна] ўстае і раскланіваецца, як ранетка чырванее, седзячы. Сама хлопае ў далоні. «Каб вы былі шчаслівыя — названыя і нязваныя».

Васіль Быкаў: «На дрэнных землях добрыя людзі».

Рафік мчыць у люстэрку. Аралля праталіннага снегу.

Васіль Быкаў: «У нас за словам учынак стаіць, слова дзейнічае, а ў Еўропе гэтага няма».

Мазыр, як пузыр: кругом вада, а ў сярэдзіне бяда.

*** Язэп Драздовіч служыў фельчарам у вайну ў Вышнім Валачку (1917, чэрвень).

*27 снежня, субота*

* * *

Няхай у вас, вясёлкаўцы[1],
Таіцца ў кожным рукаўцы
Нястрымны смех,
Бы ў лесе снег,
Каб па вясне пускацца ў бег.
Вам чоўнам,
Бы ў трысці, плысці
Да берага дасціпнасці.
У Новым годзе і заўжды
Хай будзе дух ваш малады!

---

[1] Супрацоўнікам дзіцячага час. «Вясёлка».

*28 снежня, нядзеля*

*Пімену Панчанку*

У кут зашыйся, рыфма-падчарка,
Сумейся, сівы дзед сюжэт,
Калі гаворыць Пімен Панчанка,
Святлее час, дабрэе свет.
Хай XX стагоддзе
З паэтам будзе ў шчырай згодзе![1]

*Тамары Залатухінай*

Ні спёка,
Ні мароз,
Ні дождж,
Ні хмара
Між намі не пасеяць недавер.
Няхай жыве шаноўная Тамара —
Заступніца паэтаў СССР.

*Лявону Яўменаву*

Няхай жыве Лявон Яўменаў
І ў Новым годзе, і ў вяках!
Хай род яго да ста каленаў
Удача носіць на руках.

*[Снежань]*

*31 снежня, серада*

Год Пеўня[2],
Хай ён не скупіцца
На шчасце з поўняй —
Не з акрайчыкаў! —
Каб доля — хітрая лісіца,
Як пеўня, смех не знесла Зайчыкаў!

---

[1] Гл.: Пімен Панчанка (05.2004) // Дуліна ад Барадуліна. С. 50.
[2] Гл.: Году Пеўня (3.01.81) // Амплітуда смеласці. С. 67.

## 1981

*1 студзеня, чацвер*

*Генадзю Бураўкіну*[1]

Не ад парожняга гляка —
Ад радасці дрыжыць рука,
Для сэрца дарагое свята:
Віншую шчыра земляка
Як палачаніна, як брата
Пад Новы год як лаўрэата.
Разлійся з каньяка рака!
Жадаю, каб тваё чало
Багата лаўраў абвіло.
У цемру шыйцеся, сычы!
Любую ўходаем вайну.
Мы — з Полацка,
Мы — крывічы,
І лаўры нам — не ў навіну!

*Віктару Жаку*

З днём нараджэння, Віктар Жак,
І з Новым годам, дружа!
Няхай жыцця твайго бальшак
Не задзімае сцюжа.
Зважаць не думай на гады —
Будзь кожным членам малады!

*12 студзеня, панядзелак*

На працу (з рукапісам Андрэя Александровіча). У «Дзень паэзіі» Шабана, Бурсава. У Дом мэблі, аматар кніг. Да Навума [Кісліка], у Літфонд, пуцёўку ў лес.

*13 студзеня, аўторак*

8.40 — да Матукоўскага[2] дахаты. Адаслаць кніжкі Руслану Беламу. 18.00 — прыедзе Шабан.

---

[1] Віншаванне з нагоды атрымання Г. Бураўкіным Дзяржаўнай прэміі БССР.

[2] Матукоўскі Мікалай Ягоравіч (1929–2001), беларускі драматург, публіцыст. У 1970–1993 гг. заг. Беларускага аддзялення рэдакцыі газ. «Известия».

*14 студзеня, серада*

Пачаць дабіваць Івана Драча. 15.00 — Барыс Захаравіч, Партызанскі праспект, 72. 45-20-44 — дыспетчар.

*15 студзеня, чацвер*

11.00 — магазін мэблі. Дамоў (узяць нож, чай, цукар, тапкі цяплейшыя), дачакацца дома мэблі і Шабана.

*19 студзеня, панядзелак*

У Мінск.

*21 студзеня, серада*

У *Апчак* [вёска побач з Каралішчавічамі]. Званкі ў Мінск. Перадрук Драча.

*Даеш ты — дарэшты. І Бенкендорфаў — шнур бікфордаў.*

*Тонкі разлік*

Як сем'янін — усё прадумаў тонка,
Аж не ўмяшчае хата барахла.
Каб захацела бегчы ўпрочкі жонка,
Яна б сабрацца хутка не змагла.

***** Яго высокасць тэлеграфны слуп[1].

*23 студзеня, пятніца*

*Яўгену Будзінасу[2]*

Наш клопат, бадзі' нас!
Бяда, не бядзі нас!
Нам рана на вынас.
Будзі нас, Будзінас!

*25 студзеня,нядзеля*

*Яўгену Шабану парада на ад'езд*

Калі ў цябе пытанне ўстане
ці ноччу соннай, ці раньком,

---

[1] Гл.: Яго Высокасць (26.02.81, Дубулты) // Амплітуда смеласці. С. 39.
[2] Будзінас Яўген Дамінікавіч (1944–2007), беларускі пісьменнік. У 1982–1990 гг. спецкарэспандэнт час. «Дружба народов» па БССР і Прыбалтыцы.

у тапачках ступай да Тані[1] —
пад бокам маеш свой райком.

*26 студзеня, панядзелак*

* * *

Няўрочнай будзь у харашбе,
Мой светлы свет, Ілона, —
Працуй на час,
І на цябе
Хай час працуе плённа!

* * *

Мой смех,
Мой рай,
Мой сум,
Мой боль
З ласкавым імем Валя.
Ішоў угору за табой,
Жыву табой на перавале.

*29 студзеня, чацвер*
Прыёмная камісія (пра Блакіта[2]).
*Чыгрынаў:* «І рэкамендавалі яго ў блакіт».
*Губарэвіч[3]:* «Іншых чытаем па абавязку, і ўражанне па абавязку».
*Вера Палтаран[4]*: «Такі ён паглядны».

*10 лютага, аўторак*
Тэле]фона]размова з Піменам Панчанкам: « Забываюць старога. Добра, што пазваніў. Зборнік назваў «Спагада». Зараз прачытаю верш ад-

[1] Арлова Таццяна Дзмітрыеўна (н. 1935), беларускі тэатральны крытык, педагог, журналіст. Кандыдат мастацтвазнаўства (1969), доктар філалагічных навук (2003). Прафесар (2004). Заслужаны журналіст Беларусі (2000). Жонка Я. Шабана.
[2] Блакіт Валянцін (сапр. Болтач Валянцін Уладзіміравіч; 1938–2007), беларускі пісьменнік. У 1978–1987 гг. заг. сектара тэлебачання і радыё ЦК КПБ.
[3] Губарэвіч Кастусь (Канстанцін Лявонцьевіч; 1907–1987), беларускі драматург. Заслужаны дзеяч мастацтваў БССР (1966). Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1968), Дзяржаўнай прэміі БССР (1972).
[4] Палтаран Вера (сапр. Ляпеская Вера Сямёнаўна; 1919–1989), беларускі нарысіст і крытык. У 1973–1986 гг. заг. рэдакцыі драматургіі, крытыкі і літаратуразнаўства выд-ва «Мастацкая літаратура». Заслужаны работнік культуры БССР (1979). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР імя П. М. Лепяшынскага (1970).

найменны ([жонцы] Зоя, падай там на стале). Твой калега ўбачыў часопіс і ў вачах не мог пагасіць зайздрасць[1].

Ну а раманы ты чытай Бондарава, Айтматава[2], Ганчара[3]. Празаікі, яны чытаюць ці сябе, ці таго, каму зайздросцяць, ну а нам, паэтам, зайздросціць няма каму — нам трэба чытаць прозу».

*13 лютага, пятніца*

Загадка перакладу,
Як вядзьмарства,
Грымотамоўства,
Змоўства,
Красамоўства.

Ашчаднасць. Марнатраўства. Красамоўства[4].

*** М. Стральцоў[5]: «Прыметнікавая паэзія».

Васіль Быкаў: «У Тураве запушчана горай за Ушачу. Сельсавет. Цыганы задаюць тон. Запылены. Лепяхі кароўі».

*15 лютага, нядзеля*

Няхай жыве Семенякоў[6]
Васіль, Сцяпанаў сын.
Хай род ягоны век вяком
Не зводзіцца на клін!

---

[1] Гл.: Народны (1981) // Парастак радка, галінка верша. С. 124.

[2] Айтматаў Чынгіз Тарыкулавіч (1928–2008), кіргізскі і рускі пісьменнік, грамадскі і палітычны дзеяч. Народны пісьменнік КіргССР (1968). Герой Сацыялістычнай Працы (1978). Герой Кыргызскай Рэспублікі (1997). Лаўрэат Ленінскай прэміі (1963), Дзяржаўнай прэміі СССР (1968, 1977, 1983), Дзяржаўнай прэміі КіргССР (1976), Літаратурнай прэміі «Этрурыя» (Італія, 1980), Міжнароднай прэміі імя Дж. Нэру (1985), Еўрапейскай літаратурнай прэміі (1993).

[3] Ганчар Алесь (Аляксандр Цярэнцьевіч; 1918–1995), украінскі пісьменнік і грамадскі дзеяч. Герой Сацыялістычнай Працы (1978). Акадэмік АН УССР (1978). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі УССР імя Т. Г. Шаўчэнкі ( 1962), Ленінскай прэміі (1964), Дзяржаўнай прэміі СССР (1948, 1949, 1982).

[4] Гл.: Загадка перакладу (13.02.81) // Амплітуда смеласці. С. 88. Верш прысвечаны Я. Семяжону. *Семяжон* Язэп (сапр. Семяжонаў Іосіф Ігнатавіч; 1914–1990), беларускі перакладчык.

[5] Стральцоў Міхась (Міхаіл Лявонцьевіч; 1937–1987), беларускі паэт, празаік, крытык, перакладчык. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР імя Янкі Купалы (1988, пасмяротна).

[6] Семенякоў В. С., рэдактар выд-ва «БелСЭ».

*** Беларусь — мост з Еўропы далей. Калі ехалі калёсы са скарбамі думкі і культуры, то на выбоінах падскоквалі, і на масце заўсёды заставалася многа. Як зерне возяць.

*Начальнік — крычальнік, начальнік — выручальнік, начальнік — мачальнік.*

*28 лютага, субота*

*Але Сямёнавай*

Для Вашага пагляду, Ала,
І сарака Парыжаў мала.
Жадаю сонца ў дзень вясны,
На яве — шчасця,
Смутку — ў сны.
Зноў рыфмаю грашу старою,
Малю ў нябёс для Вас настрою.

*Для музея*

О, ён у побыце ашчадны,
А дбае толькі для нашчадкаў.
Усё нясе,
усё вязе ён
Не для сябе,
а для музея.

* * *

Нужен очень мощный микроскоп,
Чтобы видеть, как талантлив Скоп[1]!

*Скоповодство.*

* * *

Няхай не заценіцца хмарамі мара,
Хай будзе на слодыч душа ненажэрнаю.
З вясною, чароўная пані Тамара[2] —
Крыніца энергіі Карласа Шэрмана.

---

[1] Скоп Юрый Сяргеевіч (н. 1936), рускі празаік, нарысіст, сцэнарыст. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі РСФСР імя братоў Васільевых (1982).
[2] Нíканава Тамара Вячаславаўна, жонка К. Шэрмана.

*1 сакавіка, нядзеля*
*[Дубулты.]*

*Кнуту Скуеніеку,*
*падпісваючы «Вечалле»*

Хай сцюжа люта вые,
Як зграя маладая.
Кнут!
Мы яшчэ жывыя,
Чаго і вам жадаю!

Лекцыя Кнута: «Darbu dzivoi — прапець работу. Класічны край песень, памяншальныя формы, як запаўненне формы і як адрост паралелі. У песні працуе ўся прырода. Харэй — аснова, дактыль для танцавальнай характэрна больш. Частае ўпамінанне серабра голаса падкрэслівае каштоўнасць жыцця.

Даіла елку, даіла сасну,
Каб зварыць батраку пахлёбку.
Стрыгла рыжы камень,
Каб смачна батраку каштаваць.

Раскоша песні, як супраць адчаю.

Адна зямля, адно сонца,
І не роўны свет,
У аднаго голад,
У другога слёзы.

Лепей бы мяне забілі на вайне,
Чым сядзець у лазні пад палком.
У сястрычкі вялікі гонар —
Брат забіты на вайне.

Добрая мая матухна
Мяне вучыла
Не біць нагой сабачку
Ні гарачую галавешку.

Спевы, як і праца, — форма існавання. Прапець работу. Араты — сінонім мужа.

Я свайго аратага
Белым адбелівала,
Як лебедзь ён вяртаецца
На канцы ворыва.

Я не смяюся над старым,
У мяне быў дзед ўперад.
Бяру я старога за ручкі
І саджу ў крэсла.

Кажуць, зямля робіць зло.
Зямля [неразб.1] робіць,
Толькі дае [?].
Дае есці, піці
І хавае маё цела.

Латышскае царства мёртвых — працяг, паўтарэнне гэтага свету. Адміранне зерня і працягванне рукі фармавалі цярпімыя адносіны да смерці. Латышская міфалогія. Сістэма міфаў — карціна свету ў светаўспрыманні грамадствам — богі, духі, звышістоты. Пад рэлігіяй больш дакладныя ўяўленні пра бога, літаратура служыць культуры. Свет абжыты духамі і багамі з фальклору. У старажытнасці багі ад чалавека не аддзяляліся. Антрапамарфізм, галоўнае адраджэнне бессмяротнасці і спрыт. Латышская міфалогія канструіравалася з песень, з легенд, з казак. Дзе знешняе аблічча бога — самы важны Dievs (пасля стаў назвай для [бога] наогул), для латыша ўласціва імя — нябесны бацька Dievestevs. Сівая белая барада, апрануты ў светла-шэрых партах, у белай вопратцы, з кіем у руцэ, рэдка з зялёнага шоўку — [звязана] з працай земляроба.

На небе свая гаспадарка, сее, хмель росціць, сам робіць, падчас дапамагае іншым. Гаспода багацей, чым на гэтым свеце. Божыя коні не толькі мае, але і вораны, і быкі. Спакойны і добры пасрэднік, што мірыць. У казках пад жабраком [пад выглядам жабрака] правярае ўсіх. Галоўны вораг — чорт.

Бог адшэльнік, няма радні. Божыя сыны — без сувязі з богам. Яны з іншых эпох. Вышэйшая багіня Zemes Māte, маці зямлі, у яе аснова зямля-карміцелька. Звестак пра маці-зямлю мала. Адпяванне і пахаванне мёртвых. Veļeus Māte — маці душ, дзяды. Богі лёсу. Laima больш за ўсіх упомнена, воблік малы, а праца і абавязкі дарыць [неразб.1], дае долю (лёс) і сочыць, як доля выкарыстоўваецца. Пад асаблівай апекай лазня і гігіена, клапоты над дзяўчатамі і цяжарнымі. Дзіця часцей [нараджалі] ў лазні: [неразб.1], ключ, нож, венік, прасцірадла. Часта замест Laima — Mara. Самое імя ў іншых народаў Maramatere — дужа старая багіня, можа, смерці. Галоўнае — клопат над каровай і малаком, з даёнкай у руцэ.

Пярун — Perkuns, нябесны каваль. Вугалі, як дождж, на зямлю. Каваль у многіх — як чараўнік. Пяць сыноў, і ўсе з рамёствамі. Натура не роўная. Saule, за ім акрамя цяпла ніякіх функцый, падчас задач. Laima — адзенне пышна распісана, валасы, шалік, туфлі, карона, лейцы. Адносі-

ны з месяцам ці любоў, ці няўдалы шлюб. Прыгоды месяца ведаюць усе народы. Якога рода месяц і сонца, такія і сітуацыі. Латышскае сонца спакойнае па тэмпераменту. Дочкі сонца, сыны Перуна.

Шмат багоў мацеркі, маці вады, поля, лесу, ветра, малака, нават гною, каля 40. Маці душ з большай сілай душы ў іншай яве. Дом ахоўвае majs kungs (пан дома [дамавік]), на самым нізкім узроўні духі. Vels — душа памерлага, дзяды аглядаюць гаспадарку, даюць парады. Старыя латышы баяліся мёртвых. Святыя жывёлы — вуж, жаба (іх кармілі, каб дом быў у парадку). Цёмныя сілы. Varans [?] — галоўнае зло, імя ад імя [слова] velt [?] (каціцца). Veles [?] — душа ў клубок [скручваецца] і коціцца. Душа мёртвага — самае страшнае.

У барацьбе з богам чорт. Усё дрэннае чорт, падчас чорт працуе, але бог прысвойвае сабе ягоны плён. Селяніну здаецца, што горы чорт стварае, бо там земляробу няма чаго рабіць. Lietnius [?] — нячыстая сіла, выдайвае кароў, заязджае коней, шмат бед [маглі наклікаць] тыя, хто не сваёй смерцю памёр. Супроць іх заклінанні, асінавы кол, крыжыкі. Перавертні і ведзьмы, яны радзіліся ў людскім асяроддзі, найбольш небяспечныя, ёсць і добрыя ведзьмы, але яны забыты — лесавікі, вадзянікі, у прымаўках і прымаўках жывуць».

*2 сакавіка, панядзелак*

Віншую з сонейкам, з вясной
Дачушку залаценькую,
Хай непаўторнай ёй адной
Сініца шчасця ценькае.
Леў лёсу слаўнай Лане
Няхай рахманы стане!

*** На разгон вясны. Адносна расліннасці — на землях, дзе дарагія металы ці ўран, відаць, чахлей расліннасць. Так і на галаве валасы?

У прыцемнай зале ледзь ўспыхваюць свечкі воплескаў.

*Пазавуголлю бегаў голлю. Шашкí гулялі ў ша́шкі.* Хусцінкі дояць за махры. *Імгла*тэрапія[1]. *Ільвяня — Ільменя.*

*4 сакавіка, серада*

*Усё, каб...*

Патрэбна даць рэкламу ўласным творам,
Свае злічыць усюды мазалі,

[1] Гл.: Імглатэрапія (20.02.86) // Мудрэц са ступаю. С. 104.

Пасля адчуць сябе смяртэльна хворым,
Каб пры жыцці народнага далі.

*Дубулты*

*18 сакавіка, серада*

Над Ташкентам самалёт. Панасеена агнёў — узышлі, рунь[1].

*** Два узелка для памяти[2].

Я з гарачай краіны,
Дзе ворагам было горача.
І Млечны Шлях —
гарачыя асколкі.

[Адрас:] г. Ленинград, Мойка, 28, кв. 12. Ставский[3] Элигий Станиславович.

*19 сакавіка, чацвер*

*[Ташкент.]* Раніца. Думаю — свіргочыць машына, рэсора, аж гэта птушкі. ЦК. Выступленне тав. Рашыдава[4]. Озераў[5]: «Духоподъёмные слова тов. Рашидова».

Базар. З нажом паказвае тавар. Поўнае вядро, як чырванапёрак, — дзясятак і пяцёрак. Дрэўца з каранямі, якім хочацца хутчэй у зямлю. Саджанцы ўсіх раслін. Добра, што яшчэ людзі [цягнуцца] да зямлі. «Мне трэба вішня». — «А гэта урук».

* Мухамед Алі[6] — паклон Артуру Вольскаму[7].

*20 сакавіка, пятніца*

*г. Фергана.* Гасцініца. Абком. Першы [сакратар] Умараў.

Усё цвіце — урук, вішня. Вобласць у 1938 г. 7 тысяч кв. км, жамчужына Узбекістана. 1,8 млн [насельніцтва]. 42-м краінам свету ідзе прадукцыя вобласці. Фарфоравы завод, азотны завод. 33 цэнтнера бавоўны

---

[1] Гл.: З вышыні самалёта (25.03.77, над Казанню) // Амплітуда смеласці. С. 29.

[2] Гл.: Два вузялкі на памяць (11.03.79, Дубулты) // Вечалле. С. 54.

[3] Стаўскі Элігій Станіслававіч (1927–1991), рускі празаік, драматург, сцэнарыст.

[4] Рашыдаў Шараф Рашыдавіч (1917–1983), партыйны і дзяржаўны дзеяч, узбекскі паэт, празаік, крытык. Герой Сацыялістычнай Працы (1974, 1977). З 1959 г. Першы сакратар ЦК КП Узбекістана.

[5] Озераў Віталій Міхайлавіч (1917–2007), рускі крытык і літаратуразнавец. Доктар філалагічных навук.

[6] Мухаммад Алі (сапр. Ахмедаў Мухаммад Алі; н. 1942), узбекскі паэт, празаік. Народны паэт УзбССР (1982).

[7] Вольскі Артур Вітальевіч (1924–2005), беларускі паэт, драматург, перакладчык. У 1978–1981 гг. дырэктар Дома літаратара.

з 1 га. Шаўкавічныя коканы, 29 % рэспубліканскага валу. Шоўк абароннага значэння. Кожны 3-ці вучыцца. Сакратар выступае, а праз зачыненыя вокны моцныя галасы птушак — заканчвай, бач, на вуліцы хораша. Так палка ўсё цвіце вясной, што к лету ўшчэнт перагарае.

*г. Маргілан.* Шаўковая прамысловасць. Грэпа — шаўковы чарвяк. У цэхах суцэльны гул, загнаныя дзяўчаты і жанчыны. У двары лозунгі, як па ўсёй краіне. У дырэктара, дзе ўзоры, духата, як у фінскай лазні, толькі трэба сядзець апраненым. З прафхвароб — астма. Была хвароба рук, але знайшлі мазь, якая дапамагае.

Уладзімір Карпаў на вечары ў Фергане аб'яўляе: «Маскоўскі пісьменнік і вучоны, аўтар шматлікіх цікавых фіш — Радзій Фіш[1]».

Калі хочаш застацца ў памяці гады — сей жыта, дзесяцігоддзі — сад, дрэвы, а калі навечна — гадуй дзяцей. Мы, быццам, вечна сеем, нас садзяць. А што ў выніку?

Ляцім ў Фергану, з Валодзем, бачыў [неразб. 2]. Хан [?] Чымган. — Я. Колас нібыта ў сне бачыў гэтыя хрыбты знаёмыя: «Чымган, Чымган».

Танцуюць красуні, нібыта ў сне з'явіліся яны. Паказваюць госцям, што за скарбы маюцца, але для сябе трымаюцца. Недасведчаным няма нічога, як уздыхаць. Танцуюць рукі, рухі, замрыце, гукі. Як лілеі, як расліны са дна ўсплываюць, як лілеі святла, танцуюць рукі, перавіваюцца змеі. Карнаі, як паходні, дзе палае нябачаны агонь палу. Танцуюць плечы і рукі-крылы. З'яўляюцца плечы, як з рук вырастаюць крылы, здзіўляюцца грудзі. Аднакрыла — на развітанне.

[Адрас:] г. Фергана, ул. М. Горкого, 27, Ферганский обком комсомола, Фазылов Ибрагим Набиевич — первый секретарь обкома комсомола (паслаць кнігу «Навечно в памяти народной»).

*21 сакавіка, субота*

*г. Кувасай*. Зноў карнай, танцы. Помнік Леніну. Унізе, як у Маўзалеі уваход, фотадакументы, творы Леніна. Фікрэт-бей[2] тлумачыць: Кувасай — рэчка каваля (з эпасу). Кувасайскі фарфоравы завод. Танцуюць, глядзяць, у вачах целомудренная страсть. Карнай уніз, угору — іншы гук.

Кува[сай ?]. Байрам наўруз. Гадзіна Ібрагіма Рахіма[3] (народны пісьменнік), усю Беларусь прайшоў. Быкава абараняў, [неразб. 1] сам у час дэкады, калі яго білі. Садзімся за стол. Ібрагіму-ата кажу:

[1] Фіш Радзій Генадзьевіч (1924–2000), рускі крытык, перакладчык, літаратуразнавец, усходазнавец.

[2] Гаджа Фікрэт (сапр. Гаджаеў Фікрэт Гоюш аглы; н. 1935), азербайджанскі паэт і празаік. Народны паэт Азербайджана.

[3] Рахім Ібрагім (сапр. Рахімаў Ібрагім Абдурахімавіч (1916–2001), узбекскі празаік, драматург. Народны пісьменнік УзбССР (1976). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі УзбССР імя Хамзы (1983), Дзяржаўнай прэміі Узбекістана «Офарын» (2001).

— Сядзьце ўперадзе, Ваша ж радзіма.

— На радзіме патрэбна быць сціплейшым.

Аксакалы з белымі барадамі, здаецца, таксама пакрыты белым цветам вясны. Байрам наўруз — свята вясны. Пачатак года з вясны, белы цвет барод і цюбецеек (белая акаймоўка з узорам). Павяснелі аксакалы, а наўкол абрамлена белым цветам уруку, пабеленыя ствалы, як нашыя яблыні. Нявесціцца зямля, і ёй да твару бялюткі колер чысціні. Загарэлыя твары аксакалаў. Добра папрацаваў Усявышні ганчар. Белая чалма на некаторых. Чалма вакол цюбецейкі. Белай хустачкай выцірае лоб аксакал.

Выступае Акрам Хамдам[1], ферганскі паэт, ваяваў у Беларусі. Выступае аксакал, жадае госцям поспехаў у працы, павага да працы пісьменніка.

Танцуе з блакітнай аблачынкай-хустачкай у гонар вясны (своеасаблівая вяснянка), хор спявае. У пярэднім радзе будучая маладая маці, вясну сустракае, яшчэ дзіця, якое чуе ў сабе вясну новую. Пасля танцуюць дзяўчаткі ў нацыянальных сукнях, паверх зялёныя камізэлькі, у блакітным салістка. Гучаць вершы пра вясну. Набліжаецца гул бубнаў. Карпаў: «Ідзе вясна!»

Коннікі ўперадзе на машыне з адкінутымі бартамі, дзяўчаты з кветкамі ў нацыянальных уборах. Нясуць хлеб-соль і прарослую пшаніцу. Зялёныя свечкі — рукі пшаніцы, кволы агонь свечак, рукі на падносе. Трымае паднос і вітае вясну — сцяг вясны ў сэрцы. Сама ўбрана як маладая, вяночак на галаве, сама ў белым. Да аксакалаў: «Нашыя шаноўныя людзі, прыміце дары вясны» (старшыня, брыгадзіры, героі СССР). Кажа слова ў адказ.

Выступаюць зноў, ад імя вады — я іду, клякоча, арашая зямлю, ад імя паветра, ад імя птушкі ў небе. 12 дзяўчат адпавядаюць месяцам, у вершах кожная хваліла вясну. Нехта з аксакалаў зноў садзіцца за стол, як здароўкаецца, руку працягваюць як давер.

Руз — па-старажытнаперсідскі дзень і сонца.

Насрэддзін[2]:

— Казалі, што ў вас гола, а вы за сталом усе.

— Сёння ж свята.

— Дык рабіце кожны дзень свята.

Карпава прымаюць у калгаснікі, аксакал — цюбецейку, халат і павязваюць поясам.

Урук цвіце, зружавелая ад зачацця будучага хмарка ў белых панчошках не можа адарвацца ад зямлі.

---

[1] Хамдам Адхам (сапр. Хамдамаў Адхам Муслімавіч), узбекскі паэт, празаік, перакладчык.

[2] Насрэддзін — фальклорны персанаж народаў Усходу.

Фікрэт, азербайджанская прыказка: бядняк садзіць — не расце, усадзіць — расце.

*г. Андзіжан,* філіял раю на зямлі — рэзідэнцыя абкома. Першае месца ў Саюзе па колькасці людзей, у кожным двары 10–15 дзяцей.

зголу
лёсы
Запрашаючы нябёсы
Пакланіцца долу,
Долу, каб не забываўся,
Што над ім нябёсы.

Аралля і першая трава, сад цвіце, і раптоўна жабы, як перапонкі не лопнуць. Зямля стала ўмомант хатняй.

Канцэрт. Дзеткі цікава на двух мовах — славяне па-ўзбекску, а ўзбек маленькі па-руску. У Андзіжане нарадзіўся Султан Джура[1] (пахаваны ў нас на Гомельшчыне).

Значыць, усё ў парадку, калі ўспыхвае авацыя пры імі Абдуллы Арыпава[2], значыць, эстафета ёсць — на ўзбекскай мове Арыстоцель[3], Гётэ, Дантэ[4].

Да андзіжанца госць [завітаў], скакуна купіць. На трэці дзень [гаспадар пытаецца]:

— Па якой патрэбе?

— Купіць жарабя.

— Не магу [прадаць], бо мы яго з’елі.

(На трэці дзень толькі пытаюць — чаго і адкуль.)

Кумган — дарожная фляга, чайнік. Праверка, ці паэт, — калі на грудзях закіпіць — паэт.

[Адрас:] г. Ташкент, ул. Космонавтов, Кашимжанова Назиха.

*22 сакавіка, нядзеля*

Раніцу падганяюць узбекскія вераб’і, быццам ім нецярпіцца пахваліцца 16-цю словамі. А наогул, чырыкаюць без акцэнту.

Прыём у абкоме. Першы сакратар Солиджан Мамарасулов. «Мы шмат увагі аддаем інтэлігенцыі, бо ад яе ў асноўным залежыць поспех. Воб-

[1] Джура Султан (сапр. Джураеў; 1910–1943), узбекскі паэт.

[2] Арыпаў Абдула (н. 1941), узбекскі паэт і грамадскі дзеяч. Герой Узбекістана (1998).

[3] Арыстоцель (384–322 да н. э.), старажытнагрэчаскі філасаф і вучоны.

[4] Дантэ Аліг’еры (1265–1321), італьянскі паэт, празаік, аўтар філасофскіх і палітычных трактатаў.

ласць 6 сакавіка 1941 г. арганізавана. Шчыльнасць 350 чалавек на 1 кв. км. Пасля Бельгіі ў свеце. Сярэдні ўзрост мужчын 23, жанчын 25 [гадоў]. 1 млн да 15 гадоў. Нараджальнасць 51 % мужчын, 49 % жанчын. 0,7 % рускіх; кіргізы, таджыкі, 30% гарадскіх, хутка 500 000 вяселляў у год. З 1-га класа будзе руская школа. Армія ў асноўным будзе — Закаўказзе і Сярэдняя Азія. Ніводзін чалавек з вобласці нікуды не едзе, пакуль жывы бацька — я пры ім. Бацьку 90 год, а сыну 60, так і застаецца. Дзверы нанач не зачыняюцца. (Сакратар: «Добры ўплыў ісламу».)

Лёгкая і цяжкая прамысловасць (хлопчыкі ёсць — там цяжкая), аддача [у сельскай гаспадарцы на] 1 га самая высокая. 44 % нафты ад рэспублікі, ≈ [у] 50 краін свету [пастаўляецца [. 55 тысяч спецыялістаў.

Ідэалагічная работа бацькоў такая, што пасля інстытута абавязкова дамоў. Першы сакратар любы хоць у 2 гадзіны ночы паглядзіць бацьку і маці. Проста страшна, калі куды пасылаць. Сем'і да 100, 150 чалавек. З агульнага катла. Грошы ў дзеда ў мяшку, а колькі іх — немаведама, бо ўсё да капейкі прыносяць. Паміраe дзед — становіцца старэйшы дзед: «Бяры колькі хочаш», а колькі — не ведае.

Дужа спорт у павазе, бо чым заняць маладых. Медінстытут, бавоўна. Хадайнічаюць адкрыць фізкультурны інстытут, пакуль факультэт пры медінстытуце. І начальства дзівіцца, чаму фізкультурны інстытут па вобласці. Трэба дзетсад адкрываць, штодзень нараджаецца толькі ў адным раёне 160 [дзяцей], з 3–4 гадоў дзіцячы сад, забараняюць дзецям у садзіку гаварыць па-ўзбекску. Дачы забіраюць пад дзіцячыя сады. Крывая росту ўгору ідзе (самыя 60–62 гады) 2–3 % разводаў, у асноўным ў горадзе».

Галоўнае збудаванне Вялікага ферганскага канала. На шчэбені сядзіць малы з засуканымі штанамі і вудзіць рыбу на леску. Вудаўя не відаць. На фоне квецені горы Цянь-Шаня.

Калгас імя Ахунбабаева. 8000 чалавек. Парк. Вечны агонь. 300 туй пасаджана, бо столькі не вярнулася дамоў, а на фронт пайшло 500! Старшыня расказвае, а вераб'і весяляцца і пеўнікі спрабуюць галасы. За сеткай, як куры, паўліны. Старшыня разам ваяваў з Карпавым.

*г. Наманган*. Ідзём у абком. Чынары старыя — старыя не помняць, калі садзілі. Быў час, калі высякалі. Многія падаюць — ім замяккі грунт і шмат грунтовых вод. Шпакі на ўсё горла славяць вясну (кажуць, завезлі з Індыі).

Прыём у абкоме. Вобласць утворана ў 1941 годзе. 1млн 124 тыс. чалавек. Шоўк, тканіны. Экспарт у ≈ 50 краін Еўропы і Азіі. Лішнія рабочыя рукі, двухзменнае навучанне. 475 тыс. тон бавоўны, не прымяняюць хімію — біялагічны метад барацьбы. У Доме культуры макеты генплана. На сцэне танцы ўсіх народаў, усе з чорныміваласамі.

Вечар сустрэчы. Толькі пачаўся — дзеці сталі плакаць, іх шмат, няма на каго пакінуць. У гэтым ёсць нейкі элемент дамашнасці, хатняга нечага. Канцэрт. Ансамбль «Нухор» — («Парастак»), дзяўчаткі ў белым. Расціскаюць рукі, лебядзяцца, клічуць у захмар'е думку, а на зямлі пакінуўшы плоць. Рукі бліжэй да нябёс, і зямля не на трох кітах, а на руках, і неба на руках, якія танцуюць. Халаты чорна-белыя, як лясныя бярозы ажылі.

Ноччу шукаем з Лівіу[1] знаёмыя сузор'і, зоры блізка ад зямлі, а нашыя далёка, нейкія здрацвелыя, а нашы не такія, а мясцовыя — зыркія. Расказ Лівіу, як сад вартаваў малы, як рад быў вожыку, па зорках, што ўставалі, ведаў час. Раніцай горлінкі з гарлачыкаў горлаў пераліваюць вільгаці ранішняй цішыню. *У Намангане — намаганні.*

[Адрас:] г. Наманган, 5 микрараён, Марии Дейч («Наманганская правда»).

*23 сакавіка, панядзелак*

1) Шпакі скубуць траву зайздросна маладую, сад белую галаву схіляе. Бяжыць вада, як дыямент, у зялёнай аправе травы. У шпакоў нейкія белыя акрылкі, і сухадрэвіна рыпіць раз-пораз.

2) Схіляю галаву, са смуткам калядую. Белагаловы сад, ажно сарока прымаўкае, і прымаўкай. І, мусіць, раней прачнецца Усход, пакуль Еўропа бачыць сны. Усход даўно прачнуўся, пакуль дагледзець сны.

Наманган, экскурсія, вішнёвы сад, гасцінцы. «Кінь курыць, я 80 год курыў, ніякога толку». «Мая чынара».

Заключны вечар. З Сяргеем Давыдавым[2] сядзім на апошнім радзе, побач аксакал у вайсковай амаль форме, у ордэнах баявых грудзі, боты на нагах. Зняў галошы, боты начышчаны. А гэта, выявілася, герой, пра якога пісаў у вайну на 2-м Беларускім фронце Матусоўскі[3]. Ён пайшоў на сцэну.

Вечар. Узбекскія рытмы на дойрах. Выконваюць браты Дзільмурад, Холмурад і Эльмурад Ісламавы. Як бы правяраюць на базары рашоты, дзівячыся, чаму яны без дзірачак.

*Тамары Залатухінай*

Тамара! Свой крок скіроўвай —
На славу глядзі з-за пляча —
Ад граматы Ганаровай
Да заслужанага дзеяча!

---

[1] Даміан Лівіу Сцяпанавіч (1935–1986), малдаўскі паэт, эсэіст, перакладчык.
[2] Давыдаў Сяргей (сапр. Давідовіч Спартак Давідавіч), рускі паэт (г. Ленінград).
[3] Матусоўскі Міхаіл Львовіч 1915–1990), рускі паэт-песеннік. У час Вялікай Айчыннай вайны ваенны карэспандэнт. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1977).

На заключным банкеце. Выконваюць песню на словы Лёвы Ашаніна. Ён падымаецца, пачынае: «Няхай жыве…» (і думаў — крычалі «Ашанін» жаночымі галасамі: «Хачу дзіця ад Ашаніна!»)

[Адрасы:] г. Наманган, вул. Шчорса, 7. Беляшоў Генадзь Мікалаевіч (паслаць кнігі). «Мая чынара»; г. Москва, ул. Полбина, 66. Кондакова[1] Надежда Васильевна (паслаць абавязкова кніжкі); г. Киев, ул. Суворова, 3. Винграновский[2]; г. Ереван, ул. Чаренца, 70. Арамаис Саакян[3] (паслаць вершы, для зборніка «Вершы маіх сяброў»); г. Ташкент, ул. Пушкина, 1. Союз писателей Узбекскай ССР. Ахмад Ташходжаев[4].

*24 сакавіка, аўторак*

Адлёт на Мінск. Праводзіць сам пажадаў Арыпаў. У аэрапорце Ілоне выбіраем кулончык. Ок йул [?] — Белы шлях!

Прыгадваецца, як ехаў у Дубулты. Маладая яшчэ кабета з мужам і жанатым сынам. Ездзілі да малога ў Ліепая (дзе ён у флоце). Малы ў *вучэбцы.* Не кучаравы — *лысячок* светленькі. Чаму сукрысты — на гарохвінах ці на кажусе? Сядзім у самалёце, вясновы дождж абмывае ілюмінатар.

У самалёце, калі ляцелі ў Ташкент, Мухаммад Алі расказваў, як Рашыдаў пачытаў пераклад эпаса, выклікаў, падзякаваў і падарыў залатапёрую ручку (яму нагадала пра ўрадавую паездку).

[1] Сто дамоў бы крывавы паток майго сэрца знёс…
[2] Шкада, з далані выцякае жыццё трапяткое…
[3] Як дзіўна гэты караван жыцця праходзіць…
[4] Хто дол стварыў, спадобіў неба даху…
[5] Сонца вечнага рання — гэта каханне…
[6] Дакуль жа будуць у жыцці фальшывасць і мана?
[7] Глык віна лепш за царства Кавуса…
[8] Таемнай вечнасці законы
не разумеем ні ты, ні я.
Неразгаданыя пісьмёны
чытаць не ўмеем ні ты, ні я.
За цёмнаю заслонай
мы спрачаемся з табой.
Калі ўпадзе цяжар заслоны,
не ацалеем ні ты, ні я[5].

---

[1] Кандакова Надзея Васільеўна (н. 1949), руская паэтэса, перакладчык, драматург.

[2] Вінграноўскі Мікалай Сцяпанавіч (1936–2004), украінскі паэт, празаік, сцэнарыст, акцёр, кінарэжысёр. Заслужаны дзеяч мастацтваў Украіны (1997).

[3] Саакян Арамаіс Адамавіч (1936–2013), армянскі паэт.

[4] Ташхаджаеў Ахмад (н. 1952), узбекскі паэт.

[5] Гл.: Амар Хаям: Рубаі. Пер. Р. Барадулін. 1 — с. 23; 2, 3, 4 — с. 24; 5, 6 — с. 26; 7 — с. 27; 8 — «Законы вечнасці не разумеем ні ты, ні я…» — с. 90.

[Адрас:] г. Мінск, ул. Беломорская, 10. Тростянский[1] Виктор Степанович; *NB.* Паслаць кніжкі Еўдакімаву[2] Мікалаю Сямёнавічу, Карпаву Уладзіміру Васільевічу.

*[13 красавіка, панядзелак]*

*** Панядзелак вершы Юрасю [Свірку] і пераклады Мірзо Турсун-задэ[3]. Валі Фомавай[4] рыбафлавін, монануклеацід.

*Мірзо Турсун-задэ*

Мірзо Турсун-задэ з вяршынь Паміра
Краіна наша ўся відна была,
Ён славіў родны край і дружбу шчыра,
Сягаў вышэй за горнага арла.
Бо слова ў дружбадара-муаліма[5]
Яшчэ ніколі не цаляла міма.

*[1978]*

*[14 красавіка, аўторак]*

[VIII з'езд пісьменнікаў Беларусі.]

Янка Купала — наша неба, з аблокамі, з маланкамі, з арламі, а Якуб Колас зямля, з крыніцамі, дубамі, з сялянамі, яны разам неба і зямля[6].

Дрылінга[7] [гас.], № 307. Дрылінгу паслаць М. Багдановіча. Сімяон [Уладзіміраў, гас.] № 703; Вацлаў[8] [гас.] «Юбілейная», № 502.

[Аўтограф І. Фанякова[9]:]

Процинандалин, пронапареулин,
Прочачен, проконьячен Бородулин

---

[1] Трасцянскі Віктар Сцяпанавіч (н. 1924), рускі паэт.
[2] Еўдакімаў Мікалай Сямёнавіч (1922–2010), рускі празаік.
[3] Турсун-задэ Мірзо (1911–1977), таджыкскі паэт, драматург, публіцыст, грамадскі дзеяч. Народны паэт ТаджССР (1961). Акадэмік АН ТаджССР (1951). Герой Сацыялістычнай Працы (1967). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1948), Ленінскай прэміі (1960).
[4] Караткевіч Валянціна Браніславаўна (1934–1983), беларускі археолаг, гісторык. У 1969–1983 гг. ст. навук. супрацоўнік Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР. Кандыдат гістарычных навук. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1990, пасмяротна). Жонка У. Караткевіча.
[5] Муалім (настаўнік) — паважлівая форма звароту да старэйшага чалавека.
[6] Гл.: «Вышэла неба мараю Купалы...» (19.06.82) // Амплітуда смеласці. С. 24.
[7] Дрылінга Антанас (н. 1935), літоўскі паэт, празаік.
[8] Жыдліцкі Вацлаў (1931–2002), чэшскі літаратуразнавец, перакладчык. Доктар філалогіі (1967). Прафесар. Ганаровы доктар БДУ (1996).
[9] Фанякоў Ільля Алегавіч (1935–2011), рускі паэт, журналіст (г. Ленінград).

На десяць или двадцать лет вперёд...
Вот потому сегодня он не пьёт!

*Илья Фоняков*

*Пільны бачаннем Пімен Панчанка. Рублівы* класік. *Паглумленне (паглубленне). Не стройце кепікі адносна эпікі.* Іван Гаўрылавіч Цаглінаў [Чыгрынаў]. *За пазухай бязменікі — пісьменнікі.*

*Алесь Адамовіч*[1]: «Калі кажа «праз мой труп», а гэта значыць — праз твой. Ад Булгарынаў[2] у нас цесна ў галаве, а для добрых людзей месца не хапае».

*Уладзімір Караткевіч*: «Літаратура, якая губляе сваю вострасць і гнеў — разлік і сярэдні ўзровень. Авангардам у барацьбе за душу народа была мова. ? — тая стаўка, на каго ставяць мільёны, [неразб. 3], мы займаемся невядома чым, акрамя той справы, якую бог даў нам у рукі — вучыць душы і ратаваць душы».

Вынікі галасавання супраць: Гілевіч 88, Танк 21, Сачанка 91, Вярцінскі[3] 84, Чыгрынаў 102, Гаўрылкін 101, супраць мяне 18, [за ?] 14.

Пупышкі прадралі вочкі,
Нажмурыліся спаўна.
Сцюдзёныя слёзы падсочкі —
У дно збана.

Шчамлёткамі штаніну [сашчапіў] і едзе на веліку. І прасцірадла, як сохне, шчамлёткамі [прышпілена], нібыта неба ў шырачэзных сподніках едзе на аднаколым веліку зямлі.

*Хвіліна цішыні скупая.*

III частка. Сяляне, як частка якога цэлага, як прыклад, сяляне вымушаны бараніць зямлю.

Купанне каня перад боем — славяне, каб быў чысты конь[4].

II. Зараджэнне партызанскага руху. 1 мая 1942 г. у Глыбачцы партызаны пранеслі чырвоны сцяг. Колькі месяцаў партызанская рэспубліка, мясцовыя брыгады.

---

[1] Адамовіч Алесь (Аляксандр Міхайлавіч; (1927–1994), беларускі пісьменнік, літаратуразнавец, крытык, выкладчык, грамадскі дзеяч. У 1976–1983 гг. заг. сектара літаратурных узаемасувязяў Інстытута літратуры імя Янкі Купалы АН БССР. Доктар філалагічных навук (1963), прафесар (1971), член-карэспандэнт АН БССР (1980). Лаўрэат прэміі Міністэрства абароны СССР (1974), Дзяржаўнай прэміі БССР імя Якуба Коласа (1976).

[2] Булгарын Фадзей Венядзіктавіч (1789–1859), рускі журналіст, пісьменнік.

[3] Вярцінскі Анатоль Ільіч (н. 1931), беларускі паэт, перакладчык, крытык. У 1975–1982 гг. адказны сакратар праўлення СП БССР. Заслужаны работнік культуры БССР (1991). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1988).

[4] Гл.: Купае партызан каня (16.05.82) // Маўчанне перуна. С. 225.

1943 г. блакада. Першую адбілі, другая блакада. 15 тысяч выйшла [з блакады].

Калі лямантуе зямля.
І цеслі, і кавалі,
І сейбіта, аратая
ля мяхоў
лемяхоў
май запальчывы.
І зерні ў раллю,
З вінтоўкамі за плячыма.

Сам прарыў. У вочы агню глядзелі, і цяпер прама ў вочы глядзяць. Жанчынам Беларусі, якія змагаліся супраць фашызму. Жанчыны ўсёй Беларусі, што блізілі перамогу, жыццём перамагаючы смерць. Беларускія жанчыны, якія змагаліся з чорнай навалай. Эпіграф.

*26 красавіка, нядзеля*

Вялікдзень. Мыюся. З мамай на фота гавару і іду ў пінжаку (праўда, з свэдэрам ужо) па вуліцы да Марыі Рыгораўны [Трафімавай]. Фэлі [Міклашэўскай[1]] няма, хата — ужо іншыя [жывуць].

Дземенец [возера]. Талая вада з берага. Ціха.

*** Вослік — персанальны транспарт Хрыста.

Глухі дуб вясной. Дземенец, бруёк, луска бяроз, дзень прабівае цішыню. Завалуненасць, дробнакоптурнасць і неадзыўлівасць глебы. Краявід з пеўнем.

«А табе трэба жывая морда, са свірна».

*І грэецца, шчыра, спявая, жаўранак на сівяры.*

Птушкалоў Валодзя: «Салавей не спявае ў выраі. Лепшыя салаўі ў старым лесе, бо малыя пераймаюць ад бацькоў, да году. І яшчэ ад наваколля. Чым лес старэй, тым салаўі лепей». Вёска *Старынкі,* валатоўкі — цэлы ланцуг. На пажарышчах буслы каміноў перазімавалі і ў вырай не ўляцелі (!). Яблыні.

Варта чалавеку знікнуць, хаты няма, і яблыня тут жа дзічэе. Сосны адбіліся [у вадзе], і такая глыбіня, здаецца, на ўвесь рост сосен. Птушка мільганула па шкле.

«Стрымгаловец, ён нікому вэка не зацярушыў».

Наперевес — наўзваж.

---

[1] Гл.: Феліцыя (1.02.83, Каралішчавічы) // Маўчанне перуна. С. 104.

«Мифы народов мира» 2-томнік. Сяргею Красікаву «Песню пра зубра»[1].

*9 мая, субота*

*Уладзіміру Лучуку*

Злыдзень зверне пыхлівы лычук,
Счэзне злосці зялёная ціна.
Хай жыве Уладзімір Лучук
І чароўная Нэнька-Ўкраіна.

*** Алесь Махнач. Пакуль ён жыве, жыве подзвіг крэпасці, працягваецца і подзвіг, і легенды крэпасці ва ўсёй канкрэтнасці. Кіёчкам мацае зямлю, каб іншыя не сталі на міну.

Расія — не Дубровіны[2] ды Булгарыны, а Шукшыны, Гагарыны[3].

Што дазволена Юпітэру,
Не дазволена валу.
Што дазволена эпітэту,
Не дазволена калу.

[Аўтограф Я. Янішчыц: ?]

Пад вачыма сінія вяргіні,
Грыўка абрамляе конскі лоб.
Рэдагуйце гнедую Рагіню,
Каб чаго з Рагнедай не было б!

Этапная памяць[4]. «Будзе этап, забудуць і цябе».

*15 мая, пятніца*

*п. Ушачы.* [М. Р. Трафімава:] а тут мне каня папалося; мужчына крэпкі — памёр, паваліўся; арду дзяруць — сварацца, чубяцца; так вычысціла — пакуль некуды; пайду кмінку́ ў бульбачку ўсыплю, каб пахла кмінком; я клёцкі варыла з тварагом — тварожнікі; серабра цяжка, золата важка.

---

[1] Красікаў Сяргей Паўлавіч (1928–2007), рускі паэт, перакладчык. Гусоўскі М. Песня пра зубра. Мінск, 1981.

[2] Дубровін Аляксандр Іванавіч (1855–1918), рускі ўрач, заснавальнік «Союза русского народа», выдавец чарнасоценскай газ. «Русское знамя». Расстраляны.

[3] Гагарын Юрый Аляксеевіч (1934–1968), першы лётчык-касманаўт СССР. Герой Савецкага Саюза (1961).

[4] Гл.: Этапная памяць (14.01.85) // Мудрэц са ступаю. С. 11.

*16 мая, субота*

Дарога, як далоні ад авацый, і хоча з вачэй у зялёны цень схавацца[5]. Камень. Думаю: што за даты можна выбіць на ягонай спіне?[6] — старэю. Возера. На ўзгорку раяцца стракозы. Дзе-нідзе жаўранак. І мазгі дэбіламакселератам дабівае адна і тая ж мелодыя пласцінкі.

Вёска *Цётча.* Цікавыя двары. Страха разабранай хаты, як конь, што паў на ногі, з пераламаным хрыбтом, хрыбцінай.

Бандарэнка Барнась Іванавіч (Браніслаў), двое [сыноў] загінулі ў вайну (адзін у Ленінградзе). «Дзядзька Барнась, пафатаграфуюць цябе». Кажа: «Маладзіцу». Яму 81-шы. А «маладзіцы» восемдзесят шосты. Бандарэнка Праскоўя Цімафееўна (як снег сойдзе, яна босая). «Чаго вы нас фатаграфіруеце, што мы памром скора, адны жывём». «Дажылі людзі, жывушчыя»[7] , — дадае маладзіца, хата яе насупраць, дагледжаная, абшаляваная, пафарбаваная.

Вёска Чарсцвяды [Чарсцвяты] на старыцы. Пад ігрушынай.

Ігрушына ў цвеце траву асвятліла.
Кнігаўка жаліцца, неба пяе.
Мятлік гарачы раскрывае крылы,
Правяраючы, ці свае.
Лугавіна пературасае пярыну —
Белае пер’е кнігавак…

Сад, у руках вяроўка, скубе кароўка кукуль. Возера сінее. Трактар арэ. Чайкі ападаюць снегам на баразну — чэрві вабяць. Ідуць варонамі белымі — кулі-кулі (кулікі воз перакуліць хочуць). Магільнік высока на ўзгорку — выглядаюць, як некалі, ці з уловам чаўны[8].

*в. Крыжы*. Ліпы. Па вуліцы дзяўчынка і хлопчык з велікам. Града сечаных дроў. (Кадр.)

*в. Ліпа*. Адзін бок ў хатах, другі — у старыцах. Павыязджалі [жыхары] ў Полацак, у Сарочына, згарэлі.

*в. Кавалеўшчына.* Цётка з ручной авечкай — аж Гарадзей гаворыць з ушацкім акцэнтам. Дзяўчына пад вішнінай — Наташа [неразб. 1] (бабка Агапка). (Кадр.)

[Запісы размоў:] на чыстай бягучай вадзе рыба смачная; вот гэта света нашло; аўтобус джвых — ён апазніўся; у яго ў шафе ёсць рыззё; еш, пакуль рот свеж, як завяніць — ні загляніць; гэтых дзён не будзіць ніко-

[5] Гл.: «У полі бярэцца вясновы дзень…» (13.08.81) // Амплітуда смеласці. С. 41.
[6] Гл.: «Чакаю ў ціхай старане…» (13.08.81) // Тамсама. С. 103.
[7] Гл.: Цётча (22.12.81, Каралішчавічы) // Тамсама. С. 63.
[8] Гл.: Чарсвяды (30.11.81, Каралішчавічы) // Тамсама. С. 56.

лі; пасёлскіх вёз на работы; там дзяўчына воду брала і з Раманам размаўляла.

— Што ў цябе за навіна?

— Сын.

— Хай бог гадуіць.

*

Жані мяне, татка,
Жані маладога.
Жаніся, дзіцятка,
Ўсё будзе гатова.
А хамут у стрэсе,
А дзіча ў лесе,
А конік на пашы,
Дзеўка на кірмашы.
А конік гагочаць,
Дзеўка замуж хочаць.

*

Іграй, мая дудка,
Ды не торгайся.
Пайдзём паядзём
Ды разойдземся.

*17 мая, нядзеля*

[М. Р. Трафімава:] скваркі ўжарацца, высахнуць, а тады па яйку паб'ём; мне сярэдзіна як зробіцца калком; а мяне зразу як узяла свербата, як узлезла на палок, як папалілася, абмылася, абдалася; а бульбачка — яна ўсюды бульбачка; гадоў сколькі гэта было, а мне ў памяць; [в.] Наваселле спаленае; старая з кульбаю у Навасёлках 182 гады (кадр).

*23 мая, субота*

*г. Слонім*. Вечар Лойкі[1]. Першы адкрывае, [кажа] *удачныя* чытачы (папраўляецца на *ўдзячныя*). Прарэктар: «Адрас на свабодзе прачытае». Выступае дзіця, улыбаецца: «Велькі дзякуй». Маладая паэтэса гаворыць «трапеткія». Віншуе машыністка, якая друкавала 2-томную «Гісторыю беларускай літаратуры».

Намеснік Філарэта архімандрыт. Капітан Андрэй: «Толькі каня да бярозы не прывязвай, абарве кару».

---

[1] Лойка А. Гісторыя беларускай літаратуры: Дакастрычніцкі перыяд: У 2-х т. Мінск, 1977–1980.

*24 мая, нядзеля*

Стук посаха і стук кія. Дуб Алега Лойкі, паранены маланкай, дзе ён рве кветкі, траву бальзам. Лойка развітваецца: «Не хачу вас адпускаць з мяжы свайго пяцідзесяцігоддзя».

Мінск. На слупе: «Дзет'яслям трэба: 1. Кухар. 2. Прачка. 3. Няня». І нехта [дапісаў]: «4. Дзедзя».

На тэлеграфным слупе буслянка над шчырай Шчарай, з хмар простая сувязь.

*31 мая, нядзеля*

*[Баку.]* Гасцініца «Баку» каля вакзала. Як сабакі, у вестыбюле. Вестыбюль аглы. Размяшчэнне. Паход па горадзе. Прысутнасць нафты ў паветры Баку. Пазнаю і не пазнаю горад. Чайхана пад засенню.

Апавяданне Валодзі Пранько[1], як цётка з Буэнас-Айрэса пазнавала, дзе карову пасвіла. Ніну на вуліцы пазнала. Па-беларуску (праз 40 год) [гаворыць] чыста. У Маскве паднесла хлеб да губ: пазнала пах. Адзін і той сон сніла: да павароткі ідзе, і ўсё нехта перашкаджаў ці прачыналася, — «Спыніце машыну тут».

* Сіявушу[2] — [паслаць] «Варшаўскі шлях» [А. Куляшова].

*1 чэрвеня, панядзелак*

Нарэшце сам Фікрэт[3] нас знайшоў. Заказаў рэстаран пад свой юбілей. Па дарозе сустрэлі Вілайэта Рустамзадэ[4] (паэма пра Беларусь, брат загінуў, знайшлі следапыты). Машэраў[5] сустракаў. Згадзіўся ўдзельнічаць у перадачы. У чацвер будзе [?] падрадкоўнік і арыгінал канца паэмы.

Садиг — верный, преданный, неизменный. Фікрэт — мыслящий.

«Савецкая літаратура», № 4, 1981, на чэшскай мове. Вялікая падборка.

Вячэра ў Фікрэта. Па дарозе [купляе] катык (кіслае малако) для *далма* ([неразб. 2]), у лісці вінаграда — замуроўваем.

У 1972 годзе на святкаванні Купалы: «Хай жа ім будзе па-азербайджанску. Пад тэнтам дождж беларускі п'ю».

---

[1] Пранько Уладзімір Аляксандравіч (н. 1935), беларускі кінааператар. У 1967–2001 гг. гал. тэлеаператар Белтэлерадыё. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1966).

[2] Мамедзадэ Сіявуш Імран аглы (н. 1935), азербайджанскі паэт, перакладчык. Заслужаны дзеяч мастацтваў Азербайджана.

[3] Садых Фікрэт (сапр. Садыхаў Фікрэт Аббас аглы (н. 1931), азербайджанскі паэт.

[4] Рустамзадэ Вілайэт (сапр. Рустамаў Вілаят Мамед аглы), азербайджанскі паэт, перакладчык.

[5] Машэраў Пётр Міронавіч (1918–1980), савецкі партыйны і дзяржаўны дзеяч. Герой Савецкага Саюза (1944). Герой Сацыялістычнай Працы (1978). У 1965–1980 гг. Першы сакратар ЦК КПБ. Адзін з арганізатараў партызанскага руху на Беларусі ў гады Вялікай Айчыннай вайны.

Бабкі пісалі ніткамі (кілімы). «Як я сапсаваў пакой. Наклеіў [на] кілімы паштовак і напісаў верш».

Трое сыноў і маленькая дачушка. Айсель (паток поўні, поўнеаблічная). Ількін — першынец, Орхо(а)н — храбры хан, Джунель — рукі сонца (джун — сонца, ель — рука).

Такі парадак: старатурэцкі слоўнік ёсць, слова знайду, а слоўніка не знайду.

Цесната прымушае (двух камянёў) змяю сціскацца і выцягвацца. Так і Фікрэт зрабіў 7 раздзелаў аднаслоўных, і слова аб'ядноўвае верш — сямікалёрная вясёлка. 7 — светлая лічба.

Очаг — (алфавіт кіліма: сонца, радзіма, бацькоўская да дзяцінства і бацькоўства).

Торпаг — зямля (радзіма і ўсе вершы аб зямлі, планеце).

Инсан — чалавек (усе вершы пра чалавека).

Лајла — (калыханка). Ад калыханкі да калыханкі, якая дае і любоў, і дзіцячая, і любоўная лірыка; пра яго дзяцей.

Дэниз — мора. Пра мора, пра стыхію, пра Сусвет, пра [неразб.1], пачуцці.

Ишыг — святло (тут і 13 свечак. Неба, паветра святла).

Нагыл — казка. Без казкі ў свеце не існуе бацькоўскі дом, і казка. Смерць таксама казка пераўтварэння.

— Дачушка ў садзік ходзіць? ...

— Не, у сад ходзіць, бо сад блізка, мікрараён.

На лісце паперы [дачушка] піша і мне запісвае АНА — мама. Пасля піша АТА — бацька, усярэдзіне Т, а пасля два знаёмых А.

У магазіне рыба без галавы. Чаму? Фікрэт: «Калі б мела галаву, не трапіла б у сетку».

[Адрас:] Сабір Ахмедаў[1]. г. Баку, вул. Шарыфзадэ, д. 36, кв. 28; Вилайэт Рустамзадэ. Общество дружбы. А загінуў брат, і паэма пра Беларусь. *Беларусь, яе русая вярба.*

*2 чэрвеня, аўторак*

У гасцініцы на паверсе нейкі малады чалавек пытае. Пакаёўка славянка. «Мама, дзе ашугі жывуць, ну, тыя, што на балалайках?» — «У 917-м».

*3 чэрвеня, серада*

Пакуль Рэм [Нікіфаровіч] спіць з голым азадкам, як перарослае дзіцятка, прайшоўся ранішнім Баку. І — нарэшце — да Дзявочай вежы выйшаў. Знаёмая чайхана на ўзбярэжжы. Чайнік — накрыўка навязана нітачкай, каб не ўцякла. Адбітае горлачка надточана белай бляхай, як вадас-

[1] Ахмедаў Сабір Магамет аглы (н. 1930), азербайджанскі празаік.

точная рына. У зялёную райскую засень злятаюцца вераб’і — тут хімія яшчэ не дайшла! — і малады галубок ходзіць, глядзіць, чым пажывіцца.

На ўзбярэжжы. Старая, мажная яшчэ, з унучкай, разразае гранат. І з цвердаватым «ч»:

— Гаробчики, гаробчики, идите сюды, к Даше.

З Украіны, відаць, даўно, а слова з маленства перадае малой.

Цвітуць ружы. Вялікія таполі, зялёныя сонца маленькіх пальмаў. На зямлі і раптам вакол дзятлінка, як прыйшла маё сэрца ўсцешыць.

Дзявочая вежа, XII в., ахоўваецца дзяржавай як помнік культуры (інвентарны № 115).

Сіявуш Мамедзадэ расказваў, як па вялікаму блату яму ў Мінску з-пад прылаўка далі Васіля Быкава двухтомнік па-беларуску.

На з’ездзе пісьменнікаў Азербайджана выступіць, чаму няма па-азербайджанску.

Чайхана як духі разліты — цвіце пшат. Дробналісты, накшталт лазы. Кусты высокія. Цвет светла-светла жаўтаваты, як дробныя пчолкі селі спачыць на галінку.

Кэклик-оту — буквально: трава куропатки, чебрец; кэклик — горная куропатка[1].

На юбілеі Фікрэта цесць: «У Фікрэта такое вялікае сэрца, што каб насіць яго, трэба быць вялікім, магутным». Ісхак-муалім.

Фікрэт як стыхія, як Азербайджан. Мысль, якая кіруецца стыхіяй ці наадварт. Геаграфія душы.

Юбіляр сядзіць з краю стала, як бы грэецца каля агульнай радасці, за сталом у цэнтры тамада. Рэдкія дамы абмахваюцца японскімі веерамі з лебедзямі. Тамада цэлую паэму ў тосце [прамаўляе]. Гайдн[2] «Гаснуць свечкі» [выконваецца]. Адзін са сваім сусветам і падумкамі. Яму ў адказ — каб быў адзін сам-насам, але не самотны.

Фікрэт у Сібіры сказаў: «Енісей — гэта доўгае мора».

Выступае зямляк. Дзень паэзіі Сабіра [Ахмедава] супаў з днём нараджэння Фікрэта, дый землякі яны. Апошні тост [гаворыць] настаўнік Фікрэта як аксакал.

Байкал — Бај-кӨл (Бајкől), «Бай озёр». Бай — уладар.

[Адрас:] Мамед[3] Исмаил. г. Баку, ул. Дружбы молодёжи, д. 41, кв. 42.

---

[1] Гл.: Трава горнай курапаткі (22.11.81, Каралішчавічы) // Маўчанне перуна. С. 77. Верш прысвечаны С. Мамедзадэ.

[2] Гайдн Йозеф Франц (1732–1809), аўстрыйскі кампазітар, дырыжор. Сімфонія № 45 «Развітальная».

[3] Мамед Ісмаіл (н. 1939), азербайджанскі паэт, празаік, публіцыст.

*4 чэрвеня, чацвер*

Ялду заціснуўшы ў руку,
Хадзіў па вуліцах Баку
Неўтаймаваны тэле-Рэм —
Шукальнік экзатычных тэм.

Вадзіцель «Рафіка» тэлестудыі: «Люблю дзяцей. Калі прыгожая мама».

Прыпынак таксі, і тут жа аксакал вядзе барана ў парк, у барана надзіва пакручастыя рогі. Пранько здымае.

Храм вогнепаклоннікаў. [Неразб. 2] маліцца. А вогнепаклонніцы харашы.

Товарищи алкаши,
Наша родина чох якши, —

навучыў мяне шафёр з тэле.

Овчулар еви — паляўнічы дом. Аслан Везіраў[1] — Герой СССР, вызваляў Мінск. Загадвае паляўнічай гаспадаркай рэспублікі. Робіць заўвагу гаспадарніку, што вінаград разагнуў, адагнаў вецер, папраўляе. Просіць Пранько паправіць вінаград для кадра. Натуральна лашчаць пальцы вінаград — не для кадра, бо гэта яму роднае. «Мой любімы народ беларусы. У мяне былі 15 тысяч воінаў, 5 тысяч з іх — беларусы. Я ведаю, як яны ваююць. Калі я чую «беларусы», маё сэрца вырастае ў 3 разы». Музей. Знікаюць птушкі, спевы, гнёзды, павук над галавой.

Надо кушать, надо пить,
Надо родину любить.

Баку, 20.55 (па-бакінскі)
В. Акімушкін[2]

Алі Векіл[3] чытае свой верш па-армянску, здорава спявае армянскія песні, рэдагуе часопіс на армянскай мове (у Баку).

*** Акімушкін: «Вось тут *станіць* і *будзіць* глядзець і казаць…»

*5 чэрвеня, пятніца*

Нафтавыя вышкі ў заліве (з гары Кірава), як адбітак ў вадзе, што зазігзавалі хвалі.

---

[1] Везіраў Аслан (1910–1988), вайсковец. Герой Савецкага Саюза (1944).
[2] Акімушкін Вячаслаў Дзмітрыевіч (н. 1941), беларускі рэжысёр кіно і тэлебачання.
[3] Векіл Алі (сапр. Сафіеў Алі Векіл), азербайджанскі паэт, празаік.

Фікрэт [Садых]: «Глухі два разы смяецца. Так і імяніннік. Можна сядзець там, дзе няма алаха, і нельга сядзець там, дзе няма старэйшага».

Сабір [Ахмедаў] — самы пладавіты, самы сціплы і самы любімы. Акінчы́ — араты.

Самед Вургун[1] чаму пасівеў? — вяршыні гор белыя, на маю галаву выпаў снег. Шатландыя — слабаразвітая краіна. Я вам на мове Фізулі[2] Бёрнса[3] [прачытаю] (хоць потым не знайшлі [такога перакладу]). Из «Четвёртой берёзы» Вилайэта Рустамзаде.

Як Фікрэт Садых пачаў крычаць. Просьба да сакратара райкома: «Хачу ў лес каля Шамахі, бо ў горадзе нельга». Тады ў лес перавезлі банкет. «Такая акустыка, тады вяртаецца голас назад». Чытае Хікмета[4] і Вургуна ў [перакладзе] Сіманава[5] — «За ўсе вялікія тэмы!».

Чайхана. Чайханшчыку Сіявуш [Мамедзадэ], паказваючы на Фікрэта: «Ён вам кнігу падорыць». — «А што яго, так напаіць чаем?»

Фікрэт: «Калі ў нас на сцяне павесяць сценгазету, не будзе ні сцяны, ні газеты».

*Самед Вургун*

Як нафту ў Каспія са дна,
Ён словы здабываў натхнёна,
Далёка слава Апшэрона
Яго паэзіяй чутна.
Шуміць вечназялёна крона
Радкоў Самеда Вургуна.

*[1980-я]*

*Канстанцін Сіманаў*

Пісьменнік і ратнік з суровых палёў
Прынёс і нашчадкам пакінуў
Калючую праўду ўспамінаў.
І родны з нялёгкіх часін Магілёў

---

[1] Вургун Самед (сапр. Векілаў Самед Юсіф аглы; 1906–1956), азербайджанскі пісьменнік і грамадскі дзеяч. Народны паэт АзербССР (1943). Акадэмік АН АзербССР (1945). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1941, 1942).

[2] Фізулі (Фузулі) Муххамед Сулейман аглы (1494–1556), азербайджанскі паэт.

[3] Бёрнс Роберт (1759–1796), шатландскі паэт.

[4] Хікмет Назым Ран (1902–1963), турэцкі паэт, празаік, сцэнарыст, драматург і грамадскі дзеяч. Пачынальнік турэцкай рэвалюцыйнай паэзіі.

[5] Сіманаў Канстанцін (сапр. Кірыл) Міхайлавіч (1915–1979), рускі пісьменнік, грамадскі дзеяч. Герой Сацыялістычнай Працы (1974). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1942, 1943, 1946, 1947, 1950). Па завяшчанню прах ягоны быў развеян над Буйніцкім полем пад Магілёвам.

Навек падзяліўся з ім болем,
Буйніцкім няскораным полем.

*[1978]*

*6 чэрвеня, субота*

Базар. Зборы. У паветра! Нафтавыя вышкі, як друкі, на якіх прасыхае прапахлы нафтаю вецер Баку[1].

*12 чэрвеня, пятніца*

! Васіль Быкаў з Стэфанам [Паптоневым]: «На Віташы ў «Капыце» гарэлка ёсць!» У ФРГ студэнты спыталі пра хобі ў вольны час. «Адпачываю і гарэлку падчас бяру». У канцы барадаты засценлівы студэнт: «Вы тут казалі пра гарэлку. Вось вам ад нас», і даў загорнутую ў газету бутэльку. А ў Мінску даліў міністр. Васіль: «У нас жа некалі тэрмі[нова пяклі?] чорны хлеб праўды. На Захадзе ўсё сказана пра жыццё, а ў нас і палову пра жыццё не сказана».

На гадзіну спазніўся на сустрэчу з папамі, дагэтуль не магу сабе дараваць свінства. Адзін майго веку. Акцыя выкуплення грахоў нямецкай нацыі. На Віташы зімой 45-га хлопец з Уладзівастока і дзяўчына балгарка. У паляўнічай хібары. Раніцай а 8-й дзяжурны па лазні. І наўпрасткі мокры [бег]. Праз паўдня 4 гадзіны — вымову.

Камсорг палка, узносы, субота, ДА, а ў нас палучка ў панядзелак. Давай узносы — прапілі, узносы чалавек 8. Пешкі ў казарму. У панядзелак нечакана не атрымалі грошы. Начальнік палка выклікае: «Ну як? Дзе ўзносы?» Няма іх. Так мая паліткар'ера і ляснула. Мяне вярнулі ў полк, а камандзір: «Нечего лезть, коли мордой не вышел».

*15 чэрвеня, панядзелак*

У Лабанка на прыёме са Стэфанам Паптоневым. «Вы і балгарын, і беларус». Пра Ушачу [падарыў] сваю кнігу. 27 дзён баёў у цяжкіх умовах. Паказвае схему баёў. «Дзейнасць наша. Нас 17 тысяч, немцаў 60 [тыс.]. Яны ў сябе на картах [пазначылі] партызанскую рэспубліку. 25 км Заходняй Дзвіны трымалі, і немцы не маглі ўмацавацца. Мы маглі прарваць, але важна было не даць умацавацца і на Бярозе.

325 кв. км уся зона. Па ўказанню Сталіна і ваеннымі сіламі ўзяць Полацк. Калі б узялі Полацк, адрэзалі б 3-ю танкавую армію. Возглавили група́роўку, падрыхтавалі 5 аэрадромаў для прыёму самалётаў. Быў назначан [камандуючым зоны]. Каб указанні для арміі былі абавязковымі, паколькі трэба армія дэс[антная?] ў Керчы, а ваенным самалётам цёмна лётаць. Мы ў франтавых падраздзяленнях ворага.

[1] Гл.: Браты па агню (1982) // Парастак радка, галінка верша. С. 171.

З Баграмянам[1] сувязь і па радыё сувязь арміі і партызан, нідзе так не было. Маглі б прарваць, але патрацілі б плацдарм. Чыгунку на Мінск ад Полацка кантралявалі. Адрэзалі тылы. Называлі стрэмкай між кувалдай і кавадлам. Зрабілі ўмацаваны раён вакол. Колькі ні спрабавалі [немцы ўзяць], давалі па зубах. Як камандуючы зоны стараўся ўсё трымаць у кулаку. Немцы не ведалі, дзе асноўныя сілы. Увесь час загады на манеўроўку. 4 мая 1944 года намацалі, дзе меркавалі прарыў, і далі новыя сілы. Каб гадзіны дзве празявалі, было б позна.

Немцы не ведалі партызанскай тактыкі. Яны займаюць вёску, а мы пасля зноў [акружаем], і мы ў акружэнні, і яны ў акружэнні. Немцы прыдавалі вялікае значэнне Віцебску. Гітлер: «Абарона Віцебска — абарона Берліна». Корпус павінен [застацца] ў Віцебску і загінуць. 2-ю дывізію пакінулі, але камандаванне вывеў.

У зоне загінуў кожны 3-ці, партызаны добраахвотная справа. Немцы лічылі адкрыць цэрквы, і яны ўжо валадары. Простыя хлопцы абаранялі Радзіму стойка. Амаль не было перабежчыкаў, траплялі толькі раненыя. Д'ябальскае супраціўленне партызан».

Стэфан:

— Рашэнні прымалі?

— Я не прымаў, немцы навязвалі, і давялося адразу [вырашаць]. Фета (за гадзіну да прарыву) мне паведамілі, што новая дывізія [ўведзена]. Дзён 5 без ежы. 12 тысяч партызан і ≈15 [тыс.] насельніцтва. Збіраю камбрыгаў, камісараў. А немцы б'юць і б'юць, нічога не чуваць. «Ці пойдзем на прарыў, ці застанемся на гэтым кавалку зямлі?»

! 11.30 пачаўся прарыў. Вогненны вал, і наша, і немцаў зброя была добрая. *Агне́нны* вал. Немцы не чакалі, што пойдзем на прарыў.

На хуткім ходу конь у балота, толькі вушы [відаць]. Немцы дасталі і шукалі камісара. Конь — [крыкнеш] «немцы!» — галопам, кабыла Маша.

У прарыве ≈ 700 [чал.] і ў шпіталі параненыя, шпіталь не змаглі адбіць, кінжаламі немцы прыкончылі. На жыццё ніхто не разлічваў. З пачатку вайны я разумеў адказнасць за такую колькасць людзей. Мірнага насельніцтва ≈ 15 тысяч вывелі, хто мог рухацца. Па сіле супраціўлення не было падобных зон. У мяне быў рэйд пад Ігналіна. Вайна і пазіцыйная, і партызанская. Для арміі ўзяць у 10 разоў маглі патрабавацца сілы, кажэвенныя заводы.

4 тысячы памешчыкаў мелі землі колькасцю 300 тысяч сялянскіх гаспадарак. Вёска, дзе нарадзіўся Уладзімір Елісеевіч [Лабанок]. Зносіцца будзе атамная станцыя ў раёне Дукор. Я як зараз помню Блашко [?], хоць адзін раз бачыў. Усе гаварылі: «Во партызан, партызан».

---

[1] Баграмян Іван Хрыстафоравіч (1897–1982), савецкі военачальнік. Маршал Савецкага Саюза (1955). Герой Савецкага Саюза (1944, 1977).

Асабліва цяжка партызанская дзейнасць у 1941 годзе. Але што ўдалося (вопыту не было). Немцы не маглі б на месцах арганізаваць уладу. «Ці работскі [?] на нас, ці знішчым», — [казалі] старастам, бургамістрам, і немцы не былі гаспадарамі на тэрыторыі ўжо ў 41-м годзе, а гэта стварала настрой у насельніцтва.

Лістоўку пішам ад падпольнага райкома, асабліва пасля бітвы пад Масквой.

Шыльды на дарогах [ставілі немцы] «На Маскву!» (а як далі — знялі). « А калі ж вы паедзеце на Маскву?» Спачатку: « Скора, скора», а пасля білі палкамі, калі задавалі пытанні.

— Ці зналі вы Ягорава[1]? (Ст. Паптонеў).

— Я ведаў. Быў смаленскі полк.

(Папрасіць пісьмо Міхаіла Ягорава.)

Працэнтаў 70 партызан пайшлі з арміяй, засталіся для гаспадаркі і для кіраўніцтва. Прыйшоў у раён, нічога не было. Падполле было ў кастрычніку, СД даведаліся, што я ёсць. Мы ў лесе зрабілі зямлянкі на 18 часавек з адным падпольшчыкам і закрылі, да снегу. Сустракаліся ў мяне, а пасля снегу маглі па слядах [знайсці], тады ў людзей [хаваліся]. У сакавіку па слядах [заўважылі], і вымушаны [былі] пайсці ў лес.

Марулька (другі сакратар) едзе на кані. Вязе дровы. Немцы абмінаюць:

— Ты ведаеш, дзе Марулька жыве?

— Вунь там. — Дровы скінуў і дай бог ногі.

Анатоль Адамавіч пад Пышна загінуў.

*24 чэрвеня, серада*

*З Васілём [Быкавым] па Вушаччыне.* А мяркуем 6 км па балоце. [Калгас] «Новае жыццё», Малыя Дольцы — Лагі, Мірны, Храмёнкі, Антунова — Пуцілкавічы, дарога ёсць падпраўленая 12 км. Стаянка Лабанка.

На *Ушачу*. Васіль: «На дарогах, як і ў жыцці, у каго вялікая машына, той і прэ. Во так, шмат жалеза і казённая. Беспародных сабак ставіць бы. Здох на вакне, чакаў і рыў.

*Меркаванкі* былі.

Гадзіннік настаўнікаў у рамонт [Дзям'яну] Азевічу [насіў] — 60 капеек, 20 — на цукеркі.

Люблю дарогу гэтую (ад [Бярэзінскага] запаведніка пачынаецца).

Не ў характары нашынскім такая пахвальба».

---

[1] Ягораў Міхаіл Аляксеевіч (1923–1975), беларускі партызан. Герой Савецкага Саюза (1946). З 1944 г. на фронце. У ноч на 1 мая 1945 г. разам з Мілітонам Кантарыя ўзняў Сцяг Перамогі над Рэйхстагам.

У 1936–1937 гг. у Арэхаўне ў піянерскім лагеры быў Васіль. Цэркаўка была. «След кровавый стелется [по сырой траве][1]», — па гэтай песні запомнілася мне Арэхаўна.

с. Кублічы — сімпатычнае мястэчка, царква, куды мяне на прычасце вадзілі, а пасля мы грамілі, купалы трактарам сцягвалі.

Мяне цікавіла сетка дарог, як яна змяняецца. Дарэчы, у нас гаварылі: Ушача, пайду ў Вушачу, прыйшоў з Ушачы; Полацак, Лепля. Насупраць быў культмаг, віселі копіі нейкіх карцін, доўга вісеў «Чапаеў на кані» Васільева[2]. Мой першы мастацкі музей — сельмаг ушацкі.

Баліць зямля [агаворка Р. Б., трэба — душа] за землякоў (нядаўна В. Б. быў у калгасе Бядулі[3]), як у людзей будуюць!

У 30-м годзе пайшоў у першы клас, сябры пайшлі; пачаў плакаць, бацька[4] павёў да Аўласенкі, даў сшытак, пяро, а ручку выразаць схадзіў у балота, я схадзіў. Аўласенка [Антон Васільевіч] вучыў, бацька жонкі брата Машэрава. Школа была, дзе зараз брат [Мікола] жыве. Дом там — Міхашонак жыў (яго прыёмны сын, загадчык гаража ў Кублічах), а школа здымала адну палавіну хаты. Адзін успамін: Аўласенка прынёс кнігі (кніг 10), а не падручнікі, пачаў раздаваць, майму сябру Валодзю Галавачу «Канька-гарбунка», а мне царэўну Люгашку. Дасюль крыўдна, чаму і мне не пра «Канька-гарбунка.

Во як маланка *джáгае.*

Выбіралі жанчыну (мужа лесíна забіла, глухі быў. Бо зімой усе мужыкі рудстойку нарыхтоўвалі). Мужыкі: «Чаму ўпаўнаважаныя [да яе]?» — «Яна праверaная».

Плот абрушыўся — за страту пільнасці [неразб. 1] (жонка рускую мову [выкладала]). Каталікоў спачатку [арыштоўвалі], хоць усе гаварылі па-беларуску, толькі ў касцёле [па-польску]».

---

[1] «Песня пра Шчорса», муз. М. Блантэра, сл. М. Галоднага. *Блантэр* Мацвей Ісакавіч (1903–1990), расійскі кампазітар. Заслужаны дзеяч мастацтваў РСФСР (1947). Народны артыст РСФСР (1965), народны артыст СССР (1975). Герой Сацыялістычнай Працы (1983). Лаўрэат Сталінскай прэміі (1946). *Галодны* Міхаіл (сапр. Эпштэйн Міхаіл Сямёнавіч; 1903–1949), рускі паэт, перакладчык. *Шчорс* Мікалай Аляксандравіч (1895–1919 ), герой Грамадзянскай вайны (1918–1922).

[2] У кнізе В. Быкава «Доўгая дарога дадому» — «знакамітая карціна Зайцава». Браты Васільевы (псеўданім) — знялі фільм «Чапаеў». Рускія кінарэжысёры і кінадраматургі: *Васільеў* Георгій Мікалаевіч (1899–1946), заслужаны дзеяч мастацтваў РСФСР (1940); *Васільеў* Сяргей Дзмітрыевіч (1900–1959), народны артыст СССР (1948). Лаўрэаты Дзяржаўнай прэміі СССР (1941, 1942).

[3] Бядуля Уладзімір Лявонцьевіч (н. 1927), беларускі гаспадарчы і дзяржаўны дзеяч. Герой Сацыялістычнай Працы (1971, 1987). Заслужаны работнік культуры БССР (1977). З 1956 г. старшыня калгаса «Савецкая Беларусь» Камянецкага р-на Брэсцкай вобл. Дэпутат Вярхоўнага Савета БССР (1967–1971, 1985–1990), член ЦК КПБ (1990–1991).

[4] Быкаў Уладзімір Фёдаравіч (1887–1969).

*25 чэрвеня, чацвер*

*в. Вялікія Дольцы*. Вечар сустрэчы з Васілём [Быкавым].

— *Над чым працуеце?*

— Пісьменнік заўсёды працуе, калі нават і не за сталом, у галаве нешта круціцца. Над аповесцю перадваеннага часу.

— *Над адным [творам] ці адразу над некалькімі?*

— Усяляк.

— *Ці выдуманае, ці рэальнае?*

— І змененае, і рэальнае, і палова на палову, змадэліраванае, новы сюжэт, ёсць і з галавы выдуманае.

Нам прыемна [пабываць] на радзіме Петруся Броўкі, яго намаганнямі пабудавана школа. Хочацца, каб вы любілі і шанавалі беларускую мову і літаратуру, бо мясціны тут карэнныя беларускія, жывуць пераважна беларусы.

На *Пуцілкавічы.* Васіль: «Вялікія Дольцы — доле, у даліне. Усё залежыць ад адносінаў, не ад якіх умоў і мясцін».

Жанчына з Пуцілкавіч: як у шанасці клеваем; ёсць ужо дзеці, сядзелі роўна па катоў; так гразька; во і гразька.

[Быкаў:] «Калі некалі будуць добрыя дарогі. Усё для турыстаў, для вастрыні ўражанняў трэба пакінуць такія мясціны.

Білі [разбівалі] жорны [камбедаўцы], бацька сціснуў, і зноў выкідалі.

У Стайкі на [праполку ?] — свята дзяцей.

У *Бычках.* Настулька: дзве беленькія козачкі.

У Стайках архірэй. На Тройцу гандаль, плотачкі ў муцэ, смачныя такія, салодкія; вялікія дрэвы.

Не звязалі з канкрэтыкай.

У кожны раён сваё сонца — ніякіх праблем.

Броўка коўдру на сябе не цягнуў, як Шамякін».

Васіль выступае і, чытаючы кантычку дэпутата па-руску, увесь час блытаецца і гаворыць па-беларуску.

— *Над чым працуеце?*

— Пасля такога пытання мы ўстаем і кіруемся на выхад. Звычайна яно ў канцы. Будзе надрукавана, будзем чытаць і вы, і я. Літаратура на беларускай мове паспяхова развіваецца. Ёсць зацікаўленасць, каб помнілі родную мову, каб гаварылі на ёй, ёсць цяжкасці, нельга быць сучасным чалавекам, не ведаючы сваёй гісторыі, сваёй роднай літаратуры.

Усе заняты сваёй працай, але мы хочам, каб сельская інтэлігенцыя [дасягнула] поспехаў па выхаванні. Дастатку на стале, каб звярталіся да нашай літаратуры. Усяго добранькага пажылым людзям, здароўя, а маладым поспехаў і асабістага шчасця.

Выразалі ў пень пушчу Селішчанскую».

*с. Кублічы*. «Дзе [зараз] саўгас — камендатура пагранвойск [была], ад Кубліч толькі троху бруку. Чырвоны бор каб засаджаны [быў] сасоннікам». Маці Быкава з вёскі Завулак.

На радзіме Васіля. «Белікоўскае возера, Горнае, Камароўка, Азёка, Кубліна некаторыя называлі. У Камароўцы пагранічнікі купалі коней. У іх была канавязь, а мы глядзелі.

На канчатковую вып'ем. Я ўспамінаю, як мама гаварыла, і аднавіў мову: рэчка, памачы сані — ніколі не замярзаў на дарозе».

*26 чэрвеня, пятніца*

З Васілём у сястры Валі [в. Ваўчо], бульбу абхадзіла: «А братулька ты мой, у мяне ж і рукі гразкія», — абдымае за плечы, рукі за спінай Васілёвай трымае ашчадна.

Васіль успамінае (пакуль Валя гатуе ваду), як у 41-м у прыфрантавой зоне нічога не было — елі фруктовы чай.

Кот Васіль у Валі: *промеццю*. Васіль гаворыць: «Мой цёзка». Цётка расказвае: як Валя паедзе, месца сабе не знаходзіць, канае.

«У 45-м высокі конь [быў у роце], у полі злезеш і не залезеш, калі няма на што стаць. Узамен старшына дастаў кабылку. Аднойчы ноччу выгналі ў поле, знайсці КП, заблукаў на вінаградніку, нейкія людзі капаюць, кабылка не хоча ісці, прыслухаўся — немцы, заблыталіся ў немцаў. Сталі, а кабылка некуды сама імкне ў нейкі бок, пусціў павады — і выйшла да коней нашага батальёна.

Забілі [кабылку] пада мной. У Венгрыі, многа вуліц, мястэчка, страляніна, з'явіўся палкоўнік і пагнаў мае 45-пяткі на танкі. Паскакаў па бакавой вуліцы, дзе паварот, выскачыў, і па мне кулямёт з прадольнай вуліцы, а кабылка на сетку, а я з усяго маху ў гарод, яна выкінулася з вуліцы, з кулямётнага агню, кулямёт біў — поўсць ляцела, а я быў прыкрыты хатай.

...як клічкі — людзі былі безыменныя, прыходзілі і адыходзілі, пасля ўжо толькі поўзалі — такія баі, а хадзілі ноччу. Асколак у руцэ, паміж пальцаў на правай і ў пахвіне, у Венгрыі ў канцы 44-га года. Першы раз пад Кіраваградам куля ў лытку. Увесь час з макрэдзі, на золі не толька акалееш, а на мяжы акалеласці чакаеш начы, каб устаць, а то скурчыўшыся, у вадзе ў акопе. Цяпер бы захварэў, тады не брала.

Некаторыя спецыяльна марозілі рукі, ногі, праверацць і ў [неразб.1], а то і расстраляюць; самастрэлаў было многа, асабліва маладыя, праз буханку хлеба.

Было в нашем полку три дуба: начхим, начфин и начальник клуба.

Усё жыццё марыў пра валасіпед, а толькі не «Волгу».

Нашы таўстапятыя афіцэрыкі».

*29 чэрвеня, панядзелак*

*Масква.* [30 чэрв. — 4 ліп. VII] З'езд [пісьменнікаў СССР].

Дзмітро Паўлычка чытае пераклад Купалы.

*Раман Лубкіўск*і[1]: «Калі б палякі крыху папрацавалі (бо Паўлычка пераклаў некалькі польскіх вершаў Купалы), яны б мелі яшчэ аднаго Міцкевіча». Раман п'яным палез у Балгарыі: «Для вас гімн, устаньце».

Трэба, каб да перакладу даткнуўся не прафесар, а паэт. Узаемнае натхненне. Пушкінскі Хафіз[2] — гэта не Хафіз, а пад Хафіза. І зноў пераклалі на персідскую мову».

*1 ліпеня, серада*

Секцыя перакладу (кіраўнік Ю. І. Сураўцаў[3]).

*Брагінскі*[4]: «Гэта марная праблема — арыгінал ці падрадкоўнік. Пераклад павінен быць зроблены сапраўдным паэтам, які валодае талентам пераўвасаблення. (Таджыкская прыказка: каштоўнасць золата ведае ювелір.) Добры пераклад, які зроблены таленавітым паэтам, а не дакладным прафесарам (точны і тошны)».

*Якаў Казлоўскі*[5]: «Першая кніга, дзе верш афіцэра сувязі. Тэорыя перакладу — кастраты пра каханне, дух — свет чалавека, няма любові і нянавісці формулы.

Спачатку трэба вызначыць, хто аўтар, хто перакладчык. Вялікія паэты Усходу старыя нейкія, таму гэта нацыя не ўсынаўлена рускім чытачом. Перакладчык павінен быць паэтам. Чытачу не важна, як перакладаў, гусіным пяром ці шарыкавай ручкай. Санеты Міцкевіча зроблены Буніным[6] і Левікам[7], параўнайце. Нельга перакладаць вершы з наскоку, без ведання справы. Можна навучыць, як не трэба перакладаць, не трэба пісаць».

---

[1] Лубкіўскі Раман Мар'янавіч (1941–2015), украінскі паэт, перакладчык, дыпламат. Заслужаны дзеяч культуры Польшчы (1977). Лаўрэат Рэспубліканскай прэміі імя П. Г. Тычыны (1979), Дзяржаўнай прэміі Украіны імя Т. Г. Шаўчэнкі (1992), прэміі імя В. Незвала (1984, Чэхаславакія), прэміі імя П. Гвездаслава (1988, Славакія), Ars Translatijnis (2008, за перакладчыцкую дзейнасць).

[2] Хафіз (сапр. імя Шамседдзін Маххамед; каля 1325–1389 ці 1390), персідскі паэт.

[3] Сураўцаў Юрый Іванавіч (1931–2001), рускі крытык, літаратуразнавец.

[4] Брагінскі Іосіф Самуілавіч (1905–1989), рускі крытык, літаратуразнавец, перакладчык, усходазнавец. Доктар філалагічных навук.

[5] Казлоўскі Якаў Абрамавіч (1921–2001), рускі паэт, перакладчык.

[6] Бунін Іван Аляксеевіч (1879–1953), рускі пісьменнік. Лаўрэат Нобелеўскай прэміі (1933).

[7] Левік Вільгельм Веніямінавіч (1907–1982), рускі паэт-перакладчык, літаратуразнавец, мастак.

*Леў Озераў*: «З 20-ці радкоў Гамзатава[1] зрабіў 40 радкоў. Любы верш перакладзены [трэба] правяраць прозай. Нельга пачынаць перакладаць маладым перакладчыкам. Вялікі паэт Захаду падчас бляднее перад гуратамі ці каракалпакамі. З мовы паэзіі на мову паэзіі, не з такой мовы, а з такой паэзіі».

*Суюнбай Эраліеў*[2] (Кіргізія): «Дзіцячае выдавецтва, серыю братэрскіх літаратур «Сонейка». Пачалі з Закаўказзя. Конкурс перакладу «Я помню чудное мгновенье» [А. Пушкіна]. Некаторыя [дасылалі] нават па некалькі варыянтаў. У некаторых правільная форма, а змест — не, і наадварот».

*Ірына Агароднікава*[3]: «Этап колькаснага накаплення. Пытанне пра часопіс час паставіць канкрэтна».

*Лявон Мкртчан*[4]: «Мне падабаецца, што робіць Казлоўскі, але нельга ў такім тоне гаварыць. Вечная праблема падрадкоўніка. Хто па падрадкоўніку — можа, хто па арыгіналу — крытыка: нельга з падрадкоўніка. Не ведаеш мову — не рабі з гэтага праблему. Злоўжываюць падрадкоўнікам бяздарнасці. Падрадкоўнікі павінны друкаваць».

*Джусайты*[5]: «Правільна, Лявон, што ў кнізе трэба і некалькі падрадкоўнікаў надрукаваць. Усе размовы вакол лаўрэатаў (Сураўцаў і — рэдкія не лаўрэатаў). Класікі не дазволілі б сабе рабіць падрадкоўнікі. Калі мяне лепей перакладаюць, чым ты ёсць, то абражаюць».

*Антон Станкевіч*[6]: «Некаторыя перакладчыкі лічаць, што яны павінны паляпшаць арыгінал. Да гэтага часу Райніс[7] не адкрыты, многім не па плячы. Дайны да гэтага часу не перакладзены».

*Юрый Бялоў*[8] (Туркменія): «Праблема. Расфарбоўваць арнаментам нацыянальным».

---

[1] Гамзатаў Расул Гамзатавіч (1923–2003), аварскі паэт, празаік і грамадскі дзеяч. Народны паэт Дагестанскай АССР (1959). Герой Сацыялістычнай Працы (1974). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1952), Ленінскай прэміі (1963), Дзяржаўнай прэміі РСФСР імя М. Горкага (1980).

[2] Эраліеў Суюнбай (н. 1921), кіргізскі паэт. Народны паэт КіргССР (1974).

[3] Агароднікава Ірына Фёдараўна (1923–2008), руская перакладчыца.

[4] Мкртчан Лявон Мкртычавіч (1933–2001), армянскі крытык, літаратуразнавец. Прафесар (1973). Акадэмік НАН Арменіі (1996). Заслужаны дзеяч навукі АрмССР (1981).

[5] Джусайты (сапр. Джусоеў Нафі Грыгор'евіч; н. 1925), асецінскі паэт, празаік, драматург, крытык і літаратуразнавец. Доктар філалагічных навук (1968), член-карэспандэнт АН ГССР, акадэмік. Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя К. Хетагурава (1979).

[6] Станкевіч Антон Язэпавіч, рускі перакладчык, празаік, драматург (Рыга). Доктар філалагічных навук (1971). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі АрмССР (1983).

[7] Райніс Ян (сапр. Плієкшанс Яніс; 1865–1929), латышскі паэт, грамадскі дзеяч. Народны паэт ЛатвССР (1940). Гл.: Старэйшына краіны паэзіі (1985) // Парастак радка, галінка верша. С. 261.

[8] Бялоў Юрый Пятровіч, рускі празаік, перакладчык (Ашхабад).

*Дзмітро Паўлычка*: «Вогненная сіла Тараса [Шаўчэнкі] прыцягвала лепшыя сілы рускіх паэтаў. Паэма «Марыя» ў перакладзе Барыса Пастарнака[1]. Энергія вобраза, пранізлівы стыль Тараса.

Рускім перакладчыкам не ўдалася палітычная лірыка Кабзара. Новае прачытанне Шаўчэнкі».

Перакладчыцкая раз'ятранасць немцаў.

[Малюнак І. Фанякова «Кот за трибуной» з подпісам *ИФ 81* і яго аўтограф:]

Я обиюнен, обиюлен,
Осолнечен и отуманен…
Такую рифму к «Бородулин»
Нашёл бы Игорь Северянин![2]

*1.VII.1981* *И. Фоняков*

*2 ліпеня, чацвер*

*Фёдар Абрамаў*[3]: «Наш час, калі могуць збыцца самыя змрочныя біблейскія прароцтвы. Ці толькі радасць выклікае кніжны бум? Ці не развучыліся мы ўспрымаць сапраўднае мастацтва як свята? Лепшае тоне ў патоку шэрасці. Раман-газета гоніць шматвёрстыя творы. Некаторыя са спальні босай нагой на зямлю не ступалі, вёскі не бачылі, а гавораць пра вясковую прозу. Не знаходзяць духоўнага апірышча ў слове. Сумленне, дабрыня, спачуванне лічылася як патрыярхальшчына, душэўны стрыптыз.

Мы не скажам праўду — іншыя скажуць, толькі па-свойму. Скульптура. Воін-волат з гарой цягліц. А трэба самы зямны, што гадамі жыў у абдымку са смерцю і захаваў чалавечнасць. Хацелася б, каб Маці Радзіма набывала больш зямны і чалавечны і нацыянальны воблік, воблік маці рускай, украінкі, беларускі.

Пушкін — бацька нашых душ (бо слабая «Родная речь»). Славеснікі, памажыце ўратаваць ўрокі літаратуры! Недагрузка родным словам можа дрэнна абярнуцца ў век тэхнізацыі і ўсыхання сэрцаў. Выкладанне літаратуры ў ВНУ выклікае трывогу.

Слова было заўсёды наддарожнай зоркай чалавецтва, слова рухала. Сёння век нечуванай спекуляцыі словам».

---

[1] Пастарнак Барыс Леанідавіч (1890–1960), рускі паэт, празаік, перакладчык. Лаўрэат Нобелеўскай прэміі (1958, ад якой быў вымушаны адмовіцца).

[2] Севяранін Ігар (сапр. Лотараў Ігар Васільевіч; 1887–1941), рускі паэт.

[3] Абрамаў Фёдар Аляксандравіч (1920–1983), рускі пісьменнік. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1975).

*Сяргей Міхалкоў*[1]: «Мільёны год трэба было прыродзе, каб стварыць самых дасканалых і жывёл, і птушак, а ўсяго за якіх сто год і сцёрты з аблічча зямлі многія віды птушак і раслін».

*Леў Озераў*: «Інтэрнацыянальнае ўзнікае на нацыянальным. Нельга штучна сціраць нацыянальныя самабытнасць і наадварот».

*Васіль Быкаў* (сустрэлі воплескамі) пра ваенную прозу: «Літаратура пра вайну апошнім часам пацяснілася, уступіўшы месца «вясковай прозе». Праўда пералжытага, даставерaнасць падрабязнасцей. Даражэй за ўсё праўда за тысячагоддзі напісанага, шмат казак і хлусні, бо гэта працяг палітыкі, уладатрымцаў. Чытачу цікава ўсё ведаць. Заднім чыслом падрабязнасцей. Белетрызацыя ўспамінаў звычайна выдае чужое, не аўтарскую руку. Кроў, пот і мукі народа ў вайну накладваюць на нас адказнасць за праўдзівасць. Другарадная літаратура, адсутнічае асабісты вопыт.

Заднім чыслом прыемна сябе бачыць героем, гэта старасць, але ў літаратуры *не можа быць* старасці». (Цікава, тут у Васіля амаль чыстае рускае вымаўленне, а калі на радзіме, на Ушаччыне, — гакае і дзэкае, як ушацкі дзядзька.) Выпусціць серыю літаратурную пад загалоўкам «Вялікая Айчынная».

[Аўтограф І. Драча:]

Дорогий мій Грицю-брате,
Все з нас можуть драти й брати,
Та братерства не визьмуть.
Ось в чім суть!
Це наша суть![2]

*Москва, Кремль* *Іван Драч*

[Аўтограф Г. Віеру[3]:]

Я — Григоре, ты — Григоре,
Одна радость, одно горе!
Бородулин и Виеру —
Единая (в пчеле) вера!

*Григ*

[1] Міхалкоў Сяргей Уладзіміравіч (1913–2009), рускі паэт і грамадскі дзеяч. Акадэмік АН СССР (1971). Герой Сацыялістычнай Працы (1973). Лаўрэат Дзяржаўнай прэмі СССР (1941, 1942, 1950, 1978), Ленінскай прэміі (1970).

[2] Гл.: Іван Драч (05.2004) // Дуліна ад Барадуліна. С. 100.

[3] Віеру Грыгорэ Паўлавіч (1935–2009), малдаўскі паэт.

*3 ліпеня, пятніца*

*Альфонсас Малдоніс*[1]: «Паэзія і лірыка-псіхалагічная проза. Знікае паняцце «культурная перыферыя», рассоўваецца праблема, тэарэтычныя далягляды».

*Ягор Ісаеў*[2]: «Думаць і працаваць разам з прыродай, любіць яе, вядома. Будзе не касцёр на зямлі, а зямля на кастры».

*Чынгіз Айтматаў*: «Каб кніга была як нейкая новая біблія, прадмет мастацтва — не тэма ў графе, праблема жыцця, калі загадзя думае ўславіць, тады лёсткі і стыль хлуслівай рамантыкі.

Так званая «вясковая проза» шмат цярпела папрокаў. Баяліся апячыся агнём. Захаваць і аднавіць у новай якасці духоўныя каштоўнасці. Агульначалавечае, эпас нашай сучаснасці, «вясковая» — з адценнем інтэлігенцкага снабізму, яна вышэй ад эстэтычнай і гістарычнай магіі, новы ўзровень рэалізму, высокая грамадзянскасць. Вопыт глыбока нацыянальнага практыкавання ў жыцці і характары. Час — новая скважына на палях вясковай тэмы. Маркес: «Рэвалюцыйны абавязак пісьменніка пісаць добра!» Агульначалавечы космас. Дыягназ грамадства.

Адукацыя і выхаванне не адно і тое ж, каб настаўнік быў настаўнікам, яго павінны паважаць акаляючыя людзі. Вялікая сытасць — вялікае высакамер'е. Уцечка духоўнасці. Настаўнік можа мала дастаць дыфецыту, і ў вачах мешчаніна ён малы чалавек. І другое прышэсце не паможа. Бо куды прыйсці Ісусу Хрысту? Не толькі ў публіцыстычных выступленнях, але і ў вялікай літаратуры».

*Барыс Алейнік*[3]: «Маладыя не хутка робяцца асобамі. Часам нават не імкнуцца, затое зайздросна працуюць локцямі. Прабіўная і прабойная сіла».

| | |
|---|---|
| Михалкоў — 25 | Чакоўскі[4] — 21 |
| Навуменка[5] — 2 | Чыгрынаў — 5 |

[1] Малдоніс Альфонсас (1929–2007), літоўскі паэт, перакладчык. Народны паэт ЛітССР (1984). Заслужаны дзеяч мастацтваў ЛітССР (1974). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі ЛітССР (1965, 1979).

[2] Ісаеў Ягор (Георгій) Аляксандравіч (1926–2013), рускі паэт. Герой Сацыялістычнай Працы (1986). Лаўрэат Ленінскай прэміі (1980).

[3] Алейнік Барыс Ільіч (н. 1935), украінскі паэт, публіцыст. Акадэмік АН УССР (1990). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1975), Дзяржаўнай прэміі УССР імя Т. Г. Шаўчэнкі (1983), Міжнароднай прэміі імя Г. Скаварады (1994). Герой Украіны (2005).

[4] Чакоўскі Аляксандр Барысавіч (1913–1994), рускі празаік, публіцыст. Герой Сацыялістычнай Працы (1973). Лаўрэат Ленінскай прэміі (1978), Дзаржаўнай прэміі СССР (1950, 1983).

[5] Навуменка Іван Якаўлевіч (1925–2006), беларускі пісьменнік, літаратуразнавец і грамадскі дзеяч. Доктар філалагічных навук (1969), член-карэспандэнт (1972), акадэмік АН БССР (1980). Прафесар (1971). Народны пісьменнік Беларусі (1995). У 1973–1982 гг. дырэктар Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы АН БССР, у 1982–1992 гг. віцэ-прэзідэнт НАНБ.

Озераў — 18
Пімен [Панчанка] — 1
Праханаў[1] — 12
Роберт [Раждзественскі[2]] — 8
Сангі[3] — 1
Сафронаў [А.] — 20
Сураўцаў — 20
Танк — 1
Шамякін — 6
Шасцінскі — 25
Шолахаў — 4
Лужанін — 4
Кірэенка[4] — 3
Сачэ́нка [Сачанка] — 5
Шавялёва[5] — 14

[Аўтограф з неразборлівым подпісам Д…:]

*Егору Исаеву*

Ах, Егорушка!
Не ты ли
Объяснял с трибуны нам
Скорость выпитой бутыли,
Поделённой пополам?

*4 ліпеня, субота*

Вынікі галасавання, мала супраць, дзе малалікая арганізацыя (ці дружная), ці сам у адной асобе складаў дэлегацыю.

Супраць:
Брыль[6] — 2
Бураўкін — 3
Быкаў — 5
Вярцінскі — 2
Еўтушэнка — 13
Ісаеў — 17
Казакова — 56
Кароціч[7] — 21

Заслужаны дзеяч навукі БССР (1978). Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1967), Дзяржаўнай прэміі БССР імя Якуба Коласа (1972).

[1] Праханаў Аляксандр Андрэевіч (н. 1938), рускі празаік.

[2] Раждзественскі Роберт Іванавіч (1932–1994), рускі паэт. Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола (1972), Дзяржаўнай прэміі СССР (1979).

[3] Сангі Уладзімір Міхайлавіч (н. 1935), ніўхскі і рускі паэт, празаік. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі РСФСР імя М. Горкага (1988).

[4] Кірэенка Кастусь (Канстанцін Ціханавіч; 1918–1988), беларускі паэт, дзіцячы празаік, перакладчык. У 1972–1986 гг. гал. рэдактар час. «Полымя». Заслужаны дзеяч культуры БССР (1970). Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Янкі Купалы (1964), Дзяржаўнай прэміі БССР імя Янкі Купалы (1972).

[5] Шавялёва Кацярына Васільеўна (1917–1998), руская паэтэса, нарысіст.

[6] Брыль Янка (Іван Антонавіч; 1917–2006), беларускі празаік, крытык, перакладчык. Народны пісьменнік БССР (1981). Ганаровы акадэмік НАНБ (1994). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1952), Літаратурнай прэміі імя Якуба Коласа (1963), Дзяржаўнай прэміі імя Якуба Коласа (1982).

[7] Кароціч Віталій Аляксеевіч (н. 1936), украінскі паэт, перакладчык, публіцыст. Лаўрэат Рэспубліканскай прэміі імя М. Астроўскага (1972), Рэспубліканскай прэміі імя П. Тычыны

Вазнясенскі — 15
Гамзатаў — 15
Гілевіч — 5
Андрэй [Дзяменцьеў] — 7
Драч — 3
Давід [Кугульцінаў[1]] — 11
Кузняцоў[2] Ф. — 12
Кайсын [Куліеў[3]] — 8
Макаёнак — 4
Маркаў — 14

Выступае палесцінец, а Ваня [Бурсаў] кажа: «Па-мойму, гэта перакладае перапалоханы яўрэй».

Я ні на міг не перастану
Узносіць пахвалу Івану,
Пяро ў старанні не прыстане
Выводзіць:
— Хай жыве Іване!
Расце, як дрэва, моц з камля
Да Бурсава любоў з Крамля.

*12 ліпеня, нядзеля*

*Вучням з Гудзевіч*

Родная маці адна, Радзіма толькі адна, а значыцца, адна і мова — матчына мова, мова родная, мова Радзімы. Мачыху называюць мамай ці з прымусу, ці ў сілу выхаванасці.

Чым болей моў чалавек ведае, тым болей ведае ён сябе, але родная мова толькі адна, яна даецца роднай матуляй разам з жыццём, разам з правам быць чалавекам на зямлі, з правам далучэння да прыроды, з правам ачышчэння прыгажосцю жыцця.

У нас, беларусаў, родная мова — беларуская. Яе мы павінны любіць і шанаваць, каб перадаць наступным пакаленням, нашчадкам нашым.

*** *г. Івянец*. Універмаг. «Другі паверх закрыты на рамонт з 12 да 14 гадзін».

*Музей Дзяржынскага*. Рэчы асабістыя яго і жонкі. Маленькі партфелік і ключык на нітачцы.

Дом Пупко [Апалінарыя, народнага разьбяра]. Разьба, вароты з клямкай, ён сядзіць чытае, у вакне відаць. [Шкада, што многія запісы вель-

(1978), Дзяржаўнай прэміі УССР імя Т. Г. Шаўчэнкі (1981), Дзяржаўнай прэміі СССР (1985).

[1] Кугульцінаў Давід Нікіціч (1922–2006), калмыцкі паэт. Народны паэт Калмыцкай АССР (1969). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1976).

[2] Кузняцоў Фелікс Феадосьевіч (н. 1931), рускі крытык, літаратуразнавец. Доктар філалагічных навук, член-карэспандэнт АН СССР (1987), член-карэспандэнт Расійскай АН (1991). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі РСФСР імя М. Горкага (1978), Дзяржаўнай прэміі СССР (1984).

[3] Куліеў Кайсын (1917–1985), балкарскі паэт, празаік. Народны паэт Кабардзіна-Балкарскай АССР. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1974).

мі неразборлівыя! — *Н. Д.*] «Маё гобі ці як? З белага касцёла мая галава і рукі. У Налíбаках у касцёле маляваў. З Налібак на раздарожжы стаяць фігуры, тут аўтар [алтар] рабіў. Кіту зрабіў і да дрэва. Партрэт Купалы. Як рабіў — Янка будзе, а Купала — не ведаю. А ўсе заходзяць — пазнаюць. Толькі тут спракудзіў — трэба было лісты папараці, я так прыдурэў, дрэва і плача, і спявае. Пан Адам спяшае. Бабка з катом, а дзед з сабакам, а як сыйдуцца, казка пачынаецца. Сваю галаву прадуў, а другую выразаў. Івянец. Бабка ў кажуху, і ўнучка прытулілася. Просіць на чарніла даць. Баба-Яга — першая лётчыца, ступа падыходзіць, венікам, як прапелерам, круціць. А вунь чараўніца. Да тысячагоддзя Беларусі. Водзіць сляпога Сымона-музыку, а яму міла скрыпачка. А вось першае падарожжа Мінск — Вільнюс — Масква. А цяпер дзед напіўся, а баба яго валкýе, а сабака вые, бо брахаць нельга, — гаспадар Каліноўскі[1], Марцінкевіч[2].

Як я васількі і рамонкі раскідаў. Васількі да мяне прыходзяць, дзеці, а каб яшчэ колер — другі [неразб.1], пачала б спяваць. Мікола Пашкевіч[3]. Мяне называюць балванам, бо балваноў раблю. Фрунзе[4] падтрымліваў захапленне. Палавіна дрэў сцялі. Я таксама далёка заехаў, бацька мой быў лепшы мастак».

На стале рыба, садавіна.

«Я й гэта прадаў гродзенскім атэістам, музей купіў. Гэта мая доля — з рукой працягнутай [?]. А вунь рэчка пад Старынкай. Вось князь наш Вітаўт[5], Шапэн[6], Ленін з Фрунзе, як тата [?].

Я матку сваю высек, а паверсе Летапісы. Недзе рохкае. Я грэшны чалавек, багоў маляваў і рэзаў. На парозе сяджу, пакуль захаладае. У мяне дрэва і плача, немаўля спавітае, я ж сам байструк [неабвучаны]. Бацька дык атэстат меў, а я байструком рабіў».

У Кнізе Чырвонай удоды і совы, у кнізе народы і мовы, зямля ў Чырвонай кнізе заходу[7].

Падзвіжнік, дакладней подзвіжнік, ад подзвіга ён ідзе.

[Аўтограф:] «Калі ж я дачакаюся прачытаць той верш, аб якім ты мне некалі намякнуў? *Я. С-ў* [Сіпакоў ?]»

---

[1] Каліноўскі Кастусь (Вікенцій Канстанцін Сямёнавіч; 1838–1864), беларускі рэвалюцыянер-дэмактар, публіцыст. Адзін з кіраўнікоў паўстання 1863–1864 гг. у Польшчы, Беларусі і Літве. Пакараны царскімі ўладамі.

[2] Дунін-Марцінкевіч Вінцэнт (Вікенцій Іванавіч; 1808–1884), беларускі паэт, драматург.

[3] Пашкевіч Мікалай Арсеньевіч (1936–1972), беларускі педагог, літаратуразнавец, краязнавец.

[4] Фрунзе Міхаіл Васільевіч (1885–1925), савецкі партыйны і ваенны дзеяч.

[5] Вітаўт (1350–1430), вялікі князь Вялікага княства Літоўскага (1392–1430).

[6] Шапэн Фрэдэрык (1810–1849), польскі кампазітар і піяніст.

[7] Гл.: «У кнізе скону…» (1.01.82, Рыга) // Амплітуда смеласці. С. 108.

*Буй-Уладзіміру!*

Ад рук адбіўся ты — ні гуку.
Што ўсё-ткі ёсць
Сябрук Лучук —
Даведаюся з друку.

*25 ліпеня*

«Сталінскі фаладызм», — [кажа] Стэфан [Паптонеў], гледзячы на кансерваторыю; сітуацыйны характар. СП. «Няхай жыве, хто с кім хоча! Закінем лыч! Нестинарки — якія танцуюць на вугалях хутка, ногі не падымаюць, каб вугаль не ўспыхнуў. Рытуальны танец. Благавешчанне. Богоявление. Бла́говец. Благовест (рус.) 22 сакавіка».

*Несцінаркі*

Горача — усё адно ж
У дакор перастаркам,
Хораша басанож
Скачацца несцінаркам.
Ходзяць жрыцы цяпла
Па вугалях гарачых.
Асцярога ўцякла,
Пал мала́ды — дарадчык.

*15 жніўня 1981*

[Аўтограф:] «г. Минск. Стефан Поптонев, болгоро-белоруския писател. Поздравляю с щастливой петдесетилетие. Пусть ваша жизнь и ваши творчестие успехи будут как длинное море».

*1 жніўня, субота*

Маладзёны вязуць калясачку з першынцам, у нагах малога падручнікі (бацькі яшчэ экзамены здаюць — жыццё наперадзе), а малы нагамі на падмурак веды.

*Карласу Шэрману*
*(падпісваючы для ўнука*
*«Ці пазяхае бегемот?»)*

Дзеду Карласу для ўнука
Сціплы падарунак мой.
Хай не спіць начамі штука,
Што завецца галавой.

*[12 жніўня, серада]*

*Да анёла з суседняга касцёла.* Пятро расказваў, як працавалі. Віленскае барока. Далонь франтона і дзве свечкі спічастых макавак.

*Восеньскае лісце вераб'ёў вецер жнівеньскі пераганяе.* Ранняй восенню асабліва маладыя дзяўчаты прыгожыя.

— Што, бядак, засопся так,
Зняў пінжак і світар?
— Не знаходжу аніяк
Я знаёмых літар[1].

Хоць у прагаладзь, абы ў прахаладзь.

З коміна дрэва расце і ўпіраецца ў небасхіл[1].

Ва Ушачах. Інжынер камунгаза, карэнны ўшацкі, марудлівы, помніць мяне з давайны. У яго ў кабінеце сейф, шафа, на шафе капялюх, нейкая хламідзіна і добра адбітая каса. У любы момант гатовы на прарыў па падняццю сельскай гаспадаркі.

Машыністка перадрукавала замест агентура *агнетура.*

Калядны снег
І першы пацалунак.
Гарачы ці халодны
Быў той снег?
І цмяныя сляды
Ў які кірунак
Свой пачыналі бег?

[Адрас:] Бъгария, София, ул. Ангел Гергов, 98, блок 4, вх. «А». Димитър Пантелеев.

*14 жніўня, пятніца*

*Валянціну Тарасу*

А teraz, пане Тарас,
Там гэтакі interas,
Стихотворений пару-с
Перакладзі!
Яшчэ раз
Прымі паклон,
Адкінь дакор.
Да скону дзён
Я твой.

*Рыгор*

---

[1] Гл.: «Хлеб фармавы…» (12.08.81) // Амплітуда смеласці. С. 55.

*

Перакананаму маркісту[1],
Няўрымсніку і партызану,
Дружбісту, антыкультывісту,
Шаноўнаму Вал. Тарасісту
Выказваю сваю пашану
І, ўзняўшы чару Вечалля,
Захоплена прысвечваю…

*Жнівень*

*** Вясна хацела напісаць пісьмо, каб лета сцябліну абмакнула ў блакіт і абтрасала — васількі, фіялетавыя чарніла.

* * *

Лету пасланне пісаць
Вясна збіралася столькі разоў
Ды, сцябліну ў блакіт абмакнуўшы ласа,
Адны пакідала
На палях парудзелых лістоў
Васількоў парудзелыя кляксы…[2]

*6 чэрвеня 1982*

[Адрас:] г. Минск, ул. Притыцкого, 48. Козлов Николай Романович. Главный художник издательства «Юнацтва».

*21 жніўня, пятніца*

*[п. Ушачы.* 21–26 жніўня. Запісы гаворкі М. Р. Трафімавай гэтых дзён увайшлі ў «Вушацкі словазбор Рыгора Барадуліна» (Мінск, 2013).]

Марыя Рыгораўна:

— Калі будзеце?

— Скора.

— Цэлыя гады «скора»…

***Васіль Быкаў: «Во ў мамы якія ручкі, як у птушачкі лапкі». Садзіць маці на крэсла. Мама слаба чуе. «Ну, скажы што-небудзь. А то ў Мінску не хапае добрых актораў, дык ты, мама, будзеш.

Прагрэс дубільнае рэчыва такое выробляе, што чалавек жорсткі і скурай, і сэрцам».

---

[1] Як перакладчыку твораў Г. Гарсія Маркеса.

[2] Гл.: Ды хвалявалася… (5.01.99) // Ксты. Выд. 1. С. 323.

Прадаўшчыца марожанага ў спякотны дзень нібы заінелую рыбу з проламкі вымае, а на накрыўцы луска белых манет.

*22 жніўня, субота*

Возера Крывое. Нібы хто распаленую жалезіну куе і выцягвае ў розныя бакі. Ці разліта распаленая маса блакіту. Вёска *Горы.* Слівы падаюць. Гусі грэбліва ходзяць па іх. Цішыня. Конікі згубілі сярпы жаць цішыню. Чуваць гул пчол. Белыя ўспышкі матылькоў. Мне даеш багоўку на зялёнай травінцы. З якіх сусветаў заляцела зорка багоўкі?

Настрой азёраў
Ад настрою неба залежыць.
Ён ці хмарны, ці блакітны.
Закіне высь
Хмурын дзіравы невад
І выцягне.

Страказа грэецца на валуне. Вызірнула сонца — і ўсё застракатала, пайшоў зладжана гадзіннік польнае цішыні.

Ледавік араў. Азёрны край. Вочы ад азёр, пасля, паміраючы, пакідалі азёрам вочы, таму бясконцы лік — азёры і вочы.

Сцепанец Ягор Аляксеевіч (1916 г.; *в. Дуброўка)*. У двары сохне мох баравы, унутры яшчэ сыры. Крытая страха сеткай, для куранят. Прычапурыўся, яшчэ малады. Брыгада [партызанская] «За Савецкую Беларусь». У прарыве ўдзельнічаў, пасля [пайшоў] на Палік. А там балота, дрыгба, а сілы мала, чатыры дні не елі.

Шапко Дзмітрый Мікалаевіч (1925 г.). Яшчэ маладжавы. Бацьку расстралялі за партызан, у брыгадзе Мельнікава. Дачку зяць забіў, двое дзяцей [засталіся]. Хоча на прыём да Лабанка [трапіць].

Іван Сцяпанавіч Герцык (1911 г.). Стары палуднуе. Старая: «Ты б пінжачок надзеў, быў бы выдатны». Гэны наш калтупаваценькі (тры сыны і дачка). Брыгада Мельнікава.

Вёска *Усая.* Як у памяці, дзе бацька.

Вёска *Дзедунова*. Махонька Іван Емяльянавіч (1922 г.), у брыгадзе Мельнікава, родам з Дзедунова. «Пяць дамоў прамяніцё…»

Вёска *Любжана*. Халіпскі Ягор Аляксеевіч (1914 г.). «Нада перш рукі надзяваць, а тады на шыю (кашулю). Ёсь ўсё, а найперш не як чалавек — карчавешка. Садзіся, не стой дуба́. Старэйшы брат загінуў, а гэты танкіст, вочы пады]?]. У нас у Мінск круга, дулі пасылаў, атрымала, а пісьмо няма; і польская, і фінскую [вайну]. За́піску прыслала, людскія косці рваліся, а яму па галаве. А падпечак мураваны, [неразб.1] жыць ёсць па кім, а няма каму. Каб чалавек які нашоўся на гэты сялібы жыць».

*24 жніўня, панядзелак*

Каля аўтастанцыі аб’ява: «Прадаецца будучая карова, падцёлка, цяліцца будзе ў студзені месяцы». У Плешчаніцах буфетчыца: «А як піва свежае, людзей цэлае войска стаіць». *Істэрыя*-музыка*.*

[Адрас:] г. Барысаў, вул Батарэйная, 10а. Сіненка[1] Георгі Дзмітрыевіч.

*25 жніўня, аўторак*

Сяло *Кублічы.* Каля́дзенка Клаўдзія Яфрэмаўна. Доўга чапурылася, з ганка выглянула:

— А медалі свае зачапіць?

— Хай будуць.

Брыгада Чапаева, медработнікам [была] у партызанах. Цяпер фельчарам. Вайна ў Глыбачанах застала, сама з Лепельскага раёна.

Ідзе жанчына, і пад нагамі белыя хвалі качаюцца.

Вёска *Бычкі*. Паршонак Васіль Аляксандравіч (1926 г.). Брыгада ЦК ВКП(б) Мядзведзева. 4 сыны і дзве дачкі. Пайшоў брыцца, а дзеці букет ламаюць. Малая праз вакно [глядзіць] (дужа сціплая): «Татка, усміхніся». Жонка: «Хоць бы прычоскі вецер не ўзбурыў».

«Дзе бацька?» — «Ён *травы* пайшоў».

На драбінах з цыбуляй Ларыса Карбоўская, пойдзе ў школу.

Азевіч Дзямян Дзямянавіч, ідзе з травы, камізэлька, неяк светла стала. Хадзіў па зброю за лінію фронту. У Рудні фарміраваўся. **У** 42-м на́ зіму пайшлі. Пераходзілі лінію фронту, у Шчалбоўкіх лясах у блакаду трапілі, 8 км ад фронту.

У сельсавеце ў Кублічах Міхаіл Казлоўскі: «Усё меней удзельнікаў, усяго ў мяне засталося 140 чалавек».

Ідзём да Савіцкага Паўла Трафімавіча (1906 г.). На ганку сабака, на яго ідзе старшыня сельсавета, гаворыць, сабака ідзе за ім і гаўкае на нас. На Супонцы-возеры востраў называецца Ляха. Едем, а гаспадар ідзе з магазіна. Павел Трафімавіч Савіцкі (з чорным сабачкам): «Думаў, хлеб будзіць, аж німа». У брыгадзе Лабанка [ваяваў]. Камандзір узвода да аб’яднання, пачынаў стралком. З ім сабака Жук; тужыў, шукаў сына (памёр; з 1955 года) некалькі месяцаў.

Вёска *Чамярычана.* Дрозд[2] Мікалай Данілавіч (1926 г.). За квартал да Рэйхстага выбіла вока; партызан. «Усе фатаграфуюць, а ці добра ў мяне страха накрыта? Бацька, маці, брат, сястра [памерлі], адзін астаўся во як палец». У брыгадзе Мядзведзева. «Пад Вілейкай [быў], як блакада [застала], вужасць. Двое сыноў, у саўгасе адзін ушацкім, а другі тут. Двое былі ў

---

[1] Сіненка Георгій Дзмітрыевіч (н. 1923), беларускі літаратуразнавец, крытык. у 1970–1994 гг. выкладчык БДУ. Кандыдат філалагічных навук.

[2] Гл.: Мікола Дрозд (22.05.82) // Амплітуда смеласці. С. 51.

арміі, адзін у марской авіяцыі, другі так у авіяцыі». Фота на сцяне ў хаце. Светла і акуратна ў хаце. Родам з Тухаціна, спаленая; у гумовіках, у гімнасцёрцы, зноў павязку ў руцэ трымае. «Так адваяваў ці лепей не нада, з 42-га да 44-га ў партызанах. 4 мая 45-га раніла, каб далей пайшоў, можа б і гамон быў». У пяхоце з кулямётам (з кулямётам і ў партызанах). Брыгада імя ЦК КПБ [ВКП(б)].

*3 верасня, чацвер*

Ляцім у *Мілан* [на Міжнародны сімпозіум, прысвечаны творчасці А. Блока]. *Італія — Ляталія*, краіна, куды ляталі і лятаюць думкі ўсіх прыхільнікаў паэзіі і мастацтва.

Малы малюе Арарат і зоркі, прыводжу да яго.

Аэрапорт, у чырвоным абслуга, як ка́ты з чырвонымі капюшонамі. Доўга едзем у Мілан. Чысціня. Сена скачана ў качулкі (як каткі, што пад сонцам выгараюць).

Джавана Шпэндэль. Вячэра ў Джаванны (перакладала Быкава. «Чаму ён такі сумны?»). «Сотнікаў» [В. Быкава] не дужа меў поспех.

За вакном дождж, урываюцца гукі машын тугой хваляй. Унізе, калі глянеш, на светлых машынах на радыятарах асеннія аплікацыі восені — жоўтыя пяцярні лістоў.

Па дажджу шукаем сабор. Спіць наркаман. Жабрачка просіць, а ў нас няма чаго даць. Нарэшце Міланскі сабор[1]. Кожнай гранню новы, як свечка ў неба ўзносяцца фігуры. Толькі богу відаць тапалінае царства. Украіна, каменныя тапалі.

*4 верасня, пятніца*

Варпэт[2] памыўся, тады сказаў «добрай раніцы», па-сялянску.

Палац абарончага плана Сфорца[3]. Герб Сфорцаў і Мілана. Абаронны роў, і ядры, як брытыя галовы.

Pieta Rondanini di Michelangelo Buonarroti[4]. Рукі зламанае крыло. Сляды разца. Як бог тварыў, толькі з цвёрдага матэрыялу. Яшчэ вякі адшліфуюць, закончаць для пакут, для мук, а пакуль праразаюцца з цяжкога туману мармуру. Дзева Марыя абаперлася аб сына свайго, як цяжкі крыж, зняўшы Яго ж плоць духа свайго з крыжа. Іх зноў нітуе боль і смутак.

---

[1] Гл.: 31 студзеня 1982 года (31.12.82, Каралішчавічы) // Амплітуда смеласці. С. 107; Партызанскі прыпамін ([04.1984]) // Выбраныя творы: У 2-х т. Мінск, 1984. Т. 2. С. 325.

[2] Аванесян Рачыя Карапетавіч (н. 1919), армянскі паэт, перакладчык. Варпет — найлепшы майстра ў сваёй справе, паважлівы зварот (*арм.*).

[3] Сфорца — дынастыя міланскіх герцагаў (1450–1535).

[4] Гл.: Pieta Rondamini di Michelangelo Buonarroti (30.01.83, Каралішчавічы) // Выбр. тв.: У 2-х т. Т. 2. С. 320.

Санта-Марыя дэлле Грацые, «Тайная вячэра»[1] (у 1943 годзе бомба ўпала, уся [была] разбурана, а сцяна [з фрэскай] ацалела. Юда чорны вырываецца. Трымае холад вякоў таемнасць тайнае вячэры. Здаецца, што сцяны няма, а гэта... Леанарда на вуліцы шукаў прататыпы. Апошняя вера, што ўсе аднадумцы. Яна трымае ўсіх усе вякі, яна на крыж пасылае. І кожны спавядаецца Хрысту, каб потым застацца сам-насам з уласнай верай. Прагная халодная сцяна сагрэта верай тайнае вячэры.

Sant'ambrogio[2] (≈ 14 ст.), раманскі стыль, шырыня, свабода, душы не цесна лунаць і адчуваць. Царква. Сядзяць як на лекцыі некалькі манахінь, некалькі дам сярэдняга ўзросту, сівы і лысы. Чырвонае цэглы перакрыжаванні скляпення, чырвоныя з белым павекі выступаў. У сценах кускі антычных храмаў з надпісамі.

Міланскі сабор, служба ідзе, па магнітафону. Па калонах [надпіс] sciéntia poténtia est [веды ёсць сіла]; 300 год будаваўся). Вітражы, зыркі чырвоны (сакавіты) колер і блакітны, зялёная сцэна жыцця. Колькі фігур, і жылплошча не перанаселена.

Ла Скала [тэатр]. Сцэна звонку [?]. Помнік Леанарда [да Вінчы]. Яму помнік [ніхто ?] не можа зрабіць.

*5 верасня, субота*

Poldi Pezzoli[3] (музей). Sandro Botticelli «Firenza» [«Фларэнцыя»]. Giovanni Bellini[4] «Venezia» [«Венецыя»]. Адлітая фігура пеўня ў латах, пер'ях, цяжкі рыцар, кураня з каронай над галавой.

Amici di Brera[5]. Плошча ля сабора, Мадонна залаціцца, на плошчы штучныя галубы (дужа лопат крылаў; праблема Ікара). У крытай галерэі сабачаня з падвязанай лапкай (скураная павязка).

Універсітэт. Сярэдневекавы двор, крытыя галерэі, нібы ў хатняй [?] з бярозкі, і крыж на даху. Гавару з фінкай пра Купалу (яна перакладала «А хто там ідзе?»), пасля дадаю, што наша Цётка[6] адна з першых пісала пра Фінляндыю. Яна пачынае ўсміхацца, думая, што ў мяне нейкая славутая цётка.

Сустрэча ў зале ўніверсітэта. Сталы літарай П, канцы ссунуты ўнізе, перад кожным мікрафон. Адкрывае *Бацарэлі*, дэкан факультэта славі-

---

[1] «Тайная вячэра» — роспіс трапезнай манастыра Санта-Марыя дэлле Грацые. *Леанарда да Вінчы* (1452–1519), італьянскі мастак, скульптар, архітэктар, вучоны, інжынер. Гл.: Апошняя вячэра (20.02.84) // Выбр. тв.: У 2-х т. Т. 2. С. 323.

[2] Царква Сант-Амброджа (IX–XV стст.).

[3] Музей Poldi Pezzoli быў заснаваны ім у сярэдзіне XIX ст. як прыватная калекцыя.

[4] Белінні Джаванні (каля 1430–1516), італьянскі мастак.

[5] Пінакатэка Брэра — карцінная галерэя ў Мілане (з 1809).

[6] Цётка (сапр. Пашкевіч Алаіза Сцяпанаўна; 1876–1916), беларуская паэтэса.

стыкі, прафесар: «Блок інтэлектуал, які хутка прывыкае да грамадскага жыцця».

*Залатусскі*[1]: «На італьянскай зямлі адчуваем уздым духу, які адчувалі і нашыя продкі. Гэтыя нябачныя крылы змушаюць парыць з Блокам».

Мэрыя. Прыём намесніка мэра г. Мілана. Выступае лёгка, без паперкі, маладжавы. «Мы будуем масты, бо многія разбураюць гэтыя масты».

Едзем, горы, як усё вялікае, узнікаюць раптоўна, туманее, цямнее, а горы выразна чарнеюць і святлеюць.

Прыпынак, плоцім за дарогу. Я думаў — прывезлі ці як некалі ў піянерскі лагер. У цемры полькі і я, як у шмат [неразб. 2].

[Адрас:] Raija Rymin[2]. Tehtaank, 25 C 68 00150, Helsinki 15.

*6 верасня, нядзеля*

*Gargnano. г. Гарняна*. Пачатак сімпозіума, даклад фундатара і арганізатара. a+b+cd 47, 60 %, ab+cd+, ab+c+d+, a+bc+d[3].

*Белаказовіч*[4] *(*Польшча): «У містыцы багоў багему душы». Заметкі пра польскую літаратуру.

*П'ера Кацола*. «Італьянскія вершы А. А. Блока».

На сцяне распяцце Хрыста ў зале, дзе ідзе сімпозіум.

*Ул. Енішэраў*[5]. «Аўтабіяграфічны матэрыял у паэме «Адплата».

*Дз. Паўлычка*: «Сом[6] — це украïньскі хутір». Паўлычкіяна. Паўлычкіянкі. Блакіяна.

*Іваноў* (Udena). «Каціліна[7] і Італія». *В. Д.* [?] «Шаманізм Шэсталава».

*Nadine Natoi*. «Маскі ў творчасці Блока». Рыльскі[8] [Надзін пытае пра яго]. Перадае прывітанне [праз ?] Рачыя Аванесяна Чарэнц[9], Карняйчук[10].

---

[1] Залатусскі Ігар Пятровіч (н. 1930), рускі пісьменнік, крытык, нарысіст.

[2] Рымін Раія, фінская перакладчыца.

[3] Памятаецца, Рыгора Іванавіча вельмі ўразілі фармальныя падлікі некаторых дакладчыкаў пры аналізе паэзіі А. Блока (*заўв. Н. Давыдзенка*).

[4] Белаказовіч Базыль (1932–2010), польскі славіст, літаратуразнавец, культуролаг.

[5] Енішэраў Уладзімір Пятровіч (н. 1940), рускі празаік, літаратуразнавец, крытык. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі РФ (1999).

[6] Сом Мікалай Данілавіч (1935–2013), украінскі паэт.

[7] Каціліна Луцій Сергій (108 — пач. 62 да н. э.), збяднелы рымскі патрыцый, які ў 66–63 гг. пытаўся захапіць уладу. Пасля няўдалага замаху на консула Цыцэрона збег, сабраў войска, але пацярпеў паражэнне і загінуў у баі.

[8] Рыльскі Максім Фадзеевіч (1895–1964), украінскі паэт, перакладчык, літаратуразнавец і грамадскі дзеяч. Акадэмік АН СССР (1958). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1943, 1950), Ленінскай прэміі (1960).

[9] Чарэнц Егішэ (сапр. Сагаманян Егішэ Абгаравіч; 1897–1937), армянскі паэт. Рэпрэсаваны.

[10] Карняйчук Аляксандр Еўдакімавіч (1905–1972), украінскі драматург і грамадскі дзеяч. Акадэмік АН СССР (1943). Герой Сацыялістычнай Працы (1967). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1941, 1942, 1943, 1949, 1951), Міжнароднай Ленінскай прэміі (1960).

*Niedwedski*. «Развадоўскі (з Бекетавымі[1])». Каталіцкі манах, памёр у Італіі. Раўнавага страху. Вергілій і Катул[2] блізкія.

*Вечар пасвіствае носам цыкад — засынае цішыня.*

Раія Рымін расказвала, як гутарыла з шэйхам. Колькі самалёт, колькі нумар. «Ну, можна заплаціць, абы ў my boy меў gud night» («абы ў майго «хлопца» была добрая ноч...»).

*Новікаў* (Румынія). Калі сказаў, што я з Беларусі, прасіў перадаць Алесю Адамовічу, што ён напісаў прадмову да «Хатынскай аповесці».

[Адрас:] Алла Романович. Piazzetta M. Corso 8 Lecce Italia.

*7 верасня, панядзелак*

Першым выступае Дзмітро [Паўлычка].

*Новікаў* (Румынія): «Я не паспеў скараціць, таму спачатку першую палову прачытаю, а астатнюю на другім сімпозіуме. Шэкспір у Талстога не Шэкспір, а талстоўскі Шэкспір, як і Напалеон у Талстога».

*Пярвушын[3]* (Канада) «Теория окончаний поэтических произведений». У чым сэнс замыкання. Канцоўка як кропка закончанасці структуры твора.

*Пекуроўская* (ЗША): «Судатыкненне двух пачаткаў, двухадзіны светапогляд. Блок і Авідзій[4] (метапаэма)». I. Бог і неба. II. Ты, Яна Пр[екрасная] дама. III. *Я* прырода. IV. Паэт, *Я*. V. Людзі, земшар, горад. «Чароўная дама» і Авідзій. Dramatik persona Авідзія. Першы сярод роўных. *Я* пераводзіцца ў адсутны *ты*. Замена сябе ім. *Я* заўсёды не *я*.

*Северын Поляк[5]* (Polska): «Чароўная дама» і маці». Адносіны да маці і разуменне вечнай жаноцкасці. Іскра бацькоўскага дэманізму».

«Надзея Паўловіч[6] і Блок». «Гумілёў[7] і Блок».

Адчыненае вакно. На прыслонку грэецца багувіл [бугенвілея], у ягоных кветках нешта шукае чмель.

Магчыма, сінтэз нашай паэзіі — сінтэз шляхоў Блока і Гумілёва.

Шчарбіна[8] (Масква).

---

[1] Бекетавы — родзічы А. Блока па маці.

[2] Катул Гай Валерый (каля 87 — каля 54 да н. э.), рымскі паэт. Гл.: Цень Катула (17.02.84) // Выбр. тв.: У 2-х т. Т. 2. С. 321.

[3] Пярвушын Мікалай Усеваладавіч (1899–1993), прафесар рускай мовы і эканомікі.

[4] Авідзій (Публій Авідзій Назон; 43 да н. э. — каля 18 н. э.), рымскі паэт.

[5] Поляк Северын, польскі крытык, перакладчык.

[6] Паўловіч Надзея Аляксандраўна (1895–1980), руская паэтэса.

[7] Гумілёў Мікалай Сцяпанавіч (1886–1921), рускі паэт. Рэпрэсаваны.

[8] Шчарбіна Уладзімір Радзіёнавіч (1908–1989), рускі літаратуразнавец, крытык. Доктар філалагічных навук (1954), член-карэспандэнт АПН СССР (1968), член-карэспандэнт АН СССР (1976).

*Судакова* (Турын): «Вобраз змяі». Змяя нечым зніклая ў прасторы. Змяя як бясконцасць. З пашчы цемры, са шчылін яна нясе ці смерць як мужчынскі пачатак альбо жаноцкасць, што звіваецца ў колцы. Барацьба двух пачаткаў у адным. Індыйскі помнік Uro-boros, змей, што паглынае свой хвост. Жыццё, што нараджаецца праз смерць, цыклічнасць. Змей і Пецярбург, спакуснае аблічча красы — таксама змяя, джала сумненняў. Вобраз жанчыны — змяя. Шэлі[1]: «...эта бурная радость ужасов», чорны колер, колер змяінай красы».

(Румынія): «Сімволіка круга». Сімвалісты шукалі слова, якое знаменуе знакі. Фундаментальныя сімвалы круг, крыж і меней — квадрат. Круг — *я*, квадрат — матэрыяльнае. Неаплатанічная свядомасць. Круг — візантыйскі храм на кубе, купал на кубе, кругавая з квадратнай між нябесным, куды імкнецца, і зямным, дзе чалавек разумее сябе [як] прадмет пераходу. «Боскасць, што схілілася над сваім тварэннем».

Увогуле, русістыкай, праблемамі рускай літаратуры займаюцца ў асноўным дамы, хто выйшлі замуж, хто выехаў раней ці зараз. Мужчын маладых няма. Калі і ёсць маладыя, у прыватнасці італьянкі, то даклады ўжо не па рускай [літаратуры].

*Тацяна* (Амстэрдам): «Балотны бог». «Пузыры зямлі». «Нечаканая радасць». «Вода предвосхищает всякую форму, выспа, першае, што існуе, з балота ці суша, ці вада. Прырода на хрысціянскім і казачным этапе».

*Іаанавіч* (Югаславія): «Міф Ніцшэ[2] пра вечнае вяртанне. Анаграма Сцікса[3]. У «Коршуне» [вершы Блока] міф пра вечнае вяртанне».

Блок прыцягвае пылінкі славянства, што рассыпаны па ўсім свеце. На прамень, на агонь рускай мовы злятаюцца ўсе, каб пагрэцца адчуваннем радзімы.

*8 верасня, аўторак*

Едзем з *Mantua*, поўнач. Італія — ледніковага паходжання азёры, а каля Рыма — вулканічнага. Катул на возеры Тардо меў дачу (верш пра карабель на возеры).

Mantua — Вергілій. Даспехі рыцара са сталі XIV ст., галава нагадвае кураня. Кілімы па эскізах Рафаэля[4] фламандцаў і куплены кардыналам. Як гваздзікі ў пятліцы графа — Вэрдзі[5] і Рубенс[6].

---

[1] Шэлі Персі Біш (1792–1822), англійскі паэт.

[2] Ніцшэ Фрыдрых (1844–1900), нямецкі філосаф.

[3] Сцікс — рака падземнага свету.

[4] Рафаэль Санці (1483–1520), італьянскі мастак і архітэктар.

[5] Вэрдзі Джузеппе (1813–1901), італьянскі кампазітар.

[6] Рубенс Пітэр Паўэл (1577–1640), фламандскі мастак.

Зала. Уверсе пад запапонамі ногі коней, хвост і выглядвае галава, як знутры шатра. Матэня[1] маляваў доўга, а сам Людовік адны ногі [?], пасля маладых для першай начы. Сцэна з фальфіранкамі, штора са скуры (пад узор кіліма). Столь прабіта [?] небам.

A Virgilio la Patria [помнік Вергілію]. П’яны даглядчык магілы Матэня. Вежа і клетка з дроту — за кражу ці за што, і як канарэйка сядзеў, колькі ласка. Тэатр, дзе Моцарт[2] у 15 год [выступаў].

Мэр: «Са славянскага свету конскія сувязі» (Ганзага[3] коней выводзіў пароду), зараз — «фіат» (у фінаў цыганы машыны [прадаюць]).

*9 верасня, серада*

Ад Рымскай імперыі зіхоткія асколкі. Італія, як дамскі боцік (пад абцасам).

12 гадзін адбіваюць усе гадзіннікі з інтэрвалам. У кожнага свой час — аўтаномія.

Дзяўчына з Вілейкі, як прабабка, што на жніве, запалі вочы, і поступ, як па ніве.

Пярвушын з падобным яму «дзьмухаўцом» успамінаюць Царскае Сяло, кадэцкі корпус. Здаецца, што ідзе рэпетыцыя нейкага фільма ці тракт. Усё ў мінулым, а яны ж рэальныя, не міфічныя. Як здані (дужа яны лёгкія, ва ўсіх сэнсах, і светлыя, правідна сівыя), ажылі і гутарку вядуць.

Даклад «Блок і Іваноў-Разумнік[4]» («Скіфы» [верш] — судатыкненне не з арганізацыяй, леваэсэрамі, апошняя маска паэзіі перад жахам). Хутчэй публіцыстыка, чым блокаўскае паэтычнае асэнсаванне.

Дождж залівае горлы цыкад, і цыкады глухнуць паступова. Як мадонны, голыя італьянкі. І за табой нібы машына шыпамі — дождж.

Вада залівае горлы цыкад,
І глохнуць яны паступова прадонна.
Блішчыць асфальта перамоклы плакат,
Бягуць італьянкі голыя, як мадонны.
І хочацца выліцца лііўню хутчэй,
Маланка свае прызначае аршыны.
І цемра пініям ужо да плячэй,
Ноч даганяюць дажджу шапаткія шыны.

*10 лістапада 1982*

---

[1] Мантэнья Андрэа (1431–1506), італьянскі мастак і гравёр.

[2] Моцарт Вольфганг Амадэй (1756–1791), аўстрыйскі кампазітар, скрыпач, арганіст, дырыжор.

[3] Ганзага — знакаміты італьянскі род, прадстаўнікі якога былі сіньорамі Мантуі (1328–1708).

[4] Іваноў-Разумнік (сапр. Іваноў Разумнік Васільевіч; 1878–1946), рускі літаратуразнавец і сацыёлаг; рэдактар; эсэр.

*10 верасня, чацвер*

Чорная кошачка з доўгім хвастом з адчаем глядзіць на ваду. Хоча заскочыць праз вакно на кухню. Хвост непамерна вялікі. Смачна ўсё пахне, а яна галодная, накшталт мяне. Усё ёсць вакол, а ў мяне не.

Кошачка зноў ходзіць па залі паседжання.

«Блок і Клюеў[1]». Уплыў Клюева на Блока, актыўны стараабрадзец, сын прафесійнай плакальшчыцы.

«Блок і Фінляндыя». Блок паўночны паэт, і гэта блізка фінам.

Заключэнне, прафесар *Бачыні*: «Паэзія прымушае бачыць чалавека ў чалавеку ў век, калі ў сябры бачым ворага, — так час дыктуе».

Віла Д'Анунцыа[2]. Зала адзіная [?]. Маска Напалеона. Кулямёт. Рука «Давіда» Мікеланджэла. 75 год за сталом ([памёр у] 1938).

Пакой натхнення, пакой праказы, бо ў сярэднявеччы праказа свету. Труна і калыска аднaчасова. Калідор — крыжавы шлях. Хода [?], карціна на медзі. Славянскі двор (рабскі, славянскі па-венецыянску — блізка *раб*). Стол аднарукіх [?]. Калі хочаш, каб малая кватэра была большай — думай пра труп. Адна рука, каб адказаць на ўсе лісты. Вопратка яго і каханак — у асноўным начныя. Карабель, другі. Магіла (пасты ягоных салдат-наёмнікаў). Палотнішча сцяга карабля.

У пакой Даскаловай[3] улятае кажан. Выключаем святло. Кажан выпырхвае.

*11 верасня, пятніца*

Канадзец. Жонка з хутара Дворац (Ціхініцы), усё жыццё хацела пабыць на Беларусі. (23-ці год у Казані, пажаніліся, пражылі 53 гады, памерла).

На шкле ўзнікае з процілеглага боку кіпарыс, гайдаецца, як з мора ўзнікае. Пячора з туману, і зялёныя сталактыты кіпарысаў.

У Фінляндыі цыганы гандлююць старымі машынамі, як конямі.

Горы белыя выступілі, як надтрунні ў негустой мягкай зяляніне. Магільнікі машын, як душы скамечаныя і пабітыя машын. А ў кожным горадзе магільнікі сельскіх душ. Скалечаных жалезам і каменем. Marmi mecca[4]. Глыбы мармуру, з іх будзе ўсё. Цыганскі табар. Узбоч дарогі аўтафургоны. Шмат малых і цыганак. На віле гранаты[5], [скульптуры] Дыяніс, Венера. Партрэт Мао[6] ў Мілане.

[1] Клюеў Мікалай Аляксандравіч (1887–1937), рускі паэт. Рэпрэсаваны.

[2] Дом-легенда. Д'Анунцыа Габрыэль (1863–1938), італьянскі паэт, драматург, палтычны дзеяч, авантурыст.

[3] Даскалова Ліана, балгарская пісьменніца.

[4] Marmi mecca — месца апрацоўкі мармуру.

[5] Віла Лівіі, вядомая фрэскамі з выявамі кветак і дрэў, у тым ліку гранатавымі.

[6] Мао Цзэдун (1893–1976), старшыня ЦК КП Кітая (з 1943).

Ляцім на Рым. Boing 727.

*Рым!* Аэрапорт. Манахіні, як пінгвіны. Lux messe Hotel. Пініі, як зялёны выдых атамнага грыба. Едзем у Рым. Раптам узнік Калізей[1], як пасля бамбёжкі ці пажару. Носяць між машын кветкі, запальнічкі. [Неразб. 2 сказа.] Нахмураныя бровы Калізея, правал глазніц. Не можа ўспомніць Гусоўскага[2].

Форум[3]. Кошка па калючым дроце хоча вылезці наверх, чорнае кацянятка чакае маму. Усё ад былой велічы. Паўсюль вакол Калізея пахне смажаным, печаным — сядзяць спакойна, сілкуюцца. Пан пробашч садзіць у машыну даму, цалуе ў губкі. Як д'яблы, як фурыі — матацыклісты і матацыклісткі.

Да машын падносяць (кветкі маладзесенькі акуратна-бедна апранены хлопчык, блок запальнічак — пашкуматаны жыццём хлапчына). Russkaja (rashn vodka) — рэклама разам з іншымі.

Калізей амаль разабралі (царква Пятра і інш.), абадралі мармуровыя пліты, і палоўны, напалавінны, абадраны, абрабаваны ўражвае сваёй вольнараўнай веліччу.

*12 верасня, субота*

Трывожна спіцца. Раніца чуйная. Грыміць машынамі, пачынае рана гарланіць.

На скамеечцы маладая блядэра спіць на сваім партнёры.

Турысты вылупліваюцца са спальных мяхоў, як зялёныя кураняты (чорныя галовы).

Кавалкі сцяны villa Баргезэ[4]. Цібр. Плошча Народа[5], стэла з Егіпта, абеліск.

Плошча Іспаніі, царква святога Афона. Цыганка мые рукі з фантана; вуліца Бабуіна, цуг фурманак. Трыніта дэі Монці [царква св. Троіцы], кафэ Грэка[6] Гогаля. Траву з капронавых мяхоў. Капітан паліцэйскі ў пальчатках.

---

[1] Калізей, помнік старажытнарымскай архітэктуры (75–80 да н. э.).

[2] Гусоўскі Мікола (1470 [?]–1533 [?]), паэт і асветнік эпохі Адраджэння, прадстаўнік навалацінскай усходнееўрапейскай школы. Ураджэнец Беларусі. Гл.: Успамін пра Міколу Гусоўскага (15.01.83, Каралішчавічы) // Выбр. тв.: У 2-х т. Т. 2. С. 318.

[3] Форум (Раманум; VI ст. да н. э.). Гл.: Рымскі эцюд (16.12.86) // Міласэрнасць плахі. С. 126.

[4] Віла Баргезэ — ландшафтны парк у Рыме.

[5] Плошча Народа — Piazza del Popolo — атрымала назву з-за таполяў, якія там раслі. У лацінскай мове словы *таполя* і *народ* — сінонімы. На плошчы ўзвышаецца 36-метровы егіпетскі абеліск, надпісы на якім усхваляюць дзяянні фараона Рамсеса II (1317–1251 да н. э.).

[6] «Анціка кафэ Грэка», якое любіў наведваць М. Гогаль. *Гогаль* Мікалай Васільевіч (1809–1852), рускі пісьменнік.

Царква св. Марыі Цудатворнай. Скульптура Берніні[1]. Караваджа[2] «Зняцце Хрыста». Электрычныя свечкі, кнопкі. [Царква] Санта Марыя дэль Конуле. Спавядаюць цыганкі каля сабораў. Палац Юстыцыі. Маўзалей Аўгуста[3], св. Анёла[4]. Мост, статуі Берніні. Царква святога Пятра (у Калізея). Pieta[5] Мікеланджэла, падпісаўся як аўтар. Дзева Марыя. Магіла [св.] Пятра. Купал Мікеланджэла, вокны, святло рыз. Прастол работы Мікеланджэла. Мост працы Берніні, стадыён, фантан Берніні. Па сцяне каханка Бароніі [?]. Piazza Navona [плошча Навона]. Рэшткі рэспубліканскай калоны[6], як [абгаркі ?] калоны, рэшткі сцяны храма [?] Калізея, тэатра Марцэла[7] (камні Калізея). Санта Марыя (VI ст.). Губы праўды (калі хлусяць — укусіць).

Рэшткі сцен старога Рыма, як міраж пустыні, і зеляніна плямак есць сцены. Узгорак Aventin[8], царква XII ст. «Можна чуць смех апельсінаў[9]», — сказала гід, у сэнсе пах!

Голас званоў перабівае машыны — свой голас Пётр падае. Мутназялёны Цібр. А Цібр цячэ. З падручнікаў гісторыі.

Basilika s. Sabina XII в. [галоўная царква ордэна дамініканцаў]. Тэрмы Геракла[10]. Рэшткі тэатра. Пачатак старой дарогі Via Apea [Апіевай]. Храм вясталак[11]. Фантан Тартаруге — чарапах[12]. Прыжмураныя вочы вулак. Змярканне. Палац і плошча Фарнэзе[13], герцаг Фарнэзе, фасад Мікеланджэла.

---

[1] Берніні Ларэнца (1598–1680), італьянскі архітэктар і скульптар.

[2] Караваджа (сапр. Мерызі) Мікеланджэла дэ (1573–1610), італьянскі мастак.

[3] Аўгуст (да 27 да н. э. Актавіан; 63 да н. э.–14 н. э.), рымскі імператар (з 27 да н. э).

[4] Замак св. Анёла, будаваўся з 123 г. да н. э.; пазней маўзалей рымскага імператара Адрыяна (76–138).

[5] Pieta — сцэна аплаквання Хрыста (1499), адзіная праца, якую падпісаў Мікеланджэла, выбіўшы подпіс на перавязі Мадонны.

[6] Калона Марка Аўрэлія Антаніна (121–180), рымскага імператара (з 161) на плошчы Калоны.

[7] Тэатр Марцэла, пабудаваны ў гонар пляменніка рымскага імператара Актавіяна Аўгуста.

[8] Авенцін — адзін з сямі ўзгоркаў, на якіх паўстаў Рым.

[9] Гл.: Смех апельсінаў (29.01.83, Каралішчавічы) // Выбр. тв. : У 2-х т. Т. 2. С. 318. Верш прысвечаны К. Салівецкі (Салівецці).

[10] Тэрмы Каракаллы (грамадскія тэрмальныя бані). Каракалла Септымій Басцян (186–217), рымскі імператар (з 211). Пры раскопках XVI ст. у тэрмах былі знойдзены і дзве скульптуры Геракла.

[11] Храм Весты — багіні хатняга ачага і агменю, і дом вясталак — яе жрыц (каля III ст.).

[12] Фантан Чарапах (1580–1588) італьянскага скульптара Тадэа Ландзіні (1561–1596) па праекту архітэктара Джакама дэла Порта (1532–1602).

[13] Будаўніцтва палаца па праекту Мікеланджэла было распачата Алесандра Фарнэзе, герцагам Пармскім, будучым Папам Рымскім Паўлам III (у 1534–1549).

Farnese, trans Tiber [рака Цібр]. І плечы голыя смуглеюць удалечыні бессаромныя, як статуі з калон. Як атланты змроку. Неонаў рэклама. Смех апельсінаў. Супраць правіл руху [ездзяць]. Па інтуіцыі.

[Адрас:] Carla Solivetti[1]. Via Oslavia, 12, 00195 Roma; Nicoletta Misler[2]. Via Col di Lana, 4, 20122 Milano.

*13 верасня, нядзеля*

Апошняя ранняя раніца ў Рыме. Сёння на самалёт. Нядзеля. Горад яшчэ спіць (па-рымскі толькі нецярплівыя цяжкія машыны некуды спяшаюцца). Не спалася. Баяўся праспаць. Пабудзіў Дзмітро [Паўлычка]: «Пойдзем у самую старадаўшчыну!»

Forum Traiano [Траяна], Канстанцін[3]. Рамізнікі каля Эмануіла[4], цэлы цуг, цокат капытоў. Малюнкі першых хрысціян, у зямлі, дзе царква. Вальер [неразб. 2], *ваўчыцы* сядзелі (*вячыцца*). Рымскі Сенат [Палац сенатараў (1573–1605)] (па гадзінніку Эгізія) [па праекту] Мікеланджэла. Прачынаюцца званы.

Плавінскі пагорак. Званы, і сонца расце, хутка ўзыходзіць. Званы велічаюць сонца[5]. Капіталійскі ўзгорак, пініі. Далей чолы сабораў і негрыцянкі-пальмы. Piazza de Trevi [плошча дэ Трэві]. Манеткі кідаў у фантан[6].

Калі не адчуеш урэшце ног — адчуеш, як выраслі крылы ў Рыме, і ўзнясешся[7]. Як упаў Рым, Млечны Шлях, як пыл.

Памёр Мантале[8].

У пальмы негрыцянская прычоска. Піраміда напалову за рысай горада. Пініі зялёную даланю над галавой [трымаюць], бо сонца напякло. Сонца над Рымам, як агністая кропка клічніка радасці пад пахвалу і ўхвалу званоў.

---

[1] Салівецці Карла Марыя, італьянскі літаратуразнавец, выкладчык; прафесар мовы, літаратуры і замежнай культуры Рымскага ўніверсітэта.

[2] Міслер Нікалетта (н. 1946), італьянскі мастацтвазнавец, выкладчык, даследчык рускага авангарду, сучаснага мастацтва Усходняй Еўропы і Італіі.

[3] Архітэктурны ансамбль (106–112), якім быў уражаны рымскі імператар Канстанцы II (317–361; імп. у 337–361), асабліва коннай статуяй рымскага імператара Траяна (53–117; імп. з 98).

[4] Помнік Віктару Эмануілу II (1820–1878), каралю Сардзінскага каралеўства (1849–1861) і першаму каралю аб'яднанай Італіі (з 1861).

[5] Гл.: Клічнікі радасці (29.01.83, Каралішчавічы) // Выбр. тв. : У 2-х т. Т. 2. С. 320.

[6] Плошча са знакамітым фантанам (1732–1762) італьянскага архітэктара Нікала Сальві (1697–1751). Гл.: Раніца (19.02.84) // Тамсама. С. 322.

[7] Гл.: На вышыні ўзнесенасці (31.01.83, Каралішчавічы) // Тамсама. С. 319.

[8] Мантале Эўджэніа (1896–1981), італьянскі паэт, крытык. Лаўрэат Нобелеўскай прэміі (1975).

Мусаліні[1] па старым горадзе праклаў дарогу ля Калізея па касцях старажытнага Рыма. Увёў ваўчыцу, якая жыла ў клетцы. Пратэсты, Таварыства аховы жывёл дабілася забароны. Зараз кошкі смела [ходзяць].

Падаць гэтак, як падаў Рым, — у яго свету й сёння ад пылу светла. *Профіль рымскі да апошняй рыскі*. Балотныя квакеры.

* У самалёце малы шумны, тлумачыць італьянцам: «Мы ездзілі да бабулі. Мама яўрэйка, бацька італьянец, а мы рускія».

Хто ў Крым, хто ў Рым,
А я — дадому[2].

Жаданне зірнуць на Рым
Ныла, як той нарыў.

*22 верасня, аўторак*

19.15 — уздымаемся ў паветра. Курс на Уладзівасток. Павінны быць праз 8 гадзін, калі верыць сцюардэсе. Саша Дракахруст, Някляеў і я рабілі:

На чело надвинул ореол,
Взором перепёлки мир окинув,
Солнцем над планетою взошёл
Утро нашей родины — Чигринов.

2.50. Сонца поўна. Падлятаем да Уладзівастока. У загонах сопак табуны аблокаў, вырываюцца часам у цясніну і вольна бялеюць на хрыбтах сопак жоўтыя лісіцы, бурыя лісіцы вераснёвых дрэў. *Плыўкі і сойкі, сопкі*.

*Уладзік*! Дзень добры! Пазнаваў вуліцы, пазнаў адразу пах, канверты па-ранейшаму акіян заклейвае. На захадзе сонца стракозы мак таўкуць.

*24 верасня, чацвер*

Прыпар сваё адгрымеў, адпаліў,
І прачынаецца доўга заліў
У вераснёўскай грымоце.

Пацягваюцца косці кранаў, склыгочуць, і чайкі…

Крайком. (Ламакін В. П.): «Ён краем называецца, бо ён на краі. Мех, якія абмые мора ≈ 5 тыс. кв. км мяжы, 2 млн насельніцтва, самы заселены, да 1959 года ўся зямля вайскоўцам. Краявы цэнтр, ва Усурыйск [прыляцеў] Хрушчоў: «У вас край на паралелі Крыма, а даўжыня калымская, як Сан-Францыска». Сан-Францыска пабудавалі [б], не хапае часу. 85 % нулявых

---

[1] Муссаліні Беніта (1883–1945), фашысцкі дыктатар Італіі (1922–1943).
[2] Працяг — верш 1989 г. (у зборніках не друкаваўся).

работ у скале. 48 % вытворчасці рыбная прамысловасць. 98 % [здабычы] усяго селядца. Флот ≈ 3 тысячы суднаў, плыўзаводы. 600–700 чалавек па 6–7 месяцаў ў моры. Кітабойны промысел закончаны. Штодня ў моры 100 тыс. чалавек. Менш 350-ці суднаў у бухце не бывае. У Прымор'і сударамонт, а ў Хабараўскім краі судабудаўніцтва.

Каляровая металургія. Горназдабываецца волава, вальфрам. У вайну кожную 5-ю кулю даваў наш камбінат. Волава багата, асабліва калі адмовілі Кітай і Інданезія. Вальфрам — увесь прырост за кошт Прымор'я. 86 % усіх пораўтым. [?] прадуктаў, 85 % плавікавы шпат. Дрэваапрацоўка нязначная. Вугаль на ўласныя патрэбы. Піяна [?], кілімы, фарфор. Унікальнае месца на [?] фарфоравага каменя павышанай белаты.

Транспарт. Уладзівасток горад, а далей неба дошкамі забіта і мокрыя справы. Авія, чыгунка. Марскі транспарт. Два параходствы. 80 % усяго марскога на Прымор'е. Усё лета падпарадкавана Арктыцы.

Сельскагаспадарчая зона няўстойлівага земляробства. Зерне амаль нічога [не вырошчваюць], толькі каб не згубіць традыцыі. Аснова рыс. Ураджайнасць рыса невысокая. Самы рэнтабельны рыс [на] суглінку. 100 % вільгаць. Непраходная гліна, за кошт госпада бога эканомія на вадзе.

Футравіна. Кожная 7-я шкурка норкі ў краі, 12 расфарбовак норкі. Жэнь-шэнь — адзіны ў краіне. 1 грам у год. Нат]уральны] толькі ў засені плантацыі да 28 га. На экспарт і сабе плямістыя алені — пантакрын [дабываюць з рагоў]. Соя, шмат валынкі, хто каго мучае — мы яе ці яна нас? Кавуны выспяваюць. А ўборка — цяжкасць, у маі 3 дні без дажджоў, чэрвень — 4 дні. Ні трамваі, ні тралейбусы не хадзілі — так ліло. Бульба ўся ў вадзе, узяць нельга.

12 ВНУ па краі. Інстытут мастацтва, бытавога абслугоўвання, гандлю. ≈ 5 тыс. вучоных аддзялення АН, усё [звязана] з морам, акіянам. 80 тыс. рыбакоў, а ДК няма.

Цяжкасць — засяленне краю. Не мы далёка ад Масквы, а яна ад нас далёка. Раней, каб адзін застаўся, трэба было [прыехаць] двум, а цяпер, каб застаўся жыць адзін, трэба, каб прыехала 22. Узровень жылля нізкі. Адпачынак малы, грошай мала, зарплата невысокая. Сярэдняя зарплата 206 рублей. Трэба ствараць прыток насельніцтва. Народ у нас цярплівы, не ные, не плача, а заные — едзе.

З Кітаем звычайнае пагранічнае жыццё як з самымі нядобрымі суседзямі, ср.ка аб ср.ку — дружба розна. Газета шматок — прама фарамі машына — пражэктарамі. Шмат перабежчыкаў. Іх сартыруюць, часта назад [адпраўляюць], а там пад нока]ць ?], каго судзім (шпіёны).

Пагранічны і прыбярэжны гандаль з Японіяй. З Кітаем мала. Крыху з Карэяй (лес карэйцы нарыхтоўваюць). 70 % рускіх, пасля ўкраінцы.

Край на першым месцы па колькасці рабочай сілы, і далей усе ≈ 60 нацыянальнасцей. З Беларусі Харол — у нас Хароль.

Мала прэснай вады (самая моцная гарэлка ў Прымор'і, бо няма чым разводзіць). Вады шмат, а піць няма чаго. Пад зямлёй няма грунтавых водаў. За кошт водасховішча. Астраў Ханка трэць [вады бярэ] у Кітаі. Таму толькі для арашэння ваду можна браць.

Край на 1-м месцы па колькасці рабочай моладзі (людзі да 30-ці). Нараджальнасць 17–18 чалавек на 1000. Пасля 1959 года прыток насельніцтва зменшыўся (Даманскі[1]). Перасяленцы раней шмат [былі] з Беларусі. «Лепей будзем сядзець у сваёй турме». *Падводнікі — калоднікі.*

*25 верасня, пятніца*

*Анатолю Вялюгіну*

Тут кран,
як сенненскі буцян.
Шчадрэе ўловам жменя трала.
Вітае Ціхі акіян
бунтоўнейшага Адмірала!

*Ранішняе*

Сузор'і караблёў
У сцішаным заліве.
Ўладзівасток яшчэ
Глядзіць апошні сон.
І вецер рукі звёў
У ранішнім парыве,
І ліставей цячэ,
Цяпер яго сезон.

*

На ратным полі —
На аратайным,
На бульбяным
Подзвіг Мароза.

База тралавага і рэфрыжэратарнага флоту. Піянерская флатылія, марская форма, статут і 13 спецыяльнасцей. Раніцай у школе, пасля тут і наадварот. Яны ходзяць на парады і дэманстрацыі. Прыбытак ≈ 80 мільёнаў. 59–60 судоў у год за мяжой.

---

[1] Востраў Даманскі, з-за якога ўзнік узброены канфлікт паміж КНР і СССР (1969).

[Чыгуначная станцыя] *Мыс Чуркін*. МРС [малы рыбалоўны сейнер], Мемарыял марской славы. «В честь трудового героизма и доблести рыбаков Приморья». Сакратар: «У рыбе не разбіраемся, а ў сельскай гаспадарцы разумець пачалі».

Сазваніўся з Мінскам — чуць лепей, чым суседа.

*26 верасня, субота*

*Навуму Кісліку — імяніннiку*
*(тэлеграма)*

Пока ты спал, мы на краю земли
Твой светлый день приветствовать смогли.
И Тихий океан, как трезвый кум,
Просил нас кланяться тебе, Наум!

*Рыгор, Саша [Дракахруст]*

Век зжыць — не мех сшыць. У заліве корушку [ловяць] на паралон.

Ст. лейтэнант-пагранічнік выступае і ў ліку першых называе прозвішча Васіля Быкава. Гардэроб. Марскія фуражкі стужкамі ўніз, як сарокібелабокі вісяць.

Маладзёны ля помніка. Маладая. Малады капітан (афіцэр; матрос за шафера; белы пояс праз плячо), шаферка дзяўчынка няўклюдная. Хутчэй не афіцэр, а матрос (чорны гарнітур), другі матрос фатаграфуе.

25 судоў Уладзівастока не вярнуліся ў гавань у час гэтай вайны. «Кузнец лесов» патоплены ў снежні 1942 года ў Баранцавым моры, загінула 9 чалавек. «Ільмен», «Кола». Капелюшок, Шманаў О. Т., цесля. «Белоруссия» (Шамякін, Брыль [?]), патоплены 3 сакавіка 1944 г. у Ахоцкім моры.

Паездка па горадзе. Адсталі з Бронікам [Спрынчанам]. Міліцыя паранейшаму добрая. Аддалі свой аўтобус, каб дагнаў наш цуг. Ганебнае падарожжа ў ЦУМ, усё тое самае, што і ўдзень, але пасля закрыцця на пасмешышча бічам і мяшчанам.

Званіў у Мінск з пакою ў гасцініцы, які злучаў каленькі Ніксана[1] ў свой час.

[Адрасы:] г. Владивосток, пр-т 100-летия Владивостока, д. 11, кв. 57. Брэдэ Ирина (паслаць верш «Порт»); г. Москва, Ленинский пр-т, д.75/9, кв. 50. И. А. Колос.

«Як я іграў немца ў п’есе Сіманава».

---

[1] Ніксан Рычард Мілхаўз (1913–1994), прэзідэнт ЗША (1968–1974).

*27 верасня, нядзеля*

Вуліцы па-нядзельнаму спяць. Біч з сумачкай правярае сметныя скрынкі, ці няма тары — падаражэла. За вітрынай «Минутки» сядзіць дагледжаная кашара.

Ільдзінкі хваль і хвалі чаек.

У падводнікаў капітан 1 рангу 26 месц памяняў (толькі пабеліць кожную [?]).

— А колькі жонак?

— Другая. Першая адмовілася ехаць на Сахалін.

«Опасность и начало всех беспорядков исходит из привычки обсуждать полученные приказания» — С. О. Макаров[1].

Тыгры і ўсе звяры таёжныя — людзі мясцовыя.

На сцяне «Дні парадна-асабістага саставу роты» (вучэбная рота).

Камікадзе — (боскі вецер), Чынгісхан (лодкі, дошкі). Бахайская дзяржава[2], цэнтр у Чугуеўцы. IV в. н. э. Прафесар Акладнікаў[3]. Чынгісхан[4] разбурыў і людзей знішчыў.

0,75 сек. Радыёразмова. Удавічэнка Мікалай Данілавіч, капітан 1 рангу. Псіхалабараторыя. Метады: апаратныя (вокамер, заканамернасці, лічбы з пераключэннем памяці, увага, рэакцыя, аператыўная памяць).

На вакзале міліцыя гоніць усіх.

*28 верасня, панядзелак*

*г. Чугуеўка*. Ёсць 30 сотак палі, лапікі між сопак, 370 кузлачкоў у раёне.

Дзеці садзіка са сцяжкамі. Дзед у гіджы [?] ў сяле Извилинка [?], Касьянік — сын першага перасяленца. Першыя прыходцы лепшыя кавалкі [зямлі пабралі], наступныя — горшыя ўзялі.

«Саўгас «Далінны». 1,5 млн куб. м у год нарыхтоўкі. Толькі хвойная драўніна па вадзе [сплаўляецца], а так біржы ўвялі. Арэхапрамысловыя зоны. Ціхія зоны, дзе можна дазволіць прыродзе самаўзнаўляцца. Шырыня крымская і даўжыня калымская. Клімат больш кантынентальны,$-47^0$ $\approx +40^0$, 70 % вільгаць. Тэрыторыя раёна вызначаецца працягласцю дарог і рэк. Басейн і вяршыня Усуры. Год склаўся цяжкі, але ён рэдка калі бывае лёгкі. Раён 29 тыс. чалавек, рабклас 13 тыс. У Чугуеўцы 9 тыс., а па сель-

---

[1] Макараў Сцяпан Осіпавіч (1848]49–1904), рускі флатаводзец, акеанограф, віцэ-адмірал.

[2] Бахайская дзяржава — раннефеадальная дзяржава Бахай у Паўночна-Усходняй Азіі. Узнікла ў пачатку VIII ст., у 926 г. заваявана кіданямі.

[3] Акладнікаў Аляксандр Паўлавіч (1908–1981), рускі археолаг, гісторык, этнограф. Акадэмік АН СССР (1968). Герой Сацыялістычнай Працы (1978). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1950, 1973).

[4] Чынгісхан (Тэмуджын, Тэмучын; каля 1155–1227), заснавальнік і вялікі хан Мангольскай імперыі (з 1206), арганізатар захопніцкіх паходаў супраць народаў Азіі і Усходняй Еўропы.

савету 10 тыс.», — Ашыпін Анатоль Аляксандравіч, першы сакратар РК партыіі.

Анкета Фадзеева[1] (1920 г.): «23. Какую часть дня отдаёт и может отдать партийной работе? — Весь день».

Выпускнікі [школы] па-геройску загінулі — Бадзюк і Лапік.

У 50-м годзе [Фадзееў] школьнікаў да сябе [запрасіў]. Дырэктар: «Аўтарытэт школы Фадзееў». На заробленыя школьнікамі грошы ў двары школы помнік Фадзеева. Забылі сябры і ўсе, і помняць адны следапыты. Маладая памяць яшчэ не жорсткая. Дзеці перапісваюцца з сябрамі, з сястрой. Алена Анатольеўна Баршчэўская, класная кіраўніца Фадзеева (пісаў вершы, лозунгі, акуратны), і яе дзеці не забылі. Відаць, з беларусаў.

Выступленні дзяцей канкрэтней, чым канферэнцыя, называюць пісьменнікаў, якія былі, Неміровіча[2] прапускаюць — відаць, а [пропуск]. Бердыназар[3]: «Мы хлапчукамі прасіліся ў конніцу — думалі схапіць галаву Гітлера і перадаць яе таварышу Сталіну».

Ада Сяргееўна Лазо: «Бацьку[4] не помню, было адзін год, але было многа сяброў, якія словам «таварыш» [даражылі], маці многа расказвала. Лазо з 13-ці год вёў дзённік».

Міхаіл, сын Фадзеева («пылінкі металу чорныя ў сэрцы бацькі, як у сталевараў на твары»), ружжо перадае музею, перахоплівае Озераў і перадае дырэктару.

[Адрас:] г. Москва, Университетский пр-т, д. 6]4, кв. 43. Ришина[5] Ира.

*29 верасня, аўторак*

*г. Усурыйск.* Камароўка — рака маладосці. Сябра Фадзеева тлумачыў (нейкі плашчык, у мяне фуфайка). Паляць сухі ліст, іней ад дыму знікае. Вагон 40 чалавек, 80 коней, ставень, светлы ад інею. Фантан, а зверху бюст рыбы. Лейтэнанты, туманы.

*с. Раздольнае*. Парк Будзённага. Рынак, як ва Ушачах пры вакзале. Вядро бульбы 5 руб., агуркі салёныя, варынец [неразб. 2] 35.

«Ты меня родиной не пугай!»

Хлеб, кнігі, магазін. *Кавыль ці белыя пер'і згубілі аблокі?*

---

[1] Фадзееў Аляксандр Аляксандравіч (1901–1956), рускі пісьменнік. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1946).

[2] Неміровіч-Данчанка Уладзімір Іванавіч (1858–1943), рускі рэжысёр. Народны артыст СССР (1936). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі (1942, 1943).

[3] Худайназараў Бердыназар (1927–2001), туркменскі паэт, празаік, драматург. Народны пісьменнік ТССР (1984).

[4] Лазо Сяргей Георгіевіч (1894–1920), адзін з кіраўнікоў барацьбы за савецкую ўладу ў Сібіры і Прымор'і. Герой Грамадзянскай вайны. Замучаны японскімі інтэрвентамі.

[5] Рышына Ірына Ісакаўна (н. 1936), рускі журналіст, публіцыст.

Дырэктар мясакамбіната: «Бык-правакатар 15 год працуе. А я 5 год. Жанчын прыгожых няма, бывае толькі гарэлкі мала. Калі з сабой не прывязеш, у нас ворагаў не знойдзеш». Патапейка.

Геалагічнае ўпраўленне. *Ракушкі — гадзіннікі геалогіі.*

Гандлёвы порт, пагрузачна-разгрузачныя работы, стаянкі караблёў, вадапаліва. Портфлот вялікі, па традыцыі замацованы [за] Камчаткай, і адпаведна ўся гэтая лінія. Круглы год праца. Летам Усходняя Арктыка і Чукотка. Ужо закрылася навігацыя, ідзе зіма.

Экспарт — імпарт. Японія (лес). Імпарт — Куба (цукровы сырэц). Аўстралія, Амерыка (зерне), Японія (абсталяванне, трубы ўсіх дыяметраў, цалкам хімзаводы), В'етнам (туды прадукты, падчас тэхніка, адтуль цытрусавыя), 5 рэфрыжэратараў. Калектыў 5,5 тыс., пакуль праца докераў цяжкая, таму купляюць тэхніку за мяжой, кантэйнерызацыя грузаў па міжнародных стандартах. Пакетызацыя грузаў.

Новыя судны тыпу «Raro», баржа-буксірныя саставы, пры перавозцы лесу, прымяненне судоў-балкераў. Кантэйнерны тэрмінал. Будзе база налета для ліхцерных правозаў на Арктыку. У докераў сярэдні заробак звыш 400 руб. (ёсць і 600). Цякучасць, на першым месцы жыллё, пасля цяжкая праца і затым заробак.

Док на мёртвых якарах (12) трымаецца. Карабель, як з ванны [падымаюць], суха, каб рамантаваць. Сударамонтнікі, якія аддалі жыццё за Радзіму (1941–1945). Прафілакторый на караблі заякараным, за год 3 караблі, за кошт эканоміі здароўя.

Міхаіл Аляксандравіч Дардыкін. Уладзіць суднарамонтны завод ВСРЗДВМП [?], 15 год у р. Калумбіі. Па беламу пяску чайкі і дзеці. «Чаму яны іх не ядуць? Дзесяць год а палове шостай дамоў ад'язджаю». У воку цыклона карабель, як парушынка. Нібы прыглушаны шторм за сталом былы. Карабель 1900 г. «Вялікі Ноўгарад» (нарвежскай фірмы). «Я нават са Сталіным быў не згодзен». Усіх правярае на любоў да мора, да Уладзівастока. «У гэтага судна добры характар», — па гуку вызначае.

[Адрас:] г. Владивосток, ул. Лесная, д. 6, кв. 54. Шангинова[1] Светлана Александровна. Фрунзенский РК КПСС, отдел пропаганды и агитации.

*30 верасня, серада*

Уладзівасток. Параход «Аляксандр Фадзееў», галоўнае судна з серыі кантэйнеравозаў, перадавое судна ў флоце. Зараз ідзе змена экіпажа, капітан Магілян (1937 г., ва Улан-Удэ нарадзіўся), быў капітанам «Брэста». [Мае] 2 сыны, унука і, зразумела, жонку.

«Адмирал Октябрыкин», на волю ў пампасы!»

---

[1] Гл.: Разбураны санет (4.06.82) // Амплітуда смеласці. С. 37.

Флот увасабляе тэхнічную магутнасць краіны. Б'е гармата 12 гадзін, і час напамінае стрэл, каб помнілі, каб не забывалі, што ў любы момант можа быць стрэл рашучы.

Начны Уладзівасток[1] з карабля, як схема электрычнасці.

Салодкае насланнё,
Пасланае богам.

Вера, Надзея, Любоў —
Тры дарагія імі
Я паўтараю зноў,
Ускалыханы імі.
Ён не на трох кітах,
Свет наш апору мае.

Мора,
Дарога,
Жанчына…

*1 кастрычніка, чацвер*

5.30 (па адагнанаму на гадзіну ўладзівастокскаму часу). Ідзем на Находку. Карабель спіць (у сэнсе пасажыры), а хвалі так і не клаліся. Узбіваюць бландзіністыя прычоскі. Абапал асветлены праспект з суднаў. Астравок з сілуэтам лакатара.

Падыходзім да Находкі (такая нагодка!). Краны робяць ранішнюю фіззарадку. Павук металічны снуе ўжо знізу-ўгору. Грукат правярае сам сябе на слых. Наш «Хабараўск» хрыпла гукае бераг. Прывязваюць на вяроўку, досыць гуляць. Буксір, увешаны медалямі былых пакрышак, штурхае да берага.

г. і порт *Находка!* 6.00. Будынак вакзала. Правей тупалобая, на дот падобная скала. Майна! І маты на беразе цягнуць канат. Па такіх жа змрочных водах везлі, толькі не ў каютах, нашых хлопцаў у 30-х (крывавых). «Што мы, бульдозер?» — мат партавікоў. Прывітанне, Расія!

Мы прышвартаваны. Буксір «Капитан Веронд», нейкі маленькі, ураз адыходзіць ад нас, горды і пакрыўджаны. Побач «Die Lorelei», на беразе ля борта адборны лес — [неразб. 4] і ваяваць не трэба. Консуліха ў гаркама.

Сопка Сястра нагадвае жаночыя грудзі. Экскурсавод: «Ад вялікай любові да людзей памёр дырэктар завода». Какое постепенное умирание природы.

Электронная сістэма ўпраўлення рухам суднаў (200 млн долараў амерыканскіх).

---

[1] Гл.: Развітанне з Уладзівастокам (30.09.81, Уладзівасток) // Амплітуда смеласці. С. 36.

«У яго кулак, што мая галава. У адной руцэ нясе сцяг».

Плошча Якараў. «Лупят по крышам, пока ветер без сучков».

2000 судоў, чвэрць замежных. Плошча Паўнагоддзя. Кафэ «Надзея», з былога судна. «Зверобой» — рабочая шхуна.

Находка ахінулася дажджом
Да самых — як відаць, далёкіх сопак.

Порт «Усходні» (з 1971 г. будуецца). Новы порт Находкі, фактычна самастойны, усходнія вароты БАМа. Яшчэ, бывае, мядзведзі заблудзяцца. Шмат забайкальскіх камсамольцаў, якія будуюць порт. Рака Сучан, даліна Сучан. У дыме сопка Сястра, Брату галаву зрэзалі, лёг галавой у аснову дарог і будоў на жвір. Над Сястрой маладзік-пляменнік, і Брат у калючым дроце агнёў кар'ера. Находкінскі праспект 38 км.

*2 кастрычніка, пятніца*

Уладзівасток. Зноў наш «Хабараўск» прывалок нас ва Уладзік! Сонца вітала нас з-за сопкі. Збірае — на бераг. 9.30, радыё ў Маскве — 2.30 начы. Усё пераблыталася[1]. Уладзівасток (радыё): «Вільгаць 100 %, тэмпература +10°. Магчымы дождж».

Амур. Якуція — ахвяра грамадскага тэмпераменту: «Не баюся міністра культуры, а баюся культуры міністра».

Ракі халодная змяя,
Абапал сціснутая лёдам.
Чакае завірух руя,
Тайгу трымае нейкі одум.

*16 кастрычніка, пятніца*

Намеснік міністра чытае адрас Віталю Вольскаму[2] і між іншым: «Ведаем Вас як буйнага літаратуразнаўца», — а чуваць як *буйвала*.

*** Кастрычнік, досвітак — восень у неразношаных, схохлых туфлях ідзе па асфальце.

*Узрост сярэдні нашых гарадоў склаў гонар для сталіц Еўропы.*

Як яшчэ не зрушыліся зоры, нябесныя свяцілы, па якіх арыентуючыся, усяго столькі пазнішчалі.

Ранішні трамвай. На выхадзе здаровы дзядзька.

— Выходзіце? — пытае затузаная эмансіпірваная будаўніца будучыні.

— Ага.

---

[1] Гл.: «Хто з вас, каб з часу зусім не збіцца?..» (16.05.82) // Амплітуда смеласці. С. 58.

[2] Вольскі Віталь (сапр. Зэйдэль-Вольскі Віталій Фрыдрыхавіч; 1901–1988), беларускі драматург, літаратуразнавец, нарысіст. Кандыдат філалагічных навук. Заслужаны дзеяч культуры БССР (1971).

Усе выходзяць, ён стаіць, [неразб. 2].

— Стаіць як таўкач. (!)

Дзе той таўкач, таўчы няма чаго. А сіла прыказкі вяртае да вясковых, да хатніх асацыяцый.

*Салдацкая трава тысячалістнік, ён тысячай лістоў гатовы ад бяды [уратаваць], смерці ненавіснік*.

*Працаўнікі сціла — працаўнікам сяла.*

Свалеватая бяроза — чачотка?

*31 кастрычніка, субота*

Васіль Быкаў (на сустрэчы з балгарамі, Б[еларускі] педінстытут): «Балгары нам замянілі родных, бо ў 44-м годзе толькі вызвалялася Беларусь».

Май 45-га года на Віташы Васіль Быкаў: «З балгаркай на Віташ падымаліся амаль увесь дзень і на спуск часу не засталося, і мы засталіся начаваць. Тост за Віташ!»

*** За чысціню расы́, за ра́су.

[Адрас:] г. София, ул. Ангел Кънчев, 5. СБП. Георги Борисов[1].

Ігар Гермянчук[2], ул. Каліноўскага, 79, кв. 50. Вадзім Грыцкевіч, т. 66-18-43.

*4 лістапада, серада*

*Андрэю Дзяменцьеву*
*з нагоды прэміі*
*Ленінскага камсамола*

Свои в поэзии Пеле[3],
У мастерства крутая школа.
Прекрасен на твоём челе
Венок лавровый Комсомола.
Тебя поёт бескрайний край,
Любовью не закомплементьев.
Усталой старости не знай,
Как сердце «Юности»,
Дементьев.

---

[1] Барысаў Георгій (н. 1950), балгарскі паэт, празаік, перакладчык, эсэіст.

[2] Гермянчук Ігар Іванавіч (1961–2002), беларускі журналіст і грамадскі дзеяч.

[3] Пеле (сапр. Эдсан Аранціс ду Насіменту; н. 1940), бразільскі футбаліст. Чэмпіён міра (1958, 1962, 1970). Лепшы футбаліст XX ст. (2000).

*г. Салігорск.* Хор школьнікаў. На сцэне партрэт Казлова[1] В. І. (1903–1967). Маленькая падыходзіць да мікрафона і апускае яго, нібы бярэ арэх ці ягаду з галіны. На сцэну выклікаюць былых выкладчыкаў, прымаюць у ганаровыя піянеры. Настаўніца: «Што думалі Вы, Ефрасіння Яфімаўна, нага ў нагу ідучы са сваім гераічным мужам?» — (па-руску), і зноў чытае свае вершы.

Тарасевіч — партызан з атрада асабістай аховы Казлова: «У галоўныя гады вайны. Ішоў са школы атрымаць атэстат, [бачу] будан, 5 чалавек. Адзін [з іх] быў Казлоў. Правёў праз балота. За гэта Васіль Іванавіч даў 100 руб., а ў 42-м годзе паўшоў у партызаны. Васіль Іванавіч любіў людзей. Луфераў, начальнік аховы, прымушаў усіх людзей адганяць і з усіх бакоў ставіў ахову. Калі прыляталі з Вялікай зямлі, кожнаму ці пячэнне, ці тытунь, ці кнігу, ці [неразб. 1]. Я не курыў, і мне заўсёды тытунь. Я аддаваў, а мяне лаялі, чаму не мне».

* * *

З рамантыкай, з праматою
Выходзяць з лясоў гады
Раматусам, ламатою.
Шукаюць гады брады.

На чорных рэках нябыту
Шалеюць люцей віры.
І з лапак будан забыты,
Рукаў барсуковай нары, —

Яны пра сябе нагадаюць,
Бо ўладу маюць яшчэ,
З галінкі расы нагайдаюць,
Што золлю душу апячэ.

Здаўжэлымі вечарамі
Вяртаюцца зімы з лясоў, —
І зябне, і пот выцірае,
І кратае снег валасоў,

І ў нерасстраляным лесе
Юнак заступае ў дазор,
І думка азяблая лезе,
Як пальцы пагрэць ля зор…

[1] Казлоў Васіль Іванавіч (1906–1967), беларускі дзяржаўны і палітычны дзеяч. Герой Савецкага Саюза (1942), генерал-маёр (1943). Гл.: Вуліца бацькі (27.11.83) // Маўчанне перуна. С. 106.

Не мірыцца з цішай нямою
Дагэтуль апошні бой.
І ў дні маладыя няўмольна
Вяртае ўспаміны боль…

*30 лістапада 1981, Каралішчавічы*

*5 лістапада, чацвер*

*Вадзіму Кузняцову*

Отметив первых сорок пять,
Люби, не думай в шапку спать.
И через сорок пять, Вадим,
Будь так же всем необходим!

*** Жонка Машары[1] ў выдавецтве: «Вы таксама такі кідкі, усё спяшаецеся?»

Каралішчавічы. Вера Якаўлеўна: «Ён куды *адвіхнецца*». Крышыць белы хлеб сініцам: «Сойкі — куры гэтыя, а сінічкі пражорлівыя, як кураняткі».

Псіхалагічная прастора. Скученность скуки. «Новый Гиперборей»[2], чатыры сшыткі і ўсе № 1 [1921] (радасць для бібліяфілаў).

Лабанок у БелОКСе перад кубінцамі, сціплы, нетаропкі, без паперкі, расказвае пра рэспубліку.

Сарвіра Леанід Сяргеевіч, старшыня [неразб. 1] ТДКСЗК[3]. Юшкевіч Генадзь Уладзіміравіч [супрацоўнік].

Анікейчык каменьчык са Сьера-Маэстра ўмураваў у сцяну «Прарыву»[4]. Анікейчык [расказвае]: «Міністр культуры Кубы Фурцавай[5]: «Рэалісты ўцяклі ў Амерыку, а абстракцыяністы засталіся і з вінтоўкамі абаранялі рэспубліку».

Некалі пілі. Бічы з Юбілейнага рынку. У аднаго пародзісты сабака. Закусваем. Дае яму (сабаку) салёны агурок. Храскае са смакам. Адзін: «І ты алкаголік, і сабака твой. Хіба ж нармальны сабака будзе есці салёныя

---

[1] Машара Міхась (Міхаіл Антонавіч; 1902–1976), беларускі пісьменнік, перакладчык.

[2] «Новый Гиперборей», расійскі часопіс групы паэтаў-акмеістаў «Цэх паэтаў» (1911–1914; 1920–1922). («Аўтографы новых вершаў і ўласнаручныя графікі паэтаў: Л. Гумілёва, У. Раждзественскага, М. Лазінскага, О. Мандэльштама, Г. Іванова, І. Адоеўцавай».)

[3] ТДКСЗК — Таварыства дружбы і культурных сувязяў з замежнымі краінамі (БелОКС).

[4] Гл.: Асколак аглухлага грому (1.04.83) // Маўчанне перуна. С. 212.

[5] Фурцава Кацярына Аляксееўна (1910–1974), расійскі дзяржаўны і партыйны дзеяч. Міністр культуры СССР (1960–1974).

агуркі?» Гаспадар так абразіўся за сабаку, што ледзь расцягнулі. Што ён алкаголік, гэта нічога, абы не сабака.

*Картай — каркай.*

У чым ён, смак жыцця,
Яго гаркавы прысмак?
У капрызных прызмах…

*10 лістапада, аўторак*

*Іван Шамякін (зламаў руку).*
*На запрашэнні да 60-годдзя*
*Экспромт*

І, як апошнюю падпорку,
На хісткім седзячы суку,
Іван хапаў не з неба зоркі,
Ды так — што выламаў руку.

*** Ушача.

— Ці плакалі па бацьку?

— А як жа! Адно вядро наплакалі, другое падставілі. (У «Здубавецця»[1].)

Пераклад па парадкоўніках адразу нагадвае яўрэйскі анекдот пра ювеліра: «Я ведаю кошт, але чаляднік не ведаў». Так і перакладчык у арыгінале не рызыкнуў бы іс]праўляць ?].

*15 лістапада, нядзеля*

*Век лучыны — і вечнасць Скарыны.*

*Муз — МУС. Газоўкі — Гусоўскі, гузоў з кім — Гусоўскі.*

Дрэва маёй зямлі габлюецца часам і…[2] баразна. Фота Ждановіча, Аралля. … Касец ля Паўвірак. … вулей ў мятых капелюхах, жбан на… плоце. … Бутаўшчына, промні сонца. … Ты. Пасля нематы пераходзяць на «ты», усе імёны апошлены, і толькі ты (колькі ўкладзеш свайго…).

*Лідэр*атура. Трымаць руку *на пузе* часу.

… Зямны шар маёй Ушаччыны. … бярозы ў белых кашулях, смяротніцы, з прабоінамі чорных крапін. Вечалле. Пер'і чаратоў, як касяк выраю. Жаўталіст у лесе, як сушацца яблыкі. Палын накінуў на плечы хустку. … абгарэлая ад страху папараць. … Лазня, і дрэва выскачыла і хоць ценем падае, каб ахаладзіцца. … дрэвы выбеглі паглядзецца ў лужыне. Як ледавік, ідзе лёд, і рэкі снегу… як гракі, дрэвы на фоне белым.

---

[1] Барадулін Р. Здубавецця. Мінск: Паліфакт, 1996. (Запіс не друкаваўся.)

[2] Шматкроп'ем вымушана пазначаны пропускі нерасчытаных слоў вельмі беглых запісаў.

Пачаць III раздзел — дрэвы як лятуць, як у тумане, як з партызан вяртаюцца, ад большых, што засталіся ў вайну, і новыя…

Канец II раздзела — абгарэлая хата. Лес дасюль вяртаецца з блакады, парадзелы рад, зрадзелы строй. Як крыжы…

Заканчваць 1 раздзел кругловінай пасля Завячэлля. Пасля колера раптам чорна-белы кадр. Хмарка над полем.

Распранаюць хату на вачах, абшаляваную, абшальмаваную да бёрнаў, да падкладу плячэй моху, вымаюць завушніцы шыб[1]. …

Прырода мая ўся тут; гультая і ў хлеб пасадзі — задавіцца; сабраў мох і балота [несусвеціцу].

Вы маладыя ўсе, пакуль бацькі старыя[2].

Паступова знікаюць жахі,
Што паспелі ў памяці акапацца,
Ды выветрывацца
Не жадаюць пахі акупацыі[3].

Трава — зялёная пяхота
Займае першая абшар.
За ёй ідуць кусты і лозы
І цяжкадумныя дубы…

На канцэрце Жыновіча[4].

І здаецца, ў бубен гулка
Босай пяткай лупіць гром.

Вул. Усходняя, 17, кв. 48. Семяняка[5] («Вясновыя галасы»).

Бутэрброд паказвае кукіш. Бутэрброд з прышчэмленым языком.

Згадваецца, мама павечку з вока языком вымае[6].

Як колам ва Ушачы, б’е дагэтуль колам млын.

Лес чырвоны і чорны. Вогнетрывалая зямля. Гістарычныя звесткі ў агнях згарэлі. Калі пасля [рабіць] цэглу, дык яе можна [рабіць] з маёй зямлі.

---

[1] Гл.: «На вачах усяго кварталу…» (19.02.84) // Маўчанне перуна. С. 51.

[2] Гл.: «Наведвайце бацькоў…» (28.11.81, Каралішчавічы) // Амплітуда смеласці. С. 6.

[3] Гл.: Пахі акупацыі (1.01.83) // Маўчанне перуна. С. 214.

[4] Жыновіч Іосіф Іосіфавіч (сапр. Жыдовіч; 1907–1974), беларускі цымбаліст, дырыжор, кампазітар, педагог. Прафесар (1963). Народны артыст БССР (1955). Народны артыст СССР (1968). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1968).

[5] Семяняка Юрый Уладзіміравіч (1925–1990), беларускі кампазітар. Народны артыст БССР (1974). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1972).

[6] Гл.: Дома (2.01.83) // Маўчанне перуна. С. 215.

Ледавік араў і сеяў сіняе, сіне-халоднае зерне азёр (вочы адсюль ушацкія). Фуганкам часаў дрэва зямлі. Ледавік выараў маю Ушаччыну[1].

*** Я. Семяжон: *няўступлівы.*

На пасецы лагод
Празрысты мёд скрылямі.
Здабытлівы нектар
На пасецы турбот.
Раіся, думкі ўзлёт,
Пакуль табе спрыяе
І высакосны дзень,
І сенакосны год.
Ды чорны мёд…

Як тыя матылькі,
Раяцца ў небе зоры.
Сузор'ямі вясны
Раяцца дзьмухаўцы.
У валуноў бакі
І ўзгоркі ў вёсцы Горы
Цвітуць, і дрэмлюць сны
І ліпы ў Ліпаўцы[2].

*21 лістапада, субота*

Каралішчавічы. В. Ф. Вольскі ўспамінае сваю апошнюю сустрэчу з Янкам Купалам (14.XI.41 ?):

— Ідзі на ўход, куды вочы глядзяць, далей ад Масквы.

— А калі Якуба Коласа сустрэну, што перадаць?

— Перадай, што ён вялікая свіння і дурань.

— І болей нічога?

— Нічога. Хопіць.

Купала быў засценлівы, а думалі — ганарысты. Цяжка сыходзіўся з людзьмі. Янка Купала кожнага называў па-свойму (толькі таварыш Вольскі). Калі цёця Уладзя[3] насядала, каб пісаў, як Колас, і ўмеў жыць, як Якуб, [казаў]: «Калі ён такі добры, ідзі і будзь ягонай жонкай».

*9 снежня, серада*

*Вільнюс.* Белы зал. Напалеон. Апісаны ў «Вайне і міры».

*Наставіла каўнер узлеска поле, каўнер, пасыпаны сняжком.*

«Захварэў Блокам», што ён — будаўнік?

---

[1] Гл.: Як ледавік араў (10.05.82) // Маўчанне перуна. С. 229.

[2] Гл.: «На пасецы выгод…» (8.05.82) // Вяртанне: Альбом; з В. Ждановічам. С. 30.

[3] Луцэвіч Уладзіслава Францаўна (1891–1960), беларускі педагог. Заслужаны дзеяч культуры БССР (1959). Жонка Я. Купалы.

9-га выйшла кніга Юстынаса Марцінкявічуса[1].

ВК — стары Baltakio kosulys — кашаль Балтакіса.

«Я перакладаў такога ж класіка, толькі будучага».

Расказ Мікаласа пра плытагона Трубку [?]. На лесвіцы яшчэ дошкі дубовыя, што ён дубы прыгнаў з Беларусі.

Яраслаў Смелякоў[2] у Маскве на вечары паэзіі пра Юстынаса Марцінкявічуса.

[Адрас:] г. Вильнюс, ул. Гарялио, д. 3, кв. 40. Якшевичютэ[3] Дагне Альгирдовне (актриса Вильнюсского Русского драматического театра).

*10 снежня, чацвер*

Spengla [?] — ціша, аж у вушах звініць. *п. Пікчунай,* лазні ля ракі. Маці ў снезе мерзне, вакол у снезе лес і дарога белая. Альгіс[4] тлумачыць карані літоўскіх слоў. Рука — сабіраць. Альгіс быў рэдактарам «Пергале» і парторг, і на з'ездзе ніводнага голаса супраць, хоць шмат адхіліў рукапісаў у «Пергале». Сігналіць вераб'ям на асфальце. Дарога Чурлёніса[5] ў драўляных скульптурах.

Вялікі князь Вітаўт — «Ты будзеш жыць, пакуль будзе жыць хоць адзін літовец». *п. Пярлоя.* Рэспуб]ліка] 20 год, [неразб. 1] і пячатка з хлеба, царкоўная пячатка. На кані памёр Вітаўт. У гонар 500-годдзя з дня смерці, не дачакаўся кароны. Глядзіць на Польшчу з мячом. Меч жалезны. Па белым лузе ў белых дрэвах жывая цемра ракі ўецца. І зноў слупы Пярлоі, сіваграке на асфальце выезджаным. Вуж — сімвал сонца. Вужоў трымалі ў хаце лавіць мышэй, вячэраць выходзілі з сям'ёй.

Увесь час віляе Мяркіс, галоўная рака Дзукіі. Merkti linus — мачыць лён, адсюль назва ракі — мачыць. Ginte [?] — кідаць [?]. Gintaris [gintaro — бурштын] — выкінутае морской вадой. Geléžies — жалеза, ад дзеяслова джаліць, калоць, перашпачаткова — страла, наканечнік. Рука — ад сабіраць. Galvoty — мысліць, думаць, адсюль galva — галава.

Дарога ад дзеяслова падымаць, трымаць kele [ад kelti — падымаць]. Derva — смала, адсюль дрэва, засталося адно значэнне. Дзукія — самы фальклорны край у Літве, мусіць, пасля Dainava.

Скульптуры з дрэва. «Balanos giadynē — век лучыны», чытае са свечкай. «Падкавальнік быкоў». Тэлефон з губы ляснога [дрывеснага грыба].

---

[1] Марцінкявічус Юстынас (1930–2011), літоўскі паэт. Народны паэт ЛітССР (1978).

[2] Смелякоў Яраслаў Васільевіч (1913–1972), рускі паэт. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі (1967).

[3] Якшэвічутэ Д. А. (Ефрэмавене; н. 1941), актрыса Вільнюскага Рускага драматычнага тэатра.

[4] Балтакіс Альгімантас (н. 1930), літоўскі паэт, крытык, перакладчык. Народны пісьменнік ЛітССР (1986). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі ЛітССР (1966).

[5] Чурлёніс Мікалоюс Канстанцінас (1875–1911), літоўскі мастак і кампазітар.

«Балюча адчуваю недахоп часу». Антанас Чэснуліс[1] (1948). [Неразб. сказ.] «Пажывем сярод нежывых звяроў», — кажа дырэктар гэтага драўлянага дамка. Здымаць боты з дарогі, з лесу. «Пан Нёман», — кажа Альгіс. Самыя маладзенькія чытаюць вершы Альгіса. Дзяўчынка запнулася, Альгіс падказвае.

Рэйгард (Чурлёнісава мясціна) пойма. Пойма белая ўся, і высокія сосны, нібы былы райгард, жылі ў раі і не баяліся бога, лаялі і горад [неразб.1].

Яліны, як саборы, з-пад нізу чуваць жальба званоў, некалі былі, але не ко...

З Варшавы і з Германіі Чурлёніс [дабіраўся] да Парэчча, адтуль пешкі па дарожцы, браты беглі і дарогай пелі песні.

Alka — месца святое, маліліся, ахвяры прыносілі.

*11 снежня, пятніца*

Вільнюс, вуліца Мільды (багіні мілосці), сінічкі ядуць зялёнае сала (сырое). Альгіс [Балтакіс] чакае, калі па[дойдзе ?] казуля, бо далей лясы Сапегаў[2].

— Трэба, каб не член СП.

— Прымем пасля казулю.

Хаванскія, Трубяцкія, Куракіны, Заслаўскія[3] ад галіны Гедыміна[4].

Бамбіза — ксёндз кальвін, а бамбізас — гэтай веры, са зневажальным адценнем. Бамбіза — дзяк з вялікім пузам, які плача, а бамба — пуза. Gudų girįa — беларускі лес. Рабчык — ярабок. Prof. T. Ivanauskas[5] «Lietuvos paukšciai» [«Птушкі Літвы»]. Драч — руская зязюлька. Усе назвы птушак пачынае з беларускай назвы птушкі. Сявец — ржанка (рус.), грыцук — веретенник большой. Бекас — па-літоўску казляня Перуна — perkūno oželis.

*Каўнер узлеску, ён яшчэ густы і снегам зацярушаны няскупа.*

[Адрас:] г. Вильнюс, ул. Милдос, 31–4. Матузявичюс Э. В. (Янку Купалу [паслаць]); Мілы[6] Дзмітрый Антонавіч. 232051, Вільнюс, Эйдукявічуса, 19, кв. 155, тэл.

---

[1] Чэснуліс Антанас, літоўскі скульптар. Народны мастак Літвы. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Літвы.

[2] Сапегі — магнацкі, з XVII ст. княжацкі род у Вялікім княстве Літоўскім і Рэчы Паспалітай.

[3] Хаванскія, Трубяцкія, Куракіны, Заслаўскія — рускія княжацкія роды.

[4] Гедымін (каля 1275 — 1341), вялікі князь ВКЛ (з 1316).

[5] Іванаўскас Т. Л., літоўскі арнітолаг; выкладчык. Прафесар.

[6] Мілы Дз. А., аднакласнік і аднакурснік.

*31 снежня, чацвер*

*Рыга*. У Целеша[1] паштоўкі ўсіх гарадоў. Дзед Мароз просіць пачытаць верш, дачка [чытае] Аўгінню [Кавалюк], сын — Коласа. Сыну ліхтарык, дачцы — кашалёчак.

Ала і Алег, Зіна, Уладзімір Лявонавіч Сакалоўскі[2] (нямецкая літаратура).

Кветкавае мора. Азія каўказская на Еўропу рушыла новы ледавік.

Апошні дзень старога года,
Як сябра, што яшчэ з табой.
І ўсіх пражытых год калода
Яшчэ твая — хадзі з любой
Няходжанай ці бітай картай,
Як выйграеш,
дык цэлы год.
Схіліся над забытай картай
Шляхоў трывог,
сцяжын нагод.

* * *

Лана!
Дай любой ляноце бой!
Будзь світальна-пудкай,
А не хліпкаю.
Хай у год Сабакі за табой
Хлопцы ходзяць,
Быццам кот за рыбкаю.

---

[1] Целеш Вячка (Вячаслаў Міхайлавіч; н. 1938), беларускі мастак, графік, гісторык, педагог (Рыга). Узнагароджаны найвышэйшай узнагародай Літвіі ордэнам Трох Зорак (2006).

[2] Сакалоўскі У. Л., выкладчык Інстытута культуры, перакладчык. Кандыдат філалагічных навук.

## 1982

*1 студзеня, пятніца*
Новы год у Вячкі Целеша. Сакалоўскі. У гатэль.

*Юрасю Свірку*

Віншую шчыра Юрася
Са старажытнай Рыгі.
Хай новы год, эпоха ўся
Яго чытае кнігі.

*2 студзеня, субота*

Выстаўка Аляксандра Дрэвіньша[1]. Вуліца Янкі Купалы (царква адвенцістаў 7-га дня). Званок да Зайца чакаць 19.00.

* Вяртанне Аляксандра Дрэвіньша. Як мачта, разгайданае імя. Дрэвіньш, ускраіна, барка, казуля. Вяртанне дадому. А бежанкі ўсе без вячэры, грэе руку над уяўным дымам, над талеркай пустой, і лыжка. І дражыць, і просіць са злым языком. І аўтапартрэт, як з туману, каб вырвацца з забыцця. Холст трэба на плечы, а ён на фанеры, кардоне, якая ад плакатаў яшчэ засталася. Бежанкі, цені твараў на голай фанеры, і збан на голым фоне пусты, чырвоны, адтуль, з успамінаў, з маленства ён.

А са стрэх старой Рыгі снег ноччу, як заспаныя птушкі, спадае.

А ў зале далей наш Бялыніцкі-Біруля[2] з веснавымі маг[ічнымі] краявідамі, Шышкін[3] з Палессем, Хруцкі[4].

*Як захмялелы поп-расстрыга, са снегам новым адпачывае Рыга[5].* Шукаю вуліцу Купалы. Духмяна пахне хлебам з кменам. У марознай цішыні каменныя ружаватыя ад закоту сцены і вуліцы, як мае ўспаміны. Дамы запалены, заружавелі, як рукі над агнём, акаляюць акенцы [неразб.1]. Дзвіна, як і многія беларусы, адразу стала Даўгавай. Свіра-

---

[1] Дрэвіньш (Дрэвін) Аляксандр-Рудольф Давыдавіч (1889–1938), расійскі мастак. Ураджэнец Літвы. Рэпрэсаваны.

[2] Бялыніцкі-Біруля Вітальд Каэтанавіч (1872–1957), беларускі мастак. Народны мастак БССР (1944). Народны мастак РСФСР (1947). Дзейны член АМ СССР (1947).

[3] Шышкін Іван Іванавіч (1832–1898), рускі мастак і графік.

[4] Хруцкі Іван Трафімавіч (1810–1885), рускі мастак.

[5] Гл.: Да падножжа помніку пашаны: Рачулка вуліцы Купалы (31.01.82, Рыга) // Амплітуда смеласці. С. 96.

ны каменныя — дзверцы, як шпакоўні. Якары — двухрогія, сярпы жнуць ніву мора[1].

[Пераклады вершаў:] І. Зіедоніс[2] «Малітва», «Адзіны грэх» і Ю. Марцінкявічус «Рака памірае».

*3 студзеня, нядзеля*

12.00 — Андрыс Веян[3] (да яго дадому). На пошту — пасылку.

* У Андрыса сын у філалогію сабіраецца, Бенедыкт Данатавіч. Праграма беларускага тэлебачання. Андрыс многа пазнае. Свежы нумар «Kārogs». 40 тыс. экз. І пры цане 1 рубель. «Можна было б і яшчэ тысяч 10, ды не даюць», — тлумачыць Андрыс Веян. А ў нас «Полымя» на 10-ці топчацца. «Бедны, сляпы, быццам крот», — прароча казаў Максім Багдановіч.

Velta [жонка Андрыса расказвае]. У архіве — як старыя майстры не маглі навучыцца даваць прыпёк хлеба за кошт махлярства — звыклі рабіць па-сумленнаму. Заявы вайскоўцаў і кіраўнікоў, што ў кватэрах не хапае бялізны спальнай ці гарнітураў. А на ўсё гатовае ўсяляліся.

Зямля ўся наша яблыкам разладу,
Начыненая смерцю да краёў.

А з дому босая ўцякала.

На пошце ў Рызе, дзе адпраўляюць пасылкі. І малаткі на ланцугах навязаны, каб білі па цвіках люцей.

*4 студзеня, панядзелак*

10.00 — аўтавакзал. 13.00 — да Вячкі Целеша ў майстэрню — «Беларускую хатку». 14.22 — «Чайка» на Мінск.

*Вячку Целешу*

Пакуль ты, думка, слова целіш,
Куфэрка славы ўзняўшы вечка,
Для вечнасці шчырэе Целеш —
Князь вечнай Беларусі — Вячка.

*

Яны, што забілі Лорку,
Пасля былі,

[1] Гл.: «Гэты горад табе не чужы...» (25.01.82, Каралішчавічы) // Амплітуда смеласці. С. 98. Верш з прысвячэнне дачцэ: «Даруючы Рыгу Ілоне».

[2] Зіедоніс Імант (1933–2013), латышскі паэт і празаік. Народны паэт ЛатвССР (1977).

[3] Веян Андрыс (сапр. Калнач Данат; н. 1927), латышскі паэт, празаік.

жылі, пілі,
Як пчолы чорныя ў вуллі,
Свой чорны мёд,
Забойцы, асведамляльнікі.

*

Ці па лязу,
Ці па слязе,
Усё балюча,
І палаеш
Не балазе.

*5 студзеня, аўторак*

На працу! Пазваніць Пімену Панчанку, Навуму [Кісліку], Шабану, Фаму [Караткевічу]. Да майстра (аднесці «[Рыжскі] бальзам» і працу яму).

*6 студзеня, серада*

У «Маладосць» — да Васіля [Зуёнка] (верш «У Рызе вуліца Купалы»). На пошту, Матузявічусу[1] [паслаць] — Купалу.

*7 студзеня, чацвер*

У выдавецтва. 17.00 — будзе ў гасцях Караткевіч. На Галоўпаштамт.

*8 студзеня, пятніца*

На радыё. 33-88-46 Васіль Цялятны [радыё]. Боты Караткевічыхі (памянялі з Ілонкай). Лямант Фамы [Караткевіча].

*9 студзеня, субота*

Кніжкі Эўгеніусу [Матузявічусу], Драчу. 10 раніцы 65-51-43 Еўдакія Іванаўна («Ametist»). Багдановічаўская выстаўка. У Навума [Кісліка] забраць «Полымя».

*10 студзеня, нядзеля*

Пазваніць Карласу [Шэрману] і Дракахрусту. Да майстра.

*11 студзеня, панядзелак*

9.30 — радыёзапіс. «Акадэмкніга». Да Яшы [Серпера]. Падкладка. Я. Коласа, 7–2 (21.45).

---

[1] Матузявічус Эўгеніус (1917–1994), літоўскі паэт, перакладчык, крытык. Заслужаны дзеяч мастацтваў ЛітССР (1977).

*12 студзеня, аўторак*

Перадрукаваць для «Вясёлкі» і для дзіцячага радыё. Запіс на радыё.

*13 студзеня, серада*

«Маладосць» — карэктуру на працу. Аддаць на другую чытку Пімена Панчанку. Паслаць Эўгеніусу [Матузявічусу] кнігу.

*14 студзеня, чацвер*

Да Ладуценкі. Рукапіс Бембеля[1] аддаць на машынку — «Смак жыцця».

*15 студзеня, пятніца*

11.00 — да Ждановіча ([альбом] «Вяртанне»). 15.00 — Галоўпаштамт. 16.00 — на Ушачу!

16 студзеня, субота

*п. Ушачы*. Райком. РДК. Законнікава *в. Глыбачка.* Выступленне. Да бацькі Сяргея. Лясныя азёры.

*І — неразяблыя анёлы — спрабуюць голас жаўрукі.*

*17 студзеня, нядзеля*

Да Марыі Рыгораўны [Трафімавай]. На Бутаўшчыну [могільнік]. 12.00 — на Мінск. 19.00 — Марыя Рыгораўна назад.

*18 студзеня, панядзелак*

Перадрукаваць вершы. На працу — Але [Смурага] на машынку. Тэхрэды. Звон Вадзіму [Спрынчану].

*19 студзеня, аўторак*

Шкляра! [Шклярэўскі]. Тэхрэды. З Сяргеем [Законнікавым] удакладніць радкі ягоных вершаў для «Дня паэзіі». Ваню [Бурсаву] — «Дзень паэзіі». У Бечыка[2] [ўзяць] украінцаў.

*20 студзеня, серада*

На працу. Наконт кнігі Шклярэўскага. Да Навума [Кісліка]. Літфонд, пуцёўку ў Дом творчества. Шкляра. Гальпяровіч. Да Навума. Білет на Рыгу.

---

[1] Бембель Алег Андрэевіч (Зьніч; н. 1939), беларускі філосаф, паэт, публіцыст.

[2] Бечык Варлен Леанідавіч (1939–1985), беларускі крытык і літаратуразнавец. У 1982–1985 гг. нам. галоўнага рэдактара выд-ва «Мастацкая літаратура». Кандыдат філалагічных навук. Лаўрэат Літаратурнай прэміі СП БССР імя І. Мележа (1987, пасмяротна).

*21 студзеня, чацвер*

Праца. Фралову[1] «Азбуку»[2]. 11 00 — да Пімена [Панчанкі]. 13.30 — басейн. Да Навума [Кісліка]. З Гальпяровічам.

*22 студзеня, пятніца*

Да помніка Максіма Багдановіча. Галоўпаштамт. 16.00 — рэдсавет у выдавецтве. Званкі Шабану. Майстра.

*** Сяргей Вакар[3] абяцаў знайсці, а пакуль [неразб. 2] бронзавы М. Багдановіч выйшаў з дому, шукае, дзе той драўляны. У камені ўсё, і сам стаў бронзавы. Самотны. Снег на плячы не растае, як і належыць снегу на вяршыні[4].

Шыбіну прахуквае малы…[5]

*23 студзеня, субота*

Галоўпаштамт. Да майстра — грошы аддаць. 11.00 — гараж Шабана. Кнігарня. 12.00 — на Каралішчавічы.

*** «П’яны вам месца ўступіў на чыстай лесвіцы, паўсюль, дык не наступайце на яго, хай адпачне».

*24 студзеня, нядзеля*

Чытаць «Братэрства»[6] і «Сцяжыну»[7]. Правесці Зайца да мамы. Звон Карласу [Шэрману], Навуму [Кісліку].

* Каралішчавічы. Каля 12-ці хачу закласці «Двойник»[8] Шкляры [Шклярэўскага] і навобмацак намагаюся ўзяць пяро, намаляванае на вокладцы кнігі Андрыса Веяна А. Станкевічам. Да чаго ж здорава! Белае праз усю вокладку, дзе латгальскі гліняны конік-свісцюлька і абрысы старой Рыгі.

У Шкляры сала з любімага парсюка, ён і раней гаварыў: «Там сала добрае».

*З мовай — зімовай. Народ, нібы нарад, закрыць хацелі сходу.*

Дзед гр[?] літ[?]: «Адна прамая, другая крывая, а трэцяя зусім не кладзецца спаць».

---

[1] Фралоў Р. С., мастацкі рэдактар выд-ва «Народная асвета».

[2] Барадулін Р. І. Азбука не забаўка. Мінск: Народная асвета, 1985.

[3] Вакар Сяргей Міхайлавіч (1928–1998), беларускі скульптар. Аўтар помніка М. Бадановічу і скульптурных партрэтаў Я. Купалы, П. Панчанкі, У. Караткевіча, Р. Барадуліна.

[4] Гл.: Вяртанне Максіма (5.06.82) // Амплітуда смеласці. С. 49.

[5] Гл.: «Шыбіну прахуквае малы…» (6.06.82) // Руны перуновы. С. 206.

[6] «Братэрства», штогоднік перакладаў з літаратуры народаў СССР (1982–1990); выданне выд-ва «Мастацкая літаратура». Гал. рэдактар А. Русецкі, потым Р. Барадулін.

[7] «Сцяжына» (1983), калектыўны зборнік беларускіх паэтаў.

[8] Агаворка — трэба: «Тайник» (1981).

*25 студзеня, панядзелак*

Звон у Мінск, у «ЛіМ» Ігару [Шклярэўскаму]. Жукаўскаса[1] перакласці. Падрыхтаваць для [час.] «Беларусі» прыбалтаў.

*26 студзеня, аўторак*

Тэле (пра Дубашынскага). Па слоўніку ўкраінцаў праверыць. «Азбуку» — Камарыку[2] ўзяць, Артуру [Вольскаму] — вершы. Фота на пашпарт. 21.45 — на укол.

*27 студзеня, серада*

Выступленне «Работніцы і сялянкі» (12 гадзін Правасуд), праца. Салавей[3]. Шкляра [Шклярэўскі]. Дагавор са Шклярам. Да майстра.

*28 студзеня, чацвер*

Сабраць паперы ў лес. 10.00 — выдавецтва (Салтук). Уступ да Ваданосава[4] (правіць). Чакаць Шабана (вершы яго ў «Дзень паэзіі»). Рэцэнзія Шабану на Салтука ў лес!

*Баравы зялёны маладзік даланю раскрытую падставіў — абставін.*

*29 студзеня, пятніца*

Звон у Мінск. Падагнаць латышоў і ўкраінцаў. Някляеўскую паэму [«Маланка»] перачытаць. «Братэрства» — чытка, праўка. Верш у гонар Адама Мальдзіса[5].

*30 студзеня, субота*

Звон у Мінск. Перадрукаваць новыя вершы. (Вершы для [альбома] «Вяртання».) Прачытаць аповесць для «Братэрства».

*Касец*

Яны наліліся, арэхі тугі,
Трасі успамінаў ляшчыну.
Гадоў маладых дакасіў мурагі,

---

[1] Жукаўскас Альбінас (1912–1987), літоўскі паэт, празаік, перакладчык. Заслужаны дзеяч культуры ЛітССР (1972), заслужаны работнік культуры БССР (1973). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі ЛітССР (1976).

[2] Камароўскі Алесь (Аляксандр Адамавіч; н. 1947), беларускі паэт. У 1979–1990 гг. працаваў на Беларускім тэлебачанні.

[3] Салавей Леў Антонавіч (1925–1988), беларускі перакладчык, крытык. У 1972–1983 гг. заг. рэдакцыі перакладной літаратуры выд-ва «Мастацкая літаратура».

[4] Ваданосаў Мікола (Мікалай Міхайлавіч; 1923–2006), беларускі пісьменнік. У 1972–1982 гг. рэдактар выд-ва «Мастацкая літаратура». Заслужаны работнік культуры БССР (1982).

[5] Гл.: Год Мальдзіса і год Сабакі (29.01.82; да 50-годдзя) // Мудрэц са ступаю. С. 146.

Пара дакасіць асянчыну.
Пакуль над табой не занесла касу
Няўмольнасць,
Касцом завіся.
Збівай расу на астатнім кусу,
Дзівіся на вырай у высі.
За асакой упірлівай сачы,
Здароўе даношваецца і ватоўка.
Каса наўзгатове маўчыць на плячы,
Як некалі ў лесе вінтоўка.
Утуманелай лагчынай кусты
Ідуць партызанамі ў маскхалатах.
Ракі заімглелай рукаў пусты
Стараецца сонца залатаць.
Угору сонца, а ты — з гары.
Сваю ашукаўшы стому,
Уедлівую касу ўгавары
Набіць асянчынай аскому.
Парупся ў касьбе,
Памарудзь на дзяльбе,
Надзел твой радзее травою.
Зямля паварочваецца да цябе
Дакошаным бокам паволі…

*31 студзеня, нядзеля*

Звон у Мінск (дамоў, Алесю Разанаву[1], каб літоўцаў здаў у «Братэрства»), Навуму [Кісліку], як Шкляра [Шклярэўскі]. Звон Шабану.

Юстынас Марцінкявічус: «Па камянях, цемрачы і па багах адгадаць можна вечнасці форму».

*Алесь Разанаў*

Пакуль яму тлумачаць хто ён
Ягоныя крытыкуны,
Алесь Разанаў — першы воін
У полі, дзе няма вайны!

*«Братэрства-84»*

*1 лютага, панядзелак*

Зборы. Чакаць Шабана. Перадрукаваць літоўцаў і латышоў. Вершы Яўменава. Мінск. Праяздныя. «Міфы [народаў свету]».

---

[1] Разанаў Алесь (Аляксандр Сцяпанавіч; н. 1947), беларускі паэт, перакладчык. У 1974–1986 гг. ст. рэдактар выд-ва «Мастацкая літаратура». Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР імя Янкі Купалы (1990).

*Хлопчык-цвёрдалобчык*

Са слуп вырас хлопчык-з-мізінчык,
Паслалі яго ў магазінчык.
Пачухаў за вухам, пачмыхаў
І ўзяў ён, падумаўшы крыху,
Для мамы кулёк уздыхаў,
Для таты — паўлітра крыку.
Сабе ўзяў былы з мізінчык
Духмянага дыму ў кішэні
І, выпіўшы смеху графінчык,
Дыхнуў у твар летуценню.
А быў жа з мізінчык хлопчык,
А быў жа адзіны самы.
І выцыбаўся цвёрдалобчык
На ўцеху чуллівай мамы.
Па ўпартасці ставіць рэкорды,
Ён горды,
Што лоб яго
Цвёрды!

*2 лютага, аўторак*

Сустрэча з Клышкам[1] («Братэрства»). Заняткі па англійскай. Прафсаюзны сход. Забраць фота (неразб.1).

*** [Заняткі па англійскай мове]. «Вучыцеся чытаць газеты. Усе гукі напружана, болей, чым рускія, вымаўляюцца. Язык старацца падымаць, на [аль]веолах трымаць па магчымасці. На канцы слова гукі не аглушаюцца».

*3 лютага, серада*

Раніцай праца. Куксо[2] наконт шаржа Пімену Панчанку (Галоўліт). Да майстра. Званкі Клышку, Вольскаму.

*4 лютага, чацвер*

Падрыхтаваць для Зуёнка. 10.00 — БелОКС. Паседжанне. Пазваніць Ждановічу. Да Панчанкі. У Галоўліт. (Марына Канстанцінаўна[3] — 22-32-39). Да Навума [Кісліка].

---

[1] Клышка Анатоль Канстанцінавіч (н. 1935), беларускі пісьменнік, крытык, перакладчык, педагог. У 1981–1983 гг. заг. рэдакцыі выд-ва «Юнацтва». Заслужаны работнік культуры Беларусі (1994).

[2] Куксо Канстанцін Мікітавіч (н. 1954), беларускі мастак-карыкатурыст, кніжны графік.

[3] Высоцкая М. К., супрацоўніца Галоўліта. Варта ўдзячна адзначыць — была сапраўды добрым памочнікам у справах выд-ва «Мастацкая літаратура» (*заўв*. Н. Давыдзенка).

*5 лютага, пятніца*

Пазваніць Брылю («Братэрства»), Адамовічу. Да Барушкі[1]. 11.00 — Галоўліт. Аддаць пашпарт на апошні здымак.

*** Брыль — народны пісьменнік, Алесь Адамовіч — няродны.

*6 лютага, субота*

10.00 — чакаць аўтобуса на Ушачу. Ад'езд на *Ушачу.* Да Марыі Рыгораўны [Трафімавай]. 18.00 — вечар выпускнікоў СШ. 21.00 — вячэра.

Аднарукая калонка доўга вылівае ваду з рукава[2].

Вясёлка — ветравое шкло неба расчысцілі дворнікі.

*7 лютага, нядзеля*

Да Марыі Рыгораўны [Трафімавай]. Чакаць аўтобуса. 14.00 — ад'езд у Мінск. Званкі па клопатах.

*8 лютага, панядзелак*

На працу. З «Братэрствам». У магазін. Званіць у гасцініцу. Натан Злотнікаў, [гас.] «Беларусь», № 218. Да Навума [Кісліка] з Натанам.

*9 лютага, аўторак*

Звон Навуму [Кісліку]. Чакаць Дзіму Моркаўку (стэлажы).

*10 лютага, серада*

Праца. Пазваніць Рыгору Няхаю[3] 29-34-12 (Янкі Купалы, 11–81). Натан [Злотнікаў], Навум [Кіслік], Валянцін [Тарас], Карлас [Шэрман] у нас вячэраюць.

[Аўтограф Н. Кісліка:]

«Посетив кабинет Григория Ивановича, понял, почему так трудно его переводить: в кабинете этом можно писать только стоя на голове. Соответственно переводчик вынужден тоже становиться на голову. А в остальном — присоединяюсь к предыдущим ораторам.

С любовью, *Наум*».

[Аўтографы В. Тараса:]

Гарэлкаю рыгорачнай
Прамочваю гарляк
І заўважаю з горыччу,
Што ўжо не той піяк!

[1] Барушка Анатоль Фаміч, нам. старшыні Дзяржкамвыда БССР.
[2] Гл.: «Вецер хмары так нізка соўгаў…» (5.06.82) // Амплітуда смеласці. С. 84.
[3] Няхай Рыгор Восіпавіч (1914–1991), беларускі паэт і празаік.

Ды п’ю за шчасце вашае
І не баюся кпін!
Нямножка ашарашаны
Рыгорам —
Валянцін!

*

Адкажам сэрцам на лірычныя
Усе пытанні Рыгоррычныя!

Написано не на роду ли нам
Дружить с Рыгором Бородулиным!

*[Без даты]* *Валентин Тарас*

*11 лютага, чацвер*

На працу. Аднесці артыкул Адамовіча. На ўколы. «Братэрства», з Клышкам сустрэцца.

*12 лютага, пятніца*

На працу. Пытанні па Паўлаваму зборніку[1] ў Варлена [Бечыка] зняць. 15.00 — пасяджэнне праўлення СП БССР. Выбары новага сакратара. Да Караткевіча, папрасіць артыкул.

* Ніл [Гілевіч] — пагалоўная большасць [выбары старшыні СП].

*13 лютага, субота*

Падагнаць Мірдзо Турсун-задэ. Для машынкі выбраць свае вершы. Крыху парадак у сваім пакоі.

*14 лютага, нядзеля*

Па хлеб і па газеты з раніцы. Сягоння дома, бо хворы. Алесю Звонаку[2] 75 год, павіншаваць.

*Казіміру Камейшу[3]*

Казюня любы, дарагі,
Ты між паэтаў сёння першы.

---

[1] Паўлаў У. Сляза на вейцы. Мінск, 1982.

[2] Звонак Алесь (Пётр Барысавіч; 1907–1996), беларускі паэт, крытык, драматург, перакладчык. Быў рэпрэсаваны. Заслужаны работнік культуры БССР (1991). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі РБ (1992). Гл.: «Вы з той магутнай чарады…» (15.02.82) // Амплітуда смеласці. С 101.

[3] Камейша Казімір Вікенцьевіч (н. 1943), беларускі паэт, перакладчык. У 1981–1988 гг. супрацоўнік час «Вясёлка». Лаўрэат Літаратурнай прэміі СП БССР імя А. Куляшова (1989).

Стары Кандрат[1] у кволым вершы
Цябе рыфмуе ад тугі,
Што не яму — табе ў стагі
Вадзіць дзяўчатак
і стагі
Пасля салодкай стомы вершыць.
Наверсе будзь, вядзі свой рэй,
Суставам кожным не старэй.

*15 лютага, панядзелак*

Званок Яшу [Серперу] — у аптэку ўзяць лекі.

Пазваніць наконт англійскай мовы, што зададзена.

Сяргею Законнікаву звон.

*16 лютага, аўторак*

Званок на працу. Мірдзо Турсун-задэ перадрукаваць. Занесці ў выдавецтва.

Заняткі англійскай мовы.

*17 лютага, серада*

Рэдагаваць Салтука. На працу. «Братэрства» (артыкул А. Мальдзіса). Дазваніцца да Вялюгіна.

*18 лютага, чацвер*

Дабіць Салтука[2]. На машынку. Някляеў 17.30 на тэлестудыі (Радуцкі[3]).

*19 лютага, пятніца*

Вершы ў «ЛіМ», Вераб'ю[4]. 11 гадзін (Камуністычная, 6). 17–17.30 — СП (Анатоль Каляда[5]).

---

[1] Крапіва Кандрат (сапр. Атраховіч Кандрат Кандратавіч; 1896–1991), беларускі паэт, драматург, лексікограф. Акадэмік АН БССР (1950). Доктар філалагічных навук (1953). Народны пісьменнік БССР (1956). Герой Сацыялістычнай Працы (1975). Заслужаны дзеяч навукі БССР (1978). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1941, 1951, 1971).

[2] Салтук Алег Уладзіміравіч (1946–2015), беларускі паэт і празаік. У 1980–1999 гг. сакратар Віцебскага абласнога аддзялення СП БССР. Лаўрэат прэміі імя У. Караткевіча, прэміі «Залаты купідон» (2011). Салтук А. Святло зямлі. Мінск, 1982.

[3] Радуцкі Аляксандр Яфімавіч, тэлежурналіст.

[4] Міклашэўскі Яўген Васільевіч (псеўд. Верабей Яўген; н. 1936), беларускі паэт, празаік, перакладчык. У 1981–1988 гг. літкансультант СП БССР.

[5] Каляда Анатоль, беларускі фотамайстар.

*20 лютага, субота*

«Братэрства» — вычытаць матэрыялы (звон Галі Шаранговіч[6]), вычытаць Салтука.

*21 лютага, нядзеля*

Карлас [Шэрман] з Тамарай, Артур [Вольскі] з Ларысай[7]. Зборы ў дарогу. Ад'езд на Маскву.

*22 лютага, панядзелак*

*Масква*. Звон Бурсаву. *Душанбе*. Снег на дрэвах. Тэлебачанне. Убайд[8]. Вячэра ва Убайда.

* Самалёт на Душанбе. Душанбе — прылёт. Штрыхавыя замалёўкі гор снежна-чорныя, як лінарыт. Рэчка на адпачынку. Пясчаны выпаў цень між чорнага і белага. Сады на фоне снегу. Бліжэй, чарней горы, чарней адліжны змрок. Чорнае лісце шпакоў шуміць.

*[9] Пухнаты снег, але цёпла. Нейкая дама пад парасонам. Лепяцца цёплыя снежкі (не такія, як на ўзбярэжжы Балтыкі[10]). З-пад снега яўна веснавыя галінкі дужа акрэслена чарнеюць — не могуць схаваць веснавую ласку, якая вось-вось пагоніць пупышкі, раскрые іх, залапоча лісткамі самымі чыстымі, перапоўніўшы ўвесь ствол нястрымнасцю новага жыцця, кожны год новага дрэва.

Вечарам снег яшчэ сабіраўся. У прысмерках асабліва адчуваецца, як мікшыруецца горад. З кішлака робіцца горадам. Асфальт. Праспект, але тут жа арыкі напамінаюць пра горныя ручаі, якія імчацца з гор. У горадзе яшчэ захаваны рысы сяла, блізка яшчэ зямля, недалёка яна яшчэ аддалілася.

— Мерзнем, але радуемся, гледзячы на снег, — гаворыць галоўны рэдактар тэле, — да студзеня была сапраўдная вясна, цвілі ружы. Калгасні-

---

[6] Шаранговіч Галіна Андрэеўна, ст. рэдактар рэдакцыі літаратуры народаў СССР выд-ва «Мастацкая літаратура».

[7] Горцава Ларыса Мікалаеўна (н. 1942), беларуская актрыса. З 1963 г. актрыса Беларускага рэспубліканскага ТЮГа. Заслужаная артыстка Беларусі (1997). Жонка А. Вольскага.

[8] Раджаб Убайд (сапр. Раджабаў Убайдулло; н. 1941), таджыкскі акцёр, паэт. Народны артыст Таджыкістана (1994). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Таджыкістана імя А. Рудакі (1998).

[9] Запісы пра паездку ў Таджыкістан занатаваны ў «Штодзённіку» (кароткія, «назыўныя») і ў 2-х блакнотах (пашыраныя). Запіс ад 22 лютага ў 1-м блакноце адзінкавы, і падобна, што, пачынаючы 2-гі блакнот (ужо па памяці), Рыгор Іванавіч збіўся на адзін дзень і працягнуў запіс 22 лютага як «23 лютага». Таму дадатковыя тэксты размешчаны па датах «Штодзённіка» па зместу (*заўв.* Н. Давыдзенка).

[10] Прытоены ўспамін пра таджыкскую паэтэсу Маўджуду Хакімаву (1932–1993), з якой пазнаёміліся на сустрэчы пісьменнікаў у Латвіі ў 1965 г. Ёй прысвечаны многія вершы, у тым ліку «Рыжскія рукавічкі» (Неруш. 1966).

кі ў трывозе, пасяўная павінна пачацца. У нас дужа класікі, нас забяспечваюць мудрасцю, — гаворыць галоўны. — А ў вас рэпа ёсць (туры)?

У Маскве. Самалёт не ляціць. Нумар гасцініцы. Нехта ляжыць, [кажа]: «Выключы святло. Я англічанін». — «А я — таджык». Тады той на чысцюткай таджыкскай мове: «Я таксама».

— А плоў у вас ёсць, і туры (рэпа) ёсць? А ў нас плоў робім, а рэпу з Індыі заказваем». (Рэпа зялёная і салодкая.)

Усе — дарослыя і дзеці лепяць снежкі. Прычасце да чысціні, да Паміра. Салодкія снежкі. На парасоны снег [цісне] мяккімі пальцамі.

Убайд зайшоў у гатэль, чакаем хлопцаў. Заходзім у СП (мы чакаем), з'яўляецца газік. Едзем. Катэджы для пісьменнікаў. Перш чым зайсці ў двор, Убайд страсае густы снег кіпарыса, два разам Агдзі выгнула і схіліла, страсае снег.

Дачка Барно (Каханая), 1-шы курс, [вывучае] урду. На стале яблыкі з уласнага саду. Першую піялу павінен выпіць гаспадар.

Убайд пра Міршакара[1] як пра чалавека, а пра паэта нічога. Як ён заўважыў яго (Убайда; ляцелі ў Індыю, а рукапіс у выдавецтва здаў).

Унучка Фарангіз (Дачка навукі), дзед помніць, што ёй 1 год 6 месяцаў і 8 дзён. Урук з дрэва, якое садзіў бацька.

Убайд Раджаб [тэл.] хата. Міршакару — 70. Муміну Канаату 20 мая 1982 — 50 год. Убайд Раджаб — 50 год. Хакімавай — 50.

*23 лютага, аўторак*

СП Таджыкістана. Бяседа ў Сарбона[2]. Мумін прымае ў сябе ў кабінеце.

* На тэрыторыі Беларусі 25 тыс. таджыкаў загінула. У Гомелі загінуў паэт і вучоны, хаям. «Вы, беларусы, ўратавалі чысціню славянства ў балотах, мы, таджыкі, чысціню і культуру ў пячорах, пячорныя арыйцы».

Бяседа ў Сарбона (па традыцыі, калі ўхваляюць твор, варыцца плоў і ўсе запрашаюцца). У яго раман ўхвалілі. У часе, калі класікі былі маладыя, даваў рукой сваяку знакі, ці падкладаць агонь пад кацёл, ці адграбаць жар. Калі ў часопісе друкуецца — яшчэ плоў, калі асобнай кнігай — яшчэ плоў.

Прыём у Муміна ў кабінеце і ў адпачывальні (ванна і туалет персанальныя), чай у прыёмнай, кава і каньяк у адпачывальні.

Калі памёр Ансары[3], трэба было сям'і выбіць пенсію, а ўзнагарод, выявілася, ніякіх няма. Выручыла Ганаровая грамата Беларусі.

---

[1] Міршакар Мірсаід (1912–1993), таджыкскі паэт і грамадскі дзеяч. Народны паэт ТаджССР (1962). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1950).

[2] Сарбон (сапр. Хамраеў Аблакул), таджыкскі празаік.

[3] Ансары Ф. (сапр. Ансораў Файзуло; 1931–1980), таджыкскі паэт і драматург.

*24 лютага, серада*

Тэлезапіс у СП. Мумін [Канаат]. Гульчэхра Сулейманава[1], Фатэх Ніязі[2], Мухіддзін Фархат[3]. Рынак пасля запісу.

* Запіс. Мумін, Гульчэхра Сулейманава. Пасадзіла дрэўца, на вуха таджыкскую песню [прапяяла], каб расла. Брыль прыслаў фота, і яна напісала верш, па якім назвала кніжку «Саджанец».

*Мухіддзін Фархат: «*Салаўі, Красны Двор, Вераб'і, Пялёўкі, Гарадок, Глыбокае, спалі]лі] хаты. І сады высеклі ў нас хутка. На трэці год ужо сады пладаносяць, а ў Беларусі ж трэба доўгі час. У Купалы вучуся выкарыстоўваць фальклор. У час вайны я з першых рук вершы Купалы і Коласа [пачуў] з вуснаў воінаў-беларусаў. Пасля вайны пачаў пакрысе перакладаць беларускую паэзію. Да дзён Дэкады беларускай літаратуры ў 1965 годзе пераклаў, і асобнымі зборнікамі выйшлі Янка Купала і Якуб Колас. Цяпер нанова [друкую], у новай рэдакцыі. Я думаю, што новая вёска стала на месцы каміноў і попелу Краснага Двара».

*Фархат* гаворыць: «Папялішчы і высокія піхты (так яму ўяўляліся яліны ці сосны). Янка Купала і Амар Хаям — ад жыцця».

*Фатэх Ніязі*: «На сустрэчы П. М. Машэраў сказаў: «Паедзьце на Палессе і паглядзіце брацкія магілы. Там імёны таджыкаў». Ён паехаў. Кожны дом — быліны, легенды пра подзвігі. Дзякуй беларускаму народу, без яго многія старонкі подзвігу былі б пустыя, ён іх запомніў крывёй сваёй, мужнасцю сваёй.

Асабліва ўразілі беларускае неба — ласкавае, чыстае, высокае, але да яго, здаецца, можна рукой падаць, і лясы, надзвычай ласкавыя, аксамітныя, яны менавіта і хавалі мужных помснікаў.

Калі прачыталі раман «Ты не думай, што лес пусты», пісалі: «Ці сам ўдзельнічаў у партызанскіх баях?»

Рахмон Сафараў, у былым вайсковец, шукае імёны подзвігаў. Герой Савецкага Саюза — у Лоеве магіла. Жонка — дэпутат Вярхоўнага Савета Таджыкскай ССР, заслужаная настаўніца.

Крыты рынак. Чайхана. Салату з памідорамі, кавуны з дыняй есці забараняецца. Рынак духмяны, хаямы сядзяць. Праходжу па радах на крытым рынку. Хаямы з-за духмяных гор пазіраюць, адзін нешта гаворыць, пасля да мяне па-руску: «Таварыш барада!»

Два таджыкі прадаюць яблыкі. Зіма пачынаецца, а цану не спускаюць. Адзін захварэў, брат наведвае ў бальніцы:

— Ну як здароўе?

— А пачом яблыкі прадаеш?

---

[1] Сулейманава Гульчэхра (н. 1929), таджыкская паэтэса і дзіцячы пісьменнік.

[2] Ніязі Фатэх (1914–1991), таджыкскі пісьменнік. Народны пісьменнік ТаджССР (1986).

[3] Фархат Мухіддзін (сапр. Хасанаў; 1924–1984), таджыкскі паэт, перакладчык.

— Па 10 рублёў.

— Хоць я і памру, а цану трымай такую ж, брат мой.

*25 лютага, чацвер*

Тэлестудыя. Цесная, душная. Інстытут літаратуры. Ленінскі раён, помнік Плавельскаму[1].

* Тэлестудыя. Душна, цесна. Інстытут літаратуры. Аўтограф Янкі Купалы Лахуці[2]: «Дорогим и милым т.т. Бану и Лахути с искренней сердечностью. *Янка Купала. Москва. 1]XII–35 г.*». Избранные стихи и поэмы. «Художественная литература», 1935.

Ленінскі раён (кок-таш, былы), лакай таджык. Раней было насельніцтва ўзбекскага паходжання.

Дом піянераў імя М. А. Плавельскага, рэшткі самалёта, у калідоры гняздо ластаўкі, як шапка зімовая дэханіна.

Зульфіра Мірзоева, малая: «Приезжала егошняя жена, остатки егошнего самолёта…» (Мой бацькі год [год нараджэння І. Р. Барадуліна].) У 23 гады (1908–1931) [загінуў]. Неба цяжар ён адчуў на сваёй спіне. І на яго пакласціся можна было небасхілу… Выразалі нажом на спіне абрысы самалёта і зорку.

*26 лютага, пятніца*

Заўтра Нурэк. Плаціна. «Бібліятэка [дружбы народаў]» Баруздзіна[3]. Сустрэча з Убайдам [Раджабам] (парадкоўнікі).

*27 лютага, субота*

*г. Нурэк.* «Бібліятэка дружбы народаў». Зборы ў далей [у Ашхабад].

* Маршчакі гор пад снегам выяўней. Дрэвы (сады), як і жанчыны, рана пладаносяць і хутка старэюць.

Тут дрэвы, як і жанчыны,
Рана прыносяць плады,
Таму і старэюць рана.
На сцвалах памаршчыны,
Парэпаныя сляды —
Кара спякотай пераарана.

---

[1] Плавельскі Міхаіл Абрамавіч (1908–1931), савецкі лётчык, удзельнік Грамадзянскай вайны. Герой Таджыкістана. Загінуў ад рук басмачэй. Ураджэнец Беларусі (г. Бабруйск).

[2] Лахуці Абулькасім (1887–1957), таджыкскі паэт. Гл.: Босы бог (1988) // Самота паломніцтва. С. 45.

[3] Баруздзін Сяргей Аляксеевіч (1926–1991), рускі пісьменнік. У 1966–1991 гг. гал. рэдактар час. «Дружба народов».

Горы то чорныя, як памірцы, падкрэслена чарната белатой снегу. У катлавінах цясніны густая імгла. Дарога заблытвае свае сляды, адмаўляецца ад сябе самой і зноў сябе ўспамінае і пазнае, вывівы, як быццам горы хочуць горла сабе абматаць шалікам і ніяк не могуць. Горы то глініста-бурыя, падласа-зелянявыя, з дымкім кустоўнікам. Снег стварае глыбіню, аб'ёмнасць гор. Нашашэраныя дрэвы ў снезе, адчуўшы вясну, бягуць ў горы.

*г. Нурэк* (Норак). Старыя пад дрэвам чакаюць машыну, ускокваюць, дапамагаюць адзін аднаму ў крыты грузавік [забрацца]. Едуць на пахаванне — сябра памёр. Стары пад дрэвам, яшчэ з леташнім лісцем.

ГЭС, блакітная, як Карыбскага мора, вада, уверсе апоры электраперадач, высакавольтныя вышкі, за рукі ўзяўшыся, ідуць за перавалы. Норак (Шалёны) з шалёнага блакітным стаў, як падплывае да плаціны.

Ні крыгалом, ні лёдастаў,
Нічым яго не калаціла.
З шалёнага блакітны стаў,
Ля пальцаў лашчыцца плаціна.

Нурэкскі шпак на страсе, дзе антэны, а шпакоўні ніводнай, патрабуе жылплошчу ў новым горадзе, хоча стаць гараджанінам горны *шпак. Нешта не так, нешта не так…*

«Читателям славного Нурека сердечный привет с полей и лесов Беларуси. *Петрусь Бровка, апрель 1974*».

«Спакойнай ночы — бачыць шпаковы вочы», — на сон мне жадалі малому, а вочы ў шпака.

Да сустрэчы, ціхі Душанбе,
Хай пасуцца гор тваіх атары.
Аблачынам «цоб, цобэ»…[1]

Ляцім над вечнаснежнымі гарамі. Нейкія сляды. Ці не снежнага чалавека? Горы змяняюцца васпаватымі шчокамі пустыняў. Неўзабаве будзе Ашхабад.

*28 лютага, нядзеля*

Аэрапорт *Ашхабада,* гасцініца «Турыст». Крыты рынак Ашхабада.

* Тут ужо на прыслонку прыпякае ў плечы. Без пальто прадэфілiравалі па ашхабадскіх бродах. Арыкі з маленькімі жалезнымі шлюзамі. Базар. Чайхана. Чаі заварваюцца хутка, чарга за чайнікам і піялой. Духмяныя рады пад дужай страхой. Дарагі базар. Насупраць чайханы пе-

---

[1] Цоб, цобэ — вокліч, якім украінцы падганяюць валоў.

рыферыйная славянка[1] прадае свежазасоленае сала і лой ў слоіках. Прадаўшчыца (маладая) прадае каўбасу. Пытае:

— Адкуль вы?

— З Беларусі. А што, відаць, па чым?

— Скура ў вас нейкая белая і валасы не такія.

Рэм [Нікіфаровіч] з Валодзем [Пранько], пакой побач з буфетам. Стук у дзверы, чорная галава: «У вас у туалет схадзіць можна?»

*1 сакавіка, панядзелак*

Ніяк не можам вырвацца з «Турыста». Слава [Акімушкін] недзе бегае. Ікар[2] знайшоўся. Бібліятэка славутая.

* Смярдзючая гасцініца «Турыст». Да гасцініцы пад'язджае на веласіпедзе — двухколым ішаку аксакал, белая барада, касматая шапка, боты на мяккай падэшве, грубы непрамакаемы плашч. Ставіць абвешаны сумкай і вандзэлкам веласіпед. Падыходзіць да мяне, просіць пакаравуліць — каб без яго не збег двухколы ішак. З лісцінкам — першай зелянінай пакуль — трохрублёўкі шпарка падымаецца па прыступках гулкага ганка. Вяртаецца хутка. Ні з чым. Узмахам рукі дзякуе. Сядлае свой транспарт і едзе далей.

Бібліятэка. Філасофскі дварок. Дрэвы, пакуль лісце, ахінулі галаву каранямі, як накідкай. Ікар: «Холадазабеспячэнне». Нам дзіўнавата, у нас — цяплозабеспячэнне.

На тэлебачанні. Што папрасіць паказаць: саксаульны гай (побач з аэрапортам), канал, возеры Заходняе, Куртскае, кавалак пустыні, Гяурскі раён (кавалак), поле, атары, вярблюды, іпадром ці конезавод. Гэта ўсё раіў нам паглядзець Байрам Джутдыеў[3], рэдактар «Токмака» («Пабаешкі»), паэт, мае 6 дзяцей.

*2 сакавіка, аўторак*

Гасцініца «Аэрафлоцкая». Байрам нас знайшоў. У гасцях у Байрама Джутдыева.

У гатэлі «Аэрафлота»,
Дзе запоўнены месцы ўсе,
Днём і ўночы тваю ахвоту
Быць у небе гул нясе.
У зямным караван-сараі

---

[1] Гл.: Перыферыйныя славяне (4.11.79, Бараўляны, бальніца) // Вечалле. С. 208.

[2] Пасеўеў Ікар Расціслававіч, туркменскі пісьменнік, журналіст, уласны карэспандэнт «Литературной газеты» па ТССР.

[3] Джутдыеў Байрам (н. 1937), туркменскі паэт і празаік.

Драмадэры нябесныя АНы
На прывязі стаяць.

Раскладушкі па калідорах. Дрыжаць шыбы, як узлятаем. Раніцай складаюць раскладушкі, нібы ламаюць бярозавы сушняк, каб кінуць у полымя гулу. Пахне падушка трывогай і тытунём дарагім[1].

Як вінаград і гранатавыя лозы вымярзаюць, высякаюць, і з кораня зноў яшчэ магутней ідзе [порасць], праз тры гады зноў плады. На зіму аксакалы, яны найбольш старанныя (тлумачыць малады Мухамед з тэле, а маладыя ў нас усе аднолькавыя — працаваць не хочацца!), пад зямлю (зямлёй ахінаюць) вінаградныя і гранатавыя кусты. Тады першыя яны ідуць у рост, пупышкі ўжо раней праклюнуцца, а на калгасных палях гэтага няма — няма сілаў.

Сяджу каля галоўнай бібліятэкі, праз шум машын прарываецца захлынанне жаб, як не лопнуць. Зрэдку на палігоне ці дзе чэргі аўтаматныя. Але жабіны нецярпенні мацней, сваёй прарэзлівасцю ўрываюцца ў ранішні гарадскі шум і робяць горад, як гэта і ёсць у Азіі, хатнім, кішлачным, зямным і канкрэтна вясновым.

Помнік Леніну. Арнамент асноўных плямён Туркменіі (чёлі) у выглядзе кілімаў з 4-х бакоў. А аўтаматныя чэргі чуваць. Бялее Капетдаг. Кілімы наблізілі вобраз Леніна да сэрца Туркменіі. Маладыя ставяць кветкі, аксакалы прыходзяць падумаць у летнія вечары. Ткалі каменныя дываны на вякі. Бронза з гарматы, у Байрамалійскім заводзе адлілі помнік У. І. Леніну.

Конезавод [у п.] Бікрава. Загон выкапачаны, старая вартаўнічка нешта вяжа ў цёплых шкарпэтках і нейкіх мяккіх шкурня́х. Ашхабадскі конны завод «Камсамол».

Возера К(Г)уртлінскае, белае чэркез, (кандым) клубкамі, белае ад солі, ад ветру, як солі белы дым кандым. Вока нары (пазуха) пад брывом перакаціполя, пустая вачніца нары, брыво перакаціполя. Як малое скляпенне, нара чарапахі, усю зіму спіць, вясной падымаецца трава, і чарапаха прачынаецца, падымаецца.

Кёшэк — вярблюд, торм — падуростак вярблюд, мая — дойная вярблюдзіца. Ніцыя пальцы тутавых дрэў з куксай з лісцем ссохлым, хутка пойдуць у рост.

Саксаулавы гай. Чакае зялёных лісточкаў, а пакуль пясчанага колеру, нібы расце пясок і раскусціўся і голлямі шуміць тут сухавей, зімой працаўся, шуміць, гнёзда леташнія.

---

[1] Гл.: Нябесны гатэль (27.11.83) // Маўчанне перуна. С. 108.

У Байрама Джутдыева. Дачушка Джахана (Мір), 4 гады. Перадаю паэму Карласа Шэрмана, гэта зацікавіла Байрама. Юз эрлик — для ста мужчын, ад злых духаў.

*3 сакавіка, серада*

Тэлезапіс. Байрам [Джутдыеў], Ашэр Назараў[1], Тангрыкуліеў[2], Таўшан Эсенава[3], Ікар [Пасеўеў]. Госці ў Кыркеша Атаева.

* Тэлецэнтр. Запіс. Ашэр Назараў — празаік, заслужаны работнік культуры ТССР, вызваляў Полацк, Віцебск, Ушачу.

Анна́ Кавусаў[4] — вандроўнік, перакладаў.

Каю́м Тангрыкуліеў — паэт, празаік, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Махтумкулі, прэміі-дыплома імя Андэрсена, галоўны рэдактар «Корпе́» («Малыш»).

Таўшан Эсенава, народная пісьменніца, [сустракалася] на 3-месячных курсах у Малееўцы разам з Аркадзем Куляшовым у 1935 г. Куляшоў вучыў [катацца] на лыжах і на каньках. «Гэта ты Таўшан: два туркмены рыба, два куры — базар». Пераклала «А хто там ідзе?» [Я. Купалы].

Ахмет Гурбаннепесаў[5] — паэт, драматург, празаік. Перадаваў паклон Салаўю, быў у нас на апошнім з’ездзе.

Чабан у пустэльні правядзе рукой па пяску — і скрынка гарэлкі ці каньяку.

У гасцях Кыркеша Атаева (дзве працоўныя кніжкі спісаны — усе прафесіі перабраў). «Гэтак далёка, дзе сабака здох». Малыя на падлозе. У люльцы. На сцяне фота ў аляпаватым акаймаванні, партрэты-кілімы на заказ. Валодзя Пранько: «Перасякаючы экватар, кожны раз мудрэеш. Раней для мяне было так далёка — там, дзе вецер паварочваецца».

[Адрас:] Вельсапаров Акмухамед Джумаевич. г. Ашхабад, ул. Курортная, 111. Литературно-драматическая редакция.

*4 сакавіка, чацвер*

Ледзь свет — на ўзлётную паласу. На Маскву. Блуканні па пакутах. Звон Ваню [Бурсаў]. Пражскі цягнік.

* Зборы. Адлёт на Маскву. Горад, што першы твой крык пачуў.

На пошце ў Маскве паштарка другой: «Не чапайце мяне, а то ўкушу».

---

[1] Назараў Ашыр, туркменскі празаік, драматург.

[2] Тангрыкуліеў Каюм (н. 1930), туркменскі паэт, празаік, перакладчык. Народны пісьменнік ТССР (1984).

[3] Эсенава Таўшан (1915–1988), туркменская паэтэса і драматург. Заслужэнная паэтэса ТССР (1939). Народны пісьменнік ТССР (1974).

[4] Кавусаў Анна (1920–2006), туркменскі паэт.

[5] Гурбаннепесаў Ахмет, туркменскі паэт, празаік.

*5 сакавіка, пятніца*

Мінск. Звон у СП. На працу. Свята жанчын. У Дом дружбы. Грошы жонцы Лісіцына[1].

*6 сакавіка, субота*

Зборы ў Кіеў. (Магазін.) На пошту. Да Акімушкіна (аддаць доўг). Звон Жаку.

*7 сакавіка, нядзеля*

Падагнаць крыху працу.

Звон Караткевічу.

*8 сакавіка, панядзелак*

Мой Зай, мой коцік на вярбе,
З днём 8-м, міжнародным,
З марцам!
Хай напаўняе лёс табе
Здароўя самым поўным гарцам!

Самалёт на *Кіеў.* Вялікі зоразбор агнёў. У Жулянах [аэрапорце] стаім больш, чым ляцелі.

Сустракае Іван Драч. У мяне № 1709 (Іван падкрэслівае, што «шведы пад Палтавай» нагадвае).

*9 сакавіка, аўторак*

*Музей Шаўчэнкі*. Выкупліваюць душу, колькі яна каштавала. Дагэтуль Украіна выкуплівае душу Тараса і сваю душу. Над магілай [надпіс] на трох мовах: рускай, украінскай, польскай. Цярновы вянок на чырвоным [неразб. 3]. Жандары на магіле Шаўчэнкі. Партрэт, пасечаны дзянікінцамі ў 1919 г.

Ля помніка Т. Р. Шаўчэнкі спяваюць выкладчыкі і студэнты «Запавет», «Раве ды стогне…». Па тым, як спяваюць губы і вочы, відаць і чалавек, і душа ягоная. Тут гартуецца нацыя. Любоў да мовы, да краю пасля ўжо нічым не вытруціш.

КДУ. Прыём у рэктара. Музей. Шаўчэнка назначаны (залічаны) настаўнікам малявання, але ў той жа дзень арыштаваны.

Выступае Гюнтэр Штайге. Па заданню рэдакцыі [прыехаў] на Нікалаеўшчыну: «Ты першы немец, які пасля вайны едзеш у гэты гарадок». Вёска была Пішчанка, сустрэлі, дзеці пелі па-нямецку, віталі мяне па-нямецку».

---

[1] Лісіцын Уладзімір Сяргеевіч (1944–1973), беларускі паэт.

*Драч*: «Калі бываў у Маскве, у Тбілісі, сустракаемся з [неразб. 1] Іраклі[1]. Сапраўды, пацвярджаю, што ён сустракаецца з маладымі. Цяпер, бачу, што голас ваш сеў не таму, што цалавалі дзяўчаты ў лоб, як цяля».

Михайло Мольнар[2]. [Адрас:] Molnár Michal. Tolstého, 4. Bratislava. ČSSR–80100. Мне паслаць даведнік пісьменнікаў Беларусі.

Пятрусь Макаль, артыкул пра Янку Купалу і Якуба Коласа «Два светы беларускага народа» (4 стар.).

Св. Йовэнка[3]: «Ідзі сабе к Раулю, а я пакаравулю!» (10.III.82)

Аббас Абдулла[4] ехаў з украінцамі, у Баку доўга тлумачыў завулак, там і там, нарэшце таксіст сказаў: «А, гэта там, дзе жыве Аббас Абдулла».

*Нафі Джусайты[5]*: «Мне цяжка было па-ўкраінску чытаць, і таму ў мяне свой Шаўчэнка. Раю і ўкраінцам пачытаць, як быццам ўпершыню, як бы цяжка чытаць».

*Іраклі:* «Толькі адзін бог ведае, як абыходзіцца з талентам, ці пеставаць, ці ў такія мукі, каб сказаў усё; я не заклікаю нікога ў турму. Паэт павінен быць такім вязнем. І такім вольным, як Тарас Шаўчэнка, каб сказаць ўсё, што павінен быў сказаць».

Немцы ўзарвалі Лаўру. Узляцела ўгору, у небе затрымалася, як на іконе, і што на свае падмуркі [упала] — засталося, а што не трапіла, пылам стала.

Пярун — сярэбраныя вусы, на пастаменце выбіта: «Божа».

[Адрасы:] г. Київ-82, вул. Западинська, 3-а, кв. 46. Чілачава[6] Рауль Шалвович. Паслаць украінска-беларускі слоўнік! г. Баку, ул. Авакяна, 2 «Б», кв. 25. Аббас Абдулла.

*10 сакавіка, серада*

Таполя, як Тарасава пяро, абмакнутае ў родную глебу, каб на веснавых аблоках [пісаць], бо паперу забаранілі. І каташкі сярэбраныя — кроплі аблачын.

---

[1] Абашыдзе Іраклій Вісарыёнавіч (1909–1992), грузінскі паэт. Акадэмік АН ГССР (1960). Герой Сацыялістычнай Працы (1979).

[2] Мольнар Міхайла Ільыч (н. 1930), чэшскі і славацкі літаратуразнавец, украініст (Славакія, Браціслава).

[3] Йовэнка Святлана Андрэеўна (н. 1945), украінская паэтэса.

[4] Аббас Абдулла (н. 1940), азербайджанскі крытык, перакладчык.

[5] Джусайты (Джусоеў) Нафі Грыгор’евіч (н. 1925), асецінскі пісьменнік і літаратуразнавец. Доктар філалагічных навук (1968). Лаўрэат прэміі імя К. Хетагурава (1979).

[6] Чылачава Рауль Шалвавіч (н. 1948), грузінскі і ўкраінскі паэт і перакладчык. Заслужаны дзеяч мастацтваў Украіны (1998). Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Грузіі (1985), прэміі імя М. Рыльскага УССР (1987), Міжнароднай літаратурнай прэміі імя М. В. Гогаля (2015).

Малады Шаўчэнка, помнік. Спадае палатно пад гімны СССР і Украіны. Малады, натхнёны і пранікліва-чыстымі вачыма глядзіць у душу сучасніку: падумай, спыніся, што зрабіў ты для Радзімы, для Украіны!

*Музей Тараса*, стол і ўслон бацькоў Тараса, як доля, пакручастыя драўніны, абкрышаныя. Тарас піша свае аўтапартрэты, як бы перадавая свой вобраз, бо ахранкі яшчэ былі слабыя, фота слабое. Малюнак дома, які ён хацеў паставіць; на месцы, дзе дом хацеў — пахаваны. Пасмяротная маска і паўслязы на правым воку. Магіла маці Тараса ў сядзібе.

Балдометр — шклянка. Машына не конь, дзе пастаў, х.. што вырасце.

*с. Чаркасы* — [неразб. 1] на сцяге [?]. Скорина Г. Г. Скорина О. Ф. Клубки зялёных амел на вербах, на вязах.

Эсэсаўцы (1942) стралялі ў помнік Тараса. 32 прабоіны ў вочы і у лоб. У будынку музея канцлагер.

*г. Канеў*. *Музей Шаўчэнкі*! Зіна Береза. І ўсе выданні Шаўчэнкі [неразб. 1]. «Волен он, Шевченко, избрать себе род жизни, какой сам пожелает...» — з вольнай. 60 аўтапартрэтаў за ўсё жыццё.

Тэчник нареченої Т. Г. Шевченка Л. І. Полусмакової. XIX ст. Пеўні і мальвы, ружы. І галінкі паўтараюць жураўліны вырай[1].

Сяло. На вяроўцы сохнуць вышываныя ручнікі, шмат іх, крычаць фарбы. [Неразб. 2 сказ.] Ноеў-Каўчэўскі.

А деньги проверяй,
Не отходя от кассы.
Пей за Тарасов край,
За милые Черкасы.

[Адрасы:] г. Київ-24, Орджонікідзе, № 2. Спілка письменників. Терену[2] Віктору Васильовичу; г. Киев, Кирова, 34, журнал «Вітчизна». Зубанич[3] Фёдор Иванович. 3–4 стар. 60 год Украіны.

*12 сакавіка, пятніца*

[Адрас:] г. Кишинёв, пр-т Сов. Армии, 21]3, кв. 82. Ион Георгицэ[4].

*13 сакавіка, субота*

*Кіеў*. Сельгасакадэмія. Рэктар вітае, ад політэхнічнага інстытута 1898 г., стала акадэмія (1954), ёсць педфак, аспірантура ≈ 300 [аспірантаў], ≈ 900 выкладчыкаў, бібліятэка ≈ 90 тыс. тамоў, ≈ 400 студэнтаў з за-

---

[1] Гл.: Трыпціх гары Чарнечай (27.01.83, Каралішчавічы) // Маўчанне перуна. С. 63.

[2] Тэрэн Віктар Васільевіч (сапр. Таран; н. 1949), украінскі пісьменнік і палітык.

[3] Зубаніч Фёдар Іванавіч (1947–2004), украінскі пісьменнік, публіцыст.

[4] Геаргіцэ Іон Тэадосеевіч (сапр. Дзеламунтэ Раду; 1939–1991), малдаўскі пісьменнік, перакладчык, журналіст.

мяжы, 60 замежных аспірантаў — Азія, Афрыка, Лацінская Амерыка. Ветфак і абарона раслін, усе замежстудэнты. Штогод 1200 чалавек прымае акадэмія. Першы выпуск (1903 — быў Мендзялееў[1] у камісіі).

Помнік студэнтам, якія загінулі ў Вялікай Айчыннай вайне. За спіной вінтоўка з адвінчаным (прымкнутым) штыхом. Правая рука на рамяні, левай рукой прыціскае каласкі пшаніцы да сэрца.

Мікола Шпак[2] быў студэнтам. Зэдлік, на якім сядзелі студэнты, са скрынак ад гарматных [снарадаў]. Першы рэктар пасля вайны (1954–1957) П. Д. Пшанічны.

Загад Вярхоўнага Галоўнакамандуючага 23 лютага 1943 г. — лістоўка на беларускай мове.

Стоколос. Бронзавы цёзка. Калі помнік адкрыўся, адна маці ў слёзы: «Гэта ж мой Грыша!»[3]

[Адрас:] г. Киев-152, ул. Серафимовича, д. 19, кв. 137. Марченко Сергей Николаевич (фото).

*14 сакавік, нядзеля*

*Музей Вялікай Айчыннай вайны.* Вочы дзіцячыя праз калючы дрот, калючкі, як надскепінкі на ілбе, на грудзях. Косцедрабілка ў Янаўскім лагеры, вядром драбнілі косці на ўгнаенне, косці вязняў, механізаваны электрапрывад.

Ва ўзнагародах, як дом у шыльдах.

*15 сакавіка, панядзелак*

Сустрэча з Барысам Алейнікам. На Хрышчацік. Унізе зборы. На цягнік. На Мінск.

*16 сакавіка, аўторак*

Звон Быкаву. Да Якава Абрамавіча [Серпера]. Аптэка ля [маг.] «Несцеркі». Да Быкава.

*17 сакавіка, серада*

Праца. На машынку частку калектыўнага [зборніка]. Да Фамы [Караткевіча] — забраць эсэ.

*** Тэрмінова — казка для «Юнацтва». Дубянецкі. Выдавецтва «Юнацтва». Пярэзімак. Правейнае паліто. *Падковаю — пад коўдрамі.*

---

[1] Мендзялееў Дзмітрый Іванавіч (1834–1907), рускі хімік, вучоны, педагог і грамадскі дзеяч.

[2] Шпак Мікола (сапр. Шпакоўскі Мікалай Іпалітавіч; 1909–1942), украінскі паэт і перакладчык. Удзельнік партызанскага руху на Украіне ў гады Вялікай Айчыннай вайны.

[3] Гл.: Родная (1982) // Парастак радка, галінка верша. С. 148.

*18 сакавіка, чацвер*

Матэрыялы па «Братэрству». Сазваніцца з Клышкам. Званіць Вярбе (пытанні па падборцы).

*** Драча друкую на машынцы, загады туманоў [?], і выкручваем аркушы. *Парахоўня — страху перахоўня, што спрадвеку з выбухам сябруе.*

*19 сакавіка, пятніца*

На пошту. Ярошу[1] «Беларусь» № 3. У Дом друку. Паседжанне секцыі паэзіі. Наконт падзелу ў Васіля.

*20 сакавіка, субота*

Падагнаць украінскія пераклады. Да Ал. Гардзіцкага (забраць балгарскую сваю кніжку).

*21 сакавіка, нядзеля*

Звон Карласу [Шэрману] дамоў. Наведаць Карласа.

*22 сакавіка, панядзелак*

Давесці ўкраінскія пераклады для Бечыка. Да Яшы [Серпера] (ногі).

*23 сакавіка, аўторак*

12.00 — Бараўляны. Абласная бальніца. Аптэка, Пётр Іванавіч Макаўчык.

*26 сакавіка, пятніца*

Праца. На машынку частку калектыўнага зборніка. 18.00 — запіс на тэле.

*27 сакавіка, субота*

Да Навума [Кісліка]. Да Тамары Залатухінай. 15.00 — абед у нас дома ўсіх.

*28 сакавіка, нядзеля*

Закончыць артыкул для Варлена [Бечыка].

*29 сакавіка, панядзелак*

Бубнаву ў «Неман» слова пра Купалу[2].

---

[1] Ярош Міхась (Міхаіл Рыгоравіч; 1929–1987), беларускі крытык і літаратуразнавец. Кандыдат філалагічных навук. У 1956–1987 гг. навук. супрацоўнік Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР імя Якуба Коласа (1980).

[2] Бородулин Р. Слово о Купале // Неман, № 7, 1982.

*30 сакавіка, аўторак*
У выдавецтва ўступ да ўкраінцаў. Сход.

*31 сакавіка, серада*
Верш Ю. Герасіменкі[1] Бечыку. Партсход СП. Успамін пра Шырму[2].
* Ленінскі пр-т, 45, СШ № 23, 14.00 — у школе выступленне.

*1 красавіка, чацвер*
Юлі[3] аддаць праўкі «Азбукі». Выдавецтва. 15.50 — Радыёкамітэт. 19.00 — вечар гумару ў СП.

*2 красавіка, пятніца*
11.00 — Шаранговіч [Галіна] (выдавецтва).

*23 красавіка, пятніца*

*Якаву Хелемскаму*

Не звык пяро Хелемскі падпіраць,
Сябруючы з натхненнем — не з прымусам, —
Перакладае класіку на «пяць»,
З адною агаворкай:
часта з плюсам[4].

*** Запозненая падзяка Гутэнбергу[5].

*Запозненая падзяка Гутэнбергу*

Хоць вывеў у дарослыя з малых
Усіх адразу час вайны суровы,
Нас, як малых,
Няхай сабе былых,
Цягнула ў сутарэнні, ў сховы[6].

---

[1] Герасіменка Юрый Георгіевіч (1927–1985), украінскі паэт, празаік, перакладчык, крытык.
[2] Шырма Рыгор Раманавіч (1892–1978), беларускі харавы дырыжор і фальклярыст. Народны артыст БССР (1949). Народны артыст СССР (1955). Герой Сацыялістычнай Працы (1977). Гл.: Зорка Шырмы (1982) // Парастак радка, галінка верша. С. 143.
[3] Бураўкіна Юлія Якаўлеўна, у 1979–1988 гг. гал. рэдактар выд-ва «Народная асвета». Жонка Г. Бураўкіна.
[4] Гл.: Пяты майстар (1983) // Парастак радка, галінка верша. С. 198.
[5] Гутэнберг Іаган (1399–1468), нямецкі вынаходца кнігадрукавання. Гл.: Запозненая падзяка Гутэнбергу (5.03.91, Дубулты) // Міласэрнасць плахі. С. 114.
[6] Гл.: Пяты майстар (1983) // Парастак радка, галінка верша. С. 198.

*30 красавіка, пятніца*

*Міколу Ваданосаву*

Быў у брыгадзе «Дзядзі Колі»,
Быў у брыгадах Шахаўца,
Нікога не падвёў ніколі,
Усё даводзіў да канца.
Хмялеў ад позіркаў, ад росаў
І ад крутой святой вады.
Да новых маладых укосаў
Вечнавясёлы Ваданосаў
Ідзі,
Не цешачы хады!
Мы маем цвёрдую надзею,
Што прыйдзеш лушчыць спарышы
Не у брыгаду Вадалея —
Брыгаду Колі Чарамшы![1]

*9 мая, нядзеля*

* * *

Тут вясной так грыміць крыгалом —
Аж дрыжыць старана лясная.
Гром вясёлы суседа з калом
Па нябесным двары ганяе.

Тут, калі салаўі запяюць,
Дык здаецца,
Што ў бутлях поўных
У азёрныя кубкі льюць,
Льдзінку поўні здзьмухнуўшы,
Поўнач.

Тут, калі зацвітуць сады
І ўзгарыцца бэз перазяблы,
Дык платы,
Нібы ў халады,
Аж трашчаць ад сумётаў яблынь.

Тут вясна з ушацкай хадой:
Самы доўгі шлях недалёкі.
Пахнуць губы журбой маладой

[1] У вайну М. Ваданосаў — радыст партызанскага атрада брыгады «Дзядзі Колі»; Чарамша — мянушка.

І, як яблыні,
Мёдам аблокі…

* * *

Стог блакіту,
Звершаны вясной,
Зласавала лета неўпрыкметку,
І каймуе восень баразной
Поля парудзелую сурвэтку.

І дрыжыць бяроза гаманкая,
Выбегшы згалелаю з пажару,
Пра блакітны стог напамінае
Возера блакітнае стажар'е.

*16 мая, нядзеля*

* * *

Тупа круцяцца жорны
Даху цяжэзных паўшар'я.
Лес чырвоны і чорны —
Ад крыві, ад пажараў.

Жорны круцяцца глуха
І склыгочуць цярпліва,
Пылам — чорная скруха
Ад жахлівага мліва

Асядае на сэрцы.
Дзень значэла страшэе.
Ад агню-ненажэрцы
Вугалеюць траншэі.

І знікаюць плямёны,
І знікаюць народы.
Лес быў шчыра-зялёны
У любыя нагоды.

Лес чырвоны — ад гневу,
Учарнелы — ад гневу.
Дрэва жаліцца дрэву,
Доля скардзіцца небу.

Гэта лютасць вяртае
Век панура-пячорны.

З партызанскага краю
Лес чырвоны і чорны.

Толькі зруб бервянее,
Думкай зрублены ўпотай.
Лес агнём барвянее,
Як гарачай лістотай.

*18 мая, аўторак*

[У. Лабанок:] «Пра Косага. Ваяваў добра. Да яго адносіны да вайны няправільныя. Разграміў узвод немцаў.

Нарада, снежань 43-га, камбрыг.

Ля Бароўкі немцаў перабілі. А астатнія: «Мы свае!» Узбекі. У першым баі перабеглі назад да немцаў.

Полацк — Лепель, чыгунка, да Чашнік разбурылі, гэта факт.

Караленка. На граніцы [служыў], першыя баі, і застаўся ў тыле. Са зброяй дайшоў да Ушач. Пасяліўся ў лазні. Каравул. Ваенная дысцыпліна.

Курсы падрыхтоўкі медсясцёр. Загад па брыгадзе.

Адпраўляем за лінію фронта прадстаўніка Віцебскага КПБ Барсток. Яна выйшла замуж за Стулава. Сакратар Віцебскага абкома. Цяжарная, і мы яе адправілі назад.

Урач Ладзік. Муж яе (кульгаў, хадзіць не мог) быў з ёй у партызанах, і 2-гадовая дачка, і брат партызан. Пасля прарыву, калі не ўдалося вывезці шпіталь, расстраляў сябе, дачку і сына.

Рэдакцыя, Пацэйка. Думаў, жонка загінула, узяў медсястру, а жонка жывая — да жонкі першай зноў [вярнуўся]. Але жыццё не склалася. Карыкатуры [рысаваў]. Нават немцы падыходзілі і смяяліся, пакуль не здымалі.

*27* красавіка 1944 года. Еду на Сокарава. Селянін воз цягне і пашнікі.

— Ты чаго?

— А Лабанок уцёк за лінію фронта.

— А хто сказаў?

— Усе.

— Дык перад табой Лабанок.

Два самалёта сутыкнуліся, і лётчыкі засталіся жывыя. Ад самалётаў нічога не засталося. Але яны ацалелі. Вышыня не вялікая. Адзін да нас ляцеў, другі — ад нас.

Лепельская аперацыя. У Чашніках два дні былі. У Лепель на пятачку. Лепель вялікую ролю [іграў], бо блізка да Віцебска. База фактычна.

Гіль-Радзіёнаў. Як бой, то 50–60 чалавек пераходзіць да нас. Па прапанове Сталіна далі [яму] ордэн Чырвонай Зоркі. Пасля вайны судзілі ягоных многіх маёраў, палкоўнікаў.

Са зваротам да немцаў выступіў Ів. Усе за. Немцы не хацелі. Падпішаш — куды хочаш. Два дні думаў. «Ну, зараз ідзі». — «Не. Куды мне цяпер ісці», — і застаўся.

*26 мая, серада*

З Громам сустрэча ў гасцініцы. Архіўныя матэрыялы, тут усё пра партызан, знойдуцца Васількі Быкавы, што пройдуць, скажуць.

* Каб нашы ўнукі радаваліся [неразб. 1], пра 200 гадоў напісаў, як Наташа ўсміхалася. 7 тон сена выкасіў і прадаў калгасу.

Азёрная сумная песня. Зімовы лес. Буслянка. Пра хлеб, пра зямлю. Вецер, уздыбленая зямля. Вятры гісторыі не выдзьмулі.

Хлебная балада. Пачаць ваенную тэму. Сумны ваенны фальклор. Гаваркія вочы крыніц. *Крыніц ушацкіх гаваркія вочы.*

*Наталлі Давыдзенка*
*[на «Поэме признания»[1]]*

Поэма признания всем
Республикам,
Странам,
Но даже
Признаний тех мало Наташе,
Которую всю,
Насовсем…

*1982* *Рыгор*

*27 мая, чацвер*

Прыходжу [да У. Лабанка]. Разбірае перафатаграфаваныя газеты, лістоўкі, сам сшывальшчыкам працуе. Аж нялоўка. Кажу, можа, памагчы? — пярэчыць. Неяк аж маладзее — успамінае ўсё сваё партызанскае. Некаторыя перачытвае. Мяне прымушае перачытаць. У яго былі ўсе газеты, але раздаў многа.

Пацэйка (партызан) прынёс вялікі верш на беларускай мове ў гонар Лабанка. Забараніў друкаваць — месца шмат зойме ў газеце, а трэба пра баявыя дзеянні. Знайшоў адгавор, каб не пакрыўдзіць партызанскага паэта. Цяпер верш адшукаўся. Мне дае фотакопію.

Ва Ушачах друкавалася 6 газет для партызанскіх брыгад.

[1] Бородулин Р. Поэма признания. Минск, 1982.

*28 мая, пятніца*

[У. Лабанок.] Разбірае фота. Шукае Ждановічу [фота] камбрыгаў і камісараў. «Зіненка Іван Іванавіч (вось фота. Трэба змясціць, гэта начальнік штаба опергрупы. Харошы дужа таварыш»). Прапануе фота. «А такое ёсць? Гэта выезд на заданне ў Антунове. Ці будзем [паказваць] 105-ты полк лётчыкаў, полк, які працаваў на нас, камандзір палка [Куўсон — закрэслена]. Камсамольцы Армонікі, усе чацьвёра (немцы давяралі, бо бацька быў рэпрэсіраваны), у падполлі з 1941 года.

Кабылка Маша. «Маша! Немцы!» — і яна ўмомант хаваецца.

Гаварылі, што партработнікі не ваююць. Сабраў усіх і каля Каменя засаду [зрабіў] (хацелі падлеца Чыслёнка захапіць). Сем машын перабілі немцаў. У кювеце група ў нямецкай форме: «Мы вашы!» Гэта аказаліся ўзбекі. Мы не стралялі. Мы ўзялі 18 [чалавек]. 4 загінулі, 2 засталіся. Астатнія зноў да немцаў падаліся.

Эрдмана фота трэба было б даць, дужа харошы чалавек. Вера Маргілевіч і Надзя Касцючэнка — гэта нашыя, па сутнасці, Зоі Космадзям'янскія[1].

Немцы вывешваюць загад, а мы плакат. Паліцэйскія глядзяць, смяюцца і доўга не здымаюць.

*Загад на прарыў.* Сабраў камбрыгаў: ці мы застанемся тут навечна, ці прарвемся, — вось і весь загад. Пісаць не было калі. З 4 на 5 мая. Абяссілелі. Страцілі надзею ўдзень [прарвацца]. Была баявая рота, якую ставіць [трэба] на адказных участках для раптоўнага нападу. Гадзін 9. І раптам бягуць з заградатрада, кідаюць зброю і ў балота. Са мной чалавек 8 лётчыкаў са збітага самалёта, узброіў аўтаматамі — і са мной. ≈ 1,5 [тыс.] немцаў ішлі, яны нас не выявілі. Калі прывялі немца, даведаліся, з якой дывізіі. Яна мелася закрыць Селішчанскую пушчу.

Да гэтага трохі пераблыталі план, падышлі да чыгункі ноччу 3-га. Стаялі 2 бронецягнікі, умацаванні. Нас маглі ўсіх палажыць, калі б перайшлі чыгунку. Я зразумеў, што абставіны цяжкія. Праз гадзіну будзе позна. Немцы не паспелі ўмацавацца, і мы на гэтую дывізію пачалі наступ. Але слаба. Я паехаў да Садчыкава: «Скажы, што брыгада Куксёнка прарвалася, і тады ўсе разам [пойдуць]». Усё рашала якая гадзіна. Папалілі танкі, гарматы. Прарыў трымалі 2,5 гадзіны (рота Садчыкава). Немцы змялі [іх] і закрылі праход, засталася частка шпіталёў і насельніцтва. Немцы рэзалі нажамі раненых.

Дзён 5 нічога не елі. Ройзман на прарыве і Сухава [загінулі]. Яе раніла ў жывот».

---

[1] Космадзем'янская Зоя Анатольеўна (1923–1941), партызанка Вялікай Айчыннай вайны. Герой Савецкага Саюза (1942, пасмяротна).

*10 чэрвеня, чацвер*

[Паездка з В. Быкавым ва *Ушачы.]* Выезд з Мінску. Дзядзька навязаў за горла бутэльку і як сабаку цягнуў дадому.

Васіль перад кемпінгам — дзве дарогі разыходзяцца, вярнуўся і паехаў не па сваёй, глядзіць — усе яму [едуць] насустрач, пакуль не ўбачыў калону з 3-ма гаістамі; тэорыя малой коўдры.

*г. Бягомля.* «Будзем лічыць — краіна Пімена Емяльянавіча [Панчанкі]», — тлумачыць Васіль і дае тры сігналы.

У Кублічах, каля цэрквы, палілі, дралі пераплёты (кніг) і змеяў пускалі [успамінаў Быкаў].

*11 чэрвеня, пятніца*

*п. Ушачы.* Паначаваў, і паехалі ў Воршу. «Іду, а дзядам нічога не нясу». У [?] пражываў [?] замкнёна.

Васіль [Быкаў]: «Дзямян (Дзёмка) Азевіч, пасля вайны выехаў на Украіну, на бахчы працаваў. Чаму назад [вярнуўся]? «Куды ні глянь — пуста, а як успомню ўшацкія алешнікік, дык і дамоў».

У Касарах старшыня. Васіль заходзіць: «Над барометрам сядзіце? Ну як?» Старшыня па-руску быццам і тут жа пра мароз: «Угрэць можна сетку якую».

Васіль: «Увесці б адказнага за надвор'е». Старшыня: «Ніхто б не пайшоў на гэту пасаду. Кукурузу пасадзілі, і ўсё б, здавалася, добра, дык замаразкі. Трэба рамантаваць сланечнікам».

Гіль-Радзіёнаў перад вайной у Кублічах камендантам заставы [служыў]. (Васіль у школу хадзіў з ягоным сынам.)

Старшыня: «Відаць, напісаць добры твор цяжэй, чым узарваць гектар зямлі ці надаіць літр малака». У гэтых словах ёсць наіўная вера, і гэта шчымліва. Васіль: «Бывайце здаровенькі». Са старшынёй развітваемся: «Ну, будзем прасіць у бога пагоды».

З Магілёўскай вобласці [чалавек] ехаў на Ушаччыну і браў з сабой два камяні, на гуркі, на капусту гнёт. «Выкінь, у нас камянёў хопіць на ўсё».

«SP. Feliks Topczewski[1]. 2 zmarł 17 G]rud]nia 1892 mając lat 54. Prosi o pozdrowienie Anelskie».

*12 чэрвеня, субота*

Відаць, курыца яго прытаптала (кураня). Хто дуж, той лепш.

Васіль [Быкаў], калі мясіў гразь на Украіне, гола, пыл, — і Васілю хацелася ўбачыць ушацкі алешнік.

---

[1] Гл.: Камень Фелікса Тапчэўскага (13.06.82) // Амплітуда смеласці. С. 48.

*21 чэрвеня, панядзелак*

Жанчына прадае польныя кветкі каля пустога кветкавага, са штучнымі кветкамі, магазіна. Міліцыя ганяе. Адна, прадаўшы ўсё, да другой: «Шчаслівa табе».

І думку, і семку, як бульдог блыху, на зуб злавіць стараецца.

*26 чэрвеня, субота*

[У. Лабанок] Прыслаў машыну, каб аддаць фота Лябікавай, тэкст прынясе, шукае з памочнікам. «Глядзіце не згубіце. Усе фота аддайце пасля назад».

«Са становішча выйдзем, знойдзем» — (бо ў вайну Ул. Елісеевіч не з такіх становішчаў выходзіў). «У гэтым жбанку ўсё ёсць», — і на галаву паказвае.

Дуброўскі правёў аперацыю. Аперацыя «Капкан», Жэня Лябікава (Быкава). Камедант гарнізона ў Кублічах Тымс [з] «жалезным крыжам».

*Удостоверение*

Предъявитель сего полковник т. Лобанок Вл. Елисеевич является представителем ЦК КП(б) Белоруссии и Центрального штаба партизанского движения в Полоцко-Лепельской зоне по вопросам координации в необходимых случаях действий партизанских бригад и отрядов.

*Действительно до 31 декабря 1943 г.*

Сястры Лябікавай далі фота. Бацька харошы. Калі раздзяліліся, Лябікава ў Дуброўскага [засталася]. У лагеры, калі папала, зналі, што яна арганізоўвала [аперацыю] з Тымсам, і маглі яе выдаць.

Іваноў — Сталін. «Дзе яны знойдуць такія раёны, каб маці Броўкі, Лось, ваша партызанка». Схема радыёсувязі. Ул. Елісеевіч паказвае дакументы, колькі чалавек, боепрыпасаў, маўзераў 15 (у асноўным у камбрыгаў). Ул. Елісеевіч паказвае свой пісталет, які захаваў, адзін у музей, у Віцебск, ва Ушачах.

За ўвесь час — [на] 1.VI.44 г. ≈ 960 забіта, ≈ ранена 1250 (і без звестак [згінулых]). Том [БелСЭ] № 24 дадзеныя.

* * *

Партызанская кавалерыя —
Бліскавіцаў клінкоў наўзмах —
Лютых нелюдзяў ксціла, перыла,
Бласлаўляла ў апошні шлях.

Землякоў генерала Даватара[1]
Калыхала адвагі сядло.
Злыдням горача, як на экватары,
І ва ўшацкіх лясах было.

І чужынцы слабелі нервамі,
Ледзь зачуўшы лівень падкоў.
Партызанская кавалерыя,
Млечны Шлях — пыл тваіх падкоў.

*1 ліпеня, чацвер*

Бібліятэка імя Янкі Купалы. Вечар. Кіргізская паэтэса народная (лаўрэат прэміі камсамола). Чытае «Лета» [Я. Купалы] па-кіргізску, а пасля пяе песню на свае словы, а мелодыя народная.

Уолтэр Мэй[2] параўнаў Горкага пераклад з арыгіналам. У Горкага прапаў рытм, гэта ж марш, барабан чуецца, у апошнім трэба захаваць рытм марша, і зрабіў так па-англійску. Чытае англійскі [пераклад], чоткі рытм.

*Кейдошус*[3]: «У Вільнюс прыехаў Іван Дамінікавіч Луцэвіч, а з Вільнюса паехаў Янкам Купалам. Купала і Чурлёніс у клубе «Рута» сустракаліся». «Беларускім партызанам» Кейдошус перакладаў 4 разы. Прачытаў пераклад, а пасля: «Пасля вершаў Янкі Купалы мае вершы не патрэбны».

Выступае рабочы завода [імя] Леніна: «Беларускі народ шмат пакутаваў на гэтым свеце». Чытае, выступае інжынер ІТР: «Які праніклíвы свет Купалы».

*Уолтэр Мэй*: «Купалу нельга ні з кім параўнаць. Фермер Берыс даў мне магчымасць зразумець Купалу, гэта быў першы штуршок».

*** «Жалейка» [Я. Купалы]. Ул. Самойла[4]: «Прыдуць лепшыя гады, і за подзвіг яго родны народ заплаціць яму сваёй лепшай ўдзячнасцю — бессмяроццем» («Минский курьер», 28.VIII.1908).

«Мы прысутнічаем пры гістарычнай падзеі, надзвычайнай для краю важнасці: Беларуская песня з галіны этнаграфіі пераходзіць у галіну літаратуры, і «Жалейка» Янука Купалы — адзін з несумненных доказаў гэтага буйнага факта...» «Чаго вам хочацца, панове...» «Так шчыра хацелася б не загінуць і пажыць дзе-небудзь у культурным цэнтры, каб сябе загар-

---

[1] Даватар Леў Міхайлавіч (1903–1941), генерал-маёр (1941), камандаваў гвардзейскім кавалерыйскім корпусам. Герой Савецкага Саюза (1941).

[2] Мэй Уолтэр (1912–2006), англійскі паэт і перакладчык (Масква).

[3] Кейдошус Пятрас (1924–2006), літоўскі паэт; уласны карэспандэнт «Литературной газеты» па Літве.

[4] Самойла Уладзімір Іванавіч (1878–1941), беларускі публіцыст, літаратурны крытык, філосаф. Рэпрэсаваны.

таваць і адшліфаваць на службу беларусчыне і беларускаму грамадству» ([у лісце] да Эпімах-Шыпілы[1] 21.XI. 1909). Багдановіч «Глыбы і слаі».

«Купалаў почырк лёгкі, вольны, як і натуральна шырокі» (Карынфскі[2]).

Фадзееў, франтавы блакнот. Сустрэча з Брусавым[3].

Тэатр. Па ініцыятыве Яна Райніса «Паўлінка» [ставілася] ў Рызе, Дзвінску і Люцынцы. «Інтэрнацыянал». Маці Гагарына[4]. У партызанскай зоне помню лістоўкі з вершам Купалы, Ягораў чытаў, відаць. Камень з Волгі на ўспамін пра вялікую рускую раку.

Стагоддзямі пачынаем мерыць літаратуру, якой прарочыў скон у пачатку, з першых крокаў, і даказаць прычаснасць да ўсяго свету, да краю.

*2 ліпеня, пятніца*

Вечар Купалы. Рабочы з завода [імя] Кірава, пра пяро са штыхом. «З усіх куткоў нашай абмежнай краіны». [Чужой рукой:] [Масква, тэл.] Михаил Матвеевич Числов.

*5 ліпеня, панядзелак*

*Масква*. Шклярэўскі ў ЦДЛ: «Вось вып’ю, пачытаю тое, што само льецца з горла».

*** *[Ліпень].* НДІ. «Харошкам»: «У іх высакародная праца».

Вялюгін: «Пачаткоўцы і канчаткоўцы».

Ад першага ў*пімен*ання ў талінскіх метрыках[5].

Высоченькая. *Смылець яшчэ Смаленшчыне. Планіда, як хламіда не па росту.*

*10 ліпеня, субота*

*п. Ушачы.* Партызанскі збор. У цяньку купкі. Адзін: «Я цэлы дзень галодны». Ідуць калоны. Аркестр, як на бедных памінках вые. Кладуць на магілы васількі і рамонкі. Жанчыны сівыя, у былым, усе прычапурыліся.

У хаце палю печку. Галінкі дзічкі. Холад у пальцы — нашто адзічаў. Вецер дзвярыма, зараз прыйдзе мама, скажа, што не так падпальваю[6].

Хаты трымаюць, як граблі, тэлеантэны, а сена няма каму грэбці[7]. Шпакі босыя па траве.

---

[1] Эпімах-Шыпіла Браніслаў Ігнатавіч (1859–1934), беларускі выдавец, мовазнавец. Кандыдат гісторыка-філалагічных навук (1887). Дзейны член Інбелкульта (1924).

[2] Карынфскі Апалон Апалонавіч (1868–1937), рускі паэт, журналіст, перакладчык.

[3] Брусаў Валерый Якаўлевіч (1873–1924), рускі паэт.

[4] Гагарына Анна Цімафееўна (1903–1984).

[5] П. Панчанка нарадзіўся ў Таліне.

[6] Гл.: Вось зараз... ([2005]) // Руны перуновы. С. 237.

[7] Гл.: «Вопраткай адораныя носкай...» (8.05.83) // Маўчанне перуна. С. 65.

У *Глыбачцы.* Збіраюцца патроху партызаны. Чакаюць з Ушач. На зломленай яліне гняздо бусла. Клапотная гаспадарка. Ляскотная сям'я, ляскочуць.

Сакмаркін[1]: «Віцебшчына — маці партызанскага руху. 20 тыс. нават праз Суражскія вароты. Глыбачка, другая Магілёў». Сарамліва звіняць юбілейныя медалі.

*11 ліпеня, нядзеля*

Зроб бела і гуляй смела.

Бор — зялёная галава, перакуленая ў возеры[2].

Пяе Марыя Рыгораўна [Трафімава], голас [неразб.1] і лесу весялей.

*** Светлячок на далані, як злоўленая зорка, і хоча светлячок возера падпаліць.

*23 ліпеня, пятніца*

Дзень добры, *Прага*! [Паездка на курсы чэшскай мовы.] Па дарозе ў машыне пра ўсіх, хто займаецца беларускім, сумныя дамоў прыязджаюць: дома па-руску, прозвішчы перакрыўляюць на *-ов* замест *-аў,* нідзе ў Еўропе няма такога.

Духата. Пакой на аднаго з дужа душнай і кароткай лёгкай пярынай. Для чаго яна, каб кашмары сніліся?

Конік звініць у каменнай Празе,
Быццам у класічнай фразе[3].

Маленькі паход з Жэнем Лецкам[4] па вечаровым горадзе. Сасёнка, узятая ў агароджу са шкла, цэлы паверх, стан абхоплены жалезнымі абдымкамі абруча. Крыху паблукалі, пакуль знайшлі вуліцу Венжылову, дапамаглі два дзядзькі і маладзейшы хлопец.

*24 ліпеня, субота*

Філасафічны факультэт Вашак. Нас будзе весці Марушка.

Афіцыйнае адкрыццё. Потым з Вацлавам [Жыдліцкім] пошукі цукру. У ягонага хударлявага сінявокага сына трохі знайшлося.

У магазіне з упартым Міколам абутак. Трамвай. Па вуліцы дама ў цэлафанавай торбачцы нясе кветкі ў вадзе.

---

[1] Сакмаркін М. А., у час вайны камандзір партызанскай брыгады імя У. І. Леніна.

[2] Гл.: Вялічка (11.07.82) // Самота паломніцтва. С. 78.

[3] Гл.: Зялёны гук слязы (9.08.82, Прага) // Амплітуда смеласці. С. 158.

[4] Лецка Яўген Рыгоравіч (н. 1944), беларускі крытык, пісьменнік. Кандыдат філалагічных навук. У 1971–1986 гг. навук. супрацоўнік Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы.

*25 ліпеня, нядзеля*

Прагулка. Знаёмства з горадам[1]. З сутаны рыштаванняў вырываецца адзінай вежай храм.

*26 ліпеня, панядзелак*

Першая лекцыя. З непрывычкі цяжкавата. Нават па добрай традыцыі гоніць на сон. Паход на Вацлаўскую плошчу[2].

*27 ліпеня, аўторак*

Прыём у мэра, ганчарны цэх, з гліны Адам і Ева — паколькі першы чалавек з гліны. Шархебель, [неразб. 2].

Чарапічныя дахі Прагі. Быццам вострыя хібы, унізе вулкі, як у цяснінах. Коміны, як рэдкія ўграваныя [?] галіны, падняўшы [ад] здзіўлення бровы-застрэшкі.

Адам! Не вер сваім гадам,
Яны — падступнейшыя ўдавы.
У дамкі выйсці — мара дам.
Мужчыны — выйсцеме ў Адамы.
Бы ў высакосным годзе дзён,
Касцёлаў у стольнай Празе,
І ўсе званы ў адзіны звон
Гатовы зліць у кожным разе,
Каб налічыць табе сто год
І год яшчэ адзін на роздум.
Хай будзе твой нязводны род
На радасць нам, на пострах розным![3]

*28 ліпеня, серада*

Музей Dvořáka[4]. Рэчы. Мантыя магістра ў Кэмбрыджы. Злепак рукі маленькай і рэзка ўчэпістай, і нервовай, якая хапала мелодыі — неаб'язджалую кабыліцу за грыву, трымала лейцы нерваў залаў. Акуляры, гусінае пяро, манжэты з сціплымі запанкамі.

Раптам з залы падымаецца (мы слухаем музыку) Rynka[5]. Нашто сюды прыйшла? *Вярнуўся да начлега сноў маіх.*

---

[1] Гл.: «Зноў Прага з пальцамі дажджу...» (25.07–9.08.82, Прага) // Амплітуда смеласці. С. 156.

[2] Гл.: Стома (6.08.82, Прага) // Амплітуда смеласці. С. 149.

[3] Віншаванне А. Мальдзісу да дня нараджэння (8 жніўня).

[4] Дворжак Антанін (1841–1904), чэшскі кампазітар і дырыжор.

[5] Успамін пра Рынальду Бабіцкую, якой прысвечаны вершы 70-х гг.

*29 ліпеня, чацвер*

Стратаў мост, кнігоўня. Гусіцкая[1] зброя — косы, сякера, абкутыя цапы малаціць, жаць, карчаваць дарогу да волі.

Жыжка[2] ў лесе нарадзіўся, у лесе памёр.

*30 ліпеня, пятніца*

Паход у банк. Паўсюль немцы як дома. Даруйце мне, Гейнэ[3] і Гётэ, але з гадамі неўсвядомлена не магу многа чуць нямецкай мовы непасрэдна ад вялікага натоўпу старых і маладых немцаў — са старымі, магчыма, я, малы, сустракаўся, з маладымі, крый Бог, мае землякі сустрэнуцца!

*Анатолю Вялюгіну.*
*Настаўніку!*

У кожнай фразе
Гучыце Вы ў пачэснай Празе,
І ўсе вінарні і гасподы
Для Вас адчынены заўсёды.
За чорнай кавай «Ойча наш»
За Вас чытае вучань Ваш.
Напомню — гэта не ў дакор,
Што вучань верны Ваш
Рыгор.

*31 ліпеня, субота*

Výlet [do] Terezína [Экскурсія ў *Тэрэзін.*] Litoměřice [*г. Літамержыцы*]. [Неразб. сказ.] Цвіце дзядоўнік на ўзбочыне.

Šestadvacet tisíč nás zde umučili,
Krev, jež vytekla, nám znovu vytéká.
Umřeli jesme, aby naši rodní žili!
Při památce naši braňte člověka.

*Vítězsval Nezval*[4]

Гэта было гета. Пад нумарамі, акуратна па-нямецку, і дата, і чысло, і акуратныя камяні, як буханкі эрзацу.

---

[1] Гусіты — найменне прыхільнікаў Рэфармацыі ў Чэхіі і часткова Славакіі ў 1-й пал. XVI ст., удзельнікаў руху (табарытаў і чашнікаў), паслядоўнікаў вучэння Яна Гуса (1371–1415) і інш.

[2] Жыжка Ян (1360–1424), чэшскі нацыянальны герой, палкаводзец, з 1410 г. гетман табарытаў.

[3] Гейнэ Генрых (1797–1856), нямецкі паэт і публіцыст.

[4] Незвал Вітэзслаў (1900–1958), чэшскі паэт і грамадскі дзеяч. Надпіс на помніку ахвярам фашысцкага канцлагера.

Па традыцыі пад камянямі, і кроў руж дзікіх, дробных, як кроплі. Дзе даты поўныя, дзе нумар гета і парадкавы на кладах, дзе толькі № кладоў.

Калючы дрот, як вузялкі на памяць. Дзеці ў казематах малююць свае сонечныя ў колерах сны, перш чым стаць попелам.

Arbeit macht frei![1] Нары, акуратныя, дзе адзежа, пасталы; нязвыкла чуць нямецкую мову, і маладыя немкі ў сабах грымяць, як некалі. У двары макі, як апошні ўсхліп агню. Ластаўка ў цэлю ляціць, і вестка, а каму? Адзіночка. Шыбельня і дакладна падстаўкі для ўсіх ростаў, — немцы! Немцы ва ўсе вякі былі ваўкамі ў славянскіх лясах, дагрызалі слабейшых, прыслаблялі дужэйшых — наводзілі парадак!

Страшэнна пасля глядзець на сонца, з сутарэння выйшаўшы. Акуратна ўсё фатаграфуе японец. Мацае рукамі нары[2].

Litoměřice [г. Літамержыцы]. Манашкі абіраюць рукамі яблыкі, як Ева[3].

Пачынае свой разгон Лаба, каб Эльбай стаць, дзе сустрэча.

Вузкая вулачка з суседкай, як праз перабойкі, у адчыненыя вокны перагаворваюцца. У крапасным раве лехі, з паліваннем ходзяць. Ад рэчкі не ахалода, а смурод патыхае. Ля дарогі ўсё ў пакецiках — яблыкі, персікі, у слоіках нешта. Прадаюць салёныя гуркі, у цэлафан кладуць.

А ўнізе цэлы лес хмелю, як ялінкі гонкія здалёку, а падпоры, як засохлыя вершаліны[4]. Сланечнік к вечару глядзіць ніцавока долу. Сучасная латынь ад Брэста да Аляскі[5]. На кончыку штыка, не языка — ловіць [?].

*1 жніўня, нядзеля*

Praha. Табар. Дамы локаць у локаць, плячо ў плячо, і яны баранілі, як вазы, што зрабіліся каменнымі з вогненначарапічнымі вярхамі напятымі. Рака Лу́жніца — Lužnica. Дамы як бы паўкругам сталі. Народ у цяжкія часы ўцякаў думкамі ў гусіцтва, як у вольніцу, каб узяць сілу на змаганне. Гусіцкі воз у музеі, з мазніцай. Толькі ўпраж каня — і ў шлях! *Каму кірха, каму кірка*[6].

Пыл хай не густы, а залаты, а ў вёсцы густы, ды пусты. Залатых спраў майстры.

Адных паэтаў на ўсе мовы [разбіраюць], як экспартны і ў разліў варыяцыі, а іншыя, як хатняе віно, як гарэлка для сябе — не на продаж, значыць, для душы![7]

---

[1] Праца робіць вольным! (*Ням.*)

[2] Гл.: Спас на двары (1.08.82, Прага) // Амплітуда смеласці. С. 153.

[3] Гл.: Тапалёвая готыка (9.08.82, Прага) // Тамсама. С. 157.

[4] Гл.: Латынь (1.04.83) // Маўчанне перуна. С. 120.

[5] Гл.: Тапалёвая готыка (9.08.82, Прага) // Тамсама. С. 157.

[6] Гл.: Табар (1.08.82, Прага) // Амплітуда смеласці. С. 154.

[7] Гл.: «Пасля сябе пакінулі даўгі...» (9.08.82, Прага) // Тамсама. С. 145.

Цадзі вачмі чужыя гарады,
Нырцуй у рэчкі моў незразумелых…[1]

*2 жніўня, панядзелак*

* * *

Ва ўсякім разе
У чэшскай Празе.

Я паехаў
Да чэхаў,
Ды баяўся, як бы vlak
Не валок мяне самалётам.
Задаволены быў лётам
Да сяброў ляцець,
А не валачыся.

Шуканне слядоў Скарынавых[2].

Маўклівая, як статуя, старая
Узнікне раптам прывідам з вакна,
Расчыненага ў пражскі адвячорак.

Як стужкі дня, кадры эскалатара[3].

*3 жніўня, аўторак*

*Івану Бурсаву*

Іване-браце, ў новай хаце
Няхай асноўнае багацце —
Цябе здароўе не пакіне
І Рыта будзе, як багіня,
Цябе натхняць на зборы твораў.
Каб сум настрой твой не агораў,
Мультфільмамі давай адпор.
Заўжды з табою —
твой Рыгор.

*4 жніўня, серада*
Агляд мікрараёнаў. Адзін страшней ад другога.
Паклон табе, Сібір, што зберагла земляка, праклён табе, што з акоў.

[1] Гл.: «Цадзі вачмі чужыя гарады…» (1.08.1982) // Амплітуда смеласці. С. 138.
[2] Гл.: Скарынавы сляды (2.08.82, Прага) // Тамсама. С. 151.
[3] Гл.: Пражскі адвячорак (3.08.82, Прага) // Тамсама. С. 152.

*5 жніўня, чацвер*

*г. Лідзіцэ.*У пачатку 1942 г. былі 500 чалавек, пасля акупацыі 159 чалавек. Загінула 88 дзяцей, 60 жанчын і 192 мужчыны.

Хрыстос без ног і без рук, спавіты полымем у яслях смерці.

Сабака яго будзіў на ланцугу. Загадзя кінааператар месца выбіраў.

Над брамкай магілаў крыж, у крузе калючы дрот, як жахлівы перыскоп. Кара на крыжы, як жахлівая кашуля, што лубее ад жаху. Крывянее, даспявае крывёй рабін. Цвіце дзядоўнік, шыпшына — крывавае і калючае расце[1].

*6 жніўня, пятніца*

На лекцыю не пайшоў, баліць галава. Як я не ведаю, што такое sex.

Вышаградскіх каштанаў зялёныя зоры, пакуль паспеюць. Пер'е чаек над Влтавай, Вышаградская скала. Маланка расшпільвае неба. Расшпіліць і зноў зашпіліць[2]. Ратонда. *Жахаецца сама сябе маланка над магільнікам.*

* * *

Скупіў усіх амаль што нак
У Празе,
Думаю аднак —
Найлепшай ад Рыжулі
Не існуе ў агуле.
Адна таксама Зая
Мая найдарагая.
І ў Празе, і ў Парыжы
Няма рыжэй ад Рыжай.
Ні з кім ў свеце Заю
Сваю не параўнаю.

*7 жніўня, субота*

Як незалежная дзяржава,
Грузінскі сцішыўшы імпэт,
Ляжыць з суседзямі Лежава[3],
Каб захаваць суверэнітэт!

Храм св. Віта. Вітражы святочна-летнія. Пры ўваходзе Х., капялюш, фо[таапарат], цыгарэта, марожанае, сабака (!).

---

[1] Гл.: Агонь і кроў (6.08.82, Прага) // Амплітуда смеласці. С. 147.

[2] Гл.: З далоняў лісця (6.08.82, Прага) // Тамсама. С. 148.

[3] Лежава Зураб, грузінскі мастак, пісьменнік.

«Osi na lov velkych ryb». Знікала ўсё, а прылады працы заставаліся, каб у музеях легчы.

Касцёл. Хімеры сабора св. Віта дажджом плююцца. Дождж на Малай стране, каб падкрэсліць лепш чырвоныя дахі. Златна улічка. Дом, як вулей да вулейчка[1]. Карлаў мост. Ісусу помнік рабіў яўрэй за нейкія грахі. Карл IV трымае грамату, а збоку як глядзець — penis паказвае пражанкам. Две Жени — это жизнь. *Церабіла — ці рабіла.*

*Kutnā hora* [*г. Кутна-Гора*]. Сабор св. Барбары — ахоўніцы срэбраных капальняў. Тут грошы са срэбра чаканілі. Паток [рака] Vrchlice (адсюль Vrchlicky[2]). Шахцёры нясуць герб Kutny (!) — Іуду. У храм пусцілі шахцёраў разам са святымі несці герб, бо яны [павінны] несці на сваіх плячах капальні. Шахцёры ў белым, каб далёка было відаць з каганцом у руцэ фігуру. Шахцёр, во]?] боты, перады са скуры на [?] спіне, на спіне з'язджалі з каганцом у руцэ. Сякера. Статуя, як святы. 30 м. Вышай шахцёрская капліца[3]. *Шацёр — шахцёр.*

Vlašský dvůr [палац Влашскі двор]. Манетніца. Па 16 гадзін шахцёр на галаве срэбн. [?] Лавіца чорна з разьбой 1411 г., калі са старымі згодныя — тварам, калі не — пераварочвалі апірадла — і спіной. Алтар з цэлага куска ліпы — паміраючая Марыя. Хрыстос з ліпы 15 в. Legla popelem.

*8 жніўня, нядзеля*

Сягоння ў праславянскім свеце
Усе святкуюць Дзень Адама.

*[Да дня нараджэння А. Мальдзіса.]*

Тапалёвая готыка Чэхіі.

Да Карла Чапека[4]. Дакладна́я, дзе што рабіў. «Мікола косіць двухручнай касой, і крапіва зялёным потам, і амаль крывёй чыстаце [?]…» Адбітак рукі, апошні радок расплываецца…»Машынку магу купіць, але не змагу ні за вухам пачухаць, ні пакусаць кончык ручкі», — (уся згрызена ручка з пяром).

Маленькі надзвычай (памерам сучаснага дыпламата) замежны чамаданчык Чапека ў наклейках, якія модныя ў нас сталі пазней.

---

[1] Гл.: Залатая душа (8.08.82, Прага) // Амплітуда смеласці. С. 144.

[2] Врхліцкі Яраслаў (сапр. Фрыда Эміль Багуслаў; 1853–1912), чэшскі паэт, драматург, перакладчык.

[3] Гл.: Сваяк салігорцаў ([1982]) // Амплітуда смеласці. С. 139.

[4] Чапек Карэл (1890–1938), чэшскі пісьменнік.

*9 жніўня, панядзелак*

Лекцыі. Дурная сустрэча з накладатэльствамі а аховай аўтаправоў. Нудна, як і ў нас, навошта мне чэшскае Аўтарскае права? Ледзь шыя вытрымала, двойчы галава падала ў сне.

*10 жніўня, аўторак*

Едзем з лекцыі, матор натужна дрыжыць, французы пяюць песню: цяжка разабраць, хто грасіруе *р.*

Podobizna [партрэт]. Наведванне галерэі. «Vařený humr» [«Вараны амар»], рак. Дый гумар. «Stařena smrt» [«Старая смерць»] — вязанку хмар і сл]ёз]. «Rumaři». Скульптар Bohumil Kafka[1]. Václav Brožik[2]. «Kravy a vodu» [«Каровы на вадапоі»]. Хоча ў ваду і пачасаць поўсць.

*11 жніўня, серада*

*Музей Ул. І. Леніна.* «Předávání zbraní mladým partyzanům v Bělorusku» [«Перадача зброі маладым партызанам Беларусі»], 1942[3].

*12 жніўня, чацвер*

Marii Formankovoj[4].

Kamarádi z mokré čforti[5]. Stré prst skrz krk[6].

Сустрэча з Йосефам Шыманам[7] у «Prase» [?].

*13 жніўня, пятніца*

*Červená Lhota [Чэрвена Лгота*]. Замак. Маладога жалезным путам за нагу [замыкаюць] на замок, гіра, каб не сышоў, на шыю хамут, у кілішак-напарстак каньяк. Пуга ў руках маладой са стужак белых, чырвоных, сініх, залатых. У руках лейцы. А выйшлі ціхія, як на пахаванні, са старога замка. Да маладой цэліцца аса — яшчэ салодкая. Замак маўклівы, стаў зялёны ад ціны і жабурыння ў некалькі адліваў[8].

*[г.] Česke Budějovice [Чэшске-Будзеёвіцэ]. Trocnov [Троцнаў]* — радзіма Яна Жыжкі, krovny dvučez [?] Jana Žižki. Камяні — аснова помніка «Jan Žižka z Trocnova». Як помнік савецкаму салдату. На сенакосе пахне трава. Жыжка нарадзіўся пад дубам. Дубам Жыжку звалі. Пабудавалі капліцу.

---

[1] Кафка Багуміл (1878–1942), чэшскі скульптар.

[2] Брожык Вацлаў (1851–1901), чэшскі мастак.

[3] Гл.: Вяртанне трывогі ([1982]) // Амплітуда смеласці. С. 135.

[4] Гл.: Марыі Форманкавай (12.08.82, Прага) // Тамсама. С. 141.

[5] Сябрукі з мокрага кварталу (карчмы), г. зн. сябры па п’янцы (*чэш.*).

[6] Прасунь палец скрозь горла (чэшская хуткамоўка).

[7] Шыман Й., чэшскі паэт і перакладчык.

[8] Гл.: Заручэнне ў замку Чэрвена Лгота ([1982]) // Амплітуда смеласці. С. 134.

Усе хадзілі. Пробашч даў загад спілаваць дуб і спаліць, паабсекчы галіны. Як людзей, паабсячы галіны.

Хацелі Жыжкаў дуб
Кананізаваць каплічкай,
Ды ўпарты хмаралюб
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Народжаны пад дубам.

Гусіцкая булава, як скарынаўскае сонца Řemdich [падобна на аўтарскі знак Скарыны], гусіцкі сцяг аднарукавы чорны.

*г. Žamberk [Шумперк]. Музей народнага побыту*. Драўляныя куфры, шафы, размаляваныя раслінным арнаментам, ёсць жывёльны свет. На шкле [малюнкі], 200 год назад — далёкі правобраз рыначнай мазні, што пазней у нас запаланіла раённыя цэнтры і вёскі.

*14 жніўня, субота*

Henbolka [?].

Прарок не можа быць жанаты,
Бо ён для будучай надзеі,
Нічога думкі не стрымае.

Jacob Toorenvliet[1] (1635–1719). «Vypženy vepř». Надзімае пузыр, надзімаюць кішкі, як дома ў нас, падвешаны [парсюк]. Толькі ныркі, а так скабы (!) відаць, як човен, што будуць смаліць.

*Музей лесу, палявання*. Jelen mnich [алень-манах] — пачаткі, куксачкі і ніякіх рагоў, нібы скастрырвалі, вылегчылі рогі, нібы цягнець скласці кукіш, а на кукіш адросткаў не стае. І тут жа рогі аленя, які па спадчыне атрымаў нешта накшталт пранцаў, як мохам пакрытыя, крохкія, хворыя[2].

Піваварня. Пляшкі галовамі ўніз мыюцца, адлежваецца піва, як ва Уладзівастоке біч. ! Ляжацкі склеп, дзе пена адстойваецца, так бы і вершы. 90–120 дзён выстойваецца, пасля, хто п'е, ляжыць пад сталом — з čerpadlo [з чарпаком]. Sladovna [піваварня]. Ля піва трэба хадзіць, як ля малога, дзень і ноч. Да піва чэшскі pomazánky [тое, што намазваюць на хлеб].

На сяле. Якое чысцей за Ушачы, адразу запахла гноем — дома, здаеццца. Вячэра. Самадзейныя артысты. Нязвыкла загарэлыя для актораў твары, не трэба ніякія фарбы, і толькі белыя зубы і цьмяныя пасмачкі валасоў у некаторых славяначак. Круглатварыя дзяўчаты, як з Кавалеў-

---

[1] Торэнвліт Якаб (1640–1719), галандскі мастак.
[2] Гл.: Манах ([1982]) // Амплітуда смеласці. С. 142.

шчыны, галасы зычныя, нястрымана-славянскія. А рухі ўжо недзе стрыманыя, анямечаныя.

Славянскія вочы і поступ дзявочы,
Славянскія рукі — нямецкія рухі.

Танцуюць і піва тут жа п'юць хлопцы, а дзяўчаты падносяць печыва. Няма чаго ма́ліцца, калі з запазухі валіцца, — такія дзяўчаты[1].

Дзеці пад вокнамі рэстарана. Даю календарыкі — адразу «Danke!» — раз чужы, [значыцца,] немец, па інерцыі на іншую мову, як у нас на рускую з беларускай адразу, хоць на ламанай.

У нацыянальным танцы, «саве», народ сябе ўспамінае, каб не згубіцца. У даўніх танцах, старадаўніх спевах народ успамінае сам сябе.

*15 жніўня, нядзеля*

У новым кляштары акустыка, сучасныя будаўнічыя матэрыялы. Можна сядзець, пад ногі [дошка], трэба — на гэтую ж дошку — кленчы. Некаторыя з сабой чорныя анучкі пад калені прынеслі. 7 гадзін раніцы. Пачынаецца служба. Арган правярае голас.

*Асенняя раса — рука твая цяжкая.*

Цела вечнасці, цела ідэалу.

Абыходзіць служка, як з сачком для матылькоў. Манеткі звоняць — не зробіш выгляд, што дрэмлеш, і тут жа горла сачку пераціскае. У чэхаў нікуды без капейкі не пойдзеш. З лёгкім сэрцам лёгкія манеткі. Пад сталом у каго ключ ад хаты, у маладой цэлая звязка (пальчык завязаны смешна, як распораная маленькая падушачка).

*г. Jindřichuv Hradec* [Йінржыхуў-Градзец]. Пакуты Jindřcha (чарпак ніжнік [?] з аднаго вала — двух, і нам бы такога! праблемы з мясам бы не было). Тлумачаць — на вяселле скублі гусей 80 дзён. Жэня [Лецка]: «Яны ж стохнуць».

Жонку з Італіі [прывёз], для яе маленькі замачак [вырашыў пабудаваць]. Яна італьянскіх майстроў [запрасіла], каб [зрабілі] вузкія лесвіцы, дзверы, каб тоўсты муж не пралез.

Турысты — пыласосы гісторыі, пыл і цвіль замкаў, кілімаў сваімі лёгкімі чысцяць.

Была [дама] страшная, і мастак [намаляваў] побач на крэсле сабачку з яе тварам. А яе — красуняй[2]. Хацела замуж і шкодная была, і загадала красуняй [намаляваць]. Сабачка як малпачка з хвосцікам-пэндзлікам.

Белая пані — прывід замка (а ў Англіі прадаюцца замкі з прывідамі. Замак адна цана, [калі ёсць] прывід — яшчэ [даражэй]).

---

[1] Гл.: Гудзьба ([1982]) // Амплітуда смеласці. С. 140.
[2] Гл.: Сакрэт ([1982]) // Тамсама. С. 143.

*г. Slavonice [г. Славоніцэ].* Бусел на цагельным чырвоным цёмным ад часу коміне.

Раней соль вазілі, адсюль назва горада.

[Крама] «Medovky». За вітрынай рой вос, там жа і coca-cola, а колькі вос марыць туды, а тыя на волю, як і людзі.

*г. Telč* [г. Тэльч]. Як наш Слонім, толькі болей захаваны. Kratka ulice — сапраўды ≈ 8 нумароў на дамах цагляных, на ўтравелым і двары і вуліцы ад сонца ўцёк кот.

Едзем, едзем, раптам на гары Autobazar.

Вечарам ходзім з Грыцутам, кажу яму нешта. «Ой, якое беларускае слова *сочаць*! Наогул усе словы вашыя, як з шоўку!»

*16 жніўня, панядзелак*

Адкрыццё МАПРЯЛ[1] (самопрялки).

Храпчанка[2] — стары [...]. Пры тым не можа гаварыць на літаратурнай рускай мове — старшыня. Наш пасол, спачатку думаў — ваенны ці швейцар — у галунах нейкіх.

*Пімену Панчанку*

З днём нараджэння Вас
Шчыра вітаю з Прагі.
Толькі б агонь не згас
Панчанаўскай адвагі.
Ваш цішаломны радок
Мае з агню акрасу.
Вашай паэзіі ток
Круціць турбіну часу.

*Міколу Ваданосаву*

Хай квасяць класікі ілбы,
Ідуць ахвотна ў рожкі, ў рожны.
Народным можаш ты не быць,
Але заслужаным — не кожны![3]

*Паштоўка Хведару Жычку*

Не зарасце ў вяках сцяжычка
На чэшскай праведнай зямлі,

---

[1] МАПРЯЛ — Международная ассоциация преподавателей русского языка и литературы = Міжнародная асацыяцыя выкладчыкаў рускай мовы і літаратуры.

[2] Храпчанка Міхаіл Барысавіч (1904–1986), рускі літаратуразнавец. Акадэмік АН СССР (1966). Лаўрэат Ленінскай прэміі (1974).

[3] З нагоды надання звання заслужанага работніка культуры БССР.

Якой ішлі Скарына, Жычка,
І ўслед за імі ўсе пайшлі.

*17 жніўня, аўторак*

Národne divadlo [Нацыянальны тэатр], рэстаўрацыя. «Národ sobé»[1] камень заклаў. «Mrzkost jest poroba Hospodinu![2]» «Z Hostýna z Moravy[3]», кожнае сяленне [закладвае] свой камень[4].

«Плзенскае піва можаце выпіць ва ўсім свеце, а наша (чорнае) толькі ў нас», — рэклама.

Абгароджаная дамамі прастора. Каштаны.

*18 жніўня, серада*

Перадапошні дзень прабывання ў славянскіх немцаў.

Старыя яўрэйскія клады. Пад шклом малюнкі дзяцей і даты 43–44-ты. Ilona Weissova 6.3.1932–15.5.1944, Osvĕntim. Смаўжок вязе ў матылькова-падобных фаэтонах двух смаўжышак у капялюшыках з рожкамі-антэнкамі, абапал два яблыкі, а справа шпак ці грак разявіў дзюбу. Зноў жа як вавёрачка мыецца, а за ёй з аброжкам сабачка, кошка з бантам да іх скача, трусік, свіння хрумстае кветкі, закруціўшы хвост, вожык на іголках [нясе] два яблыка, мышка выпрастала хвосцік і натапырыла вусы, раскручваецца змяя, чарапаха, чарвякі — усе спяшаюць. Ацалелы сабачка плача, вые са шлякатым аброжкам.

На магільніку старым яўрэйскім,
Як далоні часу, камяні,
На якіх лёс накрэсліў прозвішчы і дні.

Камень на камені, зямлі мала, прывозілася і насыпалася, пластамі хаваліся. Некаторыя камяні правальваліся, заснаваны ў першай палове 15 ст. 12 000 камянёў (магіл ≈ 100 000), да 20 пахавальных слаёў, нібы мёртвыя падымалі ўгору да святла адзін аднаго на сваіх касцях, аскепленыя камяні.

Самы стары надмагільны камень паэта Авігдора Кара з 1439 года. Раббі Леў (памёр у 1609 г.), аўтар педагагічнай рэформы ў духу Я. А. Ка-

---

[1] «Народ сабе» — лозунг збору грошай на аднаўленне Нацыянальнага тэатра пасля пажару 1881 г., напісаны над галоўнай сцэнай.

[2] «Брыдота Госпаду ёсць рабства!» — цытата з Краледворскага рукапісу (адной з самых знакамітых падробак у славянскай літаратуры XIX ст. — быццам урывак з манускрыпта XIII ст.).

[3] Камень з такім надпісам даслалі ў 1868 г. жыхары с. Быстршыцы з-пад Гостына, святой гары — месца паломніцтва ў Маравіі, для закладкі ў падмурак згарэлага Нацыянальнага тэатра.

[4] Гл.: Маленне камянёў ([1982]) // Амплітуда смеласці. С. 137.

менскага[1]. З яго асобай звязана старая быль аб стварэнні штучнай істоты — големы. Яўрэяў ціснулі ва ўсе вякі, і на магільніку ім паваt цесна. Ідуць, згуртаваўшыся, камяні, нібы ў пустэльні замагільнай здані.

Сустрэча ў выдавецтве Albatros. Іван Скала[2], Марыя Цодрава[3], Йосеф Петэрка[4] і іншыя. Як дома — нудна, сумна, бясконца. І маўчым, і гаворым аднолькава, хіба мовы розныя. Адзін табар.

*19 жніўня, чацвер*

Universitas Karolinum. Старадаўняя ўрачыстая зала. Скураныя крэслы. Металічныя люстры, на сцэне злева [неразб. 1] у кароне, трымае сімвал улады. Справа сцягі. Арган. За тым адзін нясе жазло. Ідуць у чорных мантыях, як пры Сярэднявеччы вучоныя. У чырвоным адзін. З жэзламі стаяць абапал сцэны.

Jalovcová, Jilská [назвы вуліц Старога горада[5]].

* * *

І да Ноя
У каўчэг
Не спяшаўся б
Надта чэх.
Пену здзьмуць —
Не трэба спех.
Піва п'е паволі чэх,
Падымае спех на смех.
(І яму не сябра смех.)
Піва п'е паволі чэх.
Эх...

*25 жніўня, серада*

Лабанок [расказваў]. У Літве распрануцца каманда, 100 чалавек (разводдзе) па лёдзе, і апрануліся, і ніводзін чалавек не захварэў. Цэль за ракою, ды нет моста пад рукою. Стварэнне зоны, роля брыгады «Дубава». Барадаўкіна адзнака. Даць фота Маркевіча[6]! Барадаўкін да Каранеўскага[7] ўсё.

[1] Каменскі Ян Амос (1592–1670), чэшскі мысліцель-гуманіст, педагог.
[2] Скала Іван (1922–1997), чэшскі паэт.
[3] Цодрава Марыя, чэшская паэтэса.
[4] Пэтэрка Йосеф, (н. 1944), чэшскі паэт, крытык, перакладчык.
[5] Гл: Вечаровае развітанне (19.08.1982) // Амплітуда смеласці. С. 160.
[6] Маркевіч С. В., нам. камандзіра па разведцы брыгады «Дубава».
[7] Каранеўскі І. Ф., камісар брыгады імя В. І. Чапаева.

З 16-ці брыгад іх засталося мала,
Не патака спагад — упартасць іх трымала[1].

*6 верасня, панядзелак*

[Паездка на Далёкі Усход — праз Маскву.]

Куваеў[2] «Тэрыторыя»!

Пра космас Мітрашэнкаў. У Верчанкі запіскі пра Гагарына. Шундзіч — дзед вёскі Рабінаўка Прапойскага ўезда (дзед з сербаў). Паслаць Шундзічу Ясеніна.

[Адрасы:] Михановский[3] Владимир Наумович. Москва, Малая Грузинская, д. 31, кв. 59. (Космос.) Для «Братэрства». Зборнік пра космас; Э. Сафонов[4]. г. Москва, В-465, Тёплый Стан, кор.49, кв. 67.

*7 верасня, аўторак*

Над густой тайгой хмар ляцім. Раніца. Экраны ілюмінатараў.

*г. Хабараўск.* Мартэны вулканаў. Гарачыя рэкі, салюты, гарачыя кастры. Крайком. Чорны Аляксей Кляменцьевіч: «Тэрыторыя [Хабараўскага края большая] 2-х Японій, у асобныя райцэнтры 3–4 гадзіны самалётам, а то 3 гадзіны самалётам, а 4 гадзіны цягніком. Партрэты Маркса, Энгельса[5], Леніна. Лесу прырастае ў 2 разы болей, чым асвойваецца. Забяспечыць большую прыжываемасць насельніцтва і знішчыць цякучасць кадраў. 900 км з Кітаем мяжы. Людзі не пабеглі пасля стыхійнай бяды (пасля ўзвядзення ЛЭП 220 прыезджых, амаль усе выехалі, іх дужа не ўгаворвалі). Такія пажары, што нават лось не мог уцячы ад палу. Некаторыя сёлы датла выгарэлі.

Нам здаецца, што ў нас усё здорава, а ў іншых горай. Фактар аддаленасці яшчэ болей іграе ролю, чым кліматычныя ўмовы на замацаванне кадраў. Далёкаўсходні каэфіцыент $^1/_{20}$. Па Камсамольску]-на-Амуры] цякучасць скарацілася, бо паднялі каэфіцыент. Сялянам ля мяжы каэфіцыент за страх — назвалі яны. Усе будуць [атрымліваць] 1,6. А на БАМе — 1,7.

Моталодак болей, чым аўтамашын. Шмат прытокаў, д’ябал не знойзе, лаві рыбу. Калі трэба, можам усе схавацца, з самалёта бачылі, колькі прытокаў. Трэба, каб у магазінах было.

За 80 % рускія, пасля ўкраінцы, беларусы і патроху да 50–60-ці нацыянальнасцей.

---

[1] Гл.: «З шаснаццаці брыгад... (4.05.83) // Вяртанне: Альбом; з В. Ждановічам. С. 192.

[2] Куваеў Алег Міхайлавіч (1934–1975), рускі геолаг, геафізік, пісьменнік. «Тэрыторыя» — раман А. Куваева.

[3] Міханоўскі Уладзімір Навумавіч (н. 1931), украінскі і рускі паэт, празаік, драматург.

[4] Сафонаў Эрнст Іванавіч (1938–1994), рускі празаік, перакладчык, публіцыст.

[5] Энгельс Фрыдрых (1820–1895), нямецкі філосаф, адзін з тэарэтыкаў камунізму.

Шаша ўсход — захад вядзецца актыўна, з асфальтам, цвёрдым пакрыццём».

*8 верасня, серада*

Валачаеўская сопка. Мітынг. Яшчэ ёсць ветэраны. 5 чалавек, якія бралі Валачаеўск [у час Грамадзянскай вайны і японскай інтэрвенцыі 1918–1922].

На сопцы назіральны пункт, вагончык чырвоны, драўляны. Асноўныя ўмацаванні за вакзалам, за Валачаеўкай.

Далёкаўсходнікі (хабараўчане) крыху прыжмураны пагляд, ад сонца, ад углядання ў будучае, ад ацэнкі ўсяго. На вуліцы плакат цераз вуліцу: «Владыкой мира будет труд!»

[Адрас:] Хабаровский край, ЕАО, г. Биробиджан, в/ч 2495 ш. Говорухин Олег Эрнстович. Кніжкі паслаць; Хабаровский край, ЕАО, Смидович, РК КПСС. Весёлка Валентина Павловна; г. Хабаровск, ул. Волочаевская, д. 153, кв. 98. Макеев[1] Аркадий Дмитриевич.

*9 верасня, чацвер*

Завод энергетычнага машынабудаўніцтва (1933 год). Зараз [выпускаюць] кампрэсары К-250, манапаліст у СССР, прадукцыя [ідзе] за мяжу. Паўсюль, дзе трэба крыніца сціснутага паветра.

У «Літгазете» лозунг: «Неси с работы каждый гвоздь, ты здесь хозяин, а не гость!»

Гуляў па горадзе. Гола ў магазінах. Ёсць трохі рыбы. У скверыку кавалак клюшні краба — дар мора.

*Павлу Халову[2]*
*(подписывая «Праздник пчелы»)*

Понимают, хоть и без головы,
Критики, приутишив враньё,
Павел Халов не баловень славы —
Первый, трудный любимец её!

*Міхаілу Асламаву[3]*

Ён, няйнакш, нябёсамі пасланы
На Далёкі,
сэрцу блізкі Усход,

---

[1] Макееў Аркадзій Дзмітрыевіч, рускі празаік.
[2] Халаў Павел Васільевіч (1932–1999), рускі паэт, празаік.
[3] Асламаў Міхаіл Феафанавіч (н. 1929), рускі паэт, перакладчык (г. Хабараўск).

Як архангел Міхаіл Асламаў,
Каб адчула песня горды ўзлёт!

* * *

Ні ў якіх марскіх высокіх балах
Радасці не ўмесцяцца валы,
Як іграў мне бацька на цымбалах,
Ну, а я маршыраваў, малы.
Статак слоў з увішнасцю падпаска
Гнаў перад сабою з цішыні
І пра штурмавыя ночы Спаска,
І пра Валачаеўскія дні[1].
Хоць з атрада рэдка на пабыўку
Бацька мой прыходзіў,
ды калі
Не па ўзгор'ях я спяваў,
па ўзгорках
Рушыла дывізія,
было
Прыамур'е ў партызанскіх зорках
Блізка, як суседняе сяло.

*10 верасня, пятніца*

Восенькія рамонкі. Хмарка заблудзілася на сопцы і пазелянела ад тайгі. Усе ўжо ў небе з аблокамі, а яна, колячыся аб дрэвы, даганяе і худзее ад страху і суму.

Нанайцы — мы ўсе. Амур — Млечная Дарога на зямлі.

*Анатолю Вялюгіну*

Падняўшы хмурых хмар забрала,
Паставіўшы дазорна сопкі,
Амур вітае Адмірала,
Цячэ, як верш яго высокі!

---

[1] «По долинам и по взгорьям…» — папулярны ваенны марш часоў Грамадзянскай вайны (1918–1922). Сл. і муз. П. Парфёнава. *Парфёнаў* Пётр Сямёнавіч (1894–1937 ці 1943), рускі паэт. Рэпрэсаваны. Літ. апрацоўка С. Алымава. *Алымаў* Сяргей Якаўлевіч (1892–1948), рускі паэт; муз. апрацоўка А. Аляксандрава. *Аляксандраў* Аляксандр Васільевіч (1883–1946), рускі кампазітар і харавы дырыжор. Доктар мастацтвазнаўства (1940). Прафесар (1922). Генерал-маёр (1943). Народны артыст СССР (1937). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1942, 1946).

*11 верасня, субота*

На «Метэоры» ў с. *Троіцкае.* Хлеб-соль, сазан, абкладзены памідорамі і двума апетытнымі рожкамі перац. Сакратар: «Там, на беразе, вас віталі піянеры, нацыянальнае відовішча».

У 1934 г. (24.IV) утвораны Нанайскі раён. ≈ 1 млн. [куб.] вывозіцца драўніны, цэгла, камплекты дамоў (у Сярэднюю Азію і ў сельскую мясцовасць). ≈ 120 відаў рыбы.

Музей. Злы дух. Рыбіна скура ў мяліцы, як лёс. Маладую омя [?] ў халаў [?] на дрэве рода, колькі птушак — столькі жадаюць дзяцей. Душы ненароджаных дзяцей.

Максім Пасар [снайпер]–232 гітлераўцаў ў левае вока [забіў]. Называлі жоўтым д'яблам. Пазыўныя «Штурмавыя ночы Спасска...».

Халат з рыбінай шкуры, з сазана, з амура. Амур — вялікая рака.

Лесапункт, таёжны пасёлак *Лідага,* ≈ 2 тыс. чалавек, маса лесу гніе. Па дарозе сяло *Славянка.* Нанайцы рыхтуюцца заўтра да лову. Бытоўка. Дамазвае печку. Нанайка нясе калкі, нешта нацягвае. Хто ў чым. Раней скура рыбы [выкарыстоўвалася], не прамакала і лёгкая.

Клуб і кінаклубныя дзеткі. Выстаўка кветак. «Чырвоны гіль на снезе»: вяргіня чырвоная ў белых астрах. «Восем дзевак — адзін я» і зноў: «Восем дзевак — адзін я, куды дзеўкі — туды й я».

Па дарозе. Узнімаюцца цяжка, як з-за стала, каршуны. Чапля. Вароны на асфальце грэюць лапы. Туман на сопках. Бярозак сівізна ў кучарах тайгі.

Па вуліцы ідзе п'яны, за ім следам:

— Ты п'яны. Дзе ты напіўся?

— Я не п'яны, — ледзь стаіць.

— Дзе ты гарэлку ўзяў?

Калі муж памірае, ён год за плячыма ў жонкі. Калі здрадзіць, шаман усё ведае, скажа, куды, і калі, і з кім была, і кажа: «Твой муж не можа пралезць на неба, трэба кроў», — і ёй разбіваюць нос, каб кроў была. Пасля года можаш жаніцца.

Сяджу ўпоплеч з адным заснавальнікам [нанайскай літаратуры] Андрэем Пасарам[1]. «Мы хітрыя наконт тыгра».

Завялі ў падвал, быццам трум — ЦУМ.

— Што, рыбу соліце?

— Не, вінаград. Распазнай віно. Калі распазнаеш, столькі дадзім. 150 гатункаў. Калі распазнаеце ў чашцы, столькі дам.

[1] Пассар Андрэй Аляксандравіч (1925–2013), нанайскі паэт, празаік (г. Хабараўск).

Ці кажа: «Што я напісаў, я напісаў, што зрабіў, я зрабіў, што думаю, я думаю. Я люстэрка з аднаго боку. Андрэйка — алмазік. Каб не савецкая ўлада, я быў бы шаманам. Мама лічыла, што шаманам можна, а паэтам — што такое, яна не ведала».

У зале нанайцаў мала, але тыя, што ёсць, аж растаюць ад радасці, слухаючы Андрэя Пасара. «Любоў мая амба — тыгра. Я глынуў бы мядзведзева вока, каб быў паляўнічым».

*12 верасня, нядзеля*

Па Амуру, здаецца, у космасе.

*Змяіны востраў, Амурск.*

*г. Камсамольск-на-Амуры.* Лівень. Бедныя дзеткі і кветкі. Фотакар [пытае], адкуль я, хто я. На пытанне адказ «паэт» — мала, ці сакратар? Ад Масквы да самых[1] [да ўскраін] пранікла сакратарская пошасць!

У гасцініцы, у аднапакаёўцы ні чарачак, ні электрычнасці. З вакна карабкі [дамоў]. На фоне прыгажэйшых сопак дымы з трох комінаў аж да хмар.

Пасар пяе перад мікрафонам. За юшкай у лесе праз агонь скакаў, шаманіў, духаў выклікаў, танцаваў народны танец, як сучасны самы.

Цемры таемны пажар,
Жар усміхаецца золатазуба,
Праз агонь скача Андрэй Пасар.

Дзе тыя мурашы.

На вечары дзеці вітаюць — «Лявоніха» і — «Бородулину спасибо много раз, Белоруссию открыл он и для нас!»

Пасар: «Собаля можна ўзяць толькі чэснасцю; каб зразумець душу народа, трэба злавіць собаля, а собаль любіць сціплых. Дык вып’ем за сціпласць!»

У празаіка Валодзі Корнева жонка беларуска, бацька ў вайну [загінуў], маці тут жыла.

Камсамольск[-на-Амуры], як вечна малады бацька ўсіх наступных новагарадоў Сібіры і Далёкага Усходу.

---

[1] Скрытая цытата з «Песни о Родине». Сл. В. Лебедзева-Кумача, муз. І. Дунаеўскага. *Лебедзеў-Кумач* (Лебедзеў Васілій Іванавіч; 1898–1949), рускі паэт. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі (1941). *Дунаеўскі* Ісак Осіпавіч (1900–1955), рускі кампазітар і харавы дырыжор. Заслужаны дзеяч мастацтваў РСФСР (1936). Народны артыст СССР (1950). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі (1941, 1951).

*13 верасня, панядзелак*

Ад'езд. Па-далёкаўсходняму месцы прададзеныя прадалі нам. Віктар Мікалаевіч Александроўскі[1]: «Я Чорнаму буду скардзіцца!» Капітан: «Хоць беламу!»

На Амуры касякі браканьераў — чорна ажно. Ловяць у неспрыяльных умовах, бо для сябе. Есці няма чаго. Рыбнагляд і носу не пакажа. Туман прыкрывае парадзелыя высачэнныя сопкі.

Пасар: «Біялагічна вымірае мой народ, вякамі елі рыбу, а зараз хлебам кормяць. 10 кіцін на чалавека, а ў горадзе няма ільгот на норму — чаму ж рускім хлеба не даюць [па норме]? А ў вёсцы няма чаго рабіць, рыбу лавіць няма як, таму ідзі ў горад. Раней жылі да 120 год нанайцы. Зараз у гарадах-інкубатарах да 30 год жыве. З голаду ніхто не паміраў. Усе словы ў абыходзе ёсць — папера, сталь, алюміній, бутэлька, фарба, а не запазычанае, значыць, была культура і багатая мова. Газа ёсць прадаць, бензіна няма».

Пасар бярэ мяса: «Як медзвяджаціна. Маленькаму народу цяжка, калі многа знаеш. Бог агню, душы і зямлі — Подзя-тара (стары), гаспадар гэтай зямлі, ён жыве ў кастры, яму кідаюць па кавалачку ўсяго, што прынёс, — соль, тытунь, гарэлкі патрошку: «Подзя-мана, вазьмі і дай мне». Мудурхан — дракон, у вадзе жыве ў Амуры. Нанайцы жывуць толькі ў замагільным царстве. Усе, хто адышоў у горад Мукдэн, там пахаваны. Манджурскі хан Журжэнск. Мукдэ — помнік нябожчыку, помнік з дрэва, любімы касцюм [апранаюць] і адпраўляюць ў падземнае царства пад горадам. Сонца жоўтае, чалавек не мае ценю.

Прыстань *Ягадная*. Запусценне. Лютасць браканьераў. На дыбы маторкі ставяць.

*п. Кісялёва*. Перакошаныя хаты. Бярвенне паўсюль. Маторкі на беразе. Бягуць з бутэлькамі, цягнуць кету. Кетабоі. Вядро журавін 20 руб. Браканьерскую кету збываюць як бы саромеючыся.

*14 верасня, аўторак*

Сопкі — курганы славы. Амур — магутная вада, прарваўшы далягляды, за далягляд, што толькі неба бачыць. Сяло *Дудзін.*

*с. Сусаніна.* Рыбалавецкі калгас «Памяць Куйбышава», старшыня Фралоўскі Мікалай Рыгоравіч, на стале селектары, група тэлефонаў. «Ульчцкі раён [арганізаваны] у 1933 г., 26 тыс. кв. км, 37 тыс. жыхароў — рускія, беларусы і 1800 [чалавек] паўночных народаў — 1200 ульчы і нанайцы, ніўхцы [ніўхі], негідальцы (некалькі сямей). Лесапрамысловы раён. 1300 тыс. куб. леса ў год, 100 тыс. для раёна і ў Амурск, а 1200 [тыс. куб.] экс-

---

[1] Александроўскі Віктар Мікалаевіч (1917–1987), рускі празаік, публіцыст, драматург (г. Хабараўск). Заслужаны дзеяч мастацтваў РСФСР.

парт у Японію, у плытах сплавам па Амуру, 50 % у хлыстах і перапрацоўка. Зафрахтаваныя японскія, карэйскія, філіпінскія [судны]. 4 рыбалавецкія калгасы, 2, 5 тыс. тон рыбы ў год, у асноўным проходящая рыба.

Сяло Сусаніна. Імем земляка кастрамічы-перасяленцы назвалі. Калгас у 1931 годзе [арганізаваны], з 1 мая «Спартак», з 1966 года аб'яднаны — «Памяць Куйбышава». З 1966 года — калгасы самі перапрацоўваюць рыбу і здаюць гатовую прадукцыю. Ласось, гарбуша, летняя і восеньская кета, зімой — часцікавая парода, вясной — маларотая корушка. У шафе за шклом цэлы стос грамат, 4 сцягі на вечнае захаванне. У раёне практычна нічога [не робіцца] на ўзнаўленне рыбных запасаў. На Амуры шмат прадпрыемстваў, а ачыстных збудаванняў няма.

[Школа] 8-годка. Грошы ёсць, а 10-годку не набралі дзяцей. Сказалі, што не будзе, — дзеці хто куды, па вучылішчах. Ніўхскі буквар, амурскі дыялект. Працуюць над ульчцкім букваром. Анненскія крыніцы — у 1863 г. Ансамбль ульчцкі «Гыва». Дзеці вучацца нацыянальнаму мастацтву — вязка, вышыванне, са скурай, з футрам. Фестывалі мастацтва. Аляксей Вальдзю[1] — нацыянальны пісьменнік.

Насельніцтва на працягу 10 год не змянілася — ні болей, ні меней. На пенсіі старых мала, выязджаюць, дзе цёпла. Калі 10 год тут [адпрацуюць], [даецца] права на кааператыўнае будаўніцтва ў Краснадарскі край.

Па краю 14 л [алкаголю] на кожнага жыхара, па Ульчцкім раёне — 17,5 л толькі гарэлкі (17,5 л — ліміт). Адзін дзень на тыдзень [прадаюць], у суботу. На вяселле, на пахаванне толькі па запісцы кіраўніка. Месца ссылкі неблаганадзейных, 350 чалавек і палітычных, і веруючыя, аліментшчыкі (па 3–5 лістоў аліментаў і яшчэ 8 лістоў)».

Выступленне на рыбабазе на насцілах з дошак на прычале. На бочках кнігі ўдзельнікаў, біяграфічныя даведкі і плакат — «Госці нашага раёна». Намаляваны аблокі, хвалі, рыба. Пахне рыбай, так і хочацца бульбы; шуміць Амур, матора кацярка шумяць.

Курорт (прафілакторый), паказныя кілімы. Кацер «Бережливый». «Мы на ім рыбу і сена возім», — капітан Страйкоў. Пасар садзіцца і падкладвае капялюш. У сталоўцы Пасар п'е за рукі тых рускіх жанчын, якія прыгатавалі талу́, бо гэта нялёгка. Сакратар кажа: «Усе, хто з Украіны, забылі ўжо гэту мову». Неўзабаве да Заруднага[2] падыходзіць маладзіца і на чыста ўкраінскай мове запрашае пакаштаваць [пачастункі].

Пас. *Тыр*, самае глыбокае месца Амура — 57 м.

---

[1] Вальдзю Аляксей Ляонцьевіч (1915–1994), ульчскі і рускі празаік (г. Хабараўск).

[2] Зарудны Мікалай Якаўлевіч (1921–1991), украінскі драматург, празаік. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі УССР імя Т. Г. Шаўчэнкі (1978).

*п. Тахта.* Пасар едзе з каністрай не па залатую рыбку, за рыбай, на якой узгадаваўся, і трэба было бачыць, як ён есцЬ з Косцем Бельды[1] талу́! Варыянт індзейца Амерыкі. Александроўскі: «У вас пад Мінскам сопка насыпана, сопка славы».

*г. Нікалаеўск[-на-Амуры].* Размяшчэнне. Вячэра. Жонкі пажыраюць ікру. Нижнеамурская земля — *нежноамурская*.

*15 верасня, серада*

Раніца. Нанечка мые анучай лесвіцу гасцініцы і пяе сваю, з тайгі прывезеную, у меру вясёлую, болей сумную, песеньку. Даручылі, даверылі, вывелі ў людзі, ураўнялі з вялікім братам.

Наша група — выступаць, а Андрэй Пасар — далей з каністрай сваю залатую, надзённую рыбу зславіць [хоча]. «Мае мецісы без мяне рускімі запісаліся!»

Ідзем у гарком. Кветку пафарбаванаму, па-ўродліваму зробленаму Невяльскому[2]. Пры ўваходзе у гарком мятлой працуе зноў жа нанайка ці ўльчанка — даверылі такую пасаду. Сакратар гаркома: «Нивхи из родового строя шагнули прямо в социализм!»

Пасар: «Па-нанайску ваш горад Мео — святое месца. Калі б я быў старажытным чалавекам, я плыў бы на чаўне да святых мясцін». Чытае верш па-руску, на словах дзякуе за ўсё, а ў прыжмураных вачах сум неймаверны.

Нікалаеўску[-на-Амуры] 135 год, у час інтэрвенцыі спалены; вул. Луначарскага, Вялікі бульварны праспект. Ціхі ранні Амур, яшчэ зялёная трава. Ціха і паважна каркаюць вароны.

Напоўцымбальны каркат варання,
Прыгорбленыя сопкі,
Вясёлы водцень дня
Разношвае красоўкі.

На прамтаварах: «Высокое качество советского человека гарантируем!»

Цар-якар (1856). Якар — самы большы, адміралцейскі якар з мыса Куегда, 6 тон 100 кг. Англійскі карабель, пакарыцель мораў, і то 3 тоны. Мёртвы, донны якар, ляжаў на дне. А паверсе бочка, да якой пруснікі швартаваліся на кароткі час. Літы якар, не куты. «Ком. кап. Лесков 1856», — надпіс.

[1] Бельды Канстанцін Маркавіч (Мактавіч; н. 1934), нанайскі паэт і перакладчык.
[2] Невяльской Генадзій Іванавіч (1813–1876), рускі даследчык Далёкага Усходу. Адмірал. Заснавальнік Нікалаеўска-на-Амуры.

Партызаны, адступаючы, знішчылі горад па загаду Трапіцына[1] Якава, анархіст-індывідуаліст, па характару блізкі да Мелехава[2]. Начальнікам штаба Ніна Лебедзева[3] — эсэрка-максімалістка, красуня, у 16 годзе [17-м узняла] пензенскіх эсэраў са Спірыдонавай[4].

А Наумова нам жалко,
Без него большой изъян,
Заменила его Нинка,
Попросту большой чурбан.

Рувім Ісаевіч Фраерман[5], пісьменнік, [пісаў] пра Трапіцына. Трапіцын — за савецкую ўладу, але без камуністаў. Хапалі людзей, хто коса паглядзеў (а як з азіятамі?).

Мядзведжая хвароба — гэтак ачышчае страўнік, і ўлегцы бяжыць.

У Чырвонай кнізе. У чорнага бусла недавер да белага чалавека з сярэднявечча, бо чорны колер д'ябальскі [лічылася; і часцей забівалі], і з выраю асцярожна [вяртаюцца]. А ў Афрыцы каля негрыцянскіх вёсак цэлыя калоніі. За ноч да 400 км [пралятаюць]. Качка-мандарынка, дуплоўка, ружовая чайка; пасля гібелі ружовы колер знікае. Касатка па інтэлекту вышэй за дэльфіна.

Каменныя рыбалоўныя кручкі і гарпуны, каменныя іголкі. Каменная галава, каменны бурхан, круглыя вачніцы і прамавугольныя насы. Нанайцы: такі нос у рускіх, што левае вока не бачыла правае. Халат з рыбінай скуры — праобраз натуральнай балонні. Спадніца з нерпінай скуры (коск), пальчаткі.

И останутся как маячные
Николаевские дни.

У 1940 г. [утворана] Ніжнеамурская вобл., 190 школ, з іх нацыянальных — 33. Хабібулін — выстрал па Рэйхстагу. Помнік Невяльскому, арла знеслі, надпіс збілі, трактарам не сарвалі — рашылі барацьбітом [зрабіць]. Мемарыяльны комплекс, прозвішчы, сярод іх Стрыжак П.

---

[1] Трапіцын Якаў Іванавіч (1897 — ? ), камандзір партызанскага атрада, кіраваў нападам на Нікалаеўск-на-Амуры, заняты японскімі інтэрвентамі.

[2] Г. Мелехаў, герой рамана «Ціхі Дон» М. Шолахава.

[3] Лебедзева-Кіяшка Ніна Міхайлаўна, жонка Я. Трапіцына. У пачатку 20-х гг. супрацоўнічала з забайкальскай міліцыяй і правяла аперацыю, пад клічкай Маруся ўвайшоўшы ў давер банды. Адна з многіх прататыпаў гераіні знакамітай песні «Мурка». Першапачатковы тэкст адэскага паэта і куплетыста Якава Ядава (сапр. Давыдаў) і рыжскага кампазітара Оскара Строка («караля танга»).

[4] Спірыдонава Марыя Аляксандраўна (1884–1941), руская палітычная дзяячка, адна з кіраўнікоў партыіі эсэраў. Ідэйны кіраўнік леваэсэраўскага мяцяжа 1917 г. Рэпрэсаваная.

[5] Фраерман Рувім Ісаевіч (1891–1972), рускі пісьменнік.

Суднабудаўнічы завод. 42 гады заводу. Палова працуючых горада належаць заводу. Калі прыёмны дзень — усе [пытанні] па жытлу. Каб атрымаць дах, трэба папрацаваць гадоў 18. На завод [прыпадае] і сілас, і сечка лесу — дабаўка. Кадраў не хапае, бо найцяжка з жытлом. Грошы ёсць, а будаўнікі слабыя, грошы не асвойваюцца, і за іх даводзіцца рабіць. Дэвіз: «Заказчык, давай людзей!» Завод на месцы, дзе высадзіўся Невяльскі. На Пятроўскай касе паставілі бетонны помнік — куб (2 м. вышыні), кавалак бетону не паспеў засохнуць, а мядзведзянятка лапку паставіў, так і засталося.

Праскурын[1]: «Схадзіцеся на базар і ў турму».

*Міхаілу Пабаранчуку[2]*
*(падпісваючы «Вечалле»)*

Жадаю Пабаранчуку,
Каб меў заўсёды начэку,
Бо ва Ўладзівастоку
Тавар бяруць з наскоку!

*P. S.*
Няхай начная сіла
Не кіне Міхаіла!

Адрэй Пасар увесь час выцягвае маленькую засаленую кніжачку, як у вайну «і перадай!» — гэта ўсё, што перакладзена, відаць.

Чалмаеў «не в лучших местах отечества».

У канцы жанчына: «Вечар падабаўся, я аж памаладзела. З Украіны, з Беларусі прыемна на вас паглядзець. Прыязджайце, расказвайце, што там у вас, а мы будзем слухаць, глядзець на вас». Другая: «Я адразу прызнаюся, што рыхтавалася загадзя».

Сакратар РК [Сяваева] Валянціна Фёдараўна кажа, што мяса па талонах 2 кг на месяц на працаўніка і ветэрана. Праскурын: «У мяне кабель за дзень болей з’ядае».

Неисповедимы пути в начальство.

В здоровом деле здоровый дух.

[Адрас:] Ульченский р-н, п. Богородск, районная газета. Бельды Константин Маркович (паслаць кнігу).

---

[1] Праскурын Пётр Лукіч (1928–2001), рускі пісьменнік. Герой Сацыялістычнай Працы (1988). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1974, 1979).

[2] Пабаранчук Міхаіл Фёдаравіч, рускі журналіст, уласны карэспандэнт газ. «Советская культура» па Далёкім Усходзе (г. Уладзівасток).

*16 верасня, чацвер*

Горад драўляны. Вуліц фактычна няма. У адной краме лозунг: «60-годдзе ўтварэння — 60 ударных тыдняў». Пад лозунгам папера, дзе мухі даканалі. Наогул, у магазінах скрозь папера для мух.

Чым далей у лес,
Тым меней дрэў,
Дроў і так багата наламана
Ад зялёнай сопкі да лімана.

*Туга і чахотка, тайга і Чукотка.*

Ляцім у Хабараўск. Складкі сопак, як цені роздуму гор. Амур абапал расхінуў крыссе халата, цёмна-сіне-жоўта-зеленкаватага, фантазійных узораў. Не адрываючы рукі, спрабаваў фламастэр і навывіваў рачулак — рукавоў, прытокаў Амур-бацюхна. Круглае возерка, як люк у прадонне, запоўненае ноччу.

За шаманов пили мы шаманское,
Но и как бы горько ни алкали,
Ни в уху, ни в мясище прованское
Бородулина мы не макали.

*Дорогому Рыгору — М. Пабаранчук*
*16.9.82, Николаевск-на-Амуре*

[Адрасы:] г. Николаевск-на-Амуре, ул. Гоголя, д. 25, кв. 9. Сяваевой Валентине Фёдоровне; г. Москва, ул. Красноармейская, д. 25, кв. 89. Чалмаеву В. А.; Людміле Сушковай — кнігу Дм. Гуліа[1] (па-беларуску) паслаць у Абхазію. Баженов[2] Тимофей Вл., Иванова[3] Татьяна Иль. [тел., Масква].

*17 верасня, пятніца*

Ад'езд. Спешка, як у катле.

Без *віна* вінаваты. Пыле-влага-мысленепроницаемый.

*23 верасня, чацвер*

[Выстава] Ю. Пучынскага[4]. Алеем. 1) «Памяць». У музеі Брэсцкай крэпасці («Каля параненай» Рыма Шаршнёва[5], раней). Простая жан-

---

[1] Гуліа Дзмітрый Іосіфавіч (1874–1960), абхазскі пісьменнік. Народны паэт Абхазскай АССР (1937).

[2] Бажэнаў Цімафей Уладзіміравіч (н. 1943), рускі журналіст.

[3] Іванова Таццяна Ільінічна, рускі журналіст; жонка Ц. Бажэнава.

[4] Гл.: Жаноцкасць вечнае красы... (1982) // Парастак радка, галінка верша. С. 192.

[5] Шаршнёва Рыма Іванаўна (1925–1942), беларуская падпольшчыца і партызанка.

чына з народа, якая пераехала ў горад, у другое асяроддзе — «Жыццё пражыць» (добрыя духі пад'езда — бабулькі на скамейцы.) Роздум — «Партрэт дзяўчыны». Акварэль «У ваколіцы» (на праспекце). «Сялянская дзяўчына» з маладзіком сярпа і пырскамі блакіту валошкаў. «Ядзя». Малюнак пяром «Балада пра чырвоную касынку» — да Фазу Аліевай[1] апавядання. «Вечар» — на падваконні апошнія промні сонца ловіць, каб дачытаць. 2 стар. на машынцы і загаловак.

Азгур[2] на выставе Пучынскага: «У Беларусі лёгка дыхаецца, лёгка бачыцца, хораша жывецца». Жаданне пранікнуць у сутнасць рэчаў. Азгур: «Паспрабаваў ляпіць словам»[3]. Званю Вялюгіну: «Віншую з астранамічнай восенню».

Вялюгін: «Падаваць прасталыткам буду».

Кірэенка Пашкову: «Чаго не спаў, чамаданамі вершы пішаш?»

*Ад нумізматыка да маразматыка.*

***** М. Кенька[4] для «Братэрства» [на 1983 г.] — неапублікаваныя апавяданні М. Гарэцкага[5], стар. 10–13. М. Аляксееў[6] (па Танку): «Не по случаю надвигающегося на нас великого праздника» [юбілей М. Танка]. Ліviу Даміану. [№ гасц.] 353 Мехці[7].

[Адрас:] г. Баку, 7-я Салаханинская, д. 7, кв. 21. Фамиль Мехти. Паслаць кнігу.

*29 верасня, серада*

*З Быкавым.* Увесь час пераціраў стол, каб блісцеў.

Як «унядралі» [внедряли] сяброў. У Тан[8].

---

[1] Аліева Фазу Гамзатаўна (1932–2016), аварская пісьменніца. Народная паэтэса Дагестанскай АССР (1969).

[2] Азгур Заір Ісакавіч (1908–1995), беларускі скульптар. Народны мастак БССР (1944). Народны мастак СССР (1973). Герой Сацыялістычнай Працы (1978). Заслужаны дзеяч мастацтваў БССР (1939). Заслужаны дзеяч мастацтваў Дагестана (1960). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1946, 1948).

[3] Азгур З. То, что помнится. Мінск. Кн. 1–2. 1977–1983.

[4] Кенька Міхась (Міхаіл Паўлавіч; н. 1947), беларускі літаратуразнавец, перакладчык. У 1976–1983 гг. навук. супрацоўнік Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы. Кандыдат філалагічных навук.

[5] Гарэцкі Максім Іванавіч (1893–1938), беларускі пісьменнік, крытык, перакладчык, літаратуразнавец і мовавед. Рэпрэсаваны.

[6] Аляксееў Мікалай Іванавіч (1898–1985), беларускі пісьменнік. Заслужаны работнік культуры БССР (1980).

[7] Мехці Фаміль (сапр. Мехціеў Фаміль Агалар аглы; 1934–2003), азербайджанскі паэт, крытык, публіцыст.

[8] У Тан (Маха Тхрай Сітху У Тхант; 1909–1974), бірманскі дыпламат, 3-ці Генеральны сакратар ААН (1962–1971).

Пра дзённікі і лісты Коласа: «Вырашыў, што ўсё важна, усё будзе вывучацца. Купала інтэлігент, па гарадах болей, хоць абодва ад зямлі, сяляне.

Колас у грыбах (на фота) — у капелюшы, пры гальштуку. Усё на ім было мешкавата, не так, як на Купалу».

Два народныя і прыгарадны *вылацуга з Зялёнага Луга.*

*1 кастрычніка, пятніца*

*Валі*

На момант забыўшы хаця
І клопаты, і дамастрой,
Глядзіце ў тэатры жыцця,
Ці блізка ён, светлы настрой?

*** Верлібр, вольны верш — піраміды, складзеныя падагнанымі камянямі без замазкі, без раствору[1].

*Трысцінка — хісцінка, хусцінка — хісцінка.*

*6 кастрычніка, серада*

*г. Ленінград.* У метро стары яўрэй пытае: «Вы не штангіст?» Дужа страшны выгляд.

Дом пісьменніка. Вечар паэзіі. Выступае якут Новікаў[2]. Па-якуцку спачатку (яму 75 год), «і гэтак далей» — кажа. Пасля па-руску, трымаецца за мікрафон, як за чарацінку. «Калі якут садзіцца на каня ці на быка — ён будзе спяваць». Пачынае песню волата, добрага пачатку. *Ашчадная колькасць слоў (бо мароз), астатняе голасам цягне. Пачынае бычэць, і адчуваюцца прасторы Якуціі, забываецца зала.*

*Леанід Папоў*[3]: «Не буду чытаць пераклады Ільі Фанякова, каб не псаваць яму настрой, а прачытаю іншага, яго тут няма».

Ансамбль паўночных [народаў], танец ракавіны, злых духаў выганяе, рукі ўгору, рухі нагадваюць рогі аленяў. Уся жыўнасць панішчана, толькі рухі ў танцах ілюструюць паляванне. Тое ж, што і злых духаў заклінанне. Паляванне на кіта. Танцуе. Гавораць плечы. Студэнт кансерваторыі «Ах ты, душечка…»[4], а пасля бурацкую песню.

---

[1] Гл.: «Не ведаючы тэорыі вольных вершаў…» (3–24.10.82) // Амплітуда смеласці. С. 52.

[2] Новікаў Уладзімір Міхайлавіч (1907–1990), якутскі паэт. Народны паэт Якуціі.

[3] Папоў Леанід Андрэевіч (1919–1990), якутск паэт. Народны паэт Якуціі. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі РСФСР імя М. Горкага.

[4] Руская народная песня.

Ансамбль «Скамарохі» рускіх народных інструментаў Ленінградскага інстытута культуры. Я. Глебаў[1], танец з «Палескай сюіты», і льецца «Ты ж мая, ты ж мая, перапёлачка…»

*7 кастрычніка, чацвер*

*Разліў*. Ленінская касаваротка, граблі, каса, тапор, пілка, чайнік і аблавух; саганок, выцягнуўшы губы чайнік, каб папярэдзіць пра небяспеку. Будан. Жэрдкі пальцы сашчапілі, і стог, як курган, капешка, як юрта, два пянькі — і стол, і крэсла, каб можна было пісаць, і, убіўшы жалязяк, кляпаць касу. Капешку не зласавалі ласі часу, вятры-ласі.

*«Пенаты».* У фінскім плане асабнічок. Холад і камянёў, і ялін, і не могуць сагрэць рабіны, якія загараюцца зайздрасцю да вечнага спакою паўночнай прыроды. Сцяг «Пенаты». Лозунг: «Біце ў тамтам — самі, паліто здымайце самі, у сталоўку заходзеце самі». Берэты маэстра з вельвета ці чаго, богі хатняга духа. Магіла Рэпіна[2]. Раней быў крыж.

Лапата і кій. Лапатай расчышчалі снег. У майстэрні дровы. Праводзілі ўвесь светлы час дня. Апошні аўтапартрэт (1920), датухаючыя агеньчыкі вачэй, як на далёкім завейным хутары, пераважаюць выгаралыя бураватыя таны, у зімовым кажуху, у зімовай шапцы. Дальназоркасць, і даўжыня пэндзліка даходзіла да 1 м. Маленькая завейка (мяцеліца) бародкі даціхае, рука слабее, шалік бялее холадам, які ахутае снегам вечнасці. Пэндзлі, як чараты ў возеры, гора замаразкам. На мяцельнай рабрыстай дошцы водмелу заліў мые валуны. Мыльныя хвалі чаек. Качкі, як звязка грыбоў, нехта хоча на зіму сушыць.

Знайсці «Студню» ад алергіі, бо трава дзейнічае. Ленінградская хвароба. Вечаровае метро Ленінграда, лісце кляноў, букецікі.

*8 кастрычніка, пятніца*

г. Ленінград.

*Валерыю Сураву[3]*

Да не будет к тебе суров
Небосклон всепризнания, Суров.
Наломай, если надо,
Мастерам дров —
не до перекуров.

---

[1] Глебаў Яўген Аляксандравіч (1929–2000), беларускі кампазітар, педагог. Прафесар (1983). Народны артыст БССР (1973). Народны артыст СССР (1984). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1970).

[2] Рэпін Ілья Яфімавіч (1844–1930 ), рускі мастак.

[3] Сураў Валерый Пятровіч (1946–1996), рускі пісьменнік.

Не взыщи, что к тебе на «ты».
Все мы — доноры, все — браты!

Святлова пры жыцці, як Акропаль, на асколачкі расцягалі на хохмы.

Волкавы клады з 1756 г. для самых бедных. Там і Радзішчаў[1], а ў 1847 г. Бялінскі[2]. Надтрубныя масткі, а пасля Літаратарскія масткі[3].

Дзіцячая бібліятэка працавала ўсю блакаду. Прыходзілі пагрэцца. Аляксандра-Неўская[4] лаўра. Магілы асаавіяхім[аўцам][5], прапелеры. Заводскі працоўны дзеяч — руль, масцяркі. Адмірал Дрозо (37 год, пушкінскі ўзрост). Капітан Reissig, спаў на ўзбярэжжы Нявы. Убачыў Мікалая II[6] і памёр. Так і надтрунне — загорнуты ў плашч на камені спіць. Фанвізін[7], чыны і ўнізе подпіс — «копія съ надписи Сената въ точности». «Младенецъ Іоаннъ сынъ Графа Мусина-Пушкина семи дней скончила 1 сентебре 1859».

Жоўты ліст ажыўляе бронзавае надтрунне, задыхае, здаецца. Дастаеўскі. Надпіс-эпіграф — з «Братоў Карамазавых» (біблія).

На сціплых мастках глыба граніту аднаму з мэраў горада, што загінуў у барацьбе з Бахусам, аварыя ў п'яным стане. І мэру трэба ведаць меру.

Было пры жыцці мала сапраўдных сяброў, пасля смерці болей самазванцаў.

Жоўтае лісце магільнікаў — тлен і забыццё, і вечнае ўзнаўленне. Яны ажыўляюць мёртвую бронзу і халодны граніт тых, хто жылі пры бамбёжках і пры абстрэлах, што выжылі, ад цішыні не аглухшы. Сынкі-сасункі ўладкоўвалі ў дом прыстарэлых, не чуючы ні галошанняў. І пасля вайны, ад цішыні не аглухшы, выжылі, выжылі, каб іх выжылі.

*10 кастрычніка, нядзеля*

*г. Віцебск.* Коласаўскі тэатр, прэм'ера Яўгена Шабана «Востраў Алены». Акторы, калі пераходзяць на жывую мову, па-віцебску [прамаўляюць]: ідзець, будзець і г. д., рвець, трусаў, ты стаў на ейнае месца.

---

[1] Радзішчаў Аляксандр Мікалаевіч (1749–1802), рускі пісьменнік, філосаў.

[2] Бялінскі Вісарыён Грыгор'евіч (1811–1848), рускі літаратурны крытык, публіцыст.

[3] Літаратарскія масткі — Музей-некропаль на Волкаўскім могільніку, дзе пахаваны многія дзеячы мастацтва, навукі, грамадскія дзеячы.

[4] Аляксандра-Неўская лаўра (1710), да 1917 г. манастыр.

[5] Осоавиахим — Общество содействия обороне и авиационно-химическому строительству СССР (1927–1948) = Таварыства садзейнічання абароне і авіяцыйна-хімічнаму будаўніцтву СССР.

[6] Мікалай II (1868–1918), расійскі імператар (1894–1917). Расстраляны бальшавікамі.

[7] Фанвізін Дзяніс Іванавіч (1744 ці 1745–1792), рускі пісьменнік.

Застолле. Спачатку сумнае, а пасля вясёлыя ўспаміны пра Яўгена. Ліст — яго да народнага (Матусевіч[1]). Ноччу месца супроць гасцініцы, дзе яго [Шабана] не стала. Рачулка Крывічанка.

*12 кастрычніка, аўторак*

Вечар Макаля. Васіль Быкаў: «Песні павінны пісацца на дурнаватыя вершы». А. Дзеружынскі: «Нідзе так весела не бывае, як на юбілеі і на пахаванні».

*Петрусю Макалю*

На вечары паэта Петруся
Сабраліся сябры і аднадумцы.
Не трэба майстру
Славу дзьмуць на дудцы,
Яму вядома хітрасць рыфмы ўся.
На вечары калегі Макаля,
І перакладчыка, і драматурга,
Што гне радок спрытней за каваля,
Не трэба станавіцца на катурны.
На вечары над словам ведзьмара
На паўдарозе стогадовай даты
Жадаць пара няўседнасці пяра
І статка мудрасці сваёй гадоўлі.
Яшчэ адно: здзьмухнуўшы славы дым,
Жадаць патрэбна ў юбілейным тосце
Быць з маладымі толькі маладым
І не стамляцца ў працы і ў мілосці!

*16 кастрычніка, субота*

*Анатолю Наліваеву[2]*

Дзед і прадзед Налівай,
А нашчадак — Наліваеў.
Вечнасць, славу калывай,
Рэж вясёлкі каравай
Дарагому Анатолю,
Што шануе волю болю.

---

[1] Матусевіч Іосіф Антонавіч (1907–1985), акцёр Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага тэатра імя Я. Коласа (г. Віцебск). Народны артыст БССР (1972).

[2] Наліваеў Анатоль Аляксандравіч (н. 1931), мастак, рэстаўратар, музыкант. Арганізатар музея «Літаратурна-мастацкая гасцёўня імя У. Галубка».

*

Не для казённых караваеў,
А для душы, што чуе боль,
Працуе шчодры Наліваеў,
Сын Аляксандра, Анатоль.
І ўжо ягоныя пастэлі
Узварухнуць наш сум паспелі.

*17 кастрычніка, нядзеля*

Вечар Вагнера.

Дырыжор Віт. Катаеў[1] размешвае палачкай гукі, як бы ўскалыхвае цёмнае дно гуку, якое неўзабаве вырасце і запоўніць залу. («Святло і цені»[2].)

Творы Г. Вагнера, як сапраўдная медзь, па часе лепей акрэсліваецца і чалавечнее, а значыць — класікай робіцца.

Катаеў дзеліць букет на часткі і дае дзвюм школьніцам-салісткам і першай скрыпцы.

*Медалёк — матылёк. Зацірка — цырка. Член-корак.*

*** *Дуб мудрасцю сваёй стары.*

*Холад — хукаюць коміны ў неба.*

*22 кастрычніка, пятніца*

Скіроўваў кулю думкі трапна Лермантаў,
Браў бёрны слоў Купала за камель.
Нам засталася спадчына —
не спадчынка.
Вісіць чакальна стрэльба на цвіку, —
Дадаў палагаднелы Пімен Панчанка
Неўтаймаванай думцы пад руку[3].

У трамваі дзяўчынка:

— У нас у садзіку светлая Сулага, а завуць Лена.

— Ну і што?

— Трэба, каб Света.

---

[1] Катаеў Віталій Вітальевіч (1925–1999), беларускі і рускі дырыжор, педагог. Прафесар (1992). Заслужаны артыст БССР (1966).

[2] «Святло і цені» — балет на муз. Г. Вагнера.

[3] Гл.: Прыкметы (22.10.82) // Маўчанне перуна. С. 66.

*23 кастрычніка, субота*

У Анікея [Анікейчыка]. На адкрыцці помніка[1]. Рабіў беларус, адлівалі ў Ленінградзе, граніт з Карастыжава. Пушкін, Уітмен[2], Шаўчэнка, Купала, Міцкевіч [працы Анікейчыка].

«Трэба выхоўваць цераз красу, цераз душу, калі зразумеем красу, будзе самы адданы патрыёт. Калі зірнуў на мясціны ў Ляўках, зразумеў Купалу. Як ставіў помнік Янку Купалу ў Ляўках (зачапіўся за бронзавую галінку).

Кожны, хто венік, хто анучку [прынёс], і пачалі чысціць, мыць. Начальства стала запісваць імя і хто. Бо загадзя верылі не надта».

*24 кастрычніка, нядзеля*

*п. Ушачы.* Іду з гарэлачнай крамы, вытаюся з жанчынай. «Вінцо ёсць?» Адзіны клопат дамы ўшацкай. Індыкі — раённыя манахі.

Анікей: «Пейзаж, які трэба спасцігнуць, ён не кідкі». Анікейчык: «Калі гаварыць пра помач, дык лепей, хто перашкаджаў».

Кот з'еў памазок, мусібыць, бараду мазаў.

«Тут плакаў Юра».

Зайчык!
Кніг маіх суаўтарыца,
Дзякуй, што была,
Што ёсць,
Што будзеш!
Кожны міг табою паўтарыцца.
Дзякуй,
Што радок на шчырасць будзіш!

*Сумна*

На дратах дрыжаць шпакі.
Зябнуць шыферныя дахі.
Важна ходзяць індыкі —
Местачковыя манахі.

На вясёлым скразняку
Балазе матку цыбулі.
Дзень знікае неўзнаку,
Быццам пенсія ў бабулі.

Час імчыцца неўпрамець.
Вечар рады ціхай вестцы.

---

[1] Помнік Я. Купалу ў Ляўках (Аршанскі р-н Віцебскай вобл.) А. Анікейчыка (1982).
[2] Уітмен Уолт (1819–1892), амерыканскі паэт.

Пачынаеш разумець —
Стома старасцю завецца…

*[Без даты]*

*27 кастрычніка, серада*

Партсход. З якой мовы, а галоўнае як. Трэба выдаць анталогію рускай савецкай паэзіі — Пушкіна, Маякоўскага.

«Братэрства». Дзякуй Галіне Андрэеўне [Шаранговіч], Льву [Салаўю]. Багдановіч у якіх перакладах? Трэба было б конкурс.

*** Алесь Лось[1], Яўгенія Ліс[2].

Каза сама свой валачэ ланцуг, старая — мех з падвялаю травою[3].

Ля помніка дрэвы прывыкаюць да сталічнага лісця.

*28 кастрычніка, чацвер*

Вёска *Шашкі* па дарозе на Дудкі, саўгас імя Суворава. У чытальні стаяць тамы БелСЭ з закладкамі пра в. Шашкі, пра Рубяжэвічы, пра Стоўбцы. Зачытаны Колас з «Бібліятэчкі беларускай паэзіі». Мікалай Дамжынаў[4] чытае верш Коласа ў перакладзе на бурацкую. Дзеці сельскія не могуць утрымацца, рагочуць паціхусеньку.

Вацлаў Жыдліцкі: «У беларускую мову я закахаўся 25 год назад, як хлапец у маладую дзяўчыну».

Традыцыя, антытрадыцыя яналізму [?].

З Азербайджана Зія: «Шакал заре паветра».

Каля Янкі нявыстылага неба грэець вогнішча. Залатыя зубы вогнішча. Не хавай, белы дзень, сваіх зубоў.

Аб'яўляе на вечары Зіна Бандарэнка[5]: «Песенька Кала з оперы «Кола Бруньён».

---

[1] Лось Алесь (Аляксандр) Уладзіміравіч (н. 1958), мастак-графік, музыкант, этнограф, майстар па вырабе народных музычных інструментаў.

[2] Ліс Яўгенія, мастак-графік, рэжысёр-пастаноўшчык створанага разам з А. Лосем лялечнага тэатра «Батлейка». Гл.: Батлейка ([1988]) // Мудрэц са ступаю. С. 84.

[3] Гл.: Прыцемак (8.10.83) // Маўчанне перуна. С. 54.

[4] Дакладней, Дамдзінаў Мікалай Гармаевіч (1932–1999), бурацкі паэт, кінадраматург, перакладчык. Народны паэт Бурацкай АССР (1973). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі РСФСР імя М. Горкага (1975).

[5] Бандарэнка Зінаіда Аляксандраўна (н. 1939), дыктар Беларускага тэлебачання. У 1976–1999 гг. кіраўнік групы дыктараў. Народная артыстка БССР (1985).

*30 кастрычніка, субота*
с. *Акінчыцы.*

Хлопцы знаюць, хлопцы знаюць,
З кім добра знаёміцца,
У каго нясуцца куры
І карова доіцца, —

спявалі маладзіцы.

У Дубках Ян Гушча[1] цяжка ідзе да мікрафона. Перш чым чытаць верш, прыўзнімае капялюш і зноў надзявае, гжэчна.

«Заўсёды хвалююся за людзей, якія перад вершамі гавораць прозай, як быццам для дзікуноў. — Ул. Фірсаў. — Кажу заўсёды «добры вечар».

И на колу, и на колоде,
Как на Коле, как на Володе.

«Рыгор, цягні багор, бо тачыла плывець[2]». [Неразб. сказ.]

[Аўтограф В. Фірсава:]

*Адамчику*[3]

О брат мой,
Ты зря упрямо
Кичиться славою изволишь,
Происходя не от Адама,
А от Адамчика всего лишь.

*В. Фирсов*

*9 лістапада, аўторак*

*Анатолию Чмыхало*

Сибирской шири будет мало
Для строк, где радости обвал.
Край Красноярский и Чмыхало —
Всевышний вас зарифмовал.

---

[1] Гушча Ян (1917–1986), польскі пісьменнік, перакладчык.
[2] Гл.: «— Рыгор, цягні багор...» (22.02.86) // Самота паломніцтва. С. 70.
[3] Адамчык Вячаслаў Уладзіміравіч (1933–2001), беларускі пісьменнік. У 1980–1982 гг. нам. галоўнага рэдактара выд-ва «Мастацкая дітаратура». Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя І. Мележа (1980), Дзяржаўнай прэміі БССР (1988).

*11 лістапада, чацвер*

* * *

Не знойдзем лепшага эквівалента,
Наймудры час прадумаў,
Усё разважыў тут:
Дырэктарам стаў Віктар Каваленка[1] —
Вагу набыў забыты інстытут.

*18 лістапада, чацвер*

*Паўлу Кавалёву*[2]

На цыферблаце важкай даты
Сто год якраз без трыццаці.
У юбіляра плён багаты,
Бо крочыў цвёрда па жыцці.

І на спагаду, на парады
Быў шчодры Павел Кавалёў,
І ўсе паседжанні, нарады
Цяпер гудуць, як рой чмялёў.

Няхай жа поўна, двухкулёва
Заззяе дата Кавалёва,
Савецкага святога Паўла,
Бо дата хораша прыпала
На год, дзе Колас і Купала
Свой святкавалі юбілей.

Хай моцнаградусных балей
Пад вёдры тостаў будзе мала,
Хай юбіляр руплівы дбала
Як гаспадар вядзе свой рэй
Да ста гадоў і так далей!

---

[1] Каваленка Віктар Антонавіч (1929–2001), беларускі крытык, літаратуразнавец, празаік. У 1982–1997 гг. дырэктар Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы НАНБ. Доктар філалагічных навук (1978). Член-карэспандэнт АН БССР (1984). Акадэмік НАНБ (1989). Заслужаны дзеяч навукі БССР (1981). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СП СССР (1976), Дзяржаўнай прэміі БССР імя Якуба Коласа (1980).

[2] Кавалёў Павел Нічыпаравіч (1912–1995), беларускі празаік, нарысіст, перакладчык. Заслужаны работнік культуры БССР (1978).

*22 лістапада, панядзелак*

*Дзмітру Паўлычку*

Слава не ўмяшчаецца ў радках,
Ганарлівая, як каталічка.
Хай гучыць на ўсіх мацерыках
Мужнасці пароль — Дзмітро Паўлычка!

*30 лістапада, аўторак*

*Масква.* Дакладчык *Вадзім Георгіевіч Серадзін [Сярэдзін]*: «Важнасць перакладу на рускую мову. Дыфецытная рускамоўная літаратура не трапляе за межы той рэспублікі, дзе яна выдадзена. Тыражы нацыянальных літаратараў на рускую мову не заўсёды разыходзяцца, трэба адбор і прапаганда. Станоўчая практыка Дзяржкамвыда БССР па выпуску літаратуры савецкай патрыятычнай».

Адзначаюцца нашы серыі паэзіі і прозы, анталогіі прозы Эстоніі, Азербайджана. Крытыка мала займаецца перакладной літаратурай.

*Муратбекаў*[1]: «На вяршыні». Дрэнна паказаны рускія. «Березы на шляху», раннія апавядані класікаў лена абмяркоўвалі з'яву, слаба горад, рабклас. Праблема перакладчыкаў. Каставасць перакладчыцкага складу, не даюць дарогу маладым, нежаданне працаваць з маладымі».

*Ірына Серафімаўна Ізраільская*[2]: «45 % плана выбраныя і зборы твораў. 2–3 месцы на рэспубліку. Пад націскам жывых класікі ўбок адыходзяць. Многія пераклады ўстарэлі, вынасіць імя аўтара падрадкоўніка на тытул. Прадмовы да выбраных рэгіянацыянальнага аўтара. Паўлычка да Карыма[3] і г. д.».

*Вадзім Дзяменцьеў* (час. «Современник»): «Выдавецтва — школа нацыянальных літаратур Расіі. Строгасць ацэнкі — гэта ж і павага да нацыянальнага літаратара. Мала фальклору, дзе вытокі горскай лірыкі. Будуць выдадзены «Песні народаў Паўночнага Каўказа». Моладзь з аднаго боку аблашчана народамі, а як да кніг — няма».

*Андрэй Яаксоа*[4] (Эстонія): «Розныя тыпы культур, і ўскладняе выбар кніг для перакладаў. Казахскія казкі 90 тыс. экземпляраў. На кожнага жыхара Эстоніі. Для кожнага 5-га эстонца па адной кніжцы беларускай літаратуры. Тартускі ўніверсітэт — перакладчыцкі кабінет».

---

[1] Муратбекаў Саін (1935–2007), казахскі празаік, перакладчык. Заслужаны дзеяч мастацтваў Казахстана.

[2] Ізраільская Ірына Серафімаўна (н. 1928), рэдактар выд-ва «Художественная литература».

[3] Карым Мустай (сапр. Карымаў Мустафа Сафіч (1919–2005), башкірскі паэт і драматург. Народны паэт Башкірскай АССР (1963). Герой Сацыялістычнай Працы (1979). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1972), Ленінскай прэміі (1984).

[4] Яаксоа Андрас (н. 1945), эстонскі пісьменнік, перакладчык.

*Малдавія*. Серыя для дзяцей «За марамі-акіянамі», прыгодніцкая літаратура, серыя «Жылі-былі» — казкі падпісныя. Будзе «Плач перапёлкі» [Чыгрынава] выдадзены. Для серыі «Жылі-былі» запрашаюцца мастакі з братніх рэспублік.

*Серадзін* у заключэнне: «У нас ёсць вопыт перакладаў. Але ёсць і праблемы. Бліжэйшыя даты — 40-годдзе Перамогі, 70 год Кастрычніка, павышэнне патрабавальнасці за якасць, пакутуюць сціпласцю і іншымі добрымі чалавечымі рысамі многія таленавітыя людзі. Каго будзем выдаваць у наступным, рашаць будзе выдавецтва».

Пятру Кошалю — фота!

*1 снежня, серада*

У Бурсава на вуліцы Твардоўскага
Пакуль у мікрацішы Страгіно
Чало немаладога храма боскага
З вакна шыракавокага відно.
Далей ідуць калгасныя кароўнікі,
Масква свой наступ робіць на калгас.

*4 снежня, субота*

*Яўгену Коктышу*[1]

Да Яўгена, сына Тумаша,
Горнецца з удзячнасцю душа.
Сын Кулінін і рыфмач з Ушач
Зычыць Коктышу акул удач!

*7 снежня, аўторак*

Кіношнік Карпаў[2], ампірная і ляпная пазалота. Мастер-борец и одарённый тетерев, солирующий только для себя, [неразб.1] на непроторенных дорожках.

Карпаў: «Второй фильм раскрыл ещё более творческую палитру художника. Человечная и яростная картина».

---

[1] Коктыш Яўген Фаміч, беларускі фотамастак.
[2] Карпаў А. Я., рускі кінарэжысёр.

*8 снежня, серада*

*Амаль полымныя радкі*
*на юбілей «Полымя»*

У твой вячысты юбілей,
Шаноўнейшае «Полымя»,
Мне прывітаць крыху смялей
Цябе радкамі кволымі.
Як што не так,
Як той лаўжняк,
Спалі іх,
Хай куродымам
Згаркоцяць фіміяму смак,
Адплыўшы лёгкім одумам.
Запаленае не для ўцех —
Для клопату, для шчырасці,
Ты полымна-гарачы цэх,
Дзе вольна славе вырасці.
У шэсцьдзесят ідаць усё
З узвышша год бязлітасных,
Хто з рук не выпускаў кассё,
Хто пад нагамі мітаўся.
Дык ўласнай маркай даражы
Раўніваю царэўнаю
І пры ашчадным тыражы
Множ славу слова крэўнага.
Гары, нязгаснае, скарай
Красой нерастлумачанай,
Грэй шчодрасцю бацькоўскі край
І сэрца мовы матчынай![1]

*12 снежня, нядзеля*

Кампанія супроць ціхай так званай [лірыкі], наогул супроць лірыкі апошнім часам вядуць, як супроць прысядзібных участкаў. А, як выявілася, прысядзібныя ўчасткі даюць такі працэнт зеляніны і гародніны, што і агульныя глебныя. Толькі рэкі яшчэ не пераймяноўваюць, толькі не мяняюць нацыі і веры. Яны паганцы з пачатку і да скону.

— Якой нацыянальнасці дзяржава?
Вароты часу рыпнулі іржава:
— Ніякай.
Гэта значыць, ніякой.

---

[1] Час. «Полымя» быў заснаваны ў 1922 г.

*14 снежня, аўторак*

*Івану Чыгрынаву*

Той захлынуўся, той загінуў,
А той чадзіць, паволі тлеючы.
Іван, Гаўрылаў сын, Чыгрынаў —
Світае, і таму — Святлейшы.

Каралішчавічы. Семінар маладых [пісьменнікаў].

*Васіль Сахарчук*[1]. Разбірае *Зарыцкі*: «Не павінен паэт ісці на паваду ў рыфмы. Рыфма павінна слухацца паэта. Самая цяжкая задача — не размінуцца з самім сабой».

*Ірына Багдановіч*[2]: «Абнячэсціць».

СП, прэзідыум. Пімен Панчанка не ўслых пра Алу Сямёнаву: «Яна моцная ва ўсіх шрыфтах у корпусе і ў цыцэрах». Пра Канстанціна Тарасава[3]: «А як ён ўсё помніць?» Пімен: «Наступны прэзідыум зробім пад Вялікдзень, каб Усяночная настала».

Сасна застаецца сасною,
Рака застаецца ракой,
Адна — са сваёй стараною,
Другая — з тугой трапяткой.

Каралішчавічы. Абмеркаванне. Чытае *Мальчэўская*[4]: «Брацíха».

*Сцяпан Гаўрусёў*[5]*:* «У свой час мне дужа хацелася напісаць пра Туркменскі канал, якога я дасюль не бачыў. Столькі я звёў паперы, што калі б здаў, дык першы атрымаў бы «Монтэ Крыста»[6]. Дзякуй богу, што не напісаў».

Адзін паэт: «І ў масцістых паэтаў...»

*Сцяпан Гаўрусёў*: «Вас не спасцігла эпідэмія ганконгскага грыпу святочных вершаў.

---

[1] Сахарчук Васіль Якаўлевіч (1953–2003), беларускі паэт. У 1979–2003 гг. карэспандэнт раённай газ. «Сельская праўда» ў г. Жабінка Брэсцкай вобл.

[2] Багдановіч Ірына Эрнстаўна (н. 1956), беларуская паэтэса, крытык, літаратуразнавец. У 1978–1983 гг. аспірантка Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы АН БССР. Кандыдат філалагічных навук (1985).

[3] Тарасаў Канстанцін Іванавіч (1940–2010), беларускі пісьменнік. У 1977–1983 гг. рэдактар аддзела мастацтва і крытыкі час. «Неман».

[4] Мальчэўская Яўгенія Еўдакімаўна (1949–2008), беларуская паэтэса. У 1980–1989 гг. настаўніца Талачынскай СШ № 2.

[5] Гаўрусёў Сцяпан Захаравіч (1931–1988), беларускі паэт, перакладчык, крытык. Лаўрэат Літаратурнай прэміі СП БССР імя А. Куляшова (1987).

[6] Каб набыць «дыфіцытную» кнігу кшталту «Монтэ-Крыста» А. Дзюма, трэба было здаць вызначаную норму макулатуры.

Выдаўцы замянілі, Вінцусь замянілі на Габрусь. Прыехалі — Сцяпан, — дадому, а там: — Здорава ўсё!

У нас цяпер называюць усё, што больш чым 20 радкоў, паэмай».

*17 снежня, пятніца*

Ул. Караткевіч: «Я не пісаў трох рэчаў: песень, дзіцячых вершаў і баек, трох рэчаў не ўмею, усё астатняе ўмею, пачынаючы ад опернага лібрэта і канчаючы віншавальнымі вершамі табе і сястры».

[Адрас:] Контритайте Марите. г. Вильнюс-44, Каролинишкю, 42–181.

*20 снежня, панядзелак*

Працуй да ламаты ў касцях,
Змагайся з поспехам раўніва,
І ўрэшце пераходны сцяг
Ускрыліцца над калектывам.
Сцяг пераходны. І таму,
Каб затрымаць,
хацення мала.
Мы працаваць павінны дбала,
Каб даспадобы быць яму.
І наш дырэктар, і прафорг,
Галоўны Андраюк1 і Бечык
Са славай не хадзілі ў торг,
Страляць прывыклі без асечак.
Круцеюць плёну берагі,
І не глядзіць у заўтра хмура
Агорнутая у сцягі
«Мастацкая літаратура».

Прыняць у члены Саюза кампазітараў Мулявіна разам з членам…

*23 снежня, чацвер*

Вечар Ул. Някляева. [Прыпамін Р. Барадуліна пра Някляева:] Узяў [Валодзя] білет на Маскву, каб у «Молодой гвардии» назад узяць кніжку [рукапіс сваёй першай кніжкі]. Калі сустрэліся мы ля фабрыкі-кухні.

[У. *Някляеў:*] «Мне зусім не адно, што робіцца ў эканоміцы і палітыцы». Для мяне Хрыста Боцеў і Пецёфі даражэй тым, што супала паэзія

[1] Андраюк Серафім Антонавіч (н. 1933), беларускі крытык і літаратуразнавец. Кандыдат філалагічных навук (1966). У 1981–1993 гг. гал. рэдактар выд-ва «Мастацкая літаратура». Заслужаны работнік культуры Беларусі (1993). Лаўрэат Літаратурнай прэміі СП БССР імя І. Мележа (1984).

і жыццё. Я прыехаў і карчагінскі[1] дух убачыў. Я паэму [«Дарога дарог»] напісаў не з-за кан’юнктуры, я мог знайсці іншую кан’юнктуру. Я ўбачыў апантаных, гэта было гады два. А пасля, як даведаліся хлопцы: «Будзе машына, буду працаваць». Але паэма была ўжо напісана. Я лічу, што напісаў сумленна, я напісаў, што бачыў».

*Жанчына*: «Вы маладыя, але не сённяшні практычны, малады рамантык. Не зазнавайцеся. Пішыце для нашага пакалення, а будучае пакажа».

[У. *Някляеў*:] «Многія кісларод карыстаюць, які паэт выпрацоўвае, але прызнацца не хочуць.

Я не песеннік і песні пісаць не люблю. Ніхто не можа пісаць песні. Гэта дужа спецыфічны від работы. Я вельмі самалюбівы чалавек і не люблю пісаць «рыбу». Нельга адступаць убок ад майстэрства. Многія носяцца са сваім сумленнем. «Што з табой, з тваёй чэснасцю?» У сумленні павінна быць актыўнасць».

*Жанчына*: «Сумны верш, сум у нейкай меры прабуджае дабрыню, будзіць добрыя пачуцці».

*Някляеў*: «Я крыху нуднаваты, схільны драматызаваць некаторыя рэчы. Самотнае можна выдумаць, але жартоўнае цяжка».

*24 снежня, пятніца*

Рэдкалегія «Бярозкі». Марыя Міхайлаўна: «Выхоўваць дабрыню, адносіны да бацькоў, павагу. Мала гаварыць пра прыгожае, а болей пра хакей, барацьбу. Вучнёўскае самакіраванне. Вучкомы. Вучыць чытаць».

[Віншаванне П. Кавалёва з юбілеем.] Прывітанне «Вожыка». «Выхаванага ў здаровым сялянскім побыце».

Азгур: «Жанчыны — хараство нашай рэспублікі. Павел, ты думаеш — трымаеш бога за бараду, а ты трымаеш паветра. Арфаэмій [?] чалавечай душы».

*25 снежня, субота*

*Адаму Мальдзісу*
*на зварот з Англіі*

З маленства Мальдзіс чуў:
— Гуд бай!
Казала рэха: — Гудагай!
— Гудбаінькі, — люляла мама
Лордагаловага Адама.
Пасля шаноўная Марыя,

[1] Паўка Карчагін, герой аповесці М. Астроўскага «Як гартавалася сталь». *Астроўскі* Мікалай Аляксеевіч (1904–1936), рускі пісьменнік.

Нібы ў анкабулы[1] старыя,
У пошук сцежак спавіла
Кахання, працы і навукі,
І на святло палезлі ўнукі;
Калі вітала каралева
у Англіі,
Дзе слёз залева
прыхільніц
Тэмзу падняла,
І ад высокага чала
Адамавага светла стала
На радасць кожнага квартала.
Марыя, Беларусь, Каляды
Вяртанню лорда сёння рады.
Усцешна вёскам, гарадам:
Дамоў прыехаў лорд Адам!

Андрусішын[2] Багдан — Данчык. Цыкл «Беларусачка»; унучаты пляменнік Багдановіча (бацька ўкраінец). «Ручнікі», «Летняя ночка купальская...».

*26 снежня, нядзеля*

У Рыгора Нехая № 47 партбілет.

*** У вёсцы Бакшты выгнаў самагонкі $120^0$, якую старажылы не помняць за апошнія 50 гадоў.

*Сцежна — снежна.*

*28 снежня, аўторак*

Вечар кубінскай дружбы. Выступае старшыня зямляцтва Ганзалес (БДУ). Цяжка па-руску вымаўляе: «Усы́ нерушимой дружбы».

Лабанок выходзіць і дзякуе «Харошкам» за мастацтва.

Мастацтва:

1) Караткевіч,

2) Глебаў [Я.],

3) Савіцкі [М.],

4) Марухін[3].

---

[1] Дакладней, інкунабулы — першадрукі.

[2] Андрусішын Багдан Паўлавіч (н. 1958), беларускі спявак (Данчык), журналіст, грамадскі дзеяч (ЗША). Яго бабуля — Яніна Кахаыоўская — пляменніца Івана і Антона Луцкевічаў, беларускіх грамадскіх дзеячаў 1-й пал. XX ст.

[3] Марухін Юрый Аляксандравіч (1938–2001), беларускі кінааператар, рэжысёр. Заслужаны дзеяч мастацтваў БССР (1974).

*31 снежня, пятніца*

* * *

Смерць катэгарычная прамая —
Не цікуе і не пераймае,
А да кожнага, як да сябе,
Грукаецца, рупная ў касьбе.

Жах знянацку хоча ашаломіць —
Пыхне ўтлелай іскраю ў саломе.
Са спакоем пахаплівы жах,
Быццам змрок з маланкай,
На нажах.

Страх, упэўнены ў сваёй уладзе,
Стыне ў кожным руху і ў паглядзе.
І калі прысмокчацца ў крыві,
Страх з сябе не вырваць —
Як ні рві!

**Барадулін, Р.**

**Б24** Дзённікі і запісы. Выпуск 3. 1979–1982 / Рыгор Барадулін ; укл., прадм., Н. Давыдзенка. — Мінск : Кнігазбор, 2016. — 340 с. [8] с. : іл. — (Бібліятэка Бацькаўшчыны. Людзі Беларусі : кн. 3).

ISBN 978-985-7144-70-9.

Трэці выпуск «Дзённікаў і запісаў. 1979–1982» народнага паэта Беларусі Р. Барадуліна змяшчае запісы аб працяглых паездках паэта на Кубу, у Балгарыю, Італію, Чэхаславакію, у многія рэспублікі Савецкага Саюза, а таксама па Беларусі.

Запісы рабочых штодзённікаў і нататнікаў малююць вобраз нястомнага працаўніка, бясконца закаханага ў роднае слова паэта, шчырага сябра і ўважлівага да любых праяў жыцця назіральніка.

Кнігу дапаўняюць сяброўскія эпіграмы, віншаванні і, канечне ж, вершы, якія не ўваходзілі ў зборнікі паэта ці наогул не друкаваліся.

**УДК 821.161.3.09+929 Барадулін**
**ББК 83.3(4Беи)**

*Літаратурна-мастацкае выданне*

Рыгор Іванавіч Барадулін

**Дзённікі і запісы**

*Выпуск 3. 1979–1982*

Адказны за выпуск *Г. Вінярскі*
Рэдактар *Н. Давыдзенка*
Тэхнічны рэдактар *Я. Мальдзіс*
Набор *Н. Давыдзенка*
Камп'ютарная вёрстка *Л. Гарадзецкай*
Карэктары *Н. Давыдзенка, І. Сляповіч*

Падпісана ў друк 20.10.2016. Фармат 70x100 $^{1}/_{16}$.
Папера афсетная. Друк афсетны.
Гарнітура Cambria. Ул. выд. 27,55 арк.
Ум.-друк. 15,31 арк. Наклад 200 асобнікаў. Зак. 449.

ПУП «Кнігазбор».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы,
распаўсюдніка друкаваных выданняў № 1/377 ад 27.06.2014.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
**Тэл./факс (017) 207-62-33, тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.**
E-mail: bkniha@tut.by

Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка ў ЗАТ «Аргбуд».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы,
распаўсюдніка друкаваных выданняў № 2/182 ад 15.02.2016.
Вул. Берасцянская, 16, 220034, Мінск.




Саюз беларускіх пісьменнікаў — найстарэйшая творчая арганізацыя Беларусі. Ён быў заснаваны ў 1934 годзе. Гэта прафесійная грамадская арганізацыя, якая актыўна ўдзельнічае ў сацыяльным і культурным жыцці краіны дзеля прасоўвання і развіцця беларускай літаратуры.

Мэтамі ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў» з'яўляюцца: абарона аўтарскіх правоў і прадстаўленне інтарэсаў сваіх сяброў, адстойванне свабоды слова і захаванне беларускай літаратурнай спадчыны.

СБП заснаваў і выдае кніжныя серыі: «Кнігарня пісьменніка», «Пункт адліку», «Каляровы ровар».

Сайт арганізацыі: www.lit-bel.org




Міжнароднае грамадскае аб'яднанне «Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына"» дзейнічае з 1990 года і супрацоўнічае з беларускімі арганізацыямі ў больш чым 20 краінах свету.

Сярод асноўных задач арганізацыі: кансалідацыя беларусаў, якія пражываюць у краіне і за мяжой, на глебе павагі да беларускай культуры і гісторыі, паглыбленне нацыянальнай ідэнтычнасці беларусаў.

У 2004 годзе Згуртаванне заснавала спецыяльную кніжную серыю, прысвечаную беларускай дыяспары, — «Бібліятэка Бацькаўшчыны», у якой ужо выдадзена 29 кніг і 3 кнігі ў падсерыі «Людзі Беларусі».

Сайт арганізацыі: www.zbsb.org

З 2008 года МГА «ЗБС "Бацькаўшчына"» каардынуе грамадскую культурніцкую кампанію «Будзьма беларусамі!».

Сайт: www.budzma.by